АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

А. М. БУЛЫКА

# ЛЕКСІЧНЫЯ ЗАПАЗЫЧАННІ Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

## XIV—XVIII ст ст.



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1980

4С(Бел)
Б90

Рэдактар
А. І. Жураўскі,
доктар філалагічных навук

Рэцэнзенты:
І. С. Қозыраў,
доктар філалагічных навук,
А. І. Падлужны,
кандыдат філалагічных навук

**Булыка А. М.**

Б 90 Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст.— Мн.: Навука і тэхніка, 1980.— 256 с.

У перапл.: 1 р. 10 к.

У даследаванні падаецца класіфікацыя лексічных запазычанняў беларускай літаратурна-пісьмовай мовы XIV—XVIII стст. па адносінах да матэрыяльнай і духоўнай культуры народа. Вызначаюцца час, шляхі і спосабы пранікнення іншамоўных слоў у беларускую мову, ступень іх фанетычнай, марфалагічнай, семантычнай адаптацыі і словаўтваральнай актыўнасці.

Б $\frac{70105-100}{M316-80}$ 125—80 3602020000 4С(Бел)

# УСТУП

У выключна важнай справе развіцця слоўнікавага саставу старабеларускай мовы побач са словаўтварэннем на базе ўласнага каранясловa значную ролю выконвала запазычванне іншамоўных лексічных сродкаў. Яны былі неабходны беларускаму насельніцтву як для намінацыі новых рэалій і паняццяў, якія пастаянна ўзнікалі ў рэчаіснасці пад уплывам знаёмства з грамадска-палітычным, гаспадарча-эканамічным і навукова-культурным жыццём іншых народаў, так і для замены многіх назваў, што станавіліся непрыгоднымі ў выніку грамадскага прагрэсу.

Запазычванне іншамоўнай лексікі наогул з'яўляецца натуральным працэсам у гісторыі кожнай мовы. Яно выклікаецца патрэбамі грамадства і залежыць ад інтэнсіўнасці сацыяльных, эканамічных і культурных зрухаў. Нездарма асаблівая актывізацыя лексічнага запазычвання адбываецца ў перыяды найбольш глыбокіх грамадскіх пераўтварэнняў, як гэта было, напрыклад, у старажытнарускай і старапольскай мовах эпохі распаўсюджвання хрысціянства, у рускай мове часоў пятроўскіх рэформ. Развіваючы слоўнік мовы, запазычанні спрыяюць ператварэнню яе ў больш гнуткі, дасканалы сродак зносін, здольны абслугоўваць самыя разнастайныя функцыянальныя сферы — ад бытавой да навуковай і літаратурнай. Дзякуючы набыццю інтэрнацыянальнай лексікі мова выходзіць на міжнародную арэну, дае магчымасць народу, яе носьбіту, глыбей авалодаць лепшымі ўзорамі сусветнай культуры.

Ацэнка запазычвання як заканамернага працэсу ва ўзбагачэнні кожнай лексічнай сістэмы, выкліканага ўнутранымі патрэбамі моўнага развіцця, дазваляе бачыць у мовах, якія запазычваюць, не праяўленне заняпаду, а імкненне да паўнаты сродкаў выражэння. У гэтых адносінах старабеларускую мову можна паставіць у адзін

рад з іншымі, найбольш лексічна развітымі еўрапейскімі мовамі таго часу, іншамоўныя лексічныя элементы ў якіх займалі значнае месца. Запазычаныя словы дапоўнілі ў ёй амаль усе семантычныя звенні, утварыўшы буйны пласт, усебаковае лінгвістычнае вывучэнне якога мае вялікае значэнне для разумення агульных працэсаў фарміравання старабеларускай лексічнай сістэмы.

Між тым даследаванню гэтага пласта лексікі не ўдзялялася ў беларускім мовазнаўстве да апошняга часу належнай увагі. Асноўнай перашкодай на шляху даследчыкаў доўга быў агульны тэндэнцыйны падыход да запазычвання як да адмоўнага працэсу, які быццам бы толькі садзейнічае засмечванню мовы непатрэбнымі лексічнымі элементамі. У выніку такой ацэнкі запазычанняў у лексікалагічнай практыцы мінулага, акрамя адносна вялікага пераліку іншамоўных слоў у даследаванні Я. Ф. Карскага[1], не з'явілася ніводнай больш-менш значнай працы, прысвечанай запазычанням старабеларускага перыяду. Не выступала іншамоўная лексіка і ў якасці аб'екта лексікаграфічнай апрацоўкі, за выключэннем разраду юрыдычнай тэрміналогіі, які знайшоў сваё асвятленне ў слоўніку М. І. Гарбачэўскага[2], а таксама невялікай часткі іншамоўных лексем, што аказалася ўключанай разам з уласнабеларускімі словамі ў неапублікаваны слоўнік І. І. Насовіча, складзены на аснове пяцітомнага выдання «Акты, относящиеся к истории Западной России» (СПб, 1846—1852)[3]. Аднак гэтыя лексікаграфічныя працы даюць вельмі вузкае ўяўленне аб беларускіх запазычаннях старажытнай пары, паколькі Гарбачэўскі не размяжоўвае лексічны матэрыял, выяўлены ў беларускіх, польскіх і лацінскіх дзелавых помніках, і не ілюструе яго прыкладамі, а Насовіч хоць і прыводзіць ілюстрацыі, але будуе сваю працу на абмежаванай колькасці пісьмовых крыніц.

Толькі ў апошні час у беларускім гістарычным мовазнаўстве стала назірацца некаторае ажыўленне работы ў галіне вывучэння запазычанай лексікі старабелару-

---

[1] Карский Е. Ф. Белорусы. Введение к изучению языка и народной словесности. Вильна, 1904, с. 106—180.

[2] Горбачевский Н. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства Польского. Вильна, 1874.

[3] Слоўнік захоўваецца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі Акадэміі навук СССР у Ленінградзе (34.2.II).

скай літаратурнай мовы. Гэта звязана з тым, што ў сучаснай лексікалогіі ўсё большую папулярнасць атрымлівае новы падыход да запазычвання як да прагрэсіўнай з'явы, якая з'яўляецца вынікам узрастаючых патрабаванняў да мовы [4].

У найбольш значных сучасных даследаваннях у галіне запазычанай лексікі старажытнага перыяду асвятляецца этымалогія паасобных слоў, вывучаюцца шляхі і спосабы пранікнення некаторых груп іншамоўнай лексікі ў старабеларускую мову і асаблівасці іх фанетыка-марфалагічнага і семантычнага асваення на беларускай глебе [5]. У цэлым жа лексічныя запазычанні старабеларускай мовы даследаваны пакуль недастаткова.

Дадзеная праца з'яўляецца першай у беларускім мовазнаўстве спробай даць усебаковы агляд усіх выяўленых у мове беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст. лексічных запазычанняў. На аснове поўнага ўліку запазычаных старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовай лексем тут вызначаецца ступень колькаснага папаўнення яе слоўнікавага саставу за кошт іншамоўнай лексікі, асвятляецца роля запазычанняў у межах розных лексіка-семантычных структур — прадметна-тэматычных разрадаў і груп, праводзіцца іх класіфікацыя па адносінах да матэрыяльнай і духоўнай культуры тагачаснага беларускага насельніцтва. Асноўная ўвага звяртаецца на вызначэнне семантычнага аб'ёму і этымалогіі кожнага запазычання, асвятленне культурных і сацыяльна-гістарычных фактараў, якія садзейнічалі пранікненню іншамоўнай лексікі ў беларускую мову. Значнае месца ўдзелена пытанню аб часе, шляхах і спосабах пранікнення запазычанняў, іх фанетычнай, марфалагічнай, семантычнай адаптацыі і словаўтваральнай актыўнасці. Новым з'яўляецца падыход да запазычвання як да станоўчага, прагрэсіўнага працэсу, у якім актыўным бокам выступае не мова-крыніца, а мова-рэцэптар, што адлюстроўвае

[4] IV Международный съезд славистов. Материалы дискуссии, т. II. М., 1962, с. 26.

[5] Чартко І. І. Лексіка нямецкага паходжання ў старабеларускай мове. Канд. дыс. Мн., 1967; Жураўскі А. І. Запазычаная лексіка ў старабеларускай мове.— Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970, с. 80—160; Булыка А. М. Даўнія запазычанні беларускай мовы. Мн., 1972; Галай О. М. Бытавая лексіка нямецкага паходжання ў старабеларускай мове. Канд. дыс. Мн., 1977.

новую гістарычную сітуацыю і сувязь данай мовы з суседнімі мовамі.

Крыніцамі матэрыялу для даследавання паслужылі шматлікія пісьмовыя помнікі важнейшых жанрава-стылявых разнавіднасцей старабеларускай пісьменнасці. Цалкам выкарыстана таксама падрыхтаваная супрацоўнікамі сектара гісторыі беларускай мовы Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР картатэка слоўніка старабеларускай мовы, якая ў сучасны момант налічвае звыш мільёна картак.

Сабраны фактычны матэрыял характарызуецца этымалагічнай разнастайнасцю. Ён ахоплівае лексічныя адзінкі, звязаныя паходжаннем больш чым з дзесяткам моў, хоць індывідуальная роля кожнай з іх у папаўненні лексічнай сістэмы старабеларускай мовы аказалася неаднолькавай. Па колькасных паказчыках найбольшую ўдзельную вагу складаюць у беларускім слоўніку XIV—XVIII стст. лексічныя запазычанні, якія прыходзілі ў беларускую мову з заходніх славянскіх і неславянскіх моў — польскай, нямецкай, лацінскай, чэшскай і інш. У меншай меры прадстаўлена ў ім лексіка літоўскага і цюркскага паходжання. Такая нераўнамернасць этымалагічнага размеркавання запазычанага старабеларускай мовай лексічнага багацця тлумачыцца многімі прычынамі сацыяльна-гістарычнага, эканамічнага і культурнага характару.

Шырокаму пранікненню іншамоўных слоў з захаду садзейнічала ўжо само геаграфічнае становішча Беларусі. Уваходзячы ў склад Вялікага княства Літоўскага, якое непасрэдна гранічыла з заходнімі краінамі, Беларусь з'яўлялася месцам сутыкнення інтарэсаў гэтых краін. Даволі часта беларуская тэрыторыя была арэнай узброенага вырашэння міжнародных праблем. У перыяд станаўлення беларускай народнасці і мовы сур'ёзную пагрозу для Вялікага княства Літоўскага ўяўлялі крыжаносцы, якія толькі на працягу 1345—1392 гг. зрабілі 96 нападаў на Літву і Беларусь. У 1410 г. у складзе войск Польшчы і Вялікага княства Літоўскага беларускія атрады прымалі ўдзел у адной з самых буйных бітваў еўрапейскага сярэдневякоўя — Грунвальдскай бітве, дзе Тэўтонскаму ордэну было нанесена рашаючае паражэнне. Пазней чужаземцы запрашаліся ў якасці наёмнікаў у войска Вялікага княства Літоўскага, неаднаразова

ўмешваліся ў міжусобныя войны, якія адбываліся на тэрыторыі Літвы і Беларусі, асядалі на беларускіх землях як каланісты і спецыялісты ў галіне рамяства і гаспадарчай дзейнасці. Усё гэта стварала ўмовы для пранікнення ў беларускую мову іншамоўнай лексікі, пераважна нямецкай і польскай.

Значны ўплыў на беларускі слоўнік XIV—XVIII стст. аказала развіццё камерцыйнай справы ў Вялікім княстве Літоўскім. Першыя дакументальныя сведчанні аб гандлёвых сувязях паўночна-ўсходніх гарадоў Беларусі Полацка і Віцебска з Рыгай адносяцца да XIII ст. Гандлёвыя кантакты беларускіх купцоў з прыбалтыйскімі немцамі працягваліся і ў наступным стагоддзі, аднак па-сапраўднаму польска-беларуска-літоўскае купецтва ўцягнулася ў сусветны гандаль у басейне Балтыйскага мора толькі пасля разгрому нямецкіх рыцараў пад Грунвальдам. Асабліва вялікага маштабу беларуска-заходнееўрапейскі абмен таварамі дасягнуў пачынаючы з другой палавіны XVI ст., калі асноўныя гандлёвыя шляхі ў Заходнюю Еўропу праляглі праз Польшчу і Германію. У пісьмовых помніках другой палавіны XVI — пачатку XVII ст. ёсць звесткі больш чым пра 1500 купцоў з гарадоў і мястэчак Беларусі, якія займаліся замежным гандлем[6]. З беларускіх зямель вывозіліся мёд, воск, футра, рамесныя вырабы, прадукты сельскай і лясной гаспадаркі. З заходніх краін беларускія і замежныя купцы ўвозілі тканіны, адзенне, прадметы раскошы, вырабы з металу і шкла, розныя гатункі він, прыправы і фрукты. Разам з прывазнымі таварамі пашыраліся і іх арыгінальныя назвы, многія з якіх трывала ўвайшлі ў слоўнік старабеларускай мовы.

На працягу амаль чатырох стагоддзяў беларуская літаратурная мова развівалася ва ўмовах беларуска-польскага двухмоўя, якое пакінула ў яе лексічнай сістэме значныя сляды. Уздзеянне польскай мовы на беларускую распачалося ўжо ў XIV ст., калі пасля вядомай Крэўскай уніі 1385 г. узмацніўся палітычны і ваенны саюз Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. Першапачаткова найбольш пранікальнай для польскай лексікі аказалася старабеларуская дзелавая пісьменнасць, на якой адбілася ўздзеянне насычаных паланізмамі даку-

---

[6] Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, т. XII. Мн., 1975, с. 95.

ментаў на беларускай мове, што пaступалі ў Вялікае княства Літоўскае з каралеўскай канцылярыі[7]. Польскі лексічны струмень пастýпова прасочваўся і ў помнікі іншых жанраў, асабліва калі яны перакладаліся з польскіх арыгіналаў.

Асабліва інтэнсіўным стаў прыток польскай лексікі ў беларускую мову ў другой палавіне XVI ст., пасля Люблінскай уніі 1569 г., у выніку якой тэрыторыя Беларусі, як і ўсё Вялікае княства Літоўскае, аказалася ў складзе Рэчы Паспалітай. У гэты час больш адчувальным стаў уплыў польскіх феадалаў на палітычнае жыццё Вялікага княства Літоўскага. Літоўская і беларуская шляхта, жадаючы зраўняцца ў правах з польскай шляхтай і гэтым самым умацаваць сваё палітычнае і эканамічнае становішча, у асноўнай масе перайшла ў каталіцтва і апалячылася. Вырасла колькасць шлюбных сувязей беларускіх панскіх сямей з польскімі родамі, беларуская знаць пачала пераймаць польскія звычаі і прыёмы абыходжання. Больш частымі сталі паездкі службовых асоб Вялікага княства Літоўскага ў Польшчу і палякаў у Вялікае княства Літоўскае. Стварыліся ўмовы для распаўсюджвання сярод беларускага насельніцтва твораў польскай літаратуры і мастацтва. Усё гэта садзейнічала пашырэнню польскай мовы на тэрыторыі Беларусі[8], што не магло не адлюстравацца на лексічным саставе размоўнай і літаратурна-пісьмовай форм беларускай мовы.

У канцы XVI і ў XVII ст. паланізмы ўласцівы ўжо для ўсіх жанрава-стылявых разнавіднасцей старабеларускай пісьменнасці, прычым у колькасных адносінах яны ахопліваюць па некалькі дзесяткаў актыўных лексем на кожную часціну мовы. У некаторых помніках гэтага перыяду сіла польскага ўплыву праяўляецца настолькі выразна, што побач са сродкамі, апраўданымі выражальна-камунікатыўнай функцыяй, тут ужываецца рад польскіх слоў, запазычванне якіх не выклікалася патрэбамі развіцця лексічнай сістэмы. Прыкладамі могуць

---

[7] Крапивин П. Ф. К вопросу о появлении полонизмов в старобелорусском языке.— Беларуская лексікалогія і этымалогія. Мн., 1968, с. 88—89.

[8] Даследаванню сацыяльна-гістарычных і культурных умоў распаўсюджвання польскай мовы на Беларусі прысвечана манаграфія французскага славіста А. Мартэля «La langue polonaise dans les pays ruthènes, Ukraine et Russie Blanche». Lille, 1938.

служыць варыянты *брода, влока, влосъ, длото, длугий, злото, кгардло, кгродъ, кроль, оброна, плотно, слодкий* пры ўласнабеларускіх *борода, волока, волосъ, долото, долгий, золото, горло, городъ, король, оборона, полотно, солодкий* і інш.

Амаль адначасова з польскай мовай на Беларусь пачала пранікаць латынь. Па прыкладу Польшчы, дзе выкарыстанне лацінскай мовы ва ўсіх сферах грамадскага і навукова-культурнага жыцця мела даўнюю традыцыю [9], яе рана сталі ўжываць пры напісанні важнейшых дакументаў у судах і дзяржаўна-адміністрацыйных установах Вялікага княства Літоўскага, а таксама ў дыпламатычнай перапісцы з замежнымі краінамі. Асабліва спрыяльныя ўмовы для распаўсюджвання латыні склаліся на Беларусі ў другой палавіне XVI ст. у сувязі з паланізацыяй грамадскага і культурнага жыцця беларускага насельніцтва. У гэты час лацінская мова паралельна з польскай стала адным з асноўных прадметаў навучання ў шматлікіх каталіцкіх і уніяцкіх школах, якія былі заснаваны ў многіх гарадах і мястэчках Беларусі. Не пазбягалі вывучэння латыні і арганізаваныя ў канцы XVI — пачатку XVII ст. праваслаўныя брацкія школы, навучальнымі праграмамі якіх прадугледжвалася таксама авалоданне беларускай, польскай і грэчаскай мовамі. Абавязковы характар уключэння названых моў у праграму навучання падкрэсліваўся ўжо ў каралеўскіх прывілейных граматах на адкрыццё брацкіх школ, аб чым можа сведчыць, напрыклад, грамата Сігізмунда III (1592) брэсцкаму царкоўнаму брацтву: «А для науки детей народу христіанского всякого стану ку оздобе и пожитку Речи Посполитое позволяем им мети школу греческого, латинского, польского и руского языка и людей учоных в тых школах волно ховати духовного и свецкого стану» [10]. Неабходна адзначыць, аднак, што гэта не выклікала пярэчання з боку праваслаўных дзеячаў, бо сярэдневяковая латынь з'яўлялася мовай заходнееўрапейскай навукі і яе вывучэнне было патрэбна як для павышэння аўтарытэту брацкіх школ, так і

---

[9] Klemensiewicz Z. Historia języka polskiego. Warszawa, 1974, c. 319.

[10] Коршунов А. Афанасий Филиппович. Жизнь и творчество. Мн., 1965, с. 114.

для чыста практычнай мэты — неабходнасці весці палеміку з езуітамі [11].

У канцы XVI і на працягу XVII ст. лацінская мова заняла моцныя пазіцыі ў справаводстве юрыдычных і дзяржаўных органаў Вялікага княства Літоўскага, выступаючы побач з беларускай і польскай мовамі пры афармленні многіх дакументаў. Але асноўнай сферай прымянення гэтай мовы стала навуковая літаратура, выпуску якой удзялялі ўвагу многія польскія друкарні, заснаваныя на тэрыторыі Беларусі [12].

Вялікае значэнне для папаўнення слоўнікавага саставу старабеларускай мовы іншамоўнай лексікай мела распаўсюджанне на Беларусі ідэй рэфармацыі. Гэты перадавы для таго часу гуманістычны рух, цесна звязаны з заходнееўрапейскімі і польскімі рэфармацыйнымі плынямі, быў падрыхтаваны ўсім ходам сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця Вялікага княства Літоўскага. Рэальныя магчымасці для фарміравання на Беларусі гуманістычных пачаткаў, як сцвярджаюць гісторыкі, ствараліся дзякуючы наяўнасці вялікай колькасці гарадоў, высокаразвітага рамяства, разгалінаваных таварна-грашовых адносін, інтэнсіўнага ўнутранага і знешняга гандлю, міжнародных эканамічных і культурных кантактаў [13]. Знаходзячы на беларускіх землях усё больш прыхільнікаў, рэфармацыя садзейнічала развіццю тут асветы, навукі, кнігадрукавання, павышала цікавасць адукаваных колаў да антычнай культуры і культурнай спадчыны еўрапейскага Адраджэння [14]. У краіне пачалі ажыццяўляцца шматлікія пераклады на беларускую мову тэкстаў заходняга паходжання. Дзякуючы перакладчыцкай дзейнасці прадстаўнікоў беларускай культуры беларускаму чытачу сталі даступнымі

---

[11] Медынский Е. Н. Братские школы Украины и Белоруссии в XVI—XVII вв. и их роль в воссоединении Украины с Россией. М., 1959, с. 37.

[12] Падрабязныя звесткі аб польска-лацінскіх друкарнях, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі ў XVI—XVII стст., прыведзены ў кнізе «Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Zeszyt 5. Wielkie Księstwo Litewskie». Wrocław—Kraków, 1959.

[13] Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1966.

[14] Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии. Мн., 1973, с. 27.

многія творы заходнееўрапейскай мастацкай, навуковай і гістарычнай літаратуры [15].

Культурны ўздым на Беларусі, выкліканы рэфармацыйным рухам, павялічыў імкненне мяшчанскай і шляхецкай моладзі да набыцця вышэйшай адукацыі. Паколькі ўласных вышэйшых навучальных устаноў у Вялікім княстве Літоўскім да другой палавіны XVI ст. не было [16], маладыя людзі накіроўваліся за універсітэцкімі ведамі ў заходнія краіны, што падтрымлівалася тагачасным заканадаўствам: «узычаемъ и уфаляемъ вечными часы абы княжата панята хоруговные шляхта и кождый человекъ рыцэрский и всякого стану того панства нашого великого князства литовского мели волность и моцъ выехати и выйти с тыхъ земль нашыхъ великого князства и для набытья наукъ в писме твичэнья и вчинъковъ рыцэрскихъ» (Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 г., раздзел III, артыкул 13).

Традыцыйнымі цэнтрамі навучання ўраджэнцаў Вялікага княства Літоўскага былі Кракаўскі, Падуанскі, Пражскі, Балонскі, пазней Вітэнбергскі, Лейпцыгскі, Кенігсбергскі, Лейдэнскі і іншыя універсітэты Еўропы. Большая частка беларусаў атрымала універсітэцкую адукацыю ў Кракаве, дзе, па архіўных дадзеных, толькі зарэгістраваных студэнтаў з Літвы і Беларусі налічвалася ў XV ст. 201, а ў XVI ст.— 229 чалавек [17].

У заходнееўрапейскіх універсітэтах вучыліся многія будучыя дзяржаўна-адміністрацыйныя, палітычныя, навукова-культурныя і рэлігійныя дзеячы Вялікага княства Літоўскага. Напрыклад, у пачатку XVI ст. Кракаўскі універсітэт скончыў беларускі першадрукар Ф. Скарына, які пазней атрымаў навуковую ступень доктара медыцыны ў Падуанскім універсітэце. Вучнем Г. Галілея ў Падуанскім універсітэце быў беларускі ўрач і паэт Д. Набароўскі, аўтар дысертацыі на лацінскай мове «Аб тэмпераментах». У сценах Вітэнбергскага універсітэта атрымаў вышэйшую адукацыю канцлер Вялікага княства Літоўскага Л. Сапега, пад рэдакцыяй якога ў

---

[15] Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970, с. 85.

[16] Першы універсітэт на землях Вялікага княства Літоўскага быў адкрыты ў 1578 г. у Вільні на базе езуіцкай калегіі.

[17] Голенченко Г. Я. Студенты Великого княжества Литовского в Краковском университете в XV—XVI вв.—Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976, с. 232.

1588 г. выйшаў «Статут Вялікага княства Літоўскага». Лекцыі ў Лейпцыгскім, Вітэнбергскім і Нюрнбергскім універсітэтах слухаў палымяны прадстаўнік беларускай палемічнай літаратуры М. Сматрыцкі.

У XVI—XVII стст. на Беларусі пасялялася многа высокаадукаваных людзей з Польшчы, Чэхіі, Германіі, Італіі і іншых краін. У прыватнасці, тут на працягу доўгага часу жылі і працавалі італьянскія медыкі Дж. Б'яндрата, П. С. Сімоні і Н. Бучэла, швейцарскія ўрачы Т. Парацэльс і І. Гаслер [18], польскі гісторык і паэт М. Стрыйкоўскі [19] і інш. Найбольш перадавыя дзеячы заходнееўрапейскай навукі і культуры былі прыхільнікамі адзінства і пераемнасці ў развіцці еўрапейскай культуры, падтрымлівалі ідэі Адраджэння і Рэфармацыі, выступалі за дружбу і супрацоўніцтва паміж народамі.

Універсітэцкая адукацыя, якую беларусы атрымлівалі за мяжой, і пастаянны рост кантактаў паміж беларускім насельніцтвам і прадстаўнікамі заходнееўрапейскай культуры і навукі павышалі інтэлектуальны ўзровень грамадства, павялічвалі ў краіне колькасць знаўцаў замежных моў і гэтым самым адкрывалі шырокія магчымасці для пранікнення іншамоўнай лексікі ў беларускую мову. Увогуле ж патрэбна адзначыць, што пад уздзеяннем усёй сукупнасці разгледжаных сацыяльна-гістарычных, эканамічных і культурных фактараў другая палавіна XVI і пачатак XVII ст. у гісторыі беларускай мовы з'явіліся па інтэнсіўнасці і выніковасці запазычвання заходнееўрапейскай лексікі такім жа перыядам, якім праз стагоддзе стала для рускай мовы Пятроўская эпоха [20].

Акрамя наладжвання ўсебаковых сувязей з Захадам, у выніку якіх старабеларуская лексічная сістэма ўзбагацілася тысячамі новых слоў, беларусы на працягу сваёй гісторыі сутыкаліся з іншымі народамі. Найбольш працяглымі і трывалымі былі зносіны беларускага насельніцтва з літоўцамі, што патрэбна разглядаць як за-

---

[18] Грицкевич В. П. Место Белоруссии и Литвы в распространении естественнонаучных знаний в XVI в.—Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в., с. 241—250.

[19] Karpluk M. O języku Macieja Stryjkowskiego historyka i poety z drugiej polowy XVI wieku. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk, 1977, с. 8—10.

[20] Гістарычная лексікалогія беларускай мовы, с. 87.

канамерную з'яву ва ўмовах блізкага суседства і шматвяковага знаходжання Літвы і Беларусі ў адной дзяржаве. Натуральным праяўленнем гэтых зносін з'явілася ўзаемадзеянне паміж беларускай і літоўскай мовамі, якое прывяло да пранікнення беларускіх слоў у літоўскі слоўнік, а літоўскіх у беларускі. Аднак рэальныя вынікі літоўска-беларускага моўнага ўзаемадзеяння аказаліся неаднолькавымі: у той час як у старалітоўскай мове словы беларускага паходжання склалі значны пласт[21], у старабеларускай літоўскі лексічны струмень абмежаваўся ўсяго чатырма дзесяткамі лексем. Такая аднабаковасць міжмоўных кантактаў тлумачыцца тым, што беларуская мова выступала ў Вялікім княстве Літоўскім у якасці дзяржаўнай, а беларускія землі складалі аснову яго эканамічнай магутнасці.

Зносіны насельніцтва беларускіх зямель з прадстаўнікамі цюркскіх народаў пачаліся ўжо ў старажытнарускую эпоху ў выніку сутыкнення з мангола-татарскімі ордамі, якія напалі на Русь у пачатку XIII ст. Праўда, на раннім этапе цюркска-ўсходнеславянскіх моўных кантактаў цюркскі лексічны ўплыў адлюстраваўся ў першую чаргу на тых старажытнарускіх дыялектах, якія ляглі пасля ў аснову старарускай мовы, і ў нязначнай ступені закрануў гаворкі, на аснове якіх узнікла старабеларуская мова. Таму і нязначнай была колькасць лексем цюркскага паходжання, унаследаваных старабеларускай мовай са старажытнарускіх гаворак.

Непасрэдныя гандлёвыя, ваенныя і дыпламатычныя кантакты беларусаў з цюркскімі народамі працягваліся і ў наступныя стагоддзі спачатку з плямёнамі, якія насялялі паўднёваўкраінскія стэпы і ў сутыкненне з якімі Вялікае княства Літоўскае прыйшло ў гады княжання Гедыміна (1316—1341), а пазней, асабліва з часу княжання Вітаўта (1392—1430),— з Крымскім ханствам. Зразумела, яны не маглі не адлюстравацца на слоўнікавым саставе старабеларускай мовы, які чэрпаў у цюркскіх мовах новыя лексічныя сродкі. Гэтаму садзейнічала і пастаяннае павелічэнне на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага праслойкі татарскага насельніцтва за лік

---

[21] Palionis J. Lietuvių literaturine kalba XVI—XVII a. Vilnius, 1967, p. 273—286.

ваеннапалонных і добраахвотных пасяленцаў [22], а таксама тыя абставіны, што дыпламатычная перапіска літоўскіх князёў з крымскімі ханамі ажыццяўлялася на беларускай літаратурнай мове таго часу. Іменна да перыяду самастойнага развіцця старабеларускай мовы адносіцца найбольшая колькасць непасрэдных цюркскіх запазычанняў. Адначасова ў старабеларускую мову паступалі цюркізмы праз пасрэдніцтва суседніх моў — рускай, украінскай і польскай. У выніку словы цюркскага паходжання ўтварылі ў складзе лексікі старабеларускай мовы некалькі большы пласт, чым літуанізмы. Аднак у параўнанні з лексічным багаццем, запазычаным з заходніх моў, цюркскі ўклад у старабеларускую лексіку аказаўся малапрыкметным і датычыўся ён у большасці слоў з канкрэтным значэннем, паколькі ў старажытнасці ўплыў цюркскіх народаў на духоўнае жыццё беларусаў быў значна слабейшым.

Параўнальна невялікім на працягу XIV—XVIII стст. быў таксама прыток у старабеларускі слоўнік грэцызмаў, хоць словы грэчаскага паходжання, якія ўжываюцца ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове, складалі даволі значную колькасць. Але пераважная большасць іх, звязаная, як правіла, са сферай рэлігійнага жыцця, была запазычана і асвоена ўжо ў старажытнарускай мове, калі пасля прыняцця хрысціянства інтэнсіўна фарміравалася праваслаўная царкоўная тэрміналогія. У перыяд жа самастойнага развіцця ўсходнеславянскіх моў у новых рэлігійных тэрмінах праваслаўнага напрамку ўжо амаль не было патрэбы, таму грэчаскі лексічны струмень у старабеларускай мове істотна звузіўся. Некалькі ажыўлялі яго толькі лексічныя адзінкі з галіны навукі і культурнага жыцця, якія паступалі пераважна з двух каналаў — праз пераклады з грэчаскай мовы рэлігійнай і навуковай літаратуры і дзякуючы вывучэнню грэчаскай мовы ў праваслаўных брацкіх школах. Але паколькі веданне грэчаскай мовы не было такой жа масавай з'явай, як польскай ці лацінскай мовы, то зусім натуральна, што нават у працэсе развіцця ста-

---

[22] Аб гісторыі і грамадзянскіх правах татар у Вялікім княстве Літоўскім гл.: Мухлинский А. Исследование о происхождении и состоянии литовских татар. СПб, 1857; Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею, т. XXXI. Вильна, 1906 («Предисловие» Ф. Добрянского).

рабеларускай лексікі ў навуковай і культурнай сферах больш актыўная роля належала заходнеславянскім і заходнееўрапейскім мовам.

Пры адборы лексікі для даследавання перш за ўсё былі ўлічаны тыя лексемы, якія, пранікаючы ў старабеларускую літаратурную мову і асімілюючыся тут у фанетычных і марфалагічных адносінах, выконвалі нароўні з уласнабеларускай лексікай пэўную камунікатыўную функцыю. Разам з тым не пакідаліся ўбаку і экзатызмы накшталт *ареопагъ, аркгонаутъ, баша, ефудъ, иппотамъ, консулъ, лябиринтъ, маца, нишанъ, рабинъ, чаушъ,* ужыванне якіх у старабеларускіх пісьмовых помніках было абумоўлена неабходнасцю апісання звычаяў і быту насельніцтва іншых краін. Не прыцягваюцца ў якасці аб'екта даследавання толькі разнастайныя іншамоўныя словы тыпу *алхамъ, артонъ, лехамъ, кирие елейсонъ,* якія выкарыстоўваліся часам старабеларускімі кніжнікамі ў перакладных творах для стылістычных мэт, як у выпадках: *кождого оного слова семдесятъ словъ повстало... кождый иначей своимъ языкомъ мянованъ сиряне лягма, грекове артонъ, немцы бротъ, славяне хлебъ* («Хроніка» М. Бельскага); *людъ закричалъ, Кирие елейсонъ, то ест господи помилуй* (Зборнік № 82).

У падыходзе да іншамоўнай лексікі з пункту погляду яе храналогіі таксама праводзіцца пэўная дыферэнцыяцыя. Напрыклад, цалкам апускаюцца царкоўнаславянізмы, паколькі яны ў пераважнай большасці былі ўнаследаваны старабеларускай мовай ад старажытнарускай эпохі і з'яўляліся пераважна здабыткам рэлігійных кніжных жанраў, не аказаўшы амаль ніякага ўздзеяння на жывую гутарковую мову беларускага насельніцтва. Не аналізуюцца таксама многія грэчаскія словы, у тым ліку запазычаныя з грэчаскай мовы лексічныя адзінкі лацінскага, старажытнаяўрэйскага і старажытнаарабскага паходжання, у прыватнасці *авва, августъ, адаръ, адонай, адъ, аеръ, акафистъ, акинфъ, акрида, аксамитъ, алилуйя, алкионъ, аляврстръ, амбонъ, аминь, анафема, ангелъ, антимисъ, антифона, антихристъ, апокалипсисъ, апокалипсия, апостолъ, апракосъ, апрель, ароматъ, архангелъ, архидьяконъ, архидьякъ, архиепископъ, архиерей, архимандритъ, архистратигъ, аспидъ, варваръ, василискъ, геенна, генваръ, грамота, деисусъ, декабрь, демонъ, дидрахма, динаръ, дискосъ,*

*драхма, дьяволъ, дьяконъ, дьякъ, евангелие, евангелистъ, еклезиастъ, ектения, елей, епархия, епархъ, епископъ, епистола, епитемия, ересь, еретикъ, ехидна, игемонъ, игемония, игуменъ, идолъ, иерей, икона, индиктъ, ипатъ, ипостасия, ипостась, ирмосъ, исопъ, июль, июнь, калугеръ, кандило, канонъ, канунъ, катапетасма, кафизма, кация, кедаръ, кедръ, келаръ, келья, керемида, кесаръ, кивотъ, кимвалы, киновионъ, кипарисъ, китоврасъ, китъ, клирикъ, клиросъ, клиръ, кодрантъ, комитъ, комора, кондакъ, корабль, корвана, кровать, ктиторъ, лавра, ладанъ, левитъ, легионъ, лентие, литей, литонъ, литра, литургия, лохань, май, манна, мартъ, мастика, матизма, минея, мира, мирсина, митрополитъ, митрополия, монастыръ, монахъ, мосхусъ, мраморъ, мскусъ, мулизма, мусикия, мусея, намоканунъ, ноябръ, одигитрия, окиянъ, октенья, октябрь, омофоръ, ониха, осанна, охтаикъ, панагия, панамаръ, панахида, паникадило, параклитъ, паралипоменонъ, парамантъ, парамия, парусъ, пасха, патерикъ, певга, полата, порфира, потиръ, проскура, просфира, протодьяконъ, протопопъ, протосинкгелъ, псалмъ, псалтырь, рипида, сардий, сатана, сентябрь, серафимъ, сикль, синадикъ, синаксаръ, скименъ, скиния, скинофея, скипетръ, скорпионъ, стамна, статиръ, стихаръ, стихий, стихия, стихъ, стыхера, субота, синклитъ, схима, тавла, талантъ, тартаръ, теремъ, тетрадь, тетраевангелия, тимпанъ, титло, топазионъ, трапеза, трефолонъ, триодь, тропаръ, фараонъ, фарисей, февраль, фертъ, фита, харатья, херувимъ,* якія хоць шырока ўжываліся ў беларускіх пісьмовых помніках XIV—XVIII стст. у розных варыянтах разам з утворанымі на іх базе шматлікімі дэрыватамі, але былі ўласцівы яшчэ старажытнарускай пісьменнасці і, значыць, з'яўляліся лексічнымі запазычаннямі старажытнарускай, а не старабеларускай мовы.

Гэты ж прынцып праводзіцца і ў адносінах даўніх усходнеславянскіх германізмаў, лацінізмаў, цюркізмаў і лексічных адзінак іншых моў тыпу *алтарь, атаманъ, баскакъ, берковецъ, бесурмянинъ, бисеръ, богатырь, бровстъ, буйволъ, ватага, грыдня, жемчугъ, клобукъ, коверъ, коврыга, ковчегъ, колымага, лошадь, мештеръ, мнихъ, оплатокъ, орда, оцетъ, папа, ратманъ, скалва, тамга, телега, тивунъ, товаръ, толмачъ, чеканъ, шатеръ, ямъ, ярлыкъ,* з якіх большасць фіксавалася ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове таксама ў роз-

ных варыянтах і прымала актыўны ўдзел у словаўтваральным працэсе, але была запазычана яшчэ ў старажытнарускую эпоху.

Нягледзячы на багаты фактычны матэрыял, які лёг у аснову даследавання, праца не з'яўляецца вычарпальным адлюстраваннем усіх запазычаных слоў, што былі характэрны для беларускай мовы старажытнага перыяду. Гэта тлумачыцца рознымі прычынамі. Па-першае, практычна немагчыма выкарыстаць усе пісьмовыя помнікі, створаныя на старабеларускай мове на працягу XIV—XVIII стст. Дастаткова адзначыць, што толькі выдадзены пазней актавы матэрыял перавышае сотню тамоў, і гэта толькі нязначная частка той вялікай рукапіснай спадчыны, якая ўзнікла ў мінулым у велікакняжацкай канцылярыі, у гарадскіх, земскіх і замкавых судах, у магістратах і магдэбургіях. Па-другое, у старажытных пісьмовых крыніцах не ўся запазычаная лексіка аказалася зарэгістраванай з-за адсутнасці спрыяльнага кантэксту, а ў многіх выпадках, нават калі і была засведчана, беззваротна загінула разам са знішчанымі ў часе войн помнікамі. Можна спадзявацца, аднак, што ў будучым, калі да даследавання будуць прыцягнуты новыя дакументальныя матэрыялы, лік вядомых нам запазычанняў старабеларускага перыяду некалькі ўзрасце.

# СЕМАНТЫКА, ХРАНАЛОГІЯ І ШЛЯХІ ПРАНІКНЕННЯ ЗАПАЗЫЧАННЯЎ

Вывучэнне запазычанняў у беларускай мове XIV—XVIII стст. прадугледжвае рашэнне цэлага комплексу праблем, сярод якіх на першым месцы стаіць высвятленне пытанняў аб складзе запазычанай лексікі, сферах яе функцыяніравання, моўных крыніцах, адкуль яна пранікала ў беларускі слоўнік, а таксама вызначэнне храналогіі запазычвання. Самым складаным з'яўляецца пытанне аб шляхах і спосабах пранікнення запазычанняў, паколькі яны паступалі ў беларускую лексічную сістэму як у выніку непасрэдных кантактаў з суседнімі мовамі, так і праз пасрэдніцтва іншых моў. Часам у замацаванні адной лексемы ўдзельнічала некалькі моўных стыхій. Таму класіфікацыя запазычанняў па крыніцах, адкуль яны чэрпаліся, г. зн. вылучэнне ў складзе запазычанай лексікі старабеларускай мовы паланізмаў, лацінізмаў, германізмаў, раманізмаў, грэцызмаў, цюркізмаў і іншых лексіка-этымалагічных разрадаў, улічваючы надзвычай складаныя ўмовы развіцця старабеларускай лексічнай сістэмы, патрабуе пэўных нацяжак і агаворак. Разам з тым убаку застаецца надзвычай важнае пытанне аб сферах функцыяніравання запазычанай лексікі.

Пры вялікім аб'ёме фактычнага матэрыялу (каля 4000 лексічных адзінак) больш рацыянальным уяўляецца метад аналізу запазычанняў па лексіка-семантычных разрадах. Ён дазваляе ахапіць адначасова некалькі аспектаў даследавання, не толькі прасачыць гісторыю і этымалогію кожнай лексемы, паказаць яе семантычны аб'ём і храналогію, але і вызначыць яе месца ў семантычнай сістэме старабеларускай мовы. Апісанне іншамоўнай лексікі з пункту погляду яе адносін да пэўных функцыянальных сфер апраўдваецца і тым, што на яго аснове можна меркаваць аб агульных кірунках моўных кантактаў старажытнай пары, якія залежалі ад сукуп-

насці сацыяльна-гістарычных і культурных фактараў і ў розныя гістарычныя перыяды складваліся па-рознаму.

Функцыянальныя сферы, па якіх размяркоўвалася запазычаная лексіка, склаліся ў працэсе фарміравання старабеларускай мовы. Кожная з іх валодала адноснай самастойнасцю ў сваім развіцці і ў залежнасці ад патрэб папаўнення новымі сродкамі выражэння ўступала ва ўзаемадзеянне з акрэсленым колам моў. Напрыклад, у стварэнні старабеларускай юрыдычнай тэрміналогіі прымалі ўдзел іншыя мовы, чым, скажам, у станаўленні ваеннай лексікі, а запазычаныя тэрміны навуковага і культурнага ўжытку зусім адметнага паходжання ў параўнанні з бытавымі словамі. Уся ж сукупнасць іншамоўнай лексікі ў той ці іншай меры ахоплівала ўсе сферы знешняга свету і чалавечай дзейнасці. Таму семантычная класіфікацыя запазычанай лексікі, хоць і носіць умоўны характар, з'яўляецца стройнай сістэмай, дзе практычна цяжка знайсці незапоўненае звяно.

У цэлым семантычную сістэму старабеларускай мовы, у аснову якой пакладзены адносіны лексічнага матэрыялу, запазычанага з іншых моў на працягу XIV—XVIII стст., да пэўных функцыянальных сфер, можна ўявіць у выглядзе 14 буйных лексіка-семантычных разрадаў: I. Грамадска-палітычная лексіка. II. Юрыдычная лексіка. III. Канцылярская лексіка. IV. Ваенная лексіка. V. Сацыяльна-эканамічная лексіка. VI. Прафесійна-вытворчая лексіка. VII. Бытавая лексіка. VIII. Лексіка, якая характарызуе чалавека ў фізічных, псіхічных і інтэлектуальных адносінах. IX. Лексіка, якая характарызуе прыроду ў бытавым і навуковым асвятленні. X. Лексіка, звязаная з лічэннем і вымярэннем. XI. Лексіка, якая характарызуе навуку, культуру і мастацтва. XII. Словы, якія ўжываліся ў сферы рэлігійнага жыцця. XIII. Поліфункцыянальная лексіка. XIV. Агульная лексіка.

Кожны з гэтых разрадаў аб'ядноўвае рад прадметна-тэматычных груп, што ў сукупнасці даюць дакладнае ўяўленне аб велічыні іншамоўнага лексічнага ўздзеяння на пэўныя функцыянальныя сферы старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы.

## I. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ЛЕКСІКА

Адзін з найбольш буйных разрадаў запазычаных слоў сацыяльнага характару ў лексічнай сістэме старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы ўтварае грамадска-палітычная лексіка, якая характарызуе дзяржаўную ўладу, адміністрацыйна-кіраўнічы апарат, знешнепалітычныя адносіны, дыпламатыю не толькі Вялікага княства Літоўскага, але і іншых еўрапейскіх і азіяцкіх краін сярэдневяковага перыяду і больш далёкага мінулага. Актыўнаму пранікненню грамадска-палітычных тэрмінаў заходняга паходжання ў беларускі слоўнік спрыяла як бесперапыннае шматвяковае ўздзеянне на яго з боку насычанай лацінізмамі і заходнееўрапеізмамі польскай афіцыйнай мовы, так і непасрэднае кантактаванне беларускага насельніцтва з немцамі, чэхамі, венграмі, а таксама выкарыстанне адміністрацыйнымі і палітычнымі дзеячамі літоўскай дзяржавы сярэдневяковай латыні, побач з беларускай мовай, у дзелавым справаводстве і дыпламатычнай перапісцы з урадамі замежных краін. Неабходнай умовай для запазычвання слоў усходняга паходжання было наладжванне беларусамі прамых або ўскосных сувязей з прадстаўнікамі цюркскіх народаў.

У семантычных адносінах лексіка гэтага разраду выразна размяркоўваецца па некалькіх прадметна-тэматычных групах. Даволі вялікую групу складаюць, напрыклад, запазычанні, якія абазначаюць назвы асоб па адміністрацыйных пасадах, выканаўчых службовых функцыях, сацыяльнаму становішчу, месцапражыванню і адносінах да грамадскага працэсу. Сярод іх пераважаюць словы, якія пранiклі ў беларускую мову з заходніх моў. Зусім натуральна, што ў ліку заходніх запазычанняў шырока прадстаўлены лексемы польскага паходжання: *владца* 'уладар' 1596[23]<стп. *władca* (SPK); *войский* 'чыноўнік, які ахоўваў маёнткі шляхціцаў-апалчэнцаў' 1518<стп. *wojski* (SStK); *выдавца* 'здраднік' к. XV ст.< стп. *wydawca* (SStK); *выдерца* 'асоба, якая забірае штонебудзь беззаконна, гвалтам' п. XVII ст.<стп. *wydzierca* (SPK); *дозорца* 'кантралёр, наглядчык' 1581<стп. *dozorca* (SP V 553); *драпежца (драпезца)* 'чалавек, які груба парушае парадак, робіць бясчынствы' 1517<стп. *dra-*

[23] Датаванне праводзіцца на аснове самых ранніх выпадкаў адлюстравання слоў у помніках пісьменнасці.

*pieżca* (SSt II 179); *завядовца (заведовца)* 'загадчык' 1671<пол. *zawiadowca* (SJP X 858); *заступца* 'намеснік; абаронца' 1536<стп. *zastępca* (SPK); *здрадца (здрайца, зрадца, зрайца)* 'здраднік' 1440<стп. *zdradca, zdrajca* (SStK); *земянинъ (земенинъ)* 'дробны памешчык' 1431< стп. *ziemianin, ziemienin* (SStK); *коморникъ (каморникъ)* 'загадчык княжацкіх палат; каморнік; пастаялец' 1420< стп. *komornik* (SSt III 323); *конюший (конюшей, конюшый)* 'прыдворны, які загадваў канюшнямі' 1441<стп. *koniuszy* (SSt III 330); *крайчий (крайчый)* 'прыдворны, які загадваў княжацкім сталом' 1487<стп. *krajczy* (SSt III 374); *лавникъ* 'член магістрата; засядацель' 1514< стп. *ławnik* (SSt IV 104); *лупежца (лупезца)* 'асоба, якая гвалтам забірае што-небудзь у вялікай колькасці' 1555<стп. *łupieżca, łupiezca* (SPK); *моцаръ* 'уладар; волат' к. XV ст.<стп. *mocarz* (SSt IV 310); *наездца* 'захопнік, агрэсар' с. XVII ст.<пол. *najeźdźca* (L III 239); *наслядовца (наследовца, наследца)* 'пераймальнік, наследнік' 1597<стп. *naśladowca, naśladca* (SSt V 107, SPK); *ожувца* 'падбухторшчык на які-небудзь антыграмадскі ўчынак' 1620<стп. *ożuwca* (SPK); *пани (пания, панья, паня)* 'пані' п. XV ст.<стп. *pani* (SSt VI 22); *панъ* 'пан, памешчык; бог' 1340<стп. *pan* (SSt VI 17); *подвоеводзий (подвоеводий)* 'намеснік ваяводы' 1532<стп. *podwojewodzi* (SSt VI 282); *подвойский (потвойский)* 'памочнік чыноўніка, які ахоўваў маёнткі шляхціцаў-апалчэнцаў' 1456<стп. *podwojski* (SSt VI 282); *подданый* 'падданы' 1434<стп. *poddany* (SSt VI 236); *подканцлерый (подканцлеръ)* 'намеснік канцлера' 1392<стп. *podkanclerzy, podkanclerz* (SSt VI 243); *подкоморый (подкоморей, подкоморий, подкоморы, поткоморий)* 'прыдворны, які загадваў княжацкімі маёнткамі; галоўны межавы суддзя' 1434<стп. *podkomorzy* (SSt VI 243); *подстаростий (подстаростей, потстаростий)* 'намеснік старасты' 1395<стп. *podstarości* (SSt VI 276); *подстолий* 'намеснік стольніка' 1487<стп. *podstoli* (SSt VI 277); *подступца* 'здраднік, ашуканец' 1616<стп. *podstępca* (SPK); *подчаший (подчашый)* 'прыдворны, які загадваў вінамі' 1459< стп. *podczaszy* (SSt VI 232); *преложоный (преложеный)* 'загадчык, кіраўнік' 1443<стп. *przełożony* (SSt VII 145); *преслядовца (преследовца)* 'праследавацель' 1526<стп. *prześladowca* (SPK); *приводца (прыводца)* 'правадыр, важак' п. XVI ст.<стп. *przywodca* (SPK); *радца (рай-*

*ца)* 'член магістрата; дарадца' 1407<стп. *radca, rajca* (SSt VII 423); *ребелизантъ* 'паўстанец, бунтаўшчык' 1663<стп. *rebelizant* (P II 307); *розделца* 'разлучнік' к. XV ст.<стп. *rozdzielca* (SSt VII 510); *розливца (розлийца, розлитца)* 'чалавек, учынкі якога прыводзяць да кровапраліцця' п. XVII ст.<стп. *rozlewca* (SPK); *самовладца* 'самадзержац' п. XVII ст.<пол. *samowładca* (WSPR 951); *сказца (скажца)* 'парушальнік законнасці' 1507<стп. *skaźca, skażca* (SStK, SPK); *справца* 'адміністратар, распарадчык' 1519<стп. *sprawca* (SStK); *утратца* 'згубіцель' п. XVII ст.<стп. *utratca* (SPK); *хвалца (фалца)* 'паклоннік, прыхільнік; ліслівец' 1595<стп. *chwalca, falca* (SSt I 261, SP III 343).

Гэтак жа шырока для намінацыі прадстаўнікоў адміністрацыйна-кіраўнічага апарату Вялікага княства Літоўскага і асоб па ўдзелу ў тагачасным грамадскім жыцці старабеларуская мова выкарыстоўвала лексемы лацінскага паходжання, якія пранікалі як праз польскае пасрэдніцтва, так і непасрэдна з сярэдневяковай латыні: *адгерентъ* 'прыхільнік, саўдзельнік' 1637<стп. *adherent* (1588, SP I 86<лац. *adhaerēns, -ntis,* Mosz. 158); *администраторъ* 'кіраўнік, загадчык' 1567<стп. *administrator* (1560, SP I 86<лац. *administrātor,* Mosz. 158); *аентъ (аиентъ)* 'упаўнаважаны' 1666<стп. *agent, ajent* (1656, PSDP 5<лац. *agēns, -ntis,* Ryb. 18); *антецесоръ (антецессоръ)* 'папярэднік; продак' 1507<стп. *antecesor* (1594, SP I 179<слац. *antecessor,* Mosz. 160) і непасрэдна слац.; *визытаторъ (визитаторъ)* 'інспектар' 1691<стп. *wizytator* (XV ст., SStK<лац. *vīsitātor,* Mosz. 212); *виоляторъ* 'парушальнік законаў' 1610<слац. *violator* (SŁŚPK); *делегатъ (делекгатъ)* 'дэлегат' 1682<стп. *delegat* (XVII ст., Ryb. 28<лац. *dēlēgātus,* SWO 141); *депутатъ* 'дэпутат, пасол' 1577<стп. *deputat* (1587, SP IV 591<слац. *deputatus,* Mosz. 167); *дикгнитаръ (дигнитаръ, дыгнитаръ, дыкгнитаръ)* 'саноўнік' 1443<стп. *dygnitarz* (1543, SP VI 273<слац. *dignitarius,* SWOR 166) і непасрэдна слац.; *директоръ* 'кіраўнік, дырэктар' 1598<стп. *dyrektor* (1588, SP VI 292<слац. *director,* Ryb. 31); *екзаминаторъ* 'інспектар, правяршчык' 1687<стп. *egzaminator* (1567, SP VI 523<лац. *exāminātor,* SWO 173); *електоръ* 'выбаршчык' 1598<стп. *elektor* (1564, SP VI 547<лац. *ēlēctor,* Mosz. 171); *електъ (алектъ, электъ)* 'новавыбраны на якую-небудзь пасаду' 1565<стп. *elekt*

(1541, SKN 516<лац. *ēlēctus*, Mosz. 171); *иллюстраторъ (олюстраторъ)* 'рэвізор' 1710<пол. *ilustrator, illustrator* (<лац. *illūstrātor*, SJP III 164); *импосторъ* 'самазванец' 1643<стп. *impostor* (п. XVII ст., Ryb. 43<лац. *impostor*, SJP III 181); *интеррекгтъ* 'выканаўца абавязкаў караля ў перыяд міжцарства' 1634<пол. *interreks* (<лац. *interrēx*, SWO, 312); *каштелянъ (кастелянъ, каштaлянъ)* 'саноўнік высокага рангу, камендант замка' 1508<стп. *kasztelan, kasztalan, kastelan* (1449, SSt III 248<лац. *castellānus*, SłSE II 98); *кгубернаторъ (губернаторъ, кубернаторъ)* 'губернатар' 1497<стп. *gubernator* (1530, SP VIII 230<лац. *gubernātor*, BrSE 163) і непасрэдна слац.; *коадгерентъ* 'саўдзельнік, памочнік' 1684<слац. *coadhaerens, -ntis* (SŁSP II 515); *комисаръ (коммисаръ)* 'ураднік са спецыяльнымі абавязкамі' 1510<стп. *komisarz* (1500, SP X 501<слац. *commissarius*, SłSE II 386) і непасрэдна слац.; *компетиторъ* 'спаборнік на пасаду' п. XVII ст.<стп. *kompetytor* (1588, SP X 514<лац. *competītor*, Mosz. 184); *кондидатъ* 'прэтэндэнт на якое-небудзь становішча' п. XVII ст.<стп. *kandydat* (1582, SP X 65<лац. *candidātus*, SłSE II 44); *куроспондентъ* 'прадстаўнік, павераны' 1710<стп. *korespondent* (1621, Cn 303<слац. *correspondens, -ntis*, Ryb. 58); *курсоръ (курсаръ)* 'кур'ер, пасыльны' с. XVII ст.<стп. *kursor* (XVI ст., SPK<лац. *cursor*, Ryb. 59); *лекгатъ (легатъ)* 'пасол' 1526<стп. *legat* (1339, SSt IV 15<лац. *lēgātus*, SłSE IV 113); *монарха* 'манарх' 1597<стп. *monarcha* (XVI ст., SPK<лац. *monarcha*, ад гр. μονάρχος, Mosz. 192); *официялистъ* 'афіцыйная асоба' 1684<стп. *oficyjalista* (XVII ст., P II 45<слац. *officialista*, Ryb. 68); *патронъ* 'заступнік, абаронца' 1556<стп. *patron* (1449, SSt VI 54<лац. *patrōnus*, Mosz. 197); *пелкгримъ (пелгримъ, пелкгрымъ, пельгрымъ, перкгримъ, перькгримъ)* 'пілігрым, падарожнік' к. XV ст.<стп. *pielgrzym* (XIV ст., SSt VI 90<слац. *peregrinus*, SWOR 513) і непасрэдна слац.; *персона (парсона, парсуна, персуна, порсуна)* 'асоба' 1388<стп. *persona, parsona, parsuna* (XIV ст., SSt VI 68<лац. *persōna*, Mosz. 197); *политыкъ* 'палітык' 1651<стп. *polityk* (XVI ст., SPK<лац. *polīticus*, ад гр. πολιτικός, Mosz. 198); *презыдентъ (пресыдентъ)* 'галоўны чыноўнік мясцовасці' 1596<стп. *prezydent* (XVI ст., SPK<лац. *praesidēns, -ntis*, Mosz. 200) і непасрэдна слац.; *промоторъ* 'пратэктар, заступнік' 1600<стп. *promotor*

(XVI ст., SPK<слац. *promotor,* Mosz. 200); *ревизоръ (левизоръ)* 'рэвізор' 1554<стп. *rewizor* (XVI ст., SPK<лац. *revīsor,* Mosz. 203); *резыдентъ (резидентъ)* 'упаўнаважаны прадстаўнік' 1688<стп. *rezydent* (XVII ст., P II 316<лац. *residēns, -ntis,* Ryb. 85); *референдаръ (реферандаръ)* 'прыдворны, які дакладваў скаргі падданых' 1551<стп. *referendarz* (1540, SJC 127<слац. *referendarius,* Mosz. 202); *сенаторъ (сенатаръ, сонаторъ, сэнаторъ)* 'член сената' 1588<стп. *senator* (XVI ст., SPK<лац. *senātor,* Mosz. 205); *сикофантъ* 'даносчык, шантажыст' 1653<стп. *sykofanta* (XVI ст., SPK<лац. *sȳcophanta,* ад гр. συκοφάντης, Mosz. 207); *субделекгатъ* 'намеснік дэлегата' 1699<стп. *subdelegat* (1601, IM 622<лац. *sub-* 'пад'+*dēlēgātus,* Ryb. 88); *субститутъ (субститъ)* 'намеснік' 1661<стп. *substytut* (XVI ст., SPK<лац. *substitūtus,* Ryb. 88); *сурокгаторъ (сурогаторъ, суррогаторъ, суррокгаторъ, сурукгаторъ)* 'намеснік гарадскога старасты' 1594<стп. *surogator, surrogator* (XVI ст., SPK<слац. *surrogator,* SWO 714) і непасрэдна слац.; *турбаторъ (торбаторъ)* 'парушальнік спакою' 1599<стп. *turbator* (XVI ст., SPK<лац. *turbātor,* Mosz. 210); *тыранъ (тиранъ, тираннъ)* 'тыран' 1562<стп. *tyran* (XVI ст., SPK<лац. *tyrannus,* ад гр. τύραννος, Ryb. 93).

Даволі істотным у гэтай групе грамадска-палітычнай лексікі старабеларускай мовы аказаўся нямецкі лексічны струмень, прычым словы нямецкага паходжання таксама пападалі на беларускую глебу пераважна са старапольскай мовы і толькі часткова непасрэдна з тагачасных нямецкіх дыялектаў: *буркграбя* 'намеснік старасты ў сярэдневяковым горадзе' 1434<стп. *burgrabia* (1423, SSt I 178<свн. *burcgrāve,* MoszG 54); *бурмистръ (бургомистръ, буркгимистръ, буркгмистръ)* 'выбарны галава гарадскога самакіравання' 1399<стп. *burmistrz, burgmistrz* (1399, SSt I 178<свн. *bürgemeister,* MoszG 54) і непасрэдна свн.; *войтъ* 'кіраўнік воласці; галава суда ў гарадах з магдэбургскім правам' 1432<стп. *wojt* (XV ст., SStK<снн. *voit,* свн. *voget,* Lin. 63); *гбуръ (кгмуръ)* 'селянін' п. XVII ст.<стп. *gbur, gmur* (1532, SP VII 227, 245<свн. *gebūr,* SłSE I 268); *канцлеръ (канслеръ, канцлиръ)* 'кіраўнік дзяржаўнай канцылярыі, які выконваў таксама функцыі міністра ўнутраных і замежных спраў' 1450<стп. *kanclerz* (1414, SSt III 234<ням. *Kanzler,* ад слац. *cancellarius,* SłSE II 44); *кграбя (грабя, храбя)*

'вышэйшы чыноўнік правінцыі' к. XV ст.<стп. *grabia, hrabia* (1413, SSt II 545<свн. *grāve,* магчыма, праз стч. *hrabě,* SłSE I 430); *кграфъ (кгрофъ)* 'граф, уладарны феадал' 1533<стп. *graf, grof* (1455, SSt II 483<ням. *Graf,* SłSE I 336); *комендантъ (камендантъ)* 'камендант, паліцэйскі начальнік' 1684<стп. *komendant* (XVII ст., P I 320<ням. *Kommendant,* ад лац. *commendāns, -ntis,* SłSE II 380); *лентвойтъ (лантвойтъ, лянтвойтъ)* 'намеснік кіраўніка воласці; намеснік старшыні суда ў гарадах з магдэбургскім правам' 1498<стп. *lantwojt* (1266, SSt IV 2<свн. *lantvoit, lantvoget,* SłSE IV 46); *люзный (лезный, лиозный)* 'селянін, які не меў пастаяннага месцапражывання' 1565<стп. *luźny* (XVI ст., SPK<свн. *lōs,* SłSE IV 394); *маркграбя (марграбя)* 'пагранічны ўладарны князь' 1496<стп. *margrabia* (1420, SSt IV 161<свн. *marcgrāve,* MoszG 65); *маршалокъ (маршалекъ, маршалко, моршалокъ)* 'прыдворны высокага рангу; павятовы кіраўнік дваранства' 1438<стп. *marszałek* (1420, SSt IV 163<свн. *marschalc,* MoszG 65); *охмистръ (гохмистръ)* 'дварэцкі' 1441<стп. *ochmistrz, hochmistr* (1435, SSt V 403<свн. *hovemeister,* MoszG 67); *рыцеръ (ридель, ритеръ, рицеръ, рыдель, рытеръ, рыцаръ, рыцыръ, рыцэръ)* 'рыцар, конны воін шляхецкага паходжання' 1388<стп. *rycerz, rycyrz* (XIV ст., SSt VIII 56, SPK<стч. *rytíř*<свн. *ritter,* SWO 658) і непасрэдна свн. *ritter,* снн. *ridder* (Фасм. III 527, 531); *цекляръ (сцекляръ, цекнаръ, цоклеаръ)* 'гарадскі стражнік, які выконваў таксама функцыі ка́та' 1578<стп. *ceklarz* (1491, SSt I 217<свн. *zirkelaere, zirkler,* MoszG 55); *шляхта* 'шляхта, дробнапамеснае дваранства' 1420<стп. *szlachta* (XIV ст., SStK<ствн. *slahta,* Kühne 104); *шолтысъ (шелтисъ, шильтисъ, шолтисъ)* 'вясковы староста' 1434<стп. *szołtys* (XV ст., SStK<свн. *schultheise,* Lin. 63); *шпегеръ* 'шпіён' 1651<стп. *spiegierz, szpiegierz* (XV ст., SStK, SPK<ням. *Späher,* BrSE 553); *шпекгъ (шпегъ, шпигъ, шпикгъ, шпягъ, шпякгъ)* 'шпіён' 1534<стп. *szpieg, śpieg* (XVI ст., SPK<стч. *špeh*<ням. *Späher,* SWO 733).

Польская мова з'явілася пасрэдніцай і пры папаўненні разглядаемай групы грамадска-палітычнай лексікі старабеларускай мовы некаторымі словамі з іншых еўрапейскіх моў, напрыклад з чэшскай: *водца* 'кіраўнік, правадыр' к XV ст.<стп. *wodzca* (XV ст., SStK<стч. *vódcě,* Urb. 163); *мещанинъ (межщанинъ, месчанинъ)*

'гараджанін' 1388<стп. *mieszczanin* (XIV ст., SSt IV 237<стч. *myescze͡nyn,* Мельн. 104); *обыватель (ӧбаватель, обиватель, обователь)* 'пастаянны жыхар, грамадзянін' 1443<стп. *obywaciel, obywatel* (XVI ст., SPK<стч. *obyvatel,* Siat. 162) і непасрэдна стч.; з французскай: *курыеръ* 'ганец, кур'ер' 1711<пол. *kuryer* (XVII ст., L II 556<фр. *courrier,* SłSE III 403).

Да гэтай жа групы грамадска-палітычнай лексікі старабеларускай мовы можна далучыць таксама рад слоў іншамоўнага паходжання, якія не маюць непасрэдных адносін да характарыстыкі грамадскага ладу і адміністрацыйна-кіраўнічай структуры Вялікага княства Літоўскага, а з'яўляюцца тэрмінамі, звязанымі з грамадска-палітычным жыццём у іншых краінах. Сярод іх пераважаюць лексічныя сродкі лацінскага і цюркскага паходжання. Першыя, натуральна, даюць уяўленне аб грамадскіх адносінах у старажытным Рыме: *диктаторъ* 'адзінаўладца ў старажытным Рыме' п. XVII ст.<стп. *dyktator* (1564, SP VI 281<лац. *dictātor,* Mosz. 169); *императоръ* 'імператар' п. XVII ст.<стп. *imperator* (1528, SP VIII 520<лац. *imperātor,* Mosz. 177); *комесъ (комессъ)* 'начальнік старажытнарымскай адміністрацыйнай акругі' п. XVII ст.<стп. *komes* (1563, SP X 497<лац. *comes,* Mosz. 183); *консилия* 'саветнік' п. XVII ст.<стп. *konsylijarz* (1563, SP X 581<лац. *cōnsiliārius,* SłSE II 409); *консулъ* 'вышэйшы чыноўнік часоў Рымскай рэспублікі' 1598<стп. *konsul* (1577, SP X 579<лац. *cōnsul,* SłSE II 431); *кансуляръ* 'вышэйшы чыноўнік часоў Рымскай імперыі' с. XVII ст.<лац. *cōnsulāris* (ЛРС 248); *магистеръ* 'военачальнік' п. XVII ст.<стп. *magister* (XV ст., SSt IV 144<лац. *magister,* BrSE 318); *патрицый* 'патрыцый' п. XVII ст.<стп. *patrycyjusz* (XVI ст., SPK<лац. *patricius,* Mosz. 197); *плебей (плебеусъ, плебеушъ)* 'плебей' п. XVII ст.<стп. *plebejusz, plebejus* (XVI ст., SPK<лац. *plēbēius,* Ryb. 73); *преторъ* 'службовая асоба ў старажытным Рыме, якая замяшчала консула' п. XVII ст.<стп. *pretor* (XVI ст., SPK<лац. *praetor,* Mosz. 200); *принцепсъ* 'член сената ў старажытным Рыме' 1598<стп. *prynceps* (XVI ст., SPK<лац. *prīnceps,* Mosz. 201); *проконсулъ* 'намеснік у старажытнарымскай правінцыі' с. XVII ст.<стп. *prokonsul* (XVI ст., SPK<лац. *prōcōnsul,* Mosz. 200); *тетрарха* 'тэтрарх' к. XV ст.<стп. *tetrarcha* (XV ст., SStK<лац. *tetrarcha,* ад гр. τετράρχης,

Mosz. 209); *трибунатъ (трыбунатъ)* 'адміністрацыйная асоба ў старажытным Рыме' п. XVII ст.<стп. *trybunat* (XVI ст., SPK<лац. *tribūnātus*, Mosz. 210); *трибунъ* 'трыбун' п. XVII ст.<стп. *trybun* (XVI ст., SPK<лац. *tribūnus*, Mosz. 210). Сфера ўжывання гэтых слоў у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове была абмежаванай. Яны сустракаліся пераважна ў перакладных пісьмовых помніках свецкіх жанраў, дзе ўжываліся ў цытатах, прысвечаных апісанню гістарычных падзей і быту насельніцтва ў старажытнарымскай дзяржаве. Аб тым, што не ўсе яны былі зразумелымі тагачаснаму беларускаму насельніцтву, можа сведчыць тая акалічнасць, што перакладчыкі пры некаторых з іх даюць тлумачэнні, як у выпадках: *консилиевъ то есть рядцовъ выбирали* («Рымскі летапісец»); *былъ магистеръ еквитумъ, то есть гетманъ* («Хроніка» М. Бельскага); *проконсулъ, то есть перший панъ по цесару* (Зборнік № 82) і інш.

Цюркская па паходжанню лексіка характарызуе кіраўнічы апарат ўсходніх народаў: *баша (паша)* 'турэцкі саноўнік' 1516<стукр. *баша, паша* (<асм.-тур. *baša, paša*, Рог. 176) і непасрэдна асм.-тур.; *бекгъ* 'бей' 1560< асм.-тур. *beγ, bey* (StF 156), пры ўздзеянні стп. *beg* 1547, SP II 41); *гамъятъ (гомъятъ, омиатъ, омиятъ, омъятъ)* 'татарскі саноўнік' 1554<кр.-тат., асм.-тур. *ghamtāz* (<ар. *ghammāz*, Fras. 755, St. I 74); *карачъ (карачий, корачий)* 'татарскі саноўнік' 1484<струс. *карачъ* (1519, Срез. I 1197<кр.-тат. *qaračy*, Баск. 264) і непасрэдна кр.-тат.; *мурза (мурса, мырза)* 'мурза' 1496< струс. *мурза* (1519, Срез. II 195<тат. *myrza*<перс. *mīrzā*, Куб. 199) і непасрэдна тат.; *оталыкъ* 'татарскі саноўнік' 1571<кр.-тат. *atalyk* (Супр. 129); *сандчакъ (андчакъ, санчакъ)* 'турэцкі ваявода' 1537<струс. *санчакъ* (XVI ст., Срез. III 259<асм.-тур. *sančak*, Фасм. III 558) і непасрэдна асм.-тур.; *сейтъ* 'татарскі саноўнік' 1496<струс. *сеитъ* (праз цюрк. з ар. *saiyid*, Фасм. III 591) і непасрэдна кр.-тат. *seyit*; *султанъ (салтанъ, золданъ, сзолданъ, солтанъ, солданъ)* 'султан' 1481<струс. *султанъ, салтанъ* (XV ст., Срез. III 617<асм.-тур. *sultan*, ад ар. *sultān*, Фасм. III 801) і непасрэдна асм-тур.; *уланъ (вланъ)* 'татарскі саноўнік' 1441<кр.-тат., кар. *oγlan* (Радл. I 1681, Zaj. 42); *чаушъ* 'турэцкі пасол' 1603<стп. *czausz* (1500, SP IV 106<асм.-тур. *čauš*, SWO 130); *шахъ* 'шах' п. XVII ст.<цюрк. *šah* (ад перс. *šāh*,

Фасм. IV 414). У лінгвістычнай літаратуры запазычанні такога тыпу прынята называць экзатызмамі [24].

Да экзатызмаў адносяцца таксама некалькі слоў, запазычаных непасрэдна або праз пасрэдніцтва польскай мовы ад немцаў: *комендаторъ* 'саноўнік рыцарскага ордэна' п. XVII ст.<стп. *komendator* (1443, SSt III 321< ням. *Kommendator*, ад лац. *commendātor*, SJP III 855); *кумендеръ* 'чын у рыцарскім ордэне' 1481<свн. *kommendur* (<стфр. *commendeur*, Фасм. II 416); *кунторъ (конторъ, кундоръ, кунтаръ, кунтуръ, кунтыръ)* 'чын у рыцарскім ордэне' 1405<стп. *kuntor, kontor* (1548, SP X 584<свн. *kumtūr*, SłSE II 400) і непасрэдна свн.; *курферстъ (курфиршть)* 'курфюрст' п. XVII ст.<стп. *kurfierst, kurfirszt* (XVI ст., SPK<ням. *Kurfürst*, SłSE III 402); *ланмаршалокъ* 'чын у рыцарскім ордэне' к. XV ст.< свн. *lant-marschalc*; *ляндкграфъ (ландграфъ, лянткграфъ)* 'удзельны нямецкі князь' 1598<стп. *landgraf* (XVI ст., SPK<ням. *Landgraf*, SWO 418); запазычаныя непасрэдна і праз пасрэдніцтва заходніх моў грэчаскія словы: *деспотъ (дешпотъ)* 'уладар у балканскіх краінах і Малдавіі' к. XV ст.<стп. *despot, deszpot* (1563, SP IV 596<слац. *despotus*<гр. δεσπότης, Mosz. 167) і непасрэдна гр.; *локгофетъ (логофетъ)* 'канцлер валашскай зямлі' 1597<слац. *logofeth, logofetus* (<гр. λογοθέτης, SŁSPK) і непасрэдна гр.; *сатрапъ* 'правіцель у старажытнай Персіі' 1653<гр. σατράπης (ад стперс. *sitrab*, H-W 104); сербскае слова *банъ* 'уладар вобласці ў старажытнай Харватыі' 1580<сх. *бан* (<ав. *bajan*, Skok I 104); нарэшце, літуанізмы *койминецъ* 'селянін, які жыве асобна ад вотчынніка' 1514<літ. *kaimýnas* (Jabl. 92); *лейтъ (лейть)* 'чорнарабочы дваровы чалавек' 1465<літ. *laitis* (Jabl. 114).

Параўнальна вялікай у колькасных адносінах з'яўляецца група запазычанняў, якая характарызуе арганізацыю дзяржаўнага кіравання ў Вялікім княстве Літоўскім, выканаўчую дзейнасць чыноўніцкага апарату, знакі і атрыбуты ўлады, адміністрацыйныя адзінкі, паняцці знешнепалітычнай дзейнасці і дыпламатыі. Сярод іх найбольш часта выступаюць лексемы лацінскага паходжання, запазычаныя пераважна праз пасрэдніцтва

---

[24] Крысин Л. П. Иноязычные слова в современном русском языке. М., 1968, с. 46—52.

старапольскай мовы і толькі часткова з сярэдневяковай латыні: *абдыкацыя (абдикацыя, абдыкация, обдикация)* 'адрачэнне ад прастолу' 1593<стп. *abdykacyja* (XVII ст., P I 4<лац. *abdicātio,* Ryb. 17); *авдыенцыя (авденцыя)* 'афіцыйны прыём у высокапастаўленай асобы' 1682<стп. *audyjencyja* (1547, SP I 229<лац. *audientia,* Mosz. 163); *администрацыя (администрация)* 'адміністрацыя, кіраўніцтва; распараджэнне' 1625<стп. *administracyja* (1588, SP I 86<лац. *administrātio,* Mosz. 158); *администровати* 'кіраваць, загадваць' 1722<пол. *administrować* (XVIII ст., L I 5<лац. *administrāre,* SWO 6); *акцептовати* 'зацвярджаць, прымаць' 1671<стп. *akceptować* (XVII ст., P I 8<лац. *acceptāre,* SWO 14); *апробата* 'пацвярджэнне' 1679<стп. *aprobata* (XVII ст., Ryb. 22<лац. *approbāta,* мн. ад *approbātus,* SWO 44); *апробация (аппробация)* 'адабрэнне, згода, дазвол' 1603<стп. *aprobacyja* (1564, SP I 198<лац. *approbātio,* Mosz. 161) і непасрэдна лац.; *апробовати (аппробовати)* 'адабраць, зацвярджаць' 1555<стп. *aprobować, approbować* (1545, SP I 198<лац. *approbāre,* SWO 44); *ваканцыя* 'вакансія, незанятая пасада' 1603<стп. *wakancyja* (XVI ст., SPK<слац. *vacantia,* Mosz. 211); *вакoвати* 'быць вакантным' 1538<стп. *wakować* (XVI ст., SPK<лац. *vacāre,* SWO 797); *верификация (верыфикацыя)* 'праверка сапраўднасці' 1662<стп. *weryfikacyja* (XVI ст., SPK<слац. *verificatio,* Mosz. 211); *верыфиковати* 'правяраць сапраўднасць чаго-небудзь' 1680<стп. *weryfikować* (XVI ст., SPK<слац. *verificare,* SWOR 700); *ветовати (вэтовати)* 'заяўляць вета, пратэставаць; узнагароджваць' 1522<стп. *wetować* (XVI ст., SPK<лац. *vetāre,* BrSE 607); *визитацыя (визытацыя)* 'інспекцыя' 1635<стп. *wizytacyja* (XVI ст., SPK<лац. *vīsitātio,* Mosz. 212); *визытовати (визитовати)* 'інспектаваць' 1608<стп. *wizytować* (XVI ст., SPK<лац. *vīsitāre,* SWO 809); *викгоръ* 'сіла, магутнасць' 1680<стп. *wigor* (XVII ст., P II 601<лац. *vigor,* Ryb. 94); *вотовати* 'галасаваць' 1567<стп. *wotować* (XVI ст., SPK<лац. *votāre,* SWO 811); *вотумъ* 'голас, прысяга' 1566<стп. *wotum* (XVI ст., SPK<лац. *vōtum,* Mosz. 212); *декградовати (декгредовати)* 'паніжаць у пасадзе' 1602<стп. *degradować* (1564, SP IV 571<лац. *dēgradāre,* SWO 137); *декляpация (декларацыя, декляpацыя)* 'дэкларацыя, заява; аб'ява' 1600<стп. *deklaracyja* (1570, SP IV 573<лац. *dēclārātio,* Mosz.

167); *декляровати (деклароваmu)* 'аб'яўляць, абяцаць' 1598<стп. *deklarować* (1566, SP IV 573<лац. *dēclārāre,* SWO 139); *депутация (депутацыя)* 'дэпутацыя, становішча дэпутата' 1631<стп. *deputacyja* (1588, SP IV 591< лац. *dēputātio,* Mosz. 167); *депутовати* 'накіроўваць' 1577<стп. *deputować* (1517, SP IV 592<лац. *dēputāre,* SWO 146); *дерокговати (дерекговати)* 'адхіляць часткова або цалкам пастанову' 1579<стп. *derogować* (1585, SP IV 593<лац. *dērogāre,* SJP II 89); *децизия (децизыя, децызыя, дыцезыя)* 'рашэнне, пастанова' 1606<стп. *decyzyja* (1564, SP IV 568<лац. *dēcīsio,* Mosz. 166); *диадема (диадематъ, диадима, диядима)* 'дыядэма' п. XVII ст.<стп. *dyjadema* (1550, SP VI 273<лац. *diadēma,* ад гр. διάδημα, Mosz. 168) і непасрэдна гр.; *дирекция* 'кіраванне, кіраўніцтва' 1627<стп. *dyrekcyja* (1594, SP VI 292<лац. *dīrēctio,* Mosz. 169); *диспартименъ* 'размеркаванне, разнарадка' 1711<пол. *dyspartyment* (ад лац. *dispartīre,* SW I 624); *диспозиция (диспозития, диспозицыя, диспозыцыя, дизпозыцыя, дыспозицыя, дыспозыцыя)* 'распараджэнне, план' 1599<стп. *dyspozycyja* (1564, SP VI 296<лац. *dispositio,* Mosz. 169); *екзаминовати* 'апытваць' 1687<стп. *egzaminować* (1564, SP VI 523<лац. *exāmināre,* SWO 173); *екстраординарыйный (экстраординарный)* 'экстраардынарны, надзвычайны' 1689<стп. *ekstraordynaryjny* (1643, L I 635<лац. *extrāōrdinārius,* SWO 181); *елекция (алекцыя, елекцея, елекцыя, олекцыя, элекцыя)* 'выбар на якую-небудзь пасаду' 1565<стп. *elekcyja* (XV ст., SSt II 346<лац. *ēlēctio,* Mosz. 171); *елиберовати* 'вызваляць' 1676<стп. *eliberować* (1588, SP VI 549<лац. *eliberāre,* P I 199); *енеральный (енералный, генералный)* 'усеагульны, галоўны' 1522<стп. *jeneralny, generalny* (1594, SP IX 433<лац. *generālis,* SWO 246) і непасрэдна слац.; *инвалидовати* 'адмяняць' 1637<стп. *inwalidować* (SW II 107<слац. *invalidare* SŁŚPK); *индултъ* 'дазвол улады' 1699<стп. *indult* (1564, SP VIII 533<лац. *indultum,* Mosz. 178); *инстанция (инстанцыя)* 'кожная са ступеней у сістэме падначаленых адзін другому органаў' 1598<стп. *instancyja* (1556, SP VIII 551<лац. *īnstantia,* Mosz. 178); *инструкция (инструкцыя)* 'інструкцыя, настаўленне' 1522< стп. *instrukcyja* (1511, SP VIII 551<лац. *īnstrūctio,* Mosz. 178); *интерекгнумъ (интерегнумъ, интеррекгно, интеррегнумъ, интеррекгнумъ)* 'міжцарства' 1586<стп. *inter-*

*regnum* (1573, SP VIII 575<лац. *interrēgnum*, Mosz. 179); *интродукция (интродукцыя)* 'уступленне на новую пасаду' 1634<стп. *introdukcyja* (1624, LWPK 355<лац. *intrōductio*, Ryb. 46); *касаторыя* 'забарона' 1699<слац. *cassatoria*, мн. ад *cassatorius* (SŁŚP II 220); *касовати (кассовати)* 'адмяняць, ліквідаваць' 1554<стп. *kasować, kassować* (1532, SP X 159<лац. *cassāre*, SłSE II 94); *каштелянея (кашталяния)* 'абшар улады кашталяна' 1565<стп. *kasztelanija* (1449, SSt III 248<лац. *castellania*, Mosz. 182); *колония* 'пасяленне' к. XV ст.<стп. *kolonija* (1587, SP X 475<лац. *colōnia*, Mosz. 183) і непасрэдна лац.; *комисия (комисея, комиссыя, коммисия, коммиссия, комысия, комыссыя, комысыя, конмисия)* 'камісія' 1522<стп. *komisyja, kommissyja* (1543, SP X 502<лац. *commissio*, SłSE II 386) і непасрэдна слац.; *компробовать* 'адабраць, пацвярджаць' 1676<стп. *komprobować* (XVII ст., P I 322<лац. *comprobāre*, SW II 428); *конвокация (конвокацыя)* 'сейм, скліканы напярэдадні выбараў' 1577<стп. *konwokacyja* (1585, SP X 592<лац. *convocātio*, SłSE II 445); *консенсъ* 'згода, дазвол' 1548<стп. *konsens* (1561, SP X 574<лац. *cōnsēnsus*, SłSE II 427); *конституция (констытуция, констытуцыя)* 'улажэнне, устанаўленне' 1565<стп. *konstytucyja* (1543, SP X 576<лац. *cōnstitūtio*, SłSE II 431); *конфедерация (конфедерацыя)* 'саюз, садружнасць' 1577<стп. *konfederacyja* (1556, SP X 528<лац. *cōnfoederātio*, SłSE II 412); *конфирмовати* 'пацвярджаць' 1599<стп. *konfirmować* (1588, SP X 534<лац. *cōnfirmāre*, SJP III 912); *концесъ* 'дазвол улады на правядзенне чаго-небудзь '1595<пол. *konces* (<лац. *concessus*, SłSE II 408) і непасрэдна лац.; *корона (каруна, коруна)* 'карона; каралеўская ўлада, каралеўства' 1389<стп. *korona, koruna* (XIV ст., SSt III 346<лац. *corōna*, SłSE II 492); *коронация (коронацея, коронацыя, коронацэя, корунация, корунацыя)* 'каранацыя' 1507<стп. *koronacyja* (XVI ст., SP X 646<лац. *corōnātio*, SłSE II 495); *короновати (коруновати)* 'каранаваць' к. XV ст.<стп. *koronować, korunować* (XIV ст., SSt III 348<лац. *corōnāre*, SłSE II 494); *ликга* 'саюз' 1598<стп. *liga* (XVI ст., SPK<слац. *liga*, SłSE IV 249); *люстрация* 'праверка, інспекцыя' 1715<стп. *lustracyja* (XVI ст., SPK<лац. *lūstrātio*, SłSE IV 386); *ляудумъ (лавдумъ, лаудумъ, лявдумъ)* 'рашэнне сейміка' 1655<пол. *laudum* (XVIII ст., L II 603<слац.

*laudum,* SWO 421) і непасрэдна слац.; *магистратъ (маистратъ, маистратусъ)* 'гарадская ўлада, магістрат' п. XVII ст.<стп. *magistrat, majistrat, magistratus* (XVI ст., SPK<лац. *magistrātus,* Mosz. 189); *маестатъ (маистатъ, майстатъ, моистатъ, мойстатъ)* 'вялікасць, трон; каралеўская пячатка; урадавы дакумент' 1442<стп. *majestat* (1464, SSt IV 145<лац. *māiestās, -ātis,* Mosz. 189); *манифестацыя* 'публічнае выступленне' 1666<стп. *manifestacyja* (XVII ст., P I 397<лац. *manifēstātio,* Ryb. 63); *медиумъ* 'публічнасць' 1697<стп. *medyjum* (XVI ст., SPK<лац. *medium,* SWO 462); *миссия* 'дэлегацыя, пасланая ў іншую краіну са спецыяльнай мэтай' п. XVII ст.<стп. *misyja, missyja* (XVI ст., SPK<лац. *missio,* Mosz. 192) і непасрэдна слац. *missio* (SŁSPK); *монархия* 'манархія' 1580<стп. *monarchija* (XVI ст., SPK<лац. *monarchia,* ад гр. μοναρχία, Ryb. 66); *нацыя (нацея, нация)* 'народ, народнасць' 1589<стп. *nacyja* (XVI ст., SPK<лац. *nātio,* Mosz. 193); *ординация (ординацыя)* 'распараджэнне' 1584<стп. *ordynacyja* (XVI ст., SPK<лац. *ōrdinātio,* Mosz. 195); *ординовати (ордыновати)* 'размяшчаць, парадкаваць' 1667<стп. *ordynować* (XVI ст., SPK<лац. *ōrdināre,* SWO 532); *пактъ* 'дагавор' 1597<стп. *pakt* (XVI ст., SPK<лац. *pactum,* Mosz. 195); *патентъ* 'урадавы дазвол на выкананне чаго-небудзь' 1722<стп. *patent* (XVII ст., P II 99<слац. *(littera) patēns* 'адкрыты ліст', Ryb. 71); *персональный* 'асабісты, персанальны' 1615<стп. *personalny* (XVI ст., SPK<лац. *persōnālis,* SWO 565); *политика (политыка)* 'палітыка' к. XVI ст.<стп. *polityka* (XVI ст., SPK<лац. *politica,* ад πολιτική, Mosz. 198); *полициа* 'дзяржаўны лад, улада' 1653<стп. *policyja* (XVI ст., SPK<слац. *policia,* ад лац. *polītīa*<гр. πολιτεία, Ryb. 73); *потенция* 'дзяржава, магутнасць' 1653<стп. *potencyja* (XVI ст., SPK<лац. *potentia,* Mosz. 199); *прееминенция* 'ступень у вышэйшай кіраўнічай іерархіі' 1691<стп. *preeminencyja* (XVII ст., P II 226<лац. *praeēminentia,* Ryb. 74); *презентация* 'прадстаўленне' 1605<стп. *prezentacyja* (XVI ст., SPK<лац. *praesentātio,* Mosz. 200); *презентовати (презэнтовати)* 'прадстаўляць, рэкамендаваць' 1603<стп. *prezentować* (XVII ст., P II 227<лац. *praesentāre,* SWO 600); *президовати* 'старшынстваваць' 1598<стп. *prezydować* (XVI ст., SPK<лац. *praesidēre,* SWO 600); *прерокгатива (прерогатива, прерокгатыва, пророгатива, пророкгатива)*

'выключнае права' 1595<стп. *prerogatywa* (XVI ст., SPK <лац. *praerogātīva,* MoszMŁ 200); *претендовати (протендовати)* 'прэтэндаваць' 1665<стп. *pretendować* (XVI ст., SPK<лац. *praetendere,* SWO 599); *претенсыя (претензыя)* 'прэтэнзія' 1637<стп. *pretensyja* (XVI ст., SPK<слац. *praetensio,* Mosz. 200); *приватный (прыватный)* 'прыватны' 1595<стп. *prywatny* (XVI ст., SPK< лац. *prīvātus,* SWO 611); *провинция (провинцыя)* 'правінцыя' п. XVII ст.<стп. *prowincyja* (XVI ст., SPK<лац. *prōvincia,* Mosz. 201); *публика* 'публічнасць' 1687<стп. *publika* (XVI ст., SPK<лац. *pūblicus,* Mosz. 201); *публикация (публикацыя)* 'аб'яўленне, паведамленне' 1609< стп. *publikacyja* (XVI ст., SPK<лац. *pūblicātio,* Mosz. 201); *публиковати* 'публікаваць' 1605<стп. *publikować* (XVI ст., SPK<лац. *pūblicāre,* SWO 615); *публице* 'афіцыйна' к. XVI ст.<лац. *pūblicē* (ЛРС 831); *публичный* 'грамадскі, афіцыйны' п. XVII ст.<стп. *publiczny* (XVI ст., SPK<лац. *pūblicus,* SWO 552); *ревидовати* 'рэвізаваць' 1565<стп. *rewidować* (XVI ст., SPK<лац. *revidēre,* SWO 648); *ревизия (ревизея, ревизыя)* 'рэвізія, кантроль' 1554<стп. *rewizyja* (XVI ст., SPK<лац. *revīsio,* Ryb. 84); *резидовати (резидевати, ресидовати)* 'прабываць' 1634<стп. *rezydować* (XVI ст., SPK<лац. *resīdere,* SWO 650); *резыденцыя* 'месца пастаяннага прабывання прадстаўніка ўлады' 1710<стп. *rezydencyja* (XVII ст., P II 316<слац. *residentia,* SWO 650); *реферацыя* 'даклад, справаздача' 1578<слац. *referatio* (SŁSPK); *рефероватu* 'дакладваць аб справе, рабіць справаздачу' 1595<стп. *referować* (XVI ст., SPK<лац. *referre,* SWO 632); *рецесъ (рецэсъ)* 'адтэрміноўка пастановы сейма да наступнага пасяджэння' 1565<стп. *reces* (XVI ст., SPK<лац. *recessus,* Mosz. 202); *робороватu* 'падмацоўваць, зацвярджаць' 1607<стп. *roborować* (XVI ст., SPK<лац. *rōborāre,* SWO 652); *робуръ* 'дзяржава; магутнасць' 1653<лац. *rōbur* (ЛРС 884); *сенатъ (санатъ, сэнатъ)* 'сенат' 1580<стп. *senat* (1498, SSt VIII 149<лац. *senātus,* BrSE 484); *сесия (сессыя, сесыя)* 'пасяджэнне, нарада' 1598<стп. *sesyja, sessyja* (XVI ст., SPK<лац. *sessio,* Mosz. 205); *субордыновати (субординовати)* 'падначальваць' 1635<пол. *subordynować* (<лац. *subordinare,* SJP VIII 888); *супликация* 'прашэнне' п. XVII ст.<стп. *suplikacyja* (XVI ст., SPK<лац. *supplicātio,* Ryb. 89); *супликовати (суплековати)* 'звяртацца з

просьбай' 1635<стп. *suplikować* (XVII ст., P II 429<лац. *supplicāre,* SWO 713); *суспендовати* 'прыпыняць дзеянне' 1617<пол. *suspendować* (<лац. *suspendere,* SJP VIII 928); *суспенсыя (суспенза, суспенса, суспенсъ)* 'вызваленне ад абавязкаў' 1600<стп. *suspensyja* (XVI ст., SPK<лац. *suspēnsio,* Mosz. 207); *сцептръ (сцептро, зцептрумъ, сцептрумъ)* 'скіпетр' 1596<стп. *sceptr, sceptrum* (XV ст., SSt VIII 141<лац. *scēptrum,* ад гр. σκῦπτρον, Mosz. 204); *сыкгнетъ (сегнетъ, сегнитъ, секгнетъ, сигнетъ, сикгнетъ, сикгнитъ, сикнетъ, сыгнетъ, сыгнитъ)* 'пярсцёнак-пячатка' 1498<стп. *sygnet* (XV ст., SStK<слац. *signetum,* BrSE 528); *тирания* 'тыранія' 1596<стп. *tyranija* (XVI ст., SPK<лац. *tyrania,* ад гр. τυραννία, SWO 786); *тронъ (фронъ)* 'трон' 1596<стп. *tron* (XV ст., SStK<лац. *thronus,* ад гр. θρόνος, Mosz. 210) і непасрэдна гр.; *феровати* 'зацвярджаць, пастанаўляць' п. XVII ст.<стп. *ferować* (1556, SP VII 48<лац. *ferre,* SWO 215).

Некалькі вузей у гэтай групе грамадска-палітычнай лексікі старабеларускай мовы прадстаўлены словы ўласнапольскага паходжання: *вальный (валный)* 'генеральны, усеагульны' 1503<стп. *walny* (SStK); *владза* 'улада' 1443<стп. *władza* (SPK); *вырокъ* 'рашэнне, пастанова; прыгавор' 1492<стп. *wyrok* (SPK); *дозволяти* 'дазваляць' 1456<стп. *dozwalać* (SSt II 172); *едновладство* 'адзінаўладдзе' 1598<стп. *jednowładztwo* (SP IX 414); *зезволяти (зезваляти)* 'дазваляць' 1563<стп. *zezwalać* (SPK); *место (място)* 'горад' 1432<стп. *miasto, miesto* (SSt IV 196); *ознаймяти (ознаймовати)* 'азнаямляць, паведамляць' 1497<стп. *oznamiać, oznajmiać* (SSt V 712, SPK); *пановати* 'панаваць; кіраваць' к. XV ст.<стп. *panować* (SSt VI 30); *панство (паньство)* 'дзяржава' 1388<стп. *państwo* (SSt VI 32); *поветъ (повятъ)* 'павет' 1383<стп. *powiat, powiet* (SSt VI 514); *позволити* 'дазволіць' 1443<стп. *pozwolić* (SSt VI 551); *поседати (посядати)* 'валодаць' 1486<стп. *posiadać* (SSt VI 424); *предместье* 'прадмесце' 1503<стп. *przedmieście* (SSt VII 121); *преложенство (прэложэнство)* 'улада, кіруючая пасада' 1563<стп. *przełożeństwo* (SPK); *преписъ* 'прадпісанне, інструкцыя' 1554<стп. *przepis* (SPK); *призволяти (прызволяти)* 'дазваляць' 1457<стп. *przyzwalać* (SSt VII 386); *продковати* 'пяршынстваваць' 1595<стп. *przodkować* (SPK); *сеймъ (соймъ, съемъ, сьемъ, сэймъ)*

’сейм’ 1434<стп. *sejm* (SStK); *столецъ* ’трон, прастол; сталіца’ 1434<стп. *stolec* (SStK); устава ’закон, палажэнне’ 1388<стп. *ustawa* (SStK); *ухвала* ’рашэнне, пастанова’ 1492<стп. *ufała* (SStK).

Сярод лексікі, якая абазначала паняцці і рэаліі са сферы дзяржаўна-адміністрацыйнага кіравання ў Вялікім княстве Літоўскім, сустракаецца некаторая колькасць слоў нямецкага паходжання: *вилкеръ (велкеръ)* ’гарадскі статут, плебісцыт’ 1597<стп. *wielkierz, wilkierz* (XIV ст., SStK<свн. *willekür,* MoszG 78); *габданкъ* ’старажытны польскі герб’ к. XVI ст.<стп. *habdank* (1564, SP VIII 276<ням. *Habe Dank,* L I 1); *гербъ (гэрбъ)* ’герб’ 1540<стп. *herb* (1415, SSt II 542<стч. *herb, erb*< свн. *erbe,* SłSE I 415); *голдовати (кголдовати)* ’прысягаць, быць пакорным, падначальвацца’ 1388<стп. *hołdować* (1448, SSt II 544<свн. *hulden,* SłSE I 426); *голдъ* ’прысяга, залежнасць’ 1580<стп. *hołd* (XV ст., SSt II 544<свн. *holde,* SłSE I 425); *ратушъ (ратуша)* ’ратуша’ 1445<стп. *ratusz* (1462, SSt VII 441<свн. *rāthūs,* SWOR 562) і непасрэдна свн.; *рунда* ’дазор, каравул’ п. XVII ст.<пол. *runda* (<ням. *Runde,* SWO 657); *турма (тюрма)* ’турма’ 1480<стп. *turma* (XVI ст., SPK< ням. *Turm,* SWO 783) і непасрэдна ням.; *францимеръ (францымеръ)* ’прыдворныя дамы’ п. XVII ст.<стп. *fraucymer* (1558, SP VII 132<ням. *Frauenzimmer,* SWO 234); рад слоў раманскага паходжання: *авизовати* ’паведамляць, даносіць’ 1696<стп. *awizować* (XVII ст., P I 24<фр. *aviser,* SWO 62); *авизыя* ’данос, вестка публічнага характару’ 1700<стп. *awiza* (1595, SP I 233<іт. *avviso,* фр. *avis,* SWO 62); *визытъ (визитъ)* ’наведванне, дакумент аб выніках праверкі’ 1521<стп. *wizyta* (XVII ст., P II 604<фр. *visite,* SWOR 704); *конвой (конвуй)* ’канвой, эскорт’ 1679<стп. *konwój* (XVII ст., P I 334<фр. *convoi,* SłSE II 445); *ордынансъ (ординансъ, ординарсъ)* ’загад’ 1666<стп. *ordynans* (XVII ст., P II 69<фр. *ordonnance,* SWO 532); *пашпортъ* ’пашпарт’ 1638<стп. *paszport* (1621, Сп 673<фр. *passeport,* SWO 556); *презентъ (презента)* ’прадстаўленне да зацверджання; падарунак’ 1634<стп. *prezent, prezenta* (XVII ст., P II 227<фр. *présent,* SWO 600); лексемы чэшскага паходжання: *берло* ’скіпетр’ с. XVII ст.<стп. *berło* (XV ст., SSt I 74<стч. *berla,* ад лац. *ferula,* SłSE I 30); лексічныя сродкі венгерскага паходжання: *оршакъ*

'світа, картэж; натоўп, зборышча' 1598<стп. *orszak* (1500, SSt V 628<венг. *ország*, SJP V 1097).

У ліку экзатызмаў у гэтай групе запазычанняў выступаюць некаторыя словы цюркскага паходжання: *нишанъ (нышанъ)* 'ханская пячатка' 1441<струс. *нишанъ* (XV ст., Арак. 130<асм.-тур. *nišan*, ад перс. *nišan*, Фасм. III 77) і непасрэдна асм.-тур.; *сераль* 'рэзідэнцыя султана' 1600<асм.-тур. *seraj* (ад перс. *särāj*, Радл. IV 315); *сеунчъ (севенчъ, семенчъ, сюунчъ)* 'радасная вестка, данясенне' 1545<кр.-тат. *sävinč*, чаг. *sävünč* (Радл. IV 505); *улусъ (влусъ)* 'татарскае сяло' 1481<струс. *улусъ* (1315, Срез. III 1198<тур., кыпч. *ulus*, Фасм. IV 160) і непасрэдна кр.-тат.; *шерть* 'татарская клятва' 1685<кр.-тат. *šart* (ад ар. *šart*, Радл. IV 955); *юртъ* 'тэрыторыя татарскага княства' 1685<кр.-тат. *jurt* (Радл. III 543).

Экзатызмамі з'яўляюцца запазычанні *реша* 'нямецкая імперыя; натоўп' 1598<стп. *rzesza* (XV ст., SSt VIII 101<стч. *říše*<ствн. *rīhhi*, ням. *Reich*, BrSE 476); *стема* 'вянок; карона' к. XV ст.<гр. στέμμα (ДГРС II 1502); *тетрархия* 'частка Рымскай імперыі пад уладай тэтрарха' 1616<стп. *tetrarchija* (XVI ст., SPK<лац. *tetrarchia*, ад гр. τετραρχία, SJP XI 498) і непасрэдна лац.; *трибусъ* 'выбарчая акруга ў старажытным Рыме' п. XVII ст.< стп. *trybus* (XVI ст., SPK<лац. *tribus*, Mosz. 210) і непасрэдна лац.

Нарэшце, асобную групу ўтвараюць словы, якія характарызуюць з'явы і падзеі грамадскага жыцця, грамадскія арганізацыі і групы, а таксама тэрміны ветлівага звароту. У гэтай групе найбольш істотную частку запазычанняў прадстаўляюць лексемы ўласнапольскага паходжання: *бунтовати* 'бунтаваць, падбухторваць да бунту' 1593<стп. *buntować* (1564, SP II 507, ад *bunt*, BrSE 49); *бурковати* 'лаяць' 1598<стп. *burkować* (SW I 238); *вархолъ (вархалъ)* 'бунт, сварка' 1592<стп. *warchoł* (SPK); *вашмость* 'васпан' 1555<стп. *waszmość* (SPK); *вельможный (велможный)* 'вяльможны, знатны' п. XV ст.<стп. *wielmożny* (SStK); *весполокъ (весполекъ, восполокъ, восполэкъ, высполокъ)* 'сумесна, разам' 1519<стп. *wespołek* (SStK); *весполъ (восполъ, вэсполъ)* 'сумесна, разам' 1537<стп. *wespoł* (SPK); *вспартье* 'падтрымка, садзеянне' 1627<стп. *wsparcie* (SPK); *всперати (вспирати, успирати)* 'падтрымліваць, дапамагаць'

1546<стп. *wspierać* (SStK); *втручатися* 'умешвацца' 1596<стп. *wtrącać się* (SPK); *вядомость (ведомость)* 'вестка, звестка' 1383<стп. *wiadomosć* (SStK); *габати (габать)* 'праследаваць, нападаць, абвінавачваць' 1388<стп. *gabać* (SSt II 372); *гнембити* 'прыцясняць, прыгнятаць' 1638<стп. *gnębić* (SP VII 448); *драпежити* 'грабіць' 1498<стп. *drapieżyć* (SSt II 179); *егомость* 'яго міласць' 1670<стп. *jegomość* (SP IX 428); *едность* 'адзінства, еднасць' 1471<стп. *jedność* (SSt III 154); *едночити* 'аб'ядноўваць' 1641<стп. *jednoczyć* (SP IX 399); *еймость (еймосць)* 'яе міласць, пані' к. XVI ст.< стп. *jejmość* (SP IX 428); *енство* 'рабства, палон' с. XVII ст.<стп. *jeństwo* (Сп 246); *зайстье (зайсте, застье, зашстье, заштье)* 'здарэнне, інцыдэнт, сутыкненне' 1513 <стп. *zajście, zaszcie, zaście* (SPK); *засадзка (засадка, засацка)* 'засада, пастка' 1598<стп. *zasadka, zasadzka* (SPK); *збориско* 'зборышча, натоўп' п. XVII ст.<стп. *zborzysko* (SJP X 932); *звада* 'сварка, разлад' 1511<стп. *zwada* (SStK); *здрада (зрада)* 'здрада' к. XV ст.<стп. *zdrada, zrada* (SStK); *здрадити (зрадити)* 'здрадзіць' 1489<стп. *zdradzić, zradzić* (SStK); *зелжити (желжити, зелжыти, зольжити, зэльжыти)* 'абразіць, зняважыць' 1566<стп. *zelżyć* (SPK); *зкграя (зграя)* 'шайка, банда, зграя' 1586<стп. *zgraja* (SPK); *злецати* 'даручаць, прадпісваць' 1557<стп. *zlecać* (SPK); *зневага (зневагъ)* 'знявага' 1511<стп. *zniewaga* (SPK, BrSE 598); *кгвалтовати* 'гвалтаваць' к. XV ст.<стп. *gwałtować* (1455, SSt II 526, ад *gwałt,* SłSE I 382); *крыемо (криемо, крыеме, крыоме)* 'тайна, таямніча' 1600<стп. *kryjemo, kryjomie, kryjomo* (SPK); *крыянкою (криемкою, криянкою, крыемкою)* 'тайна, таямніча' 1579<стп. *kryjomką* (SPK); *лапати* 'лавіць, хапаць' 1603<стп. *łapać* (SPK); *мешкати (мяшкати)* 'жыць, знаходзіцца; марудзіць' 1388<стп. *mieszkać* (SSt IV 239); *можный* 'магутны, уплывовы' 1519<стп. *możny* (SPK); *мотлохъ* 'натоўп, зброд' 1580< стп. *motłoch* (SPK); *нагабати (накгабати)* 'прыгнятаць' 1388<стп. *nagabać* (SSt V 36); *насмевиско* 'пасмешышча, папіканне' 1596<стп. *naśmiewisko* (SPK); *невчасъ* 'нягоды; няўчаснасць' 1603<стп. *niewczas* (SPK); *обелжити (обелжыти, обельжити, обельжыти)* 'абразіць' 1588<стп. *obelżyć* (SPK); *обелкга (обелга, обельга, обелькга)* 'абраза, знявага' 1648<стп. *obelga* (P II 9); *обмовиско* 'паклёп' 1627<стп. *obmowisko* (SPK); *обцо-*

*вати (опцовати)* 'вадзіць знаёмства' к. XV ст.<стп. *obcować* (SSt V 312); *очевистый (очевистный, очивистый)* 'асабісты; відавочны' 1507<стп. *oczywisty* (SSt V 412); *паствитисе* 'здзекавацца' 1588<стп. *pastwić się* (SPK); *повшехный (повшохный, повшэхный)* 'усеагульны, паўсюдны, пагалоўны' 1563<стп. *powszechny* (SPK); *погрозка (погрожка)* 'пагроза' 1556<стп. *pogrozka, pogróżka* (SPK); *покаляти (поколяти)* 'забрудзіць; зганьбіць, зняславіць' п. XVI ст.<стп. *pokalać* (SSt VI 307); *посваръ* 'разлад, сварка' 1594<стп. *poswar* (SPK); *посмевиско* 'пасмешышча' 1580<стп. *pośmiewisko* (SPK); *посполитый* 'агульны; просты, звычайны' 1388<стп. *pospolity* (SSt VI 440); *посполный (поспольный)* 'агульны' 1434<стп. *pospolny* (SSt VI 445); *посполу (посполе, посполъ, позполу)* 'разам, сумесна' 1438<стп. *pospołu* (SSt VI 443); *поспольство (посполство, поспульство)* 'простанароддзе; таварыства' 1432<стп. *pospolstwo* (SSt VI 447); *потваръ (потварь)* 'паклёп, абгавор' 1434<стп. *potwarz* (SSt VI 504); *похвалка (пофалка)* 'пагроза' 1478<стп. *pochwałka* (Сп 726); *родина* 'сям'я, радня' 1519<стп. *rodzina* (SPK); *ростырка (розстырка, розтырка, розтырокъ, ростирка, ростыркгъ, ростыркъ, ростыржка)* 'разлад, сварка' 1521<стп. *roztyrk* (SSt VIII 15); *сваволя (своволя)* 'самаўпраўства, самавольства; свавольства' 1598<стп. *swawola, swowola* (SPK); *сведомье (зведомье, звядомье)* 'веданне, звестка' 1505<стп. *świadomie* (SStK); *славетный* 'славуты, праслаўлены' 1535<стп. *sławetny* (SStK); *служалый* 'заняты службай' 1509<стп. *służały* (SPK); *смеховиско (смеховишко)* 'пасмешышча' п. XVII ст.<стп. *śmiechowisko* (SPK); *спикнутися* 'згаварыцца, змовіцца' 1596<стп. *spiknąć się* (SPK); *спирати* 'адцясняць, выштурхоўваць' 1522<стп. *spierać* (SStK); *сполечный (сполэчный)* 'грамадскі, агульны' 1519<стп. *społeczny* (SPK); *сполокъ (спулокъ)* 'сувязь, саюз' 1568<стп. *społek* (SPK); *спольный (сполный, спульный, всполный)* 'супольны' 1529<стп. *spolny* (SStK); *схадзка (схадка, схадцка, схацка, схажка, зхажка, зхачка)* 'спатканне, сустрэча' 1531<стп. *schadzka* (SPK); *тижба* 'натоўп; штурханіна, таўкатня' 1580<стп. *ciżba* (SP III 532); *тлумъ* 'натоўп' с. XVII ст.<стп. *tłum* (SPK); *тлуща* 'натоўп, чэрнь' к. XV ст.<стп. *tłuszcza* (SStK); *тронтити (троцити)* 'штурхнуць, закрануць' 1638<стп. *trącić* (SPK); *уближати* 'абражаць; шкодзіць'

1574<стп. *ubliżać* (SPK); *утеменженье* 'заняволенне' 1697<стп. *uciemiężenie* (SJP IX 449); *фасолъ* 'разлад, сварка' 1637<стп. *fasoł* (SP VII 41); *хлоста* 'лупцоўка, розга' 1577<стп. *chłosta* (SP III 248); *шидити (шыдити)* 'здзекавацца, насміхацца' 1596<стп. *szydzić* (SPK); *шкалевати (шкаловати, шкеловати)* 'няславіць, ганьбіць' 1588<стп. *szkalować* (SPK); *шкодити (шкодзити, щкодити)* 'шкодзіць' п. XV ст.<стп. *szkodzić* (XV ст., SStK, ад *szkoda,* BrSE 549); *шкодовати* 'мець шкоду' 1529< стп. *szkodować* (XV ст., SStK, ад *szkoda,* BrSE 549).

У некалькі меншай колькасці выступаюць тут словы лацінскага паходжання, запазычаныя пераважна праз польскае пасрэдніцтва: *анкгария* 'уціск, прыгнёт' 1598< стп. *angaryja* (1556, SP I 153<лац. *angaria,* ад гр. *ἀγγαρεία,* Mosz. 160); *виватъ* 'феерверк у чый-небудзь гонар' 1689<стп. *wiwat* (XVI ст., SPK<лац. *vīvat,* Ryb. 94); *виолентеръ* 'насільна, гвалтоўна' 1676<лац. *violenter* (ЛРС 1082); *виоленция (виоленцыя)* 'насілле, самавольства, беззаконнасць' 1653<стп. *wijolencyja* (XVI ст., SPK<лац. *violentia,* Mosz. 211); *деспектовати* 'абражаць, прыніжаць' 1633<стп. *despektować* (1621, Сп 119 <лац. *dēspectāre,* SJP XI 106); *деспектъ* 'абраза, знявага' 1575<стп. *despekt* (1557, SP IV 594<лац. *dēspectus,* Mosz. 167); *дифамация* 'абгавор, паклёп' 1664<стп. *dyfamacyja* (XVII ст., P I 180<лац. *diffāmātio,* SWO 163); *дифамовати* 'няславіць, ганьбаваць' 1664<пол. *dyfamować* (<лац. *diffāmāre,* SJP II 483); *дишкордия* 'разлад, сварка' п. XVII ст.<лац. *discordia* (ЛРС 333); *дызгоноръ (дизгоноръ, дисгоноръ)* 'ганьба, знявага' 1662<стп. *dyshonor* (XVII ст., P I 183<лац. *dis-+honor,* Ryb. 32); *екСторсыя* 'катаванне' 1668<стп. *ekstorsyja* (XVII ст., Ryb. 36<лац. *extorsio,* SW I 684); *ексцесъ (ексцессъ, эксцессъ, эксцесъ)* 'эксцэс, выхадка' 1596<стп. *eksces, ekscess* (1579, SP VI 536<лац. *excessus,* Mosz. 170); *елюзия* 'насмешка, здзек' 1671<пол. *eluzja* (<лац. *ēlūsio,* SW I 691) і непасрэдна слац.; *енеалокгия (енелиогия, енелокгия, енеалекгия, енгалоия, еноалогия, енолиогия, енология, енолокгия, енялиогия, енялогия)* 'генеалогія, радаслоўная' п. XVII ст.<стп. *jenealogija, jenalogija, jenelogija* (1572, SP IX 433<лац. *geneālogia,* ад гр. *γενεαλογία,* Ryb. 40); *импетиция* 'напад' 1668<стп. *impetycyja* (1594, SP VIII 521<слац. *impetitio,* SŁSPK); *инвазыя* 'уварванне, нашэсце' 1691<стп. *inwazyja* (1588,

SP VIII 577<лац. *invāsio,* Mosz. 179); *инциурия* 'крыўда, несправядлівасць' 1653<стп. *iniuryja* (1564, LWS 419< лац. *iniūria,* SWO 306) і непасрэдна слац.; *инсоленция* 'правіннасць' 1677<стп. *insolencyja* (1556, SP VIII 551< лац. *īnsolentia,* Mosz. 178); *инфенция* 'непрыязнасць, варожасць' 1653<слац. *infensia* (SŁSPK); *калюмния* 'паклёп' 1612<стп. *kalumnija* (1564, SP X 30<лац. *calumnia,* Mosz. 180); *кграсовати (грасовати)* 'бадзяцца, разбойнічаць' 1638<стп. *grasować* (1564, SP VIII 109<лац. *grassārī,* SłSE I 341); *ковтумелия* 'абраза' 1653<стп. *kontumelija* (XVII ст., P I 333<лац. *contumēlia,* Ryb. 57); *комитивъ* 'сяброўскія адносіны' 1629<стп. *komitywa* (1543, SP X 499<слац. *comitiva,* SłSE II 387); *композиция (композыцыя)* 'сувязь, дагавор, пагадненне' п. XVII ст.<стп. *kompozycyja* (1588, SP X 515<лац. *compositio,* SłSE II 398); *контемптъ (контемтъ)* 'пагарда, зняважа' 1645<стп. *kontempt* (1588, SP X 582<лац. *contemptus,* SłSE II 435); *конциторъ* 'варожасць' 1520<лац. *concitor* (ЛРС 224); *корреспондовати* 'адпавядаць' 1635< стп. *korespondować* (XVII ст., P I 336<слац. *correspondere,* SłSE II 487) і непасрэдна слац.; *линия (линея)* 'род, пакаленне' п. XVI ст.<стп. *linija* (XVI ст., SPK< лац. *līnea,* SłSE IV 265) і непасрэдна лац.; *лиценция* 'дазвол; свабода' 1603<стп. *licencyja* (XVI ст., SPK< лац. *licentia,* SłSE IV 226); *маледиктъ* 'лаянка, зняважлівае слова' с. XVII ст.<слац. *maledictum, maledictus* (SŁSPK); *малюмъ* 'зло, бедства' 1653<слац. *malum* (SŁSPK); *опресия (опресея, опрессия)* 'прыцясненне' 1598<стп. *opresyja, oppressyja* (XVI ст., SPK<лац. *oppressio,* Mosz. 195); *пелкгрымацыя* 'падарожжа' 1615<стп. *peregrynacyja* (XVI ст., SPK<лац. *peregrīnātio,* Ryb. 71); *помпа (понпа, пумпа)* 'пышнасць, пампезнасць' 1596<стп. *pompa* (XVI ст., SPK<лац. *pompa,* Mosz. 199); *постпоновати (поспоновати)* 'прыніжаць, пагарджаць' 1634<стп. *postponować, posponować* (XVII ст., P II 186<лац. *postpōnere,* SWO 593); *промоция* 'заступніцтва' 1627<стп. *promocyja* (XVI ст., SPK<лац. *prōmōtio,* Ryb. 77); *протектъ (претектъ)* 'падтрымка' 1633< лац. *prōtēctum* (ЛРС 827); *протекция (протекцыя)* 'падтрымка, пратэкцыя' 1645<стп. *protekcyja* (XVII ст., P II 236<лац. *prōtēctio,* Ryb. 78); *ребелизовати* 'паўставаць, бунтаваць' с. XVII ст.<стп. *rebelizować* (XVI ст., SPK< слац. *rebellizare,* P II 307); *ребеллия (ребелизыя)* 'мя-

цеж, бунт' 1605<стп. *rebelija, rebellija* (XVI ст., SPK<лац. *rebellio,* Mosz. 202); *седиция* 'паўстанне' 1596<стп. *sedycyja* (XVI ст., SPK<лац. *sēditio,* Mosz. 205); *скоматичный* 'абразлівы, зняважлівы' 1686<стп. *skomatyczny* (XVI ст., SPK<лац. *scōmmaticus,* ад гр. σκωμματικός, SW VI 157); *традуковати* 'выстаўляць напаказ, зневажаць публічна' 1664<стп. *tradukować* (SW VII 91<лац. *trādūcere,* ЛРС 1022); *триумфовати* 'трыумфаваць' 1578 <стп. *tryumfować* (XVI ст., SPK<лац. *triumphāre,* SWO 781); *тумультъ (тумултъ)* 'зборышча; сумятня' 1595<стп. *tumult* (XVI ст., SPK<лац. *tumultus,* Mosz. 210); *турбация (турбацыя)* 'парушэнне спакою' 1600<стп. *turbacyja* (XVI ст., SPK<лац. *turbātio,* Mosz. 210); *турбовати (торбовати)* 'турбаваць, непакоіць' 1507<стп. *turbować* (XVI ст., SPK<лац. *turbāre,* BrSE 585); *фаворъ* 'міласць, ласка' 1598<стп. *fawor* (1588, SP VII 43<лац. *favor,* Ryb. 38); *фамилия* 'сям'я, род' 1582<стп. *familija* (1561, SP VII 23<лац. *familia,* Mosz. 173); *фрeквенция* 'наплыў людзей' 1664<стп. *frekwencyja* (1588, SP VII 134<лац. *frequentia,* Mosz. 174).

Зусім невялікай аказалася ў гэтай прадметна-тэматычнай групе колькасць лексем нямецкага паходжання: *вендровати* 'вандраваць, падарожнічаць' п. XVII ст.<стп. *wędrować* (XV ст., SStK<свн. *wandern,* MoszG 77); *гурмомъ (гурмэмъ)* 'гуртам, шумна' 1584<стп. *hurmem* (ад *hurm* 1564, SP VIII 375<свн. *hurm,* SłSE I 438); *гуртомъ* 'гуртам, оптам' 1588<пол. *hurtem* (<свн. *hurt,* SłSE I 439); *кгвалтъ (гвалтъ, квалтъ)* 'беззаконне; гвалт; павіннасць, штраф' 1388<стп. *gwałt* (1392, SSt II 523<свн. *gewalt,* SłSE I 382); *кгминъ (гминъ, кгменъ)* 'простанароддзе' 1597<стп. *gmin* (1466, SSt II 434<свн. *gemein,* SłSE I 298); *мордовати* 'мучыць, мардаваць' 1487<стп. *mordować* (XV ст., SSt IV 326<свн. *morden,* Фасм. II 654); *мордъ* 'забойства, разбой' 1568<стп. *mord* (1472, SSt IV 326<ням. *Mord,* BrSE 344); *ордынокъ* 'парадак' с. XVII ст.<стп. *ordynek* (XVI ст., SPK<ням. *Ordnung,* SWO 532); *плендровати (плюндровати)* 'грабіць' 1596<стп. *plądrować, plundrować* (XVI ст., SPK<ням. *plündern,* BrSE 419); *рабовати* 'рабаваць' 1603<стп. *rabować* (XVII ст., P II 298<ням. *rauben,* BrSE 451); *ратовати (ратавати, ретовати, ротовати, рятовати)* 'ратаваць' 1514<стп. *ratować* (1465, SSt VII 440<ням. *retten,* BrSE 454); *ратунокъ (ретунокъ, роту-*

*нокъ, рятунокъ)* 'ратунак' 1514<стп. *ratunek* (1466, SSt VII 441<ням. *Rettung,* SJP VII 831); *форитовати (форытовати)* 'апекавацца, пратэжыраваць' 1595<стп. *forytować* (1564, SP VII 116<ням. *vorreiten,* SłSE I 236); *шкода (щкода)* 'шкода; патрава' 1420<стп. *szkoda* (XV ст., SStK<ствн. *scado,* Фасм. IV 449); *шпиталь (шпыталь)* 'багадзельня; шпіталь' 1536<стп. *szpital* (XV ст., SStK<ням. *Spital,* ад лац. *hospitale,* SWO 733).

Толькі ў адзінкавых выпадках разгледжаная лексічная група папоўнілася запазычанымі сродкамі раманскага паходжання: *бурда* 'скандал, дэбош' 1589<стп. *burda* (1558, SP II 508<стч. *burda,* ад свн. *būhurt, bēhurt*<стфр. *behort, behorder,* SłSE I 50); *компания (конпания)* 'кампанія' 1620<стп. *kompanija* (1585, SP X 513<іт. *compagnia,* фр. *compagnie,* SłSE II 394); венгерскага паходжання: *рокошъ* 'бунт, мяцеж' к. XVI ст.< стп. *rokosz* (XVI ст., SPK<венг. *Rákos,* SWO 653); яўрэйскага паходжання: *кагалъ (какгалъ)* 'яўрэйская абшчына, кагал' 1663<стп. *kahał* (XVII ст., L II 290< стяўр. *kāhāl,* Brzez. 90) і непасрэдна яўр. Выступаюць у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове таксама экзатызмы *булгакъ* 'мяцеж, сумятня' 1538<струс. *булгакъ* (XV ст., СРЯ I 353<цюрк., параўн. стцюрк. *bulγak,* чаг. *bulγaγ* 'т. с.', тат. *bulγamak* 'перамешваць', Фасм. I 238) і *племенидый* 'знатны' 1580<сх. *плёменит* (СХРС 603), аднак толькі першы з іх быў уласцівы жывой народнай мове таго часу, аб чым сведчыць яго фіксацыя ў дзелавой кнізе з тэрыторыі Віцебшчыны, другі ж пранік у беларускую свецкую пісьменнасць у выніку перакладу «Аповесці аб Баве» з сербскай мовы.

## II. ЮРЫДЫЧНАЯ ЛЕКСІКА

Асобны разрад сацыяльнай лексікі іншамоўнага паходжання ў лексічнай сістэме старабеларускай мовы ўтварае юрыдычна-прававая тэрміналогія, якая абслугоўвала сферу дзейнасці судовых органаў у Вялікім княстве Літоўскім. Яна ўключае як спецыфічна юрыдычныя тэрміны спецыяльнага характару, так і словы, якія абазначалі ў беларускай мове XIV—XVIII стст. самыя разнастайныя паняцці і рэаліі з галіны следча-выканаўчай дзейнасці. Паколькі юрыдычная структура і судова-выканаўчая справа ў Вялікім княстве Літоўскім

фарміраваліся ў многіх аднасінах па ўзору польскай юрыспрудэнцыі, а мовай судоў на працягу доўгага часу з'яўлялася беларуская мова, зусім натуральна, што для абазначэння судовых паняццяў, аналагічных польскім, яна выкарыстоўвала гатовыя лексічныя сродкі, якімі карысталіся для сваіх юрыдычных мэт палякі. У агульным патоку паланізмаў на беларускую глебу траплялі многія словы заходнееўрапейскага паходжання, асабліва лацінізмы, якімі польская афіцыйная мова была насычана ў высокай ступені. Юрыдычнай лексікай лацінскага паходжання старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова ўзбагачалася і самастойна, бо выкарыстанне сярэдневяковай латыні ў судовых канцылярыях Вялікага княства Літоўскага, як і каралеўскай Польшчы, пры напісанні паасобных дзелавых папер было ў той час звычайнай з'явай.

Семантычнае размеркаванне юрыдычнай лексікі старабеларускага перыяду, як і грамадска-палітычнай, не складае цяжкасці: у ліку яе дакладна вылучаюцца дзве неаднолькавыя ў колькасных аднасінах прадметна-тэматычныя групы. Меншую па колькасці лексем групу юрыдычнай лексікі складаюць назвы афіцыйных судовых асоб, прадстаўнікоў следчых органаў, судовых выканаўцаў, удзельнікаў судовага працэсу, злачынцаў. З пункту погляду паходжання гэта лексіка бярэ свае вытокі пераважна ў лацінскай і польскай мовах. Лацінская лексіка, запазычаная непасрэдна і праз пасрэдніцтва польскай мовы, прадстаўляе сабой у асноўным назвы афіцыйных судовых асоб са спецыяльнымі функцыямі і толькі часткова ахоплівае неафіцыйных асоб, звязаных з судовай справай: *адверсаръ* 'праціўнік у судовым працэсе' 1601<стп. *adwersarz* (1551, SP I 88<лац. *adversārius,* Mosz. 158); *акторъ (окторъ)* 'ісцец, пасрэднік, адвакат' 1604<стп. *aktor* (1587, SP I 98<лац. *āctor,* Mosz. 159); *арбиторъ* 'трацейскі суддзя' 1645<стп. *arbiter* (1582, SP I 201<лац. *arbiter,* Mosz. 161); *асесоръ (ассесоръ, ассессоръ, ососоръ)* 'засядацель' 1594<стп. *asesor* (1541, SKN 508<лац. *assessor,* Mosz. 162) і непасрэдна слац. *assessor* (SŁSP I 848); *банита* 'чалавек, асуджаны на выгнанне' 1599<стп. *banita* (1500, SSt I 59<слац. *banita,* Mosz. 163); *вицеинстикгаторъ* 'намеснік пракурора' 1614<стп. *wiceinstygator* (XVII ст., P I 584<лац. *vice* 'замест'+*īnstīgātor,* Ryb. 94); *деляторъ*

*(делляторъ)* 'даносчык' 1628<стп. *delator* (1587, SP IV 584<лац. *dēlātor,* Mosz. 167); *евикторъ* 'асоба, якая выступала ў судзе замест выклiканага' 1615<стп. *ewiktor* (1594, SP VI 581, ад лац. *ēvincere,* Mosz. 173); *екзекуторъ (екгзекуторъ, екзэкуторъ, ексекуторъ, аксакутаръ, икзекуторъ)* 'судовы выканаўца' 1509<стп. *egzekutor* (1511, SP VI 527<лац. *exsecūtor,* Mosz. 170); *енералъ (еноралъ, генералъ)* 'галоўны судовы выканаўца' 1514< стп. *jenerał, generał* (1564, SP IX 434, ад лац. *generālis,* Ryb. 40); *инстикгаторъ (инстигаторъ, инстыгаторъ, инстыкгаторъ)* 'пракурор; службовая асоба, якая назiрала за правасуддзем' 1565<стп. *instygator* (1549, SP VIII 554<лац. *īnstīgātor,* Mosz. 178); *инфамисъ* 'чалавек, пазбаўлены праз суд правоў i гонару' 1722<стп. *infamis* (XVII ст., P I 256<лац. *īnfāmis,* Ryb. 43); *конпринципалъ (компринципалъ, компрынцыпалъ)* 'блiжэйшы саўдзельнiк' 1645<лац. *con-+prīncipālis,* параўн. *принципалъ; медиаторъ (медыяторъ)* 'пасрэднiк, арбiтр' 1624< стп. *medyjator* (XVI ст., SPK<лац. *mediātor,* Mosz. 191); *пленипотентъ (пленипотэнтъ)* 'упаўнаважаны, давераны' 1568<стп. *plenipotent* (XVI ст., SPK<лац. *plēnipotēns, -ntis,* Mosz. 198); *прееминентъ* 'верхавод, завадатай' 1624<слац. *praeeminens, -ntis* (SŁŚPK); *презенсъ* 'кiраўнiк суда' 1663<лац. *praesēns, -entis* (ЛРС 801); *принципалъ (прынцыпалъ)* 'зачыншчык якой-небудзь крымiнальнай справы' 1579<стп. *pryncypał* (XVI ст., SPK<лац. *prīncipālis,* Mosz. 201); *прокураторъ* 'адвакат, абаронца' 1509<стп. *prokurator* (XVI ст., SPK<лац. *prōcūrātor,* Mosz. 200); *синдикъ (сендыкъ, сындикъ, сындыкъ)* 'адвакат' 1576<стп. *syndyk* (1621, Cn 1093<лац. *syndicus,* ад гр. σύνδικος, SWOR 638); *спекуляторъ (спекулаторъ)* 'кат' 1653<пол. *spekulator* (<лац. *speculātor,* SJP VIII 538); *шкрутаторъ* 'следчы' 1588<стп. *skrutator* (XVI ст., SPK<лац. *scrūtātor,* Mosz. 206); *юриста (юристъ)* 'юрыст' 1638<стп. *jurysta* (1568, SP IX 538<слац. *iurista,* Mosz. 180).

Уласнапольская лексiка ў адрозненне ад лацiнскай папаўняе старабеларускi слоўнiк пераважна ў галiне назваў удзельнiкаў судовага працэсу i злачынцаў i зусiм нязначна развiвае намiнацыю афiцыйных юрыдычных асоб: *виновайца (выновайца)* 'вiноўнiк' 1579<стп. *winowajca* (SPK); *возный* 'судовы выканаўца' 1488< стп. *woźny* (SStK); *выступца* 'злачынец' п. XVI ст.<стп.

*występca* (SPK); *вязень* 'вязень' 1504<стп. *więzień* (SStK); *едначъ (идначъ)* 'трацейскі суддзя' 1510<стп. *jednacz* (SSt III 147); *забийца (забойца)* 'забойца' 1529<стп. *zabijca* (SPK); *забиякъ* 'забойца, грабежнік' 1536<стп. *zabijak* (SPK); *заводца (завотца)* 'асоба, ад якой хто-небудзь атрымаў крадзеную рэч' 1510<стп. *zawodźca* (SStK); *заходца* 'асоба, якая адказвала ў судзе замест выкліканага' 1552<стп. *zachodźca, zachodca* (SPK); *збойца* 'разбойнік' 1509<стп. *zbojca* (SStK); *збродень* 'злачынец' 1446<стп. *zbrodzień* (SStK); *згубца* 'згубіцель' 1595<стп. *zgubca* (SStK); *злочинца (злочынца)* 'злачынец' 1529<стп. *złoczyńca* (SStK); *змовца* 'пасрэднік, адвакат' 1651<стп. *zmowca* (SStK); *катъ* 'кат' 1529<стп. *kat* (1420, SSt III 249, няяснай этымалогіі, SłSE II 99); *крадежца* 'злодзей' с. XVII ст.<пол. *kradzieżca* (L II 477); *кривоприсяжца (кривоприсязца)* 'клятвапарушальнік' 1519<стп. *krzywoprzysiężca* (SSt III 417); *мордерца (мордырца)* 'забойца' 1607<стп. *morderca* (XVI ст., SPK, ад *morderz,* SJP IV 834); *мужобойца (мужебойца, мужобуйца)* 'забойца' 1434<стп. *mężobójca* (SSt IV 189); *оправца* 'судовы выканаўца, кат' 1434<стп. *oprawca* (SSt V 610); *оскаржца* 'абвінаваўца, скаржнік' 1653<стп. *oskarżacz, oskarca* (L III 593); *подводца* 'падбухторшчык на злачынную справу' 1434<стп. *podwodca* (PSDP 339); *пожогца (пожегца)* 'падпальшчык' 1434<стп. *pożeżca* (SSt VI 559); *преступца (проступца)* 'злачынец' п. XVI ст.<стп. *przestępca* (SSt VII 185); *причинца (прычинца, прычынца)* 'віноўнік' 1519<стп. *przyczyńca* (SSt VII 1424); *розбойца (разбойца)* 'разбойнік, грабежнік' к. XV ст.<стп. *rozbojca* (SSt VII 503); *роземца* 'пасрэднік, арбітр' с. XVII ст.<стп. *rozjemca* (Сп 944).

Зусім невялікай колькасцю слоў прадстаўлена ў гэтай групе запазычанняў лексіка нямецкага паходжання: *гицель* 'памочнік ката' 1722<стп. *hycel, hecel* (1568, SP VIII 319, 377<ням. дыял. *hītzel,* SłSE I 441); *лотръ* 'злачынец, разбойнік' к. XV ст.<стп. *łotr* (1449, SSt IV 121<свн. *loter,* MoszG 65); *мордеръ (мордаръ, мордыръ)* 'забойца' к. XV ст.<стп. *morderz, mordarz* (1379, SSt IV 326<свн. *mordaere,* MoszG 66).

У ліку экзатызмаў адзначаюцца лексемы *ареопагитъ* 'член вярхоўнага суда ў старажытных Афінах' п. XVII ст. <стп. *areopagita* (1552, SP I 211<лац. *arēopagīta,* ад

гр. ἀρεοπαγίτης, Mosz. 162); *кадый* 'магаметанскі суддзя' 1594<кр.-тат. *kadi* (<асм.-тур. *kadi*<ар. *qādī*, St. II 12); *торпостай (торпоста)* 'следчы на тэрыторыі Літвы і сумежнай часткі Беларусі' 1510<літ. *torpostai* (Jabl. 240).

Значна большую групу юрыдычнай лексікі ў беларускай літаратурна-пісьмовай мове XIV—XVIII стст. утвараюць словы, звязаныя з абазначэннем агульных і прыватных паняццяў судаправядзення, мер і спосабаў пакарання, канкрэтныя назвы са сферы выканаўчай і следчай дзейнасці судовых органаў. Сярод іх пануючае становішча займаюць лексемы лацінскага паходжання: *абсентоватисе* 'ухіляцца ад суда' 1663<стп. *absentować się* (1594, SP I 43<лац. *absentāre*, P I 5); *автентыце (автентице)* 'пераканаўча' 1619<слац. *authentice, autentice* (SŁSP I 977); *агитоватися (аитоватися, акгитоватися)* 'адбывацца, разглядацца ў судзе' 1653<стп. *agitować się* (XVII ст., P I 8<лац. *agitāre*, Ryb. 5); *акторатъ* 'рэестр судовых спраў; судовыя выдаткі' 1656<пол. *aktorat* (ад лац. *āctor*, SJP I 63); *акцесорыя* 'неканчатковае рашэнне справы на судзе' 1638<стп. *akcesoryja* (1543, SP I 93<слац. *accessorium*, Mosz. 158); *акция (акцея, акцыя)* 'судовы працэс, дзеянне' 1602<стп. *akcyja* (1553, SP I 94<лац. *āctio*, Mosz. 158); *алекгацыя (алекгацея)* 'прывядзенне довадаў' 1588<стп. *allegacyja* (1551, SP I 143<лац. *allēgātio*, Mosz. 159); *алекговати (аллеговати, аллекговати, олекговати)* 'прыводзіць довады, даказваць' 1588<стп. *allegować* (1564, SP I 143<лац. *allēgāre*, SWO 19); *анигилевати* 'знішчаць, адмяняць урадавы акт' 1697<стп. *anihilować* (XVII ст., P I 16<лац. *annihilāre*, SJP I 140); *апелевати (абпеливати, апелиовати, апеллевати, апелловати, апеловати, аппелевати, аппелиовати, аппеловати, апэлевати, опелевати, опелиовати, опэлевати)* 'апеляваць, уносіць апеляцыю ў вышэйшую судовую інстанцыю аб пераглядзе справы' 1544<стп. *apelować, appelować, apellować* (1528, SP I 187<лац. *appellāre*, SWO 42); *апеляцыя (апелляцыя, апеляцея, апеляция, апэляцыя, апэляцэя, опелецыя, опелиацыя, опеляцыя)* 'апеляцыя, перанос справы ў суд вышэйшай інстанцыі' 1538<стп. *apelacyja, apellacyja* (1543, SP I 185<лац. *appellātio*, Mosz. 161); *арештовати* 'арыштаваць, затрымаць' 1576<стп. *aresztować* (1559, SP I 212<слац. *arrestare*, SWO 46); *арештъ (арестъ)* 'пазбаўленне чалавека

вольнасці, судовая забарона карыстацца маёмасцю' 1578<стп. *areszt, arest* (1559, SP I 211<слац. *arrestum,* Mosz. 162); *ассерция* 'сцверджанне без прывядзення довадаў' 1645<слац. *assertio* (SŁŚP I 848); *ассесория* 'нарада засядацеляў' 1722<слац. *assessoria* (SŁŚP I 848); *ассыстенцыя* 'прысутнасць пэўных асоб пры складанні юрыдычных актаў' 1677<стп. *asystencyja, assystencyja* (1593, SP I 226<слац. *assistentia,* Ryb. 23); *атентовати (аттентовати)* 'парушаць права' 1667<стп. *atentować* (XVII ст., P I 22<лац. *attentāre,* SJP I 237) і непасрэдна слац.; *атестация (атестацыя, аттестация, отестацыя)* 'сведчанне' 1617<стп. *atestacyja* (XVII ст., P I 23<лац. *attestātio,* Ryb. 23) і непасрэдна слац.; *аттестовати* 'падвяргаць атэстацыі, сведчанню' 1625<слац. *attestari* (SŁŚP I 911); *банитовати* 'асуджаць на выгнанне, выганяць' 1599<стп. *banitować, baniować* (1594, SP I 302, L I 53<слац. *bannire,* Leem. 40, SŁŚP I 1033); *баниция (банецыя, баницея, баницыя, банницыя)* 'выгнанне, прыгавор на выгнанне з краіны' 1594<стп. *banicyja, bannicyja* (1587, SP I 301<слац. *bannitio,* Ryb. 24); *визия* 'экспертыза' 1638<стп. *wizyja* (XVI ст., SPK<лац. *vīsio,* Ryb. 95); *дедуковати* 'рабіць вывад, вызначэнне' 1672< пол. *dedukować* (<лац. *dēdūcere,* SWO 135); *декретъ (дикретъ, дэкгретъ, дэкретъ, дэкрэтъ)* 'судовая пастанова' 1441<стп. *dekret* (XVI ст., SP IV 576<лац. *dēcrētum,* Mosz. 167) і непасрэдна слац.; *делиберация* 'абдумванне, абмеркаванне справы прадстаўнікамі ўлады' 1610 <стп. *deliberacyja* (1543, SP IV 585<лац. *dēlīberātio,* Mosz. 167); *делиберовати* 'весці дэбаты, абдумваць' 1638<стп. *deliberować* (1543, SP IV 585< лац. *dēlīberāre,* SWO 141); *делята* 'данос' 1608<стп. *delata* (L I 422<лац. *dēlātum,* SJP II 66); *деляцыя (деляция)* 'данос; працягванне тэрміну' 1623<стп. *delacyja* (1543, SP IV 584<лац. *dēlātio,* Mosz. 167); *денекговати* 'пярэчыць, пратэставаць' 1677<стп. *denegować* (1574, SP IV 589<лац. *dēnegāre,* P I 134); *денунция* 'допыт' 1600<стп. *denuncyjacyja* (1595—1621, Ryb. 28<лац. *dēnūntiātio,* SWO 144); *дефенсия* 'абарона' 1686<стп. *defensyja* (1587, SP IV 569<лац. *dēfēnsio,* Mosz. 166); *дыляцыя (дилацыя, диляция, дылация)* 'адтэрміноўка судовай справы' 1601<стп. *dylacyja* (1543, SP VI 282<лац. *dīlātio,* SWO 164); *евикция (евикцыя, эвикция)* 'паручыцельства; заклад, гарантыя' 1628<стп. *ewikcyja* (1594,

SP VI 581<лац. *ēvictio*, Mosz. 172); *екзековати (экзековати)* 'прыводзіць у выкананне' 1637<стп. *egzekwować* (1543, SP VI 528<лац. *exsequī*, SWO 174); *екзекуция (екгзекуцыя, екзекутия, екзекуцыя, екзекутья, екзыкуцыя, екзэкуцэя, экгзекуцыя, экзекуцыя, экзэкуцыя)* 'экзекуцыя, выкананне прыгавору' 1566<стп. *egzekucyja* (1543, SP VI 524<лац. *exsecūtio*, Mosz. 170); *екскузовати* 'апраўдваць, прызнаваць невінаватым' 1686<стп. *ekskuzować* (1588, SP VI 539<лац. *excūsāre*, SWOR 178); *експировати* 'траціць прававую сілу' 1662<стп. *ekspirować* (XVII ст., P I 198<лац. *expīrāre*, SWO 179); *експурговати* 'апраўдваць' 1684<стп. *ekspurgować* (1594, SP VI 542<лац. *expūrgāre*, ЛРС 401); *екстендовати (экстендовати)* 'пашыраць сферу дзеяння якога-небудзь прававога палажэння' 1670<стп. *ekstendować* (1545, SP VI 542<лац. *extendere*, SW I 683); *ексцепция (ексцепцыя)* 'выключэнне; адкліканне' 1596<стп. *ekscepcyja* (1559, SP VI 535<лац. *exceptio*, Mosz. 170); *ексциповати (ексцыповати)* 'рабіць для каго-небудзь выключэнне, вылучаць' 1620<стп. *ekscypować* (1594, SP VI 536<лац. *excipere*, SJP II 670); *ексцытовати* 'пабуджаць да выканання якой-небудзь функцыі' 1664<стп. *ekscytować* (1584, SP VI 537<лац. *excitāre*, SJP II 671); *иллюминовати* 'высняць абставіны' 1697<стп. *illuminować* (1621, Сп 250<лац. *illūmināre*, SWO 297); *илляция* 'вусная просьба ў судзе па справе' 1697<стп. *illacyja* (SW II 77<лац. *illātio*, SJP III 161); *импукгновати (импугновати)* 'аспрэчваць, пярэчыць' 1638<стп. *impugnować* (1594, SP VIII 522<лац. *impugnāre*, SW II 86); *индиция* 'паказанне пры допыце' 1645<стп. *indycyja* (<лац. *indicium*, SJP III 193); *инквировати* 'праводзіць следства, расшукваць, дапытваць' 1638<стп. *inkwirować* (1588, SP VIII 548<лац. *inquīrere*, SWO 307); *инконтумация (инкотумация)* 'нез'яўленне на выклік судовых улад' 1613< лац. *in-* 'не'+*contumācia*, параўн. *контумация; инстигация* 'скарга; падбухторванне' 1638<стп. *instygacyja* (1559, SP VIII 553<лац. *īnstīgātio*, Mosz. 178); *инстикговати (инстиговати, инстинкговати, истыкговати)* 'абвінавачваць, праследаваць судом' 1522<стп. *instygować* (1543, SP VIII 554<лац. *īnstīgāre*, SWO 309) і непасрэдна слац.; *интентовати* 'пачынаць судовы працэс' 1656<стп. *intentować* (1548, SP VIII 573<лац. *intentāre*, SW II 102); *интерцессыя (инторцыссыя)* 'пасрэдніцтва,

парука' 1651<стп. *intercessyja* (1594, SP VIII 573<лац. *intercessio*, Mosz. 179); *инфамия* 'судовае пазбаўленне гонару і грамадзянскіх правоў' 1646<стп. *infamija* (1563, SP VIII 541<лац. *īnfāmia*, Mosz. 178); *информация (информацыя)* 'разуменне, выясненне, паведамленне' 1588< стп. *informacyja* (1585, SP VIII 543<лац. *īnfōrmātio*, Mosz. 178); *информовати* 'інфармаваць, асвядомліваць' 1588<стп. *informować* (1595, SP VIII 543<лац. *īnfōrmāre*, SWOR 294); *итеровати (интеровати)* 'узнаўляць, паўтараць' 1677<стп. *iterować* (1594, SP IX 57<лац. *iterāre*, SW II 116); *каденцыя (каденция)* 'час, вызначаны на судовае пасяджэнне' 1673<стп. *kadencyja* (XVII ст., Ryb. 48<слац. *cadentia*, SWO 329); *калвария* 'лобнае месца' к. XV ст.<стп. *kalwaryja* (XVI ст., SPK<лац. *Calvāria*, SWO 332); *каптуръ (коптуръ)* 'юрысдыкцыя ў перыяд міжцарства' 1669<стп. *kaptur* (XVI ст., SP X 104<лац. *captūra*, SWO 339); *касация* 'адмена пастановы суда ніжэйшай інстанцыі праз суд вышэйшай інстанцыі' 1613< стп. *kasacyja* (SW II 287<слац. *cassatio*, SWO 345); *кауза (кавза)* 'судовая справа; прычына' 1596<стп. *kauza* (1460, SSt III 250<лац. *causa*, Mosz. 182); *клявза* 'адгаворка, умова' 1596<пол. *klauza* (<слац. *clausa*, SłSE II 191); *кляузула (клавзула, клавзуля, клявзуля)* 'адгаворка, умова' 1596<стп. *klauzuła, klauzula* (1570, SP X 342<лац. *clausula*, SłSE II 191); *кокгниция (когниция, кокгницыя)* 'судовае расследаванне' 1599<стп. *kognicyja* (1594, SP X 454<лац. *cōgnitio*, Mosz. 183); *компариция* 'асабістая яўка бакоў на суд' 1671<стп. *komparycyja* (1564, SP X 513<слац. *comparitio*, SJP III 877); *компасия* 'спачуванне, літасць' 1663<стп. *kompasyja* (XVII ст., Ryb. 52<лац. *compassio*, SWO 372); *компромисъ* 'кампраміс, трацейскі суд' 1558<стп. *kompromis* (1420, SSt III 324<лац. *comprōmissum*, SłSE II 399); *конвинковати* 'даводзіць, пераконваць' 1646<стп. *konwinkować* (1594, SP X 592<лац. *convincere*, SJP III 977); *конклюдовати* 'заключаць, рабіць вывад' п. XVII ст.< стп. *konkludować* (1556, SP X 568<лац. *conclūdere*, SłSE II 422); *конклюзия (конклюзыя)* 'рашэнне, заключэнне' 1586<стп. *konkluzyja* (1556, SP X 569<лац. *conclūsio*, SłSE II 422); *консервата* 'важная судовая справа' 1645< стп. *konserwata* (XVII ст., P I 330, ад лац. *cōnservātio*, Ryb. 56); *контестъ* 'довад, сведчанне' 1636<стп. *kontest* (XVII ст., L II 434, ад лац. *contestārī*, ЛРС 251); *контра-*

*диковати (контрадыковати)* 'пярэчыць' 1599<стп. *kontradykować* (1587, SP X 585<лац. *contrādīcere,* SW II 453); *контрадикция* 'пярэчанне' 1666<стп. *kontradykcyja* (1594, SP X 585<лац. *contrādictio,* Mosz. 185); *контроверсия (контроверсыя)* 'спрэчка, рознагалоссе' 1588< стп. *kontrowersyja* (1553, SP X 587<лац. *contrōversia,* SłSE II 438); *контровертовати (контраверсовати, контроверсовати, контровартовати)* 'прадстаўляць у судзе пярэчанні, спрачацца' 1590<стп. *kontrowertować* (1594, SP X 588<лац. *contrōvertere,* SłSE II 438); *контумация (контумацыя)* 'нез'яўленне на выклік судовых улад' 1578 <стп. *kontumacyja* (1559, SP X 589<лац. *contumācia,* SłSE II 439); *конфесата (конфессата)* 'допыт, прызнанне' 1660<стп. *konfesata* (XVII ст., P I 325<слац. *confessata,* Ryb. 54) і непасрэдна слац.; *конфесацыя* 'прызнанне' 1669<слац. *confessatio* (SŁŚPK); *конфронтовати* 'рабіць вочную стаўку' 1680<стп. *konfrontować* (XVII ст., P I 326<слац. *confrontare,* SłSE II 416); *криминалитеръ (крыминалитеръ)* 'крымінальным правам' 1638<слац. *criminaliter* (SŁŚP II 1425); *криминалъ (крыминалъ)* 'злачынства; крымінальны суд' 1597<стп. *kryminał* (XVI ст., SPK<лац. *crīminālis,* SłSE III 198); *криминальный (криминалный)* 'крымінальны' 1577<стп. *kryminalny* (XVI ст., SPK<лац. *crīminālis,* SWO 402); *куррумъ* 'цячэнне судовага працэсу' 1672<лац. *currum* (ЛРС 281); *лимитацыя (лимитация)* 'адтэрміноўка суда або сейма' 1568<стп. *limitacyja* (XVI ст., SPK<лац. *līmitātio,* SłSE IV 260); *лимитовати* 'адтэрміноўваць разгляд судовай справы' 1578<стп. *limitować* (XVI ст., SPK<лац. *līmitāre,* SłSE IV 260); *люцидовати (люцыдовати)* 'высвятліць абставіны здарэння' 1667<слац. *lucidare* (SŁŚPK); *некговати (неговати)* 'адмаўляць штонебудзь, пярэчыць' 1607<стп. *negować* (XVI ст., SPK< лац. *negāre,* SWO 504); *обдукция* 'судовамедычнае абследаванне' 1665<стп. *obdukcyja* (1565, LWM 99<лац. *obductio,* SWO 519); *обсерванция* 'законнае правіла' 1681<стп. *obserwancyja* (XVI ст., SPK<лац. *observantia,* Mosz. 194); *объекция* 'абвінавачванне' 1686<стп. *objekcyja* (XVI ст., SPK<лац. *obiectio,* Mosz. 194); *опоновати (оппоновати)* 'апаніраваць, пярэчыць' 1598<стп. *oponować, opponować* (XVI ст., SPK<лац. *oppōnere,* SWO 530); *персоналитеръ* 'асабіста' 1614<слац. *personaliter* (SŁŚPK); *пленипотенция (пленипотентция)* 'паўнамоцт-

ва' 1624<стп. *plenipotencyja* (XVI ст., SPK<слац. *plenipotentia*, Mosz. 198); *преюдикатъ* 'папярэдняе судовае вызначэнне' 1671<пол. *prejudykat* (<лац. *praeiūdicātus*, SJP VI 1455); *продуковати* 'выкладаць ход справы' 1501<стп. *produkować* (XVI ст., SPK<лац. *prōdūcere*, SWO 602); *продуктъ* 'даклад; судовы працэс' 1631<стп. *produkt* (XVI ст., SPK<лац. *prōductum*, Mosz. 200); *прокурация* 'кіраванне, заступніцтва' п. XVII ст.<стп. *prokuracyja* (XVI ст., SPK<лац. *prōcūrātio*, Mosz. 200); *проскрыпция* 'прававое прадпісанне' 1672<стп. *preskrypcyja* (XVI ст., SPK<лац. *praescrīptio*, Ryb. 75); *протестация (протестацыя, протыстацыя, протэстацыя)* 'судовае апратэставанне' 1586<стп. *protestacyja* (XVI ст., SPK<лац. *prōtestātio*, Mosz. 201); *протестовати* 'пратэставаць' 1596<стп. *protestować* (XVI ст., SPK<лац. *prōtestārī*, SWO 608); *процедеръ* 'працэдура, спосаб' 1671<стп. *proceder* (XVII ст., P II 229, ад лац. *prōcēdere*, Ryb. 76); *процедовати* 'весці далей справу' 1638<лац. *prōcēdere* (ЛРС 812); *процесъ (протцесъ, процессъ)* 'працэс, судовы разбор' 1593<стп. *proces* (XVI ст., SPK <лац. *prōcessus*, Mosz. 200); *реатъ* 'стан пад судом, абвінавачванне' 1689<лац. *reātus* (ЛРС 853); *реквизиция (реквизыцыя)* 'зварот да судовых улад з пэўнай просьбай' 1670<стп. *rekwizycyja* (XVII ст., P II 312<лац. *requīsītio*, Ryb. 82); *реляция (релацыя, реляца, реляцыя)* 'данос, даклад' 1582<стп. *relacyja* (XVI ст., SPK< лац. *relātio*, Mosz. 202); *ремисия (ремиса, ремисса, ремиссия, ремиссыя, ремисыя)* 'адтэрміноўка рашэння справы на судзе' 1615<стп. *remisyja* (XVI ст., SPK< лац. *remissio*, Mosz. 202); *реплика* 'вусны адказ на абвінавачванне' 1615<стп. *replika* (XVI ст., SPK<слац. *replica*, Mosz. 203); *репликовати* 'пярэчыць, падаваць рэплікі' п. XVII ст.<стп. *replikować* (XVI ст., SPK<лац. *replicāre*, SWO 643); *репротестация (репротестъ)* 'контрпратэст' 1612<лац. *re-* 'супраць'+*prōtestātio*, параўн. *протестация, протестъ; репротестовати* 'паўторна пратэставаць' 1630<лац. *re-* 'зноў'+*prōtestārī*, параўн. *протестовати; репроцессъ* 'контрпрацэс' 1681<лац. *re-* 'супраць'+*prōcessus*, параўн. *процесъ; респондовати (рейспондовати, репондовати)* 'адказваць; абараняцца ад абвінавачванняў' 1615<стп. *respondować* (XVI ст., SPK <лац. *respondēre*, ЛРС 876); *саксонъ* 'саксонскае земскае права' 1638<стп. *sakson* (XVI ст., SPK<слац. *Sa-*

*xones*, SW VI 9); *сальва (салва)* 'абарона, ахова' 1641< стп. *salwa* (1605, DPSL 91, ад лац. *salvāre*, SWO 664); *сатисфакция* 'задавальненне крыўды' 1686<стп. *satysfakcyja* (XVI ст., SPK<лац. *satisfactio*, Mosz. 204); *секвестръ (секвестъ)* 'канфіскацыя спрэчнай маёмасці да судовага рашэння' 1546<стп. *sekwestr* (XVI ст., SPK< лац. *sequestrum*, Mosz. 205); *соленитасъ* 'форма, фармальнасць' 1591<лац. *sollemnitās* (ЛРС 939); *солениteръ (солинитеръ)* 'з захаваннем юрыдычных форм' 1635 <лац. *sollemniter* (ЛРС 939); *сублевацыя (сублевация, субливацыя)* 'скасаванне прыгавору' 1597<стп. *sublewacyja* (1621, Сп 1080<лац. *sublevātio*, SW VI 497); *субселия* 'судовая канцылярыя' 1677<стп. *subselijum* (XVI ст., SPK<лац. *subsellium*, Mosz. 207); *суспиция (суспицыя)* 'падазрэнне' 1608<стп. *suspicyja* (XVI ст., SPK<лац. *suspīcio*, Mosz. 207); *тестимониумъ (тестимония)* 'сведчанне' 1654<пол. *testimonium* (<лац. *testimōnium*, SWO 760) і непасрэдна слац.; *трибуналъ (трыбуналъ)* 'вышэйшы апеляцыйны суд' 1540<стп. *trybunał* (XVI ст., SPK<лац. *tribūnal*, Mosz. 210); *форумъ* 'кампетэнтны суд; месца для разбору судовых спраў' 1591<стп. *forum* (1587, SP VII 115<лац. *forum*, Mosz. 174); *шкрутынiумъ (скрутиниумъ, скрутыниумъ, шкрутина, шкрутиниумъ, шкрутыния)* 'судовае следства' 1583<стп. *skrutynijum* (XVI ст., SPK<лац. *scrūtinium*, Mosz. 206); *юдиция* 'судовае рашэнне' 1648< стп. *judycyjum* (1564, SP IX 530<лац. *iūdicium*, Mosz. 179); *юраментъ* 'прысяга' 1643<стп. *jurament* (1588, SP IX 533<лац. *iūrāmentum*, Mosz. 179); *юрисдика (юрздыка, юридика, юриздика, юрисдыка, юрсдика, юрсдыка, юрыздыка)* 'тэрыторыя, надзеленая ўласнымі юрыдычнымі правамі' 1593<стп. *jurysdyka, jurydyka* (1594, SP IX 535<лац. *iūridicus*, слац. *iuridica*, Mosz. 180); *юрисдикция (юрдыкцыя, юрздыцыя, юриздиция, юрисдикцыя, юрисдиция, юрыздыкцыя)* 'юрыдычнае права' 1501 <стп. *jurysdycyja, jurysdykcyja* (1559, SP IX 535<лац. *iūrisdictio*, Mosz. 180) і непасрэдна слац.; *юстификацыя* 'апраўданне' 1681<стп. *justyfikacyja* (XVII ст., P I 291 <лац. *iūstificātio*, SWO 327); *юстификовати* 'апраўдваць' 1667<стп. *justyfikować* (XVII ст., P I 291<лац. *iūstificāre*, ЛРС 568). Пераважная большасць з іх вызначаецца вузкай спецыфікай, зразумелай толькі невялікаму колу адукаваных людзей таго часу. Сфера фікса-

цыі многіх з гэтых лексем у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове абмяжоўваецца помнікамі дзелавога характару.

Значна меншым у параўнанні з лексікай лацінскага паходжання аказалася пашырэнне ў гэтай прадметна-тэматычнай групе слоў уласнапольскага паходжання: *выналязокъ (выналезокъ, выналязекъ)* 'судовая пастанова, рашэнне; умова' 1577<стп. *wynalazek* (SPK); *вязенье (везенье, везэнье, вензенье)* 'зняволенне, трыманне пад вартай' 1511<стп. *więzienie* (SStK); *вязити (везити)* 'трымаць у зняволенні' 1595<стп. *więzić* (SPK); *еднати (иднати)* 'мірыць' 1434<стп. *jednać* (SSt III 149); *завитый: завитый рокъ* 'канчатковы судовы тэрмін' 1516<стп. *zawity rok* (PSDP 631); *збродня* 'злачынства' 1519<стп. *zbrodnia* (SPK); *катовати* 'мучыць, катаваць' с. XVII ст.<стп. *katować* (Cn 271); *кгайный (гайный)* 'адкрыты на падставе магдэбургскага права' 1486<стп. *gajny* (SSt II 380); *коповиско* 'месца пасяджэння копнага суда' 1622<стп. *kopowisko* (L II 441); *крижовати (крыжовати)* 'распінаць' к. XV ст.<стп. *krzyżować* (XIV ст., SSt III 420, ад *krzyż*, SłSE III 260); *лава* 'гарадскі суд' 1578<стп. *ława* (SłSE V 48); *обесити* 'пакараць смерцю праз павешанне' 1448<стп. *obiesić* (SSt V 335); *подпартье* 'падтрымка' 1588<стп. *podparcie* (SPK); *позевъ (позовъ, позэвъ)* 'выклік у суд; судовая павестка' 1434<стп. *pozew* (SSt VI 540); *позывати* 'выклікаць у суд' 1434<стп. *pozywać* (SSt VI 552); *попартье* 'падтрымка, абгрунтаванне' 1590<стп. *poparcie* (SPK); *пробовати* 'катаваць; правяраць' 1557<стп. *probować* (SPK, ад *proba*); *розпартье (роспартье)* 'разгляд' 1604<стп. *rozparcie* (SPK); *свядецство (сведедство, сведество, сведетство, сведецство, сведецтво, сведотство, сведотцство, сведоцство, сведоцтво, сведечство, сведочство, сведэцство, свидецство, свидечство, свидочство, свядетство, свядетцтво, свядецство, свядэцство)* 'сведчанне, доказ' 1388<стп. *świadectwo* (SStK); *скаркга (скарга)* 'скарга' 1388<стп. *skarga* (SStK); *спорчизна* 'спрэчная справа' 1529<стп. *sporzyzna* (BrSE 510).

Параўнальна невялікую частку лексікі юрыдычнага ўжытку складаюць словы нямецкага паходжання, запазычаныя пераважна праз польскае пасрэдніцтва: *кгваръ* 'парука, паручыцельства' 1578<стп. *gwar* (1392, SSt II 529<свн. *gewër*, SłSE I 383); *ортель* 'пастанова гарад-

скога суда' 1510<стп. *ortel* (1358, SSt V 629<свн. *urteil, urtel,* MoszG 67); *пренкгеръ* (*прекга, пренгеръ, пренкгиръ*) 'ганебны слуп' 1579<стп. *pręgierz, pręga* (XIV ст., SSt VII 52<ням. *Pranger,* BrSE 436); *проба* 'катаванне' 1579<стп. *proba* (XVI ст., SPK<ням. *Probe,* SWOR 548); *прокуратура* 'калегія адвакатаў' 1601<пол. *prokuratura* (<ням. *Prokuratur,* SJP VII 33); *фолдровати* (*фольдровати*) 'абвінавачваць' 1540<стп. *foldrować, foldrować* (1400, SSt II 364<свн. *vordern,* MoszG 57); *шперовати* (*шперати, шпирати, шпырати*) 'дапытваць' 1579<стп. *szperować, szperać* (XVI ст., SPK<ням. *sperren,* BrSE 553); *шперунокъ* 'допыт' 1579<стп. *szperunk* (XVI ст., SPK<ням. *Sperrung,* BrSE 553); лексічныя сродкі раманскага паходжання: *пролионкгация* (*пролонкгацыя*) 'працягванне тэрміну' 1653<стп. *prolongacyja* (XVII ст., Ryb. 77<фр. *prolongation,* ад лац. *prōlongāre,* SWO 605); *протестъ* (*претестъ*) 'пратэст' 1609<стп. *protest* (1565, LWMC 233<ням. *Protest,* іт. *protesto,* ад лац. *prōtestārī,* SWOR 545).

З цюркізмаў можна адзначыць лексему *кайданы* (*кейданы, койданы*) 'кайданы' 1638<стукр. *кайдани,* стп. *kajdany* (<тур.-ар. *qajdāni,* Фасм. II 161, SłSE II 24). У якасці экзатызмаў выступаюць словы *ареопагъ* 'вярхоўны суд у старажытных Афінах' 1598<стп. *areopagus* (1552, SP I 211<лац. *arēopagus,* ад гр. Ἄρειος πάγος, Mosz. 162); *сенедримъ* 'старажытнаяўрэйскі трыбунал' п. XVII ст.<стп. *senedryn* (XVI ст., SPK<лац. *senedrium,* ад гр. σενέδριον, Mosz. 204).

### III. КАНЦЫЛЯРСКАЯ ЛЕКСІКА

У лексічнай сістэме старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы побач з грамадска-палітычнай і юрыдычнай тэрміналогіяй высокай ступені развіцця дасягнула канцылярская лексіка. Пастаяннаму ўзбагачэнню гэтага разраду слоў новымі лексемамі, як і папаўненню неабходнымі слоўнікавымі сродкамі іншых лексіка-семантычных груп грамадскага характару, садзейнічала тая акалічнасць, што ў Вялікім княстве Літоўскім беларуская мова выконвала функцыі афіцыйнай мовы, заклікаvarнай абслугоўваць заканадаўства, справаводства і дзелавую перапіску не толькі ўнутры дзяржавы, але і ў міжнародным маштабе.

У ліку запазычанняў, якія ўваходзілі ў разрад канцылярскай лексікі старабеларускай мовы, большую частку складалі тэрміны лацінска-польскага паходжання. Гэта тлумачыцца тым, што старабеларуская канцылярская лексіка, як і справаводчая тэрміналогія многіх іншых еўрапейскіх народаў, фарміравалася пад уздзеяннем лацінскай. Непасрэдным жа ўзорам для беларускіх канцылярыстаў служылі ў гэтых адносінах палякі, у якіх быў ужо вопыт выкарыстання для патрэб справаводства тэрміналогіі лацінскага паходжання, што вызначалася сваёй семантычнай выразнасцю і дакладнасцю.

У ранні перыяд развіцця старабеларускай лексічнай сістэмы асноўнымі перадатчыкамі канцылярызмаў у беларускую дакументацыю з'яўляліся насычаныя прававымі тэрмінамі дзелавыя паперы на польскай і беларускай мовах, што паступалі ў Вялікае княства Літоўскае з каралеўскай канцылярыі. Дзякуючы польскаму ўплыву асобныя канцылярскія тэрміны ўласнапольскага і заходнееўрапейскага, пераважна лацінскага, паходжання сталі неад'емнай часткай беларускага слоўніка яшчэ ў XIV—XV стст. Пазней у выніку пашырэння на беларускай тэрыторыі грамадскіх і культурных функцый лацінскай і грэчаскай моў канцылярызмы запазычваліся беларускімі справаводамі і непасрэдна з класічных моў і сярэдневяковай латыні. Аднак ва ўмовах моцнага ўздзеяння на старабеларускую пісьменнасць з боку польскай кніжнасці на ўсім працягу развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы выключную ролю ў надзвычай важнай справе ўзбагачэння старабеларускай канцылярскай тэрміналогіі за кошт лексем іншамоўнага паходжання выконвала польская мова.

Тэрміны іншамоўнага паходжання, звязаныя з канцылярскай справай і запазычаныя старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовай на працягу XIV—XVIII стст., выразна размяркоўваюцца ў семантычных адносінах па дзвюх групах. Больш вялікую з іх складаюць словы, якія ўяўляюць сабой назвы тагачаснай дакументацыі агульнага і прыватнага характару, частак пісьмовых дакументаў, копій і вытрымак з іх, дапаўненняў, заўваг і г. д. Асноўная частка гэтых лексем бярэ вытокі ў лацінскай мове: *автентикъ (автентыкъ)* 'арыгінал' 1634<стп. *autentyk* (1543, SP I 231<лац. *authenticum,* Mosz. 163); *адитаментъ* 'дадатак' 1676<стп. *addytament* (XVII ст.,

Ryb. 18<лац. *additāmentum,* SW I 7); *актъ* 'урадавы дакумент', мн. *акты* 'збор кніг для занясення ўрадавых дакументаў' 1511<стп. *akt* (1529, SP I 96<лац. *āctus,* Mosz. 159); *артыкулъ (артикулъ)* 'параграф у афіцыйным дакуменце' 1388<стп. *artykuł, artikuł* (1511, SP I 218<лац. *articulus,* Mosz. 162) і непасрэдна слац. *articulus, artyculus* (1320, SŁSP I 787); *асыкгнацыя (асыгнацыя)* 'указ аб плацяжы' 1661<стп. *asygnacyja* (XVII ст., P I 22<лац. *assīgnātio,* Ryb. 23); *видимусъ (видемусъ, видымусъ, выдымусъ)* 'копія, выпіс' 1567<стп. *widymus* (1564, LWS 455<лац. *vidimus* 'бачылі; зверылі', ЛРС 1077); *диплиома (деплиома)* 'дакумент, урадавы акт' 1638<стп. *dyploma* (XVII ст., Ryb. 31<лац. *diplōma,* ад гр. δίπλωμα 'ліст, складзены ўдвая', SWO 165); *документъ (дукументъ)* 'дакумент' 1503<стп. *dokument* (1588, SP V 281<лац. *documentum,* Mosz. 168) і непасрэдна слац.; *донацыя* 'падаравальны запіс' 1593<стп. *donacyja* (1564, SP V 345<лац. *dōnātio,* Mosz. 168); *екземпляръ* 'узор кнігі або пісьмовага дакумента' 1600<стп. *egzemplarz* (1551, SP VI 529<лац. *exemplar,* Mosz. 170); *екземптъ (екгземптъ)* 'дакумент на вызваленне ад абавязкаў' 1602<стп. *egzempt* (1594, SP VI 530<лац. *exēmptus,* Mosz. 170); *експэктатива (экспэктатыва)* 'каралеўскі прывілей' 1566<стп. *ekspektatywa* (1561, SP VI 540<слац. *expectativa,* Mosz. 170); *екстрактъ (экстрактъ)* 'выпіска, вытрымка' 1578<стп. *ekstrakt* (1564, LWK II 239<лац. *extractum,* Mosz. 171); *инвентаръ (инвэнтарь)* 'спіс, рэестр' 1441<стп. *inwentarz* (1559, SP VIII 578<лац. *inventārium,* Mosz. 179); *инотестенция (иннотестенция, инотисценция, инотостенция)* 'павестка, паведамленне' 1606<стп. *innotescencyja* (1561, SP VIII 549<слац. *innotescentia,* Ryb. 44); *инскрипция* 'запіс' 1592<стп. *inskrypcyja* (1594, SP VIII 551<лац. *īnscrīptio,* Mosz. 178); *квитация (квитанция, квитанцыя, квитацыя)* 'квітанцыя, распіска' 1486<стп. *kwitacyja, kwitancyja* (XVI ст., SPK<слац. *quietatio, quietantia,* Mosz. 187) і непасрэдна слац.; *коннотация (коннотацыя)* 'нататка, адзнака' 1676<стп. *konotacyja* (XVII ст., Ryb. 55<слац. *connotatio,* SłSE II 426) і непасрэдна слац.; *копия (копея)* 'копія' 1406<стп. *kopija* (XV ст., SSt III 340<лац. *cōpia,* SłSE II 460); *коректа (корректа)* 'папраўка' 1528<стп. *korekta* (XVII ст., L II 445<слац. *correcta,* ад лац. *corrēctus,* SłSE II 486) і непасрэдна слац.; *корыкгацыя*

(*корикгация, корыгацыя*) 'папраўка' 1609<слац. *corrigatio* (ад лац. *corrigere*, ЛРС 265); *либертация* (*либертацыя*) 'дакумент на вызваленне ад падаткаў' 1661<стп. *libertacyja* (XVI ст., SPK<слац. *libertatio*, Mosz. 188); *мандатъ* (*мондатъ*) 'каралеўскі ўказ; выклік на суд' 1533<стп. *mandat* (1494, SSt IV 159<лац. *mandātum*, Mosz. 190); *мембранъ* (*мамрамъ, мамранъ, мембрамъ, мемрамъ, мемранъ*) 'дакумент на пергаменце, пергамент' 1563<стп. *membran(a), memran* (1400, SSt IV 181<лац. *membrāna*, Mosz. 191); *метрика* (*метрыка*) 'канцылярская кніга' 1506<стп. *metryka* (1490, SSt IV 182<лац. *metrica*, Mosz. 191); *муниментъ* (*мониментъ*) 'урадавы дакумент' 1545<стп. *muniment* (XVI ст., SPK<слац. *munimentum*, Ryb. 66); *нотация* (*нотацыя*) 'заўвага' 1617<стп. *notacyja* (XVII ст., Ryb. 67<лац. *notātio*, SWO 515); *орикгиналъ* (*оригиналъ, орииналъ, орикгналъ, ориналъ, орыгиналъ, орыиналъ, орыкгиналъ, орыналъ*) 'арыгінал' 1554<стп. *oryginał* (XVI ст., SPK<лац. *orīginālis*, Mosz. 195); *паракграфъ* (*параграфъ, поракграфъ*) 'параграф' 1580<стп. *paragraf* (XVI ст., SPK<лац. *paragraphus*, ад гр. παράγραφος, Mosz. 196); *привилей* (*правилье, привелей, привилий, привилье, прывилей, прывилье*) 'урадавы ўказ, прывілея' 1434<стп. *przywilej* (1393, SSt VII 380<лац. *prīvilēgium*, SWO 612); *протоколъ* (*протокулъ*) 'пратакол' 1679<стп. *protokoł* (XVI ст., SPK<слац. *protocollum*, ад гр. πρωτόκολλον 'першы ліст у кнізе', Mosz. 201); *реверсалъ* 'пісьмовае абавязацельства' 1565<стп. *rewersał* (XVI ст., SPK<слац. *reversale*, Mosz. 203); *реестръ* (*раистръ, регестръ, реистръ, рейстръ, риестръ, рэйстръ, рээстръ, еестръ, лейстръ*) 'рэестр' 1434<стп. *regestr, registr, rejestr* (XVI ст., SPK<слац. *register, registrum*, Mosz. 202); *рескриптъ* 'маніфест; выпіска з дакумента' 1665<стп. *reskrypt* (XVI ст., SPK<лац. *rescrīptum*, Mosz. 203); *ротулъ* 'апеляцыя, кароткі выклад дакумента, спіс' 1578<стп. *rotuł* (XVI ст., SPK<лац. *rotulus*, Mosz. 203); *статутъ* 'кодэкс законаў' 1516<стп. *statut* (XV ст., SStK<лац. *statūtum*, Mosz. 206); *суплика* 'прашэнне' 1638<стп. *suplika* (1621, Сп 1084<лац. *supplex, -icis*, Ryb. 89); *сусцепта* 'паметка пісара на адвароце дакумента' 1552<пол. *suscepta* (<лац. *susceptus*, SW VI 519); *табелька* 'рэестр лічбавых дадзеных' 1710<стп. *tabela* (XVI ст., SPK<лац. *tabella* 'дошчачка', Mosz. 208); *термина* (*тар-*

*мена), термината* 'кароткі спіс, нататка' 1574<стп. *termina, terminata* (XVI ст., SPK<лац. *terminus, terminātus*, Mosz. 209); *универсалъ (вниверсалъ, унивэрсалъ)* 'указ' 1566<стп. *uniwarsał* (XVI ст., SPK<лац. *ūniversālis*, Mosz. 211); *фастикулъ (фастыкулъ, фасцыкулъ)* 'скрутак дакументаў' 1607<стп. *fascykuł* (1547, IM 577<лац. *fasciculus*, Mosz. 173); *цедула (цадула, цидула, цыдула, цэдула)* 'папера, пісьмовае паведамленне' 1559<стп. *cedula* (1511, SP III 140<слац. *cedula*, Mosz. 164); *цырокграфъ (церографъ, церокграфъ, цирографъ, цирокграфъ, цырографъ, цэрокграфъ, тирокграфъ)* 'распіска' 1540<стп. *cyrograf, cerograf* (1543, SP III 724<слац. *cirographum*, ад лац. *chīrographum*<гр. χειρόγραφον, Ryb. 26); *шкриптъ (скриптъ, шкрыптъ)* 'ліст, спіс' 1598<стп. *skrypt* (XVI ст., SPK<лац. *scrīptum*, Mosz. 206).

Лексіка нямецка-раманскага паходжання прадстаўлена ў гэтай групе старабеларускіх канцылярызмаў наступнымі словамі: *блянкетъ (бланкетъ)* 'бланк; квітанцыя' 1671<пол. *blankiet* (XVII ст., L I 116<ням. *Blankett*, BrSE 29); *квитъ (квита)* 'квіт, распіска' 1522<стп. *kwit* (XVI ст., SPK<свн. *quīt*<фр. *quitte*, ад слац. *quitus* 'вольны', SłSE III 496); *кглейтъ (глейтъ, кгвейтъ, клейтъ)* 'ахоўная грамата, ахова' 1498<стп. *glejt* (1400, SSt II 414<свн. *geleite*, SłSE I 282); *кредонсъ* 'вярыцельны ліст' 1598<стп. *kredens* (XVI ст., SPK<свн. *crēdenz*<іт. *credenza*, SłSE III 82). Да грэцызмаў можна залічыць лексему *архетипъ (архетипонъ)* 'арыгінал' 1598, асобныя варыянты якой прыйшлі ў беларускую мову рознымі шляхамі — праз пол. *archetyp* (<лац. *archetypum*<гр. ἀρχέτυπον, SWOR 66) і непасрэдна з грэчаскай мовы. Нарэшце, можна адзначыць паланізм *листъ* 'грамата, пісьмовы дакумент' 1340 (<стп. *list*, SSt IV 52).

Да другой групы адносяцца словы, якія характарызуюць арганізацыю канцылярскай справы ў Вялікім княстве Літоўскім, назвы разнастайных канцылярскіх аперацый, пісьмовых прылад і асоб, што ажыццяўлялі канцылярскі працэс. Тут таксама большасць складае лексіка лацінскага паходжання: *актыкацыя (актикация)* 'занясенне дакумента ў актавую кнігу' 1625<пол. *aktykacja* (<слац. *acticatio*, SW I 20); *актыковати (актиковати)* 'уносіць дакумент у актавую кнігу' 1596<стп. *aktykować* (1594, SP I 99<лац. *acticare*, SJP I 65); *атра-*

*ментъ* 'чарніла' 1699<стп. *atrament* (1472, SSt I 43<лац. *ātrāmentum,* Mosz. 163); *бибула* 'абгортачная папера, прамакатка' 1690<стп. *bibuła* (XVIII ст., L I 97<лац. *bibula,* ад *bibulus* 'здольны ўсмоктваць', SWO 78); *виценотарий* 'памочнік пісара' 1720<лац. *vice* 'замест' + *notārius,* параўн. *нотарий; вицерегентъ* 'намеснік начальніка канцылярыі' 1689<стп. *wicegerent, wicesregent* (XVI ст., SPK, P I 584<лац. *vicesgerens, -ntis,* Mosz. 211); *инкаустъ (инкавстъ)* 'чарніла' 1588<стп. *inkaust* (XV ст., SSt III 32<слац. *incaustum,* ад лац. *encaustum* <гр. ἔνκαυστον, SłSE I 460); *инсеровати* 'далучаць, упісваць' 1657<стп. *inserować* (1594, SP VIII 550<лац. *īnserere,* SWO 308); *инферовати* 'уносіць' 1598<стп. *inferować* (1588, SP VIII 541<лац. *īnferre,* SW II 92); *каламаръ (калямаръ, коломаръ)* 'чарніліца' 1589<стп. *kałamarz* (1500, SSt III 229<лац. *calamārius,* SłSE II 34); *канцелярия (канцелерея, канцелерия, канцелерыя, канцеллярия, канцелярея, канцелярыя, канслерия, канслерыя, канцлария, канцларыя, канцлерея, канцлерия, канцлерыя, канцлярея, канцлярыя, канцлярэя)* 'канцылярыя' 1503<стп. *kancelaryja, kancellaryja* (1410, SSt III 234<слац. *cancellaria,* SłSE II 43); *квитовати* 'выдаваць квітанцыю' 1536<стп. *kwitować* (XV ст., SSt III 479 <слац. *quitare,* SłSE III 499); *кгалясъ (галясъ)* 'чарнільны арэшак' 1679<стп. *galas* (1564, LWK II 239< лац. *galla,* SłSE I 251); *кграпка* 'грыфель' к. XV ст.< стп. *grafka* (XIV ст.<SSt II 483<лац. *graphium,* BrSE 155); *конотовати* 'рабіць паметы' 1671<пол. *konotować* (<лац. *co-* 'разам'+*notāre,* SłSE II 426), параўн. *нотовати; корыкговати (кориговати, корикговати, корыговавати)* 'папраўляць, звяраць' 1582<стп. *korrygować* (1583, SP X 657<лац. *corrigere,* SłSE II 486); *кустодия (кустодея, кустодыя)* 'частка паперы, якой закрывалася пячатка ў дакуменце' 1544<стп. *kustodyja* (XVI ст., SPK< лац. *custōdia* 'ахова', SłSE III 430); *нотарий* 'пісар' 1653 <стп. *notaryjusz* (XVI ст., SPK<слац. *notarius,* SWO 515); *нотовати* 'запісваць, рабіць паметы' 1689<стп. *notować* (XVI ст.. SPK<лац. *notāre,* SWO 516); *паркгаминъ (паргаменъ, паргаминъ, паркгаменъ, пергаменъ, перкгаминъ, поркгаминъ)* 'пергамент' 1395<стп. *pargamin, pergamin* (XV ст., SSt VI 67, SPK<лац. *pergamēna,* ад гр. περγαμηνός, Mosz. 196) і непасрэдна лац.; *реентъ* 'начальнік канцылярыі' 1677<стп. *regent, rejent* (XVI ст.,

SPK<лац. *regēns, -ntis,* Mosz. 202); *секретарь (секлетаръ, секрэтаръ, сэкрэтаръ)* 'сакратар' 1496<стп. *sekretarz* (XVI ст., SPK<слац. *secretarius,* Mosz. 205) і непасрэдна слац.; *секстернъ* 'сшытак' п. XVII ст.<стп. *sekstern* (XVI ст., SPK<слац. *sexternus,* SWO 673); *формацыя* 'фармаванне, кампанаванне' 1679<пол. *formacja* (<лац. *fōrmātio,* SWO 228); *шкрипторъ* 'пісар' 1615< стп. *skryptor* (XVI ст., SPK<лац. *scrīptor,* SJP VIII 354).

У значна меншым маштабе ўзбагацілася разгледжаная група старабеларускай канцылярскай лексікі за кошт іншых моў. Зусім абмежаваным быў уклад у старабеларускі слоўнік уласнапольскай лексікі: *выенце (выенте)* 'выйманне дакумента з актавай кнігі' 1681<стп. *wyjęcie* (Сп 1314); *кглиозовати* 'папраўляць памылкі' 1651<стп. *glozować* (1564, SP VII 358, ад *glosa*<лац. *glōssa,* SWO 254); толькі адна лексема пранікла праз польскае пасрэдніцтва з нямецкай мовы: *паперъ (папиръ)* 'папера' 1453<стп. *papier, papir* (XVI ст., SPK< ням. *Papier,* ад лац. *papȳrus*<гр. *πάπυρος,* SWO 548); у пачатку XVIII ст. атрымала пашырэнне адно слова цюркскага паходжання: *сургучъ* 'сургуч' 1713<рус. *сургуч* (XVIII ст., ССРЛЯ XIV 1210<тат. *surguč,* Дмит. 31, Шип. 293).

## IV. ВАЕННАЯ ЛЕКСІКА

У слоўнікавым саставе старабеларускай мовы прыкметна выдзяляецца разрад ваеннай лексікі, у якім побач са словамі, унаследаванымі ад старажытнарускай эпохі або ўтворанымі ў перыяд самастойнага развіцця беларускай мовы, значнае месца належыць запазычанням. Пранікненне гэтага тыпу лексікі ў беларускі слоўнік было абумоўлена ў большасці выпадкаў практычнай неабходнасцю развіцця лексічных сродкаў для намінацыі розных рэалій і паняццяў, якія з'яўляліся ў сувязі з удасканальваннем армейскай структуры Вялікага княства Літоўскага, зменамі ў галіне ваеннай стратэгіі і тактыкі, выкарыстаннем новых відаў агнястрэльнай і халоднай зброі, якая ўвозілася з-за мяжы або выраблялася па чужаземных узорах.

Паколькі непасрэдным прыкладам для воінскіх сіл Вялікага княства Літоўскага ў многіх адносінах служыла польская армія таго часу, то зусім зразумелым з'яўляецца факт, што сярод запазычанай лексікі ваеннага

характару асобнае месца ў старабеларускай мове належала паланізмам. Разам з тым неабходна адзначыць, што развіццё старабеларускай лексічнай сістэмы наогул працякала пад адчувальным уздзеяннем польскай мовы, якое асабліва ўзмацнілася з другой палавіны XVI ст. У выніку з'явілася спрыяльная глеба для пранікнення ў беларускую мову не толькі ваенных тэрмінаў, якія знаходзілі практычнае прымяненне ў спецыфічна ваенных і бытавых зносінах, але і ўласцівых польскай мове слоў, што характарызавалі ваенную справу іншых краін у розныя гістарычныя перыяды.

Другі адчувальны струмень ваеннай тэрміналогіі ішоў у беларускую мову, таксама як у рускую і ўкраінскую, з усходу, ад цюркскіх народаў, частыя ўзброеныя сутычкі з якімі, а ў гады ваеннага зацішша — дыпламатычныя і гандлёвыя сувязі не перапыняліся ўсходнімі славянамі на працягу ўсяго старажытнага перыяду.

У семантычных адносінах запазычаная ваенная лексіка старабеларускай мовы размяркоўваецца па трох прадметна-тэматычных групах. Першую групу складаюць назвы ваеннаслужачых, военачальнікаў, збройнікаў і іншых асоб, звязаных з ваеннай справай. У большасці сярод іх выступаюць лексемы нямецкага паходжання, запазычаныя пераважна праз польскае пасрэдніцтва: *адъютантъ (адютантъ)* 'ад'ютант, памочнік' 1711<пол. *adjutant* (XVIII ст., L I 5<ням. *Adjutant,* ад лац. *adiutans, -ntis,* SWO 6); *вахмистръ* 'вахмістр, ахоўнік' 1682< стп. *wachmistrz* (XVII ст., P II 569<ням. *Wachtmeister,* SWO 796); *гетманъ (етманъ, гэтманъ, гэтьманъ)* 'гетман' 1499<стп. *hetman, etman* (1429, SSt II 542< снн. *hovetman,* свн. *houbetman,* MoszG 59, магчыма, праз стч. *hejtman,* Recz. 66); *драбантъ (драбанъ)* 'целаахоўнік' 1565<стп. *drabant* (1560, SP VI 2 <ням. *Drabant,* BrSE 95); *жолнеръ (желнеръ, жовнеръ, жолнэръ, зовнеръ, золнеръ)* 'салдат, воін' к. XV ст.<стп. *żołnierz* (XV ст., SStK <свн. *soldnaere,* MoszG 79); *кватермистръ* 'кватэрмайстар' 1601<стп. *kwatermistrz* (XVII ст., L II 566<свн. *quattermeister,* SłSE I 473); *кнэхтъ* 'салдат нямецкай пяхоты, наёмнік' 1574<стп. *knecht* (1563, SP X 429<ням. *Knecht,* BrSE 239); *оберстерлейтенантъ (оберштлейтмантъ)* 'падпалкоўнік' 1667<стп. *oberszterletmant, obersztlejtnant* (XVII ст., P II 10<ням. *Oberstleutnant,* SłSE IV 123) і непасрэдна ням.; *офицеръ (официеръ)* 'афіцэр'

1638<стп. *oficer, oficyjer* (XVII ст., P II 45<ням. *Offizier,* SWO 522); *платнеръ* 'збройнік' 1498<стп. *płatnerz, płatnierz* (1418, SSt V 164<ням. *Plattner,* BrSE 420); *райтаръ (рейтаръ)* 'кавалерыст; разбойнік' 1578<стп. *rajtar* (1455, SSt VII 431<ням. *Reiter,* SWO 625) і непасрэдна ням.; *ротмистръ* 'камандзір роты' 1507<стп. *rotmistrz* (1497, SSt VII 499<свн. *rotemeister,* MoszG 70); *фребиторъ* 'пірат, карсар' 1571<стп. *frejbiter* (1573, SP VII 133<ням. *Freibeuter,* BrSE 127); *цейквартъ* 'начальнік арсенала' 1670<стп. *cejgwart, cekwart* (1570, SP III 143<ням. *Zeugwart,* SW I 259); у якасці экзатызма ўжываўся ў старабеларускай мове германізм *фертмаршалокъ (фертмаршалъ)* 'военачальнік у нямецкай арміі' 1710<пол. *feldmarszałek, fertmarszałek, feldmarszał* (SW I 730<ням. *Feldmarschal(k),* BrSE 120) і непасрэдна ням.

Са слоў уласнапольскага паходжання або ўтвораных у польскай мове на аснове іншамоўнага каранясловa пры дапамозе польскіх словаўтваральных сродкаў старабеларуская мова запазычыла наступныя лексічныя адзінкі: *бранецъ* 'ваеннапалонны; рэкрут' к. XVI ст. < стп. *braniec* (SP II 415); *жолдакъ* 'наёмны салдат' 1638 <стп. *żołdak* (XVI ст., SPK, ад *żołd,* SWO 816); *звытяжца (витяжца, зветяжца, звитяжца, звитязца, звитежца, звитезца, звытязца)* 'пераможца' к. XV ст.<стп. *zwyciężca, zwycięzca, wycięzca* (SStK, SPK); *крижакъ (крыжакъ)* 'крыжаносец' п. XVII ст.<стп. *krzyżak* (SPK); *отпорца* 'праціўнік' 1653<стп. *odporca* (SSt V 488); *полковникъ (пулковникъ)* 'палкоўнік' 1603<стп. *półkownik* (Сп 766); *поручникъ* 'паручнік' 1711<стп. *porucznik* (SPK); *пушкаръ* 'артылерыст; збройнік' 1486 <стп. *puszkarz* (SSt VII 403); *рейментаръ (региментаръ, рекментаръ)* 'намеснік гетмана' 1645<стп. *regimentarz, rejmentarz* (XVII ст., P II 309, ад *regiment,* SJP VII 899); *хоронжий (хорунжий)* 'харунжы' 1579< стп. *chorąży* (SSt I 246), пад польскім уплывам, відавочна, і варыянты *хоружий, хоружый* 'т. с.' 1488.

Праз польскае пасрэдніцтва было запазычана таксама некалькі чэхізмаў: *валечникъ* 'воін, барацьбіт' п. XVI ст.<стп. *walecznik* (XV ст., SStK<стч. *válečník,* Recz. 76); *герциръ (герцыръ)* 'лёгка ўзброены воін, які выязджаў на паядынак перад бітвай' 1595<стп. *harcerz* (XV ст., SSt II 540<стч. *harcieř,* ад ствн. *hartschier,*

*hertschier,* SłSE I 404); *драбъ* 'наёмны воін; пехацінец' 1462<стп. *drab* (1533, SJC 25<стч. *dráb,* SłSE I 160) і непасрэдна стч.; *ширмеръ (шерметъ, шырмеръ)* 'воін, які дасканала валодаў халоднай зброяй' п. XVII ст.< стп. *szermierz, szyrmierz* (XV ст., SStK<стч. *šermiř,* SWO 729); слоў венгерскага паходжання: *гайдукъ* 'салдат венгерскай пяхоты' 1568<стп. *hajduk* (1564, SP VIII 281<венг. *hajdúk,* SłSE I 382); *гусаръ* 'гусар; разбойнік' 1697<стп. *husarz* (XVI ст., SP VIII 376<венг. *huszár,* SłSE I 439); *кгермекъ (гермокъ)* 'збраяносец' 1567 <стп. *giermek* (1500, SSt II 413<венг. *gyermek,* SłSE I 278).

Параўнальна невялікай у гэтай групе ваеннай лексікі была колькасць слоў раманскага паходжання, з якіх частка была запазычана праз польскае пасрэдніцтва: *дракгонъ (драганъ, драгонъ, драгунъ, дракгунъ)* 'драгун' 1638<стп. *dragon, dragan, dragun* (1621, P I 169< фр. *dragon,* SJP II 345); *кавалеръ* 'рыцар' 1685<стп. *kawaler* (1568, SP X 181<іт. *cavaliere,* SłSE II 105); *кавалкаторъ* 'наезнік' 1627<стп. *kawalkator* (1575, SP X 181<іт. *cavalcatore,* SłSE II 106); *капитанъ* 'капітан' п. XVII ст.<стп. *kapitan* (XVI ст., SP X 78<слац. *capitaneus,* іт. *capitano,* SłSE II 56); *капляръ (капрель)* 'капрал' 1686<стп. *kapral* (XVII ст., P I 297<фр. *caporal,* іт. *caporale*, відаць, праз ням. дыял. *Kapral,* SłSE II 59), а астатнія праніклі ў пачатку XVIII ст. з рускай мовы: *гринадеръ* 'грэнадзёр' 1711<рус. *гренадер* (1698 <ням. *Grenadier*<фр. *grenadier,* ЭСРЯ I-4 167); *салдатъ* 'салдат' 1710<рус. *солдат* (1614, Koch. 45<ням. *Soldat* <іт. *soldato,* КЭС 420); *сержантъ (саржантъ)* 'сержант' 1711<рус. *сержант* (XVII ст.<ням. *Sergeant*<фр. *sergent,* Фасм. III 608); *фурьеръ* 'фуражыр, кватэрмайстар' 1714<рус. *фурьер* (<ням. *Furier*<фр. *fourrier,* Фасм. IV 212).

У групе назваў асоб, звязаных з ваеннай справай, толькі адзінкавымі аказаліся запазычаныя праз польскае пасрэдніцтва словы лацінскага паходжання: *волюнтариушъ* 'добраахвотнік' 1634<стп. *woluntaryjusz* (XVI ст., SPK<лац. *voluntārius,* Mosz. 212); *майоръ (маиоръ)* 'маёр' 1699<стп. *major* (XVII ст., Ryb. 63< лац. *maior* 'старшы', SWO 445); *пиратъ* 'пірат' п. XVII ст.<стп. *pirat* (XVI ст., SPK<лац. *pīrāta,* ад гр. πειρατής, Mosz. 198); *триумфаторъ* 'пераможца' 1615<

стп. *tryumfator* (XVII ст., P II 506<лац. *triumphātor*, Ryb. 92); *центурия* 'сотнік у старажытнарымскай арміі' к. XV ст.<стп. *centuryjo* (1455, SSt I 218<лац. *centurio*, Mosz. 165). Пры гэтым апошняе выступала ў якасці экзатызма.

Нарэшце, рознымі шляхамі ў старабеларускі ваенны слоўнік пранікла некалькі слоў цюркскага паходжання: *есаулъ (асаулъ, ясаулъ)* 'есаул, казацкі чын пасля гетмана' 1590<струс. *есаулъ, ясаулъ* (1501, СРЯ V 59< тат. *jasoul*, ЭСРЯ I-5 284) і непасрэдна тат.; *козакъ (казакъ)* 'казак' 1499<стукр. *козакъ*, струс. *казакъ* (1395, Срез. I 1173<асм.-тур., кр.-тат. *kazak*, Фасм. II 158) і непасрэдна кр.-тат.; *яничаръ (янчаръ)* 'янычар' п. XVII ст.<стукр. *яничаръ* (<асм.-тур. *yeničeri*, Рог. 178) і стп. *janczar* (1564, SP IX 260<асм.-тур., SłSE I 499).

Другую групу запазычанай старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовай ваеннай лексікі ўтвараюць словы, якія характарызуюць арганізацыю ваеннай справы, армейскую структуру і фартыфікацыйныя збудаванні, паняцці ваеннай стратэгіі і тактыкі. У ліку іх, таксама як і ў першай групе, большасць складаюць лексічныя адзінкі нямецкага паходжання: *бланкъ (обламокъ, обланокъ)* 'зубец замкавай вежы; агароджанае месца' к. XV ст.<стп. *błank, blank* (1449, SSt I 98, SP II 199< свн. *planke, blanke*, MoszG 53); *блякаузъ* 'блакгауз, абаронны будынак з драўляных блокаў' 1574<стп. *blokus, blokauz* (XVI ст., SP II 189<ням. *Blockhaus*, SWO 87); *буркгъ* 'замак' п. XVII ст.<ням. *Burg* (НРС 178); *бутынокъ* 'ваенны трафей' 1552<стп. *butynek* (1393, SSt I 97 <свн. *biutunge*, MoszG 54); *варта* 'варта, каравул' 1552 <стп. *warta* (XVI ст., SPK<ням. *Warte*, SWO 880); *вахта* 'дзяжурства, ахова' 1568<стп. *wachta* (XVI ст., SPK<свн. *wachte*, Zajda 84); *герстъ (герштъ)* 'пярэдняя лінія войск; важак банды' п. XVII ст.<стп. *herst, herszt* (1543, SP VIII 344<свн. *hērst, hērist*, SłSE I 417); *гуфъ (уфъ)* 'воінскае падраздзяленне' к. XV ст.<стп. *huf, uf* (1449, SSt II 546<свн. *hūfe*, SłSE I 432); *жолдъ* 'плата для ваеннаслужачых' к. XV ст.<стп. *żołd* (XV ст., SStK<ням. *Sold*, BrSE 665); *квартира* 'вайсковы пастой' 1713<рус. *квартира* (1707, ОИЛ 368<ням. *Quartier*, КЭС 192); *кгвардыкгардыя (гвардыгардыя, кгвардыкгарда)* 'памяшканне для ваеннага каравула'

1695<стп. *kordegarda* (XVII ст., ад іт. *corte di guarda,* фр. *corps de garde,* BrSE 257), пад уплывам *гвардия* (Фасм. II 324); *рота* 'рота, атрад войска' 1516<стп. *rota* (1455, SSt VII 499<свн. *rote, rotte,* ад лац. *rupta, rutta,* MoszG 70); *форпостъ* 'перадавая ахова' 1685<ням. *Vorposten* (HPC 895); *цекавзъ (цевкавзъ, цеикгаусъ, цейхаузъ, цейхгаузъ, цеквазъ; цекавза)* 'месца хавання зброі; месца зняволення' 1566<стп. *cekauz, cajghaus* (1595, SP III 143<ням. *Zeughaus,* BrSE 55) і непасрэдна ням.; *цофнутися* 'адступіць' 1603<стп. *cofnąć się* (1563, SP III 652<ням. *zaufen,* SłSE I 107); *шанецъ* 'акоп, вал' 1568<стп. *szaniec* (XVI ст., SPK<ням. *Schanze,* BrSE 540); *шиковати (шиховати, шыковати, шыховати)* 'рыхтаваць да бітвы, строіць атрад войска' 1538<стп. *szykować* (XV ст., SStK<свн. *schicken,* MoszG 75); *шикъ (шихъ, шыхъ)* 'парадак, строй' 1529< стп. *szyk* (XV ст., SStK<свн. *schick,* MoszG 75); *шпица* 'атрад войска' п. XVI ст.<стп. *szpica* (XVI ст., SPK< свн. *spitze,* MoszG 74); *штурмовати* 'штурмаваць' 1580 <стп. *szturmować* (XV ст., SStK<свн. *stürmen,* MoszG 74); *штурмъ* 'штурм' 1567<стп. *szturm* (XV ст., SStK< свн. *sturm,* MoszG 74).

Даволі вялікая ў гэтай групе ўдзельная вага лексем лацінскага паходжання, запазычаных пераважна праз польскае пасрэдніцтва: *башта (бакшта)* 'абаронная вежа' 1462<стп. *baszta* (1448, SSt I 70<слац. *bastia,* SJP I 370, магчыма, праз ням. *Bastei,* MoszG 52); *виктория* 'перамога' 1684<стп. *wiktoryja* (XVI ст., SPK<лац. *victōria,* Mosz. 212); *експедиция (експедыцыя, экспедиция, экспедыцыя)* 'ваенны паход' 1633<стп. *ekspedycyja* (1588, SP VI 539<лац. *expedītio,* Mosz. 170); *импетъ* 'напор, націск' 1674<стп. *impet* (XVII ст., P I 254<лац. *impetus,* Ryb. 42); *инкурсия (инкурсыя)* 'набег, напад' 1662<стп. *inkursyja* (1587, SP VIII 548<лац. *incursio,* Ryb. 44); *инкурсъ* 'набег, напад' 1676<стп. *inkurs* (XVII ст.<лац. *incursus,* Ryb. 44); *кастель* 'замак' п. XVII ст.<стп. *kasztel, kastel* (1500, SSt III 248, SP X 165 <лац. *castellum,* SłSE II 98); *когорта* 'воінскае падраздзяленне' 1766<пол. *kohorta* (<лац. *cohors, -tis,* SJP III 791); *консистенция* 'расквартараванне, пастой войска' 1686<стп. *konsystencyja* (XVII ст., P I 331<слац. *consistentia,* SłSE II 433); *мета* 'цэль' 1519<стп. *meta* (XVI ст., SPK<лац. *mēta,* Mosz. 191); *муницыя* 'абарон-

нае месца, фартыфікацыя' 1686<стп. *municyja* (XVI ст., SPK<лац. *mūnītio,* Mosz. 193); *окупацыя* 'захоп' 1602 <стп. *okupacyja* (1588, SPK<лац. *occupātio,* Mosz. 194); *порцыя* 'колькасць харчоў, прызначаная на пэўны час для воіна' 1699<стп. *porcyja* (XVI ст., SPK<лац. *portio,* Mosz. 199); *президия* 'каравул, гарнізон' 1678<стп. *prezydyjum* (XVII ст., Ryb. 75<лац. *praesidium,* SWOR 538); *региментъ (реиментъ)* 'камандаванне, кіраванне' 1598<стп. *regiment, rejiment* (XVI ст., SPK<лац. *regimentum,* Mosz. 202); *триумфъ (трыумфъ)* 'трыумф, урачыстасць з выпадку перамогі' 1580<стп. *tryumf* (XVI ст., SPK<лац. *triumphus,* Mosz. 210); *циркумстансъ* 'акружэнне' 1647<слац. *circumstans, -ntis* (SŁŚPK).

Прыкладна такім жа быў уклад уласнапольскай лексікі, у тым ліку слоў, утвораных на польскай глебе на базе іншамоўнага караняслова: *валка (валька)* 'бой, барацьба' 1434<стп. *walka* (SStK); *вальчити (валчити, валчыти, вальчыти)* 'змагацца, ваяваць' 1483<стп. *walczyć* (SStK); *вартовати* 'вартаваць' 1541<стп. *wartować* (XVI ст., SPK, ад *warta,* BrSE 601); *вытечка (витечка)* 'вылазка, паход' п. XVII ст.<стп. *wycieczka* (SPK); *дракгония (драгания, драгония, драгуния, дракгания, дракгуния)* 'драгуны, драгунскі атрад' 1645<стп. *dragonija, draganija* (XVII ст., P I 169, ад *dragon,* BrSE 95); *звытяжити (витяжити, зветежити, зветяжити, звитежити, звитенжити, звитяжити, звытенжити)* 'перамагчы' п. XVI ст.<стп. *zwyciężyć* (SStK); *звытяжство (витежство, витезство, витяжство, вытежство, зветезство, зветяжство, зветязство, звитежство, звитезство, звитество, звитяжство, звитязтво, звытежство, звытезство, звытество, звытязство, звытяство)* 'перамога' 1469<стп. *zwycięstwo, wycięzstwo, wycięstwo* (SStK); *натартье* 'атака' п. XVII ст.<стп. *natarcie* (SPK); *одвага (отвага)* 'адвага' 1616<стп. *odwaga* (XVI ст., SPK, ад *waga,* BrSE 598); *опановати* 'авалодаць, захапіць' 1563<стп. *opanować* (SPK); *отпартье* 'адпор' 1579<стп. *odparcie* (SPK); *пицовати* 'нарыхтоўваць харчы і фураж для войска' 1511<стп. *picować* (SPK); *побоиско* 'поле бою, пабоішча' п. XVII ст.<стп. *poboisko* (SPK); *поединокъ (поедынокъ)* 'паядынак' п. XVII ст.< стп. *pojedynek* (SPK); *поражка (поряжка)* 'паражэнне, разгром' 1501<стп. *porażka* (SSt VI 402); *потарчка (потаржка)* 'сутычка' п. XVII ст.<стп.

*potarczka* (SPK); *почотъ (почеѣтъ, почтъ, почштъ)* 'вайсковае падраздзяленне' 1506<стп. *poczet, poczt* (SPK); *примере* 'перамір'е' 1603<стп. *przymierze* (SPK); *утарчка (утаржка, уторчка)* 'сутычка; уварванне, напад' 1580 <стп. *utarczka* (SPK).

Звяртаюць на сябе ўвагу таксама некалькі слоў раманскага паходжання: *гвардия (гвардея)* 'гвардыя' 1638 <стп. *gwardyja* (1566, SP VIII 261<іт. *guardia*, SłSE I 383); *маршъ* 'марш' п. XVI ст.<ням. *Marsch* (<фр. *marche*, BrSE 324), параўн. пол. *marsz* (XVIII ст., L III 47); *тура* 'вежа, асадная вежа' 1563<пол. *tura* (<фр. *tour*, SWO 783); *фортеца (фортецыя)* 'крэпасць' 1663< стп. *forteca* (1588, SP VII 104<іт. *fortezza*, SłSE I 235); *фортъ* 'форт' п. XVII ст.<пол. *fort* (<фр. *fort*, BrSE 126); паасобныя лексемы чэшскага паходжання: *гарцовати (гарцевати)* 'гарцаваць; уступаць у паядынак перад строем войск' 1519<стп. *harcować* (1543, SP VIII 306<стч. *harcovati*, SłSE I 404) і непасрэдна стч.; *гасло* 'пароль; дэвіз, лозунг' 1562<стп. *hasło* (1500, SSt II 541<стч. *hesło*, Siat. I 130); лексічныя адзінкі венгерскага паходжання: *гарцъ (герцъ)* 'сутычка, паядынак' 1598<стп. *harc, herc* (1532, SP VIII 304<стч. *harc*< венг. *harc*, SłSE I 403); *чата* 'перадавы атрад, варта' п. XVII ст.<стп. *czata* (1583, SP IV 106<венг. *csata*, SłSE I 114); *шеренгъ* 'шарэнга' 1599<стп. *szereg, szeręg* (XVII ст., P II 442<венг. *sereg*, SWO 729), параўн. рус. *шеренга* (1700, Фасм. IV 429).

У параўнанні з заходнім уплывам зусім слабым аказалася ўздзеянне на гэту групу ваеннай лексікі старабеларускай мовы з боку цюркскіх моў. Фактычна тут можна назваць толькі дзве лексемы цюркскага паходжання: *чамбулъ* 'атрад татарскага войска' 1689< стукр. *чамбулъ* (XVII ст.<тат. *čapul*, Рог. 177); *ясыръ (ясиръ)* 'ясыр, палон; ваенная здабыча' 1653<стукр. *ясиръ* (XVII ст., Рог. 177<кр.-тат., асм.-тур. *jäsir*, ад ар. *esir*, Радл. III 377) і непасрэдна кр.-тат.

Да трэцяй групы запазычаных старабеларускай мовай лексем ваеннага характару адносяцца назвы воінскага ўзбраення і амуніцыі, частак і дэталей агнястрэльнай і халоднай зброі, кідальных снарадаў і ваенных прыстасаванняў. Як і ў іншых групах ваеннай лексікі, тут у большасці выступаюць словы нямецкага паходжання: *бардебушка* 'від стрэльбы' 1586<стп. *berdebuszka* (1592,

L I 72, ад *berdysz*+ням. *Büchse,* BrSE 21); *барта (барда)* 'бярдыш з кароткім дзяржаннем' 1582<стп. *barta, barda* (1472, SSt I 67<свн. *barte,* ствн. *barta,* MoszG 52); *белтъ (болтъ)* 'страла да самастрэла' п. XVII ст.<стп. *belt* (1426, SSt I 73<ствн. *bolz,* свн. *bolte,* MoszG 53); *галябарда (алябарда, алябарта)* 'алебарда' 1522<стп. *halabarda, alabarta* (1500, SSt II 536<свн. *helbarte,* ням. *Hellebarde, Hellebarte,* SłSE I 394); *гарношъ (горнашъ)* 'панцыр' п. XVI ст.<стп. *harnasz* (1393, SSt II 540<свн. *harnas, harnasch,* MoszG 59); *геваръ* 'прыстасаванне для напінання цецівы самастрэла' 1515<стп. *hewar* (1500, SSt II 543<ням. *Heber,* SłSE IV 187); *гелмъ (гэлмъ)* 'шлем' п. XVI ст.<стп. *helm* (XIV ст., SSt II 542<свн. *helm,* SłSE I 414); *кантанъ* 'цяжкая асадная гармата' 1587<стп. *kartan* (1569, SP X 155<ням. *Kartaune,* SWO 344); *кглиотъ* 'буйны шрот, куля' 1566<стп. *glot* (1494, SSt II 417<ням. *Gelöte,* BrSE 142); *кгранатъ* 'разрыўны снарад; гармата для стральбы разрыўнымі снарадамі' к. XVI ст.<стп. *granat* (1560, SP VIII 93<ням. *Granate,* іт. *granata,* SłSE I 339); *куля* 'куля' 1566<стп. *kula* (1461, SSt III 461<свн. *kūle,* SłSE III 339); *ладунокъ (ледунокъ, лядунокъ)* 'набой; груз, запас' 1585<стп. *ładunek* (XVI ст., SPK<свн. *ladunge,* ням. *Ladung,* SłSE IV 422); *лионтъ* 'запальны шнур' 1679<стп. *lont* (XVII ст., P I 378<ням. *Lunte,* SłSE IV 332); *лявета* 'лафет' 1695<пол. *laweta* (1776, L II 604<ствн. *lavete,* ад фр. *l'affût,* SłSE IV 30) і непасрэдна ням.; *палашъ* 'палаш' 1582<стп. *pałasz* (1621, Cn 661<ням. *Pallasch,* ад венг. *pallos,* SJP VI 50) і непасрэдна ням.; *панцеръ (пансыръ, панциръ, панцыръ, панцэръ)* 'панцыр' 1441<стп. *pancerz* (1359, SSt VI 22<свн. *panzier, panzir,* MoszG 68) і непасрэдна свн.; *рыштунокъ (ринштунокъ, риштунокъ, рынштунокъ)* 'амуніцыя, рыштунак' 1530<стп. *rysztunek, rynsztunek* (XVI ст., SPK<ням. *Rüstung,* SJP VII 1439); *серпентына (серпантынъ, серпентынъ)* 'від сярэдневяковай гарматы; крывая шабля' 1532<стп. *serpentyna* (XVII ст., PSDP 442<ням. *Scharfentin,* ад лац. *serpentīnus* 'змяіны', SWO 679); *слесакъ* 'замок стрэльбы' 1686<пол. *ślusak* (SW VI 734<ням. *Schloß,* HPC 722); *списа* 'піка' п. XVII ст.<стп. *spisa* (XVI ст., SPK<ням. *Spiess,* BrSE 509); *тарча (тарчъ, тарчь, тарца)* 'шчыт' к. XV ст.<стп. *tarcza, tarcz* (XV ст., SStK<свн. *tartsche,* ад стфр. *targe,* MoszG 75); *цынкгель* 'спу-

скавы кручок' 1684<стп. *cyngiel* (XVII ст., P I 103<ням. *Zügel*, SWO 126); *шефелинъ (шафалина, шафелина)* 'піка' п. XVII ст.<стп. *szefelin, szafelin* (XVI ст., SPK< стч. *šefelín*<ням. *Schäfelein*, SJP VIII 1072); *штурмгабъ* 'від шлема' 1567<пол. *szturmhab* (<ням. *Sturmhaube*, BrSE 556) і непасрэдна ням.; *штыхъ* 'вастрыё шаблі' 1541<стп. *sztych* (XVI ст., SPK<ням. *Stich*, BrSE 556).

Акрамя слоў нямецкага паходжання даволі вялікая колькасць назваў зброі была запазычана праз польскае пасрэдніцтва з раманскіх моў: *аркабузъ (аркгабузъ, гаркабузъ, горкабузъ)* 'аркебуза' 1550<стп. *arkabuz, harkabuz* (1544, SP I 216<фр. *arquebuse*, ад ням. *Hackenbüchse*, SJP I 202); *бандолетъ (бандалетъ, бендолетъ, бондалетъ)* 'кароткаствольны мушкет' 1631<стп. *bandelet, bandolet* (XVII ст., P I 28<фр. *bandelette*, SWO 67); *дакга* 'штылет' п. XVII ст.<стп. *daga* (1564, SP IV 458< іт. *daga*, SJP XI 99); *дарда* 'кап'ё' п. XVII ст.<стп. *darda* (1596, SP IV 502<фр. *dard*, іт. *dardo*, SJP II 24); *карабинъ* 'карабін' 1616<стп. *karabin* (1620, IM 586< фр. *carabine*, SłSE II 64); *кирисъ* 'кіраса' 1627<стп. *kirys* (1563, SP X 329<свн. *küriss, kürasz*<фр. *ciurasse*, SłSE II 172); *куша* 'самастрэл, арбалет' 1469<стп. *kusza* (XV ст., SSt III 473<стч. *kuše*<фр. *couche*, SWOR 382); *мушкетъ* 'мушкет' 1616<стп. *muszkiet* (XVI ст., SPK<фр. *mousquet*, SJP IV 914); *павеза (павежа, павэза, повеза)* 'шчыт' 1517<стп. *paweza, paweża* (1466, SSt VI 58<іт. *pavese*, Lin. 42); *пистолетъ (пиштолетъ)* 'пісталет' 1616<стп. *pistolet* (1621, Сп 703<фр. *pistolet*, SJP VI 420); *пуйналъ* 'штылет' 1588<стп. *puginał, puinał* (XVI ст., SPK<іт. *pugnale*, BrSE 447); *пуклеръ (куплеръ, фуклеръ)* 'невялікі круглы шчыт' 1498<стп. *puklerz* (1471, SSt VII 397<фр. *bouclier*, SJP VII 719); *таранъ* 'таран' п. XVII ст.<стп. *taran* (XVI ст., SPK<іт. *taranto*, SWO 745); *фузыя* 'від старажытнай стрэльбы' 1697<стп. *fuzyja* (XVII ст., L I 681<фр. *fusil*, SłSE I 243); *шпада* 'шпага' 1586<стп. *szpada* (XVI ст., SPK< іт. *spada*, SWO 732).

Пэўным пластом выступаюць у гэтай групе ваеннай лексікі словы ўласнапольскага паходжання: *бронь* 'зброя' 1434<стп. *broń* (SSt I 163); *влочня* 'кап'ё' п. XVI ст.<стп. *włócznia* (SPK); *дело (дзяло)* 'гармата' 1511<стп. *działo, dzieło* (SSt II 290); *зброя* 'зброя' 1494 <стп. *zbroja* (SStK); *кгротъ (гротъ)* 'наканечнік кап'я;

дроцік' 1518<стп. *grot* (SP VIII 152); *кгулдынка* 'ад стрэльбы' 1690<стп. *guldynka* (P I 238); *кросъ* 'прыстасаванне для запальвання пораху ў старажытных стрэльбах' 1582<стп. *krzos* (SPK); *кроцица (кроцыца)* 'старажытны пісталет з кароткім ствалом' 1663<стп. *krocica* (L II 497); *курекъ (курокъ)* 'курок' 1565<стп. *kurek* (SPK); *ладовница (ледовница, лядовница)* 'патранташ, патронная сумка' 1617<стп. *ładownica* (IM 595); *мультанъ (мултанъ)* 'кароткі двухбаковавостры меч' 1580< стп. *multan* (1500, SSt IV 363, ад *Multany* 'Малдавія', SWO 495); *ощепъ (ощэпъ)* 'кап'ё' 1510<стп. *oszczep* (SSt V 681); *плазъ* 'плоскі бок шаблі' 1539<стп. *płaz* (SPK); *потискъ* 'кідальны снарад' 1580<стп. *pocisk* (SPK); *похва* 'ножны' 1556<стп. *pochwa* (SSt VI 202); *прилбица (прильбица, прылбица, прыльбица)* 'шлем з забралам, забрала' 1469<стп. *przyłbica* (SPK); *пулгакъ (полгакъ)* 'стрэльба сярэдняй велічыні' 1582<стп. *pulhak* (SPK).

Сярод заходніх запазычанняў старабеларускай мовы ў галіне назваў зброі і вайсковай амуніцыі адзначаецца некалькі лексем лацінскага паходжання: *армата (гармата, ормата)* 'гармата, артылерыя; зброя; ваенна-марскі флот' 1494<стп. *armata, harmata* (1564, SP I 217< слац. *armata,* Mosz. 162) і непасрэдна слац.; *бардышъ (бардишъ, бердышъ)* 'бярдыш' 1633<стп. *bardysz, berdysz* (1621, Cп 15<слац. *barducium,* SWO 76); *карацына (карацена)* 'панцыр' п. XVII ст.<стп. *karacyna, karacena* (1584, SP X 108<слац. *corazina,* Mosz. 181); асобныя словы чэшскага паходжання: *гаковница (гоковница, гроковница)* 'стрэльба з доўгім ствалом і кручком каля прыклада' 1514<стп. *hakownica* (1471, SSt II 535<стч. *hákovnice,* Recz. 63, ад свн. *hākenbühse,* SłSE I 393); *дека* 'штылет' 1445<стп. *deka* (1450, SSt II 47<стч. *deka,* SJP XI 99) і непасрэдна стч.; *капалинъ (капалынъ)* 'шлем' 1539<стп. *kapalin* (1471, SSt III 235<стч. *kapalin,* ад фр. *capeline,* SWO 337); *ручница* 'мушкет' 1510<стп. *ruсznica* (1478, SSt VIII 49<стч. *ručnice,* BrSE 469); некалькі венгерскіх слоў: *кордъ* 'кароткі меч' 1434<стп. *kord* (1279, SSt III 346<венг. *kard,* ад перс. *kārd,* BrSE 256); *шабля* 'шабля' 1533<стп. *szabla* (XV ст., SStK<венг. *szablya,* BrSE 538); *шишакъ (шышакъ)* 'від шлема' 1565<стп. *szyszak* (XV ст., SStK< венг. *sisak,* BrSE 562) або цюрк. *šiš*+афікс *-ak.*

Больш значнай у параўнанні з іншымі групамі ваеннай лексікі старабеларускай мовы аказалася сярод запазычаных назваў зброі і вайсковай амуніцыі ўдзельная вага лексічных сродкаў усходняга паходжання: *бехтеръ* 'панцыр з металічных плітак' 1539<цюрк. *bekter* (Zaj. 49); *бунчукъ* 'бунчук' 1582<стукр. *бунчукъ* (<кр.-тат. *bunčuk,* Рог. 184) і непасрэдна кр.-тат.; *гамалия* 'патранташ' 1601<асм.-тур. *hamaili* 'амулет', *hamal* 'насільшчык' (<ар. *hämāʼilī, hämmāl,* BrSE 4, St I 88); *дзида* 'піка' 1710<стп. *dzida* (1621, L I 595<асм.-тур. *džida,* SłSE I 192); *кгинчалъ* 'кінжал' 1588<цюрк., параўн. асм.-тур., кр.-тат. *χanǯär,* карач. *χindžal* (Фасм. II 234); *кистень (кестень)* 'кісцень' 1540<струс. *кистень* (1526, КЭС 195<тат. *kistän* 'кій', Фасм. II 240); *ковчанъ* 'калчан' 1653<струс. *колчанъ* (1589, Срез. I 1259<тат. *kalčan,* башк. *kaljan,* Фасм. II 298, ОдинИ 101—104); *кончеръ (концеръ)* 'цяжкі доўгі меч' 1567<стп. *koncerz, konczerz* (1464, SSt III 326<стч. *končieř*<тур. *chandžär, kandžar,* SłSE II 408); *корабеля* 'крывая шабля' 1621< стп. *karabela* (1497, SSt III 240<ар. *Ķerbela* — назва горада ў Іраку', SłSE II 64); *мисурка* 'шлем з жалезнай сеткай, якая закрывае плечы' 1616<стп. *misiurka* (XVII ст., L III 127<асм.-тур. *Misir* 'Егіпет', ад ар. *misr* 'т. с.', BrSE 338, St I 117); *мусатъ* 'сталь для вастрэння шабель' 1563<стп. *musat* (1595, IM 600<тур. *masad,* BrSE 349); *наджакгъ (наджчакъ, надзакъ)* 'баявая сякера' 1576<стп. *nadziak* (XVII ст., L III 228< асм.-тур. *nadžak,* SJP IV 1038) і непасрэдна асм.-тур.; *сагайдакъ (саадакъ, сайдакъ, согайдакъ, согойдакъ)* 'футляр разам з калчанам і стрэламі' 1516<струс. *саадакъ, сайдакъ, сагайдакъ,* стукр. *сайдакъ, сагайдакъ* (XV ст.<тур. *sagdak, saydak,* тат. *saγdak,* Фасм. III 543, Рог. 179) і непасрэдна кр.-тат.; *тафтуй* 'футляр на лук' 1615<чаг. *taktuk, taχtuk* 'калчан' (Фасм. IV 29).

## V. САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЯ ЛЕКСІКА

Даволі значнай ступені развіцця дасягнуў у старабеларускай лексічнай сістэме разрад сацыяльна-эканамічнай лексікі. Яго пастаяннае папаўненне адбывалася на працягу ўсяго перыяду функцыяніравання старабеларускай мовы пераважна за кошт запазычанняў, што з'яўлялася непазбежным вынікам узмацнення эканаміч-

ных і гандлёвых кантактаў Вялікага княства Літоўскага з суседнімі і больш аддаленымі тэрытарыяльна краінамі. Паколькі найбольш цесныя эканамічныя сувязі падтрымліваліся на працягу XV—XVII стст. з Польшчай, зусім натуральна, што асноўная частка запазычанняў фінансава-камерцыйнага характару ішла з польскай мовы, у якой, дарэчы, сацыяльна-эканамічная тэрміналогія была больш дасканалай, увабраўшы ў сябе шматлікія спецыяльныя тэрміны з лацінскай, нямецкай і раманскіх моў. Некаторыя іншамоўныя лексемы сацыяльна-эканамічнага характару замацаваліся ў старабеларускай мове дзякуючы пашырэнню грамадскіх функцый сярэдневяковай латыні на беларускіх землях, а таксама развіццю гандлю з немцамі, чэхамі, а на ўсходзе асабліва з цюркскімі народамі.

З боку семантыкі запазычаная сацыяльна-эканамічная лексіка старабеларускай мовы характарызуецца вялікай разнастайнасцю, што дае падставу вылучыць у яе складзе больш прадметна-тэматычных груп, чым у разрадах слоў, якія абслугоўвалі грамадска-палітычную, юрыдычную, канцылярскую і ваенную сферы тагачаснага жыцця.

Адну з груп старабеларускай сацыяльна-эканамічнай лексікі складаюць назвы асоб па ўдзелу ў эканамічным жыцці, камерцыйнай і фінансавай дзейнасці, дзе асноўнае месца належыць словам лацінскага паходжання: *арендаръ* (*арандаръ, арондаръ, орандаръ, орендаръ, рендаръ*) 'арандатар' 1565<стп. *arendarz* (1565, LWM 84<слац. *arendarius*, Mosz. 162); *арендаторъ* 'арандатар' 1589<стп. *arendator* (1594, SP I 210<слац. *arendator*, Mosz. 162); *вицеокономъ* 'намеснік эканома' 1666< лац. *vice* 'замест'+*oeconomus*, параўн. *економъ*; *вицепротекторъ* 'намеснік пратэктара' 1598<лац. *vice*+*prōtēctor*, параўн. *протекторъ*; *донатариушъ* 'асоба, якая атрымала падарунак' 1642<стп. *donataryjusz* (1624, LWPK 11<слац. *donatarius*, SWO 157); *екзакторъ* (*ексакторъ*) 'зборшчык падаткаў' 1660<стп. *egzaktor* (XVII ст., PSDP 90<слац. *exactor*, SŁSPK); *економъ* (*оекономъ, окономъ, экономъ*) 'эканом, загадчык гаспадаркі' 1596<стп. *ekonom* (1565, LWM 89<лац. *oeconomus*, ад гр. οἰκονόμος, Mosz. 170) і непасрэдна слац., параўн. *икономъ* (*иконома*) 'т. с.' 1518<старажрус. *икономъ* (XI ст., Срез. I 1087<гр., Фасм. II 125); *експуль-*

*сорѣ* 'ганіцель з валодання' 1671<лац. *expulsor* (ЛРС 401); *калкуляторъ* 'рахункавод' 1689<стп. *kalkulator* (XVII ст., L II 295<лац. *calculātor*, SWO 332); *колекторъ* 'зборшчык аплаты' 1697<стп. *kolektarz* (1541, SKN 521<лац. *collēctor*, SWO 365); *консукцессоръ* 'суспадчыннік' 1671<лац. *con* 'разам'+*successor*, параўн. *сукцесоръ*; *контрарегистрантъ* 'загадчык аддзела, які кантраляваў даходы з пошлін' 1713<стп. *kontraregestrant* (1650, IGŻK 48<лац. *contrā* 'супраць'+*registrans, -ntis*); *кредиторъ* 'крэдытор' п. XVII ст.<стп. *kredytor* (XVI ст., SPK<лац. *crēditor*, SłSE III 84); *мендыкъ* (*мендикъ*) 'жабрак' 1598<стп. *mendyk* (XVI ст., PSDP 202<лац. *mendīcus*, SJP IV 565); *посесоръ* (*посессоръ*, *поссесоръ*, *поссессоръ*) 'уладальнік, арандатар' 1594<стп. *posesor*, *possessor* (XVI ст., SPK<лац. *possessor*, Mosz. 199); *потентатъ* 'магнат' 1615<стп. *potentat* (XVI ст., SPK<слац. *potentatus*, Ryb. 74); *протекторъ* 'пратэктар, апякун' 1641<стп. *protektor* (XVI ст., SPK<лац. *prōtēctor*, Mosz. 201); *суколекторъ* (*сукколекторъ*, *суколлекторъ*) 'памочнік зборшчыка падаткаў' 1534<стп. *sukolektor*, *sukkolektor* (XVI ст., SPK<слац. *subcollector*, Mosz. 207), параўн. *колекторъ*; *сукцесоръ* (*сукцессоръ*) 'пераемнік, спадчыннік' 1598<стп. *sukcesor*, *sukcessor* (XVI ст., SPK<лац. *successor*, Mosz. 207); *суперитендентъ* 'начальнік таможні' 1666<стп. *superintendent* (XVII ст., Ryb. 89<лац. *superintendēns, -ntis*, SWO 713); *тексаторъ* 'спецыяліст па ацэнцы вартасці рэчаў' 1711<стп. *taksator* (XVI ст., SPK<слац. *taxator*, Mosz. 208); *туторъ* 'апякун' 1589<стп. *tutor* (XVI ст., SPK<лац. *tūtor*, Mosz. 210); *фавторъ* 'пратэктар, апякун' 1664<стп. *fautor* (1594, SP VII 42<лац. *fautor*, Mosz. 173); *факторъ* 'упаўнаважаны, пасрэднік пры продажы сельскагаспадарчай прадукцыі' 1583<стп. *faktor* (1588, SP VII 4<лац. *factor*, Mosz. 173); *фундаторъ* 'заснавальнік, дабрачынец' 1589<стп. *fundator* (1541, SKN 516<лац. *fundātor*, Mosz. 174); *шотъ* 'карабейнік' 1576<стп. *szot* (XVI ст., PSDP 487, ад лац. *Scotus*, BrSE 549).

Другое месца ў колькасных адносінах займае ў гэтай групе сацыяльна-эканамічнай лексікі пласт слоў уласнапольскага паходжання: *давца* 'дарыльшчык, ахвяравальнік' 1594<стп. *dawca* (SSt II 37); *делчый* (*дельчий*) 'пасрэднік пры раздзеле маёмасці' 1506<стп. *dzielczy* (SP VI 363); *державца* 'арандатар; уладар' 1499<стп. *dzier-*

*żawca* (SSt II 304); *добродавца* 'ахвяравальнік' 1619<стп. *dobrodawca* (SP V 111); *жминдакъ* 'скупы чалавек' 1653<стп. *żmindak* (Сп 1438); *марнотравца* 'растратчык' с. XVII ст.<стп. *marnotrawca* (Сп 390); *надавца* 'дарыльшчык' 1579<стп. *nadawca* (SPK); *наступца* 'спадчыннік' 1586<стп. *następca* (SPK); *отдавца* 'дарыльшчык' 1616<стп. *oddawca* (Сп 595); *поборца* 'зборшчык падаткаў' 1502<стп. *poborca* (SSt VI 192); *подавца* 'ахвяравальнік' 1507<стп. *podawca* (SSt VI 230); *подскарбий (подскарбей, потскарбий)* 'хавальнік казны' 1431<стп. *podskarbi* (SSt VI 276); *рукоемца* 'апякун, паручыцель' 1529<стп. *rękojemca* (SP V 535); *цельникъ (целникъ)* 'мытнік' 1584<стп. *celnik* (SSt I 217); *шубравецъ* 'абарванец' 1653<стп. *szubrawiec* (Сп 1126); *шынкаръ (шинкаръ)* 'шынкар' 1555<стп. *szynkarz* (XVI ст., SPK, ад *szynk,* BrSE 561).

Некалькі менш прадстаўлена ў гэтай групе лексіка нямецкага паходжання: *жебракъ (жабракъ)* 'жабрак' к. XV ст.<стп. *żebrak* (XV ст., SStK<ствн. *seffr,* SJP X 1435); *крамаръ* 'крамнік' 1507<стп. *kramarz* (1406, SSt III 375<свн. *krāmer,* SłSE III 57); *креденцаръ* 'буфетчык' 1598<стп. *kredencarz* (XVI ст., SPK<свн. *credenzer,* SłSE III 83); *мынцаръ (минцаръ, минцеръ)* 'загадчык манетнага двара, манетчык' 1388<стп. *myncarz, mincarz* (XIV ст., SSt IV 277<свн. *münzer,* MoszG 66); *рахмистръ (рохмистръ)* 'рахункавод' 1570<стп. *rachmistrz* (XVI ст., SPK<ням. *Rechenmeister,* SWO 620); *шафаръ (шафара, шефаръ)* 'эканом, ключнік' 1519<стп. *szafarz* (XV ст., SStK<свн. *schaffaere,* SWO 725).

Нарэшце, толькі адна лексема была запазычана старабеларускай мовай для абазначэння фінансавага дзеяча з цюркскіх моў: *казначей (казночей)* 'казначэй' 1481 <кар. *χaznačy,* магчыма, праз струс. *казначей* (1359, Арак. 147).

Другую групу сацыяльна-эканамічнай лексікі старабеларускай мовы, значна большую па колькасці лексем, утвараюць запазычанні, якія характарызуюць матэрыяльныя ўладанні, маёмасныя правы і адносіны ў Вялікім княстве Літоўскім. Больш палавіны гэтых лексічных сродкаў лацінскага паходжання: *абъюрата* 'уступка якой-небудзь рэчы' 1690<стп. *abjurata* (SW I 2<лац. *abiūrātio,* SWO 2); *авкцыя* 'павелічэнне багацця або даходаў' 1699<стп. *aukcyja* (1588, SP I 230<лац. *auctio,*

Mosz. 163); *адтрыбовати* 'перадаць ва ўласнасць, запісаць' 1580<слац. *adtribere* (SŁSP I 925); *акгравовати* 'прыгнятаць, абцяжарваць' 1634<стп. *agrawować* (SW I 14<лац. *aggravāre,* SJP I 44); *акцесия* 'прыбытак, прырост' 1598<стп. *akcesyja* (1588, SP I 93<лац. *accessio,* Mosz. 158); *акцесъ* 'удзел у якой-небудзь маёмаснай аперацыі' 1667<стп. *akces* (1594, SP I 93<лац. *accessus,* Mosz. 158); *апрегенсия* 'забранне ва ўласнасць' 1686<стп. *aprehensyja* (XVII ст., P I 18<лац. *apprehēnsio* Ryb. 22); *аренда (аранда, оранда, оренда)* 'арэнда; арэндная плата' 1486<стп. *arenda* (1543, SP I 210<слац. *arenda,* Mosz. 162) і непасрэдна слац.; *арендовати* 'даваць у арэнду, браць у арэнду' 1552<стп. *arendować* (1588, SP I 210<слац. *arendare,* SWO 46) і непасрэдна слац.; *асекурация (ассекурация)* 'забеспячэнне, гарантыя; пасведчанне на пэўныя льготы і перавагі' 1608<стп. *asekuracyja, assekuracyja* (1588, SP I 223<слац. *assecuratio,* Mosz. 162); *асекуровати (ассекуровати)* 'забяспечваць, абнадзейваць дапамогай' 1626<стп. *asekurować* (1594, SP I 223<слац. *assecurare,* SłSE I 834) і непасрэдна слац.; *деферовати* 'прапаноўваць' 1646<стп. *deferować* (1556, SP IV 570<лац. *dēferre,* SJP II 48); *евинковати* 'забяспечваць, гарантаваць' 1643<пол. *ewinkować* (<лац. *ēvincere,* SWO 205); *екземция* 'адабранне маёмасці' 1666<стп. *egzempcyja* (1594, SP VI 529<лац. *exēmptio,* Mosz. 170); *економия (оекономия, окономия)* 'каралеўскі маёнтак' 1588<стп. *ekonomija* (1587, SP VI 535<лац. *oeconomia,* ад гр. οἰκονομία, Mosz. 170) і непасрэдна лац.; *експульсия (експулсыя, експульсыя)* 'прымусовае выгнанне з валодання' 1663<пол. *ekspulsja* (<лац. *expulsio,* SWO 180); *импедиментъ* 'маёмасная перашкода пры бранні шлюбу' 1632<стп. *impedyment* (1583, SP VIII 520<лац. *impedīmentum,* Mosz. 177); *инвеститура (инвестытура)* 'права на валоданне маёнткам, дадзенае епіскапу' 1596<стп. *inwestytura* (1564, SP VIII 578<слац. *investitura,* Mosz. 179); *интерциза (интерцеза, интерцизия, интерцыза, интерцызыя, интордыза, иньтерцыза)* 'кантракт, які датычыць маёмасных спраў' 1582<стп. *intercyza* (1588, SP VIII 573<слац. *intercisa,* Ryb. 46); *интрата* 'даход, прыбытак' 1598<стп. *intrata* (1570, SP VIII 575<слац. *intrata,* Mosz. 179); *интромисия (интромиссия, интромиссыя, интромисыя)* 'увод у валоданне' 1596<стп. *intromisyja*

(1580, SP VIII 576<слац. *intromissio*, Ryb. 46) і непасрэдна слац.; *интромитовати (интромиттовати)* 'уводзіць у валоданне' 1638<стп. *intromitować* (SW II 106<лац. *intrōmittere*, SJP III 252) і непасрэдна слац. *intromittere* (SŁSPK); *контрактовати* 'заключаць кантракт' 1683<стп. *kontraktować* (1621, Cn 360<лац. *contractāre*, SWO 386); *контрактъ* 'кантракт' 1545<стп. *kontrakt* (1547, SP X 585<лац. *contractus*, SłSE II 437); *конферовати* 'ахвяраваць, падараваць' 1612<стп. *konferować* (1556, SP X 530<лац. *cōnferre*, SWO 378); *кооперация* 'супрацоўніцтва' 1645<стп. *kooperacyja* (XVII ст., Ryb. 58<лац. *cooperātio*, SłSE II 448); *кресценция (крестенция, кресценцыя)* 'прыбытак' 1651<стп. *krescencyja* (XVI ст., SPK<лац. *crēscentia*, Mosz. 186); *куратория* 'апякунскае ўпраўленне' 1662<стп. *kuratoryja* (<слац. *curatorium*, SłSE III 392); *лекгация (легация)* 'завяшчанне, падараванне; даравальны запіс' 1497<стп. *legacyja* (XVI ст., SPK<лац. *lēgātio*, SłSE IV 109) і непасрэдна лац.; *лекговати (леговати)* 'адпісваць каму-небудзь частку маёмасці' 1625<стп. *legować* (XVI ст., SPK<лац. *lēgāre*, SłSE IV 118); *мизерия* 'беднасць' с. XVII ст.<стп. *mizeryja* (XVI ст., SPK<лац. *miseria*, Mosz. 192); *мизерный (мисерный)* 'бедны; мізэрны' 1507<стп. *mizerny* (XVI ст., SPK<лац. *miser*, SWO 483) і непасрэдна лац.; *обликгация (облигацыя, обликгацея, обликгацыя)* 'доўг, абавязацельства' 1577<стп. *obligacyja* (XVI ст., SPK<лац. *obligātio*, Mosz. 194); *обликговати* 'абавязваць' 1577<стп. *obligować* (XVI ст., SPK<лац. *obligāre*, SWO 520); *партицыповати* 'прымаць удзел' 1680<стп. *partycypować* (XVI ст., SPK <лац. *participāre*, SWO 554); *патронатъ* 'апякунскае таварыства' п. XVII ст.<стп. *patronat* (XVI ст., SPK<лац. *patrōnātus*, Mosz. 197); *посесия (посесея, посессия, посессыя, посесыя, поссесия, посэсыя)* 'нерухомая маёмасць, маёнтак, валоданне' 1566<стп. *posesyja, possessyja* (XVI ст., SPK<лац. *possessio*, Mosz. 199); *препедиция* 'перашкода ў карыстанні маёмасцю' 1686<стп. *prepedycyja* (XVII ст., P II 226<слац. *praepeditio*, Ryb. 75); *привата (прыватъ)* 'асабістая выгада, прыватнасць' 1607<стп. *prywata, prywat* (XVI ст., SPK<лац. *prīvāta (rēs)* 'прыватная справа', Mosz. 201); *провентъ* 'даход, прыбытак' 1598<стп. *prowent* (XVI ст., SPK<лац. *prōventus*, Mosz. 201); *прономия* 'маёнтак, з якога даход

ішоў у карысць рымска-каталіцкага духавенства' 1598< лац. *prōnomia,* ад гр. προνομία 'перавага' (ДГРС II 1391); *резыкгнацыя (резыкгнецыя)* 'адмаўленне ад спадчынных правоў' 1634<стп. *rezygnacyja* (XVI ст., SPK< слац. *resignatio,* Mosz. 203); *реквировати* 'рэквізаваць' 1609<стп. *rekwirować* (XVI ст., SPK<лац. *requīrere,* SWO 638); *рекокгниция (рекогниция, рекокгницыя)* 'абследаванне маёмасці; квіт' 1569<стп. *rekognicyja* (XVI ст., SPK<лац. *recōgnitio,* Mosz. 202); *рекуперация* 'вяртанне страчанай маёмасці' 1627<стп. *rekuperacyja* (XVI ст., SPK<лац. *recuperātio,* Mosz. 202); *рекуперовати (рекупоровати, рекупуровати)* 'вяртаць страчаную маёмасць' 1638<стп. *rekuperować* (XVI ст., SPK<лац. *recuperāre,* P II 311); *реляксация (реляксацыя)* 'палёгка, звальненне ад чаго-небудзь' 1620<стп. *relaksacyja* (XVI ст., SPK<лац. *relaxātio,* Mosz. 202); *реновация* 'абнаўленне завяшчання' 1686<пол. *renowacja* (<лац. *renovātio,* SWO 640); *реституция* 'зварот забранай уласнасці' 1686<стп. *restytucyja* (XVI ст., SPK<лац. *restitūtio,* Ryb. 84); *рефундовати* 'вярнуць эквівалент пэўнай грашовай сумы' 1633<пол. *refundować* (<лац. *refundere,* SWO 633); *субмитовати* 'прымаць умову' 1634<стп. *submitować* (XVII ст., P II 425<лац. *submittere,* SJP VIII 887) і непасрэдна лац.; *субстанция* 'маёмасць, маёнтак' 1662<стп. *substancyja* (XVI ст., SPK<лац. *substantia,* Mosz. 207); *сукцесия (сукксцесыя, сукцессия, сукцесыя)* 'спадчына, пераемнасць' 1595<стп. *sukcesyja, sukcessyja* (XVI ст., SPK<лац. *successio,* Mosz. 207) і непасрэдна лац.; *сустентовати* 'падтрымліваць, забяспечваць' 1627<пол. *sustentować* (<лац. *sustentāre,* SW VI 519); *тестаментъ (тастаментъ, тастамэнтъ, тастоментъ, тестоментъ, тостоментъ, тэстаментъ, тэстамэнтъ, дастаментъ, дастоментъ, дестаментъ, достаментъ, достоментъ)* 'завяшчанне' 1484<стп. *testament* (XV ст., SStK<лац. *testāmentum,* Mosz. 209); *транзакция* 'умова' 1686<стп. *transakcyja* (XVI ст., SPK<лац. *trānsāctio,* Mosz. 210); *фруктификовати* 'прыносіць даход, карысць' 1663<пол. *fruktyfikować* (<лац. *frūctificāre,* SWO 235); *фундатъ* 'падараванне, дакумент на падараваную маёмасць' 1500 <лац. *fundātus* (ЛРС 446); *фундацыя (фундация)* 'падараванне, дакумент на падараваную маёмасць' 1507< стп. *fundacyja* (1560, SP VII 142<лац. *fundātio,* Mosz. 174) і непасрэдна лац.; *фундовати* 'засноўваць, будаваць

за свой кошт; адпісваць каму-небудзь маёмасць' 1500< стп. *fundować* (XV ст., SSt II 369<лац. *fundāre,* SWO 237); *фундушъ* 'фонд, памесце, маёмасць' 1508<стп. *fundusz* (1543, SP VII 153<лац. *fundus,* Mosz. 174); *цессия (цессыя)* 'уступка, перадача правоў на што-небудзь' 1606<стп. *cesyja* (1594, SP III 170<лац. *cessio,* Ryb. 25) і непасрэдна лац.; *цидовати* 'перадаваць права на маёмасць іншай асобе' 1632<стп. *cedować* (1562, SP III 139 <лац. *cēdere,* SWO 103).

Некалькі слабей прадстаўлены ў гэтай групе сацыяльна-эканамічнай лексікі словы ўласнапольскага паходжання: *влосный (влостный)* 'уласны' 1434<стп. *włosny, włostny* (SStK); *влость* 'буйны маёнтак' 1591<стп. *włość* (SPK); *выстарчити* 'нарыхтаваць' 1690<стп. *wystarczyć* (SPK); *даровизна (доровизна)* 'падарунак; падаравальны запіс' 1510<стп. *darowizna* (SP IV 513); *дарунокъ* 'падарунак' 1600<стп. *darunek* (L I 415); *дворыско* 'дзялянка перад домам, падвор'е' 1664<стп. *dworzysko* (SSt II 241); *дедизна (дедызна)* 'спадчына, уладанне' 1483<стп. *dziedzizna* (SP VI 359); *дедицтво (дединство, дедиство, дедицство, дедицьство, дедыцство, дидицство)* 'спадчына' к. XIV ст.<стп. *dziedzictwo, dziedzicstwo, dziedzistwo* (SSt II 276); *дядовщизна (дедовщызна)* 'дзедаўская спадчына' 1539<стп. *dziadowizna* (SP VI 313); *застянокъ* 'сядзіба дробнага шляхціца' 1571<стп. *zaścianek* (LWP 191); *истизна (изтизна)* 'уласнасць' 1547<стп. *iścizna* (SSt III 53); *иститu* 'забяспечваць; выплачваць' 1492<стп. *iścić* (SSt III 49); *маетность (маентность, маэтность)* 'маёмасць' 1511<стп. *majętność* (SPK); *маетокъ* 'маёнтак' 1648<стп. *majątek* (L III 24); *материзна (матерызна)* 'мацярынская спадчына' 1420<стп. *macierzyzna* (SSt IV 140); *менье (мене)* 'маёнтак' 1529<стп. *mienie* (SSt IV 230); *нендза (надза, недза)* 'галеча, беднасць' 1580<стп. *nędza* (SSt V 135); *пустизна* 'спадчына' п. XVII ст.<стп. *puścizna* (SSt VII 409); *пустовщизна (пустовчизна, пустовчызна, пустовщызна)* 'зямля без пастаяннага гаспадара' 1415 <стп. *pustowszczyzna, pustowczyzna* (SSt VII 398); *рукоемство* 'парука, забеспячэнне' п. XV ст.<стп. *rękojemstwo* (SSt VII 461); *спадокъ* 'спадчына' 1514<стп. *spadek* (SStK); *статокъ* 'рэчы, маёмасць' 1446<стп. *statek* (SStK); *сумовати* 'падлічваць' 1522<стп. *sumować* (XVI ст., SPK, ад *suma,* BrSE 526); *таксовати* 'ацэнь-

ваць' 1679<стп. *taksować* (XVI ст., SPK, ад *taksa*, SWO 741).

З іншых заходніх запазычанняў са сферы маёмасных адносін, спосабаў праяўлення ўласніцкіх інтарэсаў і забеспячэння спадчынных і апякунскіх правоў можна адзначыць некаторыя лексемы нямецкага паходжання: *бараринокъ* 'падарунак' 1593<стп. *beserunk, basarunek* (1462, SSt I 70<свн. *bezzerunge*, MoszG 53) або непасрэдна свн.; *боркговати* 'пазычаць' 1577<стп. *borgować* (1449, SSt I 130<ням. *borgen*, SWO 91); *боркгъ (боргъ)* 'крэдыт, доўг' 1511<стп. *borg* (1449, SSt I 130<ням. *Borg*, SJP I 614); *варовати* 'гарантаваць, забяспечваць' 1507<стп. *warować* (XV ст., SStK<ням. *wahren*, SJP IX 848); *варунокъ* 'умова' 1495<стп. *warunek* (XV ст., SStK<ням. *Wahrung*, BrSE 601); *выдеркафъ* 'выкупное права на нерухомую маёмасць' 1630<стп. *wyderkaf* (XV ст., SStK<свн. *widerkouf*, MoszG 78); *жебрати (жебровати)* 'жабраваць' к. XV ст.<стп. *żebrać, żebrować* (XV ст., SStK<ням. *Seffer*, MoszG 78); *клейнотъ (кленотъ)* 'каштоўнасць; герб' 1495<стп. *klejnot, klenot* (1386, SSt III 285<свн. *kleinōt*, SłSE II 202); *коштъ* 'выдаткі; кошт' 1565<стп. *koszt* (XVI ст., SPK<стч. *košt*, свн. *koste, kost*, SłSE II 544); *ленный* 'васальны' 1566< стп. *lenny* (XVI ст., SPK<стч. *léno*, ням. *Lehen*, SłSE IV 155); *фантъ* 'заклад' 1539<стп. *fant* (1499, SSt II 355< свн. *pfant*, SłSE I 219); *фольварокъ (фолваркъ, фолварокъ, форварокъ, хвольваркъ)* 'фальварак' 1488<стп. *folwark, forwark* (1391, SSt II 362<свн. *vorwërc*, SłSE I 233); *шафовати* 'распараджацца чым-небудзь; растрачваць' 1536<стп. *szafować* (XV ст., SStK<ням. *schaffen*, BrSE 539); *шафунокъ (шафунекъ)* 'распараджэнне; растрата, трата' 1554<стп. *szafunek* (XVI ст., SPK<ням. *Schaffung*, SJP VIII 539); некалькі слоў чэшскага паходжання: *власный (властный, уласный, уластный)* 'уласны' 1388<стп. *własny, włastny* (XIV ст., SStK< стч. *vlastný*, Basaj 84); *ялмужна (елмужна)* 'міласціна' 1551<стп. *jałmużna, jełmużna* (XV ст., SSt III 113<стч. *almužna*, ад свн. *almuosen*, SłSE I 494).

Да разгледжанай групы сацыяльна-эканамічнай лексікі неабходна далучыць таксама літуанізм *бонда* 'маёмасць, грошы; збожжа' 1468 (<літ. *banda*, Jabl. 15), грэцызм *гипердулия* 'стан паміж няволяй і службай' 1722 (<гр. *ὑπερδουλεία*, ДГРС I 423) і цюркізм *кабала*

’пісьмовае даўгавое абавязацельства; кабала’ 1564< струс. *кабала* (1398, Срез. I 1169<асм.-тур. *kabala,* ад ар. *qabālä(t),* Арак. 124, St II 7) і непасрэдна асм.-тур.

У трэцюю групу сацыяльна-эканамічнай лексікі старабеларускай мовы ўваходзяць словы, звязаныя з фінансавымі разлікамі і аперацыямі, рознымі відамі грашовых выплат і дапамог. Як і ў першых дзвюх групах, тут таксама колькасна пераважаюць лексемы лацінскага паходжання: *гонорарыумъ (гонорариумъ)* ’ганарар’ 1679 <стп. *honoraryjum* (1594, SP VIII 364<лац. *honōrārium,* Ryb. 42); *гратификовати* ’даваць грашовую дапамогу’ 1622<стп. *gratyfikować* (1556, SP VIII 110<лац. *grātificārī,* ЛРС 461); *дефалькация (дефелькация)* ’выплата пэўнай сумы’ 1653<стп. *defalkacyja* (1564, LWK I 182< слац. *defalcatio,* SłŚP III 160); *дефелковати* ’выплачваць пэўную грашовую суму’ 1689<стп. *defalkować* (1595, SP IV 569<слац. *defalcare,* SłSE III 161); *експенсъ* ’выдаткаваная сума грошай’ 1637<стп. *ekspens* (1541, SKN 516<лац. *expēnsa,* Mosz. 170); *интересъ* ’карысць, здзелка’ 1568<стп. *interes* (1575, SP VIII 574< слац. *interesse,* SłSE I 464); *калкулюваться* ’разлічваць выдаткі’ 1662<пол. *kalkulować się* (<лац. *calculāre,* SWOR 316); *калкуляцыя* ’разлік’ 1671<стп. *kalkulacyja* (1565, SP X 30<лац. *calculātio,* Mosz. 180); *квота (квото)* ’пэўная сума грошай’ 1662<стп. *kwota* (XVII ст., Ryb. 60<слац. *quota,* SłSE III 501); *компутовать* ’разлічваць’ 1638<стп. *komputować* (1577, SP X 516<лац. *computāre,* SW II 428); *конселяцыя* ’пацеха; падарунак’ 1711<стп. *konsolacyja* (XVII ст., P I 330<лац. *cōnsōlātio,* SłSE II 429); *контентация (контентацыя)* ’задавальненне патрабавання, аплата’ 1615<стп. *kontentacyja* (1588, SP X 583<лац. *contentatio,* SłSE II 435); *монополия* ’манаполія’ 1588<стп. *monopolija* (XVI ст., SPK< лац. *monopōlium,* ад гр. μονοπώλιον, Mosz. 192); *обликгъ (облигъ, обликъ)* ’распіска; даўгавое абавязацельства’ 1585<стп. *oblig* (1424, SSt V 349<слац. *obligum,* Mosz. 194); *ремунерация* ’узнагарода, аплата’ 1627<пол. *remuneracja* (<лац. *remūnerātio,* SWO 640); *ретентъ* ’рэшта доўгу’ 1645<стп. *retenta, retent* (XVI ст., SPK<лац. *retenta,* Mosz. 203); *спецификовати* ’вылічаць, пералічаць’ 1664<стп. *specyfikować* (XVI ст., SPK<слац. *specificare,* SWO 695); *субсидиумъ* ’грашовая дапамога’ 1722<пол. *subsydium* (<лац. *subsidium,* SWO 710); *сума*

(*сумма*) 'сума' 1496<стп. *suma, summa* (XV ст., SStK< лац. *summa,* Mosz. 207); *сумариушъ* (*сумарыушъ*) 'вынік, рэестр' 1586<стп. *summaryjusz* (XVI ст., SPK<лац. *summārius,* Mosz. 207); *сумптъ* (*сумтъ*) 'кошт' 1695< стп. *sumpt* (XVI ст., SPK<лац. *sūmptus,* Mosz. 207); *суплементъ* 'дадатак, грашовая дапамога' 1687<стп. *suplement* (XVII ст., P II 428<лац. *supplēmentum,* Ryb. 89); *такса* 'такса, расцэнка' 1563<стп. *taksa* (XVI ст., SPK <слац. *taxa,* Mosz. 208); *фискальный* 'казначэйскі' 1699 <стп. *fiskalny* (XVIII ст., L I 655<лац. *fiscālis,* SWO 221).

Менш шырока прадстаўлены ў гэтай лексічнай групе словы нямецкага паходжання: *раховати* (*роховати*) 'лічыць, вылічаць; разлічваць' 1388<стп. *rachować* (1480, SSt VII 418<ням. *rechnen,* Kühne, 91); *рахунокъ* (*рафунокъ, рахункъ, рохунокъ*) 'падлік, разлік' 1506<стп. *rachunek* (1500, SSt VII 418<ням. *Rechnung,* SWO 620); *решта* 'рэшта' 1557<стп. *reszta* (XVI ст., SPK<ням. *Rest,* BrSE 458); *шацовати* 'ацэньваць, расцэньваць' 1494<стп. *szacować* (XV ст., SStK<ням. *schätzen,* BrSE 538); *шацунокъ* (*шецунокъ, шанцунокъ*) 'ацэнка, расцэнка' 1511<стп. *szacunek* (XV ст., SStK<ням. *Schätzung,* BrSE 538); лексемы раманскага паходжання: *интересоватисе* 'займацца фінансавай справай, старацца' 1686<пол. *interesować się* (XVIII ст., L II 210<фр. *intéresser,* SWO 311); лексічныя сродкі польскага паходжання: *вытручати* 'вылічаць, выключаць' 1550<стп. *wytrącać* (SPK); *готовизна* 'наяўныя грошы' 1434<стп. *gotowizna* (SSt II 474); *зыскати* 'выгадаць, атрымаць карысць' 1421<стп. *zyskać* (SStK); *зыскъ* (*зыйскъ, изыйскъ, изыскъ*) 'прыбытак, барыш; выгада' п. XV ст. <стп. *zysk* (SStK); *навезати* (*навязати*) 'канфенсаваць грашовую суму, аплаціць' 1510<стп. *nawiązać, nawiężać* (SSt V 124); *пожичати* (*пожычати, позычати*) 'пазычаць' 1434<стп. *pożyczać* (SSt VI 561); *рахуба* 'разлік' 1539<стп. *rachuba* (SSt VII 418); *скарбъ* 'дзяржаўныя фінансы, казна; скарб' 1388<стп. *skarb* (SStK); словы, запазычаныя з цюркскіх моў: *казна* 'казна' 1441<струс. *казна* (1389, Арак. 120<палавецк. *χazna,* Преоб. I 283); *олафа* 'узнагарода, плата' 1538<струс. *алафа, олафа* (XV ст., Таг. 154<асм.-тур. *ulufe,* Фасм. I 69).

Да чацвёртай групы запазычаных старабеларускай мовай сацыяльна-эканамічных тэрмінаў адносяцца словы,

якія характарызуюць арганізацыю камерцыйнага працэсу, а таксама назвы гандлёвых кропак і аперацый. У гэтай прадметна-тэматычнай групе ў адрозненне ад папярэдніх асноўнае месца належыць лексічным адзінкам нямецкага паходжання, што тлумачыцца высокай ступенню развіцця гандлёвых кантактаў паміж польскім і беларускім насельніцтвам і нямецкімі купцамі. Гэтыя кантакты мелі даўнюю традыцыю і былі мацнейшымі, чым з іншымі народамі, таму натуральна, што ў беларускі слоўнік праніклі праз польскае пасрэдніцтва і непасрэдна з нямецкай мовы наступныя лексічныя адзінкі: *гандель* 'гандаль' 1565<стп. *handel* (1538, SP VIII 293 <ням. *Handel,* SłSE I 400); *гандлевати (кгандлевать)* 'гандляваць' 1566<стп. *handlować* (1548, SP VIII 295< ням. *handeln,* SłSE I 400); *душкиль* 'шаля вагаў' 1521< свн. *dīhsel* (Bied. 117); *кгатунокъ* 'гатунак' 1578<стп. *gatunek* (XVII ст., P I 213<ням. *Gattung,* SłSE I 261) і непасрэдна ням.; *кгвихтъ* 'гіра' 1583<стп. *gwicht* (1495, SSt II 532<свн. *gewihte, gewiht,* MoszG 59); *кгелда* 'карчма, заезны дом для купцоў' 1578<стп. *giełda* (1597, SP VII 339<ням. *Gilde,* SłSE I 277) і непасрэдна ням.; *кермашъ* 'кірмаш; касцельнае свята' 1646<стп. *kiermasz* (1500, SSt III 275<свн. *kirchmësse, kirmësse,* MoszG 60); *крама (крамъ)* 'крама, лаўка' к. XV ст.<стп. *kram* (1275, SSt III 375<свн. *krāme, krām,* MoszG 61) і непасрэдна свн.; *кругелъ* 'карчма' 1546<ням. *Krügel* 'кубак', *Krüger* 'шынкар' (HPC 528); *ладовати* 'грузіць, нагружаць' 1623<стп. *ładować* (XVI ст., SPK<ням. *laden,* SłSE IV 421); *литекъ* 'магарыч' 1540<стп. *litkup* (1388, SSt IV 59<свн. *lītkouf,* снн. *lītkōp,* MoszG 64); *рынокъ (ринокъ)* 'рынак; рыначная плошча' 1498<стп. *rynek* (XV ст., SStK<ням. *Ring,* BrSE 472); *тандета* 'рынак' к. XVI ст.<стп. *tandeta* (XVI ст., SPK<ням. *Tandel (markt)* 'забаўкі, анучы', P II 477); *фримаркъ (фрымаркъ)* 'абменны гандаль' 1542<стп. *frymark* (1437, SSt II 368<свн. *vrīmarket,* SłSE I 239); *цеха (цехъ)* 'метка, кляймо' 1524<стп. *cecha* (1441, SSt I 215<свн. *zeichen,* MoszG 55); *цеховати* 'меціць, кляйміць' 1653<стп. *cechować* (1559, SP III 138<свн. *zeichen,* MoszG 55); *шаля* 'чаша вагаў' п. XVII ст.<стп. *szala* (XV ст., SStK<ням. *Schale,* BrSE 539); *шинковати (шынковати)* 'шынкарыць' к. XV ст.<стп. *szynkować* (XV ст., SStK<ням. *schenken,* SJP VIII 1228); *шинкъ (шымкъ, шынкъ)* 'шынок;

гандаль спіртнымі напіткамі' 1511<стп. *szynk* (XV ст., SStK<ням. *Schenke,* SWO 738); *ярмарокъ (ермарокъ, ярмалокъ, ярманокъ, ярмаркгъ, ярмаркъ, ярморкъ, ярморокъ)* 'кірмаш' 1498<стп. *jarmark, jermark* (1408, SSt III 116<свн. *jārmarket,* SłSE I 502) і непасрэдна свн.

У гэтай групе лексікі адзначаецца толькі адна лексема лацінскага паходжання — *комерция* 'камерцыя, гандаль' 1686 (<стп. *komercyja*<лац. *commercium,* SJP III 857), але і яна, як можна меркаваць, была запазычана польскай мовай з ням. *Kommerzien* (<лац., Фасм. II 303).

З лексем польскага паходжання, якія ўжываліся ў сферы гандлёвага жыцця, можна адзначыць наступныя: *ледница* 'піўная' 1599<пол. *lednica* (SW II 701); *настренчити* 'прапанаваць які-небудзь тавар' 1692<стп. *nastręczyć* (SPK); *пивница* 'вінны склеп' 1516<стп. *piwnica* (SSt VI 145).

Нарэшце, старабеларуская гандлёвая лексіка папоўнілася некалькімі цюркізмамі: *барышъ (борышъ)* 'барыш' 1539<тат., кр.-тат. *baryš,* Буд. I 222); *кабакъ (кобакъ)* 'шынок, гандаль спіртнымі напіткамі' 1610<струс. *кабакъ* (1563, Срез. I 1169<цюрк. *kabak,* КЭС 181); *могоричъ (магарычъ, могорычъ)* 'магарыч' 1598<рус. *магарыч* (праз цюрк. з ар. *mahāriğ,* Фасм. II 635).

Пятая група сацыяльна-эканамічнай лексікі старабеларускай мовы ўключае назвы павіннасцей, падаткаў, гандлёвых пошлін і адміністрацыйна-судовых плацяжоў. Тут найбольш істотную частку запазычанняў складаюць словы лацінскага і нямецкага паходжання. Лацінскія лексемы былі запазычаны пераважна праз польскае пасрэдніцтва: *акцыза* 'ускосны падатак на прадукты масавага ўжытку' 1660<стп. *akcyza* (XVII ст., P I 8<слац. *accisia,* Ryb. 19); *гиберна (гыберна)* 'грашовы падатак на ўтрыманне войска' 1679<стп. *hiberna* (XVII ст., Ryb. 41<лац. *hīberna* 'зімовыя кватэры', SWO 277); *дефелга (дефелка)* 'памяншэнне падатку' 1686<стп. *defalka* (XVII ст., P I 131<слац. *defalcare,* SJP II 46); *донатива (донативумъ, донативъ, донатывъ)* 'грашовы падатак, які меў характар добраахвотнага ахвяравання' 1629< стп. *donatywa* (XVII ст., P I 156<слац. *donativum,* Ryb. 30); *еввента* 'пошліна ад тавару, што вывозіцца за мяжу' 1699<стп. *ewent* 'вынік' (XVII ст., P I 200<лац. *ēventus,* Ryb. 37); *екзакция (екгзакцыя, екзакцыя)* 'падатак, пры-

мусовы збор падаткаў' 1658<стп. *egzakcyja* (1594, SP VI 523<лац. *exāctio*, Mosz. 170); *индукта* 'пошліна ад тавару, што ўвозіцца' 1660<стп. *indukta* (SW II 89<лац. *inductum* 'увод', SJP III 192); *инструктаръ* 'пошлінны тарыф' 1605<стп. *instruktarz* (1594, SP VIII 552<слац. *instructarium*, Mosz. 178); *ординария* 'плата зернем' 1635<стп. *ordynaryja* (XVI ст., SPK<лац. *ōrdinārius*, Mosz. 195); *пеня* 'пеня' 1392<стп. *pena* (XVI ст., SPK<лац. *poena*, Mosz. 197) і непасрэдна лац.; *рата* 'частковы плацёж, тэрмін платы ўзносу' 1557<стп. *rata* (XVI ст., SPK<лац. *rata*, Mosz. 202); *стацыя (стацея, стация, стацэя)* 'павіннасць утрымання двара і войска' 1457<стп. *stacyja* (XV ст., SStK<лац. *statio*, Zajda 82). Нарэшце, сярод лацінскіх па паходжанню слоў патрэбна адзначыць экзатызм *трибутъ (трыбутъ)* 'даніна ў старажытнарымскай дзяржаве' п. XVII ст.<стп. *trybut* (XVI ст., SPK<лац. *tribūtum*, Zajda 84).

Нямецкія лексемы таксама запазычваліся ў асноўным праз польскае пасрэдніцтва: *вальцышъ* 'плата за вываз лясных тавараў' 1536<стп. *waldczynsz, walczynsz* (XV ст., SStK<свн. *waltzins*, Zajda 83); *варкгелтъ* 'грашовы штраф за забойства або нанясенне ран' 1638<стп. *wargielt* (XV ст., SStK<свн. *wërgëlt*, MoszG 77); *фурлюнъ (фурлинъ, хурлюнъ)* 'перавозка; дарожны мыт' 1541<стп. *furlun, furlon* (1413, SSt II 370<свн. *vuorlōn*, Zajda 83); *цло* 'мыт' 1511<стп. *cło* (1443, SSt I 314<свн. *zol*, MoszG 55); *цыншъ (циншъ, чиншъ, чыншъ)* 'арэндная плата, чынш' 1403<стп. *czynsz, cynsz* (1391, SSt I 425<свн. *zins*, Zajda 83); *шосъ* 'падатак ад рамеснікаў і мяшчанства' 1569<стп. *szos* (XV ст., SStK<свн. *schoȝ*, Zajda 82); *юркгелтъ (юргелтъ, юркгельтъ, юркольтъ)* 'плата наёмніку; плата за год' 1551<стп. *jurgielt* (1547, SP IX 534<ням. *Jahrgeld*, SłSE I 592).

Сярод заходнееўрапейскай лексікі адзначаецца таксама адно слова раманскага паходжання: *тарыфъ* 'тарыф' 1711<пол. *taryf* (XVIII ст., LWPł 126<іт. *tariffa*, ад ар. *ta'rif(a)*, SWO 746).

Сярод назваў павіннасцей і падаткаў пэўную частку складаюць словы ўласнапольскага паходжання: *капщизна (кабщизна, капщызна, копщизна, скапщизна, скопщизна)* 'пошліна ад спіртных напіткаў' 1495<стп. *kapczyzna, kopczyzna, skopczyzna* (SStK, SP X 616); *навезка (навеска, навязка)* 'барыш, прыбытак; штраф' 1444<

стп. *nawiązka* (SPK); *панщизна (панщызна)* 'паншчына' 1581<стп. *pańszczyzna* (SPK); *пневщизна (пневщызна)* 'плата за нарыхтоўку лесу' 1582<пол. *pniowszczyzna* (SW IV 274); *поконевщызна* 'грашовая аплата замест коннай службы' 1554<стп. *pokoniowszczyzna* (SW IV 504); *поселщизна (пословщизна)* 'падатак на ўтрыманне паслоў' 1603<пол. *poselszczyzna, posłowszczyzna* (SJP IV 735, 746).

Сустракаюцца ў разгледжанай лексічнай групе паасобныя літуанізмы: *дякло (дзякло)* 'падатак збожжам' 1444<літ. *dúoklė* (Jabl. 48); *мезлева (мезлива)* 'падатак за ўтрыманне быдла' 1444<літ. *mezliava* (Jabl. 125); цюркізмы: *есакъ* 'даніна з падначаленых народаў' 1484 <струс. *ясакъ* (1483, Арак. 131<кыпч., тат., чаг. *jasaq*, Радл. III 216, ад манг. *jasag*, Дмит. 38); *каланъ (коланъ)* 'цяглавая служба' 1512<цюрк., параўн. уйг. *qalan*, алт., тэл., шор. *kalan* (ДТС 410, Буд. 115).

У разрадзе сацыяльна-эканамічнай лексікі асобную групу складалі назвы грашовых адзінак, сярод якіх пануючае становішча належала лексічным сродкам, запазычаным з іншых моў. Паколькі ў сярэдневяковы перыяд у многіх краінах свету адначасова выкарыстоўвалася ў рынкавых аперацыях вялікая колькасць манет, рознатыповых па часу і месцу чаканкі, старабеларуская пісьменнасць мела магчымасць зафіксаваць акрамя назваў грашовых адзінак, якія знаходзіліся ў рэгулярным карыстанні насельніцтва Вялікага княства Літоўскага і Польшчы і ўпамінанне якіх у шматлікіх дзелавых кнігах і дакументах было натуральнай з'явай, рад назваў манет іншых еўрапейскіх і азіяцкіх краін, аддаленых тэрытарыяльна. Разам з тым пранікненне ў гэту лексіка-семантычную групу запазычанняў адбывалася і пісьмовым шляхам, галоўным чынам дзякуючы перакладам на беларускую мову разнастайных твораў, асабліва свецкага і біблейскага зместу, дзе апавядаецца пра звычаі і ўклад жыцця іншых народаў не толькі сярэдневяковай эпохі, але і больш далёкага мінулага.

Назвы, звязаныя з абазначэннем грашовых адзінак і запазычаныя старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовай на працягу XIV—XVIII стст., выразна падзяляюцца ў семантычных адносінах на дзве падгрупы. Адну з іх, невялікую па колькасці лексічных адзінак, складаюць словы, якія абазначаюць агульныя назвы манет і

ґрошай: *грошъ* 'грош, манета рознай вартасці, сярэбраная або медная', у мн. л. *гроши (грошы, кгроши)* 'грошы' 1401<стп. *grosz* (1386, SSt II 496<стч. *groš*<слац. *grossus* непасрэдна або праз свн. *gros,* SłSE I 352); *деньга* 'манета', у мн. л. *деньги* 'грошы' 1448<струс. *деньга, деньги* (1361, Арак. 132<тат., чаг., кыпч. *tänkä,* ЭСРЯ I-5 72); *монета (манета, манита, монита, монэта)* 'манета' 1434<стп. *moneta* (1435, SSt IV 325<лац. *monēta,* SWO 487); *мынца (минца, минница)* 'манета, манетная справа, манетны двор' 1506<стп. *тупса, mińca, minica* (1478, SSt IV 277<свн. *münze,* MoszG 66); *пенензь (пененжъ, пиениендзъ)* 'дробная манета' 1549< стп. *pieniądz* (1387, SSt VI 91), параўн. *пенязь (пенезь),* мн. *пенези* 'грошы' 1434<старажрус. *пенязь* (XII ст.< ствн. *pfennig,* Фасм. III 233).

Значна большую падгрупу складаюць запазычаныя ў старабеларускі перыяд назвы канкрэтных грашовых адзінак рознай вартасці і паходжання: *алтынъ (альтынъ, олтынъ)* 'старажытная руская манета, алтын' 1484<струс. *алтынъ* (1386, СРЯ I 32<цюрк. *altyn, altun* 'золата', ЭСРЯ I-1 181, або *alty* 'шэсць'+*-n* (паказчык множнасці), Кон. 258, Добр. 369); *аспра* 'дробная турэцкая манета' 1516<стп. *aspra* (1511, SP I 225<слац. *asper*, SłSE I 822); *ассарий* 'дробная старажытнарымская манета' 1653<лац. *assārius* (ЛРС 104); *брактъ (бракъ)* 'дробная сярэдневяковая манета з надпісам толькі на адным баку' 1563<слац. *bracteum* (1389, SŁSP I 1144); *вердунокъ* 'старажытная польская манета, роўная чвэрці грыўны' 1434<стп. *wierdunek* (XIV ст., SStK<свн. *vierdunc,* MoszG 77); *галеръ* 'дробная старажытная аўстрыйская манета' 1498<стп. *halerz* (1396, SSt II 536<стч. *haléř*<свн. *haller,* SłSE I 395); *денаръ* 'дынарый, старажытнарымская сярэбраная манета' п. XVII ст.<стп. *denar* (1538, SP IV 587<лац. *dēnārius,* Mosz. 167), параўн. *динаръ* 'т. с.' п. XVII ст.<старажрус. *динарий* (XI ст.<гр. δηνάριον<лац., ЭСРЯ I-5 123); *дукатъ* 'старажытная венецыянская манета' к. XV ст.<стп. *dukat* (1528, SP VI 172<іт. *ducato,* SWO 162); *квартникъ* 'дробная старажытная польская манета' 1510<стп. *kwartnik* (SSt III 475); *крыстынка* 'старажытная шведская манета' 1697<пол. *krystynka* (ад імя каралевы *Krystyna,* SW II 587); *оволъ* 'старажытнагрэчаская дробная манета' 1653<гр. ὀβολός (ДГРС II 1150); *ортъ*

’старажытная польская манета, роўная чвэрці талера’ 1563<стп. *ort* (1493, SSt V 629<ням. *Ort*, SWO 535); *скоецъ (искоецъ, скотецъ, скотъ, шкотъ)* ’старажытная польская манета, роўная двум грошам’ 1434<стп. *skojec, skociec, skot, szkot* (XV ст., SStK<слац. *scotus*, SJP VIII 299, 302, 325, 1115); *таляръ (талеръ)* ’распаўсюджаная ў сярэдневяковы перыяд сярэбраная манета’ 1552< стп. *talar, taler* (XVI ст., SPK<ням. *Taler*, SWOR 564); *тынфъ (тинфъ)* ’старажытная польская сярэбраная манета, роўная 18 грошам’ 1688<стп. *tynf* (XVII ст., P II 519, ад імя манетчыка *A. Tymf*, SWO 785); *филипокъ* ’старажытная іспанская залатая манета’ 1565<стп. *filipek* (1569, SP VII 68, ад слац. *Philippeus numus*, SW I 742); *шелягъ (шелегъ, шелионкгъ, шелюгъ)* ’старажытная польская манета вартасцю ад 1 да 12 грошай’ 1388<стп. *szeląg* (XIV ст., SStK<ням. *Schilling*, SWO 728). Нягледзячы на тое што ўсе манеты, назвы якіх разгледжаны ў гэтай падгрупе, чаканіліся ў розных краінах і ў розны час, яны ў пераважнай большасці выкарыстоўваліся нароўні з мясцовым рублём і грошам у плацёжных і гандлёвых аперацыях беларускага насельніцтва. Аб гэтым яскрава сведчыць неаднаразовая фіксацыя кожнай з такіх лексем, як *алтынъ, аспра, брактъ, вердунокъ, дукатъ, квартникъ, крыстынка, ортъ, скоецъ, талярь, тынфъ, филипокъ, шелягъ,* у дзелавых дакументах, напісаных у розных мясцовасцях Беларусі. Прычым выступаюць яны ў кантэкстах, якія не выклікаюць сумнення ў актыўнай ролі абазначаных гэтымі словамі манет у фінансавым жыцці краіны. Гэтыя словы маглі пранікнуць у літаратурна-пісьмовую мову вусным шляхам. Іншае трэба сказаць аб лексемах *ассарий, денаръ* і *оволъ,* што служылі назвамі старажытнагрэчаскіх і старажытнарымскіх грашовых адзінак і з’яўляліся ў старабеларускай пісьменнасці прыналежнасцю выключна свецкіх і рэлігійных пісьмовых помнікаў. Значэнне гэтых экзатызмаў ведала толькі вузкае кола адукаваных людзей.

## VI. ПРАФЕСІЙНА-ВЫТВОРЧАЯ ЛЕКСІКА

Асобны разрад запазычанняў старабеларускага перыяду ўтварае прафесійна-вытворчая лексіка. Паколькі прафесійна-вытворчы працэс мае на ўвазе пэўныя кан-

крэтныя мэты, якія ажыццяўляюць рэальныя людзі пры дапамозе рэальных машын і прылад, прымяняючы канкрэтныя прафесійныя навыкі і дзеянні, у гэтым разрадзе мала слоў лацінскага паходжання, зусім адсутнічаюць грэцызмы. Аснову старабеларускай прафесійна-вытворчай тэрміналогіі складаюць лексемы нямецкага, польскага і літоўскага паходжання. Яны аб'ядноўваюцца семантычна ў тры прадметна-тэматычныя групы, характарызуючы з розных бакоў сферу прафесійна-вытворчага жыцця беларускага насельніцтва на працягу XIV—XVIII стст.

Да першай групы старабеларускай прафесійна-вытворчай лексікі адносяцца назвы асоб па прафесіі, спецыяльнасці, роду заняткаў, сярод якіх большасць складаюць словы нямецкага паходжання: *балверъ (балвэръ, бальберъ, бальверъ, барберъ, барбирь, барверъ, болверъ)* 'цырульнік, які займаўся адначасова фельчарствам' 1507<стп. *barwierz, balwierz* (1500, SSt I 58<ням. *Balbier, Barbier*, ад іт. *barbiero*, фр. *barbier*, BrSE 12) і непасрэдна ням.; *валгаръ* 'нарыхтоўшчык смалы' 1536<ням. *Waldharz* (Гал. 102); *валмистръ* 'спецыяліст па будаўніцтву гарадскога вала' 1689<ням. *Wallmeister* (Гал. 102); *гафтаръ* 'вышывальшчык' 1529<стп. *haftarz* (1394, SSt II 535<ням. *Hefter*, MoszG 59); *грундалъ* 'некваліфікаваны рамеснік' 1653<стп. *grundal* (1588, SP VIII 169<ням. *Grundel*, BrSE 160); *декаръ* 'страхар' 1563<пол. *dekarz* (<ням. *Decker*, SWO 139); *драгиль (дрягиль, дряголь)* 'насільшчык, грузчык' 1510 <нн. *drager* (Фасм. I 545); *жекгляръ (жаклеръ, жегляръ)* 'марак' к. XV ст.<стп. *żeglarz* (XV ст., SStK<свн. *sëgeler*, MoszG 78); *зекгармистръ (закгармистръ, зегармистръ)* 'майстар гадзіннікаў' 1566<стп. *zegarmistrz* (1621, Cn 1417<ням. *Seiger+Meister); зицеръ* 'наборшчык' 1600<пол. *zecer, zycer* (<ням. *Setzer*, SWO 813); *инкгеръ* 'вучань, чаляднік' п. XVII ст.<ням. *Jünger* (HPC 471); *камердинеръ* 'камердынер' 1713<пол. *kamerdyner* (XVIII ст., L II 297<ням. *Kammerdiener*, SWO 334); *кгарбаръ (гарбаръ)* 'гарбар' 1536<стп. *garbarz* (1423, SSt II 383<свн. *gerwer*, ням. *Gärber*, SlSE I 256); *кгармистръ* 'старшы рыбак' 1539<стп. *garmistrz* (1565, SP VII 211<ням. *Garnmeister*, SW I 807); *кграбаръ (грабаръ)* 'землякоп, грабар' 1552<стп. *grabarz* (1396, SSt II 481<свн. *grabaere, greber*, MoszG 58); *конвисаръ*

'ліцейшчык '1545<стп. *konwisarz* (1498, SSt III 331< свн. *kann(en)gieȝer*, SłSE II 444); *кухаръ* 'кухар' 1441< стп. *kucharz* (1393, SSt III 459<стч. *kuchař*<свн. *kuchenaere*, SłSE III 304); *кухмистръ* 'умелы кухар' 1438<стп. *kuchmistrz* (1400, SSt III 459<ням. *Küchenmeister*, SłSE III 305); *кушнеръ* 'кушнер' 1486<стп. *kusznierz* (1413, SSt III 473<свн. *kürsenaere*, SłSE III 437); *людвисаръ* 'ліцейшчык' 1695<стп. *ludwisarz* (1584, SP II 674<ням. *Rotgiesser*, SłSE IV 367); *майстеръ (майстръ, мастеръ)* 'майстар, начальнік' 1518<стп. *majster* (XV ст., SSt IV 144<свн. *meister*, MoszG 65); *машталеръ (маштарель, маштелеръ)* 'канюшы, старшы конюх' 1529<стп. *masztalerz* (1500, SSt IV 167<стч. *ma(r)štal*<свн. *mar(h)stal*, SWO 458); *муляръ (мураль, мураръ)* 'муляр' 1494<стп. *mularz, murarz* (1455, SSt IV 364<свн. *mūraere, mūrer*, MoszG 66); *почмайстеръ (почмайстръ)* 'поштмайстар' 1674<пол. *pocztmajster* (<ням. *Postmeister*, SJP VI 587); *проберъ (пробаръ)* 'правершчык' 1592 <стп. *probierz* (XVI ст., SPK<ням. *Probierer*, SJP VII 3); *римаръ (ремаръ, рымаръ)* 'рымар' 1502<стп. *rymarz* (1471, SSt VIII 64<ням. *Riemer*, BrSE 472); *рурмистръ* 'водаправодчык' 1566<стп. *rurmistrz* (1493, SSt VIII 47 <ням. *Rohrmeister*, Гал. 106); *слесаръ (слосаръ)* 'слесар' 1510<стп. *ślosarz* (XV ст., SStK<ням. *Schlosser*, BrSE 532); *стельмахъ (сталмахъ, стальмахъ, столмахъ)* 'каляснік' 1557<стп. *stelmach, stalmach* (XV ст., SStK< ням. *Stellmacher*, BrSE 512); *стрихаръ (стрыхаръ)* 'цагельнік' 1539<стп. *strycharz* (XV ст., SStK<ням. *Streicher*, BrSE 521); *фоританъ (фориторъ)* 'фарэйтар' п. XVII ст.<стп. *forytarz* (1548, SP VII 116<ням. *Vorreiter*, BrSE 126); *фурманъ (форманъ, хурманъ, хурмонъ)* 'фурман' 1500<стп. *furman, forman* (1370, SSt II 370< свн. *vuorman*, MoszG 58); *цехмистръ* 'старшы цэха раснікаў' 1549<стп. *cechmistrz* (1466, SSt I 216<свн. *zëchmeister*, MoszG 55); *цимерманъ* 'цясляр' 1620<яўр. *Zimerman* (<ням. *Zimmermann*, Гал. 108) або непасрэдна ням.; *шмухлеръ (шмыхлеръ)* 'пазументнік' 1691 <пол. *szmuklerz* (<ням. *Schmuckler*, BrSE 551); *шницаръ (сницаръ)* 'рэзчык' 1627<стп. *sznicarz, snycar* (XV ст., SStK<свн. *snitzaere*, ням. *Schnitzer*, SWOR 611); *шыпръ (шипаръ, шипоръ, шифаръ)* 'уладальнік гандлёвага або рыбацкага судна' 1576<стп. *szyper* (XVI ст., SPK<нн. *schipper*, SWO 738); *юбилеръ* 'юве-

лір' 1608<пол. *jubiler* (<ням. *Juwelier,* уст. *iubelierer,* SłSE I 585).

Некалькі вузей прадстаўлена ў гэтай прадметна-тэматычнай групе лексіка ўласнапольскага паходжання, у тым ліку лексемы, утвораныя на польскай глебе ад іншамоўных каранёў: *бракаръ* 'бракаўшчык, сартавальнік вытворчай прадукцыі' 1548<стп. *brakarz* (SSt I 152); *виняръ* 'вінароб; гандляр віном' п. XVII ст.<стп. *winiarz* (SPK); *возница (озница)* 'возчык, фурман' 1488< стп. *woźnica* (SStK); *гаевникъ* 'ляснічы' 1492<стп. *gajewnik* (SSt II 381); *дворничка* 'даглядчыца быдла ў фальварку' 1557<стп. *dworniczka* (SSt II 240); *друкаръ* 'друкар' 1593<стп. *drukarz* (SP VI 84); *здунъ* 'пячнік, муляр' 1556<стп. *zdun* (SPK); *кграцовникъ (грацовникъ)* 'работнік, які рыхтуе будаўнічы раствор' 1692< стп. *gracownik* (Cn 206); *коновалъ* 'канавал' 1679<стп. *konował* (Cn 299); *кухтикъ (кухцикъ)* 'памочнік кухара' 1565<стп. *kuchcik* (SSt III 459); *лазебникъ* 'лазеншчык' 1490<стп. *łaziebnik* (SSt IV 106); *ловца* 'птушкалоў' 1627<стп. *łowca* (SPK); *млынарчикъ (млынарчыкъ)* 'памочнік млынара' 1580<стп. *młynarczyk* (SSt IV 297); *млынаръ (млынарь, млинаръ)* 'млынар' 1434<стп. *młynarz* (SSt IV 297); *мыдляръ* 'мылавар; гандляр мылам' 1601<стп. *mydlarz* (SPK); *мысливецъ (мисливецъ)* 'паляўнічы' 1540<стп. *myśliwiec* (SPK); *одверный (одзверный, отдверный)* 'брамнік, швейцар' 1441<стп. *odwierny, odźwierny* (SPK); *плокаръ* 'прамыўшчык руды' 1569<пол. *płókarz* (SJP VI 520); *почтаръ* 'паштальён' 1684<стп. *pocztarz* (P II 133); *столяръ* 'сталяр' 1510< стп. *stolarz* (SStK); *теселчикъ* 'цясляр' с. XVII ст.<стп. *ciesielczyk* (SP III 500); *флисникъ* 'плытагон' 1596<стп. *fliśnik* (SP VII 81); *форисъ* 'фарэйтар' 1686<пол. *foryś* (XVIII ст., L I 668, ад *forytarz,* SłSE I 235).

Зусім мала ў гэтай лексічнай групе слоў лацінскага паходжання: *интроликгаторъ (интролигаторъ)* 'пераплётчык' 1597<стп. *introligator* (1509, SP VIII 576< слац. *introligator,* SWO 313); *колекга (кголекга, колега, коллега)* 'калега' 1588<стп. *kolega, kollega* (1563, SP X 471<лац. *collēga,* SłSE II 349); *морнаръ* 'марак' 1580 <стп. *marynarz* (XVI ст., SPK<слац. *marinarius,* SWO 456); *практикъ* 'практык' п. XVII ст.<стп. *praktyk* (XVI ст., SPK<лац. *practicus,* Mosz. 199); *практыкаръ (практикаръ)* 'асоба, якая займаецца практыкай' 1580

<стп. *praktykarz* (XVI ст., SPK<слац. *practicarius,* Mosz. 199); *цырупикъ (церуликъ, целюрикъ, цируликъ, цуруликъ)* 'цырульнік; фельчар' 1589<стп. *cyrulik* (1568, SP III 726<слац. *cirurgicus,* Ryb. 26). Сюды ж можна аднесці экзатызм *аркгонавтъ (аркгонаутъ)* 'арганаўт' п. XVII ст.<стп. *argonauta* (1564, SP I 214<лац. *argonauta,* ад гр. ἀργοναύτης, Mosz. 162).

Лексіка раманскага паходжання абмяжоўваецца ў гэтай групе толькі двума словамі: *инъенеръ* 'інжынер' 1601<стп. *ingenier* (1588, SP VIII 544<іт. *ingeniere,* фр. *ingénieur,* SWO 315); *лекай* 'лакей' 1567<стп. *lokaj* (XVI ст., SPK<ням. *Lakai*<фр. *laquais,* SłSE IV 325).

Для абазначэння асоб па занятку і прафесіі старабеларуская лексічная сістэма запазычыла некалькі літуанізмаў: *дойлидъ (дойлида)* 'будаўнік, цясляр' 1450 <літ. *dailìdė* (Būga II 622); *жибентяй (жебентяй)* 'асоба, якая забяспечвала двор палівам і асвятленнем' к. XV ст.<літ. *žibentojas* (Jabl. 268); *ройтиникъ (ройтыникъ)* 'конюх' 1526<літ. *raĩtininkas* (Jabl. 208); *рыкунья (рикунья, рыкуния)* 'даглядчыца быдла' 1529<літ. *rykūnė* (Jabl. 195); два цюркізмы: *чобанъ (чабанъ, чебанъ)* 'чабан' 1552<кр.-тат. *čoban* (ад перс. *šuban,* Дмит. 34); *ямщикъ* 'фурман' 1540<струс. *ямщикъ* (1356, Срез. III 1659<тур. *jamčy,* чаг. *jamči,* ад *jam,* Дмит. 37, Шип. 436); грэцызм: *архитектонъ* 'будаўнік' 1615<струс. *архитектонъ* (1534, СРЯ I 53<гр. ἀρχιτέκτων, Ушак. I 62) і непасрэдна гр.

Другая група запазычанай старабеларускай лексічнай сістэмай прафесійна-вытворчай лексікі ўключае словы, якія ўяўляюць сабой назвы гаспадарчых і прамысловых прадпрыемстваў, вытворчых і працоўных працэсаў, прылад і прадуктаў вытворчасці. Тут таксама, як і ў першай групе, пераважную большасць складаюць лексемы нямецкага паходжання: *бендюга* 'месца сплаву лесу' 1536<стп. *bienduga* (1427, SSt I 93<снн. *bindinge,* MoszG 53); *беркгринъ* 'від зялёнай фарбы' 1681<стп. *bergryn* (1601, IM 567<ням. *Berggrün,* SW I 116); *биндасъ* 'кірка' 1584<стп. *bindas* (1457, SSt II 550<ням. *Bindaxt,* SW I 156); *блехъ* 'бялільня' 1631<стп. *blech* (1450, SSt I 99<свн. *blëch,* MoszG 53); *бляха* 'бляха' 1494<стп. *blacha* (1440, SSt I 97<ням. *Blech,* SJP I 540); *броваръ* 'бровар' 1504<стп. *browar* (1455, SSt I 165<снн. *bruwer,* MoszG 54); *брукъ* 'брук' 1591<стп.

*bruk* (1476, SSt I 166<свн. *brücke,* MoszG 54); *брухналь* 'від цвіка' 1697<ням. *Bruchnagel* (Гал. 61); *буда* 'смалакурня; будка' 1527<стп. *buda* (1446, SSt I 174<свн. *būde, buode,* ЭСБМ I 399); *бурналь* 'шруба' 1711<ням. *Bohrer+Nagel* (НРС 167, 617); *ванчосъ* (*ванчусъ*) 'апрацаванае дрэва, клёпка' 1500<стп. *wanczos* (XV ст., SStK<ням. *Wagenschoss,* SJP IX 839); *варстатъ* (*верстатъ, ворстатъ*) 'майстэрня, варштат' 1577<стп. *warsztat* (XV ст., SStK<свн. *wërcstat,* MoszG 77); *вата* 'рыбалоўная сетка' 1516<стп. *wata* (XV ст., SStK<свн. *wate,* SJP IX 864); *винда* 'дамкрат' 1601<стп. *winda* (XVI ст., SPK<ням. *Winde,* BrSE 622); *виндовати* 'паднімаць груз пры дапамозе дамкрата' 1695<стп. *windować* (1621, Сп 1262<ням. *winden,* SWOR 701); *гакъ* 'жалезны крук' 1590<стп. *hak* (1388, SSt II 535<свн. *hāke, hāken,* SłSE I 393); *гамеръ* 'кузня' 1598<стп. *hamer, hamry* (1406, SSt I 536<свн. *hamer,* MoszG 59); *гартовати* 'гартаваць' п. XVII ст.<стп. *hartować* (1562, SP VIII 314<ням. *härten,* SłSE I 409); *гафтовати* 'вышываць' с. XVII ст.<стп. *haftować* (XV ст., SSt II 535<свн. *heften,* SłSE I 390); *гафтъ* 'вышыўка; рубец на ране' 1582<стп. *haft* (1488, SSt II 534<свн. *haft,* SłSE I 390); *гебель* 'гэбель' 1588<стп. *hebel* (1437, SSt II 542<ням. дыял. *höbel, hebel,* SłSE I 412); *гута* 'гута' 1551<стп. *huta* (1395, SSt II 547<свн. *hütte,* SłSE I 440); *дратва* 'дратва' 1595<стп. *dratwa* (1411, SSt II 179<ням. *Draht,* SJP II 355); *дротъ* 'дрот' 1565<стп. *drot* (1532, SP VI 53<ням. *Draht,* SłSE I 170); *друковати* 'друкаваць' 1588<стп. *drukować* (1534, SP VI 82<ням. *drucken,* SWO 160); *друкъ* 'друк' 1580<стп. *druk* (1551, SP VI 82<ням. *Druck,* SWO 160); *жакъ* 'рыбалоўная сетка' 1556<стп. *żak* (XV ст., SStK<свн. *sac,* ад лац. *saccus,* MoszG 78); *капаръ* (*капоръ*) 'прыстасаванне для забівання паляў; помпа' 1684<стп. *kafar, kapar* (1500, SSt III 235<ням. *Keffer,* BrSE 212); *карбъ* 'зарубка, насечка' 1565<стп. *karb* (1450, SSt III 243<свн. *kërp, kërbe,* SłSE II 70); *каста* 'набор літар аднаго фармату' 1600<пол. *kaszta* (<ням. *Kasten,* BrSE 222); *кгвинтъ* (*гвинтъ*) 'вінт; разьба, нарэзка' п. XVII ст.<стп. *gwint* (1608, IM 582<ням. *Gewinde,* SłSE I 385); *кграцовати* (*грацовати*) 'рыхтаваць будаўнічы раствор' 1692<стп. *gracować* (1621, Сп 207<свн. *kratze,* SłSE I 335); *килефъ* (*килепъ*) 'кірка; баявая сякера' п. XVII ст.

<стп. *kilof* (1403, SSt III 279<свн. *kīlhouwe,* SłSE II 163), не выключана магчымасць запазычвання варыянта *килепъ* з цюрк. *käläpa* (Фасм. II 221); *клепгольцъ* 'дубовыя дошчачкі на клёпкі' 1548<стп. *klapholc* (1496, SSt III 282<ням. *Klappholz,* Гал. 57); *крица* 'груда жалеза' 1520<стп. *kryca* (SW II 582, магчыма, з ням. *Kritze,* Фасм. II 378); *кутноровати* 'рабіць сукно варсістым' 1578<стп. *kutnerować* (XVI ст., SPK<ням. *kuttenieren,* SłSE III 445); *лихтовати* 'чысціць, выпростваць' 1557<стп. *lichtować* (XVI ст., SPK<ням. *lichten,* SłSE IV 233); *муровати* 'мураваць' 1440<стп. *murować* (1500, SSt IV 365<ням. *mauren,* SJP IV 907); *нитовати* 'злучаць пры дапамозе заклёпак' 1498<стп. *nitować* (XVI ст., SPK<ням. *nieten,* SWO 511); *обцукгъ (обцугъ)* 'пад'ёмнік' 1582<стп. *obcug* (XVI ст., PSDP 308 <ням. *Aufzug,* BrSE 387); *окша* 'сякера' п. XVII ст.< стп. *oksza* (1450, SSt V 566<свн. *axt,* MoszG 67); *патрица* 'кляймо на дрэве' 1586<пол. *patryca* (<ням. *Patrize,* SJP VI 198); *полеровати* 'паліраваць' п. XVII ст.< стп. *polerować* (XVI ст., SPK<ням. *polieren,* SWOR 525); *праса* 'прэс' к. XV ст.<стп. *prasa* (1444, SSt VII 24<ням. *Presse,* SWO 596); *пытель* 'сіта ў млыне' 1601 <стп. *pytel* (1393, SSt VII 416<стч. *pytel*<свн. *biutel,* SWO 619); *рошть* 'каласнік' 1593<стп. *roszt* (1428, SSt VII 498<ням. *Rost,* BrSE 470); *рура (рула, руля)* 'труба' 1535<стп. *rura* (1421, SSt VIII 46<ням. *Rohr,* BrSE 469); *смаровати* 'змазваць' 1653<стп. *smarować* (XVI ст., SPK<ням. *schmieren,* BrSE 503); *сталюга (столюга)* 'козлы, варштат' 1686<пол. *staluga* (<ням. *Stellage,* BrSE 513); *стосовати* 'складваць у стосы; прыстасоўваць' 1598<стп. *stosować* (XVI ст., SPK<ням. *stossen,* SJP VIII 782); *трибовати* 'рабіць прасекі' 1600 <стп. *trybować* (XV ст., SStK<свн. *trīben,* MoszG 76); *тынковати* 'тынкаваць' 1695<стп. *tynkować* (XV ст., SStK<свн. *tünchen,* MoszG 76); *уфналь (уфналъ, ухналъ)* 'вухналь' 1688<стп. *ufnal* (XV ст., SSt II 546< ням. *Hufnagel,* SłSE I 432); *фасовати* 'фасаваць; насыпаць' 1569<стп. *fasować* (1393, SSt II 357<ням. *fassen,* SłSE I 221); *флисъ* 'сплаў лесу; плытнік' 1569<стп. *flis* (1564, SP VII 81<ням. *Flösse,* SłSE I 232); *фолюшъ* 'сукнавальня' 1557<стп. *folusz* (1414, SSt II 362<ням. *fullen, füllen,* SłSE I 233); *футровати* 'абмазваць глінай, абшываць дошкамі' 1688<стп. *futrować* (1564, SP

VII 159<ням. *füttern,* SWO 238); *цвикель (цвигель, цвикгель)* 'клін' 1682<стп. *cwykiel* (1567, SP III 715<ням. *Zwickel,* BrSE 68); *цехъ* 'цэх' 1568<стп. *cech* (1449, SSt I 215<свн. *zëche,* MoszG 55); *цынгамеръ* 'інструмент пазалотніка' 1577<стп. *cynhamer* (1551, SP III 721<ням. *Zinnhammer);* шахта 'шахта' 1517<стп. *szachta* (XV ст., SStK<ням. *Schacht,* BrSE 551); *шмальцъ* 'эмаль' п. XVI ст.<стп. *szmalc* (XV ст., SStK<ням. *Schmalz,* BrSE 551); *шофель* 'шуфель' 1682<стп. *szufla, szufel* (XVI ст., SPK<ням. *Schaufel,* BrSE 557); *шпунтпаль* 'затычка, утулка' 1607<стп. *szpontpol* (XVI ст., SPK<ням. *Spund+Pfahl,* BrSE 554, 391); *шрубцнокъ* 'ціскі з вінтавым клямарам' 1577<ням. *Schraube+Zwinge* (HPC 739, 956); *шрубштакъ* 'ціскі' 1616<стп. *szrubsztak* (1559, IM 621<ням. *Schraubstock,* BrSE 535); *шрубъ* 'болт, шруба' 1601<стп. *śruba, szruba* (XVI ст., SPK<ням. *Schraube,* BrSE 535).

Другое месца ў колькасных адносінах займаюць у гэтай групе словы польскага паходжання: *боевиско* 'ток' 1471<стп. *bojewisko* (SSt I 125); *брокгъ (брокъ)* 'сцірта, стог' 1568<стп. *brog* (SSt I 166); *будовати* 'будаваць' к. XV ст.<стп. *budować* (SSt I 174); *василокъ (василекъ)* 'дубовы матэрыял на клёпкі' 1583<стп. *wasiłek* (SStK, SPK); *жупа (зупа)* 'саляная капальня' п. XVII ст.<стп. *żupa* (SPK); *ковадло* 'кавадла' 1635<стп. *kowadło* (SPK); *козлы* 'козлы' 1597<стп. *kozły* (Сп 312); *лезиво (лезыво)* 'драбіны бортніка' 1507<стп. *leziwo* (PSDP 182); *ляный* 'адліты, выліты' 1604<стп. *lany* (XVI ст., SPK, ад *lać,* SłSE IV 49); *майстровати* 'майстраваць' 1686<пол. *majstrować* (SJP IV 388); *начинье (начынье)* 'прылада, інструмент' п. XVI ст.<стп. *naczynie* (SSt V 23); *осекъ (осека)* 'бусак' п. XVII ст.<стп. *osęk, osęka* (SPK); *паствиско (паствишко)* 'паша' 1567<стп. *pastwisko* (SPK); *пытлевати* 'пытляваць' 1601<стп. *pytlować* (XVI ст., SPK, ад *pytel*, BrSE 450); *роботизна (работизна)* 'праца' 1656<стп. *robocizna* (PSDP 412); *рурмусъ* 'помпа' 1566<стп. *rurmus* (Сп 959); *рыдель (ридель, рыдль)* 'рыдлёўка' 1567<стп. *rydel, rydl* (SPK); *свидеръ (сведеръ)* 'свярдзёлак' 1540<стп. *świder* (SPK); *свидровати* 'свідраваць' 1695<стп. *świdrować* (Сп 1088); *творидло* 'форма для сыроў' 1571<стп. *tworzydło* (SPK); *умеетный (вмеетный)* 'умелы, майстэрскі' 1554<стп. *umiejętny* (SPK); *цудити* 'чысціць,

часаць каня' п. XVII ст.<стп. *cudzić* (SP III 701); *шмальцукга* 'смала' 1653<пол. *szmelcuga* (ад *szmalc*, BrSE 551).

Значна вузей прадстаўлены ў гэтай групе словы лацінскага паходжання: *алембикъ (олембикъ)* 'перагонны апарат' 1617<стп. *alembik* (XVI ст., SP I 137<слац. *alambicum*, ад ар. *al-'anbīq*, SWOR 41); *вакацыя* 'перапынак у працы' 1711<стп. *wakacyja* (XVI ст., SPK< лац. *vacatio*, SWO 797); *миния (минея)* 'кінавар, сурык' 1688<стп. *minija* (XVI ст., SPK<лац. *minium*, Mosz. 191); *професия (профессия, проффесыя)* 'прафесія, занятак' с. XVII ст.<стп. *profesyja, professyja* (XVI ст., SPK<лац. *professio*, Mosz. 200); *реставрацыя (рестаурацыя, ресторацыя)* 'рэстаўрацыя, рамонт' 1686<стп. *restauracyja* (XVI ст., SPK<лац. *restauratio*, Ryb. 83); *рестовровати* 'рэстаўрыраваць' 1629<стп. *restaurować* (XVI ст., SPK<лац. *restaurāre*, SWO 645); *руиновати* 'руйнаваць' 1681<стп. *rujnować* (XVII ст.<слац. *ruinare*, P II 338); *фабрика* 'умельства, прадпрыемства' 1686 <стп. *fabryka* (1564, SP VII 1<лац. *fabrica*, Mosz. 173); *формовати* 'надаваць пэўную форму' п. XVII ст.<стп. *formować* (1534, SP VII 100<лац. *fōrmāre*, P I 205); лексічныя сродкі раманскага паходжання: *кошара* 'кашара' 1546<стп. *koszara* (1439, SSt III 357<рум. *coşara*, SłSE II 540); *почта* 'пошта' 1685<стп. *poczta* (XVI ст., SPK< іт. *posta*, BrSE 424); лексемы чэшскага паходжання: *праца* 'праца' к. XV ст.<стп. *praca* (XV ст., SSt VII 20 <стч. *práce*, Siat. 168); *працовати (працевати)* 'працаваць' 1517<стп. *pracować* (1471, SSt VII 21<стч. *pracovati*, Siat. 168). Звяртае на сябе ўвагу таксама адзін грэцызм: *сурикъ (сурыкъ)* 'сурык' 1679<гр. συρικόν, магчыма, праз струс. *сурикъ* (Фасм. III 806).

З літуанізмаў у гэтай прадметна-тэматычнай групе выступаюць наступныя лексемы: *клоймъ (клаймъ)* 'месца для зерня ў гумне' 1585<літ. *klojimas, klaimas* (Jabl. 86); *орудъ* 'засек' 1582<літ. *arúodas* (LRKŽ 68); *склютъ (скглютъ)* 'цяслярская сякера' 1561<літ. *skliùtas* (LRKŽ 672); *стырта (скирта, стирта)* 'сціртa' 1444< літ. *stìrta* (Būga II 598); *торпъ* 'тарпа' 1539<літ. *tárpas* (Būga II 630). З цюркізмаў звяртаюць на сябе ўвагу словы *жесть* 'бляха' 1681 (<струс. *жесть* 1669, СРЯ V 99<цюрк., параўн. каз. *ǯez*, тат. *ǯiz*, чаг. *čas*, ЭСРЯ I-5 288) і *каракуля* 'вілы для гною' 1579 (<рус. дыял.

*каракуля*<цюрк. *karakul*, ад *kara* 'чорны'+*kul* 'рука', Шип. 165).

У трэцюю прадметна-тэматычную групу прафесійна-вытворчай лексікі старабеларускай мовы ўваходзяць запазычанні, якія абазначаюць назвы будынкаў і збудаванняў, іх частак і дэталей, будаўнічых матэрыялаў. Гэтыя словы праніклі ў беларускую мову з тых жа моў-крыніц, што і лексемы першых дзвюх груп, прычым і тут колькасна пераважаюць лексічныя сродкі нямецкага паходжання: *алькеръ* 'веранда' 1646<стп. *alkierz* (1426, SSt I 33<стч. *alkeř*<свн. *ärker, erker,* Recz. 27); *балька (балка)* 'бэлька' 1518<стп. *balka* (1459, SSt I 73<ням. *Balke,* BrSE 20); *будынокъ* 'будынак' 1548< стп. *budynek* (XVI ст., SP II 497<свн. **būding,* SłSE I 48); *букштель* 'кружала' 1686<стп. *bugstel, buksztel* (1417, SSt I 176<ням. *Bogengestell,* BrSE 48); *бурштель* 'рыштаванне' 1689<ням. *Burgstall* (Гал. 36); *вашольцъ (фашольцъ)* 'неапрацаванае дрэва' 1548<ням. *Waschholz; галтаръ* 'вадасховішча, рэзервуар' 1631<ням. *Halter, Behalter* (НРС 128, 400); *гантаба (антаба, кантаба)* 'засаўка, ручка' 1556<стп. *hantaba, antaba* (1525, SP VIII 299<ням. *Handhabe,* BrSE 5); *дахъ* 'дах' к. XV ст.<стп. *dach* (XV ст., SSt II 1<свн. *dach,* SłSE I 136); *дыль (дылъ)* 'тоўстая дошка, сцяна' п. XVII ст.< стп. *dyl* (1399, SSt II 249<свн. *dil(le),* MoszG 56); *кафель (кафля, кахель, кахля)* 'кафля' 1514<стп. *kachel, kafel* (1494, SSt III 216<ням. *Kachel,* SłSE II 20); *кватера* 'аконная рама' 1593<стп. *kwatera* (XVI ст., SPK <свн. *quatier, quartier,* ад слац. *quarterium,* SłSE III 472); *кганокъ (ганокъ, кганекъ)* 'ганак' 1541<стп. *ganek* (XV ст., SSt II 382<свн. *ganc,* SłSE I 254); *кгмахъ (гмахъ, дмахъ)* 'вялікі будынак; пакой' п. XVI ст.<стп. *gmach* (1393, SSt II 434<свн. *gemach,* SłSE I 297); *кгонтъ (гонтъ, кгунтъ)* 'гонт' 1550<стп. *gont* (1378, SSt II 457<свн. *gant,* SłSE I 318); *клямаръ (кляморъ)* 'клямар, скаба' 1681<стп. *klamra, klamer* (1394, SSt III 281<свн. *klamer,* SłSE II 185); *клямка* 'клямка' 1571< стп. *klamka* (1532, SP X 335<свн. *klam, klame,* SłSE II 184); *коминъ (камина, комина)* 'комін; камін' к. XV ст. <стп. *komin* (1395, SSt III 321<свн. *kámīn,* ад лац. *camīnus*<гр. *κάμινος,* SłSE II 384); *кружкганокъ (крузкганокъ)* 'унутраная галерэя' 1598<стп. *krużganek* (XVI ст., SPK<свн. *kriuzeganc,* SłSE III 187); *кухня*

'кухня' 1444<стп. *kuchnia* (1471, SSt III 459<стч. *kuchyně*<ствн. *kuchīna,* ад лац. *coquīna,* SłSE III 305); *лата (латва)* 'лата' п. XVI ст.<стп. *łata* (1403, SSt IV 102<свн. *latte, late,* SłSE V 38); *лемусъ* 'гліняная гаспадарчая пабудова, кладоўка' 1566<стп. *lemus* (XVI ст., SPK<свн. *lēmhūs,* SłSE IV 318); *лиохъ* 'склеп, паграб' 1627<стп. *loch* (XVI ст., SPK<свн. *loch,* SłSE IV 318); *мачула* 'перакладзіна на рыштаваннях' 1688<пол. *maczulec* (<ням. *Netzholz,* SW II 841); *маштарня* 'канюшня' 1580<стп. *masztarnia* (1565, LWWK 84<ням. *Marstall,* BrSE 324); *млынъ (млинъ)* 'млын' 1375<стп. *młyn* (1347, SSt IV 296<ствн. *mulīn,* MoszG 66); *мурлатъ (мулартъ, мулатъ, мурлятъ)* 'апорны брус' 1690<стп. *murłat* (1419, SSt IV 365<свн. *mūrlatte,* MoszG 66); *муръ* 'цагляная або каменная сцяна, будаўнічы матэрыял' к. XV ст.<стп. *mur* (XV ст., SSt IV 363<свн. *mūre,* ад лац. *mūrus,* MoszG 66); *нарвина* 'драўляная перакладзіна' 1684<снн. *narve,* бав. *närw* (Фасм. III 44); *паль (паля)* 'паля' 1546<стп. *pal* (1420, SSt VI 8<свн. *pfāl,* ад лац. *pālus,* MoszG 68); *парканъ (барканъ, паркганъ, порканъ)* 'плот, сцяна' 1505<стп. *parkan, barkan* (1444, SSt VI 38<свн. *parkān,* SWO 552); *рама* 'рама' 1566<стп. *rama* (1394, SSt VII 431<ням. *Rahmen,* BrSE 453); *рина (ринна, рына, рынва)* 'жолаб' 1566<стп. *ryna, rynna* (1393, SSt VIII 64<ням. *Rinne,* BrSE 472); *рыгель* 'засаўка' 1653<стп. *rygiel* (1457, SSt VIII 63<ням. *Riegel,* BrSE 471); *рынштокъ (ринштокъ, рыншторкъ)* 'сцёкавая канава' 1551<стп. *rynsztok* (1500, SSt VIII 65<ням. *Rinnstock,* P II 342); *рыштованье (рештованье, риштованье, роштованье)* 'рыштаванне' 1514<стп. *rusztowanie, rosztowanie* (1463, SSt VIII 50<ням. *Rüstung,* Rich. 96); *слюза* 'шлюз' 1606<стп. *śluza* (XVI ст., LWMC 239<ням. *Schleuse,* SWO 738); *стодола (стадола)* 'гасцініца, карчма; гумно' 1552<стп. *stodoła* (XV ст., SStK <свн. *stadal,* Фасм. III 764); *ташъ* 'будка' 1596<стп. *tasz* (XVI ст., SPK<ням. *Tasche,* BrSE 566); *трамъ* 'бервяно, бэлька' п. XVII ст.<стп. *tram* (XV ст., SStK< свн. *trām,* MoszG 76); *филяръ (филаръ)* 'калона, слуп; апора' 1562<стп. *filar* (1415, SSt II 359<свн. *pfīlaere,* ад слац. *pilare,* SłSE I 229); *форта* 'брамка, дзверы' 1592<стп. *forta* (XV ст., SSt II 370<свн. *pforte,* ад лац. *porta,* SłSE I 212); *фукга* 'паз, скрэпа' п. XVII ст.< стп. *fuga* (1568, SP VII 140<ням. *Fuge,* BrSE 129);

*цамръ* *(цаморъ)* 'будаўнічы лесаматэрыял' 1536<стп. *camr* (1572, SP III 130<стч. *cimr*<свн. *zimber,* SW I 255); *цвекъ (цвехъ, цвякъ)* 'цвік' 1679<стп. *ćwiek* (1461, SSt I 438<свн. *zwëc,* MoszG 55); *цегла (цекгла)* 'цэгла' 1503<стп. *cegła* (1455, SSt I 217<свн. *ziegel,* MoszG 55); *шиба (шыба)* 'шыба' 1566<стп. *szyba* (XVI ст., SPK <свн. *schībe,* Фасм. IV 435); *шиндель* 'гонта' 1510<стп. *szyndel* (XVI ст., SPK<ням. *Schindel,* BrSE 561); *шопа (шофа)* 'павець' 1566<стп. *szopa* (XV ст., SStK< ням. *Schoppen,* BrSE 551); *шпихлеръ (спихлеръ, шпехлеръ, шпихпиръ, шпихръ)* 'свіран; склад' 1552<стп. *szpichlerz, spichlerz, szpichrz* (XV ст., SStK<ням. *Speicher,* BrSE 533); *шранокъ* 'бар'ер, агароджа' 1580<стп. *szrank* (XV ст., SStK<ням. *Schranke,* BrSE 554); *штаба (штапа)* 'жалезны брусок' 1598<стп. *sztaba* (XVI ст., SPK<ням. *Stab,* BrSE 555); *штандаръ (штандаль, штендеръ, шпендеръ, штокдаръ)* 'драўляны слуп-апора' 1617 <стп. *sztandar* (XVI ст., SPK<ням. *Ständer,* BrSE 555); *штемпель (штампаль, штамполь, штемпаль, штемль, штемпль, штомполь, штонпиль)* 'драўляны слуп-апора; шомпал' 1566<стп. *stempel, sztempel* (XV ст., SStK<ням. *Stempel,* SWO 701).

З запазычанняў польскага паходжання можна назваць наступныя лексічныя адзінкі: *замокъ (замекъ, замэкъ)* 'замак' 1441<стп. *zamek* (SStK); *кармникъ* 'адкармачны хлеў' 1580<стп. *karmnik* (SP X 148); *мутвица* 'млын' 1475<стп. *mątwica* (SSt IV 176); *озница* 'сушыльня' 1571<стп. *oźnica* (SPK); *поренчъ (паренчъ)* 'парэнчы' 1681<стп. *poręcz* (SPK); *посадзка (посажка, посацка)* 'падлога з плітак; чарэнь' п. XVII ст.<стп. *posadzka* (1572, LWPł 55); *посмыкъ* 'тоўстая жэрдка' 1679<стп. *postyk* (SPK); *седлиско* 'жыллё' 1589<стп. *siedlisko* (SPK); *склепъ* 'склеп' к. XV ст.<стп. *sklep* (SStK); *спижарня* 'кладоўка' п. XVI ст.<пол. *spiżarnia* (ад *spiża,* BrSE 509); *стежея* 'завеса' 1571<стп. *ścieżeja* (SPK); *тартица (тарцица, тарчица, тарчыца, тертица, торчица)* 'драніца, піламатэрыял' 1555<стп. *tarcica* (SPK); *шпара* 'шчыліна, зазор' 1689<стп. *szpara* (SPK).

Адзначаецца ў гэтай групе прафесійна-вытворчай лексікі некаторая колькасць слоў лацінскага паходжання: *градусъ* 'ступенька сходаў, узвышэнне ў царкве' 1722<стп. *gradus* (1534, SP VIII 91<лац. *gradus,* Mosz. 175); *каналъ* 'канал' 1627<стп. *kanal* (1461, SSt

III 234<лац. *canālis,* магчыма, праз ням. *Kanal* або іт. *canale,* SłSE II 41); *комната (ковната, кувната)* 'пакой' к. XV ст.<стп. *komnata, kownata* (1400, SSt III 322< слац. *caminata,* SłSE II 388); *крата (грата, гратва, кграта)* 'краты' 1519<стп. *krata, grata* (XVI ст., SPK <слац. *crata, grata,* SłSE III 68); *лябиринтъ* 'лабірынт' с. XVII ст.<стп. *labirynt* (XVI ст., SPK<лац. *labyrinthus,* ад гр. λαβύρινθος, SłSE IV 15); *махина* 'вялікае збудаванне' 1598<стп. *machina* (XVI ст., SPK<лац. *māchina,* ад гр. μηχανή, Mosz. 189); *павиментъ* 'падлога' 1620<стп. *pawiment* (XVI ст., SPK<лац. *pavīmentum,* Mosz. 197); *целья (целия, целля)* 'невялікі пакой; пакой манаха' п. XVII ст.<стп. *cella* (1522, SP III 147<лац. *cella,* SWO 103); *цистерна (тестерна, цыстерна)* 'вадасховішча' 1653<стп. *cysterna* (1455, SSt I 340<лац. *cisterna,* SWO 128); паасобныя лексемы раманскага паходжання: *балясъ* 'балюстрада' 1653<стп. *balas* (1461, SSt I 58<іт. *balaustro,* Leem. 39); *палацъ (полаца, полацъ)* 'палац' к. XV ст.<стп. *pałac* (XIV ст., SSt VI 11< іт. *palazzo,* BrSE 392); *саля* 'зала' 1582<стп. *sala* (XVI ст., SPK<іт. *sala,* P II 350, або фр. *salle,* SWO 663); адно слова чэшскага паходжання: *брама (брана)* 'брама' 1571<стп. *brama, brana* (XVI ст., SP II 438< стч. *brána,* SłSE I 41, Siat. 108).

Для назваў гаспадарчых будынкаў і іх частак старабеларуская мова запазычыла некалькі літуанізмаў: *евья (евня)* 'ёўня, сушня' 1540<літ. *jáuja* (Būga II 622); *клуня (клоня, клюня)* 'клуня' 1503<літ. *klúonas* (Jabl. 90); *применъ (прийменъ, прыменъ)* 'пярэдняя' 1521< літ. *priemenė* (Jabl. 189); *пуня* 'пуня' 1516<літ. *pùnė* (Карс. 135); *свиренъ (сверенъ, свиронъ)* 'свіран' к. XV ст.<літ. *svir̃nas* (Jabl. 217); *шуло (шула)* 'шула' 1629<літ. *šùlas* (Būga II 620). Вядомы таксама адзін цюркізм: *амбаръ (имбаръ, инбаръ, онбаръ)* 'свіран' 1577<струс. *амбаръ* (1539, СРЯ I 34<тат. *ambar,* ад перс. *anbār,* Фасм. I 75).

## VII. БЫТАВАЯ ЛЕКСІКА

Адзін з самых вялікіх разрадаў запазычаных слоў у старабеларускай мове, якому ў колькасных адносінах не ўступае толькі разрад грамадска-палітычнай лексікі, утвараюць лексемы бытавога характару. Значная

ўдзельная вага лексічных сродкаў іншамоўнага паходжання ў бытавым беларускім слоўніку XIV—XVIII стст. тлумачыцца перш за ўсё тым, што беларусы, узмацняючы палітычныя, гандлёва-эканамічныя і культурныя кантакты з суседнімі народамі, знаёміліся з чужаземным бытам і пераймалі многія замежныя рэчы разам з іх назвамі для свайго паўсядзённага ўжытку. Акрамя таго, патрэбна мець на ўвазе, што бытавая сфера ўжо ў старабеларускі перыяд характарызавалася даволі шырокім ахопам рэчаіснасці — ад рэчаў кухоннага прызначэння да самых разнастайных відаў тканін, убораў і ўпрыгожанняў, а, як вядома, іменна ў гэтых галінах найбольш часта адбываецца перайманне ад іншых народаў. Узяць, напрыклад, матэрыялы, адзенне і абутак. Тут асабліва разнастайны асартымент замежных тэкстыльных і скураных вырабаў, часта, нягледзячы на іх высокую цану, выкарыстоўвалі багатыя слаі насельніцтва Вялікага княства Літоўскага. Прыцягальным узорам для беларуска-літоўскай знаці ва ўмовах рознабаковых цесных зносін краіны з каралеўскай Польшчай служылі ў гэтых адносінах польская шляхта і заможнае мяшчанства, мэтай якіх было дэманстраванне пыхі і раскошы ва ўбранні. Бяднейшае мяшчанства беларускіх гарадоў задавальняла свае патрэбы прадукцыяй ніжэйшых гатункаў, хоць таксама ахвотней купляла прывазныя тавары, якія па якасці перавышалі вырабы мясцовых тэкстыльных і дубільных прадпрыемстваў. Разам з таварамі набывалі новае жыццё на беларускай глебе і іх іншамоўныя назвы.

Па свайму характару бытавая лексіка старабеларускай мовы звязана з канкрэтнымі рэаліямі і з'явамі, таму яе развіццё знаходзілася ў цеснай залежнасці ад развіцця жывой гутарковай мовы таго часу, якая чэрпала лексічныя сродкі з іншых моў вусным шляхам. Гэта адбілася на этымалагічным асартыменце запазычанняў, сярод якіх, як і ў прафесійна-вытворчай лексіцы, мала лацінізмаў і грэцызмаў, а выступаюць звычайна словы нямецкага, польскага, літоўскага, цюркскага паходжання. Гэтым старабеларуская бытавая лексіка істотна адрозніваецца ад грамадска-палітычнай, якая абслугоўвала ў асноўным сферу афіцыйнага жыцця і папаўнялася пераважна лацінскімі словамі.

Семантычная разнастайнасць запазычанай у стара-

беларускі перыяд лексікі бытавога характару дазваляе вылучыць у яе складзе некалькі прадметна-тэматычных груп. Асобную групу ўтвараюць, напрыклад, назвы канкрэтных прадметаў і прыстасаванняў хатняга, гаспадарчага і асабістага ўжытку, мэблі, пасуды, кухонных і сталовых прыналежнасцей. Колькасна пераважаюць у гэтай групе словы нямецкага паходжання: *анкгель* 'аправа нажа' 1552<стп. *angiel* (<ням. *Angel,* SW I 37); *ботогъ* 'кадушка' 1582<пол. *botuch* (<ням. *Bottich,* BrSE 37); *бритванна (бритванъ)* 'бляха, патэльня' 1592 <стп. *brytwanna, brutfanna* (1500, SSt I 168<ням. *Bratpfanne,* BrSE 43); *ванна* 'ванна' 1569<стп. *wanna* (XV ст., SStK<ствн. *wanna,* MoszG 77); *вачокъ (вацекъ, вацокъ, вачекъ)* 'сумка, кашалёк' 1516<стп. *wacek* (XV ст., SStK<ствн. *wātsak,* BrSE 598); *друшлякъ (дуршлякъ)* 'друшляк' 1592<стп. *durszlak* (1461, SSt II 220<свн. *durchslac,* MoszG 56); *зедель (зыдель, зэдель)* 'зэдаль' 1583<стп. *zedel, zydel* (XV ст., SStK<свн. *sëdel,* MoszG 78); *зекгаръ (зегаръ, зэкгаръ)* 'гадзіннік' 1510<стп. *zegar* (XV ст., SStK<снн. *seiger,* MoszG 78); *кельня (келля, келя)* 'чарпак; скрынка пры возе' 1569< стп. *kielnia, kiella, kela* (1494, SSt III 275<свн. *kelle,* SłSE II 142); *кипка* 'каробка, кошык' 1686<пол. *kipka* (<ням. *Kiepe,* BrSE 392); *кнотъ* 'кнот' п. XVII ст.<стп. *knot* (1444, SSt III 306<свн. *knote,* SłSE II 288); *коневъ (конва, коновъ)* 'збан, бітон' 1519<стп. *konew* (1437, SSt III 326<стч. *konev*<ствн. *channa,* SłSE II 412); *кубелъ* 'кубел' 1538<стп. *kubeł* (XV ст., SSt III 459<свн. *kübel,* SWO 405; SłSE III 297 лічыць слова дэрыватам ад **kubъ); куфа* 'вялікая бочка' 1583<стп. *kufa* (XV ст., SSt III 460<свн. *kuofe,* SłSE III 318); *куфель (кухель)* 'куфель' 1541<стп. *kufel* (XVI ст., SPK<свн. *küefel,* SłSE III 319); *ланцухъ (ланцугъ, ланцюхъ, ланчухъ, ленцухъ, леньцухъ, лонцухъ)* 'ланцуг' к. XV ст.<стп. *lańcuch, leńcuch* (1389, SSt IV 96<ням. *Lannzug,* BrSE 306); *лина* 'канат, вяроўка' п. XVI ст.<стп. *lina* (1488, SSt IV 50<свн. *līne,* SłSE IV 262); *лихтаръ (лехтаръ, лыхтаръ, ляхтаръ)* 'ліхтар' к. XV ст.<стп. *lichtarz* (XV ст., SSt IV 41<свн. *liuhtaere,* SłSE IV 233); *ольстро (волстро, вольстро, олстро)* 'футляр; кабура' 1559<стп. *olstro* (XVI ст., SPK<ням. дыял. *holster,* SWO 527); *паневъ (пановъ)* 'скаварада' 1516<стп. *panew* (XIV ст., SSt VI 22<свн. *pfannekuoche,* MoszG 68); *пугаръ* 'келіх,

чаша' 1635<стп. *puchar* (XVII ст., Bart. 87<ням. *Becher*, BrSE 447); *пудло* 'скрынка' 1578<стп. *pudło* (1411, SSt VII 396<свн. *pudel*, BrSE 447); *ребтухъ (рабтухъ, рябтухъ, хрептухъ)* 'мех для конскага корму' 1586<стп. *kreptuch* (1391, SSt III 382<свн. *kripptuoch*, SłSE III 88); *скиба* 'луста; скіба' 1519<стп. *skiba* (XV ст., SStK<ствн. *scība*, Rich. 98); *стрычокъ (стричокъ)* 'вяроўка' п. XVII ст.<стп. *stryczek, stryk* (XV ст., SStK<ням. *Strick*, BrSE 522); *сумка* 'сумка' 1516<стп. *sumka* (XVI ст., SPK<свн. *soum*, Фасм. III 802); *тайстра* 'кайстра' 1556 <стп. *tajstra* (XVI ст., SPK<магчыма, ням. *Tanister*, ад лац. *canistrum*, SJP IX 14); *талеръ (талиръ, тарель)* 'талерка' 1506<стп. *talerz* (XV ст., SStK<свн. *talier*, MoszG 75); *труна (трумна, трунна)* 'труна' 1577<стп. *truna, trumna, trunna* (XVI ст., SPK<свн. *truhe*, Фасм. IV 109); *фаса* 'кадушка; бочка' 1514<стп. *fasa* (1426, SSt II 357<ням. *Fass*, SłSE I 231); *фляша (пляша, хвляша)* 'пляшка' 1538<стп. *flasza* (1437, SSt II 360<свн. *vlasche*, SłSE I 231); *чопъ* 'бочачка' 1552<стп. *czop* (1457, SSt I 394<свн. *zapfe*, BrSE 80; SłSE I 125 лічыць слова праславянскім); *шабелтасъ (шаболтасъ)* 'скураная сумка' 1625<стп. *szabeltas* (XVII ст., PSDP 480< ням. *Säbeltasche*, BrSE 538); *шафа* 'шафа' 1583<стп. *szafa* (XVI ст., SPK<ням. *Schaff*, BrSE 539); *шафликъ (шопликъ)* 'ражка, балея' 1671<стп. *szaflik* (XV ст., SStK<ням. *Schaffel*, BrSE 539); *шракги* 'вешалка' 1556 <стп. *szragi* (XV ст., SStK<ням. *Schragen*, BrSE 540); *штофъ* 'штоф' 1562<стп. *sztof* (XVI ст., SPK<ням. *Stof*, BrSE 555); *шуфляда* 'шуфляда' 1577<стп. *szuflada* (XVI ст., SPK<ням. *Schublade*, BrSE 557).

Менш шырока прадстаўлены ў гэтай групе бытавой лексікі словы ўласнапольскага паходжання: *барбара* 'вяроўка, канат' 1683<пол. *barbara* (BrSE 15); *бучакъ* 'букавы кій' 1590<пол. *buczek* (WSPR 83); *виделецъ* 'відэлец' 1617<стп. *widelec* (Cn 1243); *воръ* 'мяшок' 1561<стп. *wor* (SPK); *денко* 'падстаўка' 1688<стп. *denko* (Cn 119); *дробязкгъ (дробезкъ, дробязгъ, дробязкъ, дробязокъ)* 'дробязь, забаўка' 1598<стп. *drobiozg, drobiazg* (SP VI 26); *дуница* 'гаршчок' 1580<стп. *dunica* (SP VI 176); *жакгевъ (жакгва)* 'факел' п. XVII ст.<стп. *żagiew* (SPK); *кгарнецъ (гарнецъ, гарнеть, кгарецъ, гарецъ)* 'гаршчок; мера вадкіх і сыпкіх рэчываў' 1530<стп. *garniec* (SSt II 386); *кобялка* 'ко-

шык з накрыўкай' 1618<стп. *kobiałka* (SP X 434); *костуръ* 'кій' 1638<стп. *kostur* (SłSE II 534); *нецка* 'балея' 1599<стп. *niecka* (SPK); *поврозъ* (*паврозъ*) 'вяроўка' 1555<стп. *powroz* (SPK); *скорупа* (*скарупа*, *шкорупа*) 'чарапок' п. XVII ст.<стп. *skorupa* (SPK); *тарарушка* 'бразготка' 1596<пол. *tararuszka* (SP VII 22); *тлумокъ* (*клумокъ*) 'клунак' 1516<стп. *tłumok* (SStK); *тросъ* 'скураная торба або пас для грошай' 1585<стп. *trzos* (SStK); *тыка* 'тычка' 1590<стп. *tyka* (SPK); *ушатокъ* (*вушатокъ*, *вшатокъ*) 'цэбар' 1470<стп. *uszatek* (SPK); *цеберъ* 'цэбар' 1653<стп. *ceber* (XIII ст., SSt I 215, ад прасл. **cьbьrъ*, SłSE I 55); *чачокъ* (*чачка*) 'цацка' 1598 <стп. *czacz*, *czaczko* (SP IV 2); *яндула* 'чарка' 1582< стп. *janduła* (BrSE 198).

Звяртаюць на сябе ўвагу назвы некаторых хатніх і асабістых рэчаў, запазычаныя праз польскае пасрэдніцтва з лацінскай мовы: *альмария* (*армария*, *олмарея*) 'скрынка, шкатулка' 1568<стп. *almaryja*, *armaryja* (1564, SP I 144<лац. *armarium*, слац. *almaria*, Mosz. 159); *бисага* (*висага*) 'перакідная торба' 1540<стп. *biesaga*, *bisaga* (1439, SSt I 90<лац. *bisaccium*, слац. *bisacus*, Mosz. 164); *инкиркъ* 'аправа, футляр' 1529<лац. *in-circum* 'навокал' (ЛРС 507); *капса* 'футляр, скрынка' п. XVII ст.<стп. *kapsa* (1564, SP X 104<лац. *capsa*, SłSE II 11); *келихъ* (*кгелихъ*, *килихъ*) 'кубак, чаша' п. XV ст.<стп. *kielich* (1400, SSt III 275<ствн. *chelih*< лац. *calix*, SłSE II 140); *компасъ* (*конпасъ*) 'компас; гадзіннік' 1589<стп. *kompas* (1487, SSt III 324<слац. *compassus*, іт. *compasso*, фр. *compas*, SłSE II 395); *лямпа* (*лампа*) 'лямпа' к. XV ст.<стп. *lampa* (1455, SSt IV 2 <лац. *lampas*, *-adis*, ад гр. λαμπας, -άδος, Mosz. 187); *лятарня* (*летарня*, *лятерня*) 'ліхтар' 1556<стп. *latarnia*, *laternia* (1500, SSt IV 7<ням. *Laterne*<лац. *lāterna*, SłSE IV 66); *пателя* (*пательня*, *петелня*) 'металічная талерка; патэльня' 1555<стп. *patela*, *patelnia* (1528, IM 606<лац. *patella*, Mosz. 196); *пуклярисъ* 'бумажнік, пулярэс' 1698<стп. *pugilares* (1585, IM 612<лац. *pugillāres*, SWO 616); *саква* 'торба' 1616<стп. *sakwa* (1621, P II 350<лац. *saccus*, ад гр. σάκκος, BrSE 479); *специалъ* 'рэдкі прадмет, асобная частка чаго-небудзь' 1684<стп. *specyjał* (1541, SKN 555<лац. *speciālis*, Ryb. 87); *сплендоръ* 'каштоўны прадмет, упрыгожанне' 1674<стп. *splendor* (XVII ст., P II 395<лац. *splendor*, Ryb. 87);

*ямпулка* 'пасудзіна з вузкім горлам' 1794<стп. *jampulka* (1541, SKN 508<лац. *ampulla*, SWO 29).

Праз польскую мову праніклі ў беларускі слоўнік асобныя лексемы чэшскага паходжання: *мары* 'насілкі для пакойніка' к. XV ст.<стп. *mary* (XIV ст., SSt IV 166<стч. *máry*, ад ням. *Bahre*, SWOR 419); *пуздро* 'шкатулка, скрынка' 1582<стп. *puzdro* (1464, SSt VII 409< стч. *pouzdro*, SJP VII 755); венгерскага паходжання: *палцатъ* 'кій' 1653<стп. *palcat* (XV ст., SSt VI 8<венг. *pálcát*, SWO 541). Што датычыць слоў раманскага паходжання, то яны ў больш ранні перыяд запазычваліся таксама праз пасрэдніцтва польскай мовы: *кгелетка* 'даёнка' 1596<пол. *gieleta* (<рум. *galeta*, ад лац. *galleta*, BrSE 133); *мачуга (мочукга)* 'дубінка' 1582<стп. *maczuga* (1492, SSt IV 141<рум. *maciúca*, SWO 441); *портфель* 'партфель' 1713<пол. *portfel* (<фр. *portefeuille*, SWO 592); *сакъ* 'мяшок; мера мёду' 1549<стп. *sak* (XV ст., SStK<фр. *sac*, іт. *sacco*, ад лац. *saccus*< гр. *σάκκος*, SWO 662); *шкатула* 'шкатулка' 1580<стп. *szkatuła* (XVI ст., SPK<іт. *scatola*, SWO 729); у пачатку XVIII ст. крыніцай раманізмаў выступала і руская мова: *бутылка* 'бутэлька' 1715<рус. *бутылка* (1714< пол. *butelka*<фр. *bouteille*, ОИЛ 349).

У групе назваў хатніх і гаспадарчых рэчаў сустракаецца рад цюркізмаў: *амаилъ* 'амулет' 1541<асм.-тур. *hamaili*, *hamail* (<ар. *hämā'ilī*, St. I 80); *басалыкъ* 'пуга з волавам на канцы' с. XVII ст.<стп. *basałyk* (XIV ст., SSt I 70<тур. *basulyk*, SłSE II 176); *боклагъ (баклага, биклаха, боклага)* 'драўляная пасудзіна з вузкім горлам' 1577<рус. *баклага* (<тат. *baklak*, Фасм. I 110); *достаканъ* і *рострухань (розтруханъ)* 'кубак, шклянка' 1529<струс. *достаканъ* (1503, СРЯ IV 338<цюрк. *tostakan*, *tustugan*, Дмит. 568, Арак. 144, ад перс. *dūstgān*, Гиун. 188) і стп. *roztruchan* (1393, SSt VII 498, ад усхсл. *достаканъ*<цюрк., BrSE 463); *калита (колита)* 'кашалёк' п. XV ст.<струс. *калита* (XIV ст., Арак. 134 <тат. *kalta*, Фасм. II 168); *капчукъ* 'кісет, капшук' 1700<стп. *kapczuk* (XVIII ст., L II 307<тур. *kapčuk*, Zaj. 56); *карбачъ* 'пуга, бізун' 1597<стп. *karbacz* (1564, LWS 420<венг. *korbács*<тур. *kyrbač*, SłSE II 474); *нагайка* 'нагайка' 1519<рус. *нагайка* (ад тат. *naγaj*, Фасм. III 35); *сундукъ* 'куфар' 1598<струс. *сундукъ* (XVI ст., Таг. 151<цюрк., параўн. чув. *sundəχ*, кыпч.

*sunduq,* тат. *sunduk,* Фасм. III 803); *таволга* 'дзяржанне пугі або аршын, зробленыя з вятроўніку' 1578<цюрк., параўн. чаг. *tabulγu,* тат. *tabylγy,* Фасм. IV 8, ТРС 245); *торба* 'торба' 1555<цюрк. *torba* (Фасм. IV 81); *шайка* 'ражка' 1698<укр. або рус. *шайка* (<тур. *šaika,* Фасм. IV 395). У значна меншай колькасці прадстаўлены літуанізмы: *ендова (яндова)* 'вялікая міска для мыцця бялізны і пасуды' 1590<літ. *iñdaujà* (Jabl. 78); *ковшъ* 'коўш' 1441<літ. *káušas* (Būga I 582); *пакуле (пакуля)* 'пакулле' 1688<літ. *pãkulos* (Кип. 68). З іншых слоў пэўную цікавасць уяўляюць грэцызмы *кратиръ* 'чаша' п. XVII ст. (<гр. κρατήρ, ДГРС I 979) і *пилатикъ* 'кій' 1539 (<стп. *piłatyk* 1419, SSt VI 136<гр. πιλητικός, Mosz. 198), а таксама лексема скандынаўскага паходжання *кодола* 'канат для рыбалоўнай сеткі' п. XVII ст. (<рус. дыял. *кодол*<стсканд. *kadall,* стшв. *kadhal,* Фасм. II 276). Усё гэта сведчыць аб этымалагічнай разнастайнасці назваў бытавых рэчаў у старабеларускай мове.

Самую вялікую групу старабеларускай бытавой лексікі складаюць назвы тканін, скур і вырабаў з іх, розных відаў адзення і абутку, прадметаў туалету, спальных прыналежнасцей. З этымалагічнага боку гэта група запазычаных слоў характарызавалася наяўнасцю двух струменяў — заходняга і ўсходняга. Зусім натуральна, што сярод заходніх запазычанняў пераважалі паланізмы, у тым ліку многія словы заходнееўрапейскага паходжання, засвоеныя польскай мовай, бо асноўная частка тканін і ўбораў італьянскай, французскай, англійскай, галандскай, нямецкай вытворчасці імпартавалася ў Вялікае княства Літоўскае праз Польшчу. Назвы ўсходніх тэкстыльных і скураных вырабаў, асноўнымі пастаўшчыкамі якіх з'яўляліся Турцыя і Персія, запазычваліся з цюркскіх моў як непасрэдна, так і праз рускае і ўкраінскае пасрэдніцтва.

Найбольш істотная частка заходніх запазычанняў сваім паходжаннем звязана з германскімі мовамі: *абшлягъ (обшлягъ)* 'абшлаг' 1565<стп. *abszlag* (1494, SSt I 10<ням. *Abschlag,* BrSE 2); *баволна (бавальна, бавелна)* 'бавоўна, баваўняная тканіна' 1401<стп. *bawełna* (XV ст., SSt I 71<свн. *baumwolle,* MoszG 53); *бархан (борханъ)* 'мультан' 1569<стп. *barchan* (1370, SSt I 61<свн. *barchan,* ад слац. *barracanus*<ар. *barra-*

*kān,* SWOR 91); *бархатъ* 'аксаміт' 1558<струс. *бархатъ* (1389, СРЯ I 75<свн. *barchāt,* Фасм. I 129) і непасрэдна свн.; *бая* 'байка' 1626<стп. *baja* (1597, Bart. 115<нн. *baie,* SWO 64); *бинда* 'абвязка' 1653<стп. *binda* (1534, SP II 150<ням. *Binde,* BrSE 27); *блаватъ (бловатъ)* 'каштоўная шаўковая тканіна пераважна блакітнага колеру' 1627<стп. *bławat* (1437, SSt I 106, ад ням. *blau* 'блакітны', BrSE 30); *бламъ (бланъ)* 'кавалак футра пэўнай меры' 1496<стп. *błam, błan* (1422, SSt I 106< ням. *Flamme,* BrSE 30); *блейвасъ* 'бялілы' 1653<стп. *blejwas* (1419, SSt I 99<ням. *Bleiweiss,* BrSE 28); *ботухъ* 'купальны ручнік' 1590<стп. *botuch* (1493, SSt I 132<ням. *Badetuch,* L I 151); *брайцаръ* 'кольца для прымацавання шпор' 1539<стп. *brajcar* (1625, IM 568<ням. *Bräter,* BrSE 38); *брама* 'край вопраткі, шляк' 1555<стп. *brama* (1500, SSt I 153<ням. *Brame,* SłSE I 41); *бретъ* 'клін тканіны або футра' 1661<стп. *bret* (1562, SP II 427<ням. *Breite,* BrSE 43); *вахляръ* 'веер' 1653<стп. *wachlarz* (XVI ст., SPK<ням. *Fächer,* BrSE 598); *газука* 'доўгі мужчынскі кафтан з радам гузікаў' 1545<стп. *hazuka* (1489, SSt II 541<магчыма, стч. *hazuka*<свн. *husecke,* Mach. 126); *галзбантъ (альжбантъ, галбантъ, галвантъ, гальзбанъ, ганжбантъ, гелзбантъ)* 'аздоблены нашыйнік' 1569<стп. *halzbant, alzbant* (1564, SP I 147< ням. *Halsbant,* SJP III 13); *гапликъ* 'гаплік' 1519<стп. *heftlik* (1394, SSt II 542<ням. *Heftel,* SW II 26); *гарусъ* 'гатунак тонкай ваўнянай тканіны' 1510<стп. *haras* (1384, SSt II 540<ням. *Harras,* ад фр. *Arras,* SWO 269); *едвабъ* 'шоўк' 1544<стп. *jedwab* (1394, SSt III 155<стч. *hedvábí*<ствн. *gotawebbi,* SłSE I 551); *замшъ (замешъ)* 'замша' 1552<стп. *zamsz, zamsza* (XV ст., SStK<свн. *semisch leder,* MoszG 78); *занкель (занкгель, занкгиль)* 'спражка' к. XV ст.<стп. *zankiel* (XV ст., SStK<свн. *senkel,* MoszG 78); *индеракъ (индоракъ)* 'спадніца' 1569<стп. *inderak* (1567, SP VIII 532<ням. *Unterrock,* BrSE 192); *ирха (ерха)* 'двухбаковая замша' 1582<стп. *ircha, jercha* (1393, SSt III 42<свн. *irch, ërch,* MoszG 59); *каразия (каражия, каразея, каразъя, каразыя, коразия, корозыя)* 'гатунак тоўстай суконнай тканіны' 1577 <стп. *karazyja* (1569, SP X 132<гал. *karsaai,* ням. *Kersei*<англ. *kersey,* SłSE II 69); *кгерада* 'пасаг нявесты (адзенне, бялізна, пасцель)' 1578<стп. *gierada* (1500, SSt II 413<свн. *gerāde,* SłSE I 341); *кгерлица* 'гатунак

сукна' 1562<стп. *gierlica* (1545, SP VII 340<стч. *gerlické plátno*<стням. *Gerlachstuch,* SW I 826); *кгерынокъ (кгербинокъ, кгерунокъ)* 'гатунак сукна' 1578<стп. *gierzynek* (1394, SSt II 413, магчыма, ад ням. *gering* 'малы, мерны', SW I 827); *китликъ* 'від плашча' 1556<стп. *kitlik* (1484, SSt III 281<свн. *kittel,* SłSE II 179); *кнафель (кнапель, кнахель)* 'гузік, гаплік' 1539<стп. *knafel* (1486, SSt III 305<свн. *knoufel,* SłSE II 283); *колнеръ (ковнеръ)* 'каўнер; аздоблены нашыйнік' 1515<стп. *kołnierz* (1394, SSt III 319<свн. *kolner,* ад стфр. *collier,* SłSE II 367); *колтрышъ (колтришъ)* 'сукно ніжэйшага гатунку' 1510<стп. *kołtrysz* (1466, SSt III 321, відаць, ад назвы горада ў Фландрыі *Kourtrai,* SłSE II 374); *коцъ* 'пакрывала; гуњька' 1577<стп. *koc* (1400, SSt III 309<свн. *kotze,* SłSE II 309); *кранецъ* 'аблямоўка, абрамленне' п. XVII ст.<стп. *kraniec* (1426, SSt III 376<свн. *kranz,* MoszG 61); *крумлисъ* 'гатунак лёгкай ваўнянай тканіны' 1583<стп. *kromlis* (XVII ст., L II 502 <свн. *kronrasch*<англ. *crownrash,* SłSE III 130); *либерыя* 'ліўрэя' 1695<стп. *liberyja* (XVI ст., SPK<ням. *Liberei,* SłSE IV 220); *люндышъ (лундышъ, люндишъ)* 'гатунак сукна' 1578<стп. *lundysz* (XVI ст., SPK<снн. *lundisch,* свн. *lündisch,* SłSE IV 381); *мантель* 'плашч' 1434<стп. *mantel* (XVI ст., SPK<свн. *mantel*, SJP IV 447) і непасрэдна свн.; *мыцка* 'круглая шапачка' 1539<стп. *mycka* (XVI ст., SPK<ням. *Mütze,* SWO 498); *нурбарка (нурбалка)* 'від шапкі' 1540, ад стп. *Norberga* (SPK)<ням. *Nürnberg; пантофель (пантофля)* 'пантофель' 1608<стп. *pantofla* (XVI ст., SPK<ням. *Pantoffel,* ад іт. *pantofola,* SWO 547) і непасрэдна ням.; *плюдры (плюндры)* 'штаны, нагавіцы' 1598<стп. *pludry* (XVI ст., SPK<ням. *Pluder(hose),* SWO 581); *пончоха (панчоха)* 'панчоха' 1583<стп. *pończocha* (XVI ст., SPK<стч. *punčocha*<свн. *puntschuoch,* Rich. 86); *пукля* 'локан; металічная бляшка' 1516<стп. *pukiel, pukla* (1455, SSt VII 396<стч. *pukla*<ням. *Buckel,* SWO 616); *рантухъ* 'вялікая хустка' 1556<стп. *rańtuch* (XVI ст., SPK<ням. *Randtuch,* BrSE 454); *утерфинъ (интерфимъ, интерфинъ, утерхфинъ, уторфинъ)* 'гатунак тонкага сукна' 1577<стп. *uterfin* (1546, IM 630, відавочна, з свн. *ūterfīn* або ад англ. *utter* 'крайні'+*fine* 'прыгожы', Фасм. IV 201); *фалда* 'складка' 1653<стп. *fałda* (1500, SSt II 353<свн. *valde,* SłSE I 218); *фалюндышъ (файлондышъ, файлюн-*

*дишъ, файлюндышъ, фалендышъ, фалюндишъ, фалюндушъ, фолюндишъ, фолюндышъ)* 'гатунак тоўстага англійскага і галандскага сукна' 1577<стп. *falendysz, fainlundysz* (1561, IM 576<снн. *fein lündisch,* SWO 209) і непасрэдна ням.; *фартухъ (фартукъ, хвартухъ)* 'фартух' 1540<стп. *fartuch* (1498, SSt II 356<свн. *vortuoch,* MoszG 56); *френдзля (френзля)* 'махры' 1687<стп. *frędzla, fręzla* (1569, IM 578<ням. *Fransel,* нн. *frenzel,* ад іт. *frangia,* фр. *frange,* SłSE I 237); *футро (хутро)* 'звярыная шкура; кажух' 1516<стп. *futro* (1421, SSt II 371<ням. *Futter,* SłSE I 242); *холстъ* 'гатунак грубага палатна' 1610<струс. *холстъ* (XVII ст., КЭС 480<свн. *hulst,* Фасм. IV 258); *цапа (цапъ)* 'шчыгрын; аправа ножнаў шаблі' 1635<стп. *capa* (XVII ст., Сп 59<ням. *Zapp,* BrSE 56); *цвилихъ (твилихъ)* 'тоўстая ільняная тканіна ў двайную нітку' 1516<стп. *cwylich* (1393, SSt I 339<ням. *Zwillich,* BrSE 68); *цепликъ (цапликъ)* 'стужка' 1552<стп. *ceplik* (1537, SP III 155<ням. *Zöpfel,* BrSE 58); *чамлетъ (чамлатъ, чемлетъ, чомлатъ)* 'сукно з вярблюджай шэрсці; вопратка з гэтага сукна' 1486< стп. *czamlet, czemlet* (1482, SSt I 341<свн. *schamlāt,* ад фр. *camelot,* BrSE 72); *шерстухъ* 'ільняная хустка' 1537<стп. *szarstuch* (XV ст., SStK<ням. *Schurztuch,* SJP XI 486); *шиптухъ (шифтухъ)* 'гатунак сукна' 1583< стп. *szyptuch, szyftuch* (XVII ст., IM 626<ням. *Schiffstuch,* BrSE 560) і непасрэдна ням.; *шлямъ (шлама, шляма)* 'кавалак футра' 1605<стп. *szlam* (XVI ст., SPK <ням. *Schlamm,* BrSE 550); *шпалеръ* 'шпалера' с. XVII ст.<стп. *szpaler* (XVI ст., SPK<ням. *Spalier,* ад іт. *spalliera,* SWO 732); *янкгеръ* 'дамашняя куртка' 1569< ням. *Janker* (НРС 468).

Даволі вялікая колькасць слоў была запазычана праз польскае пасрэдніцтва з раманскіх моў: *бомзынъ* 'гатунак ваўняна-шаўковай тканіны' 1625<стп. *bombazyn, bomzyn* (XVII ст., Bart. 117<іт. *bombasino,* SW I 189); *ботъ (бутъ)* 'бот' к. XV ст.<стп. *bot, but* (1415, SSt I 179<фр. *botte,* SłSE I 51); *буфъ* 'пышная складка' 1586 <стп. *buf* (1528, SP II 498<фр. *bouffe,* SWO 96); *жупанъ* 'жупан' 1578<стп. *żupan* (XV ст., SStK<іт. *giuppone,* ад ар. *džubba,* SWO 817); *жупица* 'від лёгкага кафтана' 1535<стп. *żupica* (XV ст., SStK<іт. *giuppa,* BrSE 668); *камазеля* 'камізэлька' 1653<стп. *kamizela* (1556, SP X 57<фр. *camisole,* SWO 334); *камлетъ* 'га-

тунак тонкай ваўнянай тканіны' 1635<стп. *kamlot* (XVI ст., Bart. 115<фр. *camelot,* SWO 334); *канавацъ* 'трывалая шаўковая тканіна' 1596<стп. *kanawac* (1600, SP X 60<іт. *canavaccio,* SłSE II 48); *кармазинъ (кармазынъ, кормазынъ)* 'сукно цёмна-чырвонага колеру' п. XVII ст.<стп. *karmazyn* (1528, SP X 141<іт. *carmesino,* SłSE II 78); *картына (кортына)* 'заслона' 1592<стп. *kartyna, kortyna* (1551, SP X 658<іт. *cortina,* SłSE III 415); *кгрубринъ* 'гатунак шаўковай тканіны' 1596<стп. *grubryn* (1583, SP VIII 162, магчыма, ад фр. *gros brin* 'шаўковая тканіна з тоўстым утокам'); *колдра (ковдра, колдро)* 'коўдра' п. XVI ст.<стп. *kołdra* (1398, SSt III 318<іт. *coltra,* SłSE II 366); *колтрина (контрина)* 'заслона' 1601<стп. *koltryna* (1588, SP X 492<іт. *coltrina,* SWO 368); *манеля (манелля)* 'бранзалет' 1586<стп. *manela, manella* (XVI ст., SPK<іт. *maniglia,* SWO 449); *матерацъ (матарацъ)* 'матрац' 1592<стп. *materac* (1394, SSt IV 169<іт. *materazzo,* SJP IV 509); *мулы* 'высокія туфлі' 1598<стп. *muły* (1621, Cn 436<фр. *mule,* SW II 1068); *парфума (перфума, перхума)* 'парфума' 1599<стп. *parfuma, perfuma* (1621, Cn 679<фр. *parfum,* SWO 564); *пасаманъ* 'пазумент, аблямоўка' 1593<стп. *pasaman* (XVI ст., SPK<іт. *passamano,* BrSE 398); *пунталъ (понталъ, пунталь)* 'спражка' 1569<стп. *puntal, pontał* (XVI ст., SPK<іт. *puntale,* BrSE 448); *саянъ (соянъ)* 'жаночы плашч; салдацкая куртка' 1529<стп. *sajan* (XVI ст., SPK<іт. *saione,* SWO 662); *сервета* 'абрус, сурвэтка' 1565<стп. *serweta* (XVI ст., SPK<фр. *serviette,* SWO 679); *треперель* 'упрыгожанне на адзенні' 1586<стп. *treperela* (XVI ст., SPK<іт. *trapelo,* BrSE 568); *тувальня (тувалня, товалня, товальня)* 'шырокі ручнік' 1529<стп. *tuwalnia* (XVI ст., SPK<іт. *tovaglia,* SWO 784); *фай* 'тоўстая шаўковая тканіна з рубцамі ўпоперак' 1593<стп. *faille* (<фр. *faille,* SWO 208); *фалбана* 'аблямоўка са зборкамі' 1668<стп. *falbana* (XVII ст., Bart. 105<фр. *falbala,* SłSE I 218); *фалпа* 'гатунак аксаміту' 1617<стп. *felpa* (1620, IM 577<іт. *felpa,* BrSE 120); *фацелитъ (фацеликъ)* 'насавая хустачка' 1596<стп. *facelet, facelit* (1500, SSt II 353<іт. *fazzoletto,* SWO 207); *феретъ* 'аздоба' 1605<стп. *feret* (1562, SP VII 48<іт. *ferretto,* BrSE 120); *флоретъ* 'гатунак шоўку' 1565<стп. *floret* (<фр. *fleuret,* іт. *fioretto,* SWO 224); *форботъ (фарботъ)* 'карункі' 1565<стп. *forbot,*

*farbota* (1562, SP VII 94<ісп. *farpado,* SWOR 227); *чамара (чемара)* 'мужчынскі кафтан з доўгімі рукавамі' 1598<стп. *czamara* (1600, Bart. 150<іт. *acciamarra,* SWO 130, ад ар. *sammūr* 'собаль', Фасм. IV 331); *чапка* 'шапка' 1578<стп. *czapka* (1411, SSt I 342<стфр. *chape,* SłSE I 112); *шкорпетка* 'шкарпэтка' 1579<стп. *szkarpetka* (XVI ст., IM 618<іт. *scarpetta,* SJP VIII 266); *штаметъ* 'гатунак сукна' 1519<стп. *sztamet* (XVI ст., SPK< іт. *stamento,* фр. *estament,* BrSE 555); *юпа* 'жаночая куртка' 1558<стп. *jupa* (1617, IM 585<свн. *juppe*<іт. *giuppa,* фр. *jupe,* ад ар. *džubba,* SłSE I 591). Толькі адно раманскае слова, як можна меркаваць, было запазычана праз рускае пасрэдніцтва: *бумага* 'баваўняная тканіна' 1519<струс. *бумага* (1414, СРЯ I 353<іт. *bombagia,* Фасм. I 240).

Прыкладна такой жа аказалася ў гэтай групе запазычанняў колькасць лексем уласнапольскага паходжання, у тым ліку лексічных сродкаў, утвораных на польскай глебе ад іншамоўных каранёў: *букотерля* 'гатунак цяжкай тканіны з шаўковым утокам' 1579<стп. *burkatela, brokatela* (1553, IM 568, ад лац. *brocatum,* BrSE 41); *варкочъ* 'каса' п. XVII ст.<стп. *warkocz* (SPK); *вензель* 'вензель' 1686<стп. *węzel* (SJP IX 960); *вильчура* 'воўчае футра' 1637<пол. *wilczura* (BrSE 621); *вылоги (вилоги)* 'адвароты' 1616<стп. *wyłogi* (SPK); *жичка (жычка)* 'чырвоная стужка або тасьма' 1592<стп. *życzka* (IM 45); *зверцадло (зверцядло, зерцадло)* 'люстэрка' 1519< стп. *zwierciadło* (SPK); *кгузъ (гузъ, кузъ)* 'гузік' 1611< стп. *guz* (SP VIII 238); *лянка* 'доўгая льняная кашуля' 1552<стп. *lanka* (SłSE IV 47); *мармурокъ* 'футра чорнабурай лісы' 1596<стп. *marmurek* (IM 598, ад *marmur); обойчикъ (обойчыкъ)* 'каўнерык' 1552<стп. *obojczyk* (SPK); *окганка (оганка, окганька)* 'веер' 1598<стп. *oganka* (SPK); *пасъ* 'рэмень' 1565<стп. *pas* (SPK); *пелюха* 'пялёнка' п. XVII ст.<стп. *pielucha* (SPK); *плахта* 'полка, палатно' 1541<стп. *płachta* (SPK); *поклякъ* 'тоўстае сукно' 1629<стп. *paklak* (Bart. 117); *простирадло (престирадло)* 'прасціна' 1540<стп. *prześcieradło* (SPK); *рубокъ* 'хустка, полка' 1552<стп. *rąbek* (SPK); *сукня* 'вопратка; суконка' 1434<стп. *suknia* (SStK); *талетъ* 'гатунак шаўковай тканіны' 1592<стп. *talet* (SPK); *тимецъ (цимецъ)* 'гатунак замшы' 1552<стп. *ciemiec* (SP III 521); *тканица* 'тонкая тканіна; вэлюм'

1516<стп. *tkanica* (SPK); *тревикъ (чревикъ)* ’чаравік’ 1586<стп. *trzewik* (SPK); *уберъ (убиоръ, убиръ)* ’убор’ 1566<стп. *ubior* (SPK); *хуста* ’хустка; бялізна’ 1388<стп. *chusta* (SSt I 260); *цындордотъ* ’гатунак шаўковай тканіны’ 1565<стп. *cynderdort* (SP III 720); *чынтакоръ (чентакоръ, чынкатора, чынтопоръ)* ’гатунак шаўковай тканіны’ 1593<стп. *czyntakor* (L I 397); *шыдеръ* ’гатунак сукна’ 1625<стп. *szyderz* (SW VI 699).

Пераважна праз польскае пасрэдніцтва была запазычана старабеларускай мовай некаторая частка назваў тканін і адзення лацінскага паходжання: *адамашка (адамасокъ, адамашокъ, едамашка, одамашка, одамашокъ, одомашка)* ’шаўковая тканіна, матавая з аднаго боку, а з другога бліскучая’ 1441<стп. *adamaszek, jadamaszek* (1470, SSt I 21<слац. *adamascus,* Mosz. 158); *анкра* ’спражка’ 1591<стп. *ankra* (1621, Сп 7<лац. *ancora* ’якар’, ад гр. *ανκηρα,* SWO 35); *биретъ (беретъ)* ’берэт’ 1555<стп. *biret, bieret* (1405, SSt I 93<лац. *biretum,* Mosz. 164); *велюмъ* ’вэлюм’ п. XVII ст.<стп. *welum* (XVI ст., SPK<лац. *vēlum,* Mosz. 211); *виятыкъ* ’дарожны плашч’ 1552<стп. *wijatyk* (XVI ст., SPK<лац. *viāticum,* Mosz. 211); *дупля* ’шаўковая тканіна з палатнянай асновай’ 1582<стп. *dupla* (1396, SSt II 220<лац. *duplus,* SWO 162); *капа* ’капа’ 1680<стп. *kapa* (1540, SP X 74<слац. *cappa,* SłSE II 49); *капелюшъ (капалюшъ, капэлюшъ)* ’капялюш’ 1582<стп. *kapelusz* (1586, SP X 76<слац. *cappellus,* SłSE II 54); *корали (карали)* ’каралі’ 1578<стп. *korale* (1472, SSt III 345<лац. *corāllium,* ад гр. *κοράλλιον,* SłSE II 473); *курта* ’куртка’ 1593<стп. *kurta* (1602, IM 594<лац. *curtus,* SłSE III 413); *маница* ’від вопраткі’ 1605<слац. *manica* (SŁŚPK), параўн. стп. *mańka* (Mosz. 190); *пурпура (парпура, порпура)* ’пурпурная тканіна; пурпурная мантыя’ п. XVII ст. <стп. *purpura* (XVI ст., SPK<лац. *purpura,* ад гр. *πορφύρα,* Mosz. 202); *пурпуриянъ (парпиянъ, парпъянъ, порприянъ, порпьянъ, пурпиянъ, пурпурыянъ, пурпурьянъ)* ’гатунак рознакаляровай каштоўнай тканіны’ 1519 <стп. *purpuryjan* (1543, IM 613<слац. *purpurianum,* SŁŚPK) і непасрэдна слац.; *сударь* ’насавая хустачка’ 1494<лац. *sūdārium* (ЛРС 974); *тенда* ’заслона’ п. XVII ст.<стп. *tenda* (XVI ст., PSDP 504<нарлац. *tenda,* Фасм. IV 42); *шарлатъ (шкарлатъ)* ’тканіна чырвонага колеру; чырвань’ 1569<стп. *szarłat, szkarłat*

(XV ст., SStK<слац. *scarlatum,* Mosz. 208), параўн. *скарлатъ (скорлатъ)* 1300<старажрус. *скорлатъ* (1288, Срез. III 381<лац., Фасм. III 634); *штола* 'адзенне старажытнарымскага перыяду' к. XV ст.<стп. *stoła* (XVI ст., SPK<лац. *stola,* Mosz. 206).

Сярод заходніх лексічных сродкаў, запазычаных праз польскае пасрэдніцтва, можна адзначыць рад слоў венгерскага паходжання: *бекешка* 'бекеша' 1599<стп. *bekieszka* (1585, IM 567<венг. *bekecs,* BrSE 685); *веленсъ (веленцъ)* 'від плашча' 1616<стп. *welens* (1621, Сп 1234 <венг. *Velenc* 'Венецыя', BrSE 606); *кабатъ (кобатъ)* 'куртка, кафтан' 1516<стп. *kabat* (1424, SSt III 215< венг. *kabát,* SłSE II 9); *капти (капци)* 'мяккія туфлі' 1578<стп. *kapcie* (1588, SP X 76<магчыма, венг. *kapca,* SłSE II 51); *карвашъ (каравашъ)* 'адварот на рукаве' 1689<стп. *karwasz* (1621, Сп 268<венг. *karvas,* SWO 345); *катанка* 'куртка' 1602<стп. *katanka* (1627, IM 587<венг. *katona* 'воін', SłSE II 100); *кунтушъ (контушъ, кунтышъ)* 'кафтан з адкіднымі рукавамі' 1661< стп. *kontusz* (XVII ст., P I 333<венг. *köntös,* SłSE II 440); *кучма* 'футраная шапка' 1590<стп. *kuczma* (XVI ст., SPK<венг. *kucsma,* SłSE III 313); *макгерка (магерка)* 'венгерская шапка з простага сукна' 1577< стп. *magierka* (XVI ст., SPK<венг. *magyar* 'венгр', SWO 442); *форкга* 'пучок пер'я, плюмаж' 1616<стп. *forga* (XVII ст., PSDP 97<венг. *forgó,* SWO 227); *шихъ* 'шляк, тасьма' 1604<стп. *szych* (XVI ст., SPK<венг. *sik,* SWO 737); словы чэшскага і славацкага паходжання: *бачкурка* 'туфель' 1602<стп. *boczkorek* (1627, IM 568< слвц. *bačkor,* BrSE 10); *каптуръ (коптуръ)* 'каптур, каўпак' 1508<стп. *kaptur* (1397, SSt III 239<стч. *kaptour,* SWOR 324); *локтушие* 'хустка, полка' 1519<стп. *łoktusze* (1437, SSt IV 117<стч. *loktuše,* ад ням. *Lakentuch,* SJP IV 305, ČRS 263) і непасрэдна стч.; нарэшце, шведскае па паходжанню слова *казыяка* 'жаночы кафтан' 1598<стп. *kazyjaka* (1595, SP X 205<шв. *kasjakka,* SłSE III 27). Прадстаўляе цікавасць лексема *лентваръ* 'выробленая скурка ягняці' 1682<стп. *lentwal* 'т. с.' (1553, IM 596), што паходзіць, відавочна, ад ням. *Lendenfell* (SW II 717).

У ліку назваў тканін і адзення адзначаюцца асобныя грэцызмы: *виссонъ, виссъ (висъ, выссъ)* 'баціст' п. XVII ст.<стрyc. *виссонъ, висъ* (XIV ст., Срез. IIIд 40<

гр. βύσσογ, βύσσος, ЭСРЯ I-3 107) і непасрэдна гр.; *сандаль* 'сандаля' 1653<гр. σανδάλιον (ДГРС II 1462).

Пры разглядзе назваў тканін і скур, адзення і абутку ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове неабходна звярнуць увагу на тую акалічнасць, што ў гэтай групе шырэй, чым у іншых прадметна-тэматычных групах, нават чым сярод назваў зброі, прадстаўлена лексіка ўсходняга паходжання. Яна запазычвалася з цюркскіх моў як непасрэдна, так і праз рускае, украінскае і польскае пасрэдніцтва: *аламъ* 'аздоблены нагруднік' 1610<кр.-тат. *aläm* (<ар. *ālām,* St I 16), параўн. старажрус. *аламъ* (1327, СРЯ I 27<кыпч. *äläm,* Арак. 133); *атласъ (отласъ)* 'атлас' 1511<стп. *atłas* (1393, SSt I 42<асм.-тур. *atlas*<ар. *atlas,* SWOR 77) і непасрэдна асм.-тур.; *бакгазыя (бакгазея, бакгазия, бакгоза, богаза)* 'гатунак баваўнянай тканіны' 1579<стп. *bagazyja* (1574, IM 566<венг. *bagazia*<ар.-тур. *bagazia,* SWO 64); *бачмакгъ (бачмагъ)* 'башмак' 1578<стп. *baczmag* (1580, SP I 265<тур. *bašmak,* Zaj. 37); *бурка* 'бурка' 1516<цюрк. *bür, bürk* 'маршчыніцца, закрывацца' (Дміт. 39), параўн. струс. *бурка* (1684, СРЯ I 356); *войлокъ* 'лямец; гунька' 1556<тат. *ojlyk* (Фасм. I 335); *делия (делея, дилея, дылея, дылия)* 'плашч, падшыты футрам' 1556<стп. *delija* (1543, SP IV 586<цюрк. *degilej, degle,* Zaj. 53); *делюра (дылура)* 'від верхняга адзення' 1609<стп. *delura* (1610, IM 573<цюрк. *degilej, degle,* Zaj. 53); *дерга* 'гунька' 1589<асм.-тур. *čerge,* магчыма, праз стукр. *дерга* (Тимч. 695); *доломанъ (даламанъ)* 'кароткі плашч, падшыты футрам' 1516<стп. *dołoman* (1543, SP V 298<асм.-тур. *dolama(n),* SJP II 229) або непасрэдна асм.-тур.; *епанча (епаньча, епонча, опанча, опонча)* 'шырокі плашч без рукавоў' 1508<стукр. *епанча* (XVI ст.<асм.-тур. *japinca,* кр.-тат. *japyncy,* Рог. 180) і непасрэдна кр.-тат.; *ермылка (елмурка)* 'круглая шапачка' 1541<асм.-тур. *jaγmurluk,* тат., чаг. *jamγurluk* (Фасм. II 25) і праз стп. *jałmurka* (1443, SSt I 116); *ермякъ (кгермакъ, кгермякъ, ормякъ)* 'армяк' 1549< тат. *ärmäk* (Супр. 127) і праз стп. *giermak* (1544, SP VI 340<асм.-тур. *armjak,* SJP II 1123); *зипунъ* 'сялянскі кафтан' 1552<цюрк. *zubun, zybun* (Ог. 34); *имамусъ* 'гатунак тканіны ўсходняга паходжання' 1686<асм.-тур. *imam* 'духоўная асоба' (<ар. *imam,* St. 131)+*bez* 'палатно' або златынізаваная форма асм.-тур. *imam,* па-

раўн. стп. *imamus* (XVI ст., Bart. 127); *камка* 'шаўковая ўзорыстая тканіна' 1487<цюрк., параўн. тат. *kamka,* чаг. *kumka,* кр.-тат. *kimχa* (Радл. II 490, 1049)<перс. *kämhā* <кіт. *kimša* (Lok. 104, StS 56); *кафтанъ (каптанъ, кахтанъ, кофтанъ, кохтанъ)* 'кафтан' 1516<асм.-тур., кр.-тат., кар. *kaftan*<перс. *kaftan* (Фасм. II 212); *кеца (кеча)* 'вайсковы плашч; накідка' 1601<стп. *kieca, kiecza* (1596, SP X 263<асм.-тур. *keče,* SłSE II 138); *кешеня (кишеня)* 'кішэня' 1555, ад цюрк. *kisä, käsä* 'сумка, кашалёк' (ҚЭС 196), Фасм. II 242 лічыць усхсл. слова запазычаннем з пол. *kieszenia* (ад *kiszka); киверъ* 'высокая востраверхая шапка' 1596<струс. *киверъ* (к. XIV ст., Срез. IIIд 139, лічыцца ўсходнім запазычаннем, але крыніца не ўказваецца, Фасм. II 228, SłSE II 181); *килимъ* 'кілім' 1616<асм.-тур., кр.-тат. *kilim* (Шип. 177); *киндякъ* 'гатунак баваўнянай тканіны' 1679<струс. *киндякъ* (XV ст., Срез. I 1208, якое Шип. 181 звязвае з *hindi* 'індус', Фасм. II 234 — з там. *kindan* 'гатунак баваўнянай тканіны', чаг. *könläk* 'кашуля', а Zaj. 55 выводзіць з асм.-тур. *kundak, kondak* 'гунька, падушка'); *киръ (керъ)* 'гатунак сукна; чорная жалобная тканіна' 1577< стп. *kir, kier* (1567, SP X 302<тур. *kyr* 'шэры', SJP III 689 або скарачэнне ням. *Kerntuch,* SłSE II 169); *китайка (китай)* 'кітайка' 1511<тат. *Kytai* 'Кітай' (Фасм. II 240); *кобенякъ (кабенякъ, копенякъ)* 'дажджавы плашч з капюшонам' 1555<асм.-тур. *käpänäk* (Радл. II 1187); *коберецъ (коверецъ, коперецъ)* 'дыван, кілім' 1542<стп. *kobierzec* (1388, SSt III 306<кыпч. *köwer,* ZajZ 19, SłSE II 298); *козакинка* 'кафтан са стаячым каўняром і доўгімі рукавамі' к. XVI ст.<тат. *käzäkī* (Дмит. 25), няма падставы выводзіць з фр. *casaquin,* як гэта робяць Фасм. II 158 і SłSE III 26 для рус. *казакин* і пол. *kazakin,* зафіксаваных з XVIII ст.; *колпакъ* 'высокая зімовая шапка '1532<асм.-тур., кр.-тат. *kalpak* (Радл. II 268); *котарга* 'палатка' 1599<стп. *kotarha* (XVI ст., SPK, ад цюрк. *kotyr, kotar,* SłSE III 9); *кутасъ* 'кутас' 1516< асм.-тур. *kutas* (Радл. II 608); *куфтеръ (кухтеръ)* 'гатунак шаўковай усходняй тканіны' 1441<цюрк. *kufter*< перс. *kufter* (SłSE II 327), параўн. струс. *куфтерь* (XVI ст., Срез. I 1383, якое Фасм. II 436 неабгрунтавана выводзіць з стп. *kofter, koftyr); мешына* 'вырабленая аўчына' 1582<асм.-тур., кр.-тат. *mašin* (Радл. IV 2114); *муселбесъ (масалбасъ, мусалбасъ)* 'падкладачная ба-

ваўняная тканіна' 1679<асм.-тур. *Mosul* 'горад над Тыграм'+*bez* 'палатно' (Zaj. 24); *мухояръ* (*мухаеръ*, *мухаяръ*) 'гатунак ваўнянай тканіны' 1558<асм.-тур. *muhayyer* (<ар. *muhayyer*, SlSE II 124); *папуть* (*папуць*) 'мяккі башмак' 1616<асм.-тур., кр.-тат. *parič* (<перс. *pāpūš*, StS 74); *сафъянъ* (*зафъянъ*, *сафанъ*, *сафиянъ*, *сафьянъ*, *софъянъ*) 'саф'ян' 1552<цюрк., параўн. тур., карач. *saχtijan*, кр.-тат., кыпч. *saktyjan* (Радл. IV 256); *серпанокъ* 'жаночы галаўны ўбор' 1555<перс.-тур. *särpänäk* (Фасм. III 610), відаць, праз укр. *серпанок*, параўн. стп. *serpanek* (SSt VIII 155); *серьга* 'завушніца' 1517<струс. *серьга* (1359, Срез. III 340<стчув. *sürüγ* 'пярсцёнак', Фасм. III 611), параўн. алт., шор., каз. *syrγa* 'завушніца' (Радл. IV 643); *сукманъ* 'сярмяга' 1540 <струс. *сукманъ* (Срез. III 614<чув. *səkman*<цюрк. *čekman*, Фасм. III 799); *табинъ* 'гатунак шаўковай тканіны' 1529<тур.-перс. *tabin* =*tabi*<ар. (*al*)*attabi* 'назва квартала ў Багдадзе', параўн. пол. *tabin* (XVI ст., SPK, якое SJP IX 3 звязвае з фр., англ. *tabinet*, хоць заходнееўрапейскія формы з канцавым *-n* познія: адзіная старая форма стіт. *tabino* зарэгістравана ў творы «Viaggi in Moscovia» («Падарожжа ў Маскву») 1658 г., што сведчыць аб яе ўсходнеславянскім паходжанні); *тасьма* (*тасма*, *тесма*, *тесьма*, *тясма*, *тясьма*) 'тасьма' 1511<тат. *tasma* (Радл. III 924); *тафта* 'тафта' 1497<асм.-тур. *tafta* (<перс. *tāftä*, Шип. 312); *тафья* 'цюбецейка' 1542 <цюрк., параўн. тур., тат. *taqja*, чув. *taxja* (Радл. III 783); *тегилей* (*тегиляй*, *тягиляй*) 'кафтан з кароткімі рукавамі' 1516<чаг. *degilej*, *degle* (Zaj. 58); *терликъ* 'вузкі ў пасе халат з кароткімі рукавамі' 1619<струс. *терликъ* (1412, Арак. 138<тур. *tärlik*, каз., кірг. *terlik*, Фасм. IV 49); *тижма* (*тыжма*) 'від плыткага абутку' 1552<стп. *ciżma*, *czyżma* (1567, SP III 532<венг. *csizma*<асм.-тур. *čizme*, Much. 18); *ферезыя* (*фаразея*, *фаразия*, *фаразыя*, *ферезыя*, *ферезья*) 'від верхняга мужчынскага адзення' 1611<асм.-тур. *feredže*, *ferādže* (ад гр. φορεσία, SlSE I 226), магчыма, пад уплывам стп. *ferezyja* (1601, IM 577); *чоботъ* (*чеботъ*, *чобутъ*) 'бот з высокім абцасам і загнутым наском' 1499<тат. *čabata* (Радл. III 1930), магчыма, праз струс. *чеботъ* (1509, Срез. III 1486); *чуга* 'вузкі кафтан' 1582<асм.-тур. *čuha* (Преоб. II 1219), магчыма, праз стукр. *чуга* (Рог. 181); *чулокъ* 'панчоха' 1585<кр.-тат. *čolgau* (Радл. III 2175),

магчымы ўплыў струс. *чулокъ* (1582, Срез. III 1551< цюрк., Вахр. 197); *шаловары* 'шаравары' 1557<кр.-тат., асм.-тур. *šalvār* (Радл. IV 968)<перс. *šälvār* (Дмит. 36); *шлыкъ (шликъ)* 'высокая футравая шапка' 1520, відавочна, ад кр.-тат. *bašlyk* (Радл. IV 1558); *юхть (юфть, юхтъ)* 'юхт' 1552<цюрк. *juft* (<перс. *ǰuft* 'пара', Фасм. IV 536).

З 1710 г. у старабеларускай дзелавой пісьменнасці ўсходняй часткі Беларусі пачала фіксавацца лексема *луданъ* 'гатунак шаўковай тканіны', запазычаная праз пасрэдніцтва рус. *лудан* (з XVI ст.), відавочна, з адыг. *läudan* (Аб. 116).

Даволі вялікую групу запазычанай бытавой лексікі старабеларускай мовы ўтвараюць назвы ежы, напіткаў, прыпраў, а таксама забаў, публічных і прыватных збо-рышч. Як і ў разгледжаных групах бытавой лексікі, тут пераважаюць словы нямецкага паходжання, запазычаныя ў большасці праз польскую мову: *бигосъ (бикасъ)* 'мясная салянка' 1682<стп. *bigos* (1534, SP II 148<ням. *Beiguss*, SWO 79); *бохонъ (боханъ, бохенъ)* 'бохан' 1518<стп. *bochen* (1534, SP II 249<свн. *vochenze, vochenz*, SłSE I 38); *бохъ* 'тулава жывёлы са знятай скурай, кавалак мяса' п. XVI ст.<стп. *boch* (1588, SP II 249<ням. *Bache*, L I 133); *варцабы* 'шашкі' 1580<стп. *warcaby* (XV ст., SStK<стч. *vrhcáby*<свн. *wurfzabel*, SWOR 695); *визина* 'бялужына' 1582<стп. *wyzina* (XV ст., SStK, ад *wyz*<ствн. *hūso*, BrSE 640); *гаркухня (геркухня)* 'закусачная, харчэўня' 1713<стп. *garkuchnia* (XVIII ст., L II 26<ням. *Garküche*, BrSE 135); *кестранкъ* 'вішнёўка' 1576<стп. *kiersztrank, kielsztrank* (1450, SSt III 276<снн. *kersdrank*, MoszG 60); *крахмалъ* 'крухмал' 1713<стп. *krochmał* (1419, SSt III 387<свн. *kraft-mël, kracht-mël*, SłSE III 114); *кротофиля (крутофиля)* 'жарт; забава' 1434<стп. *krotochwila, krotofila* (XV ст., SSt III 392<стч. *kratochvíle* <свн. *kurzwīle*, SłSE III 145); *малдрикъ (мандрикъ, мандрыкъ)* 'салодкі сырок' 1556<стп. *maldrzyk* (1417, SSt IV 148<ням. *Malder*, BrSE 319); *моштъ* 'фруктовы сок' п. XVI ст.<стп. *moszcz, moszt* (1436, SSt IV 331< ствн., свн. *most*, MoszG 66); *пампушокъ (помпушекъ, понпушекъ)* 'пампушка' 1653<пол. *pampuszek* (ад ням. *Pfannkuchen*, SJP VI 61); *паштетъ* 'паштэт' 1645<стп. *pasztet* (1564, WPSM II 9<ням. *Pastete*, BrSE 398);

*пляцокъ* 'праснак' п. XVII ст.<стп. *placek* (1444, SSt VI 147<ням. *Plätzchen,* HPC 656); *провиянтъ* 'правіянт' 1663<стп. *prowiant* (XVII ст., P II 237<ням. *Proviant,* SWO 609); *сектъ* 'салодкае вінаградпае віно' 1686<пол. *sekt* (<ням. *Sekt,* SW VI 59); *смалецъ* 'топлены тлушч, шмалец' 1584<стп. *smalec* (XV ст., SStK<ням. *Schmalz,* BrSE 551); *транъ* 'рыбін тлушч, ворвань' 1692<пол. *tran* (<ням. *Tran,* SWO 769); *трунокъ* 'напітак, трунак' 1538 <стп. *trunek* (XVI ст., SPK<ням. *Trunk,* BrSE 578); *фляки* 'трыбухі, рубцы' 1578<стп. *flaki* (1389, SSt II 360<ням. *Fleck,* BrSE 123); *цукоръ (сукоръ, цюкоръ)* 'цукар' 1538<стп. *cukier* (1393, SSt I 339<ням. *Zucker,* ад іт. *zuchero*<ар. *sukkar,* BrSE 67); *шахи (шахы)* 'шахматы; малюнак тканіны ў клетку' 1580<стп. *szachy* (XVI ст. SPK<свн. *schach,* ад стфр. *eschac*<перс. *šāh,* SWOR 642); *штоквишъ (стоквишъ)* 'сушаная траска' 1697<стп. *sztokfisz, stokfisz* (XV ст., SStK, SPK<ням. *Stockfisch,* SWO 735). Толькі адна лексема германскага паходжання была запазычана праз рускае пасрэдніцтва: *ворволь* 'ворвань' 1679<рус. *ворвань* (XV ст.<шв. *narval,* ЭСРЯ I-3 695).

Каля двух дзесяткаў лексічных адзінак складаюць у гэтай прадметна-тэматычнай групе запазычанні лацінскага паходжання: *агрестъ* 'гатунак віна' 1722<стп. *agrest* (1472, SSt I 21<лац. *agrestis,* Mosz. 158); *аквавита (оковита)* 'гарэлка' 1682<стп. *akwawita* (1568, SP I 99<лац. *aqua vītae,* слац. *aquavita,* Mosz. 159); *виктъ* 'харч' 1664<стп. *wikt* (XVII ст., P II 601<лац. *vīctus,* Ryb. 94); *декоктъ* 'віно, прыпраўленае лекавымі раслінамі' 1722<стп. *dekokt* (1581, SP IV 575<лац. *dēcoctum,* Mosz. 167); *канаръ (конаръ)* 'трысняговы цукар; гатунак іспанскага віна' 1566<стп. *kanar* (1564, SP X 60< лац. *canarium,* Mosz. 180); *колацыя (калацея, калацыя, калацэя, каляцея, колацея, колация, колляция, коляция, коляцыя)* 'вячэра; банкет' 1533<стп. *kołacyja, kolacyja, kollacyja* (1491, SSt III 314, SP X 478<лац. *collātio,* SłSE II 341); *конфектъ,* мн. *конфекты* 'смажаныя ў цукры фрукты, ласункі' 1616<стп. *konfekt* (1534, SP X 530 <лац. *confectus,* SłSE II 413); *лекгумина (легумина, локгумина, люкгомина)* 'гародніна; правіянт' п. XVII ст. <стп. *legumina* (XVI ст., SPK<лац. *legūmina,* мн. ад *legūmen,* SłSE IV 118); *малиокгранатъ* 'віно, прыпраўленае гранатам' 1722<стп. *malogranat* (1561, L III 32<

слац. *malogranatum,* SŁŚPK); *малмазыя (малвасия, малмазея, малмазия, малмазэя, мальвазея)* 'гатунак віна' 1566<стп. *malmazyja* (1406, SSt IV 148<слац. *malmasia,* Mosz. 189); *мушкатела (мушкатэла)* 'гатунак салодкага віна' 1566<стп. *muszkatela* (1448, SSt IV 368< слац. *muscatella,* Mosz. 193); *пила* 'мяч' п. XVII ст.<стп. *piła* (XVI ст., SPK<лац. *pila,* Mosz. 198); *провизия (провизыя)* 'правізія' 1638<стп. *prowizyja* (XVI ст., SPK< лац. *prōvīsio,* Ryb. 78); *рекреяция (рекрация, рекрацыя)* 'адпачынак, забава' п. XVII ст.<стп. *rekreacyja* (1621, Cn 916<лац. *recreātio,* Ryb. 82); *ремония* 'салодкае вінаграднае віно' 1494<стп. *romanija* (XVII ст., P II 322< слац. *romania,* Фасм. III 499) і непасрэдна слац.; *сицера* 'хмельны напітак' 1651<стп. *sycera* (XVI ст., SPK<лац. *sīcera,* ад гр. *σίκερα,* Mosz. 207); *трактаментъ* 'пачастунак' 1711<стп. *traktament* (XVII ст., P II 499<слац. *tractamentum,* Ryb. 91); *фаринъ (форина)* 'цукровы пясок' 1599<пол. *faryna* (XVIII ст., L I 644<лац. *farīna,* SJP II 822) і непасрэдна лац.; *хавтуры* 'хаўтуры' 1679< пол. *chattury, chautury* (<слац. *chartularium* 'памінальны спіс', Фасм. IV 218).

Некалькі вузей прадстаўлена ў гэтай прадметна-тэматычнай групе лексіка ўласнапольскага паходжання: *белизна* 'белая рыба (лінь, карп, карась, плотка)' 1697 <стп. *bielizna* (L I 105); *булка* 'булка' 1681<стп. *bułka* (Cn 53); *вандзонка* 'вэнджаная грудзінка' 1680<стп. *wędzonka* (Cn 1233); *вчасъ* 'адпачынак' п. XVII ст.< стп. *wczas* (SPK); *игриско (игрыско)* 'гульня, спаборніцтва, турнір' п. XVII ст.<стп. *igrzysko* (SP VIII 468); *кгоды (годы)* 'банкет, баль' п. XVII ст.<стп. *gody* (SP VII 496); *кгомолка* 'круглы сыр' 1588<стп. *gomołka* (SP VII 533); *лакота* 'ласунак' 1596<стп. *łakota* (SPK); *напой* 'напітак, пітво' 1518<стп. *napoj* (SSt V 81); *покармъ* 'ежа, корм' 1519<стп. *pokarm* (SSt VI 310); *схабъ (скабъ)* 'свіная грудзінка' 1571<стп. *schab* (SPK); *учта* 'банкет, баль' 1538<стп. *uczta* (SStK).

Праз польскае пасрэдніцтва праніклі ў старабеларускі слоўнік некаторыя лексічныя сродкі раманскага паходжання: *аляакантъ* 'гатунак віна' 1722<стп. *alakant, alekant* (1543, SP I 137<ісп. *Alicante,* SWO 21); *банкетъ (банкэтъ)* 'банкет' 1603<стп. *bankiet* (1573, SP I 303<іт. *banchetto,* фр. *banquet,* SWOR 91); *кандысъ* 'ачышчаны цукар у выглядзе ледзянца' 1699<стп. *kan-*

*dys, kandid* (1627, IM 570<фр. *candi,* ад ар. *kand,* SWO 335); *марципанъ* 'марцыпан' п. XVII ст.<стп. *marcypan* (XVI ст., SPK<іт. *marzapane,* SWO 453); *петерцыментъ (патрысыментъ, петерсыментъ, петрицыментъ, петрсиментъ, петрсыментъ, петрысыментъ, петрысименъ)* 'гатунак іспанскага віна' 1679<стп. *petercyment* (XVII ст., PSDP 318, ад ісп. уласнага імя *Peter Simon,* P II 103); *турнея (турнай)* 'турнір, спаборніцтва; барацьба' 1580< стп. *turniej* (XVI ст., SPK<свн. *turnei*<стфр. *tourneoi,* SWOR 684) і стч. *turnaj* (<ням.<стфр., ČRS 919).

Уклад іншых моў у разгледжаную групу старабеларускай бытавой лексікі аказаўся менш прыкметным. Зусім мала пранікла сюды літуанізмаў: *кумпъ (компь, кумпе, кунпъ)* 'кумпяк' 1503<літ. *kum̃pis* (Jabl. 109); *лошина (лошына)* 'гатунак саланіны' 1530<літ. *lašiniai* (Неп. 178); *милта* 'талакно' 1596<літ. *mìltai* (LRKŽ 390); *скилондь* 'страўнік парсюка, набіты сечаным мясам' 1506<літ. *skilándis* (Jabl. 212); *скитера (скитерть)* 'кавалак сала' 1530<літ. *sketerà* (Неп. 195). Яшчэ менш было запазычана цюркізмаў: *кумузъ* 'кумыс' п. XVII ст.<тат. *kumyz* (Дмит. 27); *машкара* 'маска' 1598<стп. *maszkara* (XVI ст., SPK, якое звычайна тлумачаць з іт. *maschera, mascara*<ар. *mashara,* Фасм. II 586, SWO 458; наяўнасць слова *maskara, maschkara* ў асм.-тур. мове дазваляе ўнесці этымалагічную папраўку, гл. Räs. 329, St. II 30); *харчъ* 'харч' 1579<асм.-тур. *harč,* тат. *χarč* (<ар. *harğ,* Mikl. 85, Шип. 363). Толькі адной лексемай абмяжоўваецца грэчаскі ўплыў: *иподромъ (ипподромъ)* 'іпадром' п. XVII ст.<гр. ἱππόδρόμος (ДГРС I 829).

У разрадзе бытавой лексікі старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы асобную прадметна-тэматычную групу ўтвараюць словы, якія характарызуюць транспартныя сродкі і іх часткі, а таксама спосабы перамяшчэння. Сярод запазычанняў у гэтай групе пераважаюць лексемы, што праніклі з германскіх моў у асноўным праз польскае і часткова праз рускае пасрэдніцтва: *букса* 'букса' 1682<стп. *buks* (1610, IM 569<ням. *Büchse,* SWO 97) і непасрэдна ням.; *буса* 'від судна' 1481< струс. *буса* (1419, СРЯ I 358<стсканд. *bussa* або снн. *būse,* Фасм. I 250) і непасрэдна ням.; *васожокъ (васажокъ, восажокъ)* 'брычка з плеценым кузавам' 1540< стп. *wasążek, wasąg* (XV ст., SStK<ням. *Fassung,* BrSE

603); *дека* 'гунька' 1541<стп. *deka* (1437, SSt II 46< ням. *Decke,* BrSE 87); *дуналь (дынель)* 'кручок на канцы дышля' 1685<пол. *dunal* (XVIII ст., L I 557<ням. *Dunnagel,* BrSE 104); *дышель* 'дышаль' 1679<стп. *dyszel* (1463, SSt II 251<свн. *dīhsel,* снн. *dissel,* MoszG 56); *жакгель (жагель)* 'ветразь' к. XV ст.<стп. *żagiel* (XVI ст., SPK<ням. *Segel,* BrSE 660); *жекглевати (жакглевати, жеглевати, жеклевати, жекловати, жекгловати)* 'плаваць па моры' п. XVII ст.<стп. *żeglować* (XV ст., SStK<свн. *sigelen, sëgelen,* MoszG 78); *кнутъ* 'пуга' 1711<струс. *кнутъ* (XV ст., Срез. I 1239<стсканд. *knútr,* Фасм. II 343); *ланва* 'прут, які звязвае вось з валком' 1686<стп. *łanwa* (1393, SSt IV 96<свн. *lanne,* MoszG 64); *лейцъ (леецъ)* 'лейчына' 1585<стп. *lejc* (1471, SSt IV 15<свн. *leitseil,* SłSE IV 122); *лихтанъ* 'баржа, ліхтэр' 1540<стп. *lichtan* (XVI ст., SPK<ням. дыял. *licht(er) -kahn, lidgan,* SłSE IV 232); *маштъ* 'мачта' 1500<стп. *maszt* (1450, SSt IV 167<свн. *mast,* MoszG 65); *мунштукъ (монштукъ, мунтшукъ)* 'цуглі' 1577<стп. *munsztuk, monsztuk* (XVI ст., SPK<ням. *Mundstück,* SWO 496); *орчикъ* 'ворчык' 1686<стп. *orczyk* (XVI ст., SPK<ням. *Ortscheit,* BrSE 381); *рефа (рефъ, рехва, рыфа)* 'вобад' 1598<стп. *refa, ryfa* (1571, IM 613<ням. *Reif,* SJP VII 1427); *рошкопъ (розкопъ, рошкофъ)* 'упрыгожанне на галаве каня' 1577<стп. *roskop* (XV ст., SSt VII 497<свн. *roskop*) і непасрэдна свн.; *рудель* 'стырно' 1653<стп. *rudel* (XV ст., SSt VIII 43<ням. *Ruder,* SWO 656); *рыдванъ* 'прасторны крыты воз' 1533<стп. *rydwan* (1453, SSt VIII 63<ням. *Reitwagen,* BrSE 471); *рынкгортъ (ранкгортъ, ранкортъ, ренгартъ, ренгортъ, ренкгортъ, ринкгортъ, рынгортъ, рындортъ)* 'пасак для падпінання сядла' 1616<стп. *ryngort* (1477, SSt VIII 64< ням. *Rinngurt,* BrSE 472); *сталвага* 'перакладзіна дышля' 1692<пол. *stelwaga* (<ням. *Stellwage,* SWO 701) і непасрэдна ням.; *стеръ (стернъ, стыръ)* 'стырно' п. XVII ст.<стп. *ster, styr* (XV ст., SStK<снн. *stür,* свн. *stiur,* SWOR 623); *фрактовати (прохтовати)* 'наймаць транспарт' 1582<стп. *frachtować, frochtować* (1598, SP VII 134<ням. *frachten,* SWO 233); *фрахтъ* 'транспарціроўка, перавоз тавараў' 1635<стп. *fracht* (1598, SP VII 134<ням. *Fracht,* BrSE 127); *фура (хура)* 'фура, воз' 1578<стп. *fura* (1441, SSt II 370<свн. *vuore,* ням. *Fuhre,* SłSE I 241); *цубантъ* 'скрэпа для шын і аб-

ручоў' 1684<стп. *cybant, cybank* (1618, IM 572<ням. *Ziehband*, L I 336); *цукгель* (*цугель*) 'лейчына; цуглі' 1637<стп. *cugiel* (1564, SP III 712<ням. *Zügel*, BrSE 67); *цукгъ* (*цугъ*) 'цуг; вупраж для цугавых коней' 1582<стп. *cug* (XV ст., SSt I 339<ням. *Zug*, BrSE 67); *шина* (*шына*) 'шына' 1552<стп. *szyna* (XV ст., SStK<ням. *Schiene*, BrSE 561); *шиналь* (*шиналъ, шинаръ*) 'цвік для прыбівання шын' 1539<стп. *szynal* (XV ст., SStK<ням. *Schiennagel*, BrSE 561); *шкута* (*шкотъ, шкульта*) 'грузавое рачное судна, баржа' 1490<стп. *szkuta, szkut* (XV ст., SStK<ням. *Schute*, сканд. *skuta*, гал. *scute*, BrSE 550, SWO 730); *шлея* 'шляя' 1518<стп. *szleja* (XVI ст., SPK<стч. *šle*<ствн. *silo*, SWOR 646); *шоръ* 'шоры' 1577<стп. *szor* (XVI ст., SPK<свн. *geschirre*, SJP VIII 1145); *штага* (*стага, штокга*) 'частка воза' 1686<стп. *sztaga* (1624, LWPK 384<свн. *stag*, SWO 734); *штолванъ* 'дзірка ў дышлі' 1689<стп. *sztolwant* 'папярэчны праход у штольні' (1564, LWK II 265 <ням. *Stollen* 'штольня', HPC 786).

На другім месцы сярод заходніх запазычанняў стаіць у гэтай групе ў колькасных адносінах лексіка ўласнапольскага паходжання: *бринути* (*брынути*) 'брысці' 1580 <стп. *brnąć* (SP II 429); *возникъ* (*возныкъ*) 'вупражны конь' 1420<стп. *woźnik* (SStK); *збруя* 'збруя' 1580< пол. *zbruja* (Koch. 153); *клусъ* 'бег каня рыссю' 1638< стп. *kłus* (SP X 418); *коляса* 'каляска' 1598<стп. *kolasa* (SP X 462); *котва* 'якар' п. XVII ст.<стп. *kotwa* (SSt III 364); *крокъ* 'крок' 1546<стп. *krok* (SPK); *ленкъ* 'пярэдняя частка сядла' 1698<стп. *lęk* (SPK, P I 389); *нашельникъ* (*нашилникъ, нашыльникъ*) 'частка вупражы' 1631<стп. *naszelnik* (Cn 479); *одейстье* (*одестье, одештие*) 'адыход' к. XV ст.<стп. *odejście, odeszcie* (SSt V 443); *окрутъ* (*окрентъ*) 'карабель, судна' п. XVII ст.<стп. *okręt* (Cn 623); *поперсе* 'частка вупражы' 1593<стп. *popiersień* (SPK); *постронокъ* (*пастронокъ, постромокъ*) 'пастронак' 1598<стп. *postronek* (SPK); *пуслиско* (*пусилиско*) 'рэмень ад сядла' 1593<стп. *puślisko* (SPK); *токъ* 'прыстасаванне на збруі для замацавання кап'я' 1616<стп. *tok* (SPK).

Менш пашыраны сярод транспартнай лексікі старабеларускай мовы запазычаныя праз польскае пасрэдніцтва словы лацінскага паходжання: *лектыка* (*лектика*) 'крытыя насілкі, карэта' 1580<стп. *lektyka* (XVI ст.,

SPK<лац. *lectīca*, SłSE IV 137); *портъ* 'порт' п. XVI ст. <стп. *port* (1471, SSt VI 409<лац. *portūs*, Mosz. 199); *румация (румацея, румацыя)* 'высяленне, перавозка маёмасці' 1594<стп. *rumacyja* (XVI ст., SPK, ад слац. *rumatio*, Mosz. 203); *румовати* 'перавозіць, высяляць' 1586< стп. *rumować* (1449, SSt VIII 46<слац. *rumare*, Mosz. 203); лексемы раманскага паходжання: *батъ* 'парусная лодка' п. XVII ст.<стп. *bata* (1564, SP II 29<іт. *batto*, SWO 71); *карета (карыта)* 'карэта' 1589<стп. *kareta* (1577, SP X 140<іт. *carretta*, SłSE II 76); *кгалера (галера)* 'судна, галера' 1599<стп. *galera* (1564, SP VII 177<іт. *galera*, SłSE I 250). Адзінкавымі запазычаннямі з'яўляюцца лексічныя сродкі, якія паходзяць з венгерскай мовы: *котчый (котчий, коччий)* 'напаўкрыты воз венгерскага тыпу' 1565<стп. *kotczy* (1500, SSt III 363 <венг. *kocsi*, SłSE II 320); *локгошъ (лакгошъ, лагошъ, лоѓошъ)* 'лаўка ззаду карэты або вазка для гайдука' 1679<стп. *łogosz* (1618, L II 654<венг. *logos* 'вупражны конь', BrSE 310); з чэшскай мовы: *таборъ* 'абоз, табар' к. XVI ст.<стп. *tabor* (XV ст., SStK<стч. *tábor*, SJP IX 5).

Сярод іншых запазычанняў старабеларускага перыяду найбольш вылучаецца ў гэтай прадметна-тэматычнай групе цюркскі лексічны струмень: *аргишъ (оргишъ)* 'абоз для перавозкі тавараў; гандлёвая пошліна ад абозу з таварам' 1506<цюрк., параўн. чаг. *arγiš*, уйг. *arγyš* 'караван' (Радл. I 301); *байдакъ (бойдакъ)* 'рачное судна' 1577<струс. *байдакъ, бойдакъ* (1563, СРЯ I 66, лічыцца цюркізмам, хоць даследчыкі не прыводзяць канкрэтнай цюркскай паралелі, гл. Фасм. I 107, Емел. 179); *кантаръ (канторъ, контаръ)* 'аброць' 1616<стп. *kantar* (1600, MKPŁ 106<венг. *kantár*<чаг. *kantar*, тур. *kantarma*, BrSE 216, SłSE II 46); *канчукъ (кончукъ)* 'нагайка, пуга' 1661<кр.-тат., асм.-тур. *katčy* (Шип. 159, SłSE II 48), магчыма, праз стукр. *канчукъ* (Рог. 179); *корованъ* 'караван '1536<кр.-тат., асм.-тур. *karwan* (Радл. II 187)<перс. *kärvān* (StS 58); *кочевати (кочовати)* 'качаваць' к. XV ст.<струс. *кочевати* (1380, Срез. I 1305, ад старажрус. *кочь* 'табар, абоз' 1252<чаг., тат. *köč*, Преоб. I 373, Таг. 153) і непасрэдна кр.-тат.; *кошъ* 'татарскі або казацкі лагер' 1507<тат., чаг. *koš* (Радл. II 635); *куланъ* 'від конскай збруі' 1616<цюрк., параўн. уйг. *kulan* 'дзікі конь', чаг., каз., кірг. *kulan*

'дзікі асёл' (Радл. II 974); *кульбака (кулбака)* 'сядло з высокай лукай' 1638<рус. дыял., укр. *кульбака* (<цюрк. з невядомай крыніцы, Фасм. II 412, SłSE III 344); *тебенки (табенки)* 'махры і іншыя ўпрыгожанні пры сядле' 1407<цюрк., параўн. чаг. *täpingü* 'скураныя шчыткі па баках сядла' (Радл. III 1111), тур. *tepengi* 'папруга', тат. *tibenge* 'шпора ў пеўня' (Шип. 314); *уюкъ (вьюкъ)* 'уюк' 1564<тат., асм.-тур. *jük* (Радл. III 586); *чапракъ (чепракгъ)* 'чапрак, гунька' 1616<асм.-тур. *čaprak* (Радл. III 1924) і праз стп. *czaprag* (SP IV 6); *чимбуръ* 'повад ад аброці' 1556<струс. *чимбуръ* (1557<цюрк., параўн. тар., тэл., алт. *čylbur, čylbyr,* Фасм. IV 331); *ярчакъ (ерчакъ, орчакъ)* 'лёгкае сядло' 1556<струс. *арчакъ, орчакъ* (XVI ст., СРЯ I 54<тат. *arčak,* Фасм. I 92, ад больш ранніх цюрк. *angyrčak, yngyrčak,* Zaj. 55); *митюкъ* 'гунька з лямцу' 1638<асм.-тур. *müttekiā* 'падушка, пухавік' (Меп. 4352).

Варта адзначыць таксама некалькі грэцызмаў, якія выступалі ў якасці экзатызмаў: *каторга (катарга, катерга)* 'мараходнае вёсельнае судна' п. XVI ст.<струс. *каторга* (XIV ст.<гр. *κάτεργον,* Фасм. II 210); *сандалъ (садалъ)* 'аднамачтавае судна' с. XVII ст.<струс. *сандалъ* (1494, Срез. III 257<сгр. *σάνταλος* або тур., кр.-тат. *sandal,* Фасм. III 555); яны прыйшлі ў беларускую мову пісьмовым шляхам.

Літоўскі лексічны ўплыў у сферы транспарту абмежаваўся толькі адным словам: *атоса* 'атоса' 1679<літ. *atāsaja* (Būga II 186, 559).

Да бытавой лексікі можна далучыць невялікую групу запазычаных слоў, якія абазначалі колеры прадметаў, масці жывёл. У этымалагічных адносінах яны прадстаўляюць сабой лексічныя сродкі польскага, нямецкага, венгерскага і цюркскага паходжання: *алый* 'пунсовы, ярка-чырвоны' 1506<струс. *алый* (XIV ст., Срез. I 20<кыпч., тат. *al,* ЭСРЯ I-1 83, Арак. 143); *блакитный (блакотный, бланкитный, блекитный, бленкитный, блокитный, блэнкитный, блякитный)* 'блакітны' 1557<стп. *błękitny* (1428, SSt I 109<свн. *blanc-heit,* SłSE I 36); *брунатный (борнатный, бурнатный, бурнатый)* 'карычневы, руды' 1486<стп. *brunatny, bronatny* (1458, SSt I 167<свн. *brūnāt,* SłSE I 44); *буланый* 'буланы' 1565<струс. *буланый* (1535, Один. 202<цюрк. *bulan,* Фасм. I 238); *бурый (бурий)* 'буры' 1520<цюрк. *bur* (<перс. *bōr,*

Сет. 235); *дерешоватый (дорошковатый, дорошоватый)* 'стракаты' 1695<стп. *dereszowaty* (XVII ст., P I 135< венг. *deres,* SłSE I 144); *дропястый (дропятый)* 'рыжавата-буланы' 1576<стп. *dropiasty, dropiaty* (1536, SP VI 53); *карый (карий)* 'буры, вараны' 1518<струс. *карый, карий* (1391, Срез. I 1198<цюрк. *kara,* Фасм. II 199); *модрый* 'сіні' 1565<стп. *modry* (SSt IV 322); *плеснивый (плесневый)* 'светла-шэрай масці' 1552<стп. *pleśniwy* (SPK); *тарантоватый* 'у яблыкі (конь)' 1565<стп. *tarantowaty* (XVI ст., SPK, ад *tarant*<ням. *Tarant,* SWO 745); *тисавый (стисавый, тисовый, цесавый, цесовый, цисавый)* 'гняды' 1541<стп. *cisawy* (SP III 526); *чалый* 'дарашаваты' 1486<цюрк. *čal* (Радл. III 1874); *шарый* 'шэры' 1555<стп. *szary* (SPK); *шпаковатый* 'пярэсты' 1567<стп. *szpakowaty* (XVI ст., SPK, ад *szpak,* BrSE 552); *яскравый* 'белавокі' 1576<стп. *jaskrawy* (SP IX 274).

## VIII. ЛЕКСІКА, ЯКАЯ ХАРАКТАРЫЗУЕ ЧАЛАВЕКА Ў ФІЗІЧНЫХ, ПСІХІЧНЫХ І ІНТЭЛЕКТУАЛЬНЫХ АДНОСІНАХ

У старабеларускай лексічнай сістэме ў асобны разрад вылучаецца лексіка, звязаная з характарыстыкай чалавека ў фізічных, псіхічных і інтэлектуальных адносінах. Сярод яе істотную частку складаюць запазычанні з іншых моў, якія выразна падзяляюцца на тры неаднолькавыя па памеру прадметна-тэматычныя групы.

У першую, самую нешматлікую групу аб'ядноўваюцца назвы людзей у залежнасці ад полу і ўзросту, ступені сваяцтва, расавых прыкмет, фізічных, псіхічных, разумовых і маральных якасцей. Асноўным ядром яе з'яўляюцца паланізмы: *велемовца* 'пустабрэх' с. XVII ст. <стп. *wielomowca* (SPK); *доброчинца* 'дабрадзей' 1616 <стп. *dobroczyńca* (L I 445); *единачекъ* 'адзіны сын' 1627<стп. *jedynaczek* (SP IX 418); *единачка* 'адзіная дачка' п. XVII ст.<стп. *jedynaczka* (SP IX 418); *жарлокъ (жерлакъ)* 'абжора' п. XVII ст.<стп. *żarłok, żarłak* (SStK); *звадца* 'паклёпнік' п. XVII ст.<стп. *zwadca* (SPK); *зводца* 'ашуканец' п. XVII ст.<стп. *zwodca* (SPK); *зуфальца (зухвалца)* 'нахабнік' 1588<стп. *zufalca* (SStK); *казиродца* 'кровазмяшальнік' с. XVII ст.< стп. *kazirodca* (SJP III 636); *кепъ* 'дурань' 1655<стп.

*kiep* (SP X 302); *кламца* 'ашуканец' 1598<стп. *kłamca* (SP X 382); *клещенецъ* 'кастрат' к. XVI ст.<стп. *kleszczeniec* (SP X 356); *кревный (крэвный)* 'сваяк' 1458< стп. *krewny* (SSt III 386); *лакомца* 'ласун' 1562<стп. *łakomca* (SPK); *малжонка (малженка)* 'жонка' 1434< стп. *małżonka, małżenka* (SSt IV 158); *мужатка* 'замужняя жанчына' 1434<стп. *mężatka* (SSt IV 187); *насмевца* 'насмешнік' 1517<стп. *naśmiewca* (SSt V 113); *натрентъ* 'нахабнік' 1627<стп. *natręt* (SPK); *немовя* 'грудное дзіця' п. XVII ст.<стп. *niemowlę* (SPK); *обжарца (обжирца)* 'абжора' 1517<стп. *obżarca, *obżyrca* (SPK); *обмовца* 'паклёпнік' п. XVI ст.<стп. *obmowca* (SPK); *олбримъ (обримъ, олбрымъ)* 'волат' к. XVI ст. <стп. *olbrzym, obrzym* (SPK); *ошустъ* 'ашуканец, аферыст' 1627<стп. *oszust* (SPK); *первястка* 'першародка' 1627<стп. *pierwiastka* (Сп 691); *пожирца* 'жорсткі чалавек, скуралуп' 1620<стп. *pożerca* (SPK); *потварца (потворца)* 'паклёпнік' 1507<стп. *potwarca* (SSt VI 503); *похлебца* 'ліслівец' 1517<стп. *pochlebca* (SPK); *прохирца (прохира)* 'махляр, прайдзісвет' 1616<стп. *przechyra* (SPK); *требенецъ* 'кастрат' п. XVII ст.<стп. *trzebieniec* (SPK); *цорка (цурка)* 'дачка' 1522<стп. *corka, córka* (SP III 662).

На другім месцы па колькасці слоў стаіць у гэтай групе лексіка лацінскага паходжання, запазычаная пераважна праз польскае пасрэдніцтва і толькі часткова непасрэдна з сярэдневяковай латыні: *барбаръ* 'чужаземец; ідалапаклоннік; чалавек нізкай культуры' 1597< стп. *barbar* (1558, SP I 11<лац. *barbarus,* ад гр. *βάρβαρος*, Ryb. 24); *бастря* 'пазашлюбнае дзіця' 1653<стп. *bastrzę* (1534, SP II 26<слац. *bastardus,* Mosz. 163); *бигамъ* 'дваешлюбнік' 1722<пол. *bigam* (SW I 154<слац. *bigamus,* SŁSP I 1102) і непасрэдна слац.; *волюптуарий* 'ласун' 1620<лац. *voluptārius* (ЛРС 1091); *гамратъ* 'палюбоўнік' с. XVII ст.<стп. *gamrat* (XV ст., SSt II 382< слац. *gameratus,* Mosz. 175); *гермафродитъ (ермофродита)* 'гермафрадыт' 1620<стп. *hermafrodyta, hermofrodyt* (1564, SP VIII 333<лац. *hermaphrodītus,* ад гр. *ἑρμαφρόδιτος*, Mosz. 176) і непасрэдна гр.; *гигантъ* 'гігант' п. XVII ст.<стп. *gigant* (1564, SP VII 342<лац. *gigās, -ntis,* ад гр. *γίγας, -ντος*, Mosz. 175) і непасрэдна гр.; *деликатъ* 'пястун' 1620<стп. *delikat* (1566, SP IV 586<лац. *dēlicātus,* Mosz. 167); *досператъ* 'роспачны

чалавек' п. XVII ст.<стп. *desperat* (1551, SP IV 595< лац. *dēspērātus*, Mosz. 167); *евнухъ* (*еунухъ*) 'еўнух' 1580<стп. *ewnuch, eunuch* (1563, SP VI 581<лац. *eunūchus*, ад гр. εὐνοῦχος, Mosz. 173); *мавръ* (*мауръ*) 'негр' п. XVII ст.<пол. *maur* (L III 61<слац. *maurus*, SŁŚPK) і непасрэдна слац.; *маньякъ* 'маніяк' к. XV ст. <слац. *maniacus* (SŁŚPK); *матрона* 'паважаная жанчына' к. XV ст.<стп. *matrona* (XVI ст., SPK<лац. *mātrōna*, SWO 460) і непасрэдна слац. *matrona* (SŁŚPK); *нигритъ* 'негр' п. XVII ст.<стп. *Nigryta* (XVI ст., SPK <слац.**nigrita*, SWO 510); *нигръ* 'негр' 1598<стп. *niger* (XVI ст., SPK<слац. *niger*, SŁŚPK); *пигмей* 'карлік' п. XVII ст.<стп. *Pigmej* (XVI ст., SPK<лац. *Pygmaeus*, ад гр. πυγμαίος, SWOR 513); *сатыръ* 'дзікун' п. XVII ст. <стп. *satyr* (XVI ст., SPK<лац. *satyrus*, ад гр. σάτυρος, Mosz. 204); *содомита* 'садаміт' 1722<стп. *sodomita* (XV ст., SStK<лац. *sodomīta*, ад гр. σοδομίτης, Mosz. 206); *флегматикъ* 'флегматык' к. XVI ст.<стп. *flegmatyk* (1534, SP VII 79<лац. *phlegmaticus*, ад гр. φλεγματικός, Mosz. 174).

Зусім невялікая ў гэтай групе лексікі колькасць слоў нямецкага паходжання: *бенкартъ* (*букартъ, бэнкартъ*) 'пазашлюбнае дзіця' 1529<стп. *bękart* (XV ст., SSt I 78 <свн. *benchart*, MoszG 53); *кукгляръ* (*кугляръ*) 'ашуканец' п. XVII ст.<стп. *kuglarz* (1393, SSt III 460<свн. *guokelaere*, SłSE III 321); *махляръ* 'махляр' с. XVII ст. <стп. *machlarz* (1621, Cn 378<свн. *mecheler*, BrSE 317); *муринъ* 'негр' к. XV ст.<стп. *murzyn* (XIV ст., SSt IV 365, ад ням. *Mohr*, BrSE 348); *фалшеръ* (*фалшаръ, фалширъ, фалшыръ, фальшеръ, фальширъ, хвалшеръ*) 'ашуканец' 1464<стп. *falszerz, falszyrz* (1464, SSt II 354 <свн. *valschaere*, MoszG 56); *шалберъ* (*шалверъ*) 'шарлатан, круцель' 1596<стп. *szalbierz* (XVI ст., SPK, ад змяшэння ням. *Salbader* і *Quacksalber*, SWO 726); *швакгеръ* (*швагеръ*) 'швагер' 1567<стп. *szwagier* (XVI ст., SPK<ням. *Schwager*, BrSE 559). Толькі адзінкавымі з'яўляюцца запазычанні раманскага паходжання: *фурфантъ* 'прайдзісвет' п. XVII ст.<стп. *furfant* (1559, SP VII 156<іт. *furfanto*, SWO 238); чэшскага паходжання: *франтъ* 'махляр, круцель' п. XVII ст.<стп. *frant* (1564, SP VII 122<стч. *frant*, ад *František*, SłSE I 236).

З іншых запазычанняў варта адзначыць паасобныя

лексічныя адзінкі яўрэйскага паходжання: *бахуръ (бохуръ)* 'малады яўрэй' 1577<пол. *bachur* (<яўр. *bāchūr*, SWO 63) і непасрэдна яўр.; *мамзеръ (манзеръ)* 'пазашлюбнае дзіця' п. XVII ст.<стп. *mamzer* (XVI ст., SPK <яўр. *mamzer*, BrSE 321); адзін грэцызм: *паразитъ (пасоритъ)* 'дармаед' 1622<стп. *parazyt*, *pasorzyt* (1444, SSt VI 45<лац. *parasītus*, гр. *παράσιτος*, Mosz. 196, SW IV 77) і непасрэдна гр.; а таксама адзін цюркізм: *калека* 'калека' 1519<цюрк. *kalyk* (Zaj. 56).

Другую невялікую, але надзвычай важную ў навукова-культурных адносінах прадметна-тэматычную групу старабеларускай лексікі складаюць запазычанні, звязаныя з характарыстыкай фізічнага складу і стану чалавека як прадукта жывой матэрыі. Пранікненне іх у беларускі слоўнік выклікалася як неабходнасцю распрацоўкі спецыяльнай тэрміналогіі ў сувязі з далейшым развіццём ведаў па анатоміі, фізіялогіі і паглыбленнем звестак аб парушэннях нармальнай дзейнасці чалавечага арганізма — захворваннях, так і патрэбамі медыцынскай практыкі, закліканай весці пастаянную барацьбу з рознымі хваробамі. З семантычнага пункту погляду гэтыя лексічныя сродкі размяркоўваюцца па дзвюх падгрупах — анатама-фізіялагічная і медыцынская лексіка.

У першай падгрупе, якая характарызуе фізічны склад і стан чалавека, яго анатамічныя і фізіялагічныя асаблівасці, у большасці выступаюць лексемы польскага паходжання: *баркъ (боркъ)* 'плячо' п. XVI ст.<стп. *bark* (SSt I 66); *бачити (бачыти)* 'бачыць' 1480<стп. *baczyć* (SłSE I 24); *варга (варкга)* 'губа' 1627<стп. *warga* (SPK); *взрокъ (узрокъ)* 'зрок; погляд' к. XV ст. <стп. *wzrok* (SStK); *взростъ (узростъ)* 'рост, узрост' к. XV ст.<стп. *wzrost* (SStK); *вонтлети (утлети)* 'слабець' 1653<стп. *wątleć* (Cп 1227); *вонтроба* 'печань' 1620< стп. *wątroba* (SPK); *елито (елето, ялито)* 'кішка' к. XVI ст.<стп. *jelito* (SP III 159); *здрентвети* 'здранцвець' с. XVII ст.<стп. *zdrętwieć* (SPK); *каркъ* 'карак' п. XVII ст.<стп. *kark* (SP X 140); *мара* 'соннае відовішча' 1627<стп. *mara* (Cп 389); *мдлый (мглый, мкглый)* 'слабы' 1519<стп. *mdły*, *mgły* (SSt IV 180); *озяблый* 'аслабелы' 1596<стп. *oziębły* (SPK); *олснути* 'аслепнуць' 1627 <стп. *olsnąć* (SPK); *оспалый* 'сонны, вялы' 1593<стп. *ospały* (SPK); *отежалость (отяжалость)* 'вяласць' п. XVII ст.<стп. *ociężałość* (SPK); *патрити* 'глядзець' 1501<

стп. *patrzyć* (SSt VI 55); *плюца* 'лёгкія' с. XVII ст.<стп. *pluca* (SSt VI 176, SPK); *подешлый (подошлый)* 'пажылы' 1570<стп. *podeszły* (SPK); *полкнути* 'праглынуць' 1596<стп. *połknąć* (SSt VI 353); *тваръ* 'твар' 1529<стп. *twarz* (SStK). Значна вузей прадстаўлена тут лексіка лацінскага паходжання: *апетитъ (аппетитъ, аппетытъ)* 'апетыт' п. XVII ст.<стп. *apetyt* (1558, SP I 189<лац. *appetītus,* Mosz. 161) і непасрэдна лац.; *гуморъ* 'вадкасць у целе чалавека' п. XVII ст.<стп. *humor* (1578, SP VIII 375<лац. *hūmor,* SłSE I 436); *жестъ* 'жэст' п. XVII ст.<стп. *gest* (XVII ст., P I 217<лац. *gestus,* Ryb. 40); *кграция* 'грацыя' 1598<стп. *gracyja* (1564, SP VIII 85<лац. *grātia,* Mosz. 175); *комплексия* 'будова цела' п. XVII ст.<стп. *kompleksyja* (1534, SP X 514<лац. *complexio,* SłSE II 396); *румигати* 'перажоўваць' 1653<лац. *rūmigāre* (ЛРС 888); *статура* 'склад цела, фігура' 1627 <пол. *statura* (<лац. *statūra,* SWO 700); *темпераментъ* 'тэмперамент' 1616<стп. *temperament* (XVI ст., SPK< лац. *temperāmentum,* Mosz. 209); *урина* 'мача' с. XVII ст. <стп. *uryna* (XVI ст., SPK<лац. *ūrīna,* Mosz. 211); *флекгма (флякгма)* 'флегма' 1620<стп. *flegma* (1534, SP VII 78<лац. *phlegma,* ад гр. φλέγμα, Mosz. 174); нямецкага паходжання: *нырка* 'нырка' п. XVII ст.<стп. *nerka, nyrka* (1500, SSt V 135<свн. *niere,* MoszG 67); *смакъ* 'смак' к. XV ст.<стп. *smak* (XV ст., SStK<свн. *gesmac,* снн. *smac,* BrSE 503); *шпикъ* 'касцявы мозг' 1653<стп. *szpik* (XV ст., SStK<ням. *Speck,* SWO 733); грэчаскага паходжання: *артирия* 'артэрыя' 1653<гр. ἀρτηρία (ДГРС I 241).

У другой падгрупе, дзе выступаюць назвы хвароб, недамаганняў і сімптомаў іх праяўлення, лячэбных і атрутных сродкаў, медыцынскіх работнікаў і хворых, а таксама спецыяльныя медыцынскія тэрміны, звязаныя з дыягностыкай, лячэннем і аптэчным абслугоўваннем, пераважаюць запазычанні лацінскага паходжання. Гэта тлумачыцца тым, што старабеларуская медыцынская лексіка, як і медыцынская тэрміналогія шмат якіх іншых еўрапейскіх народаў, фарміравалася пад уздзеяннем лацінскай лексікі. Непасрэднай жа крыніцай многіх лацінізмаў побач з класічнай і сярэдневяковай латынню была польская мова, у якой спецыяльная медыцынская тэрміналогія лацінскага паходжання дзякуючы сваёй семантычнай выразнасці і дакладнасці прыжылася ў ся-

рэдпевяковы перыяд вельмі трывала: *апертура* 'ўскрыццё раны' 1627<стп. *apertura* (1534, SP I 189<лац. *apertūra,* Mosz. 161); *апоплексия* 'апаплексія, апаплексічны ўдар' с. XVII ст.<стп. *apopleksyja* (1534, SP I 191<лац. *apoplēxia,* ад гр. ἀποπληξία, Mosz. 161); *аптека (аптыка, обтека)* 'аптэка; лякарства' п. XVI ст.<стп. *apteka* (1484, SSt I 41<лац. *apothēca,* ад гр. ἀποθήκη, Mosz. 161); *аптекаръ (абтекаръ, апотекаръ, аптыкаръ)* 'аптэкар, медык' 1518<стп. *aptekarz, apotekarz* (1443, SSt I 41<лац. *apothecarius,* Mosz. 161); *гидропъ* 'чалавек, хворы вадзянкай' 1653<лац. *hydrōps, -ōpis* 'вадзянка' (ЛРС 483), параўн. пол. *hidropik* (SJP II 38); *елефанцыя* 'слановая хвароба' 1627<стп. *elefancyja* (1534, SP VI 544<лац. *elephantia,* Mosz. 171); *инкубусъ* 'у дэманалогіі: злы дух, які ўсяляецца ў жанчын у час сну' 1603<слац. *incubus* (SŁŚPK); *канцеръ (канцырь, концеръ)* 'рак' к. XVI ст.<стп. *kancer* (1534, SP X 62<лац. *cancer,* Mosz. 180); *люнатыкъ (лунатикъ, лунятыкъ)* 'лунацік' 1580<стп. *lunatyk* (XVI ст., SPK<лац. *lūnāticus,* SłSE IV 380); *малигна* 'ліхаманка' 1753<стп. *maligna* (XVII ст., P I 395<лац. *maligna (febris)* 'злая ліхаманка', Ryb. 63); *медикъ (медыкъ)* 'медык, лекар' п. XVII ст.<стп. *medyk* (XVI ст., SPK<лац. *medicus,* Mosz. 191); *медыцына* 'медыцына' 1645<стп. *medycyna* (XVI ст., SPK<лац. *medicīna,* Mosz. 191); *паралижъ* 'параліч' к. XV ст.<стп. *paraliż* (XV ст., SSt VI 38<лац. *paralysis,* ад гр. παράλυσις, Mosz. 196); *паралитикъ* 'паралітык' с. XVII ст.<стп. *paralityk* (XIV ст., SSt VI 38 <лац. *paraliticus,* ад гр. παραλυτικός, Mosz. 196); *подакгра (подагра)* 'падагра' с. XVII ст.<стп. *podagra* (XVI ст., SPK<лац. *podagra,* ад гр. ποδάγρα, Mosz. 198); *пулсъ* 'пульс' п. XVII ст.<стп. *puls* (XVI ст., SPK<лац. *pulsus,* Mosz. 201); *рецепта* 'рэцэпт' 1627<стп. *recepta* (XVI ст., SPK<лац. *recepta,* мн. ад *receptus,* Ryb. 80); *рэцыдыва* 'аднаўленне хваробы' 1603<стп. *recydywa* (1621, Сп 913<лац. *recidīvus* 'паўторны', Ryb. 80); *фебра (фребра, фэбра)* 'ліхаманка, гарачка' к. XVI ст.<стп. *febra* (1534, SP VII 43<лац. *febris,* SłSE I 225).

У параўнанні з лацінізмамі ўласнапольская лексіка замацавалася ў гэтай групе ў меншай колькасці: *вродъ (врудъ)* 'нарыў, скула' п. XVII ст.<стп. *wrzod* (SPK); *долегливость (долягливость)* 'немач, недамаганне' 1590

<стп. *dolegliwość* (SP V 284); *згага* 'пякотка' п. XVII ст. <стп. *zgaga* (SPK); *нежитъ* 'катар; фурункул' 1517< стп. *nieżyt* (SSt V 264); *парша* 'парша, кароста' к. XVI ст.<стп. *parch, parszywiec* (Сп 670); *пущадло* 'інструмент для кровапускання' 1598<стп. *puszczadło* (SSt VII 402); *трутизна* 'атрута' 1578<стп. *trucizna* (SPK); *франца* 'сіфіліс' 1653<стп. *franca* (1500, SSt II 367, ад *francuz*<свн. *franzōs*<стфр. *françois*, Фасм. IV 206).

Запазычанні, якія паходзяць з іншых моў, у старабеларускай медыцынскай тэрміналогіі адзінкавыя: *иерапигра* 'лякарства Галена' к. XVI ст.<стп. *jera pigra* (1534<гр. ἱερα πικρά, SP VIII 595); *пляcтеръ (пляcтръ, флястръ)* 'пластыр' 1518<стп. *plaster, plastr* (XV ст., SSt VI 148<ням. *Pflaster*, ад лац. *emplastrum*<гр. ἔμπλαστρον, SWO 577); *элексиръ* 'элексір' 1715<рус. *элексир* (XVIII ст.<ням. *Elixir* або фр. *élixir*<лац. *elixir*<ар. *al-iksīr*, Фасм. IV 517).

Трэцяя прадметна-тэматычная група аб'ядноўвае словы, якія характарызуюць разумовыя здольнасці чалавека, мысленне, маўленне. Сярод запазычанняў тут вядомы толькі словы заходняга паходжання, прычым пераважаюць паланізмы: *бадати (бодати)* 'распытваць; дапытваць' 1577<стп. *badać* (SP I 282); *бредня* 'бяссэнсіца' 1598<стп. *brednia* (SP II 427); *велемовство* 'шматслоўнасць' п. XVII ст.<стп. *wielomowstwo* (SPK); *взменка (взмянка, зменка)* 'упамінанне, заўвага' 1538< стп. *wzmianka* (SPK); *вонтпити (вонпити, вонтплити, вунтпити, вутпити, утпити)* 'сумнявацца' к. XV ст.<стп. *wątpić* (SStK); *гаведа* 'размова; плёткі' 1598<стп. *gawęda* (SłSE I 261); *гадка* 'размова; загадка' к. XV ст.< стп. *gadka* (SSt II 376); *довтипъ (довстипъ, довстыпъ, довтепъ, довтыпъ, довципъ, достипъ)* 'кемлівасць, дасціпнасць' 1567<стп. *dowcip* (SP V 514); *домнемати (довнимати, домнимати)* 'меркаваць' 1521<стп. *domniemać, domnimać* (SSt II 130); *дуфати (духвати)* 'верыць' 1516<стп. *dufać* (SSt II 219); *зезнати* 'прызнацца' 1578 <стп. *zeznać* (SPK); *кновати* 'задумваць; хітрыць' 1598 <стп. *knować* (SP X 433); *менити (мянити)* 'называць' 1434<стп. *mienić* (SSt IV 226); *меновати (мяновати)* 'называць' к. XV<стп. *mianować* (SSt IV 191); *мнемати (мнимати)* 'меркаваць, лічыць' 1518<стп. *mniemać, mnimać* (SSt IV 300); *мручати* 'мармытаць' с. XVII ст.<стп.

*mruczeć* (SPK); *обавятися (обаватися, обовятися)* 'асцерагацца' 1538<стп. *obawiać się* (SPK); *омылка (омыла)* 'памылка' п. XVI ст.<стп. *omyłka, omyła* (SPK); *опачный* 'памылковы' 1562<стп. *opaczny* (SPK); *плонный* 'пусты, неабгрунтаваны' 1536<стп. *płonny* (SPK); *повядати (поведати)* 'гаварыць' 1516<стп. *powiadać* (SSt VI 511); *предсявзятье (предсевзятье)* 'намер, пачын' 1564<стп. *przedsięwzięcie* (SPK); *ростропный* 'разважлівы, разумны' к. XV ст.<стп. *roztropny* (SSt VIII 17); *увиклати* 'заблытаць' 1637<стп. *uwikłać* (SPK); *уфати (ухвати)* 'давяраць; спадзявацца, разлічваць' 1562<стп. *ufać* (SPK); *шемрати (шамрати, шамрети, шемрети)* 'наракаць' 1519<стп. *szemrać* (SStK).

Даволі шырока праніклі ў гэту групу таксама словы лацінскага паходжання: *амплификовати* 'перабольшваць' п. XVII ст.<пол. *amplifikować* (<лац. *amplificāre,* SWO 29); *апсурдъ* 'абсурд' 1598<стп. *absurd, absurdum* (1564, SP I 44<лац. *absurdus,* Mosz. 157); *ектезисъ* 'сцверджанне' 1598<лац. *ex-+thesis* (ЛРС 384, 1012); *имакгинацыя* 'фантазія' п. XVII ст.<стп. *imaginacyja* (1535, SP VIII 486<лац. *imāginātio,* Mosz. 177); *имакгиновать* 'уяўляць' п. XVII ст.<пол. *imaginować* (<лац. *imāgināre,* SJP III 168); *инвенция* 'знаходлівасць, вынаходлівасць' с. XVII ст.<стп. *inwencyja* (1573, SP VIII 577<лац. *inventio,* Mosz. 179); *интенция (интенцыя)* 'намер, задума' 1595<стп. *intencyja* (1556, SP VIII 572<лац. *intentio,* Mosz. 179); *конверсацыя* 'размова' 1637<стп. *konwersacyja* (1588, SP X 591<лац. *conversātio,* SłSE II 444); *конверсовати* 'гаварыць, гутарыць' 1646<стп. *konwersować* (XVII ст., P I 334<лац. *conversārī,* SłSE II 443); *консидерация (конседерация)* 'разважанне' 1630<стп. *konsyderacyja* (1588, SP X 580 <лац. *cōnsīderātio,* Mosz. 185); *концептъ* 'задума' 1620<стп. *koncept* (1597, SP X 519<лац. *conceptus,* SłSE II 407); *конъектура* 'дапушчэнне' 1653<стп. *konjektura* (1566, SP X 568<лац. *coniectūra,* SłSE II 420); *леенда* 'выдумка, паданне' 1646<стп. *legenda* (XVI ст., SPK<слац. *legenda,* SłSE IV 114); *медитация (медитацыя)* 'роздум' 1620<стп. *medytacyja* (XVII ст., P I 404 <лац. *meditātio,* Ryb. 64); *медитовати* 'раздумваць' п. XVII ст.<стп. *medytować* (XVII ст., P I 404<лац. *meditārī,* BrSE 328); *опиния* 'думка' 1627<стп. *opinija* (XVI ст., SPK<лац. *opīnio,* Mosz. 195); *персвадовати*

*(персфодовати)* 'пераконваць' с. XVII ст.<стп. *perswadować* (XVI ст., SPK<лац. *persuadere,* SWO 566); *персвазия* 'перакананне' п. XVII ст.<стп. *perswazyja* (XVI ст., SPK<лац. *persuāsio,* SWO 566); *рефлекцыя* 'роздум' п. XVII ст.<стп. *refleksyja* (XVII ст., Ryb. 80< лац. *reflexio,* SWO 632); *руменовати* 'разважаць' 1653 <стп. *ruminować* (XVI ст., SPK<лац. *rūmināre,* SWO 656); *сенсъ* 'сэнс' 1592<стп. *sens* (1461, SSt VIII 149< лац. *sēnsus,* Mosz. 205); *сентенция (сентенцыя)* 'думка' 1578<стп. *sentencyja* (XVI ст., SPK<лац. *sententia,* Mosz. 205); *суппоновати* 'дапускаць' 1638<слац. *supponere* (SŁŚPK); *фантазия (фантазыя)* 'фантазія' 1595< стп. *fantazyja* (1535, SP VII 27<лац. *phantasia,* ад гр. φαντασία, Mosz. 173); *фантазма (фантязма)* 'прадукт фантазіі, прывід' с. XVII ст.<стп. *fantazma* (1560, SP VII 26<лац. *phantasma,* ад гр. φάντασμα, Mosz. 173).

На фоне паланізмаў і лацінізмаў запазычанні германскага і раманскага паходжання выглядаюць тут адзінкавымі: *мярковати (мерковати)* 'меркаваць' 1598< стп. *miarkować* (XVI ст., SPK<ням. *merken*, SJP IV 615); *резонъ* 'довад' 1621<пол. *rezon* (<фр. *raison,* SWO 649); *субтилизация* 'залішне дробязнае разуменне' 1686<пол. *subtylizacja* (<ням. *Subtilisation,* фр. *subtilisation,* SWOR 630).

У дадзеным разрадзе запазычанняў самую вялікую групу ўтвараюць словы, якія характарызуюць пачуцці, эмацыянальны стан, уласцівасці характару, паводзіны. Як і ў іншых прадметна-тэматычных групах гэтага разраду, тут асноўнае месца займаюць паланізмы: *безецный (бэзэцный)* 'нізкі, подлы' 1566<стп. *bezecny* (SP II 62); *бута* 'фанабэрыя, пыха' п. XVII ст.<стп. *buta* (SP I 520); *бучный* 'ганарысты, надзьмуты' п. XVII ст.<стп. *buczny* (SP II 488); *велбити (вельбити)* 'праслаўляць' п. XVI ст.<стп. *wielbić* (SStK); *верутный (вирутный)* 'заўзяты' п. XVII ст.<стп. *wierutny* (SPK); *витати* 'вітаць' к. XV ст.<стп. *witać* (SStK); *волети* 'аддаваць перавагу' п. XVI ст.<стп. *woleć* (SStK); *встеклый (устеклый)* 'шалёны, раз'юшаны' 1518<стп. *wściekły* (SStK); *встремежливый* 'стрыманы' п. XVII ст.<стп. *wstrzemieźliwy* (Сп 1297); *встрентъ* 'агіда; адпор' 1613<стп. *wstręt* (SPK); *встыдъ (устыдъ)* 'сорам' п. XVI ст.<стп. *wstyd* (SPK); *вшетечный (вшеточный)* 'распусны, разбэшчаны' 1566<стп. *wszeteczny* (SPK); *гардити* 'пагар-

джаць' с. XVII ст.<стп. *gardzić* (SP VII 207); *гардый* 'ганарысты, фанабэрысты' с. XVII ст.<стп. *hardy* (SP VIII 308); *гезъ* 'шалёнасць' 1653<стп. *giez* (Cn 190); *горливый* 'старанны, руплівы; гарачы' 1443<стп. *gorliwy* (SP VIII 27); *дворка* 'жарт' 1539<стп. *dworka* (SP VI 254); *дворный* 'ветлівы' 1580<стп. *dworny* (SP VI 255); *дворовати* 'жартаваць, кпіць' 1638<стп. *dworować* (SP VI 257); *доткливый* 'адчувальны; крыўдлівы' 1516 <стп. *dotkliwy* (SP V 499); *жарливый* 'страсны, палкі, гарачы' 1653<стп. *żarliwy* (Cn 1389); *жичити (жичыти, жычити, зичити, зычити, зычыти)* 'жадаць' 1457<стп. *życzyć* (SStK); *завзяти* 'узбудзіць, узрушыць' 1666<стп. *zawziąć* (SPK); *завзятый* 'заўзяты, люты, злосны' 1629 <стп. *zawzięty* (SPK); *заздрость (задрость, зазрость, зайзрость)* 'зайздрасць' 1434<стп. *zazdrość, zazrość* (SStK, SPK); *захвиценье (зафиценье, захвиченье)* 'захапленне, зачараванне' 1603<стп. *zachwycenie* (SPK); *зацный* 'сумленны, высакародны, прыстойны' 1435<стп. *zacny* (SStK); *заядлый* 'заядлы' п. XVII ст.<стп. *zajadły* (SJP X 533); *заятрити* 'разгневаць' п. XVII ст.<стп. *zajątrzyć* (SPK); *збридзенье* 'агіда' 1620<стп. *zbrzydzenie* (SKN 574); *здумевати* 'здзіўляць' 1616<стп. *zdumiewać* (SPK); *змаза* 'пляма, загана' 1518<стп. *zmaza* (SStK); *зухвалый (зуфалый, зуфалный, зухвальный)* 'дзёрзкі' п. XVI ст.<стп. *zuchwały, zuchwalny, zufały* (SPK); *зъедлый* 'злы' 1653<стп. *zjadły* (SPK); *казиродство* 'кровазмяшэнне' 1596<стп. *kazirodztwo* (SP X 202); *кгречный* 'ветлівы; паслушны' п. XVII ст.< стп. *grzeczny* (Cn 216); *кламати* 'ілгаць' п. XVI ст.<стп. *kłamać* (SSt III 290); *коитися* 'супакойвацца' 1620<стп. *koić się* (SP X 455); *кохати* 'любіць, кахаць' п. XVI ст. <стп. *kochać* (SSt III 310); *кревкий* 'палкі, гарачы' 1595 <стп. *krewki* (SPK); *крнобрный (крнобрый, крумбрный)* 'упарты, непаслухмяны' 1580<стп. *krnąbrny, krąbrny* (SSt III 387); *лекатися (ленкатися, лякатися)* 'палохацца, баяцца' к. XV ст.<стп. *lękać się* (SSt IV 31); *лекцеважить (легцеважити)* 'пагарджаць' 1519< стп. *lekceważyć* (SKN 524); *литовати* 'шкадаваць, берагчы' 1505<стп. *litować* (SSt IV 61); *литость* 'літасць' 1536<стп. *litość* (SPK); *лудити* 'вабіць, клікаць; ашукваць' 1595<стп. *łudzić* (SPK); *налогъ* 'прывычка' 1598 <стп. *nałog* (SPK); *наметность* 'страсць' 1615<стп. *namiętność* (SPK); *незбедный* 'подлы, нізкі' к. XV ст.<стп.

*niesbedny* (SSt V 261); *непокаляный (непокаланный, непоколяный)* 'незаплямлены; бязгрэшны' 1598<стп. *niepokalany* (SPK); *нерядъ (нерадъ)* 'распуста; анархія' 1507<стп. *nierząd* (SSt V 228); *несвора* 'упартасць, свавольнасць' 1598<стп. *nieswora* (SPK); *неснаска (неснастка)* 'разлад, сварка' 1603<стп. *niesnaska* (SPK); *облапяти* 'абнімаць' п. XVI ст.<стп. *obłapiać* (SSt V 352); *опентаный* 'апантаны, утрапёны' п. XVII ст.<стп. *opętany* (SPK); *опилый (опилный)* 'п'яны' 1555<стп. *opiły* (SPK); *отуха* 'бадзёрасць, надзея' 1589<стп. *otucha* (SPK); *ошукати* 'ашукаць' 1596<стп. *oszukać* (SPK); *пожадливый* 'прагны; юрлівы' п. XVII ст.<стп. *pożadliwy* (SPK); *порубство* 'распуста' п. XVII ст.<стп. *porubstwo* (SPK); *потуха* 'надзея' п. XVII ст.<стп. *potucha* (SPK); *похлебовати* 'ільсціць' 1517<стп. *pochlebować* (SSt VI 199); *похопъ* 'ахвота, жаданне' 1538<стп. *pochop* (SPK); *превротный* 'каварны, двудушны' к. XV ст.<стп. *przewrotny* (SSt VII 206); *псота* 'свавольства; распуста' к. XV ст.<стп. *psota* (SSt VII 391); *пыха* 'пыха' к. XV ст.<стп. *pycha* (SSt VII 410); *розъядлый* 'раз'юшаны' п. XVII ст.<стп. *rozjadły* (SPK); *скруха* 'раскаянне; шкадаванне, жаль' 1577<стп. *skrucha* (SPK); *слынути* 'славіцца' 1580<стп. *słynąć* (SPK); *спросный* 'распусны' к. XV ст.<стп. *sprośny* (SStK); *срокгий (срогий)* 'суровы, жорсткі' 1494<стп. *srogi* (SStK); *статечный (статочный, статэчный)* 'паважаны' 1539<стп. *stateczny* (SStK); *страхатися* 'баяцца' п. XVII ст.<стп. *strachać się* (SPK); *тескнити (тескнети)* 'сумаваць' 1603<стп. *tęsknić* (SPK); *троска* 'клопат; смутак' 1616<стп. *troska* (Сп 1154); *упреймый (уприймый)* 'ветлівы' 1569<стп. *uprzejmy* (SPK); *ущипливый (ущыпливый)* 'колкі' 1568<стп. *uszczypliwy* (SPK); *хелпитися* 'хваліцца' 1596<стп. *chełpić się* (SP III 208); *хлюба (хлуба)* 'гордасць; ганарлівасць' 1580<стп. *chluba, chłuba* (SP III 249); *хлюбитися* 'ганарыцца; хваліцца' п. XVII ст.<стп. *chlubić się* (SP II 250); *хтивый* 'прагны' п. XVI ст.<стп. *chciwy* (SP III 205); *цнота* 'цнота' к. XV ст.<стп. *cnota* (SSt I 315); *цный* 'сумленны, высакародны' 1567<стп. *cny* (SP III 551); *чирствый (чырствый)* 'чэрствы; моцны, здаровы' к. XVI ст.<стп. *czyrstwy* (SP IV 137); *шалети* 'шалець, вар'явацца' 1518 <стп. *szaleć* (SStK); *шкарадный (шкарадый, шкарядный, шкарядый, шкаредный, шкаредый)* 'брыдкі, агідны'

к. XV ст.<стп. *szkaradny, szkarady* (SStK); *шпетный (шпатный)* 'гадкі, агідны; паскудны' 1555<стп. *szpetny, szpatny* (SPK); *щодробливый (щедребливый, щедробливый)* 'шчодры' п. XVI ст.<стп. *szczodrobliwy* (SPK).

Некалькі вузей прадстаўлена ў гэтай прадметна-тэматычнай групе лексіка лацінскага паходжання: *амбиция* 'самалюбства, амбіцыя' 1634<стп. *ambicyja* (1553, SP I 148<лац. *ambitio,* Mosz. 159); *анимушъ* 'натхненне, запал; натура' п. XVII ст.<стп. *animusz* (1585, SP I 165 <лац. *animus,* Mosz. 160); *афектация (афектацыя)* 'пераўвелічэнне; жаданне' 1656<стп. *afektacyja* (XVII ст., P I 7<лац. *affectātio,* Ryb. 18); *афектовати (аффектовати)* 'жадаць, дамагацца' 1653<стп. *afektować* (1594, SP I 90<лац. *affectāre,* SWO 9) і непасрэдна лац.; *афектъ (аффектъ, афхвектъ, офектъ)* 'моцнае жаданне, страсць' 1596<стп. *afekt* (1558, SP I 89<лац. *affectus,* Mosz. 158) і непасрэдна лац.; *бигамия* 'двоешлюбнасць' 1722<слац. *bigamia* (SŁŚP I 1102), ад лац. *bi* 'двойчы' +гр. *γάμος* 'шлюб' (SWO 79); *венеровати* 'паважаць' 1620<стп. *wenerować* (XVII ст., P I 579<лац. *venerārī,* SWO 802); *венусъ (вэнусъ)* 'каханне' 1580<стп. *wenus* (XVI ст., SPK<лац. *venus,* Mosz. 211); *воленция* 'намер' п. XVII ст.<слац. *volentio* (SŁŚPK); *гоноръ* 'гонар' п. XVII ст.<стп. *honor* (XVII ст., P I 246 <лац. *honor,* SłSE I 428); *делиция* 'сладастраснасць, юрлівасць' 1653<стп. *delicyja* (1556, SP IV 586<лац. *delitia,* Mosz. 167); *десперация (десперацея, дэспэрацэя)* 'адчай, роспач' 1580<стп. *desperacyja* (1557, SP IV 595<лац. *dēspērātio,* Mosz. 167); *десперовати (досперовати)* 'прыходзіць у адчай' 1627<стп. *desperować* (1568, SP IV 595<лац. *dēspērāre,* SWOR 150); *деценцыя* 'прыстойнасць' п. XVII ст.<стп. *decencyja* (<лац. *decentia,* SJP II 41); *дискреция (дишкреция, дишкрецыя, дыскрецыя, дыскрыцыя, дышкрецыя)* 'такт, далікатнасць'<п. XVII ст.<стп. *dyskrecyja* (1558, SP VI 294<лац. *discrētio,* Mosz. 169); *дистракция* 'рассеянасць; забава' п. XVII ст.<стп. *dystrakcyja* (1564, SP VI 300<лац. *distractio,* Mosz. 169); *ерикговати* 'узвялічваць, узносіць; забяспечваць' 1634<стп. *erygować* (1594, SP VI 560<лац. *ērigere,* SWO 199); *инвидыя* 'зайздрасць' 1634<стп. *inwidyja* (1560, SP VIII 579< лац. *invidia,* Mosz. 179); *инклинацыя* 'схільнасць, цяга' 1722<стп. *inklinacyja* (XVII ст., P I 257<лац. *inclīnātio,*

Ryb. 44); *инстинктъ* (*инстиктъ, инстынктъ*) 'пабуджэнне, чуццё' 1620<стп. *instynkt* (XVII ст., P I 259<лац. *īnstīnctus*, Ryb. 45); *ляментовати* 'лямантаваць' 1603<стп. *lamentować* (XVI ст., SPK<лац. *lāmentārī*, SłSE IV 39); *ляментъ* 'лямант' п. XVII ст.<стп. *lament* (XVI ст., SPK<лац. *lāmentum*, SłSE IV 37); *малицыя* 'злосць; каварства, хітрасць' 1603<стп. *malicyja* (SW II 857<лац. *malitia*, SJP IV 403); *манея* 'манія, вар'яцтва, шаленства' п. XVII ст.<стп. *manija* (XVI ст., SPK<лац. *mania*, ад гр. μανία, Mosz. 190); *мелянколия* (*меленколия, мэлянколия*) 'меланхолія' 1603<стп. *melankolija* (XV ст., SSt IV 181<лац. *melancholia*, ад гр. μελαγχολία, Mosz. 191); *молестия* 'прыкрасць, непрыемнасць' 1627<стп. *molestyja* (XVI ст., SPK<лац. *molestia*, Ryb. 65); *моралный* 'маральны' с. XVII ст.<стп. *moralny* (1621, Cn 424<лац. *mōrālis*, SWO 491); *мортификоватися* 'мучыцца, пакутаваць' п. XVII ст.<стп. *mortyfikować się* (XVII ст., P I 433<лац. *mortificāre*, SJP IV 844); *парсъ* 'павага' 1671<стп. *pars* (<лац. *pars*, BrSE 431); *пассия* (*пассыя*) 'страсць' п. XVII ст.<стп. *passyja* (XVI ст., SPK<лац. *passio*, Mosz. 196); *ранкоръ* (*ренкоръ, ронкоръ*) 'гнеў' 1556<стп. *rankor* (XVI ст., PSDP 409<лац. *rancor*, Ryb. 80); *репутацыя* (*репутация*) 'рэпутацыя' 1646<стп. *reputacyja* (XVII ст., P II 313<лац. *reputātio*, Ryb. 83); *респектовати* 'паважаць' 1636<стп. *respektować* (1621, Cn 917<лац. *respectāre*, SWO 645); *респектъ* 'павага' п. XVII ст.<стп. *respekt* (XVI ст., SPK<лац. *respectus*, Mosz. 203); *скрупулъ* 'мукі сумлення' 1677<стп. *skrupuł* (XVI ст., SPK<лац. *scrūpulus*, SWO 687); *содомия* 'садамія' к. XVI ст.<стп. *sodomija* (XVI ст., SPK<лац. *sodomīa*, Mosz. 206); *фигель* 'жарт; фокус' 1627<стп. *figiel* (1560, SP VII 52, магчыма, ад слац. *vigiliae*, SłSE I 227); *фурия* (*фурыя*) 'шаленства' 1598<стп. *furyja* (1558, SP VII 157<лац. *furia*, Mosz. 174).

Трэцяе месца па колькасці лексем займаюць у разгледжанай прадметна-тэматычнай групе запазычанні нямецкага паходжання: *виншовати* 'жадаць' 1596<стп. *winszować* (XVI ст., SPK<ням. *wünschen*, SWO 807); *дяка* 'падзяка, удзячнасць' 1562<стп. *dzięka* (1471, SSt II 329<свн. *danc*, SłSE I 204); *дяковати* (*дековати*) 'дзякаваць' 1486<стп. *dziękować* (1413, SSt II 330<свн. *danc*, SłSE I 204); *жартъ* 'жарт' 1596<стп. *żart* (XVI ст.,

SPK<свн. *schërz,* Фасм. II 36); *замтузъ* 'дом распусты' 1627<стп. *zamtuz* (XV ст., SStK<ням. *Schandhaus,* BrSE 645); *куништъ* 'жарт; майстэрства' 1580<стп. *kunszt* (XV ст., SSt III 462<свн. *kunst,* SłSE III 371); *мусити (мусети)* 'быць абавязаным, мусіць' 1407<стп. *musić, musieć* (1365, SSt IV 366<свн. *müezen,* MoszG 66); *мусъ* 'неабходнасць; прымус' 1568<стп. *mus* (XVI ст., SPK<ням. *Muss,* BrSE 348); *строфовати (штрофовати)* 'адчытваць, рабіць вымову' 1588<стп. *strofować, sztrofować* (XVI ст., SPK<ням. *strafen,* BrSE 519); *тарапата* 'клопат, цяжкасць' 1606<пол. *tarapata* (магчыма, ад ням. *Strapaze,* SWO 745); *фалшъ (фальшъ, хвалшъ)* 'фальш' 1556<стп. *fałsz* (1449, SSt II 353<свн. *valsch,* ням. *Falsch,* ад лац. *falsus,* SłSE I 218); *фортель (фортиль, фортыль, фортэль)* 'хітрыкі, махлярства' 1562<стп. *fortel, fortyl* (1409, SSt II 366<свн. *vorteil,* SłSE I 235); *фохи* 'свавольства, хітрыкі' 1620<стп. *fochy* (1595, SP VII 83<ням. дыял. *Faxe,* SłSE I 232); *фрасовати* 'засмучваць; трывожыць' 1598<стп. *frasować* (1541, SP VII 123<ням. *fressen,* SłSE I 237); *фрасунокъ* 'смутак, клопат' 1566<стп. *frasunek* (1541, SP VII 128< стч. *fresunk,* ад свн. *fressen+unge,* SłSE I 237); *фриевный* 'гуллівы, любоўны' к. XVI ст.<стп. *fryjowny* (XV ст., SSt II 368<снн., свн. *vrīen,* MoszG 57); *шановати* 'паважаць; берагчы' 1544<стп. *szanować* (XV ст., SStK<ням. *schonen,* BrSE 540).

Сярод запазычанняў, якія характарызуюць чалавека з эмацыянальнага боку, можна назваць таксама некалькі слоў чэшскага паходжання: *благати* 'упрошваць' 1580 <стп. *błagać* (1446, SSt I 106<стч. *bláhati,* SłSE I 35); *окрутный* 'жорсткі, люты' 1486<стп. *okrutny* (XV ст., SSt V 565<стч. *ukrutný,* Recz. 52).

## IX. ЛЕКСІКА, ЯКАЯ ХАРАКТАРЫЗУЕ ПРЫРОДУ Ў БЫТАВЫМ І НАВУКОВЫМ АСВЯТЛЕННІ

Сярод запазычаных старабеларускай мовай слоў іншамоўнага паходжання асобны разрад складаюць лексемы, якія характарызуюць прыроду. Пранікненне гэтага тыпу лексікі ў беларускі слоўнік XIV—XVIII стст. было абумоўлена як практычнай неабходнасцю развіцця лексічных сродкаў для абазначэння метэаралагічных і касмічных з'яў, намінацыі каштоўных каменняў, разна-

стайных жывёл і раслінных культур, перш за ўсё экзатычных, што знаходзілі прымяненне ў бытавым жыцці, сярэдневяковай медыцыне, культавым ужытку, так і патрэбамі навуковай намінацыі астранамічных, геаграфічных і мінералагічных рэалій і з'яў, адзінак жывёльнага і раслиннага свету.

Семантычная разнастайнасць лексічнага матэрыялу, што ўваходзіць у гэты разрад запазычанняў, дазваляе вылучыць у яго складзе некалькі прадметна-тэматычных груп. Адну з іх утвараюць назвы элементаў зямнога рэльефу, метэаралагічных з'яў, нябесных цел і з'яў. У яе ўваходзяць запазычанні амаль з усіх моў, з якімі старабеларуская мова мела магчымасць сутыкацца непасрэдна або апасродкавана, напрыклад паланізмы: *багниско (бакгниско)* 'балота, багна' 1580<стп. *bagnisko* (SP I 285); *боровизна* 'месца, зараслае сасняком' 1568<стп. *borowizna* (SP II 326); *вилкготный (вильготный)* 'вільготны' п. XVII ст.<стп. *wilgotny* (SPK); *врочыщско* 'урочышча' 1546<стп. *uroczysko* (SPK); *выжина (вызина)* 'узвышша' п. XVII ст.<стп. *wyżyna* (SPK); *выспа (высепъ, высопъ, выспъ)* 'востраў' 1469<стп. *wyspa, wysep* (SStK, SPK); *живелъ (живиолъ, жывелъ)* 'стыхія; элемент' 1518<стп. *żywioł* (SStK); *заспа* 'нанос, насып' 1508<стп. *zaspa* (SPK); *здрой (вздрой, узрой)* 'крыніца' 1507<стп. *zdroj, wzdroj, zroj* (SPK); *зимно* 'холад' 1494<стп. *zimno* (SStK); *курава* 'пыл' п. XVII ст. <стп. *kurzawa* (SPK); *нуртъ* 'цячэнне' 1603<стп. *nurt* (SPK); *огниско* 'вогнішча' 1582<стп. *ognisko* (SPK); *однога (отнога)* 'адгаліненне; заліў, рукаў' 1546<стп. *odnoga, otnoga* (SSt V 470); *окниско* 'вір' 1653<стп. *oknisko* (SPK); *отхлань* 'бяздонне, прорва' 1616<стп. *otchłań* (SPK); *плюта* 'непагадзь' 1619<стп. *pluta* (SPK); *прорвиско* 'месца прарыву вады' 1560<стп. *przerwisko* (SSt VII 175); *ютренка* 'ранішняя зорка; світанне' с. XVII ст.<стп. *jutrzenka* (Сп 255); *яскиня* 'пячора' к. XV ст.<стп. *jaskinia* (SSt III 119); словы лацінскага паходжання: *елементъ (элементъ)* 'элемент; стыхія' 1598<стп. *element* (XV ст., SSt II 346<лац. *elementum,* Mosz. 171); *exo* 'рэха' с. XVII ст.<стп. *echo* (1560, SP VI 519<лац. *ēchō*, ад гр. ἠχώ, Mosz. 169); *зефиръ* 'заходні вецер' п. XVII ст.<стп. *zefir* (XV ст., SStK<лац. *zephyrus,* ад гр. ζέφυρος, Mosz. 212); *комета (камета, комэта)* 'камета' 1580<стп. *kometa* (1522, SP X

497<лац. *comēta,* ад гр. κομήτης, SłSE II 382); *натура* 'прырода; характар' 1580<стп. *natura* (1461, SSt V 115 <лац. *nātūra,* Mosz. 193); *оцеанъ (оцеянъ)* 'акіян' 1615 <стп. *ocean* (XVI ст., SPK<лац. *ōceanus,* Mosz. 194); *планета (плянета)* 'планета' 1518<стп. *planeta* (XIV ст., SSt VI 148<лац. *planēta,* ад гр. πλανήτης, Mosz. 198); *прима (прыма)* 'лепшая сенажаць' 1679<стп. *pryma* (XVI ст., SPK<лац. *prīma,* ад *prīmus* 'першы', Mosz. 201); *спера (сфера)* 'сфера, арбіта планет' к. XV ст.< стп. *sfera, spera* (XVI ст., SPK<лац. *sphaera,* ад гр. σφαῖρα, Mosz. 205); лексемы нямецкага паходжання: *лиондъ (лондъ)* 'суша, мацярык' 1623<стп. *ląd* (XVI ст., SPK<ням. *Land,* SłSE IV 84); *люка (люна)* 'пустыр, за̌ліў' 1596<пол. *luka* (<ням. *Lücke,* SWO 437); *риса* 'шчыліна, абрыс' п. XVI ст.<стп. *rysa* (XVI ст., SPK< ням. *Riss,* SWO 659); *фаля* 'хваля' 1620<стп. *fala* (1593, SP VII 4<ням. *Welle,* SłSE I 218); грэцызмы: *космосъ* 'космас' 1637<гр. κόσμος (ДГРС I 974); *левада* 'абгароджаны выган' 1693<рус., укр. *левада* (<сгр. λιβάδι(ον), Фасм. II 493); *фуртуна (фортувина, фуртовина)* 'бура' 1578<струс. *фуртуна, фуртовина* (1420, Срез. III 1358<сгр. φουρτοῦνα, ад іт. *fortuna,* Фасм. IV 211); *хаосъ* 'хаос' с. XVII ст.<стп. *chaos* (1598, SP III 175< лац. *chaos*<гр. χάος, Mosz. 165); літуанізмы: *дирванъ (дырванъ)* 'дзірван' 1553<літ. *dirvónas* (Jabl. 66); *крушня* 'крушня' 1591<літ. *krósnis* (Būga II 203); *ройстро (ройство, ройсто)* 'забалочанае месца, пакрытае хмызняком '1501<літ. *raĩstas* (Būga II 539); цюркізмы: *байракъ (баюркъ)* 'яр' 1653<струс. *байракъ* (XVI ст., СРЯ I 66<тур. *bajyr,* карач. *bajrak,* Фасм. I 104); *кешеня (кишеня)* 'магільны курган' 1548<кр.-тат. *kešene* (<кум. *kešene* 'грабніца', ад ар. *kösene,* ZajZ 22); *курганъ* 'курган' п. XVI ст.<стцюрк. *kurγan,* тур., кыпч. *kurγan* (Фасм. II 424); *лиманъ* 'ліман' п. XVII ст.<рус., укр. *лиман* (<тур., кр.-тат., кыпч. *liman,* Фасм. II 497); нарэшце, адзін чэхізм: *ужына (узина)* 'цясніна' 1517<чэш. *úžina* (ČRS 984).

Пэўнай, цалкам акрэсленай групай выступаюць у старабеларускай лексічнай сістэме назвы мінералаў, каштоўных камянёў і неарганічных рэчываў, якія ў славянскіх мовах наогул складаюцца ў асноўным з запазычанняў. Калі ў старажытнарускі перыяд мінералагічная

тэрміналогія запазычвалася пераважна з грэчаскай мовы, то ў перыяд самастойнага развіцця беларускай мовы яе крыніцай сталі заходнееўрапейскія мовы. Найбольш у беларускім слоўніку XIV—XVIII стст. аказалася мінералагічных тэрмінаў, запазычаных непасрэдна і праз польскае пасрэдніцтва з лацінскай мовы: *алябастръ* 'алебастр' 1722<стп. *alabaster, alabastr* (1419, SSt I 22< лац. *alabastrum*, ад гр. ἀλάβαστρος, SWOR 39), параўн. *аляваcтръ, алавастръ, алевастръ* (<старажрус. *алавастръ*<гр., Преоб. I 5); *аметистъ (аматистъ, аматыстъ)* 'аметыст' к. XV ст.<стп. *ametyst* (1534, SP I 150<лац. *amethystus*, ад гр. ἀμέθυστος, Mosz. 160); *антраксъ (андраксъ)* 'рубін' п. XVII ст.<стп. *antraks* (1534, SP I 180<слац. *antrax*, ад гр. ἄνθραξ, Mosz. 160), параўн. *анфраксъ* (<старажрус. *анфраксъ*<гр., Срез. I 25); *асписъ (ясписъ)* 'яшма' 1517<стп. *jaspis, aspis* (1472, SSt III 122<лац. *iaspis*, ад гр. ἴασπις, SłSE I 518); *ахатесъ (ахатисъ)* 'агат' 1519<стп. *achates* (1563, SP I 64<лац. *achātēs*, ад гр. ἀχάτης, Mosz. 158) і непасрэдна гр.; *бериль (берилюсъ)* 'берыл' 1519<стп. *beryl, berylus* (XV ст., SSt I 74<лац. *bēryllus*, ад гр. βήρυλλος, Mosz. 164); *гагатокъ* 'чорны бурштын' 1653<стп. *gagatek* (1437, SSt II 377<лац. *gagātēs*, ад гр. γαγάτης, SłSE I 249); *гияцынтъ (гиацинтъ, яцинктъ)* 'гіяцынт' 1518<стп. *hijacynt, jacynkt* (1427, SSt II 543<лац. *hyacinthus*, ад гр. ὑάκινθος, SłSE I 420), параўн. *акинфъ, иакинтъ, иакинфтъ, иакинфъ, иякинфъ, якинфъ* (<старажрус. *акинфъ, акинтъ, иакинфъ*<гр., СРЯ I 26); *диаментъ (дияментъ, дыяменскъ, дыяментъ)* 'дыямент' 1552<стп. *dyjament* (1472, SSt II 52<слац. *diamentum*, Mosz. 168); *калцеданъ* 'калчадан' 1616<стп. *kalcedon, kalcedan* (1522, SP X 25<лац. *chalcēdōn*, ад гр. χαλκηδών, Mosz. 180); *карбункулюсъ (карванкулюсъ, карванкуль, карвункулюсъ, карвункуль)* 'чырвоны гранат' 1519<стп. *karbunkulus, karbunkuł, karwunkul* (1472, SSt III 248<лац. *carbunculus*, SłSE II 70); *кришталь (кристалъ, кристаль, кришталъ, крышталъ)* 'крышталь' 1518 <стп. *kryształ* (1471, SSt III 411<лац. *cristallus*, ад гр. κρύσταλλος, SłSE III 202) і непасрэдна лац.; *лигургъ* 'каштоўны камень' 1519<стп. *ligurg* (XVI ст., SPK< лац. *ligurius*, ад гр. λιγύριον, Mosz. 188); *макгнесъ (макгнетъ)* 'магніт' с. XVII ст.<стп. *magnes, magnet* (XIV ст., SSt IV 144<лац. *magnēs, -ētis*, ад гр. μάγνης, -ητος,

Mosz. 189); *мармуръ (марморъ)* 'мармур' к. XV ст.< стп. *marmur, marmor* (1419, SSt IV 161<лац. *marmor*, ад гр. μάρμαρος, Mosz. 190); *нафта* 'нафта' п. XVII ст. <стп. *nafta* (XVI ст., SPK<лац. *naphta*, ад гр. νάφθας, Mosz. 193); *онихисъ* 'онікс' п. XVII ст.<стп. *oniks, onich* (XVI ст., SPK<лац. *onyx, -ichis*, ад гр. ὄνυξ, -υχος, Mosz. 195) і непасрэдна лац.; *рубинъ* 'рубін' 1509<стп. *rubin* (1461, SSt VIII 41<слац. *rubinus*, SWO 656); *салетра (салитра, селетра, селитра, солетра)* 'салетра' 1503<стп. *saletra* (XV ст., SStK<лац. *sāl nitrum*, Mosz. 204); *унионъ* 'буйная жамчужына' п. XVII ст.<стп. *unijon* (XVI ст., SPK<лац. *ūnio, -ōnis*, Mosz. 211); *хризолитъ (кризолитъ, крисолитъ, хрисолитосъ)* 'хрызаліт' 1519<стп. *chryzolit, chrysolit, kryzolit* (1561, SP III 328 <лац. *chrȳsolithus*, ад гр. χρυσόλιθος, Mosz. 165) і непасрэдна гр.; *шафиръ (шапфиръ)* 'сапфір' 1509<стп. *szafir* (XVI ст., SPK<лац. *sapphīrus*, ад гр. σάπφειρος, SWOR 642), параўн. *сапфиръ, самфиръ, санфиръ, сафиръ* (<старажрус. *сапфиръ, самфиръ, санфиръ*<гр., Срез. III 256); *шмаракгдъ (смаракгдъ, шмарагдъ, шмаракгдусъ, шмаракдъ, шмаракгъ, шмаракъ)* 'смарагд' 1518<стп. *szmaragd, szmarag, smaragd* (XV ст., SStK< лац. *smaragdus*, ад гр. σμάραγδος, SWO 731), параўн. *смарагдъ, змарагдъ, зморагдъ, измарагдъ* (<старажрус. *смарагдъ, змарагдъ, измарагдъ*<гр., Срез. I 1063, Преоб. II 334).

Даволі вялікай колькасцю слоў папоўнілася гэта група і за кошт запазычанняў нямецкага паходжання: *бурштынъ* 'бурштын' 1653<стп. *bursztyn* (1323, SSt I 178<снн. *bornstēn*, MoszG 54); *галунъ* 'галун' 1605< стп. *hałun* (1528, SP VIII 286<свн. *alūn*, ад лац. *alūmen*, SWO 25); *копервасъ (капервасъ, купорвасъ)* 'купарос' 1583<стп. *koperwas* (1564, SP X 617<свн. *kupfer-wasser*, SłSE II 459); *крейда* 'крэйда' 1583<стп. *krejda* (1419, SSt III 382<ням. *Kreide*, ад лац. *crēta*, SłSE III 81); *лякъ* 'лак' 1700<стп. *lak* (1437, SSt IV 2<ням. *Lack*, ад слац. *laca*<ар. *lakk*, SłSE IV 29); *мосязъ (мосендзъ, мосенцъ, мосиондзъ, мосионзъ, мосяжъ)* 'латунь' 1498< стп. *mosiądz* (1426, SSt IV 329<свн. *messinc*, MoszG 66); *перло (перла, пэрла)* 'жамчужына' 1499<стп. *perła* (1398, SSt VI 67<свн. *përle*, ад лац. *perna*, MoszG 68); *поташъ* 'паташ' 1605<пол. *potaż* (<ням. *Pottasche*, SWO 594) і непасрэдна ням.; *сталь* 'сталь' п. XVI ст.<

стп. *stal* (XV ст., SStK<ням. *Stahl*, BrSE 512); *туркусъ (туркосъ)* 'біруза' 1539<стп. *turkus* (XV ст., SStK<ням. *Türkis*, Wit. 12); *фанкгултъ* 'золата высокай пробы' 1661 <стп. *fajngult, fangult* (1529, SP VII 3<ням. *Feingold*, BrSE 149); *цына (цена, ценъ, цина, цинъ, цынъ)* 'волава; пасуда з волава' 1498<стп. *cyna, cena* (1436, SSt I 340<свн. *zin*, MoszG 55); *шыдвасеръ (шыдвасаръ)* 'азотная кіслата; гарэлка з сінім каменем' 1695<стп. *szedwaser* (<ням. *Scheidwasser*, SW VI 599); *яхонтъ (яхантъ)* 'яхант' п. XVI ст.<стп. *jachant* (1427, SSt II 543<свн. *jāchant*, BrSE 171).

Запазычанні ў галіне мінералагічнай тэрміналогіі з іншых моў выглядаюць на фоне слоў лацінскага і нямецкага паходжання адзінкавымі, напрыклад паланізмы: *жабинецъ (жабинокъ)* 'каштоўны камень зялёнага колеру' 1518<стп. *żabiniec* (XV ст., SStK); *крушецъ* 'метал; руда' 1566<стп. *kruszec* (SPK); цюркізмы: *алмазъ* 'алмаз' 1653<струс. *алмазъ* (1472, СРЯ I 30<тат. *almas*, ад ар. *älmās*<гр. ἀδάμας, Дміт. 38); *бюрюза* 'біруза' 1610<струс. *бирюза* (XVI ст., СРЯ I 185<тур. *piruzä*, ад перс. *pīrōzä*, Фасм. I 167); *нефть* 'нафта' 1519 <тур. *näft* (перс. *näft*, Mikl. 212); грэцызмы: *касситеръ* 'волава' 1653<гр. κασσίτερος (ДГРС I 879); словы яўрэйскага паходжання: *кгимъ* 'чыстае золата' п. XVI ст. <стяўр. *gim* (Altb. 5).

У асобную групу аб'ядноўваюцца ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове назвы жывёл, рэальных і міфічных, частак іх цела, уласцівых жывёлам звычак. У гэтай групе старабеларускіх запазычанняў найбольшая ўдзельная вага належыць паланізмам: *ботьянъ (ботянъ, боцянъ, боциянъ)* 'бусел' 1518<стп. *bocian* (SSt I 118); *буякъ* 'бык' 1571<стп. *bujak* (SP II 500); *быдло* 'быдла' 1495<стп. *bydło* (SSt I 206); *велерибъ (велерыбъ, велиорибъ, велорибъ)* 'кіт' п. XVII ст.<стп. *wieloryb, wieleryb* (SStK); *дрикгантъ (дрикантъ, дрыгантъ, дрыкгантъ)* 'жарабец' 1552<стп. *drygant* (SP VI 90); *еднорожецъ* 'аднарог' 1517<стп. *jednorożec* (SSt III 153); *жолвъ (желвъ, жулвъ)* 'чарапаха' 1596<стп. *żołw* (SPK); *качка* 'качка' 1508<стп. *kaczka* (SSt III 216); *качоръ* 'качар' 1599<стп. *kaczor* (SSt III 216, SłSE II 15); *келъ* 'ікол' 1516<стп. *kieł* (SSt III 275); *кернозъ* 'кнораз' 1607<стп. *kiernoz* (SP X 303); *кроликъ* 'трус' 1519<стп. *krolik* (SSt III 402); *крукъ* 'крумкач' 1580<

стп. *kruk* (SPK); *кшиканье* 'шыпенне' п. XVII ст.<стп. *kszykanie* (SPK); *лекгавый* 'выжал' 1529<стп. *legawy* (SPK); *лелекъ (лелякъ)* 'казадой' 1518<стп. *lelek* (SSt IV 19); *ментусъ* 'мянтуз' 1710<стп. *mientus* (Сп 403); *мургъ* 'парода сабакі' 1566<пол. *murga* (BrSE 348); *окгонъ* 'хвост' к. XVI ст.<стп. *ogon* (SPK); *пазуръ* 'пазур' с. XVII ст.<стп. *pazur* (SPK); *плюсква (плюска)* 'клоп' п. XVII ст.<стп. *pluskwa* (SPK); *птахъ (птакъ)* 'птушка' 1469<стп. *ptak* (SSt VII 394); *рарогъ* 'парода сокала' 1529<стп. *rarog* (SSt VII 439); *робакъ* 'чарвяк' п. XVII ст.<стп. *robak* (SPK); *сарна* 'серна' 1580<стп. *sarna* (SPK); *сверепа (сверипа, свирепа, свирипа)* 'кляча' 1502<стп. *świerzepa, świerzopa* (SPK); *супъ (семпъ, сепъ)* 'коршун' 1518<стп. *sęp* (SStK); *хартица* 'хорт' 1697<стп. *charcica* (SP III 176); *чолгатися* 'поўзаць' с. XVII ст.<стп. *czołgać się* (Сп 104); *шлапакъ* 'інаходзец' 1683<пол. *szłapak* (BrSE 550); *шпакъ* 'шпак' 1578 <стп. *szpak* (SPK).

Значная частка заалагічнай лексікі, пераважна назваў экзатычных жывёл і міфічных жывых істот, была запазычана праз пасрэдніцтва польскай мовы і непасрэдна з класічнай і сярэдневяковай латыні: *базилискъ (базилишкъ)* 'васіліск' 1620<стп. *bazyliszek* (XIV ст., SSt I 71<лац. *basiliscus,* ад гр. βασιλίσκος, Mosz. 163) і непасрэдна лац.; *байволъ* 'буйвал' п. XVII ст.<стп. *bawoł* (1394, SSt I 71<нарлац. *būbalus,* SłSE I 28); *бестия (бестея, бестыя)* 'звер' 1595<стп. *bestyja* (1525, SP II 49<лац. *bēstia,* Mosz. 164); *буцефалъ (дуцефалъ)* 'баявы конь, конь Аляксандра Македонскага' п. XVII ст.< стп. *bucefał* (1595, MKPL 345<лац. *Būcephalās,* слац. *bucefalus,* ад гр. Βουκεϑαλας, SŁŚP I 1164); *гидра* 'гідра' п. XVII ст.<стп. *hydra* (1560, SP VIII 377<лац. *hydra,* ад гр. ὕδρα, Mosz. 177); *делфинъ* 'дэльфін' с. XVII ст.<стп. *delfin* (1534, SP IV 585<лац. *delphīn,* Mosz. 167); *дромедаръ* 'рысак; быстраходны вярблюд' к. XV ст.<стп. *dromedarz* (XIV ст., SSt II 190<лац. *dromedārius,* Mosz. 168); *елефантъ (елепантъ)* 'слон' п. XVII ст.<стп. *elefant* (1564, SP VI 544<лац. *elephantus,* Mosz. 171); *ехиний* 'шчытаморднік' с. XVII ст.<стп. *echynus* (1534, SP VI 519<лац. *echīnus,* Mosz. 169); *индыкъ (индикъ)* 'індык' 1688<стп. *indyk* (1598, SP VIII 534<лац. *indicus* 'індыйскі', SłSE I 457); *кгрифъ (грифъ, грыфъ)* 'грыф' п. XVII ст.<стп. *gryf* (1412, SSt II 506<

лац. *gryphus*, ад гр. γρύψ, SWOR 259); *керастесъ* 'рагатая змяя' п. XVII ст.<лац. *cerastēs* (<гр. κεράστης, ЛРС 173); *креатура* 'стварэнне' 1627<стп. *kreatura* (XVI ст., SPK<лац. *creātūra*, SłSE III 79); *крокодилъ* 'кракадзіл' п. XVII ст.<стп. *krokodyl* (XVI ст., SPK<лац. *crocodīlus*, ад гр. κροκόδειλος, SłSE III 124); *леопардъ* 'леапард' 1518<стп. *leopard* (XVI ст., SPK<лац. *leopardus*, SłSE IV 41); *марена* 'ласось' 1711<пол. *marena* (XVIII ст., L III 43<лац. *marena*, SWO 453); *мигали* 'гарнастай' п. XVII ст.<слац. *migale* (SŁŚPK); *мулъ* 'мул' к. XV ст. <стп. *muł* (XIV ст., SSt IV 363<лац. *mūlus*, SWO 496); *пардъ (пардусъ)* 'барс' к. XV ст.<стп. *pard, pardus*, (1455, SSt VI 38<лац. *pardus*, SŁŚPK); *пеликанъ* 'пелікан' п. XVII ст.<стп. *pelikan* (XIV ст., SSt VI 62<лац. *pelicānus*, Mosz. 197); *ремора* 'рыба прыліпала' с. XVII ст.<стп. *remora* (XVI ст., SPK<лац. *remora*, Mosz. 202); *салямандра* 'саламандра' 1627<стп. *salamandra* (XVI ст., SPK<лац. *salamandra*, ад гр. σαλαμάνδρα, Mosz. 204); *сирена* 'марская німфа' 1627<стп. *syrena* (XVI ст., SPK<лац. *sīrēn, -ēnis*, ад гр. σειρήν, -ηνος, Mosz. 208); *тигрисъ (тикгрисъ)* 'тыгр' 1517<стп. *tygris* (XVI ст., SPK<лац. *tigris*, ад гр. τίγρις, SWOR 685); *фениксъ (финиксъ)* 'фенікс' п. XVII ст.<стп. *feniks* (1564, SP VII 46<лац. *phoenīx*, ад гр. φοίνιξ, Mosz. 173) і непасрэдна гр.; *хамелеонъ* 'хамелеон' п. XVII ст.<стп. *chameleon* (1564, SP III 175<лац. *chamaeleōn*, ад гр. χαμαιλέων, Mosz. 180); *химера* 'каза' 1653<стп. *chimera* (XVII ст., P I 73<лац. *chimaera*, ад гр. χίμαιρα, Ryb. 26) і непасрэдна лац.; *хирогриль* 'рысь' п. XVII ст.<слац. *chirogrillus* (<гр. χειρόγρυλλος, SŁŚP II 363).

Некалькі вузей адлюстравалася ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове лексіка нямецкага паходжання: *валахъ* 'кастрыраваны конь' 1498<стп. *wałach*, укр. *валах* (<ням. *Wallach*, BrSE 600); *гиништъ* 'рысак; кастрыраваны конь' к. XV ст.<стп. *hynszt* (1398, SSt II 548<стч. *hynšt*<свн. *hengest, hengst*, Recz. 68); *драбаръ (драборъ)* 'рысак; быстраходны вярблюд' п. XVI ст.< стп. *drabarz* (1437, SSt II 176<стч. *drabař*<ням. *Traber*, BrSE 382); *калакутъ* 'індык; певень індыйскай пароды курэй' 1599<пол. *kałakut* (<ням. *Kalekut*, англ. *Calicut*, SłSE II 33); *каплунъ (коплунъ)* 'каплун' 1529<стп. *kapłun* (1421, SSt III 239<стч. *kapún*<свн. *kappūn*, SłSE II 58); *карпъ* 'карп' 1692<стп. *karp* (1424, SSt III

247<снн. *karpe(n),* свн. *karpfe,* SłSE II 82); *левартъ* 'пантэра' к. XV ст.<стп. *lewart* (1417, SSt IV 26<стч. *levhart*<свн. *lewehart,* SłSE IV 187); *лямпартъ (лампартъ, лемпартъ)* 'леапард' 1582<стп. *lampart* (XVI ст., SPK<свн. *lēparte, lëwpart,* SłSE IV 41); *малпа* 'малпа' 1598<стп. *małpa* (XV ст., SSt IV 151<свн. *mūlaffe,* MoszG 65); *миногъ* 'мінога' 1684<стп. *minog* (1450, SSt IV 278<свн. *niunouge,* MoszG 67); *павъ* 'паўлін' 1518<стп. *paw* (1472, SSt VI 57<ствн. *pfāwo,* ад лац. *pāvo,* MoszG 68); *струсъ* 'страус' п. XVII ст.<стп. *strus* (XV ст., SStK<свн. *strūze,* снн. *strūs,* SWOR 627); *трабъ* 'бег каня рыссю' 1584<стп. *trab* (XVI ст., SPK<ням. *traben,* BrSE 581); *фарижъ* 'пародзісты конь' к. XV ст.< стп. *faryż* (1599, SP VII 39<свн. *vārīs,* ад ар. *fāris,* Фасм. IV 187) і непасрэдна свн.; *фризъ (фрезъ)* 'цяжкі конь' 1580<стп. *fryz, frez* (1566, SP VII 134<ням. *Fries,* P I 209); *швабъ* 'парода каня (з Швабіі)' 1578<стп. *szwab* (XV ст., SStK<ням. *Schwabe,* BrSE 528), параўн. рус. *шваб* (Фасм. IV 417).

Сустракаюцца ў гэтым разрадзе слоў лексемы венгерскага паходжання: *окгаръ (огарь)* 'ганчак' 1529<стп. *ogar* (1398, SSt V 526<венг. *agár,* SWO 522); *парепа* 'кляча' 1616<пол. *parepa* (<венг. *paripa,* BrSE 396); румынскага паходжання: *кошкоданъ (кочкоданъ, коштоданъ)* 'малпа' п. XVII ст.<стп. *koczkodan* (1560, SP X 452<рум. *coşcodan,* SłSE II 323); чэшскага паходжання: *дремлюгъ (дремлигъ)* 'парода сокала' 1529<стп. *drzemlik* (1472, SSt II 203<стч. *dřemlik,* SJP XI 120); *когутъ* 'певень' 1596<стп. *kogut* (1534, SP X 455<стч. *kohut,* SłSE II 328); няма сумнення, што ўсе яны былі запазычаны вусным шляхам і ўжываліся ў жывой гутарковай мове таго часу. Зусім іншае трэба сказаць аб грэцызмах *гипсъ* 'коршун' 1653 (<гр. γύψ, ДГРС I 337), *драконъ* 'дракон' 1653 (<гр. δράκων, ДГРС I 425), *ефиимира* 'эфемерыда' с. XVII ст. (<гр. ἐφημερίς, -ιδος, ДГРС I 721), *иппокентавръ* 'міфічны напаўконь-напаўчалавек' с. XVII ст. (<гр. ἱπποκένταυρος, ДГРС I 829), *иппотамъ* 'гіпапатам' п. XVII ст. (<гр. ἱπποπόταμος, ДГРС I 831), *камелопардъ* 'жырафа' 1519 (<гр. καμηλο-πάρδαλις, ДГРС I 870), *кентаврусъ* 'кентаўр' п. XVII ст. (<гр. κενταυρος, ДГРС I 934); *левиафанъ* 'марское страшыдла' к. XV ст. (<гр. λευιαθαν, ад стяўр. *līwjāthān,* Фасм. II 472), што замацаваліся ў беларускай пісьменнасці ў

выніку перакладаў рэлігійнай літаратуры і былі вядомы вузкаму колу адукаваных людзей.

Рад назваў прадстаўнікоў жывёльнага свету старабеларуская мова, як і іншыя славянскія, запазычыла з цюркскіх моў: *бахматъ (бохматъ)* 'вынослівы конь татарскай пароды' к. XV ст.<струс. *бахматъ* (1503, СРЯ I 81<цюрк., ад *Mähmad* 'Магамет', Сет. 233) і непасрэдна цюрк.; *бедевей (бадавея)* 'рысак' 1503<стп. *badawija, bedewija* (1497, SSt I 57<тур. *bedeviat,* BrSE 19); *болобанъ* 'парода сокала' 1529<рус., укр. *балабан* (<тур., кр.-тат. *balaban,* Фасм. I 111); *борсукъ* 'барсук; скура барсука' 1583<струс. *барсукъ, борсукъ* (XVII ст., СРЯ I 75<цюрк., параўн. тур., каз., карач. *borsuk,* тат. *bursyk,* чаг. *bursuk,* Фасм. I 128) і непасрэдна цюрк.; *бугай* 'бык' 1697<струс. *бугай* (1327, Арак. 136<тур., тат., кыпч. *buγa,* ЭСРЯ I-2 209); *кобанъ* 'кабан' к. XVI ст.< цюрк., параўн. тат., кыпч. *kaban* (Фасм. II 149); *крокгулецъ (кракгулецъ, крегулецъ, крекгулецъ, кренгулецъ, крогулецъ)* 'ястраб-перапёлачнік' 1566<стп. *krogulec* (1399, SSt III 387<цюрк., параўн. стцюрк. *karkuy, karguy,* SlSE III 117); *меринъ (мерынъ)* 'рабочы конь' 1555 <струс. *меринъ* (1500, Фасм. II 604<стманг. *mörin,* калм. *mern,* праз цюрк., БаскР 55, Сет. 232); *отрамакъ (громакъ)* 'аргамак' 1545<струс. *аргамакъ, оргамакъ* (1483, СРЯ I 45<чаг., тат. *arγamak,* Фасм. I 84) і непасрэдна кр.-тат.; *ордокъ* 'качка' 1552<кр.-тат. *ördäk* (Супр. 127); *саранча (шаранча)* 'саранча' п. XVI ст.< цюрк. *sarynča* (ад *sary* 'жоўты', *saryǯa* 'жаўтаваты', Фасм. III 560), пад уплывам струс. *саранча* (XVI ст., ҚЭС 401) і стп. *szarańcza* (XVI ст., SPK); *тараканъ* 'таракан' 1640<струс. *тараканъ* (XV ст., ҚЭС 436<тат. *tarakan,* Фасм. IV 20).

Да разгледжанай групы старабеларускіх запазычанняў далучаецца таксама літуанізм *кульша* 'сцягно' 1540 (<літ. *kùlšė,* Jabl. 109).

Вялікую групу запазычанняў складаюць у лексічнай сістэме старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы назвы раслін, іх пладоў, а таксама рэчываў, здабытых з раслін. У пераважнай большасці яны звязаны сваім паходжаннем з лацінскай і грэчаскай мовамі. Запазычванне батанічнай лексікі грэка-лацінскага паходжання адбывалася на працягу ўсяго перыяду развіцця старабеларускай лексічнай сістэмы непасрэдна з класічных

моў, сярэдневяковай латыні і праз пасрэдніцтва еўрапейскіх моў. Асноўная частка батанічных тэрмінаў трапіла ў беларускі слоўнік пісьмовым шляхам дзякуючы перакладчыцкай дзейнасці прадстаўнікоў тагачаснай літаратуры, пашырэнню адукацыі і развіццю медыцыны, навукі і культуры на беларускіх землях. Некаторыя лексемы былі запазычаны ў выніку ажыўлення гандлёвых адносін беларускага насельніцтва з іншымі еўрапейскімі народамі.

Асабліва інтэнсіўна папаўнялася беларуская батанічная тэрміналогія на працягу XV—XVII стст. за кошт слоў, запазычаных прама або апасродкавана з лацінскай мовы: *алоесъ (алое)* 'альяс' к. XV ст.<стп. *aloes* (1484, SSt I 33<слац. *aloes*<лац. *aloē*, ад гр. *ἀλόη*, Mosz. 159) і непасрэдна лац.; *аныжъ (анишъ, анышъ, ганишъ, ганышъ)* 'аніс' 1520<стп. *anyż, hanyż* (1460, SSt I 40, відавочна, праз стч. *anyž* ад ням. *Anis*, Recz. 30<лац. *anīsum*, ад гр. *ἄνησον*, Mosz. 176); *балсамъ (бальзамъ)* 'бальзам; бальзамнае дрэва' к. XV ст.<стп. *balsam* (1460, SSt I 58<лац. *balsamum*, ад гр. *βάλσαμον*, Mosz. 163); *бделиумъ (бделлия)* 'дрэва Daucus Gingidium L.; смала гэтага дрэва' 1519<стп. *bdelijum* (1455, SSt I 72<лац. *bdelium*, ад гр. *βδέλλιον*, Mosz. 163) і непасрэдна гр.; *брозылия (близерея)* 'драўніна фернамбука' 1599<стп. *brazylija, bryzelija* (1472, SSt I 160<слац. *brasilium*, Mosz. 164); *буракъ* 'бурак' 1593<стп. *burak* (1465, SSt I 177<слац. *borrago*, BrSE 49, або ад *bury*, SłSE I 50); *гебанусъ (гебена)* 'эбенавае дрэва' п. XVI ст.<стп. *heban, hebena* (XVI ст., SP VIII 318<лац. *hebanus, ebenus*, ад гр. *ἔβενος*, SłSE I 412, Mosz. 176) і непасрэдна слац.; *дактилъ (дактылий, дактылъ)* 'фінікавая пальма; фінік' п. XVII ст.<стп. *daktyl, daktył* (1419, SSt II 19<лац. *dactylus*, ад гр. *δάκτυλος* 'палец', Mosz. 166); *дафинъ (дяфина)* 'лаўр' 1489<пол. *dafne* (<лац. *daphnē*, ад гр. *δαφνή*, SWO 132) і непасрэдна лац., гр.; *драконта* 'драсён змяіны' с. XVII ст.<слац. *dracontea* (SŁSP III 870); *камфоръ* 'камфара' к. XVI ст. <стп. *kamfor* (1472, SSt III 229<слац. *camphora*, ад ар. *kāfūr*, SłSE II 37); *каппаръ (капарисъ, капарра)* 'каперс' 1518<стп. *kapar, kappar* (XV ст., SSt III 235, SP X 75<лац. *capparis, cappara*, ад гр. *κάππαρις*, Mosz. 181) і непасрэдна лац., гр.; *кардымонъ (кордымония)* 'кардамон' 1685<стп. *kardamon* (1534, SP X 137<лац. *car-*

*damomum,* ад гр. καρδάμωμον, Mosz. 181); *кастанъ* 'каштан' 1651<стп. *kasztan, kastan* (1528, SP X 164<свн. *kastāne*<лац. *castanea,* ад гр. κάστανον, SłSE II 97); *кгалбанъ* 'смала дрэва Ferula Schair' 1517<стп. *galban* (1472, SSt II 381<лац. *galbanum,* ад гр. γαλβάνη, Mosz. 175); *кминъ (кменъ)* 'кмен' 1540<стп. *kmin* (1437, SSt III 303<ствн. *kumīn*<лац. *cumīnum,* ад гр. κύμῖνον, SłSE II 281); *кориандръ* 'каляндра' п. XVII ст.<стп. *korijander, korijandr* (1419, SSt III 316<лац. *coriandrum,* ад гр. κορίανδρον, SłSE II 351); *крокосъ* 'шафран' 1653 <стп. *krokos* (1465, SSt III 388<свн. *krokos*<лац. *crocus,* ад гр. κρόκος, SłSE III 125); *кубеба* 'расліна Pifer cubeba' 1688<стп. *kubeba* (XVI ст., SPK<слац. *cubeba,* ад ар. *kubāba,* SłSE III 295); *лабруска* 'дзікі вінаград' п. XVII ст.<стп. *labruska* (XVI ст., SPK<лац. *lābrūsca,* SłSE IV 17); *лавданъ (лауданъ, лявданъ)* 'жывіца расліны Cistus polymorphus' 1689<стп. *laudan* (1472, SSt IV 12<лац. *laudanum,* SłSE IV 77); *лилия (лелея, лелия, лилея)* 'лілія' 1518<стп. *lilija, lelija* (1419, SSt IV 50<ствн. *lilja*<лац. *līlia,* мн. ад *līlium,* SłSE IV 256); *лякрыцея (люкреция)* 'лакрычнік' 1583<стп. *lakrycyja* (1437, SSt IV 2<свн. *lakeritze*<лац. *liquirītia,* ад гр. γλυκυ-ρριξα, SłSE IV 374) і непасрэдна слац. *lucretia* (SŁŚPK); *мандрагора (мандрагоръ)* 'мандрагора' п. XVII ст.<стп. *mandragora* (XVI ст., SPK<лац. *mandragora,* ад гр. μάνδραγόρας, Mosz. 190); *марулья (марулия)* 'шаўкоўніца' к. XVI ст. <пол. *morula* (<лац. *morula* ад *mōrum* 'шаўкоўніца', SWO 493); *микгдалъ (мигдалъ)* 'міндаль' 1498<стп. *migdał* (1455, SSt IV 250<лац. *amygdalum,* ад гр. ἀμύγδαλος, Mosz 191); *мирта* 'мірт' с. XVII ст.<стп. *mirta* (XVI ст., SPK<лац. *mirta, myrta,* ад гр. μυρτάς, -άδος, Mosz. 192); *морва* 'шаўкоўніца' п. XVII ст.<стп. *morwa* (1461, SSt IV 328<слац. *morua,* Mosz. 192); *мушкатъ* 'мускат' 1498<стп. *muszkat* (1464, SSt IV 368<лац. *muscatus,* слац. *muscatum,* Mosz. 193, SŁŚPK); *нардъ (нардусъ)* 'нард' 1518<стп. *nard, nardus* (1453, SSt V 86—87<лац. *nardus,* ад гр. νάρδος, Mosz. 193) і непасрэдна лац.; *олива* 'аліва' п. XVI ст.<стп. *oliwa* (XIV ст., SSt V 569<лац. *olīva,* Mosz. 194); *пальма (палма)* 'пальма' п. XVII ст.<стп. *palma* (XIV ст., SSt VI 10<лац. *palma,* Mosz. 195); *помакгранатъ* 'гранат' п. XVII ст. <стп. *pomagranat* (XVI ст., SPK<лац. *pōmum grānā-*

*tum,* Mosz. 199); *ресина* 'смала-жывіца' п. XVII ст.<стп. *resina* (XVI ст., SPK<лац. *rēsīna,* Mosz. 203); *рожа* 'ружа' к. XV ст.<стп. *roża* (1420, SSt VIII 38<лац. *rosa,* Mosz. 203); *розмаринъ* 'размарын' 1710<стп. *rozmaryn* (XVI ст., SPK<лац. *ros marinus,* Mosz. 203); *рута* 'рута' 1631<стп. *ruta* (XV ст., SSt VIII 52<лац. *rūta,* Mosz. 203); *сетимъ (сетымъ)* 'від дрэва' п. XVII ст.<стп. *setim* (XVI ст., SPK<лац. *sethim,* з яўр., Mosz. 205) і непасрэдна лац.; *сикомеръ (сикоморусъ)* 'сікамор' п. XVII ст.<стп. *sykomor* (XVI ст., SPK<лац. *sȳcomorus,* ад гр. συκόμορος, Mosz. 207) і непасрэдна лац.; *стораксъ (сторакъ)* 'стырак' 1517<стп. *storaks, storak* (XV ст., SStK, SPK<лац. *styrax,* ад гр. στύραξ, SWO 708); *теребинтъ (теревинфъ)* 'тэрпентынавае дрэва; тэрпентын' п. XVII ст.<стп. *terebint* (XV ст., SStK<лац. *terebinthus,* ад гр. τερέβινθος, Mosz. 209) і непасрэдна гр.; *терпентина (терпетина)* 'тэрпентын' 1653<стп. *terpentyna* (XVI ст., SPK<слац. *terpentinus,* Mosz. 209); *ункгуля* 'пахучая мазь' 1517<лац. *ungula* (ЛРС 1046); *фиялка (фиалка, фиола)* 'фіялка' п. XVI ст.<стп. *fijałka, fiola* (1447, SSt II 360, DPSL 23<свн. *vīole*<лац. *viola,* SłSE I 229); *хелидония* 'падтыннік вялікі' с. XVII ст.<стп. *celidonija, chelidonija* (1475, SSt I 217<лац. *chelīdonium,* ад гр. χελιδόνιον, Mosz. 164) і непасрэдна лац.; *цедръ* 'кедр' п. XVI ст.<стп. *cedr* (XIV ст., SSt I 216<лац. *cedrus,* ад гр. κέδρος, Mosz. 164); *циприсъ* 'кіпарыс' 1653 <стп. *cyprus* (1472, SSt I 340<лац. *cypros,* ад гр. κύπρος, Mosz. 166); *цынамонъ (цинамонъ, циномонъ, цыномонъ, чинамонъ)* 'карыца' п. XVI ст.<стп. *cynamon* (1475, SSt I 340<лац. *cinnamōmum,* ад гр. κιννάμωμον, BrSE 69); *цытрына* 'лімонны сок' 1688<стп. *cytryna* (1560, SP III 728<лац. *citrinus,* Mosz. 166); *шпанахъ* 'шпінат' к. XVI ст.<стп. *szpinak* (XV ст., SStK<слац. *spinacium,* Mosz. 208); *шпиканардъ (шпикнаръ)* 'лаванда' п. XVI ст.<стп. *szpikanard* (XV ст., SStK, SPK<лац. *spīca nardi,* Mosz. 206).

Даволі актыўна адбывалася таксама запазычванне назваў раслін і раслінных рэчываў з грэчаскай мовы, хоць у параўнанні са старажытнарускім перыядам вынікі яго былі значна меншыя: *агариконъ* 'лістоўнічны грыб' к. XVI ст.<гр. ἀγαρικόν (Mosz. 158); *диктамнъ* 'ясенец' с. XVII ст.<гр. δίκταμνος (ДГРС I 407); *касия (кассия)* 'від лаўра' 1519<гр. κασία, κασσία (Фасм. II

206); *олифа* 'мазь' 1690<гр. ἄλειφα (Фасм. III 135); *смирна (змирна)* 'сок аравійскага мірта' с. XVII ст.<гр. σμύρνα (Фасм. II 100); *спонгия* 'марская губка' 1653<гр. σπογγία (ДГРС II 1495); *стакти (стакта)* 'від пахучай смалы' 1596<гр. στακτή (Срез. III 490); *халванъ* 'від пахучай смалы' п. XVII ст.<гр. χάλβανον (Фасм. IV 217).

На фоне лексікі грэка-лацінскага паходжання запазычанні з іншых моў сустракаюцца ў старабеларускай батанічнай тэрміналогіі ў значна меншай колькасці. Сярод іх можна назваць рад лексем польскага паходжання: *баршчъ* 'баршчэўнік' 1684<стп. *barszcz* (Сп 15); *глодъ* 'крупка' п. XVII ст.<стп. *głodek* (SP VII 382); *гориса* 'цьмянец' п. XVI ст.<стп. *gorysz* (SP VIII 42); *дуля* 'сорт грушы' 1679<стп. *dula, gdula* (SPK); *кгвоздикъ (гваздика, гвоздика, гвоздикъ, гвоздзикъ, гвоздыка, гоздикъ, гоздзикъ, кгоздзчикъ)* 'гваздзіка' 1498<стп. *gwoździk, goździk* (SSt II 477); *кгрыка (грика, грыка)* 'грэчка' 1571<стп. *gryka* (SP VIII 183); *крачокъ* 'куст' с. XVII ст.<стп. *krzaczek* (SPK); *петрушка* 'пятрушка' 1571<стп. *pietruszka* (1464, SSt VI 119, ад лац. *petroselinum,* P II 110); *урьянтовка* 'сорт грушы' 1645<стп. *uryjantowka* (SPK).

Праз польскае пасрэдніцтва было запазычана некалькі слоў нямецкага паходжання: *дриакевъ (дриаква)* 'скабіёза' 1653<стп. *dryjakiew* (1419, SSt II 181<свн. *drīakel*, ад стфр. *triacle*<лац. *thēriacum*<гр. θηριακόν, SłSE I 165); *имберъ (имбаръ, имбиръ, инберъ, инкберъ)* 'імбір' 1498<стп. *imbier, inbir, ingbier* (1464, SSt III 16 <свн. *ingebër, imbër,* ад лац. *zingiber* усходняга паходжання, SłSE I 451); *кгалкганъ (галганъ, кгалганъ)* 'шафран' 1498<стп. *gałgan* (1464, SSt II 382<свн. *galgān,* ад слац. *galanga,* SłSE I 253); *крапъ* 'кроп' 1686<стп. *krap* (1403, SSt III 376<ням. *Krapp,* SW II 529); *опихъ* 'гарычнік' 1653<стп. *opich* (1419, SSt V 594<свн. *epfich,* MoszG 67); *пастернакъ (пастарнакъ, пасторнакъ, пастрнакъ, постарнакъ, постернакъ, посторнакъ, постэрнакъ)* 'пастарнак' 1556<стп. *pasternak* (1412, SSt VI 45<свн. *pasternac,* ад лац. *pastināca,* MoszG 68); *пепръ* 'перац' 1605<стп. *pieprz* (1423, SSt VI 99<ням. *Pfeffer,* ад лац. *piper,* BrSE 409); *розынки (родзынки, розинки)* 'разынкі' 1498<стп. *rodzynki, rozynki* (1419, SSt VII 483<ням. *Rosinen,* ад лац. *racēmus,* SWO 653); *рыжъ*

*(рижъ, рыжа)* 'рыс' 1538<стп. *ryż* (1393, SSt VIII 65< свн. *ris,* ад лац. *oryza,* SWOR 588); *фикга (фига)* 'фіга' 1498<стп. *figa* (1420, SSt II 357<ствн. *fīga,* свн. *vīge,* ад лац. *fīcus,* SłSE I 227); *хонинъ (хоненъ)* 'хінін' 1578 <пол. *chinina* (<ням. *Chinin,* іт. *chinina,* ад перуан. *kina,* SWO 112); *цыбуля (цебуля, цибуля)* 'цыбуля' к. XV ст.<стп. *cybula, cebula* (1419, SSt I 215<свн. *zibolle,* ад лац. *cēpulla,* MoszG 54); *цытваръ (цетваръ)* 'цытвар' 1498<стп. *cytwar* (1419, SSt I 341<ствн. *zitewar,* ад слац. *cetoarium*<ар. *zidwār,* SWOR 136); *шафранъ (шапранъ, шефранъ)* 'шафран' 1498<стп. *szafran, szefran* (XV ст., SStK<свн. *saffrān,* ад ар. *za'farān,* Фасм. IV 414); асобныя лексемы раманскага паходжання: *кавъяръ (каверъ, кавиаръ, кавиоръ, кавияръ, кавяръ, кивияръ, ковияръ)* 'ікра' 1679<пол. *kawiar, kawior* (<іт. *caviaro,* ад тур. *havyar,* SłSE II 108); *лимония (лимона, лимонъ)* 'лімон' 1679<стп. *limonija, limon* (XVI ст., SPK<іт. *limone,* ад перс. *līmūn,* SłSE IV 260); *помаранчъ* 'апельсін' 1699<стп. *pomarańcza* (1484, SSt VI 364<іт. *pomarancia,* ад *pomo* 'яблык'+*arancia* 'апельсін', SWOR 528); *салата* 'салата' п. XVII ст.<стп. *sałata* (XVI ст., SPK<іт. *insalata,* SWO 664); *табака (табакъ)* 'махорка' 1638<стп. *tabaka* (1621, Сп 1131< ісп. *tabaco,* ад аравак. *tobako,* SWO 739); адно чэшскае слова: *пижмо* 'мускус' п. XVI ст.<стп. *piżmo* (1419, SSt VI 147<стч. *pižmo,* ад слац. *bisamum,* SWO 575).

Адзінкавыя назвы раслін і пладоў былі запазычаны старабеларускай мовай на працягу XVI—XVII стст. з цюркскіх моў: *амборъ (амбаръ)* 'амбра' п. XVI ст.< асм.-тур. *amber* (<ар. *änbär,* St I 18); *гарбузъ* 'гарбуз' 1552<стукр. *гарбузъ* (1719, Тимч. 509<кум. *charbuz,* тур., кр.-тат. *karpuz,* Радл. II 212, SłSE I 403) і непасрэдна цюрк.; *оркишъ* 'сорт ячменю' 1588<тат. *urkuš* (Mikl. 226, Шип. 251); *тютюнъ (титунъ, титюнъ, тытюнъ)* 'тытунь' 1685<кр.-тат., асм.-тур. *tütün* (Радл. III 1522). З асобных запазычанняў патрэбна адзначыць літуанізм *деготь (дзеготь)* 'дзёгаць' 1529 (<літ. *degùtas,* Карс. 18) і сербскае па паходжанню слова *чесмина* 'падуб' п. XVII ст. (<сх. *česvina, česmina,* Orł. 93, 155), а таксама лексему *алкамфоръ* 'камфарнае дрэва' с. XVII ст., утвораную ад ар. *al-+kāfūr* пад уплывам *камфоръ* (гл.).

Батанічнай тэрміналогіяй іншамоўнага паходжання старабеларуская лексічная сістэма працягвала ўзбага-

чацца і ў пазнейшы перыяд. Напрыклад, у дзелавым помніку пачатку XVIII ст. (1712 г.) фіксуецца лексема *цытръ* 'цытрус', якая магла быць запазычана з лац. *citrus* як праз рускае, так і праз польскае пасрэдніцтва; параўн. стп. *cytr* (SP III 727). Што да зафіксаваных у магілёўскіх актах гэтага часу слоў *анисъ, миндаль, тминъ,* то яны, як і разгледжаныя вышэй *аныжъ, микгдалъ, кминъ,* сваёй першакрыніцай мелі гр. *ἄνισον, ἀμύγδαλος, κύμινον*, але запазычаны былі з рускай мовы. Аналагічным шляхам пранікла ў гаворкі ўсходняй часткі Беларусі і дублетная да слова *розынки* лексема *изюмъ* (1713)<струс. *изюмъ* (XVI ст., Таг. 156<кр.-тат. *üzüm,* Дмит. 7).

Многа батанічных назваў, вядомых адукаваным людзям таго часу, прыводзіцца ў выдадзеным у 1722 г. «Зборы выпадкаў кароткім». Тут асабліва каштоўным па адлюстраванню батанічнай лексікі з'яўляецца раздзел, дзе падаецца спіс пахучых арганічных рэчываў і раслін, з сумесі якіх рыхтавалася царкоўнае міра: «Звыкли Грекове до Оливы и Балсаму прикладати рожныи вонности, и влевати рожныи олейки, особливе зась тыи: иперыкъ или Коста... Цыперыкъ, зерна веску, Шпиканардъ, Кассия чорная, Гвоздыки, насене Розмарыновое, Цынамонъ, Кубеба, Кордымонія, Бобки, Азаръ, Мацеръ, Теребинтъ, Патитъ, Маеранъ, Ладанъ, Кадило, Стахія, Имберъ, Цытваръ, Инуля, Аристоліохія, Алоесъ, Ирыда, Бделлія, Опобалсамъ... Олибанъ, древо Сасафрасъ, древо Санталя». Побач са словамі, якія былі вядомы пісьмовым помнікам папярэдняга перыяду, тут упершыню ў старабеларускай пісьменнасці адзначаюцца наступныя батанічныя тэрміны і назвы раслінных рэчываў іншамоўнага паходжання: *азаръ* 'капытнік' (<слац. *asarum,* SłSP I 804), *аристолиохия* 'кірказон' (<слац. *aristolochia,* SłSP I 749), *инуля* 'дзівасіл высокі' (<слац. *inula,* SŁSPK), *иперыкъ* 'святаяннік' (<слац. *hypericum,* SŁSPK), *ирыда* 'касач' (<пол. *iryda*<слац. *iris, -idis,* SW II 109, SŁSPK), *коста* 'каласоўнік' (<стп. *kost* XV ст., SSt III 356<лац. *costus,* SW II 490), *маеранъ* 'маяран' (<стп. *majeran, majoran* XV ст., SSt IV 145< слац. *maiorana,* Mosz. 189); *олибанъ* 'разнавіднасць драўнянай смалы' (<стп. *oliban* XVI ст., SPK<слац. *olibanum,* Mosz. 194); *опобалсамъ* 'бальзамавае дрэва' (<слац. *opobalsamum,* SŁSPK), *санталя* 'сандал' (<гр.

*σανταλον*, ад ар. *sandal,* Фасм. III 556), *сасафрасъ* 'від лаўра' (<пол. *sasafras*<іт. *sassafrasso,* SW VI 34), *цыперыкъ* 'сыць' (<слац. *cipera,* SŁSP II 393).

## X. ЛЕКСІКА, ЗВЯЗАНАЯ З ЛІЧЭННЕМ І ВЫМЯРЭННЕМ

Невялікі, але важны ў навуковых адносінах разрад старабеларускіх запазычанняў утвараюць словы, якія характарызуюць узровень тагачаснага лічэння і вымярэння. У адносінах да жыццёвых і гаспадарчых сфер, абслугоўваемых гэтай лексікай, у яе складзе вылучаюцца дзве прадметна-тэматычныя групы. У першую групу аб'ядноўваюцца словы, звязаныя з бытавым лічэннем, пабудовай і вымярэннем прасторавых і аб'ёмных фігур, а таксама агульныя і канкрэтныя назвы адзінак меры, вагі і колькасці. З пункту погляду этымалогіі тут таксама, як і ў іншых прадметна-тэматычных групах, назіраецца разнастайнасць.

Найбольш істотная частка запазычанняў прыпадае ў галіне старабеларускіх мер на словы нямецкага паходжання, якія ў большасці праніклі вусным шляхам праз польскую мову і ў выніку непасрэдных гандлёвых аперацый беларусаў з немцамі: *бална* 'кіпа, цюк' 1540<стп. *bela, bella* (1538, SP II 42<ням. *Ballen,* BrSE 20) і непасрэдна ням.; *вантухъ* 'мех' 1565<стп. *wańtuch* (XV ст., SStK<ням. *Wagentuch,* BrSE 601); *дрелинкъ* 'мера віна' 1576<стп. *drelink* (1485, SSt II 551<ням. *Dreilink,* BrSE 95); *захцыкъ (захтикъ)* 'шэсцьдзесят штук, капа' 1554<стп. *zachcyk* (XV ст., SStK<ням. *sechzig,* SJP X 1003); *кавалокъ (кавалекъ, ковалекъ)* 'кавалак' п. XVII ст.<стп. *kawałek* (1564, SP X 2<снн. *kavele,* нн. *kavel,* SłSE II 106); *кватерка (кватырка)* 'чвэрць кварты, кубак' 1680<стп. *kwaterka* (XVI ст., SPK<ствн. *quatier, quartier,* SłSE III 473); *кипа* 'кіпа' 1440<пол. *kipa* (<снн. *kip,* ням. *Kiepe,* SWO 354, Фасм. II 235) і непасрэдна снн.; *лантухъ* 'мех' 1562<пол. *łańtuch* (<ням. *Leintuch,* SWOR 406); *ланъ* 'мера зямлі' 1403<стп. *łan* (1397, SSt IV 95<стч. *lan*<ням. *Lehen,* SWO 440); *лаштъ (ластъ)* 'мера сыпкіх рэчываў' 1471< стп. *łaszt* (1294, SSt IV 102<свн., снн. *last,* MoszG 65) і непасрэдна свн., снн.; *лотъ* 'мера вагі' 1518<стп. *łot* (1388, SSt IV 132<свн. *lōt,* MoszG 65); *маца* 'мера збожжа' 1509<стп. *maca* (1258, SSt IV 137<свн. *mëtze,*

Zajda 81); *миля* 'міля' 1475<стп. *mila* (XV ст., SSt IV 251<ствн. *mīla,* ад лац. *mīlle (passum)* 'тысяча крокаў', SWO 478); *моркгъ (моргъ)* 'мера зямлі' 1386<стп. *morg* (1325, SSt IV 348<свн. *morgen,* MoszG 66); *пара* 'пара' п. XVI ст.<стп. *para* (1447, SSt VI 37<свн. *pār,* BrSE 395); *тахеръ* 'тузін' 1498<стп. *tacher* (XVI ст., SPK< ням. *Tacher,* BrSE 563) і непасрэдна ням.; *фодръ* 'мера вадкасці' 1576<стп. *foder* (1496, SSt II 361<ням. *Fuder,* SW I 757); *фунтъ* 'фунт' 1388<стп. *funt* (1394, SSt II 369<свн. *phunt,* SłSE I 241); *цаль* 'цаля' 1526<стп. *cala, cal* (1621, Cn 662<ням. *Zoll,* BrSE 55) і непасрэдна ням.; *цетнаръ (цейтнаръ, центнаръ, цетнеръ)* 'цэнтнер' 1498 <стп. *cetnar, centnar, centner* (1455, SSt I 221<ням. *Zentner,* ад слац. *centenarius,* SWO 108).

Сярод назваў старабеларускіх мер і адзінак лічэння прадстаўлена некаторая колькасць слоў лацінскага паходжання: *аркушъ* 'ліст паперы, бляхі' 1557<стп. *arkusz* (1559, SP I 216<лац. *arcus* 'дуга', Mosz. 162); *дуктъ* 'лінія падзелу лесу, граніца, прасека' 1599<стп. *dukt* (XVII ст., P I 176<лац. *ductus,* SWO 162) і непасрэдна лац.; *квадратъ* 'квадрат' 1597<стп. *kwadrat* (XVI ст., SPK<лац. *quadrātum,* SłSE III 454); *кварта* 'мера вадкасці і сыпкіх рэчываў' 1556<стп. *kwarta* (XIV ст., SSt III 474<лац. *quārta,* SłSE III 462); *компутъ* 'лік; рэестр, спіс' 1682<стп. *komput* (1556, SP X 516<лац. *computus*, SłSE II 400); *корусъ* 'мера сыпкіх рэчываў' с. XVII ст.<стп. *korus* (1593, SP X 659<лац. *corus,* Mosz. 186) і непасрэдна слац. *corus* (SłŚP II 1377); *либра* 'мера паперы; аптэчная вага' п. XVII ст.<стп. *libra* (1455, SSt IV 36<лац. *lībra,* SŁSE IV 221); *милионъ (мелионъ, миллионъ)* 'мільён' 1596<стп. *milijon* (XVI ст., SPK<слац. *millio, -onis,* Mosz. 191) і непасрэдна слац.; *минусъ* 'мінус' 1666<стп. *minus* (XVI ст., SPK<лац. *minus,* SWO 481); *плюсъ* 'плюс' 1666<слац. *plus* (SŁŚPK); *пропорция (препорцыя)* 'прапорцыя' 1627< стп. *proporcyja* (XVI ст., SPK<лац. *prōportio,* Mosz. 201); *проспектъ* 'праспект, перспектыва, чарцёж' 1645< стп. *prospekt* (XVII ст., P II 234<лац. *prōspectus,* Ryb. 78); *секстарий* 'мера вадкасці і сыпкіх рэчываў' 1627< лац. *sextārius* (ЛРС 927); *унсия* 'унцыя' п. XVII ст.< стп. *uncyja* (XVI ст., SPK<лац. *uncia,* Mosz. 211); *центрумъ* 'цэнтр' 1638<стп. *centrum* (1535, SP III 154<лац. *centrum,* Mosz. 165).

Не менш, чым лацінскіх слоў, ужываецца ў гэтай лексічнай групе паланізмаў: *белецъ* 'мера мёду' 1487< стп. *bielec* (SW I 112); *брилъ* 'глыба, кавалак' с. XVII ст. <стп. *bryła* (SP II 461); *веле (веля)* 'многа, вялікая колькасць' п. XVI ст.<стп. *wiele* (SStK); *велиоракий* 'разнастайны' 1653<пол. *wielioraki* (SJP IX 1050); *двоистый* 'дваякі' 1593<стп. *dwoisty* (SP VI 237); *двойкго (двойго)* 'двое' 1580<стп. *dwojgo* (PSDP 81, SłSE I 183); *десятерако (десетерако)* 'дзесяці відаў' п. XVII ст.<стп. *dziesięciorako* (Сп 166); *иле* 'колькі' 1529<стп. *ile* (SSt III 13); *крухъ* 'кавалак' п. XVI ст.<стп. *kruch* (SSt III 407); *пятеракий* 'пяці відаў' 1622<стп. *pięcioraki* (Сп 684); *самочвартъ* 'учацвярых' п. XVII ст.<стп. *samoczwart* (Сп 978); *сторакий* 'ста відаў' 1616<стп. *storaki* (SPK); *чверть (чверць)* 'чвэрць' 1475<стп. *czwierć* (SSt I 438); *чворакий* 'чатырох відаў' 1596< стп. *czworaki* (SP IV 274); *шанокъ* 'мера сыпкіх рэчываў' 1571<пол. *szanek* (SJP VIII 1015).

З мер заходняга паходжання менш шырока прадстаўлены запазычаныя праз польскае пасрэдніцтва раманскія словы: *барила (барило, барилъ, барыло)* 'бочка' 1576<стп. *baryła* (1420, SSt I 70<іт. *barile,* SłSE I 28); *букатъ* 'кавалак' 1556<стп. *bukat* (1576, SP II 502 <іт. *boccata,* BrSE 48); *папуша (попуша)* 'мера колькасці махоркі' 1695<пол. *papusza* (<рум. *papuşa,* SWO 548); *пипа* 'мера вадкасці, бочка' 1615<стп. *pipa* (XVI ст., SPK<іт. *pipa,* фр. *pipe,* BrSE 415); *тузинъ (туженъ, тузанъ, тузина, тузынъ)* 'тузін' 1498<стп. *tuzin* (XVI ст., SPK<фр. *douzaine,* SWO 784). Звяртае на сябе ўвагу таксама адно слова венгерскага паходжання: *антелокгъ* 'мера вадкасці, бочачка' 1583<пол. *antałek* (XVIII ст., L I 20<венг. *antalag,* SWO 36) і непасрэдна венг.

У разгледжанай прадметна-тэматычнай групе сустракаецца некалькі цюркізмаў: *аршинъ (оршинъ)* 'аршын' 1502<струс. *аршинъ* (1488, Ром. 73<тат. *aršyn,* ад перс. *arš,* Шип. 40); *безменъ* 'мера вагі; ручныя вагі, бязмен' 1514<струс. *безменъ* (1396, Срез. I 59<цюрк. *wezne* 'вагі', *wezmin* 'цяжкі', Шип. 74); *десть* 'памер паперы ў паўліста; стосік паперы ў 24 лісты' 1494<струс. *десть* (1551, Срез. I 656<цюрк., параўн. тат., каз. *destä,* тур. *dästä,* ад перс. *dest* 'рука', ЭСРЯ I-5 86); *кантаръ (кентаръ, кинтаръ)* 'цэнтнер' 1407<асм.-тур. *kantar*

(<ар. *qintar*, ад сгр. *κεντηνάριον*, слац. *centenarius*, StS 22); *караймань (караймонъ, каракманъ, карамонъ, корайманъ)* 'мера мёду' 1415<стукр. *караймань, карамонъ, караймонъ* (1471<цюрк. *qaraman* 'вяз' або *qurman*, ар. *qurban* 'ахвяра' або *qaraman* 'назва правінцыі ў Малой Азіі', ССМ I 470).

Нарэшце, у ліку назваў старабеларускіх мер адзначаюцца асобныя літуанізмы: *кетвиртайня* 'мера плошчы; чвэрць бочкі' 1585<літ. *ketvirtàinė* (Даун. 242); *куль* 'мех; куль' 1540<літ. *kulỹs* (Jabl. 273); *пундель* 'мера вагі' 1585<літ. *pùndas, -ulỹs* (LRKŽ 616).

З экзатызмаў прыцягваюць да сябе ўвагу зафіксаваныя ў біблейскіх тэкстах XVI—XVII стст. назвы старажытнаяўрэйскіх мер сыпкіх і вадкіх рэчываў *гинъ* (1517), *гоморъ* (1517), *ефа* (п. XVII ст.), запазычаныя праз царкоўнаславянскае або заходнеславянскае пасрэдніцтва, параўн. цсл. *инъ, гоморъ, ефа* (Дьяч. 127, 177, 224), стп. *hin, gomor* (1455, SSt II 453, 543), *efa* (1563, SP VI 521).

Некалькі меншую прадметна-тэматычную групу вывучаемага разраду запазычанняў утвараюць словы, звязаныя з бытавым і каляндарным вылічэннем часу. Сваім паходжаннем яны суадносяцца з лацінскай, польскай, нямецкай і цюркскай мовамі. Шырэй за ўсё прадстаўлена ў гэтай групе лацінская лексіка: *антедата* 'больш ранняя дата' 1683<пол. *antedata* (SW I 41<слац. *anti-data*, SŁŚP I 578) і непасрэдна слац.; *дата* 'дата' 1509<стп. *data* (п. XVI ст., SP IV 515<лац. *data*, мн. ад *datum*, Ryb. 27); *дэцэмбръ* 'снежань' 1603<стп. *december* (1547, SP IV 566<лац. *december*, Mosz. 166); *календаръ* 'каляндар' 1584<стп. *kalendarz* (1534, SP X 26<лац. *calendārium*, SłSE II 27); *кварталъ* 'чвэрць месяца, года' 1603<стп. *kwartał* (XVI ст., SPK<слац. *quartalis*, Zajda 84); *минута* 'мінута; кароткая выпіска, копія' 1495<стп. *minuta* (XV ст., SSt IV 278<лац. *minūta*, Mosz. 192); *минуцыя (минуцея, минуция)* 'каляндар з прадказаннямі' 1583<стп. *minucyja* (XVI ст., SPK<лац. *minūtio*, Mosz. 192); *моментъ* 'момант' с. XVII ст.<стп. *moment* (XVI ст., SPK<лац. *mōmentum*, Ryb. 66); *новемберъ (новембрий, новембръ, новемрий, новэмбръ)* 'лістапад' 1508<стп. *nowember* (XVI ст., SPK<лац. *november*, Mosz. 194); *октоберъ (октобрий, октобръ)* 'кастрычнік' 1508<стп. *oktober* (XVI ст., SPK<лац. *octōber*, Mosz.

194); *секстиль* 'шосты месяц рымскага года, жнівень' 1598<лац. *sextīlis* (ЛРС 927); *септемберъ (сентемберъ, септэмбръ)* 'верасень' к. XV ст.<стп. *september* (XVI ст., SPK<лац. *september*, Mosz. 205); *февруарий (февруарый, февруарий, февруаръ)* 'люты' к. XVI ст.<стп. *februar* (<лац. *februārius*, SJP II 835) і непасрэдна лац.

Другое месца ў колькасных адносінах займае ў гэтай групе лексіка польскага паходжання: *вресень (врешень)* 'верасень' 1599<стп. *wrzesień* (SPK); *дись (дися)* 'сёння' 1539<стп. *dziś, dzisia* (SP VI 475); *друкгды (другды)* 'іншы раз' 1503<стп. *drugdy* (SSt II 191); *завше (завсе)* 'заўсёды' 1434<стп. *zawsze* (SStK); *кгрудень (грудень)* 'снежань' 1566<стп. *grudzień* (SP VIII 168); *ксенжицъ (ксиенжицъ)* 'месяц (гадавы)' с. XVII ст.<стп. *księżyc* (SSt III 431); *никгды (нигды, никды)* 'ніколі' 1392<стп. *nigdy* (SSt V 264); *паздерникъ* 'кастрычнік' к. XVI ст.<стп. *październik* (SPK); *стычень* 'студзень' к. XVI ст.<стп. *styczeń* (SPK); *теразъ (тэразъ)* 'зараз, цяпер' 1546<стп. *teraz* (SPK); *ютро* 'заўтра' 1580<стп. *jutro* (SP IX 538).

Пры вылічэнні часу беларускае насельніцтва выкарыстоўвала зусім нязначную колькасць слоў нямецкага паходжання: *гарапъ: по гарапе* 'па часе, запозна' 1595< стп. *harap, po harapie* (1551, SP VIII 322<ням. *herab*, хаця частка значэнняў тлумачыцца з тур. *harap* 'знішчэнне', SlSE I 403); *марецъ* 'сакавік' к. XV ст.<стп. *marzec* (XV ст., SSt IV 167<стч. *marec*<ням. *März*, ад лац. *Mārtius* 'Марсаў', SJP IV 483); *фриштъ (фрыштъ)* 'адтэрміноўка' 1596<стп. *fryszt* (1447, SSt II 368<ням. *Frist*, BrSE 128); *хвиля (филя)* 'хвіліна; імгненне' к. XV ст.<стп. *chwila, fila* (1397, SSt I 271<ствн. *hwīla*, SlSE I 92). У якасці экзатызма быў вядомы цюркізм *сафаръ* 'чацвёрты татарскі месяц' 1506 (<тат. *safar*< ар. *safar*, Буд. I 701, EDI IV 56).

## XI. ЛЕКСІКА, ЯКАЯ ХАРАКТАРЫЗУЕ НАВУКУ, КУЛЬТУРУ І МАСТАЦТВА

У лексічнай сістэме старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы ў якасці самастойнага лексіка-семантычнага разраду выступалі словы, звязаныя з навукай, а таксама літаратурныя і культурна-мастацкія тэрміны. Асноўнае ядро сярод іх складалі лексемы, запазычаныя

з іншых моў. Пранікненню запазычанняў у старабеларускую навуковую, літаратурную і мастацкую тэрміналогію садзейнічалі кантакты Вялікага княства Літоўскага з заходнееўрапейскімі краінамі ў галіне навукі, адукацыі, асветы, культуры, якія асабліва ўзмацніліся ў XVI—XVII стст. У гэты час на беларускіх землях распаўсюдзіліся ідэі рэфармацыі, што выклікалі развіццё свецкіх ведаў, навукі, філасофіі, стварылі глебу для арганізацыі кнігадрукавання, з'яўлення шматлікіх перакладаў літаратурных твораў заходняга паходжання на беларускую мову. Знаёмства з заходняй культурай абудзіла ў краіне цягу да свецкага выяўленчага мастацтва ў розных яго формах — жывапісу, скульптуры, інструментальнай і вакальнай музыцы. Усё гэта, безумоўна, знаходзіла адлюстраванне ў беларускім слоўніку, асабліва ў лексіцы літаратуразнаўчага і мастацтвазнаўчага характару, рост якой за кошт спецыяльных іншамоўных тэрмінаў адбываўся інтэнсіўна і ўяўляў сабой заканамерны і прагрэсіўны працэс.

Лексіка іншамоўнага паходжання, звязаная з навуковай, асветніцкай і літаратурнай справай, а таксама з рознымі відамі мастацтва і запазычаная старабеларускай мовай на працягу XIV—XVIII стст., выразна размяркоўваецца ў семантычных адносінах па некалькіх групах. Адну з груп складаюць словы, якія ўяўляюць сабой назвы дзеячаў навукі, літаратуры, культуры і мастацтва, аўтараў і выканаўцаў. Пераважную частку сярод іх складаюць лексічныя сродкі лацінскага паходжання: *авторъ (ауторъ)* 'аўтар, тварэц' 1596<стп. *autor* (1556, SP I 231<лац. *auctor*, Mosz. 163); *академикъ* 'студэнт езуіцкай навучальнай установы' 1635< стп. *akademik* (1577, SP I 93<лац. *acadēmicus*, Mosz. 158); *астрологъ (астролиогъ, астролиокгъ, астролокгъ, остролиокгъ)* 'астролаг' п. XVII ст.<стп. *astrolog* (1560, SP I 225<лац. *astrologus*, ад гр. ἀστρολόγος, Mosz. 162); *астрономъ (астраномъ, остромомъ)* 'астраном' 1580< стп. *astronom* (1535, SP I 225<лац. *astronomus*, ад гр. ἀστρονόμος, Mosz. 162); *бакаларъ (бакаляръ, бокаларъ, боколаръ)* 'бакалаўр, настаўнік' 1488<стп. *bakałarz, bakalarz* (1457, SP I 57<слац. *baccalarius*, SWO 64); *геометръ* 'геометр; каморнік' 1602<стп. *geometer, geometr* (XV ст., SSt II 409<лац. *geōmetrēs, geometer*, ад гр. γεωμέτρης, Mosz. 175); *гимнософиста* 'індыйскі філосаф-

аскет' п. XVII ст.<стп. *gimnozofista* (1550, SP VII 342 <лац. *gymnosophista*, ад гр. γυμνοσοφιστα, Mosz. 175) і непасрэдна лац.; *гисторикъ* 'гісторык' 1596<стп. *historyk* (1534, SP VIII 351<лац. *historicus*, ад гр. ἱστορικός, Mosz. 177); *грамматикъ* 'граматыст' п. XVII ст.<стп. *gramatyk* (1528, SP VIII 92<лац. *grammaticus*, ад гр. γραμματικος, Mosz. 175) і непасрэдна лац.; *диспутаторъ* 'дыспутант; даследчык' 1621<стп. *dysputator* (1592, SP VI 298<лац. *disputātor*, SW I 625); *еографъ* (*евграфъ, окграфъ*) 'географ' 1598<стп. *jeograf* (1564, SP IX 435<лац. *geōgraphus*, ад гр. γεωγράφος, Mosz. 175); *епикурей* (*епикуръ*) 'эпікурэец' 1562<стп. *epikur, epikureus* 1535, SP VI 555—556<лац. *epicūrēus*, ад гр. ἐπικούρειος, Mosz. 171) і непасрэдна лац., гр.; *инспекторъ* 'настаўнік, выхавальнік' 1638<стп. *inspektor* (1597, SP VIII 551<лац. *īnspector*, Ryb. 44); *лекторъ* 'лектар' п. XVII ст.<стп. *lekror* (XVI ст., SPK<лац. *lēctor*, SłSE IV 136); *лютниста* 'лютніст' с. XVII ст.<стп. *lutnista* (1476, SSt IV 85 <слац. *lutnista*, SŁŚPK); *математикъ* (*математыкъ*) 'матэматык' 1595<стп. *matematyk* (XVI ст., SPK<лац. *mathēmaticus*, ад гр. μαθηματικός, Mosz. 190); *музыка* (*музика, музыкъ*) 'музыка' 1565<стп. *muzyk* (XVI ст., SPK<лац. *mūsicus*, ад гр. μουσικός, Mosz. 193); *ораторъ* 'прамоўца' п. XVII ст.<стп. *orator* (XVI ст., SPK <лац. *ōrātor*, Mosz. 195); *органиста* (*органистъ, оркганиста*) 'арганіст' 1516<стп. *organista, organist* (1367, SSt V 627<слац. *organista*, SWO 533); *педакгокгъ* (*педагогъ, педакгогъ, петакгогъ, петакгокгъ*) 'педагог' 1598 <стп. *pedagog* (XVI ст., SPK<лац. *paedagōgus*, ад гр. παιδαγωγός, Mosz. 197); *поета* (*поэта*) 'паэт' 1580<стп. *poeta* (XVI ст., SPK<лац. *poēta*, ад гр. ποιητής, Ryb. 73); *прецепторъ* 'настаўнік' п. XVII ст.<стп. *preceptor* (XVI ст., SPK<лац. *praeceptor*, Ryb. 74); *професоръ* (*профессоръ*) 'прафесар, настаўнік' 1591<стп. *profesor* (XVI ст., SPK<лац. *professor*, Mosz. 200) і непасрэдна лац.; *реторъ* 'прамоўца' п. XVII ст.<стп. *retor* (XVI ст., SPK<лац. *rhētōr*, ад гр. ῥήτωρ, Mosz. 203); *семинариста* 'семінарыст' 1607<пол. *seminarzysta* (<слац. *seminarista*, SŁŚPK) і непасрэдна слац.; *софиста* (*зофиста*) 'сафіст' с. XVII ст.<стп. *sofista* (XVI ст., SPK<лац. *sophista*, ад гр. σοφιστής, Mosz. 206); *стоикъ* 'стоік' 1653 <лац. *Stōicus*, ад гр. στωϊκός, Mosz. 206); *студентъ* 'сту-

дэнт' 1597<стп. *student* (XVI ст., SPK<лац. *studēns, -ntis,* Mosz. 206); *схолярый (зхолярый, школяръ)* 'студэнт, шкаляр' 1596<пол. *scholar* (<слац. *scholaris,* SWOR 596) і непасрэдна слац.; *схолястикъ (школястыкъ, шхолястикъ)* 'схаласт, схаластык' 1563<стп. *scholastyk, szkolastyk* (XVI ст., SPK<лац. *scholasticus,* ад гр. σχολαστικός, Ryb. 87); *теологъ* 'тэолаг' 1595<стп. *teolog* (XVI ст., SPK<лац. *theologus,* ад гр. θεολόγος, Mosz. 209); *типографъ* 'тыпограф' 1596<стп. *typograf* (XVI ст., SPK<лац. *typographus,* ад гр. τυπογράφος, Mosz. 211); *филозофъ (филиозофъ)* 'філосаф' 1519<стп. *filozof* (1447, SSt II 360<лац. *philosophus,* ад гр. φιλόσοφος, Mosz. 174); *хронографъ* 'летапісец' п. XVII ст.< стп. *chronograf* (1564, SP III 322<лац. *chronographus,* ад гр. χρονογράφος, Mosz. 165); *цитариста* 'музыка, які грае на цытры' 1653<стп. *cytarzysta* (1599, SP III 728 <лац. *citharista,* Mosz. 166).

Другое месца ў колькасных адносінах займаюць у гэтай групе словы польскага паходжання, у тым ліку і ўтвораныя на базе іншамоўных каранёў: *арфиста* 'арфіст' 1653<стп. *arfista* (SP I 214); *выкладца* 'тлумачальнік' с. XVII ст.<стп. *wykładźca* (SStK); *вымовца* 'прамоўца' п. XVII ст.<стп. *wymowca* (SPK); *выналязца (выналезца)* 'вынаходца' п. XVII ст.<стп. *wynalazca* (SPK); *дееписъ (дееписецъ)* 'летапісец, гісторык' 1598< стп. *dziejopis, dziejopisca* (PSDP 85, Сп 162); *кгайдашъ* 'валыншчык' с. XVII ст.<стп. *gajdarz* (1528, SP VII 174, ад *gajda* 'дуда'<тур. *gaida,* SłSE I 250); *кгвяздаръ* 'астраном, астролаг' 1603<стп. *gwiazdarz* (SP VIII 268); *корнетиста* 'карнетыст' 1653<стп. *kornecista* (SP X 632); *красомовца* 'прамоўца' п. XVII ст.<стп. *krasomowca* (Сп 314); *кройникаръ* 'летапісец' 1580<стп. *kronikarz, krojnikarz* (SPK); *творца* 'тварэц, стваральнік; аўтар' 1598<стп. *tworca* (SPK); *чителникъ (читолникъ, чытелникъ)* 'чытач' 1580<стп. *czytelnik* (SP IV 370); *шторциста* 'дудар '1653<пол. *sztorcista* (BrSE 555).

Праз польскую мову гэта група лексікі папоўнілася асобнымі лексемамі нямецкага паходжання: *маляръ (маларъ, малеръ, молеръ)* 'жывапісец' к. XV ст.<стп. *malarz, malerz* (XIV ст., SSt IV 146<свн. *mālaere, mālaer,* MoszG 65); *музыкантъ* 'музыка' 1710<пол. *muzykant* (<ням. *Musikant,* ад лац. *mūsicus,* SWOR 454); *натуралистъ* 'натураліст' с. XVII ст.<пол. *naturalista*

(<ням. *Naturalist,* ад лац. *nātūrālis,* SWOR 456) і непасрэдна ням.; венгерскага паходжання: *добошъ (добышъ)* 'барабаншчык' 1679<пол. *dobosz* (XVIII ст., L I 444<венг. *dobos,* SłSE I 151).

Адзначаюцца ў разгледжанай лексічнай групе таксама два грэцызмы: *дидаскалъ* 'настаўнік' 1594<гр. *διδάσκαλος* (ДГРС I 397); *монадиинъ* 'прыхільнік філасофскага вучэння аб манадах' 1583<гр. *μονος, -αδος* (ДГРС II 1108); адзін цюркізм: *сумрачъ (сурмачей)* 'сурмач, трубач' 1567<тат., асм.-тур. *surnačy* (Фасм. III 807).

Да другой групы вывучаемага лексіка-семантычнага разраду слоў адносяцца назвы найбольш важных галін навуковай, асветніцкай і культурнай дзейнасці. Выключна ўсе яны лацінскага і грэчаскага паходжання: *аритметика (арифметика)* 'арыфметыка' 1519<стп. *arytmetyka* (1564, SP I 223<лац. *arithmētica,* ад гр. *ἀριθμητικη,* Mosz. 162) і непасрэдна лац., гр.; *астролиокгия (астрология, острология)* 'астралогія' п. XVII ст.<стп. *astrologija* (1564, SP I 225<лац. *astrologia,* ад гр. *ἀστρολογία,* Mosz. 162); *астрономия (острономия)* 'астраномія' к. XV ст.<стп. *astronomija* (1564, SP I 226<лац. *astronomia,* ад гр. *ἀστρονομία,* Mosz. 162) і непасрэдна лац., гр.; *геометрия* 'геаметрыя' 1519<стп. *geometryja* (XVI ст., SP VII 322<лац. *geōmetria,* ад гр. *γεωμετρία,* Mosz. 175) і непасрэдна лац., гр.; *гистория (гисторея, гисторыя)* 'гісторыя' 1595<стп. *historyja* (XIV ст., SSt II 543<лац. *historia,* ад гр. *ἱστορία,* Mosz. 177); *граматика (граматыка, грамматика, кграматыка)* 'граматыка' 1519 <стп. *gramatyka* (1528, SP VIII 92<лац. *grammatica,* ад гр. *γραμματική,* Mosz. 175) і непасрэдна лац., гр.; *диалектика (диалектыка)* 'уменне весці дыскусію на філасофскія тэмы' 1562<стп. *dyjalektyka* (1552, SP VI 276<лац. *dialectica,* ад гр. *διαλεκτικη,* Mosz. 168) і непасрэдна лац., гр.; *дидаскалия* 'навука аб святых тайнах' 1653<гр. *διδασκαλία* (ДГРС I 397); *евграфия* 'геаграфія' п. XVII ст.<стп. *jeografija* (1582, SP IX 435 <лац. *geōgraphia,* ад гр. *γεωγραφία,* Mosz. 175); *лоика* 'логіка' 1519<стп. *logika, loika* (XVI ст., SPK<лац. *logica,* ад гр. *λογική,* SłSE IV 323); *музыка (музика)* 'музыка' 1519<стп. *muzyka* (XVI ст., SPK<лац. *mūsica,* ад гр. *μουσική,* Ryb. 66) і непасрэдна лац.; *ортокграфия* 'арфаграфія' 1603<стп. *ortografija* (XVI ст., SPK<лац.

*orthographia*, ад гр. ὀρθογραφία, Mosz. 195); *педакгокгия* 'выхаванне' 1653<лац. *paedagōgīum* (<гр. παιδαγωγία, SKŁP 475); *реторика (ретория)* 'рыторыка' с. XVII ст.<стп. *retoryka* (XVI ст., SPK<лац. *rhētorica*, ад гр. ῥητορική, Mosz. 203); *теология (феолиогия, феология)* 'тэалогія' 1595<стп. *teologija* (XVI ст., SPK<лац. *theologia*, ад гр. θεολογία, Ryb. 90) і непасрэдна гр.; *философия* 'філасофія' 1519<стп. *filozofija* (XV ст., SSt II 360<лац. *philosophia*, ад гр. φιλοσοφία, Mosz. 174); *химия* 'хімія' с. XVII ст.<слац. *chimia* (<гр. χυμεία, Фасм. IV 237).

Наступную групу навуковай і культурна-мастацкай лексікі старабеларускай мовы ўтвараюць назвы прац навуковага і палемічнага характару, літаратурных і мастацкіх твораў. Тут таксама пераважаюць словы лацінскага паходжання: *аннотация* 'анатацыя, заўвага' с. XVII ст.<стп. *annotacyja* (1558, SP I 176<лац. *annotātio*, Mosz. 160); *вершъ (виршъ)* 'верш' 1580<стп. *wiersz, wirsz* (XV ст., SStK<лац. *versus*, BrSE 617); *диалокгъ (диялогъ)* 'літаратурны твор у выглядзе размовы' 1595<стп. *dyjalog* (1559, SP VI 277<лац. *dialogus*, ад гр. διάλογος, Mosz. 168); *диариушъ* 'дзённік' 1638 <стп. *dyjaryjusz* (XVII ст., Ryb. 31<лац. *diārium*, SWO 151); *донатъ* 'лацінская граматыка Даната' к. XV ст.< стп. *donat* (1547, SP V 346<лац. *Donatus*) і непасрэдна лац.; *епиграмма* 'эпіграма' 1588<стп. *epigramma* (1594, SP VI 555<лац. *epigramma*, ад гр. ἐπίγραμμα, SWO 196); *каталогъ (каталиогъ)* 'каталог' п. XVII ст.<стп. *katalog* (1583, SP X 169<лац. *catalogus*, ад гр. κατάλογος, Mosz. 182); *комедия (комадея, комедея, комебыя)* 'камедыя; смешнае відовішча' п. XVII ст.<стп. *komedyja* (1566, SP X 494<лац. *cōmoedia*, ад гр. κωμῳδία, SłSE II 379); *коммонтарий* 'запіскі, дзённік' 1598<лац. *commentārius* (SłSE II 381); *космография* 'касмаграфія' 1637<стп. *kosmografija* (XVI ст., SPK<лац. *cosmographia*, ад гр. κοσμογραφία, Mosz. 186); *кройника (кроника)* 'хроніка, летапіс' к. XV ст.<стп. *kronika, krojnika* (1418, SSt III 390<лац. *chronica*, ад гр. χρονικά, SłSE II 560); *ляментацыя* 'плач, элегія' п. XVII ст.<стп. *lamentacyja* (XVI ст., SPK<лац. *lāmentātio*, SłSE IV 38); *орация (арацыя, орацея, орацыя)* 'урачыстая прамова' 1595<стп. *oracyja* (XVI ст., SPK<лац. *ōrātio*, Mosz.

195); *орнаментъ* 'упрыгожанне' п. XVII ст.<стп. *ornament* (XVI ст., SPK<лац. *ōrnāmentum,* Mosz. 195); *парабола* 'прытча, алегорыя' 1517<стп. *parabola* (XVI ст., SPK<слац. *parabola,* ад гр. παραβολή, Mosz. 196) і непасрэдна слац.; *провербиюмъ* 'прыказка' п. XVII ст.<лац. *prōverbium* (SWO 609); *прологъ* 'літаратурны твор, у якім змешчаны апавяданні і павучанні на кожны дзень года' 1557<стп. *prolog* (XV ст., SSt VII 56<лац. *prologus,* ад гр. πρόλογος, Mosz. 200); *трагедия (траедия)* 'трагедыя; няшчасце' 1598<стп. *tragedyja, trajedyja* (XVI ст., SPK<лац. *tragoedia,* ад гр. τραγῳδία, Mosz. 210); *тренъ* 'пахавальны плач' 1598<стп. *tren* (XVI ст., SPK<лац. *thrēnus,* ад гр. θρῆνος, Mosz. 210); *фабула* 'выдумка, байка, міф' п. XVII ст.<стп. *fabuła* (1545, SP VII 1<лац. *fābula,* BrSE 11); *шпаркгалъ* 'рукапіс, стары дакумент' 1637<пол. *szpargał* (XVII ст.<лац. *sparganum,* BrSE 553).

Запазычанні з іншых моў выступаюць у гэтай лексічнай групе толькі спарадычна, напрыклад, словы нямецкага паходжання: *контерфектъ (контерфетъ)* 'партрэт; малюнак, вобраз' 1622<стп. *konterfekt, konterfet* (1564, SP X 584<ствн. *conterfet, contrafect,* ад фр. *contrefait*< слац. *contrafactum,* SłSE II 435); *римъ* 'верш' п. XVII ст. <стп. *rym* (XVI ст., SPK<свн. *rīm,* ад стфр. *rime*< слац. *rhythmus*<гр. ῥυθμός, SWO 587); раманскага паходжання: *пашквиль (пашквилюсъ)* 'пасквіль' 1580< стп. *paszkwil, paszkwilus* (XVI ст., SPK<іт. *pasquillo,* SWO 556); грэчаскага паходжання: *апокрисисъ* 'адказ' 1598<гр. ἀπόκρισις (ДГРС I 205); *апокрифъ* 'апокрыф' к. XV ст.<гр. ἀπόκρυφος (ДГРС I 205); *лексиконъ* 'слоўнік' 1653<гр. λεξικόν (ДГРС I 1018); польскага паходжання: *приповястка (приповясть)* 'пагаворка, прытча' 1603<стп. *przypowiastka, przypowieść* (SPK).

Даволі вялікую групу ўтвараюць у старабеларускай лексічнай сістэме спецыяльныя лінгвістычныя, гістарычныя і філасофскія тэрміны, а таксама словы, якія характарызуюць тагачасную выдавецкую і асветніцкую дзейнасць. Тут, як і ў папярэдніх групах, асноўнае ядро складае лацінская па паходжанню лексіка: *абецадло* 'алфавіт' 1653<стп. *abiecadło* (1460, SSt I 8<лац. *abecedarium,* Mosz. 194); *алфабетъ* 'алфавіт' 1653<пол. *alfabet* (XVIII ст., L I 12<лац. *alphabētum,* BrSE 41)

і непасрэдна лац.; *аркгументовати (аргументовати)* 'аргументаваць' 1596<стп. *argumentować* (1564, SP I 215<лац. *argūmentārī,* Leem. 37); *аркгументъ (аргументъ, аркгумэнтъ)* 'аргумент' 1596<стп. *argument* (1541, SP I 214<лац. *argūmentum,* Mosz. 162); *гебраизмъ (гебраисмусъ, гебраисмъ)* 'гебраізм' с. XVII ст.< стп. *hebraizm* (1572, SP VIII 319<лац. *hebraismus,* Mosz. 176) і непасрэдна лац.; *дедиковати* 'пасвячаць' 1622<стп. *dedykować* (1594, SP IV 568<лац. *dēdicāre,* SJP II 46); *деклинацыя* 'скланенне' с. XVII ст.<пол. *deklinacja* (<лац. *dēclīnātio,* SWO 139) і непасрэдна лац.; *деклиноватися* 'скланяцца' с. XVII ст.<стп. *deklinować się* (1549, SP IV 575<лац. *dēclīnāre,* SWO 139); *дефиниция* 'вызначэнне' с. XVII ст.<стп. *definicyja* (1564, SP IV 570<лац. *dēfīnītio,* Mosz. 166); *диалектъ (дыялектъ)* 'дыялект' 1596<пол. *dialekt* (<лац. *dialectus,* ад гр. διάλεκτος, SWOR 154) і непасрэдна лац., гр.; *дискуровати (дишкуровати)* 'размаўляць' 1615<стп. *dyskurować, dyszkurować* (1588, SP VI 295<лац. *discurrere,* ОИЛ 360); *дискурсъ (дыскурсъ)* 'размова, дыспут' 1615<стп. *dyskurs* (1566, SP VI 295<лац. *discursus,* Mosz. 169); *диспутация (диспутацея, диспутацыя, деспутацыя, деспытацыя, дыспутация, дыспутацыя)* 'дыспут' 1594<стп. *dysputacyja* (1561, SP VI 296<лац. *disputātio*, Ryb. 32); *диспутовати (деспутовати, деспытовати, доспытовати, дыспутовати, дыспытовати)* 'дыспутаваць' 1597<стп. *dysputować* (1564, SP VI 298<лац. *disputāre,* SWOR 170); *дыктовати (диктовати)* 'дыктаваць' с. XVII ст.<стп. *dyktować* (1621, Сп 157<лац. *dictāre,* SWO 164); *екзаменъ* 'экзамен' 1722<стп. *egzamen* (1579, SP VI 523<лац. *exāmen,* Mosz. 170); *ентелехия* 'форма матэрыі ў філасофіі Арыстоцеля' п. XVII ст.<стп. *entelechija* (1564, SP VI 554<лац. *entelechīa,* ад гр. ἐντελέχεια, SWO 193); *квестия (квестыя)* 'пытанне, праблема' 1598<стп. *kwestyja* (XVI ст., SPK <лац. *quaestio,* SłSE III 476); *коллоквия* 'размова; канферэнцыя' 1598<лац. *colloquium* (SWO 366); *контрариумъ* 'процілегласць, антытэза' 1588<лац. *contrārium* (ЛРС 255); *лекция (лекцыя)* 'лекцыя' п. XVII ст.<стп. *lekcyja* (1475, SSt IV 17<лац. *lēctio,* SłSE IV 128); *литера (литэра)* 'літара' 1566<стп. *litera* (XVI ст., SPK <лац. *littera,* SłSE IV 298); *пенсъ* 'дамашняе навучанне' 1653<стп. *pens* (XVI ст., SPK<лац. *pēnsus,* Mosz. 197);

*периодъ* 'перыяд' 1598<стп. *peryjod, period* (XVI ст., SPK<лац. *periodus,* ад гр. περίοδος, Mosz. 197); *пулпитъ* 'трыбуна' с. XVII ст.<стп. *pulpit* (XVI ст., SPK< лац. *pulpitum,* Ryb. 79); *респонсъ* 'адказ' 1595<стп. *respons* (XVI ст., SPK<лац. *respōnsum,* Mosz. 203); *силлогизмъ (силлагизмъ, силлоизмъ, силогизма, силоизмъ, силоисмъ)* 'сілагізм' 1596<стп. *sylogizm, syllogizm* (XVI ст., SPK<лац. *syllogismus,* ад гр. συλλογισμός, Mosz. 208) і непасрэдна лац., гр.; *субъектумъ* 'суб'ект' 1722<лац. *subiectum* (Ryb. 88); *таблица* 'дошка для пісьма, пліта, табліца' к. XV ст.<стп. *tablica* (XV ст., SStK<лац. *tabula,* BrSE 562); *текстъ* 'тэкст' п. XVII ст. <стп. *tekst* (XVI ст., SPK<лац. *textum,* Ryb. 90); *томъ* 'том' 1598<стп. *tom* (XVI ст., SPK<лац. *tomus,* ад гр. τομός, BrSE 60); *цытовати (цитовати)* 'цытаваць' 1629< стп. *cytować* (1594, SP III 727<лац. *citāre,* SWO 129); *экгземпль* 'прыклад' 1601<лац. *exemplum* (ЛРС 391).

Сярод іншых запазычанняў, якія ўваходзяць у гэту групу, пераважаюць грэцызмы: *альфа* 'першая літара грэчаскага алфавіту; пачатак' 1596<гр. ἄλφα (SWO 20); *етимонъ* 'сапраўднае значэнне слова, вывад' 1653< гр. ἔτυμον (SWO 203); *иота* 'ёта; рыса' 1616<гр. ἰῶτα (Mosz. 179); *лексисъ* 'слова' 1622<гр. λέξις (ДГРС I 1018); *омекга* 'апошняя літара грэчаскага алфавіту; канец' 1596<гр. ωμέγα (SWO 527); *типъ (типосъ)* 'друк, друкаваны знак' 1653<гр. τύπος (SWO 785); *хронология* 'храналогія' 1598<гр. χρονολογία (SWOR 127). Адзначаюцца таксама асобныя словы нямецкага паходжання: *букштабъ* 'літара' п. XVII ст.<стп. *buksztab* (1532, SP II 503<ням. *Buchstabe,* SW I 231); *цвичити (цвичыти, чвичити)* 'навучаць, выхоўваць' п. XVI ст.< стп. *ćwiczyć* (1543, SP IV 390<свн. *zwicken,* SłSE I 133); адзін паланізм: *деи* 'гістарычныя падзеі' к. XV ст. <стп. *dzieje* (SSt II 284); адно слова яўрэйскага паходжання: *алефъ* 'першая літара яўрэйскага алфавіту' 1519<яўр. *alef,* магчыма, праз стп. *alef* (SP I 136).

Асобна вылучаецца група лексікі, якая аб'ядноўвае тэрміны літаратурнага і мастацкага характару як больш агульныя, так і вузкія, спецыфічныя, а таксама назвы музычных інструментаў. Са слоў лацінскага паходжання ў гэтай групе адзначаюцца наступныя: *колеръ (колоръ)* 'колер' 1687<стп. *kolor* (XVII ст., P I 317<лац. *color,* SłSE II 359); *меледия* 'мелодыя' с. XVII ст.<стп. *melo-*

*dyja* (XVI ст., SPK<лац. *melodia*, ад гр. μελωδία, Mosz. 191); *муза* 'муза; адна з дзевяці міфічных апякунак мастацтва' п. XVII ст.<стп. *muza* (XVI ст., SPK<лац. *musa*, ад гр. μοῦσα, Mosz. 193); *нота* 'нота, гук' 1580<стп. *nota* (XVI ст., SPK<лац. *nota*, Mosz. 194); *органъ* (*арганъ*) 'арган' 1489<стп. *organ* (XIV ст., SSt V 627<лац. *organum*, ад гр. ὄργανον, Mosz. 195); *рытмъ* 'рытм' 1620<стп. *rytm* (XVI ст., SPK<лац. *rhythmus*, ад гр. ῥυθμός, Mosz. 204); *сцена* 'сцэна' с. XVII ст.<стп. *scena* (XVI ст., SPK<лац. *scaena*, ад гр. σκηνή, Ryb. 85); *фистула* 'трубка ў аргане' 1653<стп. *fistuła* (1534, SP VIII 74<лац. *fistula*, BrSE 122); *цимбалы* (*цимбалъ, цымбалы*) 'цымбалы; званок у гадзінніку' 1518<стп. *cymbały, cymbał* (1466, SSt I 339<лац. *cymbalum*, ад гр. κύμβαλον, Mosz. 165); *цытра* (*титра, цитра, цитара*) 'цытра' п. XVII ст.<стп. *cytra, cytara* (1566, SP III 727 <лац. *cithara*, ад гр. κιθάρα, BrSE 70).

Прыкладна такая ж колькасць лексем была запазычана праз пасрэдніцтва польскай мовы і непасрэдна з нямецкай мовы: *арфа* (*арва, архва, гарфа*) 'арфа' 1519 <стп. *arfa, harfa* (1532, SP I 213<ням. *Harfe*, SłSE I 406); *малевати* (*малиовати, маловати*) 'маляваць' к. XV ст.<стп. *malować* (1461, SSt IV 146<свн. *mālen*, MoszG 65); *рекгалъ* (*регалъ*) 'невялікі арган' 1565<стп. *regał* (XVI ст., SPK<ням. *Regal*, SWO 633); *рисовати* (*рысовати*) 'маляваць' 1627<стп. *rysować* (XVI ст., SPK<свн. *rīʒen*, ствн. *rīʒʒan*, Фасм. III 485); *танецъ* 'танец' 1519<стп. *taniec* (XV ст., SStK<свн. *tanz*, MoszG 75); *танцовати* (*танцевати*) 'танцаваць' 1519<стп. *tancować* (XV ст., SStK<свн. *tanzen*, MoszG 75).

У ліку тэрмінаў інструментальнага мастацтва, асабліва сярод назваў музычных інструментаў, сустракаецца пэўная колькасць слоў раманскага паходжання: *концертъ* (*цонцертъ*) 'спевы' 1699<стп. *koncert* (п. XVII ст., Ryb. 53<іт. *concèrto*, SłSE II 407) і непасрэдна іт.; *корнетъ* 'карнет' 1616<стп. *kornet* (1558, SP X 632<іт. *cornetto*, SłSE II 490); *лютня* (*лютина*) 'лютня' п. XVI ст.<стп. *lutnia* (1450, SSt IV 84<свн. *lūte*<іт. *liuto*, ад ар. *al'ūd*, SłSE IV 389); *флетня* 'флейта' 1653 <стп. *fletnia* (1561, SP VII 80<ням. *Flöte*<стфр. *fleute*, SWOR 233); *фуяра* 'дудка' 1653<пол. *fujara* (XVIII ст., L I 676<стч., слвц. *fujara*<рум. дыял. *fueră*, SłSE I 240); *шаламай* (*шаламанъ*) 'старажытны драўляны му-

зычны духавы інструмент, дудка' 1616<стп. *szałamaja* (XVI ст., SPK<ням. *Schalmei*<стфр. *chalemie,* SWO 735); *шторт*ъ 'старажытны музычны інструмент, прататып фагота' 1653<стп. *sztort* (XVI ст., SPK<іт. *storta,* BrSE 555).

Акрамя слоў заходняга паходжання, у разгледжанай групе старабеларускай лексікі адзначаюцца таксама цюркізмы: *набат*ъ 'вялікі медны барабан' 1615<струс. *набат*ъ (XV ст., праз цюрк. з ар. *naubāt,* мн. ад *nauba* 'варта, змена часу', Фасм. III 34); *сурма* 'духавы музычны інструмент' п. XVII ст.<стп. *surma* (XVI ст., SPK< тур. *surna,* ад перс. *sūrnāj,* SWO 714).

Нарэшце, нешматлікую, але цікавую групу старабеларускіх запазычанняў утвараюць назвы навукова-асветніцкіх, навучальных і культурных устаноў, аб'яднанняў і груп. Тут пераважаюць лацінізмы: *академия* 'сярэдневяковая езуіцкая навучальная ўстанова; старажытнагрэчаская філасофская школа' п. XVII ст.<стп. *akademija* (1535, SP I 92<лац. *acadēmīa,* ад гр. ἀκαδήμεια, Mosz. 158); *библиотека (быблиотека)* 'бібліятэка' п. XVII ст.<стп. *biblijoteka* (1563, SP II 106<лац. *bibliothēca,* ад гр. βιβλιοθήκη, Ryb. 25); *гимн*ъ *(имн*ъ*)* 'старажытнагрэчаская навучальная ўстанова; гімн' п. XVII ст.<стп. *hymn* (1449, SSt II 547<лац. *hymnus,* ад гр. ὕμνος, Mosz. 177) і непасрэдна гр.; *колекгиум*ъ *(колегіум*ъ*, колеиум*ъ*, колеум*ъ*, колеюм*ъ*, коллегиум*ъ*, коллекгия)* 'калегія; езуіцкая школа' к. XV ст.<стп. *kolegijum, kollegijum, koleijum* (1535, SP X 472<лац. *collēgium,* SłSE II 349); *либрария* 'бібліятэка' п. XVII ст.< стп. *libraryja* (XVI ст., SPK<лац. *librāria,* Mosz. 188); *семинариум*ъ *(семинария, сыминарыум*ъ*)* 'семінарыя' 1595<пол. *seminarium* (<лац. *sēminārium,* SWO 675); *театр*ъ *(театрум*ъ*)* 'тэатр, сцэна, памост' 1638<стп. *teatr, teatrum* (XVI ст., SPK<лац. *theātrum,* ад гр. θέατρον, Mosz. 209); *школа (схола)* 'школа' 1388<стп. *szkoła* (XIV ст., SStK<лац. *schola,* ад гр. σχολή, SJP VIII 1111) і непасрэдна лац. Сустракаюцца таксама асобныя словы нямецкага паходжання: *типография* 'друкарня' 1653<пол. *typografia* (<ням. *Typographie,* ад гр. τύπος 'адбітак' і γράφω 'пішу', Фасм. IV 60); раманскага паходжання: *капелла (каппеля)* 'група музыкантаў, царкоўны хор' 1714<стп. *kapella* (1585, SP X 76<іт. *cappella,* SłSE II 52) і непасрэдна іт.; грэчаскага пахо-

джання: *хоръ (хоры)* 'хор; месца ў царкве для спевакоў' 1549<гр. χορός, непасрэдна і праз рус. *хор* (КЭС 480).

## XII. СЛОВЫ, ЯКІЯ УЖЫВАЛІСЯ Ў СФЕРЫ РЭЛІГІЙНАГА ЖЫЦЦЯ

Лексічныя запазычанні старабеларускай мовы, якія служылі насельніцтву Вялікага княства Літоўскага для абазначэння розных паняццяў і рэалій са сферы рэлігійнага жыцця, як і многія іншыя семантычныя разрады слоў, яшчэ не прыцягвалі ўвагу даследчыкаў. Між тым пры вывучэнні гісторыі слоўнікавага саставу беларускай мовы выкарыстанне гэтага фактычнага матэрыялу XIV—XVIII стст. мае вялікае значэнне, бо запазычаная рэлігійная тэрміналогія, хоць у помніках пісьменнасці яна мела магчымасць адлюстравацца далёка не ў поўным абъёме, усё ж складала ў літаратурна-пісьмовай мове вялікі разрад, які можна паставіць у адзін рад з такімі найбольш развітымі разрадамі запазычаных слоў старабеларускай лексічнай сістэмы, як грамадска-палітычная, сацыяльна-эканамічная, юрыдычная, ваенная, прафесійна-вытворчая і бытавая лексіка.

Па сваму складу зафіксаваная ў старабеларускай пісьменнасці лексіка рэлігійнага характару не была аднароднай. Як вядома, Вялікае княства Літоўскае прадстаўляла сабой тэрыторыю, дзе сутыкаліся не толькі розныя напрамкі хрысціянства, але таксама іслам, іудаізм, анімізм. Таму літаратурна-пісьмовая мова мела магчымасць запазычваць рэлігійныя тэрміны розных веравызнанняў, сярод якіх, натуральна, пераважала хрысціянская тэрміналогія. Асабліва ўзбагаціўся слоўнік старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы за лік слоў, якія былі ва ўжытку заходняга, каталіцкага веравызнання і уніяцтва, тады як усходняя, праваслаўная тэрміналогія папаўнялася ў значна меншай ступені, бо яна ў асноўным склалася ўжо ў старажытнарускай мове ў сувязі з прыняццем усходнімі славянамі хрысціянства і шырокім распаўсюджаннем рэлігійнай літаратуры, якая ў большасці перакладалася з грэчаскай мовы. Асноўная частка рэлігійных тэрмінаў заходняга паходжання, што станавіліся вядомы беларускаму насельніцтву ў сувязі з распаўсюджаннем на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага рэфармацыйных ідэй і каталіцызму, за-

мацавалася ў старабеларускай мове пад польскім уплывам. Праз польскую ж мову дзякуючы перакладу кніг праніклі некаторыя тэрміны іншых веравызнанняў. Астатнія запазычанні сталі здабыткам беларускага слоўніка ў выніку непасрэдных кантактаў старабеларускай мовы з заходнееўрапейскімі мовамі і сярэдневяковай латынню.

У семантычных адносінах усе запазычанні гэтага разраду выразна размяркоўваюцца па дзвюх прадметна-тэматычных групах. Першая з іх аб'ядноўвае назвы прадстаўнікоў царкоўнага кіраўніцтва і наогул асоб па адносінах да рэлігіі, царкоўных прыслужнікаў і манахаў, сектантаў і атэістаў. Пануючае становішча сярод іх, натуральна, належыць словам, запазычаным непасрэдна або праз польскае пасрэдніцтва з лацінскай мовы: *абатиса (аббатисса)* 'абатыса' 1633<стп. *abatysa, abatysza* (1541, SKN 507<слац. *abbatissa*, SJP XI 1) і непасрэдна слац.; *августинъ* 'манах-аўгусцінец' п. XVII ст.<стп. *augustyn* (1560, SP I 230<лац. *augustinus*, Mosz. 163); *авдиторъ* 'член касцельнага суда' 1670<стп. *audytor* (1563, SP I 229<лац. *audītor*, Ryb. 24); *адамита* 'член секты адамітаў' п. XVII ст.<стп. *adamita* (1564, SP I 86<слац. *adamita*, Mosz. 158); *аколитъ (акколитъ)* 'касцельны прыслужнік' 1651<стп. *akolit* (1528, SP I 94<лац. *acolūthus*, ад гр. ἀκόλουθος, Mosz. 158); *альтариста (олтариста, ольтариста)* 'алтарыст' 1516< стп. *altarysta* (1528, SP I 146<слац. *altarista*, Mosz. 159) і непасрэдна слац.; *анабаптистъ* 'анабаптыст' 1722<стп. *anabaptysta* (1570, SP I 151<лац. *anabaptista*, ад гр. ἀναβαπτιστής, Mosz. 160); *аполинаристъ (аполлинаристъ)* 'член секты апалінарыстаў' п. XVII ст.<стп. *apolinarysta* (1552, SP I 191<слац. *apollinarista*, Mosz. 161) і непасрэдна слац.; *апостата (апостота)* 'вераадступнік' к. XV ст.<стп. *apostata, apostota* (1541, SKN 508<слац. *apostata*, ад гр. ἀποστάτης, Mosz. 161) і непасрэдна слац.; *ариянинъ (ареанинъ, арианинъ, аррианинъ, арыянинъ)* 'паслядоўнік арыянства' к. XV ст.<стп. *aryjanin* (1551, SP I 221<слац. *arrianus*, Mosz. 162) і непасрэдна слац.; *африканъ* 'член капційскага касцёла' 1722<стп. *afrykan* (1551, SP I 90<лац. *Africanus*, ад гр. ἀφρικανός 'афрыканец', Mosz. 158); *базилианинъ (базилиянинъ, базылианинъ)* 'манах каталіцкага ордэна з праваслаўным абрадам' 1632<пол. *bazylijanin* (<слац. *basilianin*,

SWO 73); *бенедыктынъ* 'бенедыкцін' с. XVII ст.<стп. *benedyktyn* (1579, SP II 44<слац. *benedictin*, Ryb. 24); *бернардынъ (барнадинъ, барнардынъ, бернадинъ, бернадынъ, бернардинъ)* 'манах-бернардынец' 1488<стп. *bernardyn, barnadyn, bernadyn* (1505, SP II 47<слац. *bernardinus*, Mosz. 164) і непасрэдна слац.; *викарий (викарей, викария, викарый)* 'вікарый' 1519<стп. *wikary, wikaryj* (XV ст., SStK<лац. *vicārius*, Mosz. 211); *геретикъ (геретыкъ)* 'ерэтык' 1595<стп. *heretyk* (1544, SP VIII 328<лац. *haereticus*, ад гр. αἱρετικός, SlSE I 416); *деканъ (дзеканъ, дяканъ)* 'старшы над групай прыходаў' 1516<стп. *dziekan* (1436, SSt II 285<лац. *decānus*, Mosz. 169); *диссидентъ* 'іншаверац' 1686<стп. *dysydent* (XVII ст., P I 184<лац. *dissidēns, -ntis*, Ryb. 33) і непасрэдна лац.; *доминиканъ* 'дамініканец' 1600< стп. *dominikan* (1561, SP V 327<слац. *dominicanus*, Mosz. 168); *донатистъ* 'член хрысціянскай секты, заснаванай у IV ст. епіскапам Данатам' п. XVII ст.<стп. *donatysta* (1547, SP V 347<слац. *donatista*, Mosz. 168); *дызунитъ (дизунитъ, дисунитъ)* 'праваслаўны, які не прыняў Брэсцкай уніі' 1633<пол. *dyzunita* (<слац. *disunitus*, SJP II 535); *евангеликъ (еванеликъ, эвангеликъ)* 'пратэстант' 1595<стп. *ewangelik, ewanjelik* (1563, SP VI 577<лац. *evangelicus*, ад гр. εὐαγγελικός, Ryb. 37); *евтихиянинъ* 'член хрысціянскай секты, якая прызнавала толькі боскую прыроду Хрыста' п. XVII ст.< стп. *eutychijanin* (1551, SP VI 556<слац. *eutichianus*, ад гр. εὐτυχιανός, Mosz. 172); *езуита (езоветъ, езовитъ, езоитъ, езувитъ, езуитъ, иезовитъ, иезуитъ)* 'езуіт' 1568 <стп. *jezuita* (1583, SP IX 501<слац. *iezuita*, Mosz. 179) і непасрэдна слац.; *екзарха (екзархъ, ексарха, ексархъ, экзарха)* 'экзарх' 1590<пол. *egzarcha* (<лац. *exarchus*, ад гр. ἔξαρχος, SWOR 175) і непасрэдна лац., гр.; *екзорциста (екзоркиста)* 'духоўнік, які выганяў нячысціка сілай малітвы' 1627<стп. *egzorcysta* (1560, SP VI 530<лац. *exorcista*, ад гр. ἐξορκιστής, Mosz. 170) і непасрэдна лац., гр.; *еремита* 'пустэльнік' 1596<стп. *eremita* (1560, SP VI 559<лац. *erēmīta*, ад гр. ἐρημίτης, Ryb. 37); *инквизиторъ (инквизоторъ)* 'інквізітар' 1620 <стп. *inkwizytor* (1564, SP VIII 549<лац. *inquīsītor*, Ryb. 44); *инфулатъ* 'прэлат, які меў права насіць мітру' 1759<стп. *infułat* (1549, SP VIII 544<слац. *infulatus*, Mosz. 178); *калвинистъ (калвинъ)* 'кальвініст' 1595<

стп. *kalwinista, kalwin* (1564, SP X 31, ад лац. формы імя *Calvinus,* SWOR 317); *каноникъ (кананикъ, кановникъ)* 'канонік' 1505<стп. *kanonik, kanownik* (1402, SSt III 234<лац. *canonicus,* ад гр. κανονικός, Ryb. 48); *канониста* 'знаўца кананічнага права' 1722<стп. *kanonista* (1594, SP X 71<лац. *canonista,* ад гр. κανονιστής, Mosz. 181); *канторъ* 'касцельны спявак' 1524<стп. *kantor* (1534, SP X 72<лац. *cantor,* SłSE II 46); *капелянъ (капалянъ, капеланъ, капелланъ)* 'ксёндз, які загадвае капліцай' 1548<стп. *kapelan, kapellan* (1446, SSt III 235 <слац. *capellanus,* SłSE II 53); *кардиналъ (кардыналъ)* 'кардынал' 1496<стп. *kardynał* (1454, SSt III 245<лац. *cardinālis,* Mosz. 181); *кармелитъ (кармалитъ, кармелита, кармеллитъ)* 'манах-кармеліт' к. XV ст.<стп. *karmelita* (1560, SP X 142<слац. *Carmelitae,* Mosz. 181) і непасрэдна слац.; *картузианинъ (картузъ)* 'манах-картузіянец' с. XVII ст.<стп. *kartuzyjan, kartuz* (XV ст., SSt III 248<слац. *Carthusianin,* Mosz. 181); *катехистъ* 'ксёндз, які вучыць рэлігіі' 1581<стп. *katechista* (1575, SP X 170<лац. *catechista,* ад гр. κατηχιστής, Mosz. 182); *католикъ (каталикъ, кафоликъ)* 'католік' 1586<стп. *katolik* (1563, SP X 174<лац. *catholicus,* ад гр. καθολικός, SłSE II 102) і непасрэдна лац., гр.; *кгвардыанъ (гвардыанъ, гвардянъ, кардиянъ, кардыянъ, кгардыянъ)* 'ігумен' 1503<стп. *gwardyjan, gardyjan* (1451, SSt II 529<слац. *guardianus,* SłSE I 383); *кгностикъ* 'паслядоўнік раннехрысціянскай ерасі' п. XVII ст.<стп. *gnostyk* (1552, SP VII 476<лац. *gnosticus,* ад гр. γνωστικός, Mosz. 175); *коадъюторъ (коадиуторъ, коадюторъ)* 'памочнік архіепіскапа' 1595<стп. *koadyjutor* (1574, SP X 434<лац. *coadiūtor,* Ryb. 50); *колегиатъ (колеатъ, колиятъ)* 'член езуіцкага калегіума' 1586<стп. *kolegijat, koleijat* (1560, SP X 471<слац. *collegiatus,* SłSE II 349); *коляторъ (колляторъ)* 'асоба, якая ўнесла сродкі на пабудову касцёла' 1624<стп. *kolator* (1621, Сп 289<слац. *collator,* SłSE II 344) і непасрэдна слац.; *комендаръ (коментарий)* 'адміністратар парафіі' 1627<стп. *komendarz* (1540, SP X 495<слац. *commendarius,* Mosz. 183) і непасрэдна слац.; *конвентуалъ* 'член канвента, манах' 1630<стп. *konwentuał* (<слац. *conventualis,* SW II 459); *кустошъ (кустосъ)* 'прэлат кафедральнай капітулы' 1516<стп. *kustosz* (1405, SSt III 472<лац. *custōs,* SłSE III 431) і непасрэдна лац.; *ляикъ (лаикъ)* 'просты

чалавек, міранін; паслушнік' к. XV ст.<стп. *laik* (1449, SSt IV 1<лац. *lāicus,* ад гр. λαϊκός, SlSE IV 27); *манихей (манихейчикъ)* 'член секты, заснаванай у III ст. манахам Манесам' п. XVII ст.<стп. *manichej, manichejczyk* (XIV ст., SSt IV 159<слац. *manichaeus,* ад гр. μανιχαῖος, Mosz. 190); *марцыониста* 'член секты, заснаванай у II ст. гностыкам Мархіёнам' с. XVII ст.<стп. *marcyjonista* (XVI ст., SPK<лац. *Marcion,* Mosz. 190); *менцунаръ* 'місіянер' 1536<стп. *mensyjonarz* (1560, LWM 97<слац. *mansionarius, mensionarius,* Mosz. 190) і непасрэдна слац.; *метрополита* 'мітрапаліт' 1609<стп. *metropolita* (1458, SSt IV 182<лац. *mētropolīta,* ад гр. μητροπολίτης, Ryb. 65); *министръ (министеръ)* 'асоба, якая прычашчае; пратэстанцкі святчэннік' 1577<стп. *minister* (1484, SSt IV 278<лац. *minister,* Mosz. 191); *монотелита (моноталиста, моноталита, монотолита)* 'член хрысціянскай секты, якая прызнавала дзве прыроды Хрыста, але толькі адну волю' 1598<стп. *monotelita* (XVI ст., SPK< слац. *monothelita,* ад гр. μονοθελῆται, Mosz. 192); *монтанистъ* 'член секты, заснаванай у III ст. Мантанам' п. XVII ст.<стп. *montanista* (XVI ст., SPK<лац. *montanistae,* ад гр. μοντανισταί, Mosz. 192); *назарейчикъ* 'хрысціянін' п. XVII ст.<стп. *nazarejczyk* (XVI ст., SPK< лац. *nazaraeus,* ад гр. Ναζωραῖος, Mosz. 193); *неофитъ* 'неафіт' 1722<пол. *neofita* (XVIII ст., L III 313<лац. *neophytus,* ад гр. νεόφυτος, SWO 506); *несторияninъ* 'член рэлігійнай секты нестарыянцаў' п. XVII ст.<стп. *nestoryjan* (XVI ст., SPK<лац. *nestoriani,* Mosz. 193); *николаита* 'член рэлігійнай секты гностыкаў' к. XV ст.< стп. *nikolaita* (XVI ст., SPK<лац. *Nicolaitae,* ад гр. νικολαῖται, Mosz. 193); *новицыушка* 'паслушніца' 1722<стп. *nowicyjuszka* (1541, SKN 532, ад *nowicyjusz,* SPK<лац. *novīcius,* Ryb. 67); *номинатъ* 'архіепіскап, назначаны на пасаду, але яшчэ не пасвечаны' 1631<стп. *nominat* (XVI ст., SPK<лац. *nōminātus,* Mosz. 194); *нунциушъ* 'нунцый' 1672<стп. *nuncyjusz* (XVII ст., Ryb. 67<лац. *nūntius,* SWO 517); *оригениста* 'член хрысціянскай секты, заснаванай у III ст. Арыгенам' п. XVII ст.< пол. *orygienista* (ад лац. *Orygienes,* SW III 833); *официялъ (официалъ, офицыалъ, офицыялъ, оффициалъ)* 'наместнік епіскапа ў духоўнай юрысдыкцыі' 1514<стп. *oficyjał* (XVI ст., SPK<лац. *officiālis,* Mosz. 194) і не-

пасрэдна лац.; *паписта* 'папіст' 1603<стп. *papista* (XVI ст., SPK<слац. *papista,* SŁSPK); *парохианинъ (парофиянинъ)* 'парафіянін' 1541<стп. *parochijanin* (XVI ст., SPK<слац. *parrochianus,* Mosz. 196); *парохъ* 'прыхадскі ксёндз' 1722<пол. *paroch* (<лац. *parochus,* ад гр. πάροχος, SWOR 497); *пастеръ (пастэръ)* 'пратэстанцкі свяшчэннік' 1580<стп. *paster* (XVI ст., SPK< ням. *Pastor*<лац. *pāstor,* SWOR 500); *патеръ* 'духоўны айцец' 1572<стп. *pater* (XVI ст., SPK<лац. *pater,* Mosz. 196); *плебанъ* 'каталіцкі прыхадскі свяшчэннік' 1489< стп. *pleban* (1399, SSt VI 148<слац. *plebanus,* SWO 579); *предикантъ* 'пратэстанцкі прапаведнік' 1680<стп. *predykant* (XVI ст., SPK<лац. *praedicāns, -ntis,* Ryb. 74); *презбитеръ (пресбитеръ)* 'прэсвітэр' 1586<стп. *prezbiter, presbiter* (XVI ст., SPK<лац. *presbyter,* ад гр. πρεσβύτερος, Mosz. 200); *прелатъ (пралатъ, пролатъ, прэлатъ)* 'прэлат' 1423<стп. *prełat, prałat* (XIV ст., SSt VII 23<лац. *praelātus,* Mosz. 199); *преоръ (преваръ, приоръ)* 'абат' к. XV ст.<стп. *przeor, pryjor* (1432, SSt VII 159<стч. *převor*<лац. *prior,* Mosz. 201); *препозитъ* 'прыхадскі ксёндз' 1638<стп. *prepozyt* (XVI ст., SPK<лац. *praepositum,* Mosz. 200); *префектъ* 'намеснік рэктара ў духоўнай акадэміі' 1644<стп. *prefekt* (XVI ст., SPK<лац. *praefectus,* Mosz. 199); *примасъ (прымасъ)* 'кіраўнік каталіцкага духавенства ў краі' 1596<стп. *prymas* (XVI ст., SPK<лац. *prīmās,* Ryb. 79); *провизоръ* 'адміністратар брацтва, дазорац касцёла' 1594<стп. *prowizor* (XVI ст., SPK<лац. *prōvīsor,* Ryb. 78); *провинциалъ (провенциалъ, провинциялъ)* 'кіраўнік манастыра або касцельнай правінцыі' п. XVII ст.<стп. *prowincyjał* (XVI ст., SPK<лац. *prōvinciālis,* Ryb. 78); *протестантъ* 'пратэстант' 1666<стп. *protestant* (XVI ст., SPK<лац. *prōtestāns, -ntis,* Mosz. 201); *протонотарий (протонотарыушъ)* 'саноўнік папскай канцылярыі' 1595<пол. *protonotariusz* (<слац. *protonotarius,* SWO 609); *прототронъ (прототроний)* 'старшы ўладыка' 1590<пол. *prototron, prototroni* (<лац. *protothronus,* ад гр. πρωτοϑρόνος, SW IV 1031); *псалмиста* 'аўтар псалмаў' п. XVII ст. <стп. *psalmista* (XVI ст., SPK<лац. *psalmista,* Ryb. 79); *реформаторъ* 'прыхільнік кальвінізму' с. XVII ст.< пол. *reformator* (<лац. *refōrmātor,* SWO 632) і непасрэдна лац.; *сектаръ* 'сектант, адшчапенец' 1601<стп. *sektarz* (XVI ст., SPK<лац. *sectarius,* Mosz. 205) і не-

пасрэдна лац.; *сектаторъ* 'сектант' 1600<лац. *sectātor* (ЛРС 911); *сениоръ* 'старэйшына евангеліцкага збору' 1576<стп. *senijor* (XVI ст., SPK<лац. *senior*, Mosz. 205); *симониякъ* 'гандляр духоўнымі месцамі і чынамі' 1598<стп. *symonijak* (XVI ст., SPK<лац. *symoniacus*, Mosz. 208); *субдиаконъ (субдияконъ)* 'намеснік дыякана' к. XV ст.<стп. *subdyjakon* (XVI ст., SPK<лац. *subdiāconus*, SWO 708); *супериоръ* 'настаяцель манастыра' 1692<пол. *superior* (<лац. *superior*, SWO 713); *супреоръ* 'намеснік абата' 1651<лац. *sub-*+пол. *przeor; суфракганъ (суфраганъ)* 'намеснік епіскапа' 1548<стп. *sufragan* (XV ст., SStK<слац. *suffraganus*, Ryb. 88); *схизматикъ (зхизматикъ, сцизматикъ, сцызматыкъ)* 'раскольнік, адшчапенец' 1598<стп. *schizmatyk* (XVI ст., SPK<лац. *schismaticus*, ад гр. σχισματικός, SWOR 595); *темплярий* 'член ордэна, заснаванага ў XII ст. у Іерусаліме для барацьбы з магаметанамі' п. XVII ст.<стп. *templar, templaryjusz* (XVI ст., SPK<слац. *templarius*, SJR IX 97); *унитъ (унеятъ, униятъ)* 'уніят' 1600<пол. *unita, uniata* (<лац. *ūnītus*, SWO 789); *францишканинъ (франтишканъ)* 'францысканец' к. XVI ст.<стп. *franciszkan, franciszkanin* (1564, SP VII 121<слац. *Franciscanus*, SWOR 232).

У параўнанні з лацінізмамі запазычанні з іншых моў выступаюць у гэтай групе рэлігійнай лексікі ў значна меншай колькасці. Так, толькі адзінкавымі тут з'яўляюцца словы нямецкага паходжання: *атеистъ (афеистъ)* 'атэіст' 1596<ням. *Atheist*, ад гр. ἄθεος 'бязбожны', SWOR 76); *капланъ (копланъ)* 'каталіцкі святар' 1434<стп. *kapłan* (XIV ст., SSt III 236<стч. *kaplan*<свн. *kaplān*, ад слац. *capellanus*, SłSE II 57); *кацермистръ* 'інквізітар' п. XVII ст.<стп. *kacermistrz* (1484, SSt III 215<свн. *ketzermeister*, MoszG 60); *кацеръ (кацэръ)* 'ерэтык' к. XV ст.<стп. *kacerz* (XIV ст., SSt III 216<стч. *kacieř*<сн. *katzer*, свн. *ketzer*, ад слац. *cathari* <гр. καθαρός, SłSE II 12); *лютеранинъ (лютерианинъ, лютаръ, лютеръ, люторъ)* 'лютэранец' 1595<стп. *luteranin, luteryjanin, luter* (XVI ст., SPK, ад ням. *Lutter*, SJP IV 232); *пробощъ (проборщъ)* 'прыхадскі ксёндз' 1474<стп. *proboszcz* (1401, SSt VII 53<стч. *probošt*< ствн. *probōst*, ад лац. *prōpositus*, SWOR 539); чэшскага паходжання: *арцибискупъ (арцыбискупъ)* 'каталіцкі архіепіскап' 1443<стп. *arcybiskup* (1402, SSt I 42<стч.

*arcibiskup,* ад лац. *archiepiscopus*<гр. ἀρχιεπίσκοπος, Recz. 34); *бискупъ (быскупъ)* 'каталіцкі епіскап' 1399< стп. *biskup* (XIV ст., SSt I 94<стч. *biskup,* ад ствн. *biscof* <лац. *episcopus*<гр. ἐπίσκοπος, SłSE I 34); *жакъ* 'каталіцкі царкоўны прыслужнік' 1434<стп. *żak* (XV ст., SStK<стч. *žák,* ад лац. *diāconus*<гр. διάκονος, SWOR 709); *опатъ* 'абат' к. XV ст.<стп. *opat* (1398, SSt V 590 <стч. *opat,* ад ствн. *abbat*<лац. *abbās, -ātis,* Recz. 45); *папежъ* 'папа' 1501<стп. *papież* (XIV ст., SSt VI 36< стч. *papež,* ад лац. *pāpa,* Siat. 86); англійскага паходжання: *квакеръ* 'квакер' 1722<пол. *kwakier* (XVII ст. <англ. *quaker,* SłSE III 457). Некалькі больш дзесятка тут налічваецца толькі паланізмаў, у тым ліку слоў, утвораных на польскай глебе ад запазычаных каранёў: *арцикапланъ* 'старшы ксёндз' 1638<стп. *arcykapłan* (1579, SP I 207, ад *arcy+kapłan,* SWO 46); *балвохвалца (бальвофальца, болвохвалца, болвофалца)* 'ідалапаклоннік' 1595<стп. *bałwochwalca, bałwofalca* (SP I 297); *блюзнерца (блузнерца, блюзнеръ, блюзнирца, зблюзнерца)* 'блюзнер' 1595<стп. *bluźnierca, bluźnirca, bluźnierz* (SP II 193); *вызнавца* 'прыхільнік якога-небудзь веравызнання' 1580<стп. *wyznawca* (SPK); *казнодея (казнадея, казнодей, казнодзей, казнодзея)* 'прапаведнік' к. XV ст.<стп. *kaznodzieja* (SSt III 256); *ксендзъ (ксензъ, ксиондзъ)* 'ксёндз' 1552<стп. *ksiądz* (SPK); *образоборца (образобурца)* 'іканаборац' 1597<стп. *obrasoborca* (SPK); *отступца* 'адшчапенец' 1595<стп. *odstępca* (SPK); *пустелникъ* 'пустэльнік' п. XVII ст.<стп. *pustelnik* (SPK); *святокрадца* 'святататнік' 1598<стп. *świętokradca* (SPK); *святокупца (светокупца)* 'чалавек, які прадае духоўныя чыны і месцы' 1598<стп. *świętokupca* (SPK); *талмудистъ* 'талмудыст' с. XVII ст.<стп. *talmudysta* (XVI ст., SPK, ад *talmud,* SJP IX 29).

Пры разглядзе назваў асоб, звязаных з рэлігіяй, неабходна звярнуць таксама ўвагу на паасобныя экзатызмы, у ліку якіх выступаюць словы яўрэйскага паходжання: *ебионитъ (ебионъ)* 'член іудзейскай секты першых стагоддзяў нашай эры' 1595<стп. *ebijonita* (1533, ад яўр. *ĕbhyonim,* SP VI 518); *рабинъ (раббинъ)* 'рабін' 1506<яўр. *rabbī* (SWOR 557); лексемы цюркскага паходжання: *дербышъ (дербишъ, дервишъ)* 'дэрвіш' 1559< кр.-тат. *därviš* (Шип. 120); *кгауръ (гауръ, кауръ)* 'гяур' 1598<стп. *gaur, kaur* (1535, SP VII 224<асм.-тур. *gâur,*

*gāvur, kaūr,* ад ар. *kāfir,* SłSE I 274) і непасрэдна асм.-тур.; *магуметанинъ (махометанинъ, мехометанинъ)* 'магаметанін' п. XVII ст.<асм.-тур. *Muhämmed, Mahumet* (<ар. *Muḥammad,* St. II 122); *молла* 'мула' 1484<асм.-тур., кр.-тат. *mulla* (Радл. IV 2126); *мусулманинъ* 'мусульманін' 1559<тат. *musulman,* асм.-тур. *musluman* (Радл. IV 2205); літуанізм *клебанъ* 'ксёндз' 1556 (<літ. *klebõnas,* LRKŽ 331).

Да разгледжанай групы лексікі прымыкаюць словы, якія абазначалі чараўнікоў і варажбітоў, створаных верай прадстаўнікоў дэманічных сіл і нябеснай іерархіі: *дъябелъ (диаболъ, дъяболъ, дьябелъ, дьяболъ, дябелъ)* 'д'ябал' к. XV ст.<стп. *dyjabeł, dyjaboł* (XIV ст., SStK <стч. *diábel*<лац. *diabolus*<гр. διάβολος, SłSE I 146); *ендза* 'міфічная багіня пекла' 1653<стп. *jędza* (SP I 512); *кгуслярь (гуслярь)* 'чараўнік' с. XVII ст.<стп. *guślarz* (SP VIII 237); *люциферъ (луциперъ, люциперъ, люцыперъ)* 'чорт' п. XVII ст.<стп. *lucyfer, lucyper* (XV ст., SSt IV 73<лац. *lūcifer,* SłSE IV 362); *лятавецъ (летавецъ)* 'злы дух' 1603<стп. *latawiec* (SPK); *макгъ (магъ, макгусъ)* 'варажбіт' п. XVII ст.<стп. *mag* (XVI ст., SPK<лац. *magus,* ад гр. μάγος, Mosz. 189); *месия (месиашъ, месияшъ, мессия, мессияшъ, месыашъ)* 'месія' к. XV ст.<стп. *mesyjasz* (XVI ст., SPK<лац. *messīas,* ад яўр. *māsziāch,* SWOR 428) і непасрэдна лац.; *некромантикъ* 'варажбіт на трупах' 1598<стп. *nekromantyk* (XVI ст., SPK<лац. *necromantus,* ад гр. νεκρόμαντις, Mosz. 193); *шатанъ* 'сатана' 1580<стп. *szatan* (XV ст., SStK<лац. *satan,* ад гр. σατάν<яўр. *sātān,* Mosz. 208).

Другую групу запазычанай рэлігійнай лексікі ўтвараюць назвы разнастайных рэлігійных паняццяў, царкоўных пасад, будынкаў, атрыбутаў службы, рэлігійных аб'яднанняў, напрамкаў, сект, царкоўных кніг, прыбораў і адзення, тэрміны чараўніцтва і варажбы. Тут таксама асноўнае ядро ствараюць словы лацінскага паходжання: *абнекгация (абнекгацыя, обнекгация)* 'адмаўленне ад асабістых інтарэсаў у імя рэлігійных мэт' п. XVII ст.< пол. *abnegacja* (<лац. *abnegātio,* SJP I 9); *абсолюция* 'адпушчэнне грахоў' 1647<стп. *absolucyja* (1570, SP I 44<лац. *absolūtio,* Mosz. 157); *адвентъ* 'калядны пост' с. XVII ст.<стп. *adwent* (XV ст., SSt I 21<лац. *adventus,* Ryb. 17); *акгнусокъ* 'крыжык з фігурай ягняці'

1637<стп. *agnusek* (1621, Cn 4<лац. *āgnus,* Ryb. 18); *альба (алба)* 'белая рыза ксяндза' 1592<стп. *alba* (1560, SP I 100<лац. *alba,* Mosz. 159); *анната* 'падатак вышэйшага каталіцкага духавенства Ватыкану' 1598<стп. *annata* (1543, SP I 176<лац. *annata,* Mosz. 160); *антепендия (антепандия, антепедия)* 'пярэдняя заслона алтара' 1592<стп. *antependyjum, antepandyjum* (1551, SP I 180<слац. *antependium,* Ryb. 21); *апараментъ (апериментъ, аппараментъ)* 'касцельныя рэчы' 1634<стп. *aparament* (XVII ст., P I 17<слац. *apparamentum,* SW I 47); *апостазия (апостасия)* 'вераадступніцтва' 1598<стп. *apostazyja* (1543, SP I 192<лац. *apostasia,* ад гр. ἀποστασία, Mosz. 161) і непасрэдна лац., гр.; *архидиецезыя* 'касцельная правінцыя, падначаленая епіскапу' 1722<пол. *archidiecezja* (XVIII ст., L I 25<слац. *archidioecesis,* SWOR 66); *бенефиция (бенефицыя)* 'даходная касцельная пасада' 1598<стп. *beneficyjum* (1540, SP II 45 <лац. *beneficium,* Ryb. 24); *библия (библея, блиблия, быблея, быблия)* 'біблія' к. XV ст.<стп. *biblija* (1544, SP II 105<лац. *biblia,* ад гр. βιβλίον, SWOR 99) і непасрэдна слац.; *була (булла)* 'була' 1598<стп. *buła, bułła* (1484, SSt I 177<слац. *bulla,* SWO 97) і непасрэдна слац.; *вилия (вилея)* 'пярэдадне свята' к. XV ст.<стп. *wilija* (XV ст., SStK<лац. *vigilia,* Mosz. 211); *габитъ* 'манашская раса' 1615<стп. *habit* (1541, SP VIII 276<лац. *habitus,* SłSE I 390); *гельвецкий* 'кальвіністкі' 1577 <пол. *helwecki* (<лац. *helvētius,* SWO 272); *герезия (гереза, герезыя)* 'ерась' 1596<стп. *herezyja* (1577, SP VIII 331<слац. *haeresia,* ад гр. αἵρεσις, Mosz. 176); *гостия* 'ачышчальная ахвяра' к. XV ст.<стп. *hostyja* (1541, SP VIII 380<лац. *hostia,* Mosz. 177) і непасрэдна лац.; *гумералъ (умералъ)* 'наплечнік ксяндза' 1593<стп. *humerał* (1532, SP VIII 374<лац. *humerale,* Mosz. 177); *декреталъ* 'папскі статут' 1598<стп. *dekretał* (1552, SP IV 584<слац. *decretale,* SWO 140); *девторономия (дефтерономия)* 'біблейская кніга «Другазаконне»' п. XVII ст.<стп. *deuterenomijum* (1561, SP IV 602<лац. *deuteronomium,* ад гр. δευτερονόμιον, Mosz. 167); *диецезия (деоцызыя, диецезыя, диоцезия, дыоцезыя, дыцезыя)* 'касцельная адміністрацыйная адзінка' 1600<стп. *dyjocezyja* (1551, SP VI 279<лац. *dioecēsis,* ад гр. διοίκησις, Ryb. 31); *диспенсовати* 'вызваляць ад выканання якіх-небудзь касцельных прадпі-

санняў' 1722<стп. *dyspensować* (1564, SP VI 296<лац. *dispēnsāre,* SJP II 519); *дызуния* 'веравызнанне праваслаўных, якія не далучыліся да уніі' 1666<пол. *dyzunia* (<лац. *dis-+ūnio,* SWO 169); *евхаристия (еухаристия)* 'прычасце' п. XVII ст.<стп. *eucharystyja* (1560, SP VI 564<лац. *eucharistia,* ад гр. εὐχαριστία, Mosz. 172); *екзортация (екзортацыя)* 'касцельная казань' п. XVII ст.<стп. *ekshortacyja* (1593, SP VI 537<лац. *exhortātio,* SWO 174); *екзорть* 'пахавальная казань' 1634<стп. *egzorta* (XVII ст., P I 195<лац. *exhortātio,* SWO 174); *закрыстыя* 'памяшканне ў касцёле, дзе ксёндз рыхтуецца да службы' 1680<стп. *zakrystyja* (XVI ст., SPK<слац. *sacristia,* Ryb. 95); *идолатрия* 'ідалапаклонства' 1603<стп. *idolatryja* (1561, SP VIII 462<лац. *īdōlolatrīa,* ад гр. εἰδωλολατρία, Mosz. 177); *индулгенцыя* 'індульгенцыя' 1722<стп. *indulgencyja* (1566, SP VIII 533<лац. *indulgentia,* Mosz. 178); *инквизиция (инквизыцыя)* 'інквізіцыя' 1614<стп. *inkwizycyja* (1543, SP VIII 549<лац. *inquīsītio,* SWO 307); *интердиктъ* 'забарона богаслужэння' п. XVII ст.<стп. *interdykt* (1450, SSt III 38<лац. *interdictum,* Mosz. 179); *интроить* 'кароткая малітва ў пачатку абедні' к. XV ст. <стп. *introit* (XVI ст., SP VIII 576<лац. *introitus,* SWO 313); *инфула* 'мітра епіскапа' 1596<стп. *infuła* (XV ст., SSt III 32<лац. *īnfula,* Mosz. 178); *канонизация* 'кананізацыя' 1598<стп. *kanonizacyja* (1564, SP X 71<слац. *canonizatio,* Mosz. 181); *кантыкъ* 'рэлігійная песня' п. XVII ст.<стп. *kantyk* (XV ст., SSt III 235<лац. *canticum,* SłSE II 46); *капитула (капитулъ, копитула)* 'калегія пры епіскапскай кафедры' 1485<стп. *kapituła* (1407, SSt III 236<слац. *capitula,* Mosz. 181); *капитулюмъ* 'фрагмент абедзеннай лекцыі' к. XV ст.<стп. *kapitulum* (1449, SSt III 236<лац. *capitulum,* Mosz. 181); *капица* 'манашская раса з капюшонам' к. XV ст.<стп. *kapica* (1414, SSt III 235<лац. *cappa,* BrSE 214); *каплица (коплица)* 'капліца' к. XV ст.<стп. *kaplica* (1402, SSt III 236<стч. *kaplicě*<слац. *capella,* SWO 339); *карбона* 'ахвяравальная скрыначка' п. XVII ст.<стп. *karbona* (XIV ст., SSt III 244<лац. *corbona,* Mosz. 181); *карена* 'саракадзённы пост' 1722<слац. *carena* (SŁSP II 190); *катедра* 'пасада епіскапа; кафедральны сабор' 1501< стп. *katedra* (XIV ст., SSt III 250<лац. *cathedra,* ад гр. καθέδρα, SłSE II 102); *катехизмъ* 'катэхізіс' 1596<стп.

*katechizm* (1547, SP X 170<лац. *catēchismus,* ад гр. κατηχισμός, SlSE II 102); *квадрагена* 'саракадзённае адпушчэнне грахоў' 1722<стп. *kwadragiena* (1607, L II 561<лац. *quadrāgēna,* SW II 653); *кляюзура* 'манастырскі статут' 1640<стп. *klauzura* (1564, SP X 342<лац. *clausūra,* SlSE II 191); *комплета (камплета)* 'апошняя вячэрняя малітва' 1540<стп. *kompleta* (XV ст., SSt III 324<лац. *complētus,* SJP III 884); *комуниковати (комониковати, кумуниковати)* 'прычашчаць; прычашчацца' 1603<стп. *komunikować* (1574, SP X 504<лац. *commūnicāre,* SlSE II 404); *комуния (коммуния)* 'прычасце' 1645<стп. *komunija, kommunija* (1564, SP X 503<лац. *commūnio,* Ryb. 52); *конвентъ* 'састаў манахаў данага манастыра' 1614<стп. *konwent* (1400, SSt III 331<лац. *conventus,* Ryb. 58); *конкгрекгация (конкгрегацыя)* 'брацтва' 1651<стп. *kongregacyja* (1583, SP X 536<лац. *congregātio,* SlSE II 416); *консистория (консисторъ, консысторъ)* 'касцельны судова-адміністрацыйны орган' 1638<стп. *konsystorz* (1564, SP X 582<лац. *cōnsistōrium,* SlSE II 433) і непасрэдна лац.; *конфесыя* 'веравызнанне' 1591<стп. *konfesyja* (1543, SP X 531<лац. *cōnfessio,* SlSE II 414); *конфирмация (конфирмацыя)* 'канфірмацыя; пацвярджэнне' 1598<стп. *konfirmacyja* (1567, SP X 533<лац. *cōnfirmātio,* SWO 378); *концилия (концилиумъ, концылия)* 'з'езд касцельных саноўнікаў' 1596<стп. *koncylijum* (1544, SP X 520<лац. *concilium,* SlSE II 409); *круцификсъ* 'распяцце' 1601<стп. *krucyfiks* (XVI ст., SPK<лац. *crucīfīxus,* SlSE III 168); *манипуляръ* 'пояс, які ксёндз вешае ў час абедні на левую руку' 1601<стп. *manipularz* (XVI ст., SPK<слац. *manipularium,* SJP IV 443); *мистерия* 'містэрыя, таінства' 1622<стп. *misteryjum* (XVI ст., SPK<лац. *mystērium,* ад гр. μυστήριον, Mosz. 192); *монстранцыя* 'даранасіца' 1680<стп. *monstrancyja* (XVI ст., SPK<слац. *monstrantia,* Mosz. 192); *октава* 'восьмы дзень пасля свята' 1388 <стп. *oktawa* (XIV ст., SSt V 566<лац. *octāva,* Ryb. 68); *омилия (омелия, гомилия)* 'пропаведзь, казань' к. XV ст.<стп. *omelija, homelija* (XV ст., SSt II 545<лац. *homilia,* ад гр. ὁμιλία, Mosz. 177); *орнатъ* 'рыза ксяндза' 1565<стп. *ornat* (1460, SSt V 628<лац. *ōrnātus,* Ryb. 69); *офертория (оферториумъ)* 'частка абедні, звязаная з ахвяраваннем хлеба і віна' к. XV ст.<стп. *ofertoryja, ofertoryjum* (XIV ст., SSt V 521<слац. *offertorium,* Mosz.

194); *параментъ* 'касцельнае адзенне, прыборы для абедні' 1685<стп. *parament* (1621, Cп 670<слац. *paramentum,* SWO 550); *парафия (парафея, парахвия)* 'парафія' 1522<стп. *parafija* (XVI ст., SPK<лац. *parochia,* ад гр. παρόχιον, Ryb. 70); *патеръ (пацеръ)* 'малітва; ружанец' 1516<стп. *pacierz* (XIV ст., SSt VI 3<лац. *pater,* BrSE 390); *патына (патина, патыня)* 'металічная талерка, якая ўжываецца ў час абедні' 1583<стп. *patyna* (XVI ст., SPK<лац. *patina,* Mosz. 197); *пацификаликъ* 'крыж або медальён з мошчамі' 1599<стп. *pacyfikalik* (XVI ст., SPK<слац. *pacificale,* SWO 541); *пектораль* 'нагрудны крыж епіскапа' п. XVII ст.<стп. *pektoral* (XVI ст., SPK<слац. *pectorale,* SWO 504); *портатолъ* 'каменная пліта з мошчамі' 1601<стп. *portatył* (XVI ст., SPK<слац. *portatile,* SWO 592); *плебания (плебанея)* 'прыход ксяндза' 1528<стп. *plebanija* (XVI ст., SPK< слац. *plebania,* Mosz. 198); *понтификалъ* 'літургічная кніга' 1722<стп. *pontyfikał* (XVI ст., SPK<лац. *pontificālis,* Mosz. 199); *постыля* 'тлумачэнне фрагментаў біблії' 1582<стп. *postyla* (XVI ст., SPK<слац. *postilla,* Mosz. 199); *префация* 'частка абедні хвалебнага характару' к. XV ст.<стп. *prefacyja* (XVI ст., SPK<лац. *praefātio,* SWO 597); *пробация* 'паслушніцтва' 1627<стп. *probacyja* (XVI ст., SPK<лац. *probātio,* Ryb. 76); *процесия (процессия, процессыя, процесыя)* 'працэсія' 1598 <стп. *procesyja, processyja* (1491, SSt VII 54<лац. *prōcessio,* Ryb. 76); *пуркгатория* 'чысцец' 1595<стп. *purgatoryjum* (XVI ст., SPK<слац. *purgatorium,* SWO 617); *пуркгаторъ* 'ачышчальны агонь' 1595<лац. *pūrgātor* (ЛРС 836); *рационалъ* 'раса яўрэйскага першасвяшчэнніка' с. XVII ст.<стп. *racyjonał* (XVI ст., SPK<слац. *racionale,* SWO 621); *рекгула (ракгула, регула)* 'правіла; каталіцкі манастырскі статут' 1598<стп. *reguła,* (XVI ст., SPK<лац. *rēgula,* Mosz. 202); *реликвиаръ* 'медальён або крыжык з мошчамі' 1635<стп. *relikwiarz* (1621, Cп 916<слац. *reliquiarium,* SWO 639); *реликвия* 'мошчы святых' к. XV ст.<стп. *relikwija* (XIV ст., SSt VII 446<лац. *reliquiae,* Ryb. 83); *реликгия (религея, религия, релийя, релия)* 'рэлігія' 1522<стп. *religija, reliija* (XVI ст., SPK<лац. *religio,* Mosz. 202); *ренунцияция (ренунция)* 'адмаўленне ад асабістых інтарэсаў у імя веры' п. XVII ст.<пол. *renuncjacja* (<лац. *renūntiātio,* SWO 642); *реформацыя* 'рэлігійнае пераўтварэнне' 1603

<стп. *reformacyja* (XVI ст., SPK<лац. *refōrmātio,* Ryb. 81); *реформовати* 'пераўтвараць' 1634<стп. *reformować* (XVI ст., SPK<лац. *refōrmāre,* SWO 632); *сакра* 'пасвячэнне епіскапа' 1598<стп. *sakra* (XVI ст., SPK<слац. *sacra,* Mosz. 204); *сакраменталный* 'урачысты' с. XVII ст. <стп. *sakramentalny* (XVI ст., SPK<слац. *sacramentalis,* SWO 662); *сакраментъ (секраментъ)* 'таінства' 1443<стп. *sakrament* (XVI ст., SPK<лац. *sacrāmentum,* Ryb. 85); *секта (сэкта)* 'секта' 1580<стп. *sekta* (XV ст., SStK<лац. *secta,* SWO 673); *септена* 'грамата аб вызваленні ад грахоў на сем дзён' 1722<лац. *septēnī* (ЛРС 920); *симония* 'продаж духоўных месц і чыноў' 1598 <стп. *symonija* (XVI ст., SPK<лац. *simonia,* ад гр. σιμώνιον, Mosz. 208); *синагога (синакгогия, сынокгокга)* 'сінагога' п. XVII ст.<стп. *synagoga* (XV ст., SStK< лац. *synagōga,* ад гр. συναγωγή, Mosz. 208); *синодалный (сенодалный)* 'сінадальны' 1598<стп. *synodalny* (XVI ст., SPK<лац. *synodālis,* SWO 722); *синодъ (сенодъ, сынодъ, сынотъ)* 'сінод, з'езд духавенства' 1563<стп. *synod* (XV ст., SStK<лац. *synodus,* ад гр. σύνοδος, SWOR 639); *социетасъ* 'калегія езуіцкай акадэміі' 1636 <стп. *socyjetas* (XVI ст., SPK<лац. *societās, -ātis,* Mosz. 206); *ставропигия (ставропикгиумъ, ставропикгиюмъ)* 'манастыр, падначалены патрыярху' 1634<пол. *stauropigium* (<слац. *stauropigium,* SWO 701) і непасрэдна слац.; *стула* 'доўгі пояс як частка літургічнага адзення ксяндза' 1592<стп. *stuła* (XVI ст., SPK<лац. *stola,* Ryb. 88); *схизма (зхизма, схисма, сцызма)* 'рэлігійны раскол' 1583<стп. *schizma* (XVI ст., SPK<лац. *schisma,* ад гр. σχίσμα, Mosz. 205); *трансубстанцианция* 'ператварэнне паводле хрысціянскай дагматыкі хлеба і віна ў цела і кроў Хрыста' 1598<стп. *transsubstancyjacyja* (XVI ст., SPK<слац. *transsubstantiatio,* SWO 772); *уния (унея)* 'унія' 1566<стп. *unija* (XVI ст., SPK<лац. *ūnio,* Ryb. 93); *хризма (хризмо)* 'памазанне' 1653<стп. *chryzma* (1566, SP III 317<лац. *chrīsma,* ад гр. χρῖσμα, Mosz. 165); *цвинтаръ (сминтаръ, твинтаръ, цвынтаръ, цментаръ, цминтаръ, цмынтаръ)* 'могілкі' 1499<стп. *cmyntarz, cmentarz* (XV ст., SSt I 314<лац. *caementārius,* ад гр. κοιμητήριον, Mosz. 165); *целебровати* 'урачыста выконваць абрад' 1603<стп. *celebrować* (1620, L I 225<лац. *celebrāre,* SWO 103); *церемониалный* 'цырыманіяльны' с. XVII ст.<стп. *ceremonijalny* (1575,

SP III 158<лац. *caerimōniālis,* SWOR 120); *церемония (церемонея, церемонння, цырымония)* 'цырымонія, урачысты абрад' 1577<стп. *ceremonija, cerymonija* (1525, SP III 157<лац. *caeremōnia, caerimōnia,* Mosz. 165); *юбилеушъ (иубилиушъ, юбелиушъ)* 'юбілей; свята адпушчэння грахоў' п. XVII ст.<стп. *jubileusz* (1547, SP IX 528<слац. *iubilaeus, iubelaeus,* ад яўр. *iōbēl,* SłSE I 585) і непасрэдна слац.

У колькасных адносінах другое месца пасля лацінізмаў займаюць у гэтай групе рэлігійнай лексікі паланізмы: *бабинецъ* 'бабінец' 1652<стп. *babiniec* (Cn 11); *балвохвалство (балвофалство, болвохвалство, болвофалство)* 'ідалапаклонства' 1595<стп. *bałwochwalstwo, bałwofalstwo* (SP I 298); *блюзнити (блузнити)* 'блюзнерыць' к. XV ст.<стп. *bluźnić* (SSt I 105); *бурта* 'чарадзейства, варажба' п. XVII ст.<стп. *burta* (SP II 514); *велебный* 'прападобны' 1361<стп. *wielebny* (SStK); *велканоцъ* 'вялікдзень' к. XVI ст.<стп. *wielkanoc* (SPK); *вшехмоцный (ушехмоцный)* 'усемагутны' к. XV ст.<стп. *wszechmocny* (SStK); *гробовиско* 'грабніца' 1616<стп. *grobowisko* (Cn 209); *кгусла (гусла)* 'чары, варажба' п. XVII ст.<стп. *gusła* (SP VIII 236); *модла* 'малітва' к. XV ст.<стп. *modła* (SSt IV 321); *модлярство* 'набожнасць' п. XVII ст.<стп. *modlarstwo* (SPK); *светобливый (святобливый)* 'набожны' 1555<стп. *świętobliwy* (SPK); *чистецъ (чыстецъ)* 'чысцілішча' к. XV ст.<стп. *czyściec* (1419, SSt I 434, ад *czysty,* калька лац. *pūrgātōrium,* SłSE I 132); *ютрня (ютреня)* 'ютрань' 1639<стп. *jutrznia* (Cn 255).

Праз польскае пасрэдніцтва былі запазычаны некаторыя рэлігійныя тэрміны нямецкага паходжання: *жекгнати (жегнати)* 'хрысціць, благаслаўляць' к. XV ст.<стп. *żegnać* (XV ст., SStK<свн. *sëgenen,* MoszG 78); *кляшторъ (клашторъ)* 'каталіцкі манастыр' к. XV ст.<стп. *klasztor* (XIV ст., SSt III 282<стч. *klášter*<свн. *kloster,* ад слац. *clostrum,* SłSE II 189); *костелъ (костюлъ, косцелъ)* 'касцёл' 1434<стп. *kościoł* (XIV ст., SSt III 360<стч. *kostel*<ствн. *kástel,* ад лац. *castellum,* SłSE II 553); *крижмо* 'міра' с. XVII ст.<стп. *krzyżmo* (1420, SSt VI 570<ствн. *chrismo,* ад лац. *chrīsma*<гр. χρῖσμα, SłSE III 259); *крухта* 'бабінец' п. XVII ст.<стп. *kruchta* (1426, SSt III 407<ствн. *kruft,* ад лац. *crypta*<гр. κρυπτή, MoszG 62); *фара (хвара)* 'прыхадскі касцёл'

п. XVII ст.<стп. *fara* (1547, SP VII 28<стч. *fára*<свн. *pfarre,* SłSE I 219); *фестъ (фэстъ)* 'свята, урачыстасць' 1580<стп. *fest* (1568, SP VII 50<ням. *Fest,* ад лац. *fēstum,* BrSE 121); словы чэшскага паходжання: *бермовати* 'адбываць абрад мірапамазання' 1722<стп. *bierzmować* (1560, SP II 138<стч. *biřmovati,* ад ствн. *firmōn,* SłSE I 33); *комжа* 'белая кашуля ксяндза' 1601 <стп. *komża* (1471, SSt III 324<стч. *komžě,* ад лац. *camisa, camisia,* SłSE II 405); *крижъ (крыжъ)* 'крыж' к. XV ст.<стп. *krzyż* (1390, SSt III 419<стч. *kříž,* ад ствн. *krūzi,* SłSE III 257); *мша (имша)* 'імша' к. XV ст.<стп. *msza* (XIV ст., SSt V 239<стч. *mše,* ад ствн. *missa, mëssa*<лац. *missa,* BrSE 347); *нешпоръ* 'вячэрня' 1501 <стп. *nieszpor* (1420, SSt V 239<стч. *nešpor,* ад лац. *vesper,* BrSE 361); *офера (офяра, охвера)* 'ахвяра' к. XV ст.<стп. *ofiera, ofiara* (XIV ст., SSt V 521<стч. *oféra,* ад свн. *opfer,* Recz. 43); лексемы раманскага паходжання: *новициатъ* 'паслушніцтва' 1653<пол. *nowicjat* (XVIII ст., L III 358<іт. *noviziato,* фр. *noviciat,* SWOR 468); *нунцыатура* 'вышэйшы духоўны суд' 1722< стп. *nuncyatura* (XVIII ст., L III 365<іт. *nunziatura,* SWO 517); *скуфья* 'скуф'я' 1522<стп. *skofija* (XVI ст., SPK<іт. *scuffia,* SWO 687); *сутана* 'сутана' 1686<стп. *sutana* (1621, Сп 1085<іт. *sottana,* SWO, 714).

Адзначаецца ў гэтай групе рэлігійнай лексікі некаторая колькасць грэцызмаў: *агиязма* 'святая вада' 1631< гр. ἁγίασμα (Фасм. I 60); *догма (догматъ)* 'догма' 1596 <гр. δόγμα, -ατος (ЭСРЯ I-5 150); *дулия* 'пашана ангелам і святым' 1722<δουλία (SW I 582); *епифания (епипания)* 'свята з'яўлення Хрыста' к. XV ст.<гр. ἐπιφάνεια і праз лац. *epiphanīa* (Mosz. 171); *иерархия (ерархия)* 'іерархія' 1601<гр. ἱεραρχία (H-W 73); *камилавка (комилавка)* 'камілӑўка' 1625<гр. καμηλαύκα (КЭС 185); *катехисисъ (катихисисъ)* 'катэхізіс' 1562< гр. κατήχησις (Фасм. II 210); *лятрия* 'пахвала ў гонар бога' 1722<гр. λατρεία (SWO 421); *митра* 'мітра' 1508< гр. μίτρα (Фасм. II 629); *патерица* 'посах архірэя' 1641 <цсл. *патерица* (<гр. πατερικόν, Дьяч. 411); *патриархия (патриярхия, патрыярхия)* 'патрыярхія' 1597<гр. πατριαρχία (Фасм. III 217); *проскомидия (проскумидия)* 'частка богаслужэння, калі рыхтуюцца святыя дары' 1620<гр. προσκομιδή (Фасм. III 378); *типикъ* 'царкоўны статут' с. XVII ст.<гр. τυπικον (Фасм. IV 60).

Экзатычная рэлігійная лексіка прадстаўлена некалькімі цюркізмамі: *алкоранъ (алкоронъ, олкаронъ)* 'каран' к. XVI ст.<стп. *alkoran* (1525, SP I 142<асм.-тур. *Al-Koran,* ад ар. *al-Qur'ān,* St. I 17) і непасрэдна асм.-тур.; *байрамъ (бараймъ)* 'байрам' 1560<кр.-тат. *bairam* (ЭСРЯ I-2 13); *мечетъ (мечеть)* 'мячэць' 1540<асм.-тур. *mesčit, mečit* (<ар. *masğid,* Räs. 336); словамі яўрэйскага паходжання: *ефодъ (ефудъ)* 'наплечнік першасвяшчэнніка' п. XVII ст.<яўр. *ephod,* праз стп. *efod* (SP VI 521) і цсл. *ефудъ* (Дьяч. 178); *пуримъ* 'яўрэйскае свята ў памяць перамогі над персамі' п. XVII ст.< яўр. *Purim* (<стяўр. *pūrīm,* Brzez. 94), магчыма, праз стп. *purym* (SPK); *талмутъ (талматъ, талмотъ, толмутъ)* 'талмуд' к. XV ст.<яўр. *talmud* (<стяўр. *talmūd,* Brzez. 96), непасрэдна і праз стп. *talmud, talmut* (SPK); *шабасъ (шабатъ)* 'шабас, яўрэйскае свята' п. XVI ст.<яўр. *šabas,* стяўр. *šabbath* (Brzez. 94), непасрэдна і праз стп. *szabas, szabat* (SPK).

## XIII. ПОЛІФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ ЛЕКСІКА

У старабеларускай лексічнай сістэме сустракаецца цэлы рад слоў, якія нельга аднесці ні да аднаго з прыведзеных вышэй лексіка-семантычных разрадаў у сувязі з тым, што яны характарызуюцца больш шырокім семантычным дыяпазонам, маючы па два і больш значэнняў. Таму мэтазгодна разглядаць гэтыя лексічныя сродкі ў асобным разрадзе.

Самай вялікай колькасцю лексічных адзінак прадстаўлены мнагазначныя запазычанні польскага паходжання: *баранокъ (боранекъ, боранокъ)* 'малады баран', 'сімвалічнае імя Хрыста', 'медальён з фігурай ягняці' 1489<стп. *baranek* (SSt I 60); *важити (важыти)* 'важыць, мець вагу', 'узважваць', 'мець значэнне', 'цаніць', 'мець намер, квапіцца' 1432<стп. *ważyć* (XV ст., SStK, ад *waga,* BrSE 598); *важный* 'цяжкі', 'важны', 'сапраўдны' к. XV ст.<стп. *ważny* (XV ст., SStK, ад *waga,* BrSE 598); *видокъ* 'від, перспектыва', 'відовішча' п. XVII ст.< стп. *widok* (SPK); *волати (валать, волать)* 'крычаць', 'клікаць на дапамогу', 'выклікаць у суд' 1388<стп. *wołać* (SStK); *вспанялый (спанялый, спонялый, успанялый)* 'пышны', 'прыгожы', 'выхаваны' п. XVII ст.<стп. *wspaniały, spaniały* (SPK); *вынализти (вынализти)*

'знайсці', 'вынайсці' 1582<стп. *wynaleźć* (SPK); *драпежный (трапежный)* 'драпежны', 'драпежніцкі, грабежны' п. XVI ст.<стп. *drapieżny* (SSt II 179); *жродло (жрудло, зжродло, зродло)* 'крыніца', 'пачатак' 1595< стп. *źrodło* (SPK); *збытечный (збыточный)* 'лішні, празмерны', 'распусны' 1519<стп. *zbyteczny* (SStK); *збытний (збытный)* 'лішні, празмерны', 'гарэзлівы, свавольны' 1518<стп. *zbytni, zbytny* (SStK); *збытокъ (сбытокъ)* 'дастатак, раскоша', 'балаўство, свавольства' 1434 <стп. *zbytek* (SStK); *зверхний (зверхный, звирхний, звирхный)* 'верхні, знешні', 'вышэйшы, вярхоўны' 1538< стп. *zwierzchni, zwirzchni* (SStK, SPK); *звязокъ* 'вязка', 'сувязь' п. XVI ст.<стп. *związek* (SStK); *зейстье (зейсце, зестье, зешстье, зештье, зойстье, зостье, зъештье, зэшстье, зэштье)* 'спуск', 'смерць' 1506<стп. *zejście, zeszcie, zeście* (SStK, SPK); *зешлый (зойшлый, зошлый, зэшлый)* 'мінулы', 'пажылы, стары', 'нябожчык' 1509<стп. *zeszły* (PSDP 642); *знакомитый* 'цудоўны, выдатны', 'знатны' к. XV ст.<стп. *znakomity* (SPK); *карватка (караватка, корватка)* 'кафтан', 'кубак для піва' 1555<стп. *karwatka* (XVI ст., IM 586, ад *Karwat* 'харват', SłSE III 70); *кграчъ (грачъ)* 'ігрок', 'музыкант', 'ашуканец' 1556 <стп. *gracz* (SP VIII 85); *кгроно (гроно)* 'гронка', 'кола, грамадства' к. XV ст.<стп. *grono* (SSt II 495); *клеска (кляска)* 'паражэнне', 'бедства, няшчасце' п. XVII ст.< стп. *klęska* (SP X 360); *колыбка (калебка, колебка, колепка, колибка)* 'калыска', 'карэта' 1552<стп. *kołybka, kolebka* (SP X 465); *левокъ* 'невялікі леў', 'манета з фігурай ільва' 1518<стп. *lewek* (SPK); *леска (ляска)* 'жазло', 'арэхавы кій' 1564<стп. *leska, laska* (SPK); *липецъ* 'ліпень', 'ліпавы мёд' 1520<стп. *lipiec* (SPK); *навалность (навальность)* 'сіла, націск', 'бура' к. XV ст. <стп. *nawalność* (SSt V 123); *назвиско (назвыско)* 'імя, прозвішча, мянушка', 'назва' 1576<стп. *nazwisko* (SPK); *небеский* 'нябесны', 'блакітны' 1518<стп. *niebieski* (SPK); *обополный (обапольный, зобаполный, зобопольный, зобупольный)* 'узаемны', 'размешчаны з двух бакоў' 1422<стп. *obopolny, zobopolny* (SSt V 361, SPK); *пахолокъ (пахолекъ, пахоликъ, пахолэкъ, похоликъ, похолокъ)* 'слуга', 'салдат' 1516<стп. *pachołek* (SSt VI 2); *певный (пэвный)* 'надзейны, пэўны', 'упэўнены' 1483 <стп. *pewny* (SSt VI 71); *пильновати (пилновати)* 'сачыць', 'прытрымлівацца' 1529<стп. *pilnować* (SPK);

*пильный (пилный)* 'пільны, старанны', 'тэрміновы, неадкладны' 1492<стп. *pilny* (SSt VI 134); *повага* 'павага', 'важнасць' 1528<стп. *powaga* (XVI ст., SPK, ад *waga,* BrSE 598); *подлый* 'дрэнны, кепскі', 'нізкі, нізкага паходжання' 1509<стп. *podły* (SSt VI 254); *покута* 'пакута, пакаянне', 'раскаянне' к. XV ст.<стп. *pokuta* (SSt VI 338); *поличекъ (поличокъ)* 'шчака', 'аплявуха' 1555 <стп. *policzek* (SPK); *посилокъ* 'падмацаванне, дапамога', 'прыём ежы' 1560<стп. *posiłek* (SPK); *продавца* 'здраднік', 'гандляр' к. XV ст.<стп. *przedawca* (SSt VII 119); *прозвиско (презвиско)* 'імя, прозвішча', 'назва' 1552<стп. *przezwisko* (SPK); *радити* 'радзіць', 'радзіцца, абмяркоўваць' 1479<стп. *radzić* (XV ст., PSDP 409, ад *rada,* BrSE 452); *рожай (родзай)* 'від, гатунак', 'род', 'пол' 1457<стп. *rodzaj* (SSt VII 476); *розезнати* 'пазнаць, адрозніць', 'расследаваць' 1588<стп. *rozeznać* (SPK); *рокъ* 'год', 'тэрмін' 1388<стп. *rok* (SSt VII 485); *сполковати* 'аб'ядноўвацца', 'савакупляцца' 1595<стп. *społkować* (SPK); *спратъ (спрадъ, спрентъ, спретъ, спрятъ)* 'інвентар, маёмасць, рэчы', 'прадмет дамашняга туалету', 'спрат, месца захавання' 1570<стп. *sprzęt* (SPK); *сродокъ (сриодокъ, сродекъ)* 'сярэдзіна', 'сродак' 1577<стп. *środek* (SPK); *стадло* 'шлюбны саюз', 'становішча' 1501<стп. *stadło* (SStK); *становиско* 'месца, становішча', 'месца прыпынку ў дарозе' п. XVII ст. <стп. *stanowisko* (SPK); *увага* 'увага', 'заўвага; памета' к. XVI ст.<стп. *uwaga* (XVI ст., SPK, ад *waga,* BrSE 596); *урода (врода)* 'прыгажосць', 'ураджайнасць' 1517 <стп. *uroda* (SStK); *фарбовати* 'фарбаваць', 'упрыгожваць' 1653<стп. *farbować* (1534, SP VII 33, ад *farba,* BrSE 118); *хендогий (хандокгий)* 'чысты', 'прыгожы' п. XVII ст.<стп. *chędogi* (Cn 64); *хлопецъ* 'хлапчук', 'слуга '1552<стп. *chłopiec* (SP III 244); *хростъ (хрустъ)* 'хвораст', 'хмызняк' 1564<стп. *chrost* (SP III 323); *цалый* 'увесь', 'цэлы, непашкоджаны' 1517<стп. *cały* (SSt I 213); *червоный (червонный)* 'чырвоны', 'з чыстага золата' 1443<стп. *czerwony* (SSt I 371); *члонекъ (члонъ)* 'член, канечнасць', 'параграф, пункт' 1434<стп. *członek* (SSt I 386); *шарпати* 'тузаць, тармасіць', 'рваць, разрываць', 'хапаць па кавалку' 1578<стп. *szarpać* (SPK); *шлюбъ (слюбъ)* 'шлюб', 'дагавор' 1434<стп. *szlub, ślub* (SStK, SPK); *шматъ (шмата)* 'кавалак, палаcа', 'ануча', 'многа' 1556<стп. *szmat, szmata* (SPK); *щекати* 'бра-

хаць', 'абгаворваць' п. XVII ст.<стп. *szczękać* (SPK).

Па некалькі значэнняў маюць таксама многія словы лацінскага паходжання: *апаратъ (аператъ, аппаратъ, аппературъ, опаратъ, оператъ)* 'царкоўныя рэчы', 'амуніцыя' 1585<стп. *aparat, apparat* (1549, SP I 185<лац. *apparātus*, Mosz. 161); *арка (арха)* 'скрынка', 'каўчэг' к. XV ст.<стп. *arka, archa* (1455, SSt I 42<лац. *arca*, Mosz. 161); *бастовати* 'заканчваць, завяршаць', 'далучаць' 1637<пол. *bastować* (XVII ст., L I 63<лац. *bastare*, BrSE 17) і непасрэдна лац.; *бурса* 'бурса', 'кампанія, арцель' 1566<стп. *bursa* (1450, SSt I 178<слац. *bursa*, SWO 99); *депозитъ* 'рэч, аддадзеная на захаванне', 'казнасховішча' п. XVII ст.<стп. *depozyt* (1550, SP IV 589<лац. *dēpositum*, Mosz. 167); *диспоновати* 'распараджацца', 'прычашчаць' 1617<стп. *dysponować* (1594, SP VI 296<лац. *dispōnere*, SWO 168); *докторъ* 'вучоны багаслоў, знаўца біблії', 'доктар, лекар' 1387<стп. *doktor* (1420, SSt II 121<лац. *doctor*, Mosz. 167); *дысцыплина (дисциплина, дисцыплина)* 'дысцыпліна', 'бізун, розга' п. XVII ст.<стп. *dyscyplina* (1557, SP VI 293< лац. *disciplīna*, Mosz. 169); *инструментъ (иструментъ)* 'інструмент, прылада', 'музычны інструмент', 'спосаб, сродак' 1565<стп. *instrument* (1484, SSt III 35<лац. *īnstrūmentum*, Mosz. 178); *кадукъ* 'эпілепсія', 'вымарачнае права' 1588<стп. *kaduk* (1562, SP X 13<лац. *cadūcus*, SłSE II 17); *календа (коленда)* 'першы дзень месяца', 'каляда' к. XV ст.<стп. *kalenda, kolęda* (1484, SSt III 227<лац. *calendae*, SłSE II 27); *карта* 'ліст паперы, старонка', 'запіска, павестка', 'карта для гульні' 1441<стп. *karta* (XIV ст., SSt III 247<лац. *charta*, ад гр. χάρτης, Mosz. 181); *кгранатъ (гранатъ)* 'мінерал гранат', 'плод граната', 'цёмна-сіняя тканіна' п. XVII ст. <стп. *granat* (1534, SP VIII 93<лац. *grānātum*, Mosz. 175); *лязуръ (лазоръ)* 'блакітны камень', 'блакітная фарба' п. XVII ст.<стп. *lazur* (1472, SSt IV 12<слац. *lazur, lazurium*, ад ар. *lāzaward*, Ryb. 60); *латина (латына)* 'лацінская мова, латынь', 'каталіцызм' к. XV ст.< стп. *łacina* (1395, SSt IV 86<лац. *latīna*, ад *latīnus*, SłSE IV 410); *практика (практыка)* 'інтрыга', 'прароцтва, прадказанне' 1580<стп. *praktyka* (XVI ст., SPK< лац. *prāctica*, ад гр. πραχτιχή, Mosz. 199); *практиковати (практыковати)* 'інтрыгаваць', 'прадказваць' п. XVII ст. <стп. *praktykować* (XVI ст., SPK<лац. *practicare*,

SWO 596); *пункть (понкть)* 'раздзел, параграф', 'момант' 1570<стп. *punkt* (XVI ст., SPK<лац. *pūnctum,* Mosz. 201); *ректорь* 'кіраўнік школы', 'ксёндз філіяльнага касцёла' 1597<стп. *rektor* (XVI ст., SPK<лац. *rēctor,* Mosz. 202); *спациумь (спация)* 'вольная прастора', 'прапушчанае месца ў тэксце' с. XVII ст.<стп. *spacyjum* (XVI ст., SPK<лац. *spatium,* Mosz. 206); *трактать* 'дагавор', 'сярэдневяковы навуковы твор', мн. *трактаты* 'перагаворы' 1567<стп. *traktat* (XVI ст., SPK<лац. *tractātus,* Mosz. 210); *трактовати* 'весці перагаворы', 'тлумачыць, разважаць', 'частаваць' 1595<стп. *traktować* (XVI ст., SPK<лац. *tractāre,* SWO 768); *тракть* 'шлях, дарога', 'бяседа' 1570<стп. *trakt* (XVI ст., SPK<лац. *tractus,* Ryb. 91); *тытуль (тителъ, титулъ)* 'загаловак, назва', 'надпіс', 'тытул, званне' 1438<стп. *tytuł* (XVI ст., SPK<лац. *titulus,* Mosz. 211); *фикгура (фигура)* 'фігура, форма', 'сімвал' к. XV ст.<стп. *figura* (1448, SSt II 359<лац. *figūra,* Mosz. 174); *форма* 'форма, воблік', 'дэталь друкарскага станка' 1476<стп. *forma* (1449, SSt II 366<лац. *fōrma,* Mosz. 174); *фундаменть (фондаменть, фудаменть, фундоменть, фундометь)* 'фундамент', 'аснова' к. XV ст.<стп. *fundament* (1437, SSt II 369<лац. *fundāmentum,* Mosz. 174); *характерь (характирь)* 'характар, нораў', 'знак, рыса', 'спосаб пісьма, почырк' п. XVII ст.<стп. *charakter* (1564, SP X 119<лац. *charactēr,* ад гр. *χαρακτήρ,* Mosz. 181) і непасрэдна гр.

Даволі шырока прадстаўлена ў ліку мнагазначных слоў лексіка нямецкага паходжання: *барва* 'колер, афарбоўка', 'святочная вопратка' 1516<стп. *barwa* (1418, SSt I 68<свн. *varwe,* SlSE I 28); *бунть* 'мяцеж, бунт', 'натоўп', 'вязка' 1538<стп. *bunt* (1511, SP II 506<ням. *Bund,* SWO 98); *вага (вакга)* 'вага', 'вагі', 'важнасць' 1432<стп. *waga* (XV ст., SStK<ствн. *wāga,* MoszG 76); *визерунокь* 'партрэт, малюнак', 'узор, прыклад' 1596< стп. *wizerunek* (XVI ст., SPK<свн. *visierunge,* SWOR 703); *кгамаинь (кгомоинь)* 'гатунак шаўковай тканіны', 'каштоўны камень' 1556<стп. *gamain, gamein* (1555, IM 579, відавочна, ад ням. *gemein* 'просты, звычайны'); *кгрунть (грунть, кгронть, гронть, крунть)* 'грунт, зямля', 'зямельная ўласнасць', 'аснова' 1485<стп. *grunt, gront* (1402, SSt II 505<свн. *grunt,* SlSE I 360); *клеймо (клейно)* 'кляймо, гандлёвы знак', бортніцкі знак на

дрэве' 1495<снн. *kleinōe* (SłSE II 201); *кнебель* 'кляп', 'кароткі драўляны кій', 'болт' 1605<стп. *knebel* (1532, SP X 429<ням. *Knebel,* SłSE II 284); *коштовати* 'каштаваць, быць вартым', 'спрабаваць на смак' 1516<стп. *kosztować* (XV ст., SSt III 357<свн. *kosten,* SłSE II 546); *кресъ (крисъ, крысъ, крэсъ)* 'край, граніца, абмежаванае кола', 'канец, канечная мэта' 1580<стп. *kres* (XV ст., SSt III 382<свн. *kreiz,* SłSE III 89); *лиштва (лишта)* 'ліштва, планка', 'аблямоўка' 1556<стп. *listwa lisztwa* (1419, SSt IV 57<свн. *līste,* SłSE IV 287); *мистръ (мийстръ)* 'правіцель', 'настаўнік', 'кат' 1459<стп. *mistrz, mistr* (XIV ст., SSt IV 287<стч. *mistr*<свн. *meister,* ад лац. *magister,* SWOR 441); *пляцъ (плацъ)* 'пляц', 'плошча', 'поле бою' 1441<стп. *plac* (1434, SSt VI 147<ням. *Platz,* BrSE 416); *рада (ряда)* 'парада', 'велікакняжацкія саветнікі' 1434<стп. *rada* (1396, SSt VII 420<ням. *Rath,* BrSE 452); *румъ* 'руіны', 'будаўнічы матэрыял', 'вольнае месца', 'месца пагрузкі' 1582<стп. *rum* (1370, SSt VIII 45<свн. *rūm,* SJP VII 1392); *смаковати (смыковати)* 'каштаваць, прабаваць', 'быць смачным, падабацца' 1598<стп. *smakować* (XVI ст., SPK<свн. *smacken, smecken,* Фасм. III 683); *спижа (пижа, спижъ)* 'прадукты харчавання, правіянт', 'бронза' 1469<стп. *spiża, spiż* (XV ст., SStK<свн. *spīse,* SWO 697); *стосъ (стусъ)* 'стос, штабель', 'удар' п. XVII ст.<стп. *stos* (XV ст., SStK<ням. *Stoss,* BrSE 517); *стрихъ (стрыхъ, штрыхъ)* 'мера зерня (да пэўнай рысы)', 'спосаб', 'упрыгожанне' 1516<стп. *strych, sztrych* (XV ст., SStK<ням. *Strich,* BrSE 521); *трафити (трапити, трахвити)* 'трапіць, сустрэць', 'засмучваць' 1516<стп. *trafić, trapić* (XV ст., SStK<свн. *trëffen,* BrSE 574); *трибъ (трыба, трыбъ)* 'парадак, звычай', 'прасека' 1554<стп. *tryb* (XV ст., SStK<ням. *Trieb,* BrSE 578); *фалшовати (фалшевати, фальшовати, хвалшовати)* 'падрабляць', 'фальшыва вытлумачваць' 1463<стп. *fałszować* (XV ст., SSt II 354<ням. *fälschen,* SJP 804) і непасрэдна ням.; *фарба* 'фарба', 'колер, афарбоўка' 1518<стп. *farba* (1461, SSt II 356<ням. *Farbe,* SłSE I 220); *цель* 'мэта', 'цэль, мішэнь' п. XVI ст.<стп. *cel* (XV ст., SSt I 217<ням. *Ziel,* BrSE 57); *циркель (цыркель)* 'цыркуль', 'кола, круг' 1578<стп. *cyrkiel* (XV ст., SSt I 340<ням. *Zirkel,* ад лац. *circulus,* SWO 127); *шванковати* 'шкодзіць', 'біць' 1603<стп. *szwankować* (XVI ст., SPK<ням.

*schwanken*, P II 452); *шванкъ* 'шкода', 'удар' 1623<стп. *szwank* (XVI ст., SPK<ням. *Schwankung*, SWO 736); *ширмовати (шырмовати)* 'фехтаваць', 'дзейнічаць' 1595 <стп. *szyrmować* (XV ст., SStK<ням. *schirmen*, SWO 729); *шляхъ (шлягъ, шлякъ)* 'шлях, дарога', 'аблямоўка, шляк' 1506<стп. *szlach, szlag, szlak* (XV ст., SStK< ням. *Schlag*, BrSE 550); *шнуръ (снуръ)* 'шнур , паласа зямлі' 1444<стп. *sznur, snur* (XV ст., SStK<ням. *Schnur*, BrSE 551); *шпилька* 'шпілька', 'піка' 1583<стп. *szpilka* (XVI ст., SPK<ням. *Spille*, BrSE 554); *шротъ* 'шрот', 'кавалак мяса' 1552<стп. *szrot* (XVI ст., SPK< ням. *Schrot*, BrSE 534); *штука* 'кавалак', 'хітрасць, фокус' 1498<стп. *sztuka* (XV ст., SStK<свн. *stücke*, Фасм. IV 480).

Сярод мнагазначных слоў сустракаюцца запазычанні раманскага паходжання: *портукгалъ (португалъ, портукалъ, фортугалъ)* 'буйная залатая манета', 'сукенка-крыналін' 1590<стп. *portugał, fortugał* (XVI ст., SPK, ад *Portugalia*, SWO 593); *станция (станцыя)* 'кватэра, месца пастою', 'абавязак утрымання праезджых службовых асоб' 1545<стп. *stancyja* (XVII ст., P II 409<іт. *stanza*, SWO 699); *тарасъ* 'рухомае асаднае прыстасаванне', 'турма' 1568<стп. *taras* (XV ст., SStK<фр. *terrasse*, SWO 745); чэшскага паходжання: *можджеръ (можедеръ, можднеръ, можчаръ, можчеръ, можджеръ, мозджиръ)* 'ступа', 'марціра' 1552<стп. *moździerz, możdżerz* (1478, SSt IV 334<стч. *moždíř*, ад свн. *morsaere*< лац. *mortārium*, Siat. 85); *пушка* 'гармата', 'скрынка' 1490<стп. *puszka* (1418, SSt VII 402<стч. *puška*, ад ствн. *buhsa*, ням. *Büchse*, SWO 618).

## XIV. АГУЛЬНАЯ ЛЕКСІКА

Апошні разрад старабеларускіх запазычанняў утвараюць словы, якія нельга суаднесці ні з адным іншым разрадам лексікі, паколькі іх семантыка носіць агульны характар. У сувязі з гэтым іх мэтазгодна разглядаць асобным разрадам, а ўнутраную класіфікацыю праводзіць па граматычных прыкметах.

Традыцыйны падход да граматычнай класіфікацыі патрабуе вылучыць у разрадзе агульнай лексікі перш за ўсё групу назоўнікаў, у ліку якіх выступаюць словы рознага паходжання. Найбольш шырока прадстаўлены

ў групе назоўнікаў агульнага характару лексічныя сродкі, запазычаныя непасрэдна або праз польскае пасрэдніцтва з лацінскай мовы: *валеръ (валиоръ, валоръ)* 'значэнне' 1665<стп. *walor* (XVII ст., P I 570<лац. *valor,* Ryb. 93); *варыяцыя* 'варыяцыя' 1629<стп. *waryjacyja* (XVII ст., P I 572<лац. *variātio,* Ryb. 93); *гармония* 'гармонія, згода' 1608<стп. *harmonija* (1564, SP VIII 312<лац. *harmonia,* ад гр. ἁρμονία, SłSE I 407); *детракция* 'пазбаўленне' п. XVII ст.<лац. *dētractio* (ЛРС 318); *дефектъ* 'дэфект' 1598<стп. *defekt* (1558, SP IV 569< лац. *dēfectus,* Mosz. 166); *дифференцыя* 'розніца' 1615< стп. *dyferencyja* (1564, SP VI 272<лац. *differentia,* Mosz. 168) і непасрэдна лац.; *дышкурцыя* 'мітусня' с. XVII ст.<слац. *discursio* (SŁSP III 646); *емблематъ* 'эмблема, сімвал' с. XVII ст.<пол. *emblemat* (<лац. *emblēma, -atis,* ад гр. ἔμβλημα, -ατος, SWO 188); *ефектъ* 'вынік' 1596<стп. *efekt* (1564, SP VI 521<лац. *effectum,* Mosz. 169); *импреза* 'задума, план' 1673<стп. *impreza* (1578, SP VIII 522<слац. *imprezia,* Mosz. 178); *инклюза* 'замыканне, кола' 1624<стп. *inkluza, inklus* (XVI ст., SP VIII 547<лац. *inclūsus,* SWO 307); *кондиция (кандыцея, кондыцея, кондыция, кондыцыя)* 'умова' 1567<стп. *kondycyja* (1547, SP X 524<лац. *condicio,* SłSE II 411); *лявда* 'хвала, слава' 1695<стп. *laudes* (XVI ст., SPK<лац. *laus, -dis,* Mosz. 187) і непасрэдна лац.; *макула (макуля)* 'загана, недахоп' 1596<стп. *makuła* (XIV ст., SSt IV 145<лац. *macula,* BrSE 319); *материя (матерея, матерыя, матэрыя)* 'матэрыя' п. XVI ст.<стп. *materyja* (1449, SSt IV 169<лац. *māteria,* Mosz. 190); *некглиеция* 'нядбайнасць' 1634<стп. *negligencyja* (XVII ст., Ryb. 67<слац. *negligencia,* SŁSPK); *оказия (оказея, оказыя)* 'выпадак, падстава' 1578<стп. *okazyja* (XVI ст., SPK<лац. *occāsio,* Mosz. 194); *пертурбацыя* 'разлад' п. XVII ст.<стп. *perturbacyja* (XVI ст., SPK<лац. *perturbātio,* Mosz. 197); *перфекция* 'дасканаласць '1670<стп. *perfekcyja* (XVI ст., SPK<лац. *perfectio,* Mosz. 197); *плякга (плакга, пляга, флякга)* 'няшчасце; наплыў' п. XVI ст.<стп. *plaga* (XIV ст., SSt VI 148<лац. *plāga,* BrSE 416); *претекстъ (протекстъ)* 'прычына, зачэпка' 1564<стп. *pretekst* (XVI ст., SPK<лац. *praetextus,* Mosz. 200); *прокгресъ* 'развіццё' 1664<стп. *progres* (XVI ст., SPK<лац. *prōgressus,* Mosz. 200); *пропозиция (пропозыция, пропозыцыя)* 'прапанова,

праект' 1567<стп. *propozycyja* (XVI ст., SPK<лац. *prōpositio*, Mosz. 201); *рация (рацыя)* 'довад, аргумент' 1603 <стп. *racyja* (XVI ст., SPK<лац. *ratio*, Mosz. 202); *рефузия* 'вяртанне' 1686<лац. *refūsio* (ЛРС 863); *руина* 'руіна' 1620<стп. *ruina* (XVI ст., SPK<лац. *ruīna*, Mosz. 203); *секвака* 'паслядоўнік' 1600<лац. *sequāx, -ācis* (ЛРС 921); *секвелля* 'вынік' 1598<стп. *sekwella* (XVI ст., SPK<лац. *sequella*, Mosz. 205); *секретъ* 'сакрэт' 1627<стп. *sekret* (1500, SSt VIII 147<лац. *sēcrētum*, Ryb. 86); *символъ (симболъ, символюмъ)* 'сімвал' 1562<стп. *symbol, symbolum* (XVI ст., SPK<лац. *symbolum*, ад гр. σύμβολον, SWO 718) і непасрэдна гр.; *субмисыя (субмиссыя)* 'пакора, падначаленне' 1669<стп. *submisyja* (XVII ст., P II 425<лац. *submissio*, Ryb. 88); *сукцесъ* 'поспех' 1620<стп. *sukces* (XVII ст., P II 426< лац. *successus*, Ryb. 89); *терминъ (тэрминъ)* 'тэрмін' 1501<стп. *termin* (XVI ст., SPK<лац. *terminus*, Mosz. 209); *традиция (традыция)* 'традыцыя' с. XVII ст.<стп. *tradycyja* (XVI ст., SPK<лац. *trāditio*, Mosz. 210); *традукция* 'перамяшчэнне' 1622<стп. *tradukcyja* (SW VII 91<лац. *trāductio*, ЛРС 1022); *финалъ* 'канец' с. XVII ст.< стп. *finał* (1621, Cn 176<лац. *fīnālis*, SWOR 219); *фортуна (фартуна, фуртуна)* 'лёс' п. XVI ст.<стп. *fortuna* (1543, SP VII 108<лац. *fortūna*, SłSE I 235); *функция (функцыя)* 'функцыя' 1637<стп. *funkcyja* (XVII ст., P I 210<лац. *fūnctio*, Ryb. 40); *циркумстанция (циркумстанцыя, цыркумстанцыя)* 'збег абставін' п. XVII ст.< стп. *cyrkumstancyja* (1549, SP III 724<лац. *circumstantia*, Mosz. 166).

Другое месца па колькасці лексем займаюць агульныя назоўнікі польскага паходжання: *бренкъ (брянкъ)* 'звон, брынканне' 1653<стп. *brzęk* (Cn 48); *дзвенкъ (двенкъ, дзвиенкъ, дзвянкъ)* 'гук' 1596<стп. *dźwięk* (SP VI 513); *дивовиско* 'дзіва' п. XVII ст.<стп. *dziwowisko* (Cn 169); *зкгелкъ (згелкъ)* 'шум' 1615<стп. *zgiełk* (SPK); *креска (криска)* 'лінія, рыса' 1580<стп. *kreska, kryska* (SPK); *моцъ* 'сіла, магутнасць' 1388<стп. *moc* (SSt IV 303); *парскъ* 'гной' 1627<стп. *parsk* (Cn 670); *перея (перия)* 'бок вуліцы' 1597<стп. *pierzeja* (SSt VI 116); *потребизна* 'патрэба' 1388<стп. *potrzebizna* (SSt VI 498); *припадокъ (припадэкъ)* 'выпадак' 1603<стп. *przypadek* (SPK); *причина (причына, прычина, прычына)* 'прычына' 1434<стп. *przyczyna* (SSt VII

243); *пухиръ* 'пузыр' п. XVII ст.<стп. *pęchyrz* (SPK); *розмножца* 'размнажальнік' к. XV ст.<стп. *rozmnożca* (SPK); *скутокъ* 'вынік, канец' 1507<стп. *skutek* (SStK); *страшидло* 'страшыдла' п. XVII ст.<стп. *straszydło* (SPK); *трода* 'статак' с. XVII ст.<стп. *trzoda* (Сп 1160); *улга* 'палёгка' 1603<стп. *ulga* (SPK); *устыркъ* 'недахоп' с. XVII ст.<стп. *ustyrk* (SPK); *ущербокъ* (*усчербокъ*, *ущирбокъ*) 'шкода' 1538<стп. *uszczerbek* (SPK); *шмеръ* 'шум, шоргат' 1574<стп. *szmer* (SPK).

Старабеларуская лексічная сістэма запазычыла таксама некалькі назоўнікаў агульнага характару нямецкага паходжання: *бракъ* 'выбар, выключэнне' 1548<стп. *brak* (1452, SSt I 152<свн. *brack*, SłSE I 41); *кгалка* (*галка*) 'прадмет круглай формы' 1598<стп. *gałka* (1393, SSt II 382<свн. *galle*, SłSE I 253); *клюба* 'мера' 1568<стп. *kluba* (1563, SP X 367<свн. *klobe*, SłSE II 233); *кляръ* 'голас' 1651<стп. *klar* (1565, SP X 336<ням. *klar* 'ясны', ад лац. *clārus*, SWO 355); *кшталтъ* (*шталтъ*) 'форма, выгляд; спосаб' 1547<стп. *kształt* (1448, SSt 431<свн. *gestalt*, SłSE III 280); *лиосъ* (*люсъ*) 'лёс' 1598<стп. *los* (1370, SSt IV 63<свн. *lōȝ*, SłSE IV 333); *пачка* 'пакет' 1688<стп. *paczek* (1621, Сп 659<ням. *Packen*, SJP VI 11); *фолькга* (*фольга*, *фолга*, *фолкга*) 'палёгка' 1551<стп. *folga* (1460, SSt II 361<свн. *volge*, MoszG 57); *ширмъ* 'спосаб' п. XVII ст.<стп. *szyrm* (XVI ст., SPK<ням. *schirmen*, BrSE 547); *шрамъ* 'рубец' 1579<стп. *szram* (XVI ст., SPK<ням. *Schram*, SWO 733).

Да разгледжанай групы лексікі можна далучыць асобныя словы раманскага паходжання: *фатыкга* 'клопат, паслуга' 1540<стп. *fatyga* (1587, SP VII 42<фр. *fatigue*, SWO 212); *фрашка* 'глупства, дробязь' 1598<стп. *fraszka* (1540, SJC 30<іт. *frasca*, SłSE I 237); *шанцъ* 'шанс' с. XVII ст.<стп. *szanc* (XVI ст., SPK<фр. *chance*, SWO 727); адно слова чэшскага паходжання: *партыка* 'акраец' 1598<стп. *partyka* (XVI ст., SPK<стч. *partyka*, ад лац. *partes*, BrSE 397); адзін цюркізм: *черга* (*черка*) 'чарга' 1431<цюрк., параўн. чаг. *čärgä* (Радл. III 1970).

Другую групу запазычанай агульнай лексікі складаюць у лексічнай сістэме старабеларускай мовы прыметнікі, сярод якіх пераважаюць паланізмы: *векуистый* 'вечны' 1498<стп. *wiekuisty* (SStK); *велький* (*велкий*)

13. Зак. 2139

'вялікі' п. XVI ст.<стп. *wielki* (SStK); *вечистый (вечыстый, звечистый, звечыстый)* 'вечны' 1501<стп. *wieczysty* (SStK); *доживотный (дожывотный)* 'пажыццёвы' 1520<стп. *dożywotny* (SP V 564); *доскональый (здоскональый)* 'дасканалы' к. XV ст.<стп. *doskonały* (SSt II 143); *достатечный* 'дастатковы' 1598<стп. *dostateczny* (SP V 434); *дочесный (дочестный)* 'часовы' 1560<стп. *doczesny* (SP V 224); *звыклый (свыклый)* 'звычайны' к. XV ст.<стп. *zwykły* (SStK); *зевнутрний (зевнутрный)* 'знешні' 1616<стп. *zewnętrzny* (SPK); *зупелный (зупольный)* 'поўны, увесь' 1498<стп. *zupełny* (SStK); *клинястый* 'клінападобны' 1638<стп. *kliniasty* (Cn 282); *крупястый (крупятый)* 'зярністы' 1566<стп. *krupiasty* (SPK); *латвый* 'лёгкі' 1588<стп. *łatwy* (SPK); *лацный* 'зручны' 1502<стп. *łacny* (SSt IV 87); *меновитый* 'канкрэтны' 1542<стп. *mianowity* (SPK); *надобный* 'прыгожы, зграбны' к. XVI ст.<стп. *nadobny* (SPK); *належитый (належытый)* 'належны' 1616<стп. *należyty* (SPK); *нарожный* 'вуглавы' 1508<стп. *narożny* (SSt V 91); *новотный* 'новы' 1499<стп. *nowotny* (SSt V 297); *обецный (обэцный)* 'наяўны' 1563<стп. *obecny* (SPK); *обоентный* 'раўнадушны' 1653<стп. *obojętny* (Cn 569); *обтежливый (обтяжливый)* 'турботны' 1542<стп. *obciężliwy* (SPK); *обфитый (обквитный, обквитый, обфитный, оквитный, оквитый, окфитый)* 'багаты, шчодры' п. XVI ст. <стп. *obfity, obkwity, okwity* (SPK); *обцый (обций, обчий, опчий)* 'чужы' 1468<стп. *obcy* (SSt V 313); *оказалый* 'пышны, раскошны' 1589<стп. *okazały* (SPK); *околичный* 'навакольны' к. XV ст.<стп. *okoliczny* (SSt V 556); *остатечный (остаточный)* 'канчатковы, апошні' 1492<стп. *ostateczny* (SSt V 665); *отвористый (одтвористый, отворыстый)* 'адкрыты' 1585<стп. *otworzysty* (SPK); *пенкный (пекный, пенькный, пиенкный, пякный, пянкный)* 'прыгожы' 1580<стп. *piękny, piekny* (SPK); *повшедний (повшедный)* 'паўсядзённы' 1552<стп. *powszedni* (SPK); *пожитечный (пожиточный, пожытечный, пожыточный)* 'карысны' 1517<стп. *pożyteczny* (SPK); *позверховный (позверхный)* 'знешні' п. XVII ст.<стп. *pozwierzchowny, pozwierzchny* (SPK); *позосталый* 'той, хто застаўся' 1508<стп. *pozostały* (SPK); *презрочистый (презрочыстый, прозрочистый)* 'празрысты' 1598<стп. *przezroczysty* (SPK); *престронный (простронный)* 'прасторны' 1542<стп. *przestronny* (SPK); *призвоитый*

*(прызвоитый)* 'прыстойны' 1598<стп. *przyzwoity* (SPK); *пришлый (прышлый)* 'будучы' 1492<стп. *przyszły* (SSt VII 368); *прожный* 'вольны, пусты' 1529<стп. *prożny* (SPK); *прудкий (пруткий)* 'хуткі' 1519<стп. *prędki* (SPK); *ретелный* 'добрасумленны' 1598<стп. *rzetelny* (SPK); *речивистый (речевистый)* 'сапраўдны' 1616<стп. *rzeczywisty* (SPK); *розмаитый (размаитый, размовитый, росмаитый)* 'розны, разнастайны' 1434<стп. *rozmaity* (SSt VII 539); *рыхлый (рихлый)* 'хуткі, шпаркі' п. XVI ст.<стп. *rychły* (SPK); *сличный (зличный)* 'прыгожы' к. XV ст.<стп. *śliczny* (SStK); *снадный* 'зручны, выгадны' 1595<стп. *snadny* (SPK); *совитый (осовитый)* 'шчодры, двайны' 1529<стп. *sowity* (SPK); *спорый* 'дастаткова вялікі' 1603<стп. *spory* (SPK); *сутый* 'багаты; шчодры' 1617<стп. *suty* (SPK); *тамечный (тамочный)* 'тамашні' 1501<стп. *tameczny* (SPK); *уставичный (веставичный)* 'пастаянны' 1457<стп. *ustawiczny* (SStK); *цудный* 'цудоўны, прыгожы' п. XVI ст.<стп. *cudny* (SSt I 335); *щекгульный (щегульный)* 'асаблівы' п. XVII ст.< стп. *szczegulny* (Сп 1105).

Ёсць у гэтай лексічнай групе даволі вялікая колькасць прыметнікаў лацінскага паходжання: *актуалный* 'актуальны' 1696<пол. *aktualny* (XVIII ст., L I 10<лац. *āctuālis,* SWO 26); *аномалный* 'анамальны' 1619<пол. *anomalny* (<лац. *anōmalis*, ад гр. ἀνώμαλος, SWOR 57); *контентъ* 'задаволены' 1597<стп. *kontent* (1564, SP X 583<лац. *contentus,* SłSE II 435); *лаконицкий* 'лаканічны' 1653<стп. *lakonicki* (XVI ст., SPK<слац. *laconicus,* SŁŚPK); *лиокалный* 'мясцовы' 1722<пол. *lokalny* (<лац. *locālis,* SłSE IV 327); *литералный* 'літэральны' 1638<стп. *literalny* (XVI ст., SPK<лац. *litterālis,* SłSE IV 298); *материалный (материялный, матерыялный)* 'матэрыяльны' 1616<стп. *materyjalny* (XVI ст., SPK< лац. *māteriālis,* SWO 460); *натуралный (натуральный)* 'натуральны' 1615<стп. *naturalny* (XVI ст., SPK<лац. *nātūrālis,* SWO 502); *окциденталный* 'заходні' 1598<пол. *okcydentalny* (<лац. *occidentālis,* SWO 523); *ориенталный* 'усходні' 1596<пол. *oryjentalny* (<лац. *orientālis,* SWO 534); *партикулярный (партыкулярный)* 'асобны, прыватны' 1627<стп. *partykularny* (XVII ст., P II 96< лац. *particulāris,* SWO 554); *принципальный (прынцыпальный)* 'галоўны' 1637<стп. *pryncypalny* (XVI ст., SPK<лац. *prīncipālis,* SWO 611); *пропорционалный*

'прапарцыянальны' 1653<пол. *proporcjonalny* (<лац. *prōportiōnālis*, SWO 543); *реалный (реальный)* 'рэальны' 1668<пол. *realny* (<слац. *realis*, SWO 628); *субтелный (зуптелный, суптелный)* 'тонкі, дробны, празрысты' 1596<стп. *subtelny* (XVI ст., SPK<лац. *subtīlis*, BrSE 524); *универсалный* 'універсальны' 1598<стп. *uniwersalny* (XVI ст., SPK<лац. *ūniversālis*, Mosz. 211) і непасрэдна лац.; *фантастицкий* 'фантастычны, дзіўны' с. XVII ст.<стп. *fantastycki* (1593, SP VII 26<лац. *phantasticus*, ад гр. φανταστικός, Mosz. 173); *филиальный* 'філіяльны' 1766<пол. *filialny* (<слац. *filialis*, SWO 218); *финальный* 'фінальны' 1697<пол. *finalny* (<лац. *fīnālis*, SWO 220); *фундаменталный* 'моцны, фундаментальны' с. XVII ст.<стп. *fundamentalny* (1583, SP VII 148<слац. *fundāmentālis*, SWO 237).

З іншых запазычанняў у гэтай групе адзначаюцца словы чэшскага паходжання: *выборный* 'адборны, цудоўны, выдатны' к. XV ст.<стп. *wyborny* (XV ст., SStK <стч. *výborný*, Recz. 88); *гойный* 'шчодры' 1570<стп. *hojny* (XVI ст., SP VIII 357<стч. *hojny*, Siat. 138); *несказителный (незказителный)* 'незнішчальны' п. XVII ст. <стп. *nieskazitelny* (XVI ст., SPK<стч. *neskazitelny*, Siat. 178); *смертелный (смертельный)* 'смяротны' к. XV ст.<стп. *śmiertelny* (XV ст., SStK<стч. *smrtelny*, Siat. 184); нямецкага паходжання: *вартый* 'варты' 1681 <стп. *warty* (XVI ст., SPK<ням. *wert*, P I 571); венгерскага паходжання: *трефный* 'рэдкі; смешны' п. XVII ст.<стп. *trefny* (XVI ст., SPK<венг. *tréfás*, SWO 774); цюркскага паходжання: *рахманый (рохманый)* 'рахманы' с. XVII ст.<тур. *rahman* (<ар. *rahmān*, Mikl. 272).

Асобнай групай выступаюць у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове запазычаныя дзеясловы агульнага характару. У ліку іх асноўнае ядро таксама складаюць паланізмы: *браковати* 'бракаваць' 1548<стп. *brakować* (SP II 409); *бримети (брмети, брымети)* 'гучаць' п. XVII ст.<стп. *brzmieć* (SP II 474); *взнечати* 'распальваць' 1598<стп. *wzniecać* (SPK); *вскурати (скурати)* 'дабівацца' п. XVII<стп. *wskurać* (SPK); *втеляти (утеляти)* 'уключаць; здзяйсняць' 1555<стп. *wcielać* (SPK); *выкрачати (выкрочати)* 'парушаць; злоўжываць' 1593<стп. *wykraczać* (SPK); *выницовати* 'перакруціць навыварат' 1600<стп. *wynicować* . (SPK);

*гвиздати* 'свістаць' 1519<стп. *gwizdać* (SSt II 532); *грухнути* 'загрымець' 1598<стп. *gruchnąć* (SP VIII 167); *дбати (тбати)* 'клапаціцца' 1420<стп. *dbać, tbać* (SSt II 44); *забрукатися* 'запэцкацца' 1627<стп. *zabrukać się* (SPK); *завикляти* 'заблытаць' 1637<стп. *zawikłać* (SPK); *завстегати (завстягати)* 'затрымліваць' 1596< стп. *zawściągać* (SPK); *заживати (зажывати, зажыяти)* 'карыстацца' 1434<стп. *zażywać* (SStK); *закрачати (закрочати, зокрачати)* 'шкодзіць' 1598<стп. *zakraczać* (SPK); *залецати (залицати)* 'рэкамендаваць, прадпісваць' 1556<стп. *zalecać* (SPK); *занурати (зануряти)* 'тапіць' п. XVII ст.<стп. *zanurzać* (SPK); *звястовати (звестовати)* 'паведамляць' к. XV ст.<стп. *zwiastować* (SStK); *зкгрытати (згритати)* 'скрыгатаць' 1627<стп. *zgrzytać* (SPK); *квапитися* 'квапіцца, спяшыць' п. XVI ст.<стп. *kwapić się* (SPK); *кгласкать* 'гладзіць' п. XVII ст.<стп. *głaskać* (SP VII 364); *колатати (калатати, колотати)* 'стукаць' 1585<стп. *kołatać* (SP X 480); *навежати* 'наведваць' к. XV ст.<стп. *nawiedzać* (SSt V 124); *налезти (зналезти, зналести, зналязти, налязти)* 'знайсці, здабыць' п. XVI ст.<стп. *naleźć, znaleźć* (SPK); *нехати* 'пакідаць' к. XV ст.<стп. *niechać* (SSt V 159); *обецати* 'абяцаць' 1489<стп. *obiecać* (SSt V 332); *повстегати (повстягати)* 'стрымліваць' 1529<стп. *powściągać* (SPK); *полецати* 'даручаць, аддаваць' 1489<стп. *polecać* (SSt VI 342); *порвати* 'схапіць' 1540<стп. *porwać* (SPK); *преквинтовати* 'залішне перабіраць' с. XVII ст.<стп. *przekwintować* (XVI ст., SPK, ад лац. *quīnta*, BrSE 288); *привлащати (прывлащати)* 'прысвойваць' 1498<стп. *przywłaszczać* (SSt VII 381); *прислухати (прыслухати)* 'належаць' 1420<стп. *przysłuchać* (SSt VII 357); *рутити* 'кінуць' 1596<стп. *rzucić* (SPK); *тквити (тквети)* 'захоўвацца' п. XVII ст.<стп. *tkwić* (SPK); *тлумити* 'супакойваць; стрымліваць' 1574<стп. *tłumić* (SStK, SPK); *трвати* 'трываць' 1507<стп. *trwać* (SStK); *хибити (хыбити)* 'мінуць, прамінуць' 1514<стп. *chybić* (SP III 385); *шпетити* 'порціць, нішчыць' 1596< стп. *szpecić* (SPK).

Лацінскія па паходжанню дзеясловы прадстаўлены ў гэтай лексічнай групе наступнымі словамі: *вариевати* 'змяняць' 1686<стп. *waryjować* (XVI ст., SPK<лац. *variāre*, SWO 799); *квадровати* 'адпавядаць' 1598<стп. *kwadrować* (XVI ст., SPK<лац. *quadrāre*, SłSE III 455);

*коллиговати* 'звязваць' 1622<стп. *kolligować* (1593, SP X 473<лац. *colligāre,* SJP III 819); *контентовати* 'радаваць, задавальняць' 1598<стп. *kontentować* (1578, SP X 583<слац. *contentare,* SłSE II 435); *модеровати* 'стрымліваць' 1627<стп. *moderować* (XVI ст., SPK<лац. *moderāri,* SWO 485); *молестовати (молествовати)* 'дакучаць просьбамі' 1596<стп. *molestować* (XVI ст., SPK <лац. *molestāre,* SWO 486); *обсервовати (обсербовати, обсэрвовати)* 'адзначаць' 1603<стп. *obserwować* (XVI ст., SPK<лац. *observāre,* SWO 520); *онеровати* 'абцяжарваць' 1596<стп. *onerować* (XVI ст., SPK<лац. *onerāre,* SW III 781); *оферовати (офяровати, охверовати)* 'ахвяраваць' 1457<стп. *ofiarować, ofierować* (XIV ст., SSt V 525<слац. *offerre,* SŁŚPK); *персеверовати* 'цярпець' 1686<стп. *persewerować* (XVII ст., P II 102<лац. *persevērāre,* SWO 565); *пропоновати* 'прапанаваць' 1569< стп. *proponować* (XVI ст., SPK<лац. *prōpōnere,* SWO 606); *ратрактовати* 'адмаўляцца' 1598<стп. *ratraktować* (XVI ст., SPK<лац. *retractāre,* ЛРС 878); *ревелевати* 'выкрываць' 1630<пол. *rewelować* (<лац. *revēlāre,* SWOR 578); *ревоковати* 'адмяняць' п. XVII ст.<стп. *rewokować* (XVI ст., SPK<слац. *revocare,* SŁŚPK); *резольвоватися* 'развязваць' 1598<стп. *rezolwować się* (XVI ст., SPK<лац. *resolvere,* SWO 649); *реитеровати* 'паўтараць' 1642<лац. *reiterāre* (ЛРС 864); *репетовати* 'паўтараць' 1574<стп. *repetować* (XVI ст., SPK<лац. *repetere,* SWO 643); *тытуловати* 'называць' 1622<стп. *tytułować* (XVI ст., SPK<лац. *titulāre,* SWO 787); *фатыкговати* 'турбаваць' с. XVII ст.<стп. *fatygować* (XVII ст., L I 646<лац. *fatīgāre,* SWO 212); *фикгуровати (фигуровати)* 'сімвалізаваць' п. XVII ст.<стп. *figurować* (1564, SP VII 63<лац. *figūrāre,* SWO 217).

Значна менш выступае ў гэтай групе дзеясловаў нямецкага паходжання: *гамовати* 'стрымліваць' 1513<стп. *hamować* (1443, SSt II 536<свн. *hamen,* SłSE I 399); *керовати* 'кіраваць' 1603<стп. *kierować* (1563, SP X 304 <ням. *kehren,* SłSE II 156); *кредeнсовати* 'падаваць' 1615<стп. *kredensować* (XVI ст., SPK<ням. *kredenzen,* SłSE III 83); *тамовати* 'стрымліваць' 1672<стп. *tamować* (1564, WPSM II 178<ням. *dämmen,* BrSE 564); *фолькговати (фолговати, фолкговати, фольговати)* 'аблягчаць' 1519<стп. *folgować* (1428, SSt II 362<свн. *volgen,* MoszG 57); *шукати (шюкати)* 'шукаць' 1434<

стп. *szukać* (XV ст. SStK<ням. *suchen,* BrSE 577). Адзначаецца таксама адно слова чэшскага паходжання: *чигати (чугати, чыгати)* 'падпільноўваць' 1580<стп. *czyhać, czuhać* (1560, SP IV 281<стч. *čihati,* Siat. 118).

Нарэшце, даволі вялікую групу складаюць прыслоўі, займеннікі, злучнікі, часціцы, якія ў большасці з'яўляюцца паланізмамі: *абовемъ (албовемъ, альбовемъ)* 'бо, таму што' 1492<стп. *abowiem, albowiem* (SSt I 9); *аза (иза)* 'хіба, няўжо' 1598<стп. *aza, iza* (SP I 234); *азали (изали)* 'хіба, няўжо' 1595<стп. *azali, izali* (SP I 236); *алить (алеть)* 'аднак' 1595<стп. *alić, aleć* (SP I 134, 139); *атоли* 'аднак' 1591<стп. *atoli* (SP I 228); *барзо (бардзо)* 'вельмі' 1521<стп. *barzo, bardzo* (SP II 21); *бовемъ* 'бо, таму што' 1580<стп. *bowiem* (SP II 345); *быле* 'абы' 1595<стп. *byle* (SP III 86); *ведле (ведля, водле, водля, вэдля)* 'адпаведна, паводле' 1508<стп. *wedle* (SStK); *ведлугъ (водлугъ)* 'адпаведна, паводле' 1388<стп. *według* (SStK); *венцей (венци, венцэй, веньци)* 'больш' 1434<стп. *więcej* (SStK); *венцъ* 'такім чынам' 1522<стп. *więc* (SPK); *видоме* 'яўна, відавочна' 1596<стп. *widomie* (SPK); *вколо* 'вакол' 1501<стп. *wkoło* (SStK); *вниевечъ (внивецъ, вниво чъ)* 'дашчэнту' 1533<стп. *wniwiecz* (WPSM II 236); *вобецъ (вобэцъ)* 'разам, сумесна; наогул' 1551<стп. *wobec* (WPSM II 236); *вспакъ (воспакъ, впакъ, успакъ)* 'назад' п. XVI ст. <стп. *wspak* (SPK); *вцале* 'зусім' 1538<стп. *wcale* (Cn 1214); *вшакъ* 'ва ўсякім выпадку, аднак' 1529<стп. *wszak* (SPK); *вшелький (вшелкий)* 'любы, усякі' 1583 <стп. *wszelki* (SPK); *вшелякий* 'разнастайны, усялякі' 1438<стп. *wszelaki* (SPK); *вшистекъ (вшистокъ, вшитокъ, вшитэкъ)* 'увесь, цэлы' 1434<стп. *wszystek, wszytek* (SStK); *докола* 'вакол' 1663<стп. *dokoła* (P I 152); *доперо (допиро)* 'толькі, усяго' 1579<стп. *dopiero, dopiro* (SP V 354); *дощенту (досченту)* 'дашчэнту' 1582< стп. *do szczętu* (SP V 480); *если (естли)* 'калі' 1388< стп. *jeśli, jestli* (SSt III 193); *жаденъ (жадинъ, жадный, жадэнъ)* 'ніводзін, ніхто' 1388<стп. *żaden, żadny* (SStK); *жебы (жэбы)* 'каб' 1434<стп. *żeby* (SStK); *заисте (заисто)* 'сапраўды' 1388<стп. *zaiste* (SStK); *заразомъ (зараземъ)* 'адначасова' 1554<стп. *zarazem* (SPK); *заровно (заровна)* 'аднолькава' 1468<стп. *za rowno* (WPSM II 281); *зася (засе, зась)* 'зноў' 1434< стп. *zasię, zaś* (SStK, SPK); *згола (экгола)* 'зусім' 1550

<стп. *zgoła* (SPK); *зле* 'дрэнна' 1489<стп. *źle* (SStK); *знагла (знагле)* 'нечакана' 1580<стп. *z nagła* (WPSM 353); *зненацка* 'зняна́цку' п. XVII ст.<стп. *znienacka* (SPK); *ижъ (ижь)* 'што' 1434<стп. *iż* (SSt III 65); *имъ* 'чым' 1595<стп. *im* (SP VIII 483); *инекгды* 'іншым разам' к. XV ст.<стп. *inegdy* (SSt III 32); *кгволи (гволи, кволи)* 'згодна з жаданнем' 1522<стп. *gwoli* (SP VIII 271); *кгды (гды, кды)* 'калі' 1434<стп. *gdy, kdy* (SSt II 389); *кеды* 'калі' 1506<стп. *kiedy* (SSt III 267); *-кольвекъ (-колве, -колвекъ, -кольве;* звычайна ў спалучэнні з *ач-, где-, ено-, какий-, кгды-, коли-, колко-, который-, кто-, некоторый-, ништо-, одно-, откуль-, хто-, чый-, што-, який-, як-, яко-)* '-небудзь' 1388<стп. *-kolwiek, -kolwie* (SP X 476); *-кроть* (звычайна ў спалучэнні з *веле-, два-, двадцать-, деветь-, десеть-, другий-, иле-, килька-, колько-, много-, неодно-, непоедно-, первый-, подва-, покольку-, полтора-, понеодно-, посем-, потри-, пять-, седм-, седмдесять-, сто-, толко-, три-, тыле-, тысяча-, часто-, чотыри-, шесть-)* 'раз' 1434<стп. *-kroć* (SSt III 387); *лекце (легце, лехце)* 'лёгка' 1538<стп. *lekce* (SPK); *лепакъ* 'наадварот, зноў' п. XVI ст.<стп. *lepak* (SPK); *лечъ (лечь)* 'але, толькі' 1508<стп. *lecz* (SPK); *мней* 'менш' 1434<стп. *mniej* (SSt IV 299); *назбытъ* 'занадта' 1518<стп. *nazbyt* (SPK); *наопакъ* 'наадварот' п. XVII ст.<стп. *naopak* (SPK); *натыхместъ* 'зараз жа' к. XV ст.<стп. *natychmiast* (SSt V 115); *немаль (немалъ)* 'амаль' 1595<стп. *niemal* (SPK); *немашъ (нимашъ)* 'няма' 1569<стп. *nie masz* (SPK); *нестеты (нестейты)* 'на жаль' 1616<стп. *niestety* (SPK); *нимъ* 'перш чым' 1564<стп. *nim* (SPK); *ницъ* 'нічога' 1501<стп. *nic* (SPK); *овшеки (овшейки, овшельки)* 'цалкам, сапраўды' 1457<стп. *owszeki, owszejki* (SSt V 709); *овшемъ (овшэмъ)* 'вядома, зразумела' 1443<стп. *owszem* (SSt V 709); *оразъ* 'таксама' 1586<стп. *oraz* (SPK); *повторе (повтуре, повтурне)* 'паўторна' 1513<стп. *powtore* (SPK); *подлугъ (потлугъ)* 'паводле, згодна' 1388<стп. *podług* (SSt VI 250); *поединкомъ (поедынкомъ)* 'паасобку; асобна' 1578<стп. *pojedynkiem* (SSt VI 305); *покготовю (поготове, поготову, поготовю)* 'асабліва' п. XVI ст.<стп. *pogotowie* (SPK); *поневажъ (поневашъ, споневажъ)* 'бо, таму што' 1501<стп. *ponieważ* (SPK); *понекондъ (повеконтъ)* 'у пэўнай ступені' 1603<стп. *poniekąd* (SPK); *праве* 'амаль, сапраўды' к.

XV ст.<стп. *prawie* (SSt VII 32); *предся (предсе, претсе, прэдсе)* 'усё ж, аднак' 1514<стп. *przedsię* (SPK); *претивко (прецивко, противко, противку)* 'супраць' 1438 <стп. *przeciwko* (SSt VII 102); *прето (прото)* 'таму' 1434<стп. *przeto* (SSt VII 192); *продкемъ* 'спачатку' 1539<стп. *przodkiem* (SSt VII 228); *рачей* 'хутчэй, лепш' 1596<стп. *raczej* (SPK); *ркомо (вркомо)* 'як быццам' 1598<стп. *rzkomo, wrzkomo* (SPK); *снать (снадь)* 'відавочна' 1518<стп. *snadź* (SPK); *стале* 'заўсёды' 1522<стп. *stale* (SPK); *стамтоль (зтамтуль, зтамтоля, стамтоля, стамтондъ)* 'адтуль' 1579<стп. *stamtąd* (SPK); *тамтый* 'той' к. XV ст.<стп. *tamten* (SStK); *теды (тэды)* 'тады' 1501<стп. *tedy* (SPK); *тежъ (тэжъ)* 'таксама' 1388<стп. *też* (SStK); *тенъ (тэнъ)* 'той' 1501<стп. *ten* (SPK); *тужъ* 'побач' к. XV ст.<стп. *tuż* (SPK); *тыле* 'столькі, толькі' 1501<стп. *tyle* (SStK, SPK); *тылько (тилко, тылко)* 'толькі' 1501< стп. *tylko* (SPK); *южъ* 'ужо' п. XVI ст.<стп. *już* (SSt III 207).

Толькі невялікая частка лексем гэтай групы звязана сваім паходжаннем з лацінскай мовай: *адъ темпусъ* 'на пэўны час' 1682<лац. *ad tempus* (ЛРС 1003); *алиасъ (алиясъ)* 'інакш, або' 1649<пол. *alias* (<лац. *aliās,* SWO 21); *альтернатымъ* 'па чарзе' 1568<стп. *alternatą* (1557, SP I 147<слац. *alternata,* Mosz. 159); *антыквитусъ* 'здаўна; некалі' 1672<слац. *antiquitus* (SŁŚP I 583); *дистинкте* 'асобна' п. XVII ст.<лац. *distīnctē* (ЛРС 339); *дыректе* 'прама, без хітрыкаў' 1638<лац. *dīrēcte* (ЛРС 331); *евидентеръ* 'ясна, відавочна' 1686< лац. *ēvidenter* (ЛРС 382); *екстра* 'асобна, дадаткова' 1628<стп. *ekstra* (XVII ст., PSDP 91<лац. *extrā,* SWO 180); *инклюдиве* 'уключна' 1637<слац. *inclusive* (SŁŚPK); *инсуперъ* 'звыш таго' 1671<слац. *insuper* (SŁŚPK); *раптомъ* 'раптам' 1690<стп. *raptem* (XVI ст., SPK<лац. *raptim,* BrSE 454); *резолютне* 'рашуча' 1690 <стп. *rezolutnie* (XVII ст., Сп 917<лац. *resolūtus,* P II 315); *специфице* 'спецыфічна' 1663<слац. *specifice* (SŁŚPK); *фундытусъ (фундитусъ)* 'да асновы' 1663< стп. *fundytus* (<лац. *funditus,* SW I 783). Колькасць жа слоў чэшскага паходжання носіць адзінкавы характар: *внетъ (внэтъ)* 'зараз, хутка; адразу ж' 1585<стп. *wnet* (XV ст., SStK<стч. *hned,* Siat. 132); *звлаща (звлаще, злаща, злаще)* 'асабліва, пераважна' 1443<стп. *zwła-*

*szcza* (XV ст., SStK<стч. *zvláště,* Urb. I 169); *надеръ (наддаръ, наддеръ)* 'вельмі, надзвычай' 1557<стп. *nader, nadder* (XVI ст., SPK<стч. *nadrt,* Siat. 83, 157).

* * *

Агульная колькасць выяўленых запазычанняў, якія ўліліся ў слоўнікавы састаў беларускай мовы XIV—XVIII стст., складае 3635 лексічных адзінак. Сярод іх найбольшы лік прыпадае на паланізмы. На другім месцы ў колькасных адносінах выступаюць словы лацінскага паходжання, на трэцім — нямецкага, запазычаныя ў пераважнай большасці праз пасрэдніцтва старапольскай мовы і толькі часткова непасрэдна з лацінскай і нямецкай моў. Далей па ўбываючай ступені можна размясціць словы цюркскага, грэчаскага, раманскага, літоўскага, венгерскага і чэшскага паходжання. Уся гэта лексіка, цалкам адпавядаючы патрэбам старабеларускай мовы, істотна ўзбагаціла яе лексічную сістэму і нароўні з уласнабеларускімі словамі выконвала актыўныя камунікатыўныя функцыі.

Разам з тым неабходна адзначыць, што лексічнае ўздзеянне паасобных моў на старабеларускую пісьмовую мову было значна большым, чым гэта можна меркаваць на аснове прааналізаванага матэрыялу. У некаторых помніках і нават у групах помнікаў яно праявілася ва ўжыванні іншамоўных лексічных элементаў у тых выпадках, калі для гэтага, здавалася б, не было ніякай патрэбы.

Асабліва вялікая колькасць слоў, якія з'явіліся здабыткам толькі паасобных тэкстаў і не атрымалі замацавання ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове, пранікла пад польскім уплывам, што ва ўмовах беларуска-польскага двухмоўя на тэрыторыі Беларусі было заканамернай з'явай. Найбольш выразна гэта відаць на прыкладзе распаўсюджання ў беларускай пісьменнасці польскіх няпоўнагалосных форм накшталт *белокглова (белоглова), блона, блото, брода, брозна, брона, бронити, броновати, вкротце, влодаръ, влока, влосъ, впродъ (упродъ), врескъ, врона, врота, вротити, выврочати, длото, дрокга (дрога), жлобъ, завротъ, звлока, звлочати, здровый, злото, злотоглавъ, кглова (глова), кглосъ (глосъ), кгродъ (гродъ), клотка, клотня, клотый, кробя,*

*крова, кроль (круль), кроткий, млоденецъ, млодый, млотъ, млоценье, мровка, мрокъ, нагрода, напродъ, неодвлочне (неотвлочне), оброна, обронца, обротити, обротъ, огродовый, огрожати, острога, охронити, пленица, пломень (пломянь), плотно, повлочоный, покгродка, поречный, превлоченье, превозъ, предний (прэдний), прекупень, премяна, преноцованый, препрошати, престати, престрокга (престрога), прокгъ, промъ, прохъ, роспрошати, словикъ, слодкий, слонина, сромота, сромъ, строжа, строжъ, строна, хлодникъ, хлопъ, чловекъ* разам са шматлікімі вытворнымі. Паралельна з імі, часам нават у адным і тым жа кантэксце, ужываліся беларускія поўнагалосныя формы *белоголова, болона, болото, борода, борозна, борона, боронити, бороновати, вкоротце, володаръ, волока, волосъ, впередъ, верескъ, ворона, ворота, воротити, выворочати, долото, дорога, жолобъ, заворотъ, зволока, зволочати, здоровый, золото, золотоглавъ, голова, голосъ, городъ, колодка, колотня, колотый, коробъ, корова, король, короткий, молоденецъ, молодый, молотъ, молоченье, моровка, морокъ, нагорода, напередъ, неодволочне, оборона* і г. д.

У польскай фанетычнай абалонцы зрэдку фіксаваліся ў старабеларускай пісьменнасці канца XVI—XVII стст. і многія іншыя словы, якія былі вядомы раней толькі ў сваёй спрадвечнай беларускай форме, параўн.: *бартный—бортный, бечка—бочка, бревъ—бровъ, ведзети—ведати, везвати—вызвати, велняный—волняный, венгловый — угловый, вендзидло — удило, вендлый — вялый, вестхнути — вздохнути, видзенье — виденье, вилькъ — волкъ, видлы — вилы, внентры — внутри, водзенье — воженье, водзъ — вожъ, водзы — вожки, врондъ — врадъ, встемпъ — вступъ, втаргатися — вторгиватися, вшендзе — всюды, вшехмокгонцый — всемогучий, вывядоватися — выведоватися, выдартье — выдранье, выстэмповати — выступовати, вынтье — выйстье, вяра — вера, вятръ — ветеръ, гардель — горло, гвезда — звезда, генсь — гусь, гнядый — гнедый, грмотъ — громотъ, дарнъ — дернъ, двадесте — двадцать, дванасте — дванадцать, дзвинети — звинети, дзвонъ — звонъ, дзевенць — девять, дзесенць — десять, длугий — долгий, длукгъ — долгъ, дотондъ — дотуль, дронкгъ — друкъ, еденъ — одинъ, едла — ель, едло — еда, еднакъ — однакъ, едностайный — одностайный, есень — осень, желя-*

*зо — железо, жолондковый — желудковый, жондати — жедати, жондза — жажа, засмуцати — засмучати, застемповать — заступовати, затраценье — затраченье, зврацати — зворочати, здартый — здертый, зебрати — собрати, зезвати — созвати, зеслати — сослати, зкгадзатисе — згожатися, зярно — зерно, кгардло — горло, кгоронцый — горачый, кгура — гора, килька — сколько, клятка — клетка, козлентко — козлятко, коляно — колено, контъ — кутъ, ксенже — княжа, лебъ — лобъ, лза—слеза, лонка—лука, лясъ—лесъ, лято—лето, мартвый — мертвый, мдлети — млети, медза — межа, менжный — мужный, менсо — мясо, милченье — молчанье, модлитва — молитва, мондрый — мудрый, монка — мука, мужчизна — мужчина, мыдло — мыло, мяра — мера, насыценье — насыченье, наяздъ — наездъ, невяста—невеста, ноцъ — ночъ, обядъ — обедъ, овоцъ — овочъ, ойтецъ — отецъ, ойчимъ — отчимъ, паменть — память, пелный — полный, петнасте — пятнадцать, пецъ — печь, печенть — печать, плаский — плоский, пронга — попруга, поселъ — посолъ, потенкга — потуга, рендъ — рядъ, ренка — рука, ренчникъ — ручникъ, рондити — радити, садло — сало, свентый — святый, свеца — свеча, свядокъ — сведокъ, святъ — светъ, сендзя— судья, сенъ — сонъ, сковронокъ — жаворонокъ, скридло — крыло, слонце — солнце, слядъ — следъ, сондъ — судъ, сяно — сено, сятка — сетка, тарнъ — тернъ, твардый — твердый, тенжаръ — тяжаръ, трвога — тревога, тромбачъ — трубачъ, трондъ — трудъ, тысенца — тысяча, тяло — тело, ходзенье — хоженье, цо — што, цудзоложство — чужоложство, цудъ — чудъ, чарный — чорный, чартъ — чортъ, чвартый — четвертый* і некаторыя іншыя.

Гэты спіс можна павялічыць за кошт дзеясловаў польскага паходжання, якія ў параўнанні з адпаведнымі беларускімі дзеясловамі выступалі без эпентэтычнага *л*: *взнавяти — взновляти, вмавяти — вмовляти, выбавяти — выбавляти, вымовяти — вымовляти, выправяти — выправляти, выславяти — выславляти, выставяти — выставляти, домавяти — домовляти, забавяти — забавляти, замавяти — замовляти, зарабяти — заробляти, заставяти — заставляти, збавяти — збавляти, змовятися — змовлятися, намавяти — намовляти, направяти — направляти, объявяти — объявляти, ослабяти — ослабляти,*

*ослепяти — ослепляти, поновяти — поновляти, поправяти — поправляти, постановяти — постановляти, розмавяти — розмовляти, справяти — справляти, ставяти — ставляти, умавятися — умовлятися* і інш.

Зразумела, прыведзеныя напісанні нельга лічыць запазычаннямі, а толькі можна кваліфікаваць як лексічныя сродкі, ужытыя пад уплывам польскай мовы. Выкарыстанне іх побач з уласнабеларускімі адпаведнікамі ў помніках пісьменнасці з'яўляецца дадатковым сведчаннем таго, што паланізацыя пэўных слаёў беларускага насельніцтва ў канцы XVI і ў XVII ст. была даволі значнай.

Надзвычай яркай, але эфемернай з'явай у гісторыі беларускай лексічнай сістэмы было ўжыванне ў біблейскіх кнігах Ф. Скарыны многіх слоў чэшскага паходжання, што з'явілася вынікам непасрэдных кантактаў беларускага першадрукара з чэхамі ў перыяд выдавецкай дзейнасці ў Празе (1517—1519) і выкарыстання ім у якасці асноўнага дапаможніка пры апрацоўцы біблейскіх тэкстаў чэшскай біблії ў венецыянскім выданні 1506 г.[25]

З пункту погляду адносін да лексічнай сістэмы старабеларускай мовы чэшскія лексемы ў біблейскіх кнігах Скарыны можна падзяліць на чатыры групы. Адну з іх, найбольшую па колькасці лексічных адзінак, складаюць лексічныя чэхізмы. Як правіла, імі з'яўляюцца словы, зусім адметныя ад тэрмінаў, якія ўжываліся для абазначэння адпаведных прадметаў, з'яў і паняццяў у старабеларускай мове: *вчерашекъ* 'учарашні дзень', *жадость* 'просьба', *жаларъ* 'турма', *жизень* 'смага', *залога* 'засада', *занепразнити* 'заняць', *змизати* 'знікнуць', *комонство* 'світа', *лебка* 'чэрап', *ледвина* 'нырка', *либивость* 'прыгажосць', *наводъ* 'настаўленне', *нутити* 'прымушаць', *осидлитися* 'пасяліцца', *ошеметникъ* 'ашуканец', *позоровати* 'сачыць', *рерюха* 'настурцыя', *розсапати* 'разарваць', *рукавникъ* 'сетка для лоўлі птушак', *рыбникъ* 'сажалка', *смыркъ* 'елка', *ятра* 'печань' і інш. Усе гэтыя словы паслядоўна перадаюцца Скарынай у тым жа арфаграфічным афармленні, у якім яны выступаюць у чэшскай мове, параўн.: *včerejšek, žádost, žalár, žizeň, záloha, za-*

---

[25] Флароўскі А. В. Scoriniana.—450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968, с. 407—408, 420.

*neprazdniti, zmizeti, komonstwo, lebka, ledvina, libivost, návod, nutiti, osídliti se, ošemetnik, pozorovati, řeřicha, rozsápati, rukávnik, rybnik, smrk, játra.*

Гэта група слоў значна дапаўняецца за кошт лексем, пры выкарыстанні якіх Скарына, згодна з патрабаваннямі царкоўнаславянскай і старабеларускай арфаграфічных сістэм, дапускае некаторыя змены. Асобны разрад сярод іх складаюць формы прыметнікаў, дзеепрыметнікаў і парадкавых лічэбнікаў мужчынскага роду, забяспечаныя канчаткамі *-ый, -ий,* адпаведнымі чэшскім *-y, -i: вырченый (výročni)* 'назначаны', *выседлый (vysedly)* 'выступаючы', *горливый (horlivy)* 'прылежны', *днешний (dnešni)* 'сённяшні', *планый (planý)* 'дзікі', *ратолесный (ratolesny)* 'галіністы', *урченый (určený)* 'назначаны'. Асаблівасцю арфаграфічнага асваення Скарынай чэхізмаў з'яўляецца таксама тое, што ў назоўніках ніякага роду ён замяняе канчатак *-i* царкоўнаславянскім канчаткам *-ие* (часам усходнеславянскім *-ье*): *заважие (závaži)* 'гіра', *локтушие (loktuše)* 'хустка', *надобье (nádobi)* 'пасуда', *поглавие (pohlavi)* 'пол', *сведомие (svědomi)* 'сумленне', *премышлевание (přemýšleni)* 'роздум' і інш.

У другую групу ўваходзяць словы, якія адрозніваюцца ад старабеларускіх сваім марфалагічным афармленнем. Утвораныя, як і старабеларускія адпаведнікі, на базе агульнаславянскага каранеслова, яны супадаюць з апошнімі па каранях і вылучаюцца толькі спецыфікай выкарыстання словаўтваральных сродкаў: *вдатный (udatny)* 'мужны', *вдолие (údoli)* 'даліна', *выстража (výstraha)* 'перасцярога', *дивокий (divoký)* 'дзікі', *злобивый (zlobivy)* 'злосны', *зреймый (zřejmý)* 'прыкметны', *недуживый (nedušivý)* 'хваравіты', *одреный (odřený)* 'абадраны', *плытовъ (ploutev)* 'плаўнік', *словутный (slovutný)* 'славуты' і інш. Да адзначанай групы лексем чэшскага паходжання далучаецца значная колькасць слоў з разнастайнымі словаўтваральнымі фармантамі, якія служаць паказчыкамі пэўных граматычных катэгорый. Так, напрыклад, найбольш характэрнымі чэхізмамі мужчынскага роду тут з'яўляюцца назоўнікі з суфіксам *-ец: врабець (vrabec)* 'верабей', *звонець (zvonec)* 'звон', *мешець (měšec)* 'мяшок', *пупенець (pupenec)* 'пупышка'; назоўнікі з суфіксамі *-ач, -ич,* што ўказваюць на асобу, якая выконвае пэўнае дзеянне: *вышивачъ (vy-*

*šivač)* 'вышывальшчык', *гадачъ (hadač)* 'варажбіт', *голичъ (holič)* 'цырульнік', *послухачъ (posluchač)* 'слухач'; назоўнікі з суфіксам *-ок: зачатокъ (začátek)* 'пачатак', *придавокъ (přidavek)* 'дабаўка', *святокъ (svátek)* 'свята', *хитрокъ (chytrák)* 'хітрэц'. З чэхізмаў жаночага роду можна ўключыць у гэту групу словы з суфіксам *-ость: навыклость (navyklost)* 'прывычка', *нестыдатость (nestydatost)* 'нахабства'; лексемы з суфіксам *-к-: задоржка (zadržka)* 'затрымка', *кожка (kožka)* 'шкурка', *хижка (chyžka)* 'хатка', а таксама лексемы *мокрина (mokřina)* 'забалочанае месца', *мерица (měřice)* 'мера'.

Да трэцяй групы належаць фанетычныя чэхізмы, г. зн. словы, якія адрозніваюцца ад старабеларускіх толькі сваёй фанетычнай формай. Усе яны агульнаславянскага паходжання, але набылі на чэшскай глебе рысы, уласцівыя фанетычнай сістэме чэшскай мовы: *блазе (blaze)* 'добра', *сладце (sladce)* 'соладка', *студъ (stud)* 'сорам', *червеный (červený)* 'чырвоны', *шедины (šediny)* 'сівізна'; параўн. стбел. *болозе, солодко, стыдъ, чырвоный, седина.* Сюды ж адносяцца лексемы са спалучэннем *-дл-,* адпаведным усходнеславянскаму і царкоўнаславянскаму *-л-*: *зерцадло (zrcadlo)* 'люстэрка', *кридло (křidlo)* 'крыло', *отпочивадло (odpočivadlo)* 'пляшчадка', *радлица (radlice)* 'лямеш' і інш.

Нарэшце, чацвёртую групу выяўленых у скарынінскай Бібліі чэхізмаў утвараюць лексемы, якія былі ўласцівы і для старабеларускай лексічнай сістэмы, але мелі ў чэшскай мове іншыя значэнні, чым у беларускай,— так званыя семантычныя чэхізмы: *бегунъ (běhoun)* 'валацуга' — стбел. 'уцякач'; *выразити (vyraziti)* 'выбіць'— стбел. 'выразіць'; *выразитися (vyraziti se)* 'выскачыць, вырвацца' — стбел. 'выразіцца'; *выходъ (východ)* 'усход' — стбел. 'выхад'; *заграда (zahrada)* 'агарод, сад'— стбел. *загорода* 'загарадзь'; *заходъ (záchod)* 'туалет' — стбел. 'захад'; *кончина (končina)* 'краіна, край' — стбел. 'канец'; *лихота (lichota)* 'ліслівасць' — стбел. 'бяда'; *настрой (nástroj)* 'інструмент, прылада' — стбел. 'настрой'; *обруба (obruba)* 'шляк' — стбел. *обрубъ* 'участак зямлі'; *светити (světiti)* 'светкаваць' — стбел. 'свяціць'.

Прыведзены фактычны матэрыял паказвае, што словы чэшскага паходжання ўтвараюць у скарынінскіх выданнях значны слой. Па сваёй ужывальнасці ў тэкстах яны не аднолькавыя. Адны лексемы, напрыклад назоў-

нікі *вымолва, выходъ, жадость, заграда, комонство, кончина, мешець,* прыметнікі *днешний, жадостивый, смырковый, червеный,* дзеясловы *зазлити, запоменути, позоровати,* валодаюць у тэкстах большай актыўнасцю і характэрны для некалькіх кніг. Іншыя сустракаюцца толькі ў адной-дзвюх кнігах, у прыватнасці *бегунъ, вдолие, врабець, вчерашекъ, дивокий, звонець, лихота, надобие, нестыдатый, планый, плытовъ, рерюха, рибникъ* і інш. Большасць жа, каля 70%, абмежаваны ва ўсіх 22 біблейскіх кнігах Скарыны толькі аднаразовай фіксацыяй. У сувязі з гэтым яны выглядаюць на фоне скарынінскай лексікі як чужыя, выпадковыя элементы, якія сведчаць толькі аб індывідуальнай манеры перакладчыка, а не аб сваім арганічным уліцці ў лексічную сістэму мовы, якая лягла ў аснову перакладаў.

Зусім новай, эпізадычнай з'явай аказалася большасць скарынінскіх чэхізмаў і ў адносінах да лексічнай сістэмы старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы. Можна катэгарычна сцвярджаць, што з усіх прыведзеных вышэй лексем толькі адзінкавыя зафіксаваны ў папярэдніх і сучасных Скарыне беларускіх пісьмовых помніках, напрыклад *заграда, рыбникъ, червеный.* Прычым яны характэрны пераважна для пісьмовых крыніц, якія былі непасрэдна перакладзены з чэшскіх арыгіналаў ці з выкарыстаннем чэшскіх рэдакцый. Большая частка прыведзеных чэхізмаў не замацавалася і ў старажытнай беларускай пісьменнасці пазнейшага часу і, такім чынам, не выйшла са сферы індывідуальнага ўжывання Скарыны. Толькі лексемы *бегунъ, горливый, днешний, зерцадло, кончина, наводъ, светити, сладце, студъ, хижка* сустракаюцца ў пазнейшых старабеларускіх пісьмовых помніках. Аднак можна меркаваць, што яны пашырыліся тут пад уплывам польскай мовы, а не пад непасрэдным уздзеяннем скарынінскіх кніг. Аб гэтым сведчыць перш за ўсё тое, што помнікі пісьменнасці, у якіх яны ўжываюцца, аддзяляюцца ад скарынінскай эпохі значным адрэзкам часу: амаль усе гэтыя помнікі датуюцца канцом XVI і XVII ст., калі асабліва ўзмацніўся ўплыў на беларускую мову з боку польскай пісьмовай мовы, якая, дарэчы, якраз у XVI ст. у найбольшай меры была насычана чэшскімі лексічнымі элементамі [26].

---

[26] Loret T. Czechizmy w «Żywotach filozofów» i w pierwszym wydaniu «Kroniki świata» Marcina Bielskiego.— Rozprawy komisji

Не з'явілася здабыткам старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы і значная частка зафіксаваных у пісьменнасці літоўскіх слоў. Асабліва многа іх сустракаецца ў дзелавых кнігах і дакументах, напісаных на тэрыторыі этнічнай Літвы. Паколькі пісцамі ў судовых канцылярыях тут былі пераважна літоўцы, яны часта для абазначэння тых або іншых рэалій выкарыстоўвалі ў дакументах мясцовыя словы. Вялікая колькасць такіх слоў была выяўлена ў юрыдычных дакументах з літоўскай тэрыторыі даследчыкам К. Яблонскісам: *алкснинъ* 'алешнік', *апидемя* 'зямельны ўчастак паміж дзвюма сядзібамі', *броста* 'брод', *вердень* 'крыніца', *вондера* 'кошык для зерня', *двикартя* 'чахол на пярыну', *дексня* 'выгаралае месца', *довба* 'яр', *доржъ* 'агарод', *жакгра* 'саха', *интокъ* 'прыток', *кгирела* 'пагорак', *кудра* 'сажалка', *лонкеля* 'заліўны луг', *люнъ* 'дрыгва', *мовкна* 'лыка', *молкаса* 'глінішча', *намакголъ* 'прыбудова да жылля', *номъ* 'жылы дом', *ошвиникъ* 'конюх', *пиртика* 'кладоўка', *сойты* 'прадмет чарадзейства', *сонтокъ* 'зліццё', *ушкуръ* 'прымак, зяць', *шлойтъ* 'схіл' і інш.[27] У дзелавых помніках з беларускай тэрыторыі гэтыя лексічныя сродкі не сустракаюцца, а значыць, беларускаму насельніцтву яны не былі вядомы.

---

językowej, t. II. Łodź, 1955; Urbańczyk S. Z dawnych stosunków językowych polsko-czeskich. Cz. I. Biblia królowej Zofii a staroczeskie przekłady Pisma św. Kraków, 1946.

[27] Jablonskis K. Lietuviški žodžiai senosios Lietuvos raštinių kalboje. Kaunas, 1941.

# АСВАЕННЕ ЗАПАЗЫЧАННЯЎ НА БЕЛАРУСКАЙ ГЛЕБЕ

## ФАНЕТЫЧНАЯ, МАРФАЛАГІЧНАЯ І СЕМАНТЫЧНАЯ АДАПТАЦЫЯ ЗАПАЗЫЧАННЯЎ

Запазычванне прадстаўляе сабой працяглы і складаны працэс ператварэння іншамоўных лексічных сродкаў у словы, падобныя спрадвечным. Гэта прыстасаванне чужога моўнага матэрыялу да заканамернасцей мовы-рэцэптара прадугледжвае фармальнае (фанетычнае, марфалагічнае) і семантычнае асваенне яго.

Нельга лічыць, аднак, што фанетыка-марфалагічная і семантычная адаптацыя запазычанняў суправаджаецца абавязковымі зменамі ў знешняй форме і значэнні іншамоўных слоў. Гэта тлумачыцца як неаднолькавым характарам саміх лексем, якія трапляюць на новую глебу, так і розналінейнасцю працэсаў намінацыі ў мове, якая запазычвае. Так, у старабеларускай мове вялікая група запазычанняў з'явілася ў сувязі з неабходнасцю даць назву іншаземнай рэаліі. У гэтай групе ў сваю чаргу выразна вылучаюцца дзве падгрупы: 1) словы для абазначэння рэалій і паняццяў, якія заўсёды служылі для характарыстыкі жыцця іншых народаў і ў мовазнаўчай літаратуры атрымалі назву экзатызмаў (*банъ, баша, дервишъ, иппотамъ, курферстъ, леопардъ, мечетъ, нишанъ, сафаръ, талмутъ, улусъ, юртъ, янычаръ*); 2) словы для абазначэння іншаземных рэалій, якія сталі прыналежнасцю мясцовага жыцця (*армата, барханъ, гусаръ, драбъ, имбиръ, куша, малмазия, мушкатела, пипа, рубинъ, скоецъ, тынфъ, фарина, шафранъ*). З другога боку, старабеларуская мова шляхам запазычвання ў значнай ступені ўзбагачалася тэрмінамі і паняццямі для замены ўстарэлых найменняў. Зусім заканамерна, што ў найменшай ступені фанетыка-марфалагічным і семантычным зменам падвяргалася экзатычная лексіка. Аднак большая частка слоў, запазычаных з іншых моў, у той ці іншай меры прыстасоўвалася да лексічнай сістэмы старабеларускай мовы.

Разам з тым пад уздзеяннем некаторых запазычанняў у беларускай мове адбываліся пэўныя змены — з'яўляліся новыя гукі, замацоўваліся раней невядомыя спалучэнні зычных і галосных, набывалі актыўнасць чужыя словаўтваральныя сродкі і г. д.

У галіне фанетычнай сістэмы старабеларускай мовы істотныя зрухі выклікалі, напрыклад, запазычаныя словы з зычным *ф*. Некаторыя з гэтых слоў, пераважна грэчаскага паходжання, беларусы ўнаследавалі яшчэ ад старажытнарускай эпохі. Але асабліва вялікая колькасць лексем з гукам *ф* была запазычана ў перыяд самастойнай гісторыі беларускай мовы ў выніку сутыкнення яе з заходнееўрапейскімі мовамі, для якіх гэты гук быў звычайным. Прычым характэрна, што гук *ф* у большасці выпадкаў захоўваўся як у непасрэдных запазычаннях, так і ў дэрыватах, аб чым сведчаць прыклады вялікіх роднасных гнёздаў з гэтым гукам: *гафтарка, гафтарскій, гафтаръ, гафтка, гафтованый, гафтованье, гафтовати, гафтъ, выгафтованый, выгафтовати; фундаментъ, фундаментальный, фундаторъ, фундатъ, фундованый, фундованье, фундовати, фундовне, фундовный, фундушовый, фундушъ, зафундованый, пофундовати, уфундованый, уфундованье, уфундовати* і г. д.

Матэрыял пісьмовых помнікаў паказвае, аднак, што новы для беларускай мовы гук *ф* засвойваўся з цяжкасцю і ў народнай мове ён падвяргаўся субстытуцыі, замяняючыся блізкімі да яго ў акустычных адносінах гукамі. Найбольш часта на яго месцы выступаў гук *п*, хоць такая замена не праводзілася паслядоўна — адны і тыя ж лексемы ў помніках адзначаюцца ў двух відах: *епифания — епипания, трафити — трапити, флястръ — плястръ, фляша — пляша*. Значнай колькасцю прыкладаў прадстаўлены таксама лексемы з гукам *х* на месцы *ф*: *кафель — кахель, куфель — кухель, уфналь — ухналь, фурлюнъ — хурлюнъ, фурманъ — хурманъ, футро — хутро*. Нарэшце, у паасобных запазычаннях адзначаецца і спалучэнне *хв* на месцы *ф*: *арфа — архва, дуфати — духвати, фалшъ — хвалшъ, фартухъ — хвартухъ, фольварокъ — хвольварокъ*. Некаторыя запазычанні характарызуюцца стракатасцю свайго фанетычнага афармлення ў сувязі з рознымі спосабамі замены гука *ф*: *кафтанъ — каптанъ — кахтанъ, кнафель — кнапель — кнахель, фляша — пляша — хвляша*.

Працэс засваення беларускай мовай іншамоўнага гука *ф* у пэўнай меры закрануў і спрадвечна беларускую лексіку. У выніку замены гука *ф* спалучэннем *хв*, з аднаго боку, і захавання яго ў вымаўленні — з другога, у многіх выпадках спрадвечна беларускія словы са спалучэннем *хв* пачалі вымаўляцца таксама з гукам *ф*. Помнікі даюць вялікую колькасць прыкладаў гэтага роду: *хвала — фала, хвалити — фалити, ухвалити — уфалити, ухватити — уфатити, хвороба—фороба, хворостъ—форостъ* і інш. У некаторых беларускіх гаворках, напрыклад на Віцебшчыне і спарадычна на Брэстчыне, Гродзеншчыне і Магілёўшчыне, такое вымаўленне захавалася ў асобных словах да нашага часу (НБД 137).

Пад уздзеяннем вялікай колькасці запазычаных слоў у беларускай мове з'явіўся выбухны гук *г*, які на пісьме абазначаўся дыграфам *кг*. Такая перадача на пісьме выбухнога гука *г* адзначаецца ўжо ў помніках з канца XIV ст. У некаторых друкаваных і рукапісных кнігах першай палавіны XVII ст. такі выбухны гук пачалі абазначаць асобнай літарай ґ, якая адрозніваецца ад звычайнага *г* сваім памерам і канфігурацыяй. Але асноўным спосабам абазначэння выбухнога *г* быў дыграф *кг* на працягу ўсяго старажытнага перыяду: *алекговати, аркгонаутъ, аркгументъ, бакгазея, беркгринъ, боркгъ, дакга, дракгунъ, кгалкганъ, кглейтъ, кграбаръ, кграция, кгубернаторъ, конкгрекгация, кукгляръ, ликга, ортокграфия, педакгокгъ, рекгула, цукгъ, швакгеръ* і інш. У помніках адзначаюцца таксама параўнальна рэдкія выпадкі передачы выбухнога *г* літарай *к*: *кгды* і *кды, кгвалтити* і *квалтити, кграта* і *крата*. Разам з тым пісьмовыя помнікі паказваюць, што з самага пачатку выбухны гук *г* у беларускай мове пачаў прыстасоўвацца да гукавой сістэмы беларускай мовы, збліжаючыся ў вымаўленні з фрыкатыўным гукам *г*. Аб гэтым сведчаць шматлікія выпадкі напісанняў адных і тых жа слоў або з дыграфам *кг*, або толькі з адной літарай *г*: *дикгнитаръ — дигнитаръ, жакгель — жагель, жекгнати — жегнати, зекгаръ — зегаръ, кганокъ — ганокъ, кгвалтъ—гвалтъ, кгмахъ — гмахъ, колекга — колега, лекгатъ — легатъ, микгдалъ — мигдалъ, паракграфъ — параграфъ, срокгий — срогий, фикгура — фигура, шпекгъ — шпегъ*. У адрозненне ад гука *ф*, які трывала замацаваўся ў беларускай мове, выбухны гук *г* усё ж паступова пад-

вергся замене на фрыкатыўны ў большай частцы запазычанай лексікі, і ў сучаснай беларускай мове ён сустракаецца толькі як выключэнне ў некаторых запазычаннях накшталт *ганак, гвалт, гонты.*

Запазычанні з фрыкатыўным гукам *г* характарызуюцца тым, што ў паасобных выпадках ён наогул не абазначаўся на пісьме. У помніках побач з напісаннямі накшталт *галябарда, гаркабузъ, гарфа, гохмистръ, гуфъ, колегиумъ, регистръ* трапляюцца і формы *алябарда, аркабузъ, арфа, охмистръ, уфъ, колеиумъ, реестръ.* Некаторыя запазычанні наогул адзначаюцца толькі без фрыкатыўнага *г*: *лоика, траедия.* Тлумачэнне гэтай з'явы сутыкаецца, аднак, з пэўнымі цяжкасцямі. З аднаго боку, тут як быццам можна бачыць адлюстраванне жывога вымаўлення: гук *г* як прыдыхальны ў некаторых становішчах вымаўляўся вельмі слаба і нават мог знікнуць наогул. Але для выпадкаў з адсутнасцю пачатковага *г* можна прапанаваць і іншае тлумачэнне: падобныя выпадкі можна разглядаць і як арфаграфічны гіпернармалізм, які сведчыць аб існаванні ў вымаўленні пісцоў прыстаўнога гука *г* перад пачатковымі галоснымі. Не выключана таксама магчымасць запазычвання некаторых з гэтых варыянтаў у гатовым выглядзе са старапольскай мовы, дзе побач з формамі *halabarda, harkabuz, harfa, hochmistrz, huf* ужываліся варыянты *alabarda, arkabuz, arfa, ochmistrz, uf* і нават *logika — lojika.*

Прыкметнай асаблівасцю многіх запазычаных слоў з'яўляецца наяўнасць у іх цвёрдых зубных зычных перад галосным пярэдняга рада *і.* Такая цвёрдасць зычных на пісьме абазначалася літарай *ы* пасля адпаведнага зычнага: *актыковати, артыкулъ, визытовати, видымусъ, дыктовати, дысцыплина, дыяментъ, кардыналъ, кондыцыя, констытуцыя, лектыка, оказыя, политыкъ, посесыя, практыка, сынодъ, традыцыя, тытулъ.* Але такое вымаўленне не стала агульнай заканамернасцю для старабеларускай мовы. Ужо ў ранніх помніках гэта катэгорыя слоў пачала выяўляць няўстойлівасць у бок прыстасавання іх да арфаэпічных норм жывой народнай мовы. Аб гэтым сведчаць выпадкі паралельнага ўжывання ў старажытнай пісьменнасці такіх слоў з мяккімі і цвёрдымі зычнымі, прычым словы з цвёрдымі зычнымі адносяцца да больш ранняга часу, а пазнейшыя мяккія варыянты паказваюць пэўную ступень засвоенасці

адзначаных слоў у старабеларускай мове. Колькасна ў помніках пераважаюць напісанні накшталт *актиковати, бестия, видимусъ, герезия, дикгнитаръ, диспутовати, дияментъ, кардиналъ, кондиция, конституция, оказия, пропозиция, публикация, рация, румация, синодъ, титулъ, традиция, фантазия, юдиция* і інш.

Наяўнасць у пісьменнасці цвёрдых варыянтаў гэтых слоў сведчыць, што пасрэднікам у замацаванні іх у беларускай мове была польская мова, для якой якраз і характэрна такое вымаўленне. У сучаснай беларускай мове таксама ёсць значная колькасць запазычаных слоў з цвёрдым вымаўленнем падобных зычных, адлюстраванне якога, дарэчы, прадугледжваецца і правапісам. Але для сучаснай мовы гэту з'яву нельга разглядаць як захаванне старажытнага вымаўлення, яе лепш звязваць з польскім уплывам пазнейшых часоў, які быў інтэнсіўным на працягу XIX і першых дзесяцігоддзяў XX ст.

З адзначанай з'явай збліжаецца і цвёрдае вымаўленне зычных перад галосным *е* ў словах тыпу *апэляцыя, гэлмъ, гэрбъ, дэспэрацэя, павэза, сэймъ, сэкта, сэнатъ, тэстаментъ, экспэктатыва,* якое адзначаецца ў помніках з другой палавіны XVI ст. Тут таксама мае месца польскі арфаграфічны ўплыў, што з'яўляецца паказчыкам моцнага ўздзеяння польскай мовы на беларускую.

Многія запазычанні старабеларускай мовы закраналіся разнастайнымі фанетычнымі працэсамі прыватнага характару. У запазычаных словах, дзе ў розных складах аказваўся адзін і той жа гук *р,* адбывалася рэгрэсіўная дыстантная дысіміляцыя, у выніку якой першае *р* змянялася ў *л*: *барверъ — балверъ, армария — алмария, перкгримъ — пелкгримъ, секретаръ — секлетаръ.* Складаны шлях фанетычнага развіцця прайшло слова *мураръ,* у якім спачатку таксама адбылася дыстантная дысіміляцыя *(мураръ — мураль),* а пасля яно падверглася метатэзе *(мураль — муляръ).*

Метатэза мела месца таксама і ў некаторых іншых выпадках. Так, побач з асноўнай, найбольш распаўсюджанай формай *талерка* ў пісьменнасці адзначаецца і варыянт *тарелка,* які, між іншым, атрымаў перавагу ў рускай мове. Германізм *цырулікъ* быў пануючай формай на працягу ўсяго старажытнага перыяду, але трапляецца ён адзін раз і ў выглядзе *целюрикъ.* Лацінізм *тумултъ* адзначаны таксама ў варыянце *тулмутъ.* Стара-

жытнае запазычанне *манастыръ* у помніках некалькі разоў зафіксавана і ў выглядзе *намастыръ*.

У многіх запазычаннях адбывалася і кантактная дысіміляцыя. Гэта ў першую чаргу датычыць слоў з гукам *м*, які часта ў сярэдзіне слоў перад іншымі зычнымі змяняўся ў *н*: *брамка — бранка, компания — конпания, компасъ — конпасъ, кумпъ — кунпъ, мамзеръ — манзеръ, помпа — понпа*. На беларускай глебе няўстойлівым у фанетычных адносінах аказаўся лацінізм *фебра*, які ў помніках побач са сваёй этымалагічнай формай адзначаецца яшчэ ў варыянце *фребра*.

Паасобныя запазычанні характарызуюцца спрашчэннем груп зычных, з якіх звычайна выпадае адзін, першы кампанент: *вспанялый — спанялый, встремежливый — стремежливый, обфитость — офитость, олбримъ — обримъ*. Значна радзей адзначаецца адваротная з'ява — устаўка зычных, якіх не было ў зыходных запазычаных этымонах: *пробощъ — проборщъ, каноникъ — кановникъ*.

Фанетычнае аблічча многіх запазычанняў змянялася ў выніку дзеяння народнай этымалогіі. Відавочна, такое тлумачэнне можна даць выпадку пераўтварэння лацінізма *диспутовати* ў форму *деспытовати*, якая адзначаецца ў зборніку № 752 сярэдзіны XVII ст.: *я тамъ з ними деспытоватися и гадати о вере и о богу правому буду*. Паўторнае ўжыванне такой формы ў гэтым помніку паказвае, што тут не апіска, а заканамерная з'ява. У свядомасці пішучага гэта незразумелае па структуры слова, напэўна, атаясамлівалася з уласнабеларускімі *пытати, допытоватися*. Зацемненае па структуры і сэнсу слова *гаковница* ў адным выпадку адзначаецца ў форме *гроковница*, у чым адлюстравалася здольнасць гэтага віду зброі рабіць моцны грукат. Царкоўны тэрмін *клиросъ*, відавочна, у свядомасці гаворачых атаясамліваўся са значэннем *крыло*, у сувязі з чым ён ператварыўся ў *крилосъ*. Вынікі дзеяння народнай этымалогіі можна бачыць і ў пераўтварэнні слова *пуклеръ* у *куплеръ*.

У радзе запазычанняў назіраецца няўстойлівасць ва ўжыванні гукаў *с* і *ш*. Гэта датычыць асабліва слоў нямецкага паходжання, сярод якіх адзначаюцца дублетныя варыянты *арестъ — арештъ, арестовати — арештовати, смалецъ — шмалецъ, сницаръ — шницаръ, снуръ— шнуръ, спихлеръ — шпихлеръ, солтысъ—шолтысъ, стро-*

*фовати—штрофовати, стрихъ—штрихъ.* Такія варыянты адлюстроўваюць розныя стадыі аднаго і таго ж слова ў мове-крыніцы. Варыяцыя гэтых гукаў мае месца і ў некаторых запазычаннях з іншых моў: *бурсовати — буршовати, деспотъ — дешпотъ, кристалъ — кришталъ, саранча — шаранча, скриптъ — шкриптъ, скрутыниумъ — шкрутыниумъ.* Некаторыя іншыя лексемы гэтага тыпу адзначаюцца толькі з гукам *ш: бурштынъ, пашквилюсъ, пашпортъ.*

Акрамя разгледжаных фанетычных працэсаў, якія закранулі ў беларускай мове разнастайныя па паходжанню словы, можна адзначыць яшчэ і з'явы, спецыфічныя толькі для слоў, запазычаных з адной якой-небудзь мовы. Вельмі стракаты малюнак даюць словы польскага паходжання з уласцівымі для польскай мовы насавымі галоснымі *ę* і *ą.* Тут назіраюцца розныя спосабы адаптацыі іх у залежнасці ад часу і спосабу запазычвання. У ранніх запазычаннях прыкметна імкненне замяняць насавыя галосныя беларускімі галоснымі *а(я)* і *у: więzienie — вязенье, wątpić — вутпити, mosiądz — мосязъ, nędza — надза, nierząd — нерадъ, okręt—окрутъ, piątek — пятокъ, potęga — потуга, prędki — прудкий.* Цікава адзначыць, што гэта агульная тэндэнцыя закранула нават і словы няпольскага паходжання. Так, у помніках лацінізм *фундаментъ* часта адзначаецца ў выглядзе *фудаментъ:* у свядомасці гаворачага (і пішучага) спалучэнне *ун* успрымалася, відавочна, як насавы польскі галосны, таму яно спрашчалася як у вымаўленні, так і напісанні. У помніках пазнейшага часу польскі насавы *ę* часта перадаваўся праз *е: gawęda — гаведа, zwyciężyć— звитежити, klęska — клеска, piękny — пекный, tęsknić — тескнити.* Нарэшце, трэцім спосабам напісання слоў гэтага разраду з'явілася перадача польскіх насавых спалучэннямі *ен* або *он: bękart — бенкартъ, błękitny — бленкитный, wędzidło — вендзидло, wędrować — вендровати, natręt — натрентъ, obojętnie — обоентне, opętany — опентаный, pęd — пендъ, sędzia — сендя.* Імкненне дакладна перадаць польскае вымаўленне можна бачыць у напісаннях тыпу *гнембити, выстемпованье, рендъ, семпъ* і інш.

Неаднолькавыя спосабы субстытуцыі польскіх насавых галосных даюць, па-першае, магчымасць устанавіць прыблізна час пранікнення ў беларускую мову адпаведных паланізмаў. Па-другое, розныя рэфлексы гэтых гу-

каў сведчаць і аб розных шляхах запазычвання польскіх слоў. Варыянты паланізмаў, больш аддаленыя ў гукавых адносінах ад сваіх польскіх этымонаў, безумоўна, з'яўляліся вынікам вуснага засваення іх на беларускай глебе. Наадварот, больш дакладная перадача на пісьме асаблівасцей польскага вымаўлення ўказвае на пісьмовае, кніжнае запазычванне, што актыўна ажыццяўлялася ў працэсе значнай перакладчыцкай дзейнасці старабеларускіх кніжнікаў.

Аб пісьмовым шляху пранікнення ў беларускую мову сведчыць і наяўнасць у складзе многіх запазычаных слоў падвойных зычных, як у выпадках накшталт *акколитъ, аллекговати, аллигория, аннотация, аппаратъ, ассекурация, ассесоръ, аффектъ, виссонъ, грамматика, епикграмма, иссопъ, кассия, коллекгия, коллоквиумъ, поссессия, ребеллия, сумма, цессия*. Такое паралельна дакладнае захаванне ў запазычаннях графічнага аблічча мовы-крыніцы і перадача іх адпаведнымі графічнымі сродкамі беларускай мовы было магчыма толькі дзякуючы пісьмовым тэкстам, пры запазычванні з якіх словы фактычна транслітаваліся, а не транскрыбіраваліся. Аднак паступовае замацаванне такіх слоў у беларускай мове мела вынікам іх фанетычную асіміляцыю жывой беларускай мовай, дзе пазбягалася падвойнае вымаўленне зычных: *апаратъ, афектъ, касия, посесия, сума*.

Прыкладам фанетычнай субстытуцыі з'яўляецца замена не ўласцівага беларускай фанетыцы польскага спалучэння *rz* гукам *р*: *brzmieć — бримети, wachmistrz — вахмистръ, dygnitarz — дикгнитаръ, żeglarz — жекгляръ, instruktarz — инструктаръ, kanclerz — канцлеръ, krzyż — крыжъ, kuchmistrz — кухмистръ, pancerz — панцеръ, rotmistrz — ротмистръ, strycharz — стрихаръ* і інш.

Яркую арфаграфічную рысу ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове складае выкарыстанне пры фіксацыі некаторых запазычанняў спалучэння *іо* для перадачы гука *о* пасля мяккіх зычных, як у словах *астроліокгъ, веліоракий, веліорибъ, каталіокгъ, ліокалный, ліосъ*, хоць паралельна з імі часта выступалі іншыя графічныя сродкі: *астрологъ, велерибъ, каталогъ* і інш.

Арфаграфічная няўстойлівасць наогул з'яўляецца дадатковым паказчыкам іншамоўнага паходжання адпаведных слоў. Нават у сучасных літаратурных мовах з іх унармаваным правапісам арфаграфічным разнабоем ха-

рактарызуюцца ў першую чаргу запазычаныя словы. Прымяняльна ж да старажытнага перыяду гэта іх асаблівасць выяўляецца вельмі прыкметна. У выніку паасобных фанетычных працэсаў, якім падвяргалася запазычаная лексіка ў старабеларускай мове, а таксама ў сувязі з розным адукацыйным узроўнем аўтараў і перапісчыкаў многія запазычаныя словы ў старабеларускай пісьменнасці выступаюць у значнай колькасці фанетыка-арфаграфічных варыянтаў: *брунатный — бронатный — борнатный — бурнатный; епанча — епонча — опанча — апанча; кгауръ — гауръ — кауръ; мембрамъ— мамбранъ — мамрамъ — мамранъ; парпъянъ — парпиянъ — порпъянъ — пурпиянъ; сыкгнетъ — сыгнетъ — сикгнетъ — сигнетъ — сикнетъ — секгнетъ; цирокграфъ — церокграфъ — тирокграфъ — цырокграфъ; тестаментъ — тестоментъ — тастаментъ — тастоментъ — тостоментъ — тэстаментъ — тэстамэнтъ — дастоментъ — дестаментъ — достоментъ* і г. д.

Многія запазычаныя словы нават у тэкстах з адносна ўнармаванай арфаграфіяй не маюць адзінства ў напісанні літар *а* або *о* ў ненаціскных складах. Такая няўстойлівасць асабліва часта назіраецца ў пачатку слоў: *абшлягъ — обшлягъ, адамашка — одамашка, альтариста — олтариста, апелевати — опэлевати, апеляцыя — опеляцыя, апаратъ — опаратъ, аренда — оренда, арганъ — органъ, атласъ — отласъ* і інш. Падобныя варыянтныя напісанні адзначаюцца таксама і ў сярэдзіне многіх слоў, асабліва ў пераднаціскных складах: *блаватъ — бловатъ, гаковница — гоковница, кабатъ — кобатъ, калита — колита, капитула — копитула, картына— кортына, кахати — кохати, мандатъ — мондатъ, манета — монета, манисто — монисто* і г. д. Такія дваякія напісанні служаць ускосным паказчыкам іншамоўнага паходжання адпаведных слоў: нават самы адукаваны пісец, які добра ведаў арфаграфію спрадвечнабеларускай лексікі, не мог дасягнуць адзінства ў пісьмовай перадачы запазычанняў, бо ў беларускай мове ў выніку акання гукі *а* і *о* ў іншамоўных словах, як і ў сваіх, супадалі ў адным гуку *а*, знаходзячыся не пад націскам, і для правільнага этымалагічнага напісання іх не было ніякіх аб'ектыўных крытэрыяў.

У марфалагічных адносінах запазычаныя словы маюць значна менш асаблівасцей. Большая частка за-

пазычанай лексікі пранікла ў беларускую мову праз роднасную польскую, і таму ў граматычных і словаўтваральных адносінах яны ў значнай меры былі ўжо асвоенымі. Запазычаныя назоўнікі ў беларускай мове размяркоўваліся па існуючых тут тыпах скланення, цалкам прымыкаючы да парадыгм адпаведных тыпаў і не выяўляючы якіх-небудзь прыкметных адрозненняў з боку канчаткаў. Старабеларуская мова практычна не ведала нескланяльных назоўнікаў, хоць пісьмовыя помнікі і даюць некалькі прыкладаў, якія можна разглядаць як выключэнні з гэтага агульнага правіла. Так, грэчаскае слова στακτη было запазычана беларускай мовай у выглядзе *стакти*. Па сваёй марфалагічнай структуры яно некалькі выдзялялася на фоне беларускіх назоўнікаў і некаторы час заставалася нязменным у беларускай мове, аб чым сведчаць прыклады: *донесете мужеви дари смолу и медъ и тимияна и стакти, то есть мастику* (Біблія XVII ст.); *смирна естъ неякоесь дерево в аравіи, з которого запашный сокъ течетъ стакти называемый* («Лексіс» Л. Зізанія). Але помнікі паказваюць, што і гэты назоўнік пастунова падпаў пад уплыў назоўнікаў з асновай на *ā*, пачаў ужывацца ў выглядзе *стакта* і атрымаў канчаткі гэтага скланення: *трапилися купцы... несучи коренье и ресину и стакту або мастику* (Біблія XVII ст.); *стакту розумеютъ мирру або мастику* (Кніга ражаяў XVII ст.).

Нескланяльную форму ў старабеларускай мове захоўваў таксама і лацінізм *алое,* вядомы помнікам і ў варыянце *алоесъ: останокъ мирры... исъ алое и съ иными мастями далъ* (Аповесць аб трох каралях-валхвах); *шаты твои все пахнутъ мира и алоесъ и касиею* (Псалтыр XVII ст.). Тэндэнцыю да ўжывання ў нескланяльнай форме выяўляў таксама літуанізм *лейти: просилъ въ насъ дворца съ четырми чоловеки лейти* (Кніга маршалкоўскага суда). Аднак хутка гэты назоўнік набыў у назоўным склоне форму *лейть* і стаў адзначацца ў помніках пісьменнасці з канчаткамі назоўнікаў мужчынскага роду: *лейтя, лейтеве, лейтевъ, лейтемъ, на лейтехъ.*

З пункту погляду марфалагічнай адаптацыі запазычанняў пэўную цікавасць уяўляе гісторыя назоўніка *дойлидъ.* Запазычаны з літоўскага *dailidė,* ён першапачаткова па свайму абліччу супадаў з назоўнікамі асноў на *ā* і адпаведна гэтаму змяняўся па ўзору гэтых назоў-

нікаў: *дойлида — дойлиды — дойлиде — дойлиду — дойлидою* (форма меснага склону адзіночнага ліку ў вывучаных помніках не зафіксавана). Але сваёй семантычнай характарыстыкай гэты назоўнік рана выявіў здольнасць аб'ядноўвацца з назоўнікамі асноў на *ŏ*, што знайшло сваё адлюстраванне ў парадыгме адзіночнага ліку: *дойлидъ — дойлида — дойлиду — дойлида*. У множным ліку назоўнік *дойлидъ* таксама пачаў атрымліваць новыя канчаткі асноў на *ŏ* ў тых склонах, дзе канчаткі асноў на *ā* і *ŏ* адрозніваліся. Так, у назоўным склоне побач са старым канчаткам *-ы (дойлиды)* сустракаецца і новая форма на *-ове (дойлидове)*, як і ў іншых назоўніках мужчынскага роду тыпу *братове, купцове, сторожове*. У родным і вінавальным склонах множнага ліку гэты назоўнік з самага пачатку атрымаў канчатак былых асноў на *ĭ*, як і іншыя назоўнікі асноў на *ŏ (дойлидовъ)*.

З ліку запазычаных слоў па сваіх граматычных паказчыках прыкметна вылучаюцца назоўнікі лацінскага паходжання на *-um*. У беларускай мове, як і ў польскай, адкуль пранікла большая частка лацінізмаў, такія назоўнікі звычайна канчаюцца на зычны і па сваіх канчатках нічым не адрозніваюцца ад іншых назоўнікаў з асновай на *ŏ*: *argūmentum — аркгументъ, dēcrētum — декретъ, documentum — документъ, īnstrūmentum — инструментъ, lāmentum — ляментъ, mandātum — мандатъ, ōrnāmentum — орнаментъ, pactum — пактъ, pūnctum — пунктъ, respōnsum — респонсъ, sacrāmentum — сакраментъ, statūtum — статутъ, supplēmentum — суплементъ, textum — текстъ, temperāmentum — темпераментъ, testāmentum — тестаментъ, fundāmentum — фундаментъ*. Але разам з тым у помніках трапляюцца і такія назоўнікі гэтага разраду, якія захоўваюцца і ў беларускай мове з канцавым *-умъ: велюмъ, вотумъ, гонорариумъ, интерекгнумъ, капитулюмъ, колеиумъ, коллоквиумъ, концилиумъ, семинариумъ, спациумъ, субсидиумъ, субъектумъ, сцептрумъ, шкрутыниумъ*. Назоўнікі гэтага тыпу выяўляюць пэўную няўстойлівасць у сваім марфалагічным афармленні. Напрыклад, у пісьменнасці побач з формай *донативумъ* выступае і яе скарочаны варыянт *донативъ*, аналагічна *субъектумъ — субъектъ*. Назоўнік *сцептрумъ* вельмі пашыраны ў помніках пачатку XVII ст., але ў сярэдзіне гэтага стагоддзя ён фіксуецца ўжо ў скароча-

най форме: *не оттойдетъ сцептръ отъ Июды* (Кніга ражаяў XVII ст.). Паасобныя назоўнікі гэтай марфалагічнай прыналежнасці ў беларускай мове афармляліся па ўзору назоўнікаў жаночага роду: *armārium — армария (альмария), librārium — либрария, praesidium — президия, scrūtinium — шкрутыния* (побач з *шкрутыниумъ*).

Назоўнікі лацінскага паходжання, якія ў беларускай мове захоўвалі фармант *-умъ,* заставаліся нязменнымі ў адзіночным ліку. Шматлікія прыклады з помнікаў пацвярджаюць гэту іх асаблівасць: *на одъно вотумъ згодятьсе* (Статут 1588 г.); *Войселкъ... опановалъ колкось замковъ рускихъ подъ часъ интерекгнумъ* («Хроніка» Стрыйкоўскага); *мы ей маемо отъ светыхъ отцовъ на седмомъ конъцилиумъ давно потвержоную* (Зборнік № 107); *кождый человекъ можетъ быти субъектумъ згодное до крещения* (Збор выпадкаў); *знову онымъ сцептрумъ голову его бъютъ* (Зборнік № 255); *ваги несправедливости до самого центрумъ припали* («Дыярыуш» А. Філіповіча). Прыведзеныя прыклады разам з тым паказваюць, што гэтыя назоўнікі належалі да ніякага роду, чым яны таксама вылучаліся на фоне іншых назоўнікаў.

Выразнай граматычнай асаблівасцю назоўнікаў, якія паходзяць ад лацінізмаў на *-um,* з'яўляецца выступленне іх у форме множнага ліку назоўнага і вінавальнага склону з канчаткам *-а,* што таксама не было ўласціва для спрадвечна беларускіх назоўнікаў: *послове земъские местъца и вота свои мають мети* (Статут 1588 г.); *декрета не з головы але с писма чинити* (Трыбунал); *презъ свои инструмента передъ нимъ фохи строилъ* («Казанне» М. Сматрыцкага); *могутъ ли ся все сакрамента повтарати* (Дзідаскалія); *самые муровъ его фундамента на высокихъ наддеръ горахъ заложилъ* («Казанне» Л. Карповіча). Аднак і гэтыя назоўнікі прыстасоўваліся да граматычнай сістэмы беларускай мовы. У дзелавых помніках, якія найбольш поўна адлюстроўваюць жывую мову свайго часу, яны нярэдка маюць канчатак *-ы,* як і іншыя назоўнікі мужчынскага роду: *чотыри зъ рады меское воты свои подали; декреты и вси сказанья судовые... мають с писма чинити; выпалилъ фундаменты.*

Усе прыведзеныя граматычныя асаблівасці назоўнікаў лацінскага паходжання ўласцівы былі і польскай

мове таго часу. Гэта служыць важкім довадам у карысць меркавання, што большая частка такіх назоўнікаў пранікла ў беларускую мову з польскай, адкуль яны перанеслі і адзначаныя асаблівасці скланення.

Лацінскія назоўнікі на *-us* у старабеларускай мове таксама звычайна ўжываліся ва ўсечанай форме: *āctus — актъ, apparātus — апаратъ, articulus — артыкулъ, affectus — аффектъ, versus — вершъ, habitus — габитъ, dēspectus — деспектъ, dēfectus — дефектъ, conventus — конвентъ, magistrātus — магистратъ, prōventus — провентъ, prōgressus — прокгресъ, pulsus — пулсъ, sēnsus — сенсъ, triumphus — триумфъ*. Аднак і тут былі адхіленні, калі паасобныя словы гэтага тыпу выступалі, як і ў лацінскай мове, з канцавым *-усъ: видимусъ, градусъ, инкубусъ, макгусъ, темпусъ*. Праўда, і сярод іх пазней прыкметна выразілася тэндэнцыя да ўжывання ў скарочанай форме. Напрыклад, у канцы XV — пачатку XVI ст. лацінскі назоўнік *pardus* у беларускай мове ўжываўся ў форме *пардусъ*, але помнікі пачатку наступнага стагоддзя фіксуюць гэта слова ў выглядзе *пардъ*. Новы для беларускай мовы сярэдзіны XVII ст. навуковы тэрмін *гебраізм* у значэнні 'асаблівасць старажытнаяўрэйскай мовы' сустракаецца як у форме *гебраисмусъ*, так і ў выглядзе *гебраизмъ*. Гэта паказвае, што агульнай тэндэнцыяй пры запазычванні лацінскіх слоў на *-us* было імкненне адкідваць канцавы фармант. Назоўнікі гэтага тыпу ў старабеларускай мове вядомы былі таксама з канцавым *-ушъ: анимушъ, аркушъ, капелюшъ, протонотариушъ, фундушъ, юбилеушъ*. Такая іх асаблівасць таксама паказвае, што ў замацаванні і афармленні гэтых назоўнікаў значную ролю адыграла польская мова, дзе лацінскі фармант *-us* трансфармаваўся ў *-usz*.

Разглядаючы важнейшыя асаблівасці запазычаных назоўнікаў, неабходна адзначыць яшчэ, што некаторыя з іх замацаваліся ў старабеларускай мове ў форме множнага ліку: *букштабы, варцабы, кгоды, мары, плюндры, цимбалы, шаловары, шахи*. Зусім нязначная частка запазычаных назоўнікаў характарызуецца няўстойлівасцю граматычнага роду. Такія назоўнікі больш часта адзначаюцца ў форме жаночага роду *(кафля, крама, паля, ратуша, тарча)*, але трапляюцца часам і са структурай мужчынскага роду *(кафель, крамъ, паль, ратушъ, тарчъ)*. Лацінскае слова *prīvilēgium* распаўсюджана

было таксама ў форме двух родаў: мужчынскага (*привилей*) і ніякага (*привилье*).

У старабеларускую мову была запазычана і значная колькасць дзеясловаў галоўным чынам з лацінскай мовы. На беларускай глебе гэтыя дзеясловы афармляліся па польскаму ўзору пры дапамозе суфікса *-овати* (*-евати*): *администровати, актыковати, аллекговати, апелевати, апробовати, арендовати, ваковати, визытовати, вотовати, дедиковати, декградовати, декляровати, диспутовати, информовати, касовати, конклюдовати, лимитовати, обсервовати, практыковати, продуковати, протестовати, ревидовати, реставровати, сумовати, триумфовати, турбовати, формовати* і інш. Цікава адзначыць, што многія з такіх лацінізмаў пазней праніклі і ў рускую мову, але не непасрэдна з лацінскай мовы, а праз нямецкую, дзе яны афармляліся пры дапамозе суфіксаў *-ieren* або *-izieren*. З гэтымі нямецкімі суфіксамі яны і замацаваліся ў рускай мове: *администрировать, апеллировать, апробировать, визитировать, деградировать, декларировать, диспутировать, информировать* і г. д. Лацінізмы гэтага афармлення пашыраюцца ў сучаснай беларускай мове пад рускім уплывам, хоць яны, як было відаць з прыведзенага матэрыялу, не адпавядаюць асаблівасцям гістарычнага развіцця іх у беларускай мове.

Яркім паказчыкам актыўнага ўключэння запазычанняў у сістэму дзеяслова з'яўляецца здольнасць многіх з іх утвараць дзеепрыметнікі цяперашняга часу незалежнага стану, якія ў старабеларускай мове наогул складалі нармальную граматычную катэгорыю: *звитяжаючий, кламаючий, маестуючий, мордуючий, обфитуючий, офеpуючий, пануючий, протестуючий, триумфуючий, турбуючий, уфаючий, шемраючий, шкодячий, штрофуючий* і інш. Некаторыя з запазычаных дзеясловаў, па ўзору ўласнабеларускіх, утваралі дзеепрыметнікі зваротнасярэдняга стану, знешнім паказчыкам якіх выступае зваротная часціца *-ся*: *кохаючийся, рахуючийся, фрасуючийся*.

Найбольш прыкметнай асаблівасцю адаптацыі запазычаных прыметнікаў з'яўлялася падвядзенне іх пад дзеючыя ў старабеларускай мове парадыгмы. Так, усе запазычаныя з польскай мовы прыметнікі на *-y, -i* прынялі ў назоўным склоне адзіночнага ліку канчатак *-ый/-ий*: *wiekuisty — векуистый, doskonały — доскона-*

*лый, zupełny — зупелный, łatwy — латвый, obecny — обецный, przyzwoity — призвоитый, rzetelny — ретелный, sowity — совитый, ustawiczny — уставичный, chędogi — хендогий, cudny — цудный, szczególny — щекгульный* і інш. Гэтак жа аформіліся і заходнеславянскія субстантываваныя прыметнікі: *podkomorzy — подкоморий, podskarbi — подскарбий, podczaszy — подчаший.*

Сутнасць семантычнага асваення заключаецца ў станаўленні лексічнага значэння іншамоўнага па паходжанню слова ў новым моўным асяроддзі. Семантычнае асваенне чужых лексічных элементаў з'яўляецца наогул адной з найбольш яркіх прыкмет іх трывалага замацавання ў лексічнай сістэме мовы, якая запазычвае. Яно, як і фанетычная і марфалагічная адаптацыя, сведчыць аб уключэнні гэтых лексічных адзінак у актыўны слоўнікавы запас мовы і аб іх здольнасці нароўні з уласнымі словамі выконваць камунікатыўную функцыю. Здольнасць запазычанняў выкарыстоўвацца ў пісьмовых і вусных зносінах знаходзілася ў прамой залежнасці ад аўтаномнасці іх семантыкі і ад трываласці сувязі з моўнай сістэмай і ў старабеларускі перыяд. Найбольш падыходзячымі для камунікатыўных мэт аказваліся, безумоўна, лексемы, якія вызначаліся семантычнай празрыстасцю, канкрэтнасцю і былі засвоены значнай часткай беларускага насельніцтва. Усе астатнія іншамоўныя словы, якія часам адлюстроўваліся ў пісьмовых помніках, выконвалі толькі стылістычныя функцыі.

Семантычнае пераўтварэнне, адаптацыя і развіццё запазычанага слова пачынаецца ў момант уваходжання яго і працягваецца ўсё жыццё слова, пакуль існуюць кантакты паміж мовай-крыніцай і мовай-рэцэптарам. Пранікаючы ў новае моўнае асяроддзе, запазычанае слова прыстасоўваецца да чужой лексічнай сістэмы, уваходзіць у чужыя для яго лексічныя сувязі. Пры гэтым яно адрываецца ад шырокага кола разнастайных значэнняў, уласцівых яму ў роднай мове, і замацоўваецца ў адным спецыфічным значэнні. Адсюль аднапланавасць, адназначнасць новага запазычання ў пачатковы перыяд існавання яго ў новых умовах. У адносінах да старабеларускага перыяду гэта можна сказаць аб некаторых лацінізмах і германізмах, запазычаных непасрэдна і праз пасрэдніцтва польскай мовы. Для прыкладу можна прывесці лацінскае па паходжанню слова *авторъ,*

што ў лацінскай мове мела значэнні 'заснавальнік, стваральнік, тварэц, віноўнік, родапачынальнік, вынаходца, выдумшчык, пісьменнік, аўтар, прыхільнік, руплівец, заступнік, абаронца, змагар, дарадчык, аўтарытэтная крыніца, паручыцель, сведка, кіраўнік і інш.' У польскай мове лацінізм *autor* выкарыстоўваўся ўжо з больш вузкай семантычнай нагрузкай 'віноўнік, тварэц, вынаходца, заснавальнік, пісьменнік, аўтар'. Са звужаным семантычным дыяпазонам 'вынаходца, тварэц, аўтар' гэта слова было запазычана з польскай мовы ў старабеларускую, дзе ўжывалася ў форме *авторъ: нармунтъ был першим автором гербу або клейноту великого князства литовского* («Хроніка» Стрыйкоўскага); *омиръ авторъ той тройской повести* («Траянская гісторыя»). Другім прыкладам падобнага спрашчэння семантычнай структуры іншамоўнага слова можа служыць германізм *кгрунтъ,* які меў у старабеларускай мове семантычную нагрузку 'зямля, аснова, зямельная ўласнасць': *дети мои... на грунте купномъ... зоставати мають* (Дзелавы дакумент XV ст.); *кгрунты горъ зрушилися* (Псалтыр XVI ст.); параўн. стп. *grunt* 'пункт апоры, дно ракі, участак зямлі, зямельная ўласнасць, паверхня зямлі, фундамент, падваліна, аснова, першая фарба, на якую кладуць іншыя'<свн. *grund* 'дно, глеба, грунт, зямля, зямельная ўласнасць, участак зямлі, даліна, лагчына, глыбіня, прорва, фон, фундамент, аснова, прычына'.

Часцей, аднак, старабеларуская мова запазычвала словы са спрошчанай або змененай семантыкай у мовах-пасрэдніках. Сярод гэтых лексем выразна вылучаюцца дзве групы. Адну з іх складаюць словы, якія ўжываліся ў мове-пасрэдніку з якім-небудзь адным значэннем, страціўшы іншыя значэнні этымона. У першую чаргу гэта датычыць полісемантычных лексічных адзінак лацінскага і нямецкага паходжання, якія прыйшлі да нас праз польскую мову, параўн. лац. *apparātus* 'падрыхтоўка, запасы, забеспячэнне, абсталяванне, прылады, машыны, роскаш, пышнасць, бляск' — стп. *aparat* і стбел. *апаратъ* 'царкоўная маёмасць, амуніцыя'; лац. *argūmentum* 'прадмет выкладання, сюжэт, змест, фабула, твор, тэатральная п'еса, камедыя, сцэна, праўдзівасць, справядлівасць, ісціна, фактычны доказ, аснова, падстава' — стп. *argument* і стбел. *аркгументъ* 'доказ, аргумент'; лац. *condicio* 'становішча, прызначэнне, пры-

званне, уласцівасць, вобраз, умова, дагавор, згода, шлюбны кантракт, жаніцьба, любоўная інтрыга, сувязь' — стп. *kondycyja* і стбел. *кондиция* 'умова, дагавор'; свн. *truhe* 'скрынка, шафа, труна, драўляны жолаб для сцёку вады з магілы' — стп. *truna* і стбел. *труна* 'труна'; свн. *morgen* 'раніца, мера зямлі, якую можна заараць адным канём за раніцу' — стп. *morg* і стбел. *моркгъ* 'мера зямлі' і інш.

У другую групу можна ўключыць словы, якія набылі ў мове-пасрэдніку новыя значэнні, невядомыя мове-крыніцы, і з гэтымі значэннямі замацаваліся пазней у старабеларускай мове. У гэтых адносінах пэўны матэрыял дае супастаўленне наступных лексічных паралеляў: лац. *arcus* 'дуга' — стп. *arkusz* 'ліст паперы, бляхі' — стбел. *аркушъ* 'т. с.'; свн. *erbe* 'рэч, дробязь, упрыгожанне, каштоўная рэч'—стп. *herb* 'шляхецкі знак, герб' — стбел. *гербъ* 'т. с.'; свн. *hufe* 'кучка прадметаў, натоўп' — стп. *huf* 'атрад' — стбел. *гуфъ* 'т. с.'; венг. *gyermek* 'дзіця' — стп. *giermek* 'зброеносец' — стбел. *гермокъ* 'т. с.'; лац. *legūmen* 'бабовая расліна' — стп. *legumina* 'гародніна' — стбел. *лекгумина* 'т. с.' і інш. Абсалютнае супадзенне семантыкі гэтых слоў у старабеларускіх помніках з іх семантычным дыяпазонам у старапольскай мове з'яўляецца надзейным доказам таго, што іх шлях у беларускую мову ляжаў праз польскую мову, і, безумоўна, аб непасрэдных беларуска-лацінскіх, беларуска-нямецкіх або беларуска-венгерскіх моўных кантактах у такіх выпадках гаварыць не прыходзіцца.

Побач з засваеннем у пачатку запазычвання толькі аднаго са значэнняў шматзначнага іншамоўнага слова часам заўважаецца таксама адначасовае ўваходжанне ў мову двух або некалькіх значэнняў гэтага слова. Але гэта, як правіла, датычыць толькі такіх лексічных значэнняў, якія ў мове-крыніцы цесна звязаны адно з другім у адзін семантычны пучок, больш або менш выразна адмежаваны ад астатніх значэнняў таго ж слова. Прыкладам можа служыць германізм *бунтъ*, які ў старабеларускай мове ўжываўся ў значэннях 'бунт, мяцеж', 'вязка, цюк' (параўн. стп. *bunt* 'т. с.'<свн. *bunt* 'т. с'), або лацінізм *кадукъ* 'падучая хвароба, эпілепсія', 'вымарачнае права' (параўн. стп. *kaduk* 'т. с.'<лац. *cadūcus* 'т. с.').

Значна большую цікавасць уяўляюць запазычаныя

словы, семантыка якіх падверглася пэўным зрухам ужо на беларускай глебе: адбылося пашырэнне значэння слоў, страціліся старыя значэнні, словы набылі тую або іншую стылістычную афарбоўку і інш. Аналіз фактычнага матэрыялу з пісьмовых помнікаў XIV—XVIII стст. паказвае, аднак, што такія змены ў першапачатковых значэннях запазычаных слоў у беларускай мове былі рэдкай з'явай. Сярод нешматлікіх прыкладаў семантычнага развіцця запазычаных слоў можна назваць германізм *румъ,* у якім з'яўленне новага значэння адбылося адначасова са стратай некаторых старых значэнняў. У сярэдневерхненямецкіх дыялектах лексема *rum* мела значэнні 'прастора, месца, вольнае поле, вольная дарога', у старапольскай мове яна абазначала ўжо 'вольную дарогу, праход, вольнае месца'. Яшчэ большае звужэнне семантычнага дыяпазону гэтага слова адбылося ў старабеларускай мове, дзе за ім замацавалася толькі значэнне 'вольнае месца': *клетки маютъ быти не клинястые, але вздлужъ, абы клетками руму много не займовати* (Дзелавы помнік XVI ст.). Разам з тым у старабеларускай мове за словам *румъ* замацавалася новая семантычная нагрузка 'месца пагрузкі', не ўласцівая раней ні польскай, ні нямецкай мове: *тотъ попелъ на руме залежалъ* (Дзелавы помнік XVI ст.).

Некалькі шырэй прадстаўлены ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове запазычанні, якія наогул змянілі свае першапачатковыя значэнні. Сярод іх больш за ўсё цюркізмаў, напрыклад: кр.-тат. *bunčuk* 'ракавіны, бусы на шыі каня' — стбел. *бунчукъ* 'конскі хвост на наканечніку кап'я як сімвал вышэйшай улады'; тур. *kaid* 'завязка' — стбел. *койданы* 'кайданы' і інш. Зусім іншае значэнне атрымалі ў старабеларускай мове і некаторыя словы заходняга паходжання, у прыватнасці лексема *виятыкъ* 'дарожны плашч' (параўн. стп. *wijatyk* 'забеспячэнне на дарогу'<лац. *viaticum* 'т. с.'); *кунштъ* 'фокус, жарт' (параўн. стп. *kunszt* 'мастацтва, майстэрства'<свн. *kunst* 'веданне, мудрасць, здольнасць да мастацтва, мастацтва') і інш.

Асноўнае ж ядро запазычанай старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовай іншамоўнай лексікі складаюць адназначныя словы, якія захавалі значэнні сваіх этымонаў часта нягледзячы на пасрэдніцтва іншых моў. Не атрымалі, напрыклад, на беларускай глебе семантычна-

га развіцця грэцызмы *астрономия, епифания, иерархия, кассия, митра, смирна, халванъ;* лацінізмы *администрация, гонорариумъ, декретъ, дефектъ, инспекторъ, инстанция, коллега, ликга, пактъ, текстъ, фортуна;* германізмы *баволна, бляха, гамовати, крейда, смакъ, раховати, талеръ, фалшъ* і інш. У значэннях, уласцівых мовам-крыніцам, засталіся ў старабеларускай мове і паланізмы *абовемъ, барзо, валька, жебы, зацный, иле, кгды, нендза, пенкный, трутизна;* літуанізмы *бонда, дойлидъ, койминецъ, кульша, мезлева, торпостай;* цюркізмы *асаулъ, борсукъ, кобанъ, молла, мурза, ордокъ, тараканъ* і г. д.

Такім чынам, фанетычная, марфалагічная і семантычная адаптацыя запазычанняў на беларускай глебе з'яўлялася неабходнай умовай для іх трывалага замацавання ў лексічнай сістэме старабеларускай мовы. Ад яе ступені ў значнай меры залежаў лёс паасобных іншамоўных лексем і іх функцыянальная актыўнасць у новых умовах. Многія лексемы, фанетыка-марфалагічнае асваенне і семантычная адаптацыя якіх уяўлялі сабой працяглы гістарычны працэс, далучыліся да актыўнага слоўнікавага запасу беларускага насельніцтва параўнальна позна. Значная колькасць слоў, асвоеных часткова, функцыяніравала толькі ў вузкіх жанрава-стылявых разнавіднасцях старабеларускай пісьменнасці або нават у паасобных пісьмовых помніках, не стаўшы сродкамі шырокага народнага ўжытку. І толькі тыя запазычанні, якія цалкам прыстасаваліся да фанетычнай сістэмы старабеларускай мовы, ідэнтыфікаваліся з яе граматычнымі катэгорыямі і характарызаваліся высокай ступенню семантычнай асіміляцыі, поўным адрывам ад мовы-крыніцы, не страцілі сваю жыццяздольнасць на працягу ўсяго старажытнага перыяду, выконваючы, як і ўласнабеларускія словы, аднолькава актыўную камунікатыўную функцыю.

## СЛОВАЎТВАРАЛЬНАЯ АКТЫЎНАСЦЬ ЗАПАЗЫЧАННЯЎ

Акрамя фанетычнай, марфалагічнай і семантычнай адаптацыі запазычанняў, адной з яркіх прыкмет трывалага ўваходжання многіх іншамоўных па паходжанню слоў у лексічную сістэму старабеларускай мовы з'яўлялася здольнасць іх, побач з уласнабеларускімі словамі,

утвараць новыя лексічныя адзінкі. Хоць гэты працэс адбываўся неаднолькава ў розныя гістарычныя перыяды і ахопліваў толькі частку лексічнага матэрыялу, у ім можна выявіць некаторыя агульныя і прыватныя асаблівасці, якія больш дакладна вызначаюць месца запазычанняў у старабеларускай лексічнай сістэме.

Вывучэнне старабеларускіх запазычанняў з пункту погляду іх словаўтваральнай здольнасці паказвае, што не ўсе яны ў аднолькавай ступені прымалі ўдзел ва ўтварэнні новых слоў. Найбольшай актыўнасцю ў словаўтваральным працэсе вылучаліся запазычаныя лексемы абстрактнага зместу, менш за ўсё дэрыватаў утварылася ад слоў з канкрэтным, прадметна-тэматычным значэннем. Увогуле ж з ліку выяўленых у помніках старажытнай беларускай пісьменнасці 3 635 запазычанняў толькі 1 502, г. зн. 41,3%, валодалі здольнасцю ўтвараць новыя словы, а астатнія зафіксаваны як адзінкавыя ў сваёй зыходнай форме.

Як сведчаць матэрыялы старажытных беларускіх пісьмовых помнікаў, найбольш актыўна ўдзельнічалі ў словаўтваральным працэсе назоўнікі, а самым агульным і ўстойлівым на працягу развіцця старабеларускай мовы словаўтваральным тыпам было ўтварэнне на аснове назоўнікаў розных форм прыметнікаў. Пры гэтым адносныя і прыналежныя прыметнікі з аднолькавай верагоднасцю маглі з'яўляцца як ад запазычанняў са значэннем асобы, так і ад слоў, якія абазначалі канкрэтныя бытавыя прадметы і жыццёвыя паняцці.

Пры ўтварэнні прыметнікаў ад назоўнікаў са значэннем асобы сваю словаўтваральную ролю часцей за ўсё выконвалі суфіксы *-ск- (-цк-), -ов- (-ев-), -ин-*. З'яўляючыся звычайнымі ў старабеларускай мове, яны надавалі іншамоўным словам тыпова беларускае марфалагічнае афармленне і гэтым садзейнічалі больш інтэнсіўнаму далучэнню іх да актыўнага слоўнікавага запасу беларускага насельніцтва:

*-ск- (-цк-): администраторъ — администраторский, арендаръ — арендарский, ариянинъ — ариянский, астрономъ — астрономский, базилиянинъ — базилиянский, грамматикъ — граматицкий, гарбаръ — гарбарский, гафтаръ — гафтарский, деликатъ — деликацкий, депутатъ — депутатский, диктаторъ — диктаторский, директоръ — директорский, дойлидъ — дойлидский, докторъ — доктор-*

*ский, драбъ — драбский, друкаръ — друкарский, дызунитъ — дызунитский, езуитъ — езуитский, епикуръ — епикурский, жеглярь — жеглярский, жибентяй — жибентяйский, жолнеръ — жолнерский, калвинъ — калвинский, кгвардыанъ — кгвардианский, капланъ — капланский, кардиналъ — кардиналский, комисаръ — комисарский, крижакъ — крижацкий, кушнеръ — кушнерский, маляръ — малярский, машталеръ — машталерский, мордеръ — мордерский, мусулманинъ—мусулманский, мынцаръ — мындзарский, ораторъ — ораторский, плебанъ — плебанский, прокураторъ — прокураторский, ревизоръ— ревизорский, ройтиникъ — ройтиницкий, рыцеръ — рыцерский, сенаторъ — сенаторский, студентъ — студентский, сурокгаторъ — сурокгаторский, чабанъ — чабанский, шатанъ — шатанский, шкрутаторъ — шкрутаторский, шницаръ — шницарский;*

*-ов- (-ев-): арендаръ — арендаревъ, барверъ — барверовъ, бурмистръ — бурмистровъ, войтъ — войтовъ, герциръ — герциревъ, деспотъ — деспотовъ, деканъ — декановъ, дойлидъ — дойлидовъ, жолнеръ — жолнеровъ, збродень — збродневъ, кардиналъ — кардиналовъ, каштелянъ — каштеляновъ, комесъ — комесовъ, мастеръ — мастеровъ, месиашъ — месиашовъ, опатъ — опатовъ, охмистръ — охмистровъ, паралитикъ — паралитиковъ, похлебца — похлебцовъ, секретаръ — секретаровъ, суфракганъ — суфракгановъ, чаушъ — чаушовъ, шалберъ— шалберовъ;*

*-ин-: альтариста — алтаристинъ, баша — башинъ, жолнеръ — жолнеринъ, кграбя — кграбинъ, метрополита —метрополитинъ, молла — моллинъ, мурза — мурзинъ, органиста — органистинъ, рыкунья — рыкуньинъ.*

У сваю чаргу новыя прыметнікі часам служылі асновай для ўтварэння субстантываваных назоўнікаў жаночага роду, якія выкарыстоўваліся для абазначэння жонак розных службовых асоб, як у выпадках *вицеокономовая, войтовая, грабиная, дойлидовая, кгубернаторовая, маршалковая, охмистровая, подскарбиная, почтаровая, референдаровая, ротмистровая, улановая.*

Яшчэ большай разнастайнасцю характарызаваліся словаўтваральныя сродкі, якімі забяспечваліся асновы назоўнікаў пры ўтварэнні прыметнікаў ад слоў, якія з'яўляліся назвамі пэўных прадметаў бытавога прызначэння, матэрыялаў, рэчываў, канкрэтных жыццёвых

паняццяў. Вытворнымі асновамі пры гэтым маглі быць назоўнікі як мужчынскага, так і жаночага роду:

*-ов- (-ев-): адамашка — адамашковый, алябастръ — алябастровый, аметистъ — аматистовый, бардышъ — бардышовый, барханъ — бархановый, буракъ — бураковый, видимусъ — видимусовый, выдеркафъ — выдеркафовый, гандель — гандлевый, гербъ — гербовый, гиацинтъ — гиацинтовый, голдъ — голдовый, дактилъ — дактиловый, ексцесъ — ексцесовый, жичка — жичковый, инвентаръ — инвентаровый, кадукъ — кадуковый, канавацъ — канавацовый, каразия — каразиевый, кармазинъ — кармазиновый, коберецъ — коберцовый, компутъ — компутовый, лавданъ — лавдановый, лилия — лилиовый, люндышъ — люндышовый, мандатъ — мандатовый, мармурокъ — мармурковый, микгдалъ — микгдаловый, муниментъ — муниментовый, мушкетъ — мушкетовый, нардъ — нардовый, окрутъ — окрутовый, пастарнакъ — пастарнаковый, помаранчъ — помаранчовый, пулсъ — пулсовый, ретентъ — ретентовый, рурмусъ — рурмусовый, рынокъ — рынковый, терпентина — терпентиновый, туркусъ — туркусовый, утерфинъ — утерфиновый, фалюндышъ — фалюндышовый, цвилихъ — цвилиховый, цынамонъ—цынамоновый, чамлетъ—чамлетовый, шафиръ — шафировый, шпиканардъ — шпиканардовый, юбилеушъ — юбилеушовый;*

*-н-: амбаръ — амбарный, аптека — аптечный, булгакъ — булгачный, влусъ — влусный, есакъ — есачный, кабакъ — кабачный, кабала — кабалный, кляшторъ — кляшторный, кухня — кухонный, куфтеръ — куфтерный, панцеръ — панцерный, практика — практичный, ратушъ — ратушный, реверсалъ — реверсальный, рожай — рожайный, сагайдакъ — сагайдачный, сафъянъ — сафъянный, сукманъ — сукманный, табакъ — табачный, турма — туремный, тютюнъ — тютюнный, уюкъ — уючный, фара — фарный, шертъ — шертный, шлямъ — шлямный, юриздика — юрздичный;*

*-ан- (-ян-): баволна—баволняный, жесть — жестяный, китайка — китайчаный, тасма — тасмяный, тафта — тафтяный, цегла — цегляный;*

*-ск- (-цк-): кабакъ — кабацкий, корованъ — корованский, музыка — музыцкий, пурпурыянъ — пурпурыянский;*

*-чат-: камка — камчатый, китайка — китайчатый;*

*-оват-: громакъ — громоковатый, вродъ — вродоватый, кастанъ — каштановатый, шпакъ — шпаковатый, шрамъ — шрамоватый* і інш.

Удзел большасці беларускіх суфіксаў ва ўтварэнні прыметнікаў ад іншамоўных назоўнікавых асноў сведчыць аб замацаванні гэтых запазычанняў у старабеларускай мове, аб высокай ступені іх лексічнага і граматычнага асваення.

Назоўнікі ж з'яўляліся асновай для ўтварэння многіх новых назоўнікаў. Даволі прадуктыўным, напрыклад, было ўтварэнне назоўнікаў мужчынскага роду, якія абазначалі асоб у залежнасці ад іх сацыяльнага становішча, займаемай пасады або роду заняткаў. Пры гэтым у большасці выпадкаў узорам служыла агульнаславянская мадэль назоўнікаў з суфіксам *-ник,* які праяўляў вялікую актыўнасць ужо ў старажытнарускую эпоху і з'яўляўся асноўным марфалагічным сродкам для ўтварэння назваў асоб мужчынскага полу ў старабеларускай мове: *барышъ — барышникъ, бачмакгъ — бачмажникъ, бунтъ — бунтовникъ, вахта — вахтовникъ, войлокъ — войлочникъ, гандель — гандлевникъ, гапликъ — гапличникъ, гута — гутникъ, делята — делятникъ, дякло — дяколникъ, есакъ — есачникъ, жолдъ — жолдникъ, имбаръ — имбарникъ, кварта — квартникъ, кгусла — гусльникъ, лина — линникъ, могоричъ — могоричникъ, нагайка—нагаечникъ, нендза — нендзникъ, сагайдакъ — сагайдачникъ, стодола — стодолникъ, тарча — тарчникъ, улусъ— улусникъ, шиндель — шиндельникъ.* У сваю чаргу гэтыя новаўтварэнні служылі базай для з'яўлення назоўнікаў жаночага роду на *-ниц-а* тыпу *вшетечница, нендзница, стодолница, тютюнница.*

З іншых марфалагічных сродкаў, якія выкарыстоўваліся ў старабеларускі перыяд для ўтварэння новых слоў са значэннем дзеючай асобы ад запазычаных назоўнікаў, можна адзначыць наступныя:

*-ич (-ыч): баша — башичъ (башычъ), молла — моличъ;*

*-ович (-евич): баша — башевичъ, бурмистръ — бурмистровичъ, гаевникъ — гаевниковичъ, кашталянъ — кашталяновичъ, маршалокъ—маршалковичъ, охмистръ— охмистровичъ, уланъ — улановичъ;*

*-аръ (-оръ): блехъ — блехаръ, монета — монеторъ, рахуба — рахубаръ, тижма — тижмаръ;* дарэчы, як ужо

адзначалася, значная частка назоўнікаў з суфіксам *-аръ* была запазычана беларускай мовай у гатовым выглядзе з польскай мовы: *аптекаръ, арендаръ, гафтаръ, крамаръ, мынцаръ, практикаръ, сектаръ.*

Вытворныя ад запазычаных назоўнікаў назвы асоб з суфіксам *-ец* знайшлі адлюстраванне ў старабеларускай пісьменнасці ў адзінкавых выпадках: *капланъ — капланецъ.* Таксама рэдка сустракаюцца тут новаўтварэнні з суфіксам *-щик (-чик): корованъ — корованщикъ (кoрованьчикъ), сенаторъ — сенаторщикъ.* Больш часта назвы асоб з суфіксам *-чик* тыпу *гарбарчикъ, крамарчикъ, млынарчикъ* запазычваліся ў гатовым выглядзе з польскай мовы, якая перадала беларускай мове XVI—XVII стст. таксама значную колькасць назваў жыхароў пэўных краін і гарадоў накшталт *аморейчикъ, асирейчикъ, атенчикъ, вавилончикъ, галилейчикъ, египчикъ, македончикъ, палестинчикъ* і інш.

Назвы асоб жаночага роду ўтвараліся ад адпаведных назоўнікаў мужчынскага роду пры дапамозе суфікса *-к-: аптекаръ — аптекарка, арендаръ — арендарка, ариянинъ — ариянка, гафтаръ — гафтарка, евикторъ — евикторка, кухаръ — кухарка, патронъ—патронка, принципалъ — принципалка, сенаторъ — сенаторка, сукцесоръ — сукцесорка, султанъ — султанка, фундаторъ — фундаторка, шинкаръ — шинкарка, шипаръ — шипарка.*

Пры ўтварэнні ад назоўнікавых асноў новых лексічных адзінак з абагульненымі назвамі прафесіі, пасады, занятку, рэлігійнага кірунку звычайна выкарыстоўваўся суфікс *-ств-: авдиторъ — авдиторство, акторъ — акторство, ариянинъ — ариянство, арцибискупъ — арцибискупство, балверъ — бальверство, владаръ — владарство, гайдукъ — гайдуцство, гетманъ — гетманство, дикгнитаръ — дикгнитарство, докторъ—докторство, жебракъ — жебрацство, жолнеръ — жолнерство, капланъ — капланство, кацеръ — кацерство, коадъюторъ — коадъюторство, комисаръ — комисарство, малеръ — малерство, мехляръ — махлярство, моцаръ — моцарство, опатъ — опатство, плебанъ — плебанство, прелатъ — прелацство, рыцеръ — рыцерство, сенаторъ — сенаторство, субдиаконъ—субдиаконство, фавторъ—фавторство, фалшеръ—фалшерство, фурманъ — фурманство, шалберъ — шалберство, шафаръ — шафарство, ширмеръ — ширмерство, шпегеръ — шпикгирство.*

Менш актыўным сродкам пры ўтварэнні гэтага тыпу назоўнікаў з'яўляўся суфікс *-овств-*: *бурмистръ — бурмистровство, войтъ — войтовство, катъ — катовство, кухмистръ — кухмистровство, лотръ — лотровство, магистеръ — магистровство, маршалокъ — маршалковство, охмистръ — охмистровство.*

Словаўтваральнымі сродкамі, якія выкарыстоўваліся пры ўтварэнні назоўнікаў са значэннем месца вытворчасці, працы, захавання прадуктаў вытворчасці, каштоўнасцей, тавараў, былі суфіксы *-н-*, *-ниц-*: *блехаръ — блехарня, друкаръ — друкарня, зекгаръ — зекгарня, катъ — катовня, цекгла — цекгельня, шина — шинарня; едвабъ — едвабница, крама — крамница, скарбъ — скарбница.* Ужываўся суфікс *-ниц* і пры ўтварэнні назваў зброі і вайсковай амуніцыі тыпу *гакъ — гаковница, тарасъ — тарасница.* Аднак колькасць навaтвораў гэтага характару аказалася ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове параўнальна невялікай.

Яркім сведчаннем трывалага ўваходжання многіх запазычаных назоўнікаў у лексічную сістэму старабеларускай мовы была іх здольнасць утвараць словы з суфіксамі эмацыянальнай ацэнкі. Пры гэтым утвараліся назоўнікі ўсіх трох родаў. Большай разнастайнасцю словаўтваральных сродкаў характарызаваліся дэрываты мужчынскага роду:

*-ок (-ек): боклагъ — боклажокъ, бохонъ — бохонокъ, возникъ — возничекъ, воръ — ворокъ, гакъ — гачокъ, индеракъ — индерачокъ, кгротъ — кгротокъ, келихъ — келишокъ (келишекъ), килимъ — килимокъ, козакъ — козачокъ, колпакъ — колпачокъ, коминъ — коминокъ, лантухъ — лантушокъ, монштукъ — монштучекъ, поврозъ — поврозокъ, рантухъ — рантушокъ, свиренъ — свиренокъ, спратъ — спратокъ, трибъ — трыбокъ, фартухъ — фартушокъ, цвекъ — цвечокъ;*

*-ик (-ык-): бунтъ — бунтикъ, гаркабузъ — гаркабузикъ, грошъ — грошикъ, дрыкгантъ — дрыкгатикъ, кабатъ — кабатикъ, кафтан — кафтаникъ, кнебель — кнебликъ, коцъ — коцыкъ, крижъ — крижикъ, куфаль — куфликъ, лейцъ — лейчыкъ, лихтанъ — лихтаникъ, лотръ — лотрикъ, можджеръ — можджерикъ, моментъ — моментикъ, пунктъ — пунктикъ, реестръ — реестрикъ, сандалъ — сандаликъ, соймъ — соймикъ, стосъ — стоцикъ, шофель — шопликъ, шпихлеръ — шпихлерикъ;*

*-ец: атласъ — отласецъ, биретъ — биритецъ, гуфъ — гуфецъ, колнеръ — колнерецъ, роструханъ — роэтуханецъ, имбаръ — имбарецъ, курганъ — курганецъ, сандалъ — сандалецъ, скарбъ — скарбецъ.*

Формы экспрэсіўнай ацэнкі жаночага роду ўзнікалі ў выніку далучэння да асноў назоўнікаў суфікса *-к-: барила — барилка, барда — бардка, бламъ — бламка, бляха — бляшка, брама — брамка, гафтъ — гафтка, гуня — гунька, делия — делийка, делюра — делюрка, ендова — ендовка, калита — калитка, крата — кратка, кельня — келенка, колдра — колдерка, комната — комнатка, копия — копийка, курта — куртка, литера — литерка, макула — макулка, манеля — манелька, павеза — павезка, патына — патынка, пипа — пипка, пончоха — пончошка, саля — салька, сервета — серветка, таблица — табличка, талеръ — талерка, ташъ — ташка, труна — трунка, фаса — фаска, фляша — фляшка, фура — фурка, хвиля — хвилька, цедула — цедулка, шафа — шафка, шкатула — шкатулка, шлея — шлейка, шопа — шопка, штука — штучка, шуфляда — шуфлядка, юпа — юпка.* Гэты ж суфікс набывалі і памяншальна-ласкальныя формы назоўнікаў ніякага роду, хоць у параўнанні з формамі жаночага роду яны выступалі значна радзей: *дело — делко, жродло — жроделко, олстро — олстерко, пуздро — пуздерко.*

Часам для ўтварэння памяншальна-ласкальных назоўнікаў выкарыстоўваліся суфіксы *-очк-, -очек: булка — булочка, ройстро — ройсточко, статокъ — статочекъ, стырта — стирточка, торба — торбачка, члонекъ — члоночекъ.* У выніку пры некаторых назоўніках памяншальна-ласкальныя формы размяшчаюцца па ступеньчатай мадэлі: *карта — картка — карточка, коновъ — коновка — коновочка, форта — фортка — форточка, шмата — шматина — шматинка.*

Меншую актыўнасць у словаўтваральным працэсе выяўлялі ў старабеларускай мове запазычаныя прыметнікі. Ад іх фактычна маглі ўтварацца толькі пэўныя назоўнікі і прыслоўі. Звычайным было, напрыклад, утварэнне ад прыметнікавых асноў назоўнікаў з адцягненым значэннем уласцівасці, якасці, стану пры дапамозе суфікса *-ость: велебный — велебность, велможный — велможность, вилкготный — вилкготность, вспанялый — вспанялость, встремежливый — встремежливость, віше-*

*течный — вшетечность, вшехмоцный — вшехмоцность, зацный — зацность, зупелный — зупелность, зухвалый — зухвалость, зъедлый — зъедлость, крнобрный — крнобрность, лацный — лацность, належитый — належитость, обецный — обецность, обфитый—обфитость, окрутный—окрутность, оспалый — оспалость, пенкный — пенкность, повшехный — повшехность, посполитый — посполитость, прожный — прожность, розмаитый — розмаитость, сличный — сличность, спросный — спросность, субтелный — субтелность, шкарадый — шкарадость.*

Пры ўтварэнні прыслоўяў да асноў запазычаных прыметнікаў далучаўся суфікс *-е (-о): бучный — бучне (бучно), векуистый — векуисте, вшетечный — вшетечне, дочесный — дочесне, завитый — завите, зацный — зацне, збытний — збытне, зупелный — зупелне, латвый — латве (латво), лацный — лацно, литералный — литерално, меновитый — меновите, натуралный — натуралне, обфитый — обфите, обополный — обопольне, опачный —опачне, остатечный — остатечне, окрутный — окрутне, пенкный — пенкне, персоналный — персоналне, плонный — плонно, приватный — приватне, сакраменталный — сакраментaлне, сличный — сличне, субтелный — субтелне, снадный — снадне, спросный — спросне, умеетный — умеетне, упреймый — упрейме, уставичный — уставичне, щекгульный — щекгульне.*

У адрозненне ад назоўнікаў і прыметнікаў, ад якіх маглі ўтварацца іншыя часціны мовы, запазычаныя дзеясловы служылі звычайна для ўтварэння дзеясловаў. Пры гэтым істотную ролю выконвала прэфіксацыя, а найбольш ужывальнымі прыстаўкамі былі наступныя:

*вы-: бадати — выбадати, волати — выволати, гафтовати — выгафтовати, малевати — вымалевати, плендровати — выплендровати, ратовати — выратовати, раховати — выраховати, рысовати — вырысовати, тынковати — вытынковати, цвичити — выцвичити, шиковати — вышиковати;*

*з- (с-): бадати — збодати, браковати — збраковати, валчити — звалчити, визытовати — звизытовати, волати — зволати, вонтпити — звонтпити, голдовати — зголдовати, мордовати — змордовати, касовати — скасовати, плендровати — сплендровати, працовати — спрацовати, раховати — зраховати, турбовати — зтурбовати, шиковати — зшиковати;*

*за-: арештовати — заарештовати, волати — заволати, гамовати — загамовати, кохати — закохатися, мордовати — замордовати, нехати — занехати, працовати — запрацовати, тамовати — затамовати, турбовати — затурбовати, фрасовати — зафрасовати, фрахтовати — зафрахтовати;*

*на-: будовати — набудовати, важити — наважити, друковати — надруковати, керовати — накеровати, ладовати — наладовати, малевати — намалевати, раховати — нараховати, рысовати — нарысовати, строфовати — настрофовати, трафити — натрафити, фасовати — нафасовати;*

*по-: волати — поволати, гамовати — погамовати, жекгнати — пожекгнати, коштовати — покоштовати, мордовати — помордовати, нехати — понехати, плендровати — поплендровати, працовати — попрацовати, ратовати — поратовати, раховати — пораховати, трафити — потрафити, турбовати — потурбовати, фарбовати — пофарбовати, шановати — пошановати, шанцовати — пошанцовати.*

*у-: варовати — уваровати, велбити — увелбити, гамовати — угамовати, деспектовати — удеспектовати, контентовати — уконтентовати, малевати — умалевати, мордовати — умордовати, патрити — упатрити, ратовати — уратовати, фундовати — уфундовати, шановати — ушановати.*

Менш прадуктыўна выкарыстоўваліся пры ўтварэнні дзеясловаў ад запазычаных дзеясловаў прыстаўкі *до-* (*муровати — домуровати, плендровати — доплендровати*), *о-* (*патрити — опатрити, шацовати — ошацовати*), *об-* (*варовати — обваровати, раховати — обраховати*), *од-* (*волати — одволати, ратовати — одратовати*), *пере-* (*будовати — перебудовати, жекгнати — пережекгнати*), *пре-* (*нагабати — пренагабати, шкодити — прешкодити*), *при-* (*вендровати — привендровати, жекглевати — прижекглевати*), *роз-* (*варовати — розваровати, шафовати — розшафовати*).

Дзеясловы з'яўляліся базай для ўтварэння шматлікіх дзеепрыметнікаў прошлага часу пры дапамозе суфікса *-н-*: *акгравовати — акгравованый, акцептовати — акцептованый, атентовати — атентованый, варовати —варованый, волати — воланый, габати — габаный, дедиковати — дедикованый, ерикговати — ерикгованый, зале-*

*цати — залецаный, иллюминовати — иллюминованый, инсеровати — инсерованый, инферовати — инферованый, коллиговати — коллигованый, конферовати — конферованый, кутноровати — кутнорованый, модеровати — модерованый, пытлевати — пытлованый, ребелизовати — ребелизованый, реформовати — реформованый, спецификовати—спецификованый, суспендовати—суспендованый, турбовати — турбованый, фолдровати — фольдрованый, фундовати — фундованый.*

Надзвычай прадуктыўным было ўтварэнне ад дзеяслоўных асноў адцягненых назоўнікаў ніякага роду пры дапамозе суфікса *-нь-: администровати — администрованье, анигилевати — анигилованье, арендовати — арендованье, бадати — баданье, варовати — варованье, вендровати — вендрованье, виншовати — виншованье, вотовати — вотованье, габати — габанье, гамовати — гамованье, гартовати — гартованье, дуфати — дуфанье, дыктовати — дыктованье, екзеквовати — екзеквованье, експировати — експированье, екстендовати — екстендованье, елиберовати — елиберованье, жебрати — жебранье, касовати — касованье, кграсовати — грасованье, лимитовати — лимитованье, персвадовати — персвадованье, президовати — президованье, процедовати — процедованье, раховати — рахованье, традуковати — традукованье, целебровати — целеброванье, шановати — шанованье.* Ад дзеясловаў з асновай на *-і* была ўтворана таксама некаторая колькасць аналагічных назоўнікаў пры дапамозе суфікса *-ень-: блюзнити — блюзненье, велбити — велбенье, вонтпити — вонтпенье.*

Акрамя суфіксацыі і прэфіксацыі ў старабеларускай мове ўжываліся і іншыя, больш складаныя спосабы ўтварэння новых слоў на базе запазычанай лексікі, напрыклад выкарыстоўваліся элементы *пол-, полу-: варкгелтъ — полваркгелта, десть — полдесть, захцыкъ — ползахцика, кватерка — полкватерки, килимъ — полкилимокъ, кунтушъ — полкунтушъ, куфа — полкуфа, либра— поллибры, лотъ—поллота, отласъ—полуотласъ, саянъ— полусоянъ, фодръ — полфодра, шанокъ — полшанка, шиба — полшыбокъ, юхть — полъюхтокъ;* запазычаныя асновы станавіліся кампанентамі складаных слоў: *долгофортунный, збураподласый, зворонакарый, згнедачалый, зеленофарбованый, новофундованый, ледашколный, старофундованый, трегачный, чирвонобгрвяный, ясно-*

*бронатный* і інш. Аднак на беларускай глебе такія спосабы ўтварэння новых слоў аказаліся малапрадуктыўнымі.

Прадстаўляе цікавасць словаўтваральная прадуктыўнасць паасобных запазычаных слоў у старабеларускай мове. Матэрыялы беларускіх пісьмовых помнікаў XIV—XVIII стст. даюць падставу вылучыць сярод адзначаных 1502 лексем, якія прымалі ўдзел у словаўтваральным працэсе, у залежнасці ад колькасці ўтвораных на іх базе дэрыватаў некалькі груп. Самай вялікай у колькасных адносінах з'яўляецца група запазычанняў, якія далі толькі па 1 дэрывату: тут налічваецца 659 лексічных адзінак, што складае 43,9% ад усіх запазычанняў, здольных утвараць дэрываты. Астатнія 843 лексемы па сваёй словаўтваральнай прадуктыўнасці размяркоўваюцца наступным чынам: 431 лексема мае па 2—3 дэрываты, 182 — па 4—5, 133 — па 6—10, 97 — звыш 10 дэрыватаў. Такім чынам, калі лічыць запазычанні, ад якіх вядома па 1—3 дэрываты, малапрадуктыўнымі, то з ліку 1502 запазычаных слоў на долю шматпрадуктыўных прыпадае толькі 27,4%.

Самай вялікай словаўтваральнай прадуктыўнасцю валодалі запазычаныя словы *вадати, бачити, бестия, благати, будовати, бунтовати, важити, важный, вароватн, вельможный, волати, вонтлети, вонтпити, встыдъ, гамовати, гардити, дбати, доскональый, дяка, еднати, жичити, заздрость, звытяжити, зневага, зыскати, иститн, квапитися, кгвалтъ, кгрунтъ, кохати, лапати, лацный, лекатися, ляный, малевати, мешкати, мней, можный, мордовати, моркгъ, моцъ, муровати, мусити, мярковати, нендза, нехати, обецати, окрутный, омылка, ошукати, пасъ, патрити, певный, пильновати, пильный, повага, повстегати, пожичати, посполитый, потваръ, працовати, прожный, прудкий, птахъ, радити, ратовати, раховати, рокъ, рутити, скарбъ, скаркга, срокгий, тесknити, тлумити, трафити, трвати, троска, турбовати, увага, уфати, фалшъ, формовати, фрасовати, фундовати, хендогий, цвичити, чверть, шановати, шарпати, шацовати, шиковати, шкарадный, шкода, шкодити, шлюбъ, шляхта, шукати.* Некаторыя з іх маюць па некалькі дзесяткаў дэрыватаў.

Прыкладам высокай словаўтваральнай прадуктыўнасці можа служыць лексема *будовати,* ад якой узнікла,

не лічачы варыянтаў, каля 50 дэрыватаў: *будованый, будованье, будоватися, будовля, будовнейший, будовникъ, будовничий (будовничый), будовный, будовца, будуючий, будуючийся, выбудоватися, добудованый, добудованье, добудовати, забудованый, забудованье, забудовати, забудоватися, збудованый, збудованье (сбудованье), збудовати (сбудовати), збудоватися (сбудоватися), набудовати, небудованье, недобудованый, незбудованье, новозбудованый, новозбудовати, обудовати, перебудовати, побудованый, побудованье, побудовати, побудоватися, прибудованый, прибудованье (прыбудованье), прибудовати (прыбудовати), прибудоватися, пробудовати, розбудоватися, убудованый, убудованье (вбудованье), убудовати (вбудовати, убудувати), убудоватися (вбудоватися), узбудовати (взбудовати).*

Яшчэ большая колькасць дэрыватаў была ўтворана ад назоўніка *моцъ: моцне (моцно), моцней, моцнейший, моцнейшое, моцнети, моцность, моцный, моцованый, моцованье, моцоватися, велемоцный, взмоцнитися, всемоцный, всехмоцнейший, всехмоцность, всехмоцный, допомоцъ, замоцне (замоцно), запомоцъ, змоценый, змоценье, змоценьеся, змоцнити, змоцнитися, змоцняти (змацняти), змоцнятися (змацнятися), змоцняючий, маломоцный, наймоцнейший (намоцнейший), намоцней, немоцнейший, немоцно, немоцный, немоцъ, обмоцнитися, омоцнити, омоцнитися, помоцное (помоцнее), помоценый, помоценье, помоцникъ, помоцнитися, помоцный, помоцняти, помоцнятися, помоцовати, помоцъ, премоцный, умоценый (вмоценый, умоцноный), умоценье (вмоценье), умоцнити (вмоцнити), умоцнитися, умоцняти (умацняти, вмоцняти), умоцнятися, умоцованый (вмоцованый), умоцованье, умоцовати (вмоцовати), умоцоватися.*

Аднак самае вялікае гняздо вытворных слоў узнікла на базе запазычанага назоўніка *вага* і аднакарэнных з ім паланізмаў *важити, важный, знevага, одвага, повага, увага*, што тлумачыцца высокай ступенню асваення і шырокай папулярнасцю гэтых лексем у старабеларускай мове. Агульная колькасць лексічных адзінак у гэтым гняздзе перавышала сотню: *вага (вакга), ваганьеся, вагатися (вакгатися), ваговый, вагуючийся, важачий, важеный (важоный), важенье, важивати, важитель, важити (важыти), важитися (важытися), важка, важне,*

*важнейший, важница, важницкий, важное, важность, важный, важочье, важчое (вазчое), выважити, заважити, зважати, зважаючийся, зваженый (зважоный), зневага (зневагъ), зневажаный, зневажати, зневажатися, зневажачъ, зневажаючий, зневаженый (зневажоный), зневаженье, зневажитель (зневажытель), зневажити (зневажыти), зневажливый, зневажца, маловажити, маловажный, наважати, наваженье, наважити, наважнейший (найважнейший), наповажнейший, невагаючийся, неважность, неважный, незваженье, неповага, неповажный, нерозважный, неуважне, неуважность, неуважный, одвага (отвага), одважити (отважити, отважыти), одважный (отважный), одважоный (отважоный), отваженье, отважитися (отважытися), отважне, перевага, переваженье, переважити, переважитися, переважоный, повага, поважаный, поважанье, поважати, поважатисе, поваженье, поважити, поважне (поважно), поважнейший, поважное, поважность, поважный, превага, преважити, преважне, преважность, преважный, розвага, розважаный, розважанье, розважати, розваженый, розваженье, розваживати, розважити (розважыти), розважне, розважный, увага, уважаный, уважанье, уважати, уважатися, уважаючий, уваженый (уважоный), уважити (вважити), уважне, уважный* і інш. Многія члены гэтага гнязда, напрыклад *вага, вагавы, ваганне, важанне, важаны, важка, важнасць, важны, важыцца, важыць, адвага, зневажаць, знявага, павага, увага,* захаваліся ў сучаснай беларускай літаратурнай мове і народных гаворках.

Амаль такая ж колькасць вытворных зафіксавана ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове ад назоўніка *шкода* і дзеясловаў *шкодити* і *шкодовати: шкодливе, шкодливей, шкодливость, шкодливший, шкодливый (щкодливый), шкодникъ (щкодникъ), шкодница, шкодно, шкодное, шкодный, шкодованый, шкодуючий, шкодца, шкодячий, шкоженый, шкоженье, безшкодность, безшкодный, занешкодити, зашкода, зашкодивати, зашкодити (защкодити), зашкодный, зашкоженый, зашкоженье, зашкоживати, зашкожовати, зашкожоный, зушкодный, нешкодливе, нешкодно, нешкодный, перешкажанье, перешкажати (перешкадзати), перешкаживати, перешкода, перешкодити, перешкодникъ, перешкодца, перешкожанье, перешкожати, перешкожаючий, перешко-*



16. Зак. 2139

*женый, перешкоженье, перешкожовати, пошкодити, пошкодовати, прешкажати, прешкажаючий (прешкажающий), прешкода, прешкодити, прешкожати, прешкоженье, проскадзанье, сошкодити, ушкода, ушкодзенье, ушкодити (вшкодити), ушкодитися, ушкодовати (вшкодовати), ушкожати, ушкоженый, ушкоженье, ушкожоный* і інш.

Пры разглядзе словаўтваральнай актыўнасці запазычанняў неабходна мець на ўвазе тую акалічнасць, што частка дэрыватаў у вялікіх словаўтваральных гнёздах не з'яўлялася прадуктам утварэння ў старабеларускай мове, а ў гатовым выглядзе была запазычана з іншых моў. У найбольшай меры гэта датычыць паланізмаў, якія дзякуючы фанетычнай, марфалагічнай і лексічнай блізкасці беларускай і польскай моў, а таксама ў сувязі з моцным уплывам польскай мовы на беларускую часам запазычваліся апошняй цэлымі гнёздамі. Так, можна не сумнявацца ў польскім паходжанні многіх элементаў у гняздзе *вонтлети — звонтленый — звонтленье — звонтлити — звонтлитися — навонтленье — надвонтлити — надотлелый — незутленый* або ў гняздзе *вонтпити — вонтпенье — вонтпитисе — вонтпливе — вонтпливость — вонтпливый — звонтпелый — звонтпити — звонтпленый — звонтпленье — невонтпливе — невонтпливый,* аднак правесці дакладную мяжу паміж дэрыватамі, запазычанымі з польскай мовы, і самастойнымі беларускімі новаўтварэннямі не заўсёды прадстаўляецца магчымым.

У некаторых выпадках на іншамоўнае паходжанне дэрыватаў указваюць ужытыя ў іх не ўласцівыя старабеларускай мове словаўтваральныя сродкі. Напрыклад, пад уплывам польскай мовы, дзе працэс утварэння слоў пры дапамозе марфемы *-isko* пачаў праяўляцца яшчэ ў глыбокай старажытнасці (параўн. стп. *kłodzisko, kosisko, łęczysko*) і стаў асабліва актыўным у сярэднепольскую эпоху, у беларускіх пісьмовых помніках распаўсюдзіўся тэрмін *кочовиско,* які праз *кочевати* ўзыходзіць да этымона *кочъ.* На польскае паходжанне гэтага тэрміна ўказвае тое, што ён адлюстраваўся ў пісьменнасці параўнальна позна, у пачатку XVII ст., калі наогул польскі ўплыў на беларускую мову быў найбольш значным і калі словы з марфемай *-иско,* у прыватнасці *багниско, боевиско, гробовиско, дивовиско, збориско, игриско, ко-*

*повиско, леговиско, назвиско, насмевиско, обмовиско, огниско, окниско, ощеписко, пасовиско, погорелиско, превиско, седлиско, смеховиско, становиско, толковиско* і інш., набываюць у старабеларускай пісьменнасці вялікую папулярнасць. Пры гэтым цікава, што слова *кочовиско* ўжываецца ў асноўным у тых пісьмовых помніках, якія непасрэдна былі перакладзены з польскай мовы, дзе, дарэчы, паралельна з ім выступае і беларускі тэрмін *кочовище*. Гэта ж словаўтваральная мадэль была выкарыстана старабеларускімі кніжнікамі і пры ўтварэнні назоўніка *сукманиско* (<*сукманъ*).

Увогуле ж іншамоўныя словаўтваральныя элементы не пусцілі ў старабеларускай лексічнай сістэме глыбокіх карэнняў, і перавага ў ёй заўсёды была на баку ўласных словаўтваральных сродкаў. Падвядзенне запазычанняў пад пэўныя словаўтваральныя тыпы і забеспячэнне іх характэрнымі беларускімі фармантамі сведчыла аб іх трывалым замацаванні ў лексічнай сістэме старабеларускай мовы.

Зразумела, што ў вывучаных помніках старабеларускай пісьменнасці мелі магчымасць адлюстравацца не ўсе вытворныя словы і нават не ўсе непасрэдныя запазычанні. У радзе выпадкаў вытворныя словы зафіксаваны пісьмова раней, чым запазычанні. Напрыклад, назоўнік *барышъ* адзначаецца ў акце 1539 г., а вытворнае ад яго слова *барышникъ* сустракаецца ўжо ў пісьмовым дакуменце 1516 г. Аналагічная разбежка заўважаецца і ў парах слоў *автентикъ* (1634) — *автентичный* (1632), *агитоватися* (1653) — *агитованье* (1645), *альтариста* (1516) — *олтаристинъ* (1510), *анигилевати* (1697) — *анигилованье* (1686), *атентовати* (1667) — *атентованый* (1653), *барва* (1516)—*барвица* (1494), *барханъ* (1569)—*бархановый* (1565), *безецный* (1566) — *безецникъ* (1529), *бестия* (1595)—*бестиялский* (1588), *блюзнерца* (1595)—*блюзнерство* (1580), *боклагъ* (1577) — *боклажей* (1566), *брама* (1555) — *брамка* (1515), *брукъ* (1591) — *забруковати* (1540), *буда* (1527) — *будное* (1511), *бунтовати* (1593) — *бунтоватисе* (1566), *варовати* (1507) — *вароватися* (п. XV ст.), *велканоцъ* (к. XVI ст.) — *велканоцный* (1555), *вечистый* (1501) — *вечисте* (1483), *видимусъ* (1567) — *видимусовый* (1555), *виссонъ* (п. XVII ст.) — *виссоновый* (1595), *вродъ* (п. XVII ст.) — *вродоватый* (1557), *встремежливый* (п. XVII ст.) —

*встремежливость* (1596), *выкрачати* (1593) — *выкрочити* (1555), *вылезти* (1582) — *вылезтися* (1566), *выстарчити* (1690) — *невыстарченье* (1667), *гамратъ* (с. XVII ст.) — *кгамратка* (п. XVII ст.), *галзбантъ* (1569) — *гельзбанчыкъ* (1552), *гафтаръ* (1529) — *гафтарский* (1517), *гермафродитъ* (1620) — *гермофродитий* (п. XVII ст.), *дворный* (1580) — *дворность* (п. XVI ст.), *деготь* (1529) — *дегтяръ* (1473), *делюра* (1609) — *делюрка* (1601), *деспектовати* (1633) — *деспектованый* (п. XVII ст.), *дефелковати* (1689) — *недефелкованье* (1653), *довтипъ* (1567) — *довтипный* (1533), *домнемати* (1521) — *домнеманье* (к. XV ст.), *достатечный* (1598) — *достатечне* (1568), *дрикгантъ* (1552) — *дрыкгатикъ* (1538), *друковати* (1588) — *друкованый* (1551), *друкаръ* (1593) — *друкарня* (1580), *дыль* (п. XVII ст.) — *одылеваный* (1571), *експировати* (1662) — *експированье* (1655), *екстендовати* (1670) — *екстендованье* (1638), *ексциповати* (1620) — *ексциповатися* (1596), *елиберовати* (1676) — *елиберованье* (1663), *ендова* (1590) — *ендовка* (1579), *жарливый* (1653) — *жарливость* (п. XVII ст.), *завикляти* (1637) — *завикланый* (1616), *завстегати* (1596) — *завстегненье* (1568), *закрачати* (1598) — *закрочити* (1594), *замшъ* (1552) — *замшевый* (1540), *зезнати* (1578) — *зезнанье* (1566), *зелжити* (1566) — *зелженье* (1538), *заятрити* (п. XVII ст.) — *заятроный* (1580), *инквировати* (1638) — *инквированье* (1621), *инсеровати* (1657) — *инсерованый* (1633), *кадукъ* (1588) — *кадуковый* (1582), *калакутъ* (1599) — *калакуцкий* (1588), *калека* (1519) — *калечий* (к. XV ст.), *кармазинъ* (п. XVII ст.) — *кармазиновый* (1582), *карпъ* (1692) — *карпий* (1688), *касовати* (1554) — *скасованье* (1517), *катовати* (с. XVII ст.) — *катованье* (п. XVII ст.), *квитъ* (1522) — *квитокъ* (1508), *кгоды* (п. XVII ст.) — *годованье* (к. XVI ст.), *кгранатъ (гранатъ)* (п. XVII ст.) — *кгранатовый (гранатовый)* (1582), *кгречный* (п. XVII ст.) — *некгречный* (1598), *кгузъ* (1611) — *кгузикъ* (1582), *кламати* (п. XVI ст.) — *окламаный* (к. XV ст.), *кляшторъ* (к. XV ст.) — *кляшторный* (1457), *кнебель* (1605) — *кнебликъ* (1578), *колатати* (1585) — *доколатати* (1582), *коневъ* (1519) — *коневка* (1510), *конфирмовати* (1599) — *конфирмованый* (1589), *костелъ* (1434) — *костельный* (1388), *кохати* (п. XVI ст.) — *кохатися* (к. XV ст.), *кукгляръ* (п. XVII ст.) — *кукгляр-*

*ский* (1562), *куля* (1566) — *кулька* (1556), *кунштъ* (1580) — *кунштовати* (1539), *кустодия* (1544) — *кустодийный* (1519), *ладовати* (1623) — *ладованье* (1582), *лапати* (1603) — *лапанье* (1598), *лацный* (1502) — *лацней* (к. XV ст.), *люциферъ* (п. XVII ст.) — *люциферанинъ* (1598), *махляръ* (с. XVII ст.) — *махлярство* (п. XVII ст.), *мдлый* (1519) — *мдлейший* (к. XV ст.), *меновати* (к. XV ст.) — *менованый* (1434), *меновитый* (1542) — *меновите* (1458), *моментъ* (с. XVII ст.) — *моментикъ* (п. XVII ст.), *обецати* (1489)—*обецовати* (1434), *обтежливый* (1542) — *обтежливе* (1538), *окрутъ* (п. XVII ст.) — *окрутовый* (1580), *ординовати* (1667) — *ординоватися* (1651), *ошукати* (1596)—*ошуканье* (1579), *паралитикъ* (с. XVII ст.) — *паралитыковъ* (к. XVI ст.), *персвадовати* (с. XVII ст.) — *персвадованье* (1598), *планета* (1518) — *планетный* (к. XV ст.), *полецати* (1489) — *полецити* (1457), *поличекъ* (1555)—*поличковати* (1522), *провинциалъ* (п. XVII ст.) — *провинциаловъ* (1584); *протестовати* (1596) — *протестоватисе* (1579), *пуздро* (1582) — *пуздерко* (1520), *реформовати* (1634) — *реформованый* (1577), *смаровати* (1653) — *шмарованый* (1629), *снадный* (1595) — *снадней* (1547), *спецификовати* (1664) — *спецификованый* (1583), *студентъ* (1597) — *студентский* (1580), *сукцесоръ* (1598) — *сукцесорка* (1562), *трибуналъ* (1540) — *трибуналный* (1495), *фара* (п. XVII ст.)—*фарный* (1536), *формовати* (п. XVII ст.)— *формованье* (1580), *цвекъ* (1679) — *цвечокъ* (1583), *циприсъ* (1653) — *цыприсовый* (1580), *шоръ* (1577) — *шорновникъ* (1514), *штука* (1498) — *штучный* (1441), *юрисдика* (1593) — *юрздычный* (1507), *ютро* (1580) — *ютрений* (1519) і інш.

У некаторых выпадках вытворныя словы зафіксаваны на стагоддзе і больш раней, чым непасрэдныя запазычанні: *байволъ* (п. XVII ст.) — *баволовъ* (1518), *берновати* (1722) — *бурымованье* (1594), *гардый* (с. XVII ст.) — *гарде* (1538), *гусаръ* (1697) — *по гусарску* (1565), *едвабъ* (1544)—*едвабный* (1443), *кнутъ* (1711)— *кнутье* (1608), *конфирмация* (1598) — *конфирмацийный* (1496), *кориандръ* (п. XVII ст.)—*кориандровый* (1519), *крама* (к. XV ст.) — *крамный* (1388), *лязуръ* (п. XVII ст.) — *лязуровый* (1519), *мирта* (с. XVII ст.) — *миртовый* (1519), *могоричъ* (1598) — *могоричникъ* (1451), *остатечный* (1492) — *остатечне* (1388), *папежъ*

(1501) — *папежский* (1388), *помаранчъ* (1699) — *помаранчовый* (1593), *почта* (1685) — *почтовый* (1582), *руиновати* (1681) — *зруинованый* (1521), *тамовати* (1672) — *затамованье* (1552), *цеховати* (1653) — *оцеховати* (1518). Такое больш ранняе датаванне дэрыватаў дазваляе з адноснай ступенню верагоднасці ўдакладніць час пранікнення ў беларускую мову непасрэдных запазычанняў, што мае немалаважнае значэнне для гістарычнай лексікалогіі беларускай мовы.

У асобных выпадках да нас дайшлі толькі дэрываты. Выяўленыя асноўныя заканамернасці ўтварэння дэрыватаў даюць магчымасць устанавіць непасрэдныя запазычанні, якія аказаліся неадлюстраванымі ў пісьменнасці ў сувязі з адсутнасцю спрыяльнага кантэксту, а толькі пакінулі сляды ў выглядзе вытворных слоў. Так, наяўнасць у пісьмовых помніках прыметнікаў *адамантыновый* (п. XVII ст.), *алтембасовый (алтабасовый)* (1596), *алхимицкий* (1638), *антеконвокацийный* (1559), *бабизный* (1587), *базарный* (1712), *беднарский* (1588), *буратиковый* (1617), *габяный* (1634), *глоговый* (с. XVII ст.), *кгаловый* (1688), *контрофаловый (контруфаловый, контрыфаловый, крунтофаловый)* (1549), *курдывановый (кордбановый)* (1602), *лекткваровый* (1516), *мониторный* (1667), *пиолунковый* (1722), *спиканардовый* (1580), *торкмышовый (таркмышовый, толкмышовый)* (1686), *фарберский (фарборский)* (1578), *фурстатовый* (1582), *штуквартовый* (1592), *япуртовый (апуртовый)* (1653) сведчыць аб існаванні ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове і назоўнікаў *адамантынъ* 'дыямент' (<стп. *adamantyn* 1563, SP I 84<лац. *adamantinus,* ад гр. ἀδαμάντινος, Mosz. 158), *алтембасъ (алтабасъ)* 'шаўковая тканіна, тканая залатымі ніткамі' (<стп. *altembas* 1500, SSt I 33, стукр. *алтабасъ* 1554, Тимч. 19<тур. *altyn* 'золата'+*bez* 'палатно', Zaj. 36), *алхимия* 'алхімія' (<стп. *alchimija* 1534, SP I 115<слац. *alchemia,* ад ар. *alkimijā,* Mosz. 159, SWO 19), *антеконвокация* 'пярэдадне з'езда' (<лац. *ante+convocātio), бабизна* 'спадчына па бабцы' (<стп. *babizna,* SSt I 50), *базаръ* 'базар' (<струс. *базаръ* 1319, СРЯ I 65<цюрк. *bazar*<перс. *bāzār,* Шип. 47), *беднаръ* 'бондар' (<стп. *bednarz* 1437, SSt I 73<свн. *bütenaere, bütener,* MoszG 53), *буратикъ* 'гатунак ваўнянай тканіны' (<пол. *buracik,* ад *burat,*<фр. *burat,* L I 147), *габа* 'тоўстае сукно'

(<стукр. *габа* 1678, Тимч. 498<асм. тур. *aba*, ад ар. *'abā*, St I 11), *глогъ* 'цёрн' (<стп. *głog*, SP VII 384), *кгала* 'урачыстасць' (<пол. *gala*<ісп. *gala*, L II 20), *контрофалъ (контрыфалъ)* 'сплаў медзі з золатам' (<стп. *kontryfał* 1500, SSt III 331<свн. *kunterfeit, conterfeit*, MoszG 61), *курдыванъ (кордбанъ)* 'гатунак казінай скуры' (<стп. *kurdyban, kurdwan* XVI ст., SPK<ісп. *cordobán*, SłSE II 483), *лектваръ* 'лякарства на мёдзе' (<стп. *lektwarz* 1455, SSt IV 19<лац. *lectuarius*, слац. *lectuarium*, Mosz. 188), *мониторъ* 'напамін' (<стп. *monitor* XVI ст., SPK <лац. *monitor*, SWO 488), *пиолунекъ* 'палын' (<стп. *piołunek*, SPK), *спиканардъ* 'лаванда' (<стп. *spikanard* XVI ст., SPK<лац. *spīca nardi*, BrSE 509), *торкмышъ* 'рэмень са скуры цяляці' (<стп. *torkmysz* XVI ст., SPK<цюрк. *tirkemiš*, Zaj. 60), *фарберъ* 'раменнік, які вырабляў і фарбаваў сукно' (<стп. *farbierz* 1450, SSt II 356<свн. *verwaere*, MoszG 56), *фурстатъ* 'гатунак сукна' (<стп. *forsztat, forstat* 1413, SSt II 366, магчыма, ад старой арабскай назвы Каіра *Fostat*, BrSE 126), *штуквартъ (штукваркъ)* 'мазаіка, інкрустацыя' (<стп. *sztukwark* XV ст., SStK<ням. *Stückwerk*, BrSE 556), *япуртъ (апуртъ)* 'гатунак яблыкаў' (<стп. *japurt* 1585, Volck. 211, ад назвы нямецкага манастыра *Pforte*, BrSE 198).

Аналагічна зафіксаваныя ў пісьменнасці памяншальныя формы *антвасикъ* (1626), *бендаликъ* (1653), *пендзликъ* (1653) паказваюць, што беларуская мова таго часу мела і назоўнікі *антвасъ* 'умывальнік' (<стп. *antwas* 1571, IM 582<ням. *Handfass*, BrSE 5), *биндалъ* 'абвязка' (<стп. *bindał* 1472, SSt I 92<свн. *bendel*, MoszG 53), *пендзель* 'пэндзаль' (<стп. *pędzel*, XIV ст., SSt VI 74<ням. *Pinsel*, SWO 568).

Нарэшце, уласцівыя пісьмовым помнікам аддзеяслоўныя назоўнікі *апликованье* (п. XVII ст.), *децидованье* (1694), *дыфтованье* (1692), *инвентованье* (1634), *интродукованье* (1634), *лямованье* (1697), *пакованье* (1686), *рукгованье* (1697), *тасованье* (1686), *темперованье* (1698), *шалеванье* (1681) і дзеепрыметнікі *брыжованый* (1556), *выгланцованый* (1653), *гецованый* (1598), *дестинованый* (1667), *детерминованый* (1640), *инвестиованый* (1634), *инкорпорованый* (1637), *интимованый* (1686), *интроликгованый* (1597), *компонованый* (1603), *кондемнованый* (1680), *ледрованый* (п. XVII ст.),

*проленкгованый* (1666), *реасумованый* (1630), *спендованый* (1677), *традованый* (1619) даюць падставу меркаваць, што старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова выкарыстоўвала таксама запазычаныя дзеясловы *апликовати* 'падрыхтоўваць' (<стп. *aplikować* 1564, SP I 189<лац. *applicāre*, SWO 42), *брыжовати* 'абля-моўваць' (<стп. *bryżować* 1541, SKN 509, ад *bryże*< стням. *brize*, BrSE 43), *глянцовати* 'глянцаваць' (<пол. *glancować*, ад *glanc* XVII ст.<ням. *Glanz*, BrSE 141), *гецовати* 'паліраваць' (<стп. *hecować* 1575, SP VIII 319<ням. *ätzen*, BrSE 170), *дестиновати* 'вызначаць' (<стп. *destynować* XVII ст., P I 136<лац. *dēstināre*, SWO 147), *детерминовати* 'акрэсліваць' (<стп. *determinować* 1557, SP IV 601<лац. *dēterminãre*, SWO 148), *децидовати* 'рассуджваць' (<стп. *decydować* 1593, SP IV 568<лац. *dēcidere*, SWO 135), *дыфтовати* 'ушчыльняць' (<стп. *dychtować* 1573, SP VI 271<ням. *dichten*, BrSE 106), *инвентовати* 'рэестраваць' (<стп. *inwentować* 1594, SP VIII 578<слац. *inventare*, SŁŚPK), *инвестовати* 'укладваць грашовыя сродкі ў справу' (<стп. *inwestować* 1556, SP VIII 578<слац. *investire*, SŁŚPK); *инкорпоровати* 'далучаць' (<стп. *inkorporować* 1594, SP VIII 547<слац. *incorporare*, SŁŚPK), *интимовати* 'азнаямляць' (<стп. *intymować* 1573, SP VIII 577<слац. *intimare*, SŁŚPK), *интродуковати* 'уводзіць, упісваць' (<стп. *introdukować* 1594, SP VIII 576<слац. *introducere*, SŁŚPK), *интроликговати* 'пераплятаць' (<стп. *introligować* XVI ст., SPK<слац. *introligare*, SŁŚPK), *компоновати* 'кампанаваць' (<стп. *komponować* 1594, SP X 515<лац. *compōnere*, SWO 373), *кондемновати* 'абвінавачваць' (<стп. *kondemnować* 1594, SP X 523< лац. *condemnāre*, SWO 376), *ледровати* 'пакрываць скурай' (<стп. *ladrować* XV ст., SSt IV 1<свн. *lëder, lëderen*, MoszG 63), *лямовати* 'пакрываць лямцам' (<стп. *lamować* XVI ст., SPK, ад *lama*<стч. *lem*<ствн. *līm*, SWO 417), *паковати* 'пакаваць' (<стп. *pakować* XVI ст., SPK<ням. *packen*, SWO 541), *проленкговати* 'працягваць тэрмін' (<пол. *prolongować*<лац. *prōlongāre*, SWO 605), *реасумовати* 'выкладаць у сціслай форме' (<стп. *reasumować* XVI ст., SPK<лац. *reassumare*, SWO 629), *рукговати* 'высяляць' (<стп. *rugować* XVI ст., SPK<свн. *rüegen*, SWO 656), *спендовати* 'вы-

даткаваць' (<пол. *spendować*<ням. *spenden,* SWO 696), *тасовати* 'тасаваць' (<стп. *tasować* XVI ст., SPK <фр. *tasser,* SWO 746), *темперовати* 'вастрыць, чысціць' (<стп. *temperować* XVI ст., SPK<лац. *temperāre,* SWO 752), *традовати* 'займаць' (<стп. *tradować* XVI ст., SPK<лац. *trādere,* SWO 767), *шалевати* 'шаляваць' (<пол. *szalować*<ням. *(be)schalen,* SWO 726).

Такім чынам, аналіз лексічнага матэрыялу беларускіх пісьмовых помнікаў розных жанрава-стылявых разнавіднасцей XIV—XVIII стст. паказвае, што папаўненне старабеларускага слоўніка шляхам словаўтварэння на базе лексем іншамоўнага паходжання было жывым моўным працэсам. Аднак рэальныя вынікі гэтага працэсу ў адносінах да розных пластоў запазычанай лексікі аказаліся неаднолькавымі. Найбольшую словаўтваральную актыўнасць праявілі словы польскага, лацінскага і нямецкага паходжання. Менш прыкметна як з боку выкарыстання асобных словаўтваральных мадэлей, уласцівых беларускай мове, так і ў індывідуальных адносінах праявілася ў параўнанні з большасцю іншых пластоў запазычанай лексікі словаўтваральная актыўнасць цюркізмаў і літуанізмаў. Гэта тлумачыцца, відавочна, тым, што яны з'яўляліся пераважна назвамі канкрэтных рэалій і прадметаў бытавога прызначэння, а гэта група лексікі, як вядома, наогул характарызуецца слабай словаўтваральнай здольнасцю. Затое амаль усе вытворныя словы трывала замацаваліся ў лексічнай сістэме старабеларускай мовы, аб чым сведчыць наяўнасць значнай часткі іх у сучаснай беларускай мове.

# ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

## ЛІТАРАТУРА


Аб.— В. И. Абаев. Русское и украинское *лудан*.— Этимология. М., 1963.

Арак.— В. Д. Аракин. Тюркские лексические элементы в памятниках русского языка монгольского периода.— Тюркизмы в восточнославянских языках. М., 1974, с. 112—148.

Баск.— Н. А. Баскаков. Русские фамилии тюркского происхождения.— Тюркизмы в восточнославянских языках. М., 1974, с. 238—285.

БаскР — Н. А. Баскаков и др. Развитие и обогащение русского языка за счет заимствований из языков народов СССР.— Взаимодействие и взаимообогащение языков народов СССР. М., 1969.

Буд.— Л. З. Будагов. Сравнительный словарь турецко-татарских наречий, т. I—II. СПб, 1869—1871.

Вахр.— И. С. Вахрос. Наименования обуви в русском языке. I. Древнейшие наименования до Петровской эпохи. Хельсинки, 1959.

Гал.— О. М. Галай. Бытовая лексика немецкого происхождения в старобелорусском языке. Канд. дис. Мн., 1977.

Гиун.— Дж. Ш. Гиунашвили. О происхождении слова «стакан».—Иранское языкознание (история, этимология, типология). М., 1976, с. 186—189.

Даун.— З. П. Даунене. Торговая лексика в белорусской деловой письменности XV— начала XVII вв. Автореф. канд. дис. Вильнюс, 1966.

ДГРС — Древнегреческо-русский словарь, т. I—II. М., 1958.

Дмит.— Н. К. Дмитриев. О тюркских элементах русского словаря.—Лексикографический сборник, вып. 3. М., 1958.

Добр.—И. Г. Добродомов. Колчан.—Русская речь, 1974, № 4, с. 115—119.

ДТС — Древнетюркский словарь. Л., 1969.

Дьяч.— Г. Дьяченко. Полный церковнославянский словарь. М., 1900.

Емел.— И. Р. Емельченко. В. И. Даль и восточные языки.— Тюркизмы в восточнославянских языках. М., 1974, с. 164—179.

Карс.— Е. Ф. Карский. Белорусы. Введение к изучению языка и народной словесности. Вильна. 1904.

Кип.— В. Кипарский. О балтизмах русского литературного языка.—Baltistica, XI, 1973, с. 69—70.

Кон.— А. Н. Кононов. Заметки тюрколога на полях «Словаря русских народных говоров».— Известия Академии наук СССР, 1966, т. 25, вып. 3.

Куб.— Л. А. Кубанова. Диалектизмы тюркского происхождения,

обозначающие лицо.— Тюркизмы в восточнославянских языках. М., 1974, с. 196—207.

КЭС — Н. М. Шанский, В. В. Иванов, Т. В. Шанская. Краткий этимологический словарь русского языка. М., 1971.

ЛРС — И. Х. Дворецкий. Латинско-русский словарь. М., 1976.

Мельн.— Е. И. Мельников. О чешских лексических элементах в русском языке, заимствованных через посредство польского и других языков (в XIV—XIX вв.).—Slavia, roč. XXXVI. Praha, 1967, с. 98—114.

НБД — Нарысы па беларускай дыялекталогіі. Мн., 1964.

Неп.— А. П. Непокупный. Балто-севернославянские языковые связи. Киев, 1976.

НРС — Немецко-русский словарь. М., 1964.

Ог.— И. И. Огиенко. Иноземные элементы в русском языке. Киев, 1915.

Один.— Г. Ф. Одинцов. Два ногайских заимствования в современном русском языке.— Этимология. 1971. М., 1973, с. 195—204.

ОдинИ — Г. Ф. Одинцов. Из истории названий *тул, колчан, сагайдак* (и его вариантов) в русском языке.— Этимология. 1973. М., 1975, с. 98—108.

ОИЛ — Е. Э. Биржакова, Л. А. Войнова, Л. Л. Кутина. Очерки по исторической лексикологии русского языка XVIII века. Языковые контакты и заимствования. Л., 1972.

Преоб.—А. Преображенский. Этимологический словарь русского языка, т. I—II. М., 1910—1949.

Радл.— В. В. Радлов. Опыт словаря тюркских наречий, т. I—IV. СПб, 1893—1911.

Рог.— Н. С. Рогаль. Тюркські лексичні запозичення в українських літописах кінця XVII—початку XVIII ст.— З історії української та інших слов'янських мов. Київ, 1965, с. 171—192.

Ром.— Г. Я. Романова. Наименование мер длины в русском языке. М., 1975.

Сет.— Д. С. Сетаров. Тюркизмы в русской коневодческой терминологии.— Тюркизмы в восточнославянских языках. М., 1974, с. 229—238.

Срез.— И. И. Срезневский. Материалы для словаря древнерусского языка, т. I—III. СПб, 1893—1912.

СРЯ — Словарь русского языка XI—XVII вв., вып. 1—5. М., 1975—1978.

ССМ — Словник староукраїнської мови XIV—XV ст., т. I—II. Київ, 1977—1978.

ССРЛЯ — Словарь современного русского литературного языка, т. I—XVII. М.—Л., 1950—1965.

Супр.— А. Е. Супрун. Пробні статті «Історико-етимологічного словника білоруських тюркізмів».— А. Ю. Кримський — україніст і орієнталіст. Київ, 1974, с. 123—126.

СХРС — Сербско-хорватско-русский словарь. Сост. И. И. Толстой. М., 1957.

Таг.— М. Т. Тагиев. Наблюдения над употреблением слов тюркского происхождения в русских письменных памятниках XVI—XVII вв.—Тюркизмы в восточнославянских языках. М., 1974, с. 148—160.

Тимч.— Е. Тимченко. Історичний словник українського язика, т. І. Харків, 1930.
ТРС — Татарско-русский словарь. Казань, 1950.
Ушак.— Д. Н. Ушаков. Толковый словарь русского языка, т. I—IV. М.—Л., 1935—1940.
Фасм.— М. Фасмер. Этимологический словарь русского языка, т. I—IV. М., 1964—1973.
Шип.— Е. Н. Шипова. Словарь тюркизмов в русском языке. Алма-Ата, 1976.
ЭСБМ — Этымалагічны слоўнік беларускай мовы, т. І. Мн., 1978.
ЭСРЯ — Этимологический словарь русского языка, т. I, вып. 1—5. Ред. Н. М. Шанский. М., 1963—1973.
Altb.— M. Altbauer. Some methodological problems in research of the East-Slavic Bible translations (Vilnius Codex N 262). Jerusalem, 1968.
Bart.— M. Bartkiewicz. Odzież i wnętrza domów mieszczańskich w Polsce w drugiej połowie XVI i w XVII wieku. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk, 1974.
Basaj — M. Basaj. Bohemizmy w języku pism Marcina Krowickiego. Wrocław, 1966.
BrSE — A. Brückner. Słownik etymologiczny języka polskiego. Warszawa, 1957.
Brzez.— M. Brzezina. Języki mniejszości narodowych w tekstach literackich i folklorystycznych. Warszawa—Kraków, 1979.
Būga — K. Būga. Rinktiniai raštai, I—III. Vilnius, 1958—1962.
Cn — G. Cnapius. Thesaurus polono—latino-graecus. Kraków, 1621.
ČRS — Česko-ruský slovník. Praha, 1958.
DPSL — W. Frančič. Dział polski w siedmiojęzycznym słowniku Piotra Lodereckera z 1605 roku. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk, 1972.
EDI — Encyclopedie de l'Islam, t. IV. Paris, 1934.
Fras.— Ch. Samy-Bey Fraschery. Dictionnaire Turc-Français. Constantinopole, 1885.
H-W — G. Hüttl-Worth. Foreign words in Russian. A historical sketch, 1550—1800. Berkeley and Los Angeles, 1963.
IGŻK — Instrukcje górnicze dla żup krakowskich z XVI—XVIII wieku. Opracowała A. Keckowa. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1963.
IM — Inwentarze mieszczańskie z lat 1528—1633 z ksiąg miejskich Poznania. Poznań, 1961.
Jabl.— J. Jablonskis. Lietuviški žodžiai senosios Lietuvos raštinių kalboje, 1 dalis. Textai. Kaunas, 1941.
Koch.— S. Kochman. Polsko-rosyjskie kontakty językowe w zakresie słownictwa w XVII w. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1967.
KochS — S. Kochman. Polsko-rosyjskie stosunki językowe od XVI do XVIII w. Opole, 1975.
Kühne — H. Kühne. Polnische Lehnwörter im Weissrussischen. Berlin, 1960.
L — S. B. Linde. Słownik języka polskiego, t. I—VI. Lwów, 1854—1860.
Leem.— H. Leeming. Rola języka polskiego w rozwoju leksyki rosyjskiej do roku 1696. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk, 1976.

Lin.— E. L i n ț a. Wyrazy polskiego pochodzenia w języku rumuńskim. Wrocław—Gdańsk, 1974.

Lok.— K. L o k o t s c h. Etymologisches Wörterbuch der europäischen (germanischen, romanischen und slavischen) Wörter orientalischen Ursprungs. Heidelberg, 1927.

LRKŽ — A. L y b e r i s. Lietuviu-rusu kalbu žodynas. Vilnius, 1971.

LWK — Lustracja województwa krakowskiego 1564. Wydal J. Małecki, cz. I—II. Warszawa, 1962—1964.

LWM — Lustracja województwa mazowieckiego 1565. Indeksy do części I i II. Warszawa, 1971.

LWMC — Lustracja województw malborskiego i chełmińskiego 1565. Wydał S. Hoszowski. Gdańsk, 1961.

LWP — Lustracje województwa podlaskiego 1570 i 1576. Wydali J. Topolski i J. Wiśniewski. Wrocław—Warszawa, 1959.

LWPK — Lustracja województw Prus Królewskich 1624. Wydał S. Hoszowski. Gdańsk, 1967.

LWPł — Lustracje województwa płockiego 1565—1789. Warszawa, 1965.

LWS — Lustracja województwa sandomierskiego 1564—1565. Wydał W. Ochmański. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1963.

LWWK — Lustracja województw wielkopolskich i kujawskich 1564—1565. Indeksy do części I i II. Bydgoszcz, 1964.

Mach.— V. M a c h e k. Etymologický slovník jazyka českého. Praha, 1968.

Men.— F. M e n i n s k i à Mesgnien. Thesaurus Linguarum orientalium, Turciae, Arabicae, Persicae, t. I—III. Vienna, 1680.

Mikl.— F. M i k l o s i c h. Etymologisches Wörterbuch der slavischen Sprachen. Wien, 1886.

MKPŁ — O myślistwie koniach i psach łowczych. Wydał J. Rostafiński. Biblioteka pisarzów polskich, N 64. Kraków, 1914.

Mosz.— D. M o s z y ń s k a. Morfologia zapożyczeń łacińskich i greckich w staropolszczyźnie. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk, 1975.

MoszG — L. M o s z y ń s k i. Geografia niektórych zapożyczeń niemieckich w staropolszczyźnie. Poznań, 1954.

Much.— A. M u c h l i ń s k i. Źródłosłownik. Petersburg, 1858.

Orł.— T. Z. O r ł o š. Zapożyczenia słowiańskie w czeskiej terminologii botanicznej i zoologicznej. Kraków, 1972.

P — Słownik języka Jana Chryzostoma Paska, t. I—II. Wrocław, 1965—1973.

PSDP — S. R e c z e k. Podręczny słownik dawnej polszczyzny. Wrocław, 1968.

Räs.— M. R ä s ä n e n. Versuch eines etymologischen Wörterbuchs der Türksprachen. Helsinki, 1969.

Recz.— J. R e c z e k. Bohemizmy leksykalne w języku polskim do końca XV wieku. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1968.

Rich.— R. R i c h h a r d t. Polnische Lehnwörter im Ukrainischen. Wiesbaden, 1957.

Ryb.— H. R y b i c k a-N o w a c k a. Rzeczowniki zapożyczone z łaciny w języku polskim XVII wieku. Wrocław—Warszawa—Gdańsk, 1973.

Siat.— J. S i a t k o w s k i. Bohemizmy fonetyczne w języku polskim, cz. I—II. Wrocław, 1965—1970.

SJC — Słownik Jana Cervusa z Tucholi. Opracowała M. Karplukówna. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk, 1973.

SJP — Słownik języka polskiego, t. I—XI. Red. W. Doroszewski. Warszawa, 1958—1969.

SKŁP — A. Jougan. Słownik kościelny łacińsko-polski, wyd. III. Poznań—Warszawa—Lublin, 1958.

SKN — M. Karaś, Z. Perzanowski. Statuty kapituły norbertańskiej z r. 1541. Kraków, 1970.

Skok — P. Skok. Etimologijski rječnik hrvatskoga ili srpskoga jezika, knj. I—IV. Zagreb, 1971—1974.

SłSE — F. Sławski. Słownik etymologiczny języka polskiego, t. I—V. Kraków, 1952—1978.

SŁŚP — Słownik łaciny średniowiecznej w Polsce, t. I—IV. Warszawa, 1953—1974.

SŁŚPK — Słownik łaciny średniowiecznej w Polsce (kartoteka).

SP — Słownik polszczyzny XVI wieku, t. I—X. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk, 1966—1976.

SPK — Słownik polszczyzny XVI wieku (kartoteka).

SSt — Słownik staropolski, t. I—VIII. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk, 1953—1977.

SStK — Słownik staropolski (kartoteka).

St.— S. Stachowski. Studien über die arabischen Lehnwörter im Osmanisch-Türkischen, Teil I—II. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk, 1975—1977.

StF — S. Stachowski. Fonetyka zapożyczeń osmańsko-tureckich w języku serbsko-chorwackim. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk, 1973.

StS — S. Stachowski. Studia nad chronologią turcyzmów w języku bułgarskim. Kraków, 1971.

SW — J. Karłowicz, A. Kryński, W. Niedźwiedzki. Słownik języka polskiego, t. I—VIII. Warszawa, 1900—1927.

SWO — Słownik wyrazów obcych PWN. Warszawa, 1974.

SWOR — Słownik wyrazów obcych, wyd. 9. Red. Z. Rysiewicz. Warszawa, 1963.

Urb.— S. Urbańczyk. Z dawnych stosunków językowych polsko-czeskich, cz. I. Biblia królowej Zofii a staroczeskie przekłady pisma św. Kraków, 1946.

Wit.— W. Witkowski. Nazwy niektórych minerałów w językach wschodniosłowiańskich.— Zeszyty naukowe uniwersytetu Jagiellońskiego. Prace językoznawcze, z. 42, 1974, c. 7—17.

WPSM — Wyrazy polskie w słowniku łacińsko-polskim Jana Mączyńskiego, cz. I—II. Opracował W. Kuraszkiewicz. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1963.

WSPR — Wielki słownik polsko-rosyjski. Warszawa—Moskwa, 1967.

Zaj.— A. Zajączkowski. Studia orientalistyczne s dziejów słownictwa polskiego. Wrocław, 1953.

ZajZ — A. Zajączkowski. Związki językowe połowiecko-słowiańskie. Wrocław, 1949.

Zajda — A. Zajda. Nazwy staropolskich powinności feudalnych danin i opłat. Warszawa—Kraków, 1979.

# ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

ав.— авестыйскі
адыг.— адыгейскі
алт.— алтайскі
англ.— англійскі
ар.— арабскі
аравак.—аравакскі
асм.-тур.—асманска-турэцкі
бав.—баварскі
башк.— башкірскі
венг.— венгерскі
гал.— галандскі
гл.— глядзіце
гр.—грэчаскі
дыял.— дыялектны
ісп.— іспанскі
іт.— італьянскі
к.— канец
каз.— казахскі
калм.— калмыцкі
кар.— караімскі
карач.— карачаеўскі
кірг.— кіргізскі
кіт.— кітайскі
кр.-тат.— крымска-татарскі
кум.— куманскі
кыпч.— кыпчакскі
лац.— лацінскі
літ.— літоўскі
манг.— мангольскі
мн.— множны лік
нарлац.— народналацінскі
нн.— ніжненямецкі
ням.— нямецкі
п.— пачатак
параўн.— параўнайце
перс.— персідскі
перуан.— перуанскі
пол.— польскі
прасл.— праславянскі
рум.— румынскі
рус.— рускі
с.— сярэдзіна
свн.— сярэдневерхненямецкі
сгр.— сярэднегрэчаскі
сканд.— скандынаўскі
слац.— сярэднелацінскі
слвц.— славацкі
снн.— сярэдненіжненямецкі
ст.— стагоддзе
старажрус.— старажытнарускі
стбел.— старабеларускі
ствн.— старажытнаверхненямецкі
стіт.— старажытнаітальянскі
стманг.— старажытнамангольскі
стням.— старажытнанямецкі
стп.— старапольскі
стперс.— старажытнаперсідскі
струс.— старару́скі
стсканд. — старажытнаскандынаўскі
стукр.— стараукраінскі
стфр.— старажытнафранцузскі
стцюрк.— старажытнацюркскі
стч.— старачэшскі
стчув.— старажытначувашскі
стшв.— старажытнашведскі
стяўр.— старажытнаяўрэйскі
сх.— сербскахарвацкі
там.— тамільскі
тар.— таранчынскі
тат.— татарскі
тур.— турэцкі
тур.-ар.— турэцка-арабскі
тур.-перс.— турэцка-персідскі
тэл.— тэлеуцкі
уйг.— уйгурскі
укр.— украінскі
уст.— устарэлы
усхсл.— усходнеславянскі
фр.— французскі
цсл.— царкоўнаславянскі
цюрк.— цюркскі
цюрк-ар.—цюркска-арабскі
чаг.—чагатайскі
чув.— чувашскі
чэш.— чэшскі
шв.— шведскі
шор.— шорскі
яўр.— яўрэйскі

# ЗМЕСТ



*АЛЕКСАНДР НИКОЛАЕВИЧ БУЛЫКО*

**ЛЕКСИЧЕСКИЕ ЗАИМСТВОВАНИЯ В БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ XIV—XVIII вв.**

Издательство «Наука и техника»
На белорусском языке

Рэдактар В. І. Савельева. Мастак С. Т. Саўчанка. Мастацкі рэдактар Л. І. Усачоў. Тэхнічны рэдактар В. І. Кручонак. Карэктары М. А. Вячорка, З. А. Гусельцава

ІБ № 956

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 21.11.79. Падпісана да друку 23.05.80. АТ 13588. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Друк. арк. 8,0. Ум. друк. арк. 13,44. Уч.-выд. арк. 14,4. Тыраж 1000 экз. Зак. № 2139. Цана 1 р. 10 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.